# ЗАПІСЫ

## БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА

## BELARUSAN INSTITUTE OF ARTS AND SCIENCES

**ZAPISY 35**




**NEW YORK — MIENSK**

**2012**

Выдаецца пры фінансавай дапамозе Фундацыі
імя Пётры Крэчэўскага

УВАГА: Гэты том працягвае сэрыйнае выданьне ЗАПІСЫ, запачаткаванае ў 1952 г. Першыя 6 тамоў у 1952—1954 гг. выйшлі ў Нью-Ёрку; 5 наступных у 1962—1970 гг. друкаваліся ў Мюнхэне. З 12-га (1974) да 24-га (1999) тому ЗАПІСЫ друкаваліся ў Нью-Ёрку. З 2002 г. ЗАПІСЫ — сумесны нью-ёрска-менскі праект.

**ADDRESS**
Belarusan Institute of Arts and Sciences
166-34 Gothic Drive, Jamaica, NY. 11432, U.S.A.
zapisybinim@gmail.com





**ЗЬМЕСТ**

# АД РЭДАКЦЫІ

Беларуская літаратура на эміграцыі стала бадай што першай тэмай, якой зацікавілася мэтраполія ў часе „адкрыцьця“ для сябе прысутнасьці суайчыньнікаў на Захадзе. Публікацыяў на гэтую тэму багата, але дасёньня фэномэн літаратурнай творчасьці па-за бацькаўшчынай, літаратурны працэс і творцы на чужыне, а таксама іх сувязі зь Беларусьсю застаюцца дасьледаванымі даволі фрагмэнтарна. Многія эміграцыйныя літаратары пачыналі творчы шлях на радзіме, былі зьвязаныя з мэтрапольнай літаратурай, а ў іх архіўных зборах і творчасьці ёсьць шмат цікавага для беларускай культуры наогул.

Менавіта таму тэмай сёлетніх „Запісаў“ стала ўласна літаратура, ня толькі эміграцыйная, а беларуская цалкам. Тэксты літаратурнай тэматыкі публікуюцца ў розных разьдзелах нумару. Так, Макс Шчур і Ціхан Чарнякевіч у грунтоўных артыкулах з розных бакоў разглядаюць і рэпрэзэнтуюць творчасьць эміграцыйнага дзеяча Міхася Кавыля. Юрась Бабіч засяроджваецца на калярыстычнай лексыцы ў творах Натальлі Арсеньневай, Арнольд Макмілін вывучае літаратурныя дачыненьні Васіля Быкава й Рыгора Барадуліна.

Зьвязаныя зь літаратурай і публікацыі архіваліяў, сярод якіх — тэксты Антона Адамовіча й Юркі Віцьбіча, прысьвечаныя зьнішчэньню пісьменьнікаў у міжваеннай Беларусі, датычны гэтай жа праблемы верш Зьмітра Віталіна ў публікацыі Віктара Жыбуля. Цікавыя таксама лісты Ларысы Геніюш да Натальлі Арсеньневай за 1944 г., якія прыадкрываюць нам асаблівасьці дачыненьняў дзьвюх паэтак, а таксама лісты Васіля Быкава да Зоры й Вітаўта Кіпеляў. Працягвае літаратурную тэму апісаньне Ціханам Чарнякевічам эпісталярнай спадчыны вядомага эміграцыйнага пісьменьніка Масея Сяднёва, частка архіву якога захоўваецца ў менскім БДАМЛіМе.

Асобна варта адзначыць публікацыю беларускага перакладу знакамітай камэдыі Мікалая Гогаля „Рэвізор“. Пераклад быў зроблены Антонам Адамовічам яшчэ ў 1943 г., але дагэтуль не друкаваўся й захоўваўся ў рукапісе ў архіве БІНіМу. Падрыхтаваны да друку Віялетай Кавалёвай, гэты тэкст публікуецца ўпершыню.

У разьдзеле бібліяграфіяў — тэксты, таксама зьвязаныя зь беларускай літаратурай, а дакладней, адным зь яе клясыкаў Максімам Багдановічам, чый юбілей шырока адзначаўся сёлета. Своеасаблівым унёскам ва ўшанаваньне памяці паэта сталі бібліяграфія перакладаў ды прысьвечаных яму публікацыяў на нямецкай мове, зробленая беларусістам Норбэртам Рандавам, а таксама пералік прысьвечаных паэту тэкстаў на старонках эміграцыйных газэтаў „Бацькаўшчына“ й „Беларус“, складзены Лявонам Юрэвічам. Апошняму належыць і публікацыя ў разьдзеле „Выданьні“, датычная літаратурнага часопіса „Шыпшына“, што выходзіў у 1947—1950 гг. У тэксьце прадстаўленае калярэдакцыйнае ліставаньне ды пададзены зьмест усіх выдадзеных і апошняга нявыдадзенага нумару пэрыёдыка.

Літаратурная тэматыка вызначыла й зьмест разьдзелу „Музэй“. Тут публікуюцца здымкі з архіваў Антона Адамовіча ды Юркі Віцьбіча, што датычаць беларускіх пісьменьнікаў даваеннага часу. Праўда, некаторыя здымкі са згаданых збораў выкарыстаныя ў гэтым нумары і як ілюстрацыі ўнутры асобных тэкстаў.

Традыцыйна на старонках „Запісаў“ публікуюцца тэксты, непасрэдна не зьвязаныя з тэмай нумару. Тут варта адзначыць своеасаблівы „праскі блёк“, які складае публіцыстыка Тамаша Грыба, што плянуецца ў будучыні для выданьня асобнай кнігаю, а таксама публікацыя Макса Шчура, прысьвечаная прысутнасьці беларусікі на старонках праскага часопіса „Slovanský přehled“ у 1925—1938 гг. Зь іншых пазыцыяў зьместу сёлетніх „Запісаў“ варта адзначыць тэксты да гісторыі музыкі эміграцыйнага кампазытара й музыказнаўцы Алеся Карповіча, ліставаньне Юркі Віцьбіча адносна антыбальшавіцкіх паўстаньняў у Беларусі, а таксама дадаткі да ўспамінаў Франца Кушаля.

Надзвычай багатым атрымаўся сёлетні кніжны агляд, у якім згадваюцца больш за два дзясяткі выданьняў, зьвязаных з замежжам тэматыкай або паходжаньнем.

Сабраныя ў гэтым нумары „Запісаў“ публікацыі дэманструюць цікавыя падыходы ў дасьледаваньні літаратуры, рэпрэзэнтуюць новыя, раней не друкаваныя крыніцы, даюць зацікаўленым і навукоўцам новыя карысныя зьвесткі (бібліяграфіі, апісаньні архіваў) для вывучэньня беларускай літаратуры.

***Макс Шчур***
*Прага*

# АДЗІН ЛЁС І „ДЗЬВЕ“ ЛІТАРАТУРЫ

**1**

Пісаць пра паэзію, бадай, найлягчэй тады, калі пішаш пра паэзію ўласную — аднак у прынцыпе сур'ёзна пісаць пра паэзію азначае пісаць не пра сябе і нават не пра абстрактныя хвалі, кірункі ці тэорыі (гэта ўжо „літаратуразнаўства“ ў вузкім сэнсе слова), а пра асобна ўзятых паэтаў. Гэта зусім ня проста ўжо таму, што пытаньне густаў назаўжды застанецца ў сфэры суб'ектыўнага, і ўсеагульна прыдатных крытэраў для ўпадабаньня ці неўпадабаньня таго ці іншага аўтара можа ў прынцыпе не існаваць; да таго ж, калі паэт для цябе асабліва дарагі (а на іншых у прынцыпе ня варта марнаваць часу), то боязь быць незразуметым яшчэ большая: не зразумеўшы цябе, могуць не зразумець і яго... Але я наважуся пераадолець гэтую боязь дзеля таго, каб падзяліцца з чытачом сваёй любоўю да твораў аднаго з найвыбітнейшых, як на маю думку, прадстаўнікоў беларускай паэзіі мінулага стагодзьдзя — Міхася Кавыля (нар. 1915).

У паэзіі наогул няшмат аўтараў, любоў зь якімі ўзьнікала ў мяне зь першага погляду, да таго ж мімалётнага: у выпадку Міхася Кавыля гэты мой погляд быў адрасаваны вершу „Ідзі, ідзі“ ў анталёгіі эміграцкай паэзіі „Туга па Радзіме“, якая выйшла ў 1992 г. у Менску. Адчуваньне было незабыўным: нягледзячы на тое, што ў Кавыля ёсьць і лепшыя вершы, я адразу адчуў у ім почырк паэтычна роднага па крыві, то бок паводле спосабу мысленьня, аўтара. Аказалася, што ў беларускай літаратуры існуе ня проста паэт, які мне даспадобы (такіх ня так ужо й мала), а асабіста блізкі мне паэт. Думаю, іншым літаратарам гэтага адчуваньня тлумачыць ня трэба: яно параўнальнае з радасьцю... не, не адшукаць далёкага сваяка, а сустрэць у шумным, нязмоўчным натоўпе галасістых чужых людзей, насельнікаў малавядомага яшчэ гораду, найлепшага сябра, шэпт якога чуваць гучней за крыкі астатніх — зьява







Міхась Кавыль

настолькі рэдкая, што здаецца звышнатуральнай, нібы запазычанай з сну. Блізкасьць паэтычная — гэта яшчэ й такая „белая“, радасная зайздрасьць: ня проста канстатацыя *„і я так магу“*, дарэчная ў дачыненьні да ўсіх паэтаў-аднадумцаў, а хутчэй — *„і я б так хацеў“*...

Невыпадкова, што згаданы верш — першы з (ці адзін зь першых) напісаных Кавылём за мяжой: не за мяжой Беларусі (бо пісаў ён і ў высылцы на Далёкім Усходзе), а менавіта на Захадзе, у Эўропе. Пад ім стаіць дата, „1944—1952“: менавіта на гэтыя гады, калі меркаваць паводле храналёгіі твораў, прыпадае фармаваньне адметнага лірычнага голасу Міхася Кавыля як паэта ў маім разуменьні „замежнага“ — „несавецкага“ (гэта значыць ня школьнага, не праграмнага, не патэтычна-зануднага) ня толькі паводле месца знаходжаньня, тэматыкі ці ідэалёгіі, але й паводле самой апрычонай, адметнай інтанацыі ягонай паэзіі. То бок „Ідзі, ідзі“ як паводле акалічнасьцяў, так паводле духу — першы сапраўды „эўрапейскі“ верш паэта, а таксама адзін зь першых „эўрапейскіх“ вершаў у беларускай літаратуры, зь якімі я ў свой час пазнаёміўся — і дасёньня гэтаму ўдзячны.

**2**

Раней я меў схільнасьць супрацьпастаўляць паэзію эміграцыі й паэзію мэтраполіі паводле далёка не літаратурнага крытэру: „свабодная“/„паднявольная“. Спачатку першая здавалася мне цікавейшай і „лепшай“, потым — больш аўтэнтычнай і больш блізкай да клясычных адраджэнскіх вытокаў, пазьней — больш ідэалягічна „слушнай“ і пагрмадзянску „мужнай“, яшчэ пазьней — папросту іншай, — і вось цяпер я, пасьля няўдалых спробаў даказаць самому сабе перавагі эмігранцкай беларускай паэзіі над айчыннай, прыходжу да высновы, што апрача геаграфічнага крытэру ніякіх асаблівых „лёсавызначальных“ адрозьненьняў, пагатоў довадаў на карысьць „якаснай перавагі“ аднаго крыла беларускай паэзіі мінулага стагодзьдзя над другім мы папросту ня знойдзем. Ідэалягічны фактар для мяне асабіста страціў вызначальнасьць, калі я пераканаўся, што палітычна афарбаваныя вершы на абодвух баках ёсьць аднолькава слабымі (хаця не абавязкова няшчырымі) — яны як быццам кампэнсацыйна анулююць адны адных, гэтаксама як і завочныя ідэалягічныя палемікі часу „халоднай вайны“, узаемныя абвінавачаньні, эпіграмы... І там, і там беларусы змагаліся адны з аднымі не на перадавой, а ў глыбокім тыле, як быццам „панарошку“, — і з аднолькавай палымянасьцю, хай сабе не пад прымусам, пісалі тое, што ад іх чакалася. І там, і там у якасьці цэнзара выступала, бадай, сама гісторыя, сама „халодная вайна“. Пры гэтым рамантычны нацыяналізм і ня менш рамантычны (прынамсі, у 1960-х; а ў гады вайны — ня менш патрыятычны) камунізм былі ідэалёгіямі, аднолькава далёкімі ад маіх уласных палітычных поглядаў — іхная актуальнасьць, як мне здаецца, для сёньняшніх творцаў роўнавялікая, то бок роўнамалая. Да таго ж я не настолькі добра ведаю тагачасны літаратурны працэс на Захадзе, каб з пэўнасьцю сьцьвярджаць, што быць „беларусам-антысаветчыкам“ у эміграцыі ў тыя часы было чымсьці больш пачэсным, чым быць „савецчыкам“ — былі й сярод апошніх сумленныя людзі, якія пасвойму супрацьстаялі русыфікацыі й г. д. Працэнт таленавітых аўтараў і там, і там прыблізна аднолькавы. Апрача таго, маё ранейшае спачуваньне да эмігрантаў грунтавалася ў тым ліку на тым, што яны былі ў больш нявыгадных матэрыяльных умовах у параўнаньні з падсавецкімі літаратарамі, якія за дзяржаўныя грошы рэгулярна выдаваліся шматтысячнымі тыражамі й такім чынам жылі ў пацёмкінскай вёсцы штучна ўтрымліванага літпрацэсу — але цяпер такое становішча мне зусім не здаецца выгадай (магчыма, лепей выдаць за жыцьцё адну вынікоаую кнігу, як той жа Міхась Кавыль, чым штампаваць з году ў год аднастайныя нікім не чытаныя кніжачкі й па выслузе гадоў — зборы твораў). З другога боку, у пацёмкінскай вёсцы жылі па-свойму й эміграты, нават у чымсьці больш пацёмкінскай — у палоне ілюзіяў сваёй маладосьці (што нам сёньня, у век інтэрнэту, нават цяжка сабе ўявіць). Адным словам, для мяне цяпер нашмат больш важна тое, што творчасьць найлепшых паэтаў як эміграцыі, так і мэтраполіі бярэ пачатак у адным вытоку — жыцьцядайнай крыніцы 1920-х—1930-х гг., пары беларусізацыі, на якія, як у выпадку Міхася Кавыля, прыпадае іхная маладосьць. Пры гэтым я магу, калі заўгодна, — цяпер ужо без асаблівых эмоцыяў — пагадзіцца, што эміграцыйная (так бы мовіць, „старэйшая“ — а праз гэта, можа, і вонкава больш „састарэлая“) галіна беларускай паэзіі мае на згаданую спадчыну хай не выключнае, але ў чымсьці больш абгрунтаванае „дынастычнае“ права, чым афіцыйная падсавецкая — але „судовая спрэчка“ ў гэтым пытаньні ў варунках сучаснага беларускага літпрацэсу (што пасьпеў ад яе дыстанцыявацца, асабліва ў яе й не заглыбляючыся) ня будзе нікім працягнутая ўсур'ёз, бо ейны тэрмін даўніны ўжо незваротна выцек. Аднак шанец на пераадкрыцьцё, ці гэткую запозьненую рэабілітацыю эмігранцкай літаратуры па-ранейшаму застаецца — у залежнасьці ад цікавасьці (калі ня з боку саміх творцаў, то прынамсі з боку дасьледнікаў) да рэпрэсаванае літаратуры мінулага стагодзьдзя як такой. Толькі вось у тым, што гэтая цікавасьць будзе менавіта літаратурнай, я маю вялікія сумневы...





**3**

*Расказаць хацеў паэму,*
*глядзь, крычаць: „Дзяржы нацдэма!“*

„Паэта“

Пра пачатак сваёй літаратурнай дзейнасьці сам Міхась Кавыль (сапраўднае імя Язэп Лешчанка) у прадмове да зборніка „Міжагнёўе“ піша гэтак: *„Будучы яшчэ дома* [то бок ня ў Менску, а на Случчыне — ***М. Шч.***], *пад уплывам якогась маладнякоўца, а можа ўзвышэнца, напісаў першы верш „Лён“, а недзе ў 1929 годзе зьявіўся ў друку мой верш „Гудкі“ — хваласьпеў „раньню новых дзён“*“[1]. У гэтай згадцы мяне асабіста ўражвае ня тое, што паэт пісаў у тыповым тады маладнякоўс-

[1] Кавыль, Міхась. Мой шлях // Кавыль, Міхась. Міжагнёўе: Выбраныя творы. Нью-Ёрк, 1990. С. XII.

ка-ўзвышэнскім ключы, а тое, што пачаў друкавацца ўжо ў 14 гадоў, пісаць — яшчэ раней (падобна рана пачаў пісаць, напрыклад, Аркадзь Куляшоў). То бок у асобе Міхася Кавыля мы маем дачыненьне перадусім з надзвычай доўгім жыцьцём у літаратуры: з сучасьнікам і ўдзельнікам тагачаснага літаратурнага руху, толькі нешматлікія прадстаўнікі якога пераżылі сталінскія рэпрэсіі, каб стаць афіцыйнымі, падручнікавымі паэтамі — Броўка, Глебка, Куляшоў… Іншымі словамі — з жывой легендай беларускай паэзіі. Спадзяюся, у маёй рацыі вас пераканае далейшы зьмест артыкулу, што грунтуецца на параўнаньні творчасьці Міхася Кавыля й дасяжных аўтару фактаў ягонай біяграфіі.

Найстарэйшы верш Міхася Кавыля ў „Міжагнёўі“ — „З прастораў“, датаваны 1932 г. (у бібліяграфіі згадваецца таксама верш „Расьцьвітуць сады“, апублікаваны ў „Маладняку“ ў 1931 г. пад псэўданімам Язэп Маёвы, але тэксту верша не прыводзіцца). Напісаны ён 17-гадовым юнаком, тады ўжо — студэнтам Менскага пэдагагічнага тэхнікуму імя Ігнатоўскага.

*Белыя, белыя*
*вішняў пялёсткі,*
*ціха апалі,*
*упалі на хвалі.*
*Пенна усьпенены*
*срэбныя ўсплёскі,*
*далі хапалі,*
*хвалі імчалі.*
*Трактамі трактары*
*такты адточваюць,*
*топалі тонкія*
*стогнам уторaць ім;*
*пахкімі пасмамі кужалю*
*кружыць дым,*
*з топатам сопкім*
*коньніца гоніцца.*
*Ціха, панадна*
*мятнуўся вятрыска,*
*ў вуха дзьмухнулі мне*
*песьні.*
*Прынесьлі іх*
*ветры суладна з прастораў,*
*дзе пырскаюць*
*сьмешкі уцешныя*
*пышнай машыны.*
*Тонкімі ценямі*
*тэнар цягнуў,*
*голас ягоны*
*увысь узьвіваўся,*
*альтамі сталь там*
*у далі прапела,*
*сьвежая сьвежасьць*
*у бязьмежжа лілася…*





І так далей — тыповы для тагачаснага беларускага авангарду верш, напісаны, калі аўтара хрэстаматыйнага сёньня „Лілею млявы плёс люляе“ яшчэ на сьвеце не было. Пазьней Міхась Кавыль згадвае (у прыватнасьці, у вершы „Помнік“ і ў паэме „Непакорныя“) тых, хто меў на яго найбольшы ўплыў з творцаў старэйшай генэрацыі — гэта Дубоўка, Хадыка, Пушча, Жылка, Маракоў. Нягледзячы на пэўныя бясспрэчныя вартасьці тэксту, відавочна, што гэта ўсяго толькі „насьледаваньне“, а не самастойны сфармаваны голас (бадай, у 17 гадоў іначай і быць ня можа).

*„Паводле іроніі няўмольнага лёсу“*, увосень таго ж 1932 г. да маладога паэта ў першы раз прыходзяць з ГПУ (так бы мовіць, у рамках прафіляктычнай працы зь ненадзейнымі элемэнтамі: падставай для падазрэньня ў ненадзейнасьці стала ўсяго толькі тое, што Язэп у ліку іншых „сачкануў“ са збору бульбы ў падшэфным калгасе ў Сьляпянцы). Сьледчая Надзея Навіцкая распытвае ў яго пра ягоных сяброў — сярод іх пра Сяргея Астрэйку, Лукаша Калюгу, Уладзімера Гуцьку (Дудзіцкага), шукаючы ў калектыўным прагуле нейкі ідэалягічны грунт (!). Язэп адмаўляе, што блізка знаёмы з названымі студэнтамі, а сам пазьней употайкі паведамляе ім пра тое, што імі цікавяцца „ворганы“. Зь сьпісу „ворагаў народу“ яго да часу выкрэсьліваюць, аднак сустрэча адбіваецца на ягонай псыхіцы: *„Я намагаўся не паказваць, што мне сьвет стаў ня любы, але ня думаю, што гэта мне ўдалося. У галаву лезьлі ўсякія дурныя думкі. Хадзіў, як прыбіты“*[2], — адчуваньні й досьвед цудоўна знаёмыя й сёньняшняй беларускай моладзі. У кожным разе, настрой не для паэтычных хваласьпеваў — паэт піша, што ў той час *„ча-*

[2] Кавыль, Міхась. Мой шлях // Кавыль, Міхась. Міжагнёўе… С. XII.

*ста хадзіў у Ленінскую бібліятэку, прасіў у паэтэсы Пфляўмбаўм* [выбітная, калі не найлепшая, беларуская паэтка, жонка Максіма Лужаніна — ***М. Шч.***], *якая там працавала, вершы Сяргея Ясеніна*“[3]. Кнігі расейскага паэта, што скончыў самагубствам у 1925 г., былі ўжо тады пад негалоснай забаронай, таму Пфляўмбаўм хоць і пазычыла Язэпу вершы Ясеніна, але *„прасіла, каб нікому не казаў аб гэтым“*... Невыпадкова, што далей паэзія Кавыля будзе разьвівацца ў ключы, бліжэйшым да ясенінскага, чым да маладнякоўска-ўзвышэнскага — але выявіцца гэта ўжо пасьля ягонага арышту...

Выглядае, што бурлівае літаратурнае жыцьцё пары беларусізацыі мела форму, не зусім непадобную да пазьнейшай „культурнай рэвалюцыі“ ў Кітаі — моладзь вяла змаганьне з старымі „буржуазнымі перажыткамі“, нападала нават на Якуба Коласа за „дробнаўласьніцкія матывы“ ў паэме „Новая зямля“, вяла ідэйныя спрэчкі й размахвала наганамі... На адным баку ўяўнай барыкады стаялі „шчырыя пралетары“ (якіх іхная шчырасьць, трэба сказаць, не ўратавала ад рэпрэсіяў), на другім — юныя „дысыдэнты“, што трымаліся патрыятычных поглядаў: *„Былі гэта мройнікі, мелі тую самую „сьвярбячку“, якую меў і я, былі неспрактыкаваныя ў палітыцы, прыймалі за чыстую манэту ленінскую „свабоду слова“ і дзеля гэтага былі часам нястрыманыя ды неаглядныя ў сваіх учынках. Больш асьцярожнымі з нас былі хіба Сядура ды Агняцьвет. Самым неаглядным быў Сяргей Астрэйка. Ён напісаў паэму „Бэнгалія“*[4]*, у якой апісаў цяжкое жыцьцё бэнгальцаў пад ангельскай акупацыяй. Здаецца, нічога контррэвалюцыйнага ў гэтым не было. Трэба было паціху, як Русаковіч свайго „Крумкача“, прапіхаць у друк. Дык не, ён запрасіў Сядуру, Гуцьку, Русаковіча, Гайку, Гінтаўта ды мяне да Лукаша Калюгі і, папярэдзіўшы, „каб гэта засталося між намі“, прачытаў паэму. Нехта з прысутных зазначыў: „Дык гэта толькі трэба замяніць слова „Бэнгалія“ на „Беларусь“ і...“ ...На сваю бяду, Астрэйка не запярэчыў. Яму ж, калі не памыляюся, належыць і такая безагляднасьць: амаль усе, вышэй пералічаныя, насілі на штрыфэлях значкі СВБ (Саюз ваяўнічых бязбожнікаў), а Сяргей пры спатканьні ці раз ткне пальцам у значок дый скажа: „Саюз вызваленьня Беларусі...“ І засьмяецца. Пасьля гэтага шмат хто з нас схаваў свой значок пад штрыфэль. Гэта была дурніна, нейкая гульня ў „дзекабрыстаў“. А гульню гэтую „нядрэмлючае вока“ сачыла ды рабіла „оргвывады““*[5]. За сваю „неагляднасьць“ паэт Сяргей Астрэйка ў 1937 г., у 25 гадоў, паплаціўся жыцьцём. Тады ж, калі „дзекабрыстам“ было ўсяго па 17-20 гадоў, бальшыню зь іх пасьля групавога арышту 23Ї24 лютага 1933 г. асудзілі да высылкі як нацдэмаў.

[3] Кавыль, Міхась. Мой шлях // Кавыль, Міхась. Міжагнёўе... С. XII.

[4] Гл. аднайменны верш Міхася Кавыля: Кавыль, Міхась. Міжагнёўе... С. 121.





У сувязі зь сьледзтвам паэт згадвае цікавы эпізод: сьледчая паказвае яму на допыце паштоўку з „Пагоняю“, якой маладзён дагэтуль у вочы ня бачыў, аднак тая паштоўка з надпісам *„Няхай жыве БНР!“* і гербамі беларускіх гарадоў выклікае ў яго такое захапленьне, што ён сам прызнаецца, што сапраўды „змагаецца за яе“:

*Першы раз мне паштоўку з „Пагоняю„ —*
*Вянок, БНР... —*
*паказала сьледчая... Зь гіроніей*
*сказала: „Цяпер*

*ты ня будзеш мне болей адбрыквацца:*
*„Ня знаю, ня я...“*
*Прызнавайся, буржуйскі прыхвасьцень:*
*„Пагоня“ твая?...“ [...]*

*Я „паздравіў“ яе зь перамогаю.*
*Ці сон быў, ці яў?..*
*Адказаў я ёй словамі строгімі:*
*„Пагоня“ мая...*

*Расьсьмяялася: „Цябе мы вылечым*
*ад уяў, праяў...“*
*Перад сьледчай тады нехта велічны,*
*а ня я стаяў...* („Пагоня“, 1963)

Як бачым, тады юнак ня быў перакананым „дысыдэнтам“, пагатоў „змагаром“ — ён сам называе ўсю тую гульню ў дзекабрыстаў „дурнінай“. Аднак вельмі паказальна, што менавіта эстэтычнае захапленьне малюнкам беларускага герба змусіла яго, фактычна, прызнаць віну, якой не было — стаць на бок ідэі, увасобленай у гербе, але найперш стаць на яго пачуцьцёва, сэрцам, а ня розумам. З таго часу, паводле словаў самога Міхася Кавыля, паштоўка з Пагоняю стала ягонай „выйгрышнай картай“ у жыцьці — але ж тады яшчэ нічога не прадвяшчала, што яна будзе насамрэч „выйгрышнай“:

[5] Кавыль, Міхась. Мой шлях // Кавыль, Міхась. Міжагнёўе... С. XIII.

*Быццам вус адцяў я Джугашвілі,*
*быў актыўным сябрам СВБ...*
*Гэты „грэх“ мне сьледчыя прышылі.*
*Не маню, матуля, я табе.* („Ліст маме“, 1968)

У менскай „амэрыканцы“ 18-гадовы Язэп Лешчанка абвяшчае галадоўку, якая працягваецца чатыры дні, а пасьля, на раду старэйшых вязьняў, ён робіць спробу самагубства — праразае кавалкам шкла вену на левай руцэ, аднак яго адпраўляюць не ў лязарэт, а ў карцар... У верасьні яго ўжо выпраўляюць (у адным цягніку з Лужаніным, Сядурам, Гінтаўтам і Гайкам) у Сыбір — ён трапляе на Далёкі Ўсход, дзе „ішачыць“ разам з мужам Канстанцыі Буйлы Віталём Калечыцам.

І ў турме, і ў высылцы паэт працягвае пісаць („Адзін, адзін“, „Пралескі“, „Абэль“, „Сыбір“) — толькі гэтым разам зусім па-іншаму, не памаладнякоўску:

*Сам я ведаю, што ў лесе, ля гары,*
*мне капаюць ужо яму грабары.*
*Хай капаюць. Не баюся я нічуць.*
*Я хачу навек забыцца і заснуць,*
*каб ня бачыць гэтых чорных пут і крат,*
*каб ня слухаць, як людзей катуе кат.* („Не кувай“, 1933)

Найбольш „сталым“, нечакана „нелірычным“ астрожным вершам мне здаецца, бадай, „Абэль (Падслуханае)“ (1933):

*Бедны Абэль, родны браце,*
*лёс адзін мы маем:*
*ты жыцьцё даўно ўжо страціў,*
*сьмерць мяне чакае.*

*Што-ж? Змаганьне дык змаганьне —*
*разламаю краты,*
*покуль сонца зь неба гляне,*
*замардую брата...*

*У маёй жыве ён хаце,*
*ўсё маё ён мае...*
*Закалю, спалю багацьце...*
*Каін хай-жа знае“.*





Да найлепшых з „ссыльных“ вершаў належыць „Помніш, мама?“ (1934), у якім — бадай, у самым першым з твораў паэта — ужо выразна чуецца ўласны, сталы, аўтарскі голас пазьнейшага Міхася Кавыля, аўтара многіх удалых аўтабіяграфічных вершаў-успамінаў:

*Помніш, мама, той горад вялікі?*
*Белы дом з вартавымі... вастрог?*
*Па пабачаньні ты чаравікі*
*мне зьняла з сваіх змучаных ног... [...]*

*Шмат нас тут і малых, і вялікіх,*
*шмат хто холад падужаць ня змог...*
*І, калі б не твае чаравікі,*
*я таксама... застаўся б бяз ног...*

Застаецца толькі здагадвацца, наколькі цяжка было 19-гадоваму юнаку пераносіць усе выпрабаваньні высылкі. Пасьля адбыцьця пакараньня паэт трапляе ў 1936 г. у Варонеж, дзе працуе на заводзе „Камінтэрн“ і паступае на вячэрняе аддзяленьне пэдінстытуту. У 1938 г. там выдаецца альманах „Непобедимая“, які пачынаецца вершам Кавыля (невядома, ці падпісанага ўсё яшчэ як Маёвы) „Полем, полем“. У зборнік „Ростань“ (1947) ім уключаны верш „Поле, поле...“, які можа быць перапрацаваным варыянтам таго ж верша: у ім чуюцца ноткі асуджэньня мінуўшчыны, прыгону й ухваленьня „новага стану рэчаў“:

*Ці ня тут ад сонца і да зораў*
*гнулі сьпіны бацька і браты*
*і пялі песьні болю, гора?..*
*Поле, поле, чуеш гэта ты?..*
*Не пазнаць вас, нівы, сенажаці, —*
*залаты бязьмежны акіян...*
*Вырывае згорбленая маці*
*колькі раз аплаканы бур’ян. [...]*
*І чамусьці косьці не скіголяць,*
*б’ецца сэрца радасьцю маё,*
*бо наўкол раскінулася поле,*
*не чужое, ўласнае, сваё.*

Наўрад ці, вядома, калгаснае поле назваў бы „сваім“ сам беларускі селянін, і наўрад ці б у яго ў той час *„білася радасьцю сэрца“*: паэт хут-

чэй імкнецца хоць неяк „апраўдацца“ перад дзейным ладам — першы, але не апошні раз у жыцьці... Але пры гэтым у вершы захоўваюцца й сумныя інтанацыі, якія зьявіліся ў паэта ў выгнаньні. Такое адчуваньне, што паэт вельмі мала піша пасьля высылкі, ад безвыходнасьці: няшчыра пяяць па-маладнякоўску ў яго болей не атрымліваецца...

*Парваў я струны свайго сэрца,*
*закінуў ліру ў забыцьцё, —*

напіша ён пазьней, згадваючы гэты пэрыяд свайго жыцьця. Зрэшты, калі верш і быў спробай апраўданьня, то яна яму ня надта дапамагае: у тым жа 1938 г. Язэп трапляе *„пад чыстку ненадзейных элемэнтаў“*, і яго высяляюць з Варонежу — куды ён, аднак, зноўку вяртаецца празь нейкі час і праўдамі-няпраўдамі ўладкоўваецца настаўнікам. Адтуль яго ў 1941 г., *„калі немцы прыблізіліся да Варонежу“*, забіраюць у войска — ён зноў едзе на Далёкі Ўсход, толькі не на катаргу, а *„вучыцца ваяваць“* — пасьля чаго цягам няўдалага савецкага наступу пад Харкавам у траўні 1942 г. трапляе ў палон. Свой ваенны досьвед паэт згадвае ў вершах надзвычай рэдка:

*Бараніў і я Радзіму тую,*
*дзе мяне ніхто не бараніў.* („Ліст маме“, 1968)

Верш „Франтавое“, які непасрэдна датычыцца тых падзей, верагодна, напісаны пазьней, бо ў ім пазнаецца стыль Кавыля пачатку 1950-х (верш выйшаў у 1954 г. у зборніку „Пад зорамі белымі“), і ніякай асаблівай геравічнасьці ў ім ня чуецца:

*Мне падушкай — сталёвая каска.*
*З боку туліцца „жонка“ із Тулы...*
*У акопе сьцюдзёна і гразка.*
*Добра тым, што навекі паснулі.*

Вось такое „негераічнае“ бачаньне вайны з асабістай пэрспэктывы *„галоднага воя“*, вядомае дагэтуль з Гарэцкага й пазьней уласьцівае Быкаву. Ваенны досьвед здаецца паэту толькі чарговым эпізодам у бясконцай, здавалася б, чарадзе пакутаў ягонай маладосьці. Але ўсе гэтыя жыцьцёвыя пэрыпэтыі ёсьць, насамрэч, толькі перадгісторыяй: як паэт Міхась Кавыль яшчэ не нарадзіўся.





## 4

*Я карэньне гладаў, я ратунку шукаў —*
*маладым не хацеў у магілу.*
„За вастрожнай сьцяной“, 1943

Не нарадзіўся ён ані пасьля вызваленьня зь нямецкага палону беларускімі дзеячамі зь Менску, якія дапамаглі яму вярнуцца на радзіму ў сакавіку 1943 г. Пра гэты пэрыяд жыцьця ў сваім аўтабіяграфічным нарысе „Мой шлях“ паэт згадвае адным радком: *„У Менску жыцьцё было неспакойнае. Хутка ізноў давялося ўцякаць“*[6]. Цікава, чаму *„ізноў“* уцякаць — здаецца ж, дагэтуль Кавыль ніадкуль асабліва не ўцякаў, наадварот, быў — калі не лічыць шматлікіх хітрыкаў з мэтай абдурыць пільны адміністрацыйны нагляд — паслухмяны „волі лёсу“... Магчыма, гэта значыць, што ўвесь гэты час ён уцякаў, так бы мовіць, у думках — не ад сябе, а ад рэчаіснасьці, у сны і ўспаміны дзяцінства?

За вызваленьне з палону, відаць, трэба было неяк аддзячыць: у часе акупацыі Міхась Кавыль друкуе два вершы ў „Беларускай газэце“ („За што?“, „Веяў вецер буйны“) і тры — у „Голасе вёскі“, рэдагаванай Яўхімам Кіпелем („Я — беларус“, „Пагоня“, „Я нікуды не хаджу“). Тэкстаў іх Міхась Кавыль у „Міжагнёўі“ не перавыдаў, але зь іншых вершаў, напісаных у 1943—1944 гг., можна стварыць сабе ўяву пра тое, якімі яны маглі быць:

*Расьцьвіталі ў полі васілёчкі,*
*васілёчкі ўсюды, дзе ні кінь...* („Васілёчкі“, 1943)

*Ой, ты край мой залаты,*
*край мой васількові!..* (1944)

Можа скласьціся адчуваньне, што гэтымі *„васілёчкамі“* паэт наўмысна загаворвае зубы акупантам, кпіць, прыкідваецца гэткім „юродзівым“ — але наўрад ці гэта так: у мяне, прынамсі, няма падставаў падазраваць яго ў няшчырасьці. Хутчэй, можна сказаць, што ў яго пачынаецца пэрыяд „клясычна-народнай“, „патрыятычна-песеннай“ лірыкі, кульмінацыяй якой стаецца паэма „Пад небам Случчыны каханай“, напісаная ў 1943 г. (аднак апублікаваная толькі ў 1947 г. у „Ростані“): у гэтай першай сваёй паэме аўтар вельмі недвухсэнсоўна й палымяна „зводзіць рахункі“ з бальшавікамі, прыгадвае ім як уласны лёс, так і

[6] Кавыль, Міхась. Мой шлях // Кавыль, Міхась. Міжагнёўе... С. XIII.

Слуцкае паўстаньне, аповеды пра якое чуў зь дзяцінства. Урэшце, пакуты маладосьці недзе павінны былі знайсьці сабе выйсьце. Паэма кідае новае сьвятло й на літаратурныя пачаткі таго, хто нібыта яшчэ нядаўна быў Язэпам Маёвым:

*Хоць я тады яшчэ ня ведаў,*
*за што крывавяць мой прасьцяг,*
*ды словы-клічы Лістапада*
*мяне вялі кудысь, як сьцяг.*
*І я пайшоў. Я лез на скалы*
*сьлядамі сьвежае крыві...*
*А прыпарнаскія шакалы*
*крамзалі дум маіх узьвіў.*
*А ў гэтых думах, гэтых мроях*
*хацеў хоць раз я там пабыць,*
*дзе Чарадзеевы героі*
*ў вагні згаралі барацьбы...*
*Дык дзе там: „Тэма архаічна...*
*Вы ў правы хіліцеся ўхіл...*
*Сьляпы вы — сёньня гераічней...“ —*
*пісаў якісь мне Самуіл.*
*А я „сьляпы“ глядзеў, як маці*
*сьлязамі змочвала палі...*
*Хацеў крычаць, хацеў я плакаць,*
*ня дытырамбы ім пііць.* (1943)

Вядома, з гледзішча камуністаў (пагатоў калі зьвярнуць увагу на згадку пра „якогась Самуіла“ — хаця Кавыль у пазьнейшых творах нідзе не выяўляе антысэмітызму, наадварот, спачувае перасьледаваным у СССР габрэям, зь любоўю згадвае пра вясковага гандляра Янкеля Ёськіна й сам сябе параўноўвае зь Вечным Жыдам) гэтая патрыятычная па сутнасьці паэма здаецца зусім не нявіннай, а ўсьвядомлена „здрадніцкай“, то бок антысавецкай, антысталінскай, антырасейскай — тым часам як з гледзішча паэзіі яна ёсьць, мякка кажучы, малацікавай. Гэта чысты ўвасоблены гнеў — паэту, які дагэтуль умеў толькі паціху па-ясенінску плакаць, цяпер урэшце дазволена й крычаць. Відавочна, што з такімі поглядамі й з такой мінуўшчынай нічога добрага чакаць ад вяртаньня бальшавікоў яму не выпадае. Кавыль, як і шмат ягоных калегаў па пяры, пастанаўляе ўцячы разам зь немцамі — кінуцца, паводле назвы аднаго з апошніх напісаных на радзіме вершаў, „У вір галавою“:





*Перанёс я прыгодаў ці мала,*
*упіваўся рамантыкай бою,*
*а цяпер, як казаў Купала,*
*засталося — у вір галавою.* (1944)

І сапраўды, яму „няма чаго траціць“ — у 1944 г. Язэп Лешчанка апынаецца ў Баварыі. І там ён перажывае нялёгкія часы ды працягвае пісаць патрыятычна-лірычныя вершы ў „клясычным“, традыцыйным, „васільковым“ ключы. Чаго варты толькі пералік іхных назваў: „Ой, далёка“, „Ой, чаму я спаткаўся з табою?“, „Ой, пайду“, „Ой, ты край мой“... Сапраўды, і ў ваенныя гады „войкаць“ яму давялося ня меней, чым у папярэднія.

**5**

*Турынгія — царыца!*
*Зялёныя лясы...*
*Ніяк мне не упіцца*
*віном твае красы.*

1946

І вось — недзе ў Турынгіі ці яшчэ ў Баварыі, калі 28-гадовы паэт апынаецца сам-насам з альпійскай прыродай, — здараецца сапраўдны цуд. Гэтым цудам і ёсьць згаданы мною ў самым пачатку верш „Ідзі, ідзі“. Магчыма, ён ня быў напісаны ў 1944 г., а толькі задуманы, „запачаты“ тады, тым часам як дароблены праз колькі гадоў, у пэрыяд росквіту ягонага таленту — але важны тут ня факт рэгістрацыі думак на паперы, а факт самога нараджэньня гэтых думак — іншага, не абстрактна-вэрбальнага, а канкрэтна-вобразнага спосабу мысьленьня, які ў беларускай паэзіі й сёньня яшчэ застаецца дэфіцытным.

*Упала ноч.*
*Як эдэльвэйсы, зоры*
*цьвітуць над Альпамі.*
*Аскепак-маладзік*
*у неба ўрэзаўся.*
*Блакітнае на горы*
*імжыць сьвятло.*
*А ты ідзі, ідзі...*
*Якая ноч!*

*Як у сьвятыні, ціха*
*і урачыста.*
*На калені упадзі.*
*Вунь там агонь міргае...*
*Шчасьце зь ліхам*
*кладуцца спаць...*
*А ты ідзі, ідзі...*
*Трывожыць ноч,*
*як сьмерці жах мінулы,*
*і прышласьць мроіцца,*
*як недабіты дзік.*
*Нібы агонь,*
*няўспадзей шуганула*
*жаданьне жыць.*
*Каб жыць,*
*ідзі, ідзі...*
*Канае ноч,*
*і зазьвінелі зоры.*
*Прамень, як штых, блiснуў,*
*і маладзік*
*збляднеў,*
*самлеў.*
*Ружовае на горы*
*імжыць сьвятло.*
*А ты ідзі, ідзі...*

У чым палягае для мяне асаблівая магія гэтага верша? Па-першае, у тым, што гэта ня крык, ня плач і ня песьня, як дагэтуль: верш напісаны „шэптам“, які адзіна пасуе ў сьвятыні, дзе ўзвышаць голас — недарэчна. Дый у паэта няма іншага суразмоўцы, да якога ільга было б зьвярнуцца на „ты“, апроч сябе самога. Толькі ў гэтай цішыні ён упершыню, мне здаецца, здольны пачуць уласны голас, у тым ліку паэтычны — сябе, ува ўсіх сэнсах слова. Па-другое, хаця ніводны з вобразаў верша паасобку ня ёсьць ужо такім арыгінальным ці нязвыклым, але паэту ўдаецца стварыць зь іх надзвычайна арганічную цэласнасьць. Гэтаму спрыяе ў тым ліку абраная форма: кароткія выказваньні, што нагадваюць абрыўкі фразаў ці думак, якіх не заглушае „акустычны шум“ вэрбальных асацыяцый-перамычак, як у юначым вершы „З прастораў“. Ад верша вее — упершыню — надзвычайнай гармоніяй, так бы





мовіць, між аб’ектам і суб’ектам, што пераплаўляецца ва ўзаемную гарманічную адпаведнасьць зьместу й формы (ці, наадварот, паходзіць з гэтае ўпершыню дасягнутае адпаведнасьці).

І ўсё-ткі карані гэтага верша, паводле пазьнейшага сьведчаньня паэта, — недзе там, дзе й карані нашмат меней спакойнага й па-юначы неўраўнаважанага верша „З прастораў“. У паэме „Непакорныя“ праз шмат гадоў Кавыль напіша:

*У вольны час ад працы хатняй*
*сьпяшаў Алесь у пушчу вершаў.*
*А там „Пялёсткі“, „Віта“, „Крэдо“*
*і „Дзіва“, „Раніца рыкае“...*
*Якая сьвежасьць. Колькі ведаў.*
*Мэтафар вычурнасьць якая.*
*Нібы цымбалаў, рыфмаў граньне,*
*суквецьці вобразаў цудоўных... (1982)*

Тут паэт зноў аддае даніну ўплывам сваёй маладосьці — аўтарам пералічаных кніг Маракову, Пушчу, Дубоўку, Чарнушэвічу — і ўпершыню прызнаецца, чым яны, уласна, яго захаплялі: вобразамі, мэтафарамі, *„граньнем рыфмаў“*. Чаму ж тады, каб наблізіцца да гэтых *„суквецьцяў“*, да гэтай *„вычурнасьці мэтафараў“*, яму спатрэбілася столькі гадоў? Рэч у тым, што позьняя паэма „Непакорныя“ ёсьць настолькі ж аўтабіяграфічнай, наколькі шмат у чым анахранічнай — як і кожны ўспамін, яна ўпрыгожвае й падфарбоўвае сапраўднасьць. Насамрэч паэт дайшоў да сутнасьці паэтычнай магіі сваіх папярэднікаў не адразу, не ў 15-17 гадоў, а нашмат пазьней, пасьля таго, як сам для сябе „пераадкрыў“ ці „перавынайшаў“ іхнае мастацтва — каб у нечым іх нават пераўзысьці. На маю думку, першым сьведчаньнем гэтага пераадкрыцьця й зьяўляецца верш „Ідзі, ідзі“.

Чаму адбываецца гэты „цуд“? Я ўжо фактычна прапанаваў сваё ўласнае, спэкуляцыйнае тлумачэньне: мне здаецца, што менавіта ў той момант паэт урэшце застаецца АДЗІН — але ня ў карцары, сам-насам з сваім горам і нярадаснымі ўспамінамі, а сам-насам зь сьветам і яго харaством — не з сабою, а зь „ІНШЫМ“. Гэта тая падставовая, так бы мовіць, ня толькі фізычная, але й мэтафізычная адзінота, якая ёсьць перадумовай узьнікненьня сапраўднай паэзіі. Яна й ёсьць сапраўднай мэтаю тых „уцёкаў“ углыб сябе, якія паэт зьдзяйсьняе на працягу ўсяго папярэдняга жыцьця.




Вокладка зборніка „Ростань“ (Рэгенсбург, 1947)

Яшчэ адным важным фактарам мне здаецца тое, што сама рэчаіснасьць, твар да твару зь якой апынаецца аўтар, — новая, іншая, і праз гэта „магічная“. Гэта не азначае, што яна ёсьць такой ужо радаснай: часьцяком свае найлепшыя вершы Кавыль стварае ў вельмі, мякка кажучы, „нерамантычных“ абставінах. Але галоўнае, што абставіны тыя — не падобныя да ранейшых айчынных краявідаў (у тым ліку й духовых), ужо „зрыфмаваных“ і сэміятызаваных ягонымі папярэднікамі.

У 1944—1947 гг., да выданьня сваёй першай кнігі „Ростань“, паэт працуе на авіязаводзе ў Цытаў, пасьля — у Турынгіі, у 1945 г. трапляе ў лягер для перамешчаных асобаў, і ўрэшце — у Бэльгію, на працу ў вугальнай шахце. *„У гэтым няпэўным і невыразным часе апанавала мяне туга й роспач. Сябра мой Іван Кір'янаў*[7]*, якому я прысьвяціў першы свой зборнічак вершаў „Ростань“, пакончыў самагубствам у Рэгенсбургу. Я пастанавіў шукаць ратунку ў працы... Прамучыўся ў*

[7] Маецца на ўвазе **Іван Кір'янаў**, рэжысэр групы „Жыве Беларусь“ у Нямеччыне. Прычынаю ягонага самагубства было тое, што пры канцы Другой сусьветнай вайны яны з жонкай згубілі сваіх дваіх дзяцей і не змаглі іх знайсьці. — ***Рэд.***





*шахтах у Ля-Лювэры шэсьць месяцаў, дзе страціў на левай руцэ палец“*[8]. Такія вось „рамантычныя“ абставіны, у якіх ствараюцца вершы кшталту гэтага:

*Наліліся сокам сонца зоры.*
*Маўкліня. Ня шэпчуць чараты.*
*Туманоў блакітныя уборы*
*паразьвешваў вецер на кусты.*

*За сялом зялёныя дубровы*
*шэры падпярэзваюць хвартух.*
*Малаком цяжарныя каровы*
*праганяе выганам пастух.*

*Парасьселася ў гальлі на веча*
*вараньнё у чорных лахманах.*
*На спатканьне з ноччу выйшаў вечар,*
*малады замроены манах.* („Вечар“, 1945)

Як відаць зь іншага верша, „Падзямельная песьня“, супакой і натхненьне можна знайсьці й пад зямлёю, пагатоў калі яго няма на зямлі:

*На зямлі мне і душна, і цесна;*
*пад зямлёю душней, ды прасторней.*
*Падзямельная ціхая песьня*
*супакоем мне сэрца агорне.*

*Лямпы-зьнічкі, падземныя зоры*
*ў сутарэньні паблiскваюць здрадна.*
*Далямітныя рушацца горы,*
*мне насустрач ідзе непрагляднасьць.*

*Не праспэкты суворыя штрэкі,*
*не на йгрышча іду я у ручу —*
*нада мною азёры і рэкі,*
*пада мною агонь неўміручы...* (1947)

Тым ня менш, да часу такія ўдалыя знаходкі застаюцца ў Кавыля выключэньнямі („Вясёлка“, „Нам сэрца асьвяжае подых новы“, „Турынгія — царыца!“): паралельна зь вершамі новага, „вобразнага“ стылю ў

[8] Кавыль, Міхась. Мой шлях // Кавыль, Міхась. Міжагнёўе... С. XIV.

1940-х гг. ім надалей пішуцца вершы „старога ўзору“, дыктаваныя збольшага пачуцьцём настальгіі па бацькаўшчыне („Беларусь“, „Прароцтва“, „На новы год“). Бальшыня раньняй „песенна-народнай“, а таксама любоўнай (хацелася б сказаць інтымнай, але акурат праўдзівай інтымнасьці там, здаецца, і не стае, яна зьявіцца пазьней) лірыкі паэта лёгка пазнаецца паводле адной, з майго гледзішча, фармальнай заганы, якая, відаць, мела быць прыёмам, а стала ці ня вымушаным выйсьцем: паводле паўтору напрыканцы верша яго першай страфы, радзей — першых двух радкоў. За рэдкімі выключэньнямі гэтыя вершы належаць у Кавыля да найслабейшых; яны пераважна і складаюць першую кніжку паэта, „Ростань“, выдадзеную ў 1947 г. у Рэгенсбургу, куды ён уключае й паэму „Пад небам Случчыны каханай“, найлепшыя вершы 1930-х гг. ды некаторыя з найноўшых — пераважна з грамадзкай тэматыкай. Пільнай увагі зь іх заслугоўваюць „лягерны“ верш-успамін „Іграе Жорж“, іранічнае прысьвячэньне „Музе“, а таксама — верш „Вэнэра“, якому ўласьцівая тая ж ёмістасьць вобразу, што й пазьнейшым творам Кавыля:

*...Забытая,*
*дзе сьліўні і вужы,*
*аплёвана, разьбітая*
*на сьметніку ляжы...*

*У садзе каля явару —*
*крапіва і трава...*
*Зіхціць з крапівы мармурам*
*багіня хараства...* (1945)

Рэшту сваіх „новых“ вершаў паэт уключыць толькі ў наступную кнігу — „Пад зорамі белымі“ (Нью-Ёрк, 1954). Адразу зьвярну ўвагу на тое, што вялікая частка й пазьнейшых аўтаравых чыста лірычных кампазыцый у зборнікі 1940—1960-х гг. не ўвайшла, ці ўвайшла не адразу, са спазьненьнем — перавага заўжды аддавалася вершам „сьвядомым“, патрыятычным, „народным“... Ці гэта сам паэт быў настолькі няўпэўнены ў якасьці сваёй лірыкі, што лічыў яе нявартай публікацыі, ці гэта палітычныя й жыцьцёвыя абставіны прымушалі яго сьпяваць на часам досыць аднастайнай настальгічна-грамадзкай струне? Варта было б спраўдзіць у яго самога. Магчыма, свой уплыў меў той факт, што ў 1948 г. ён *„перабраўся ў беларускі лягер Бакнанг. Тут крыху прыйшоў да сябе. Рэдагаваў газэту „Беларускае слова“, а пасьля „Беларускую трыбуну“, аж пакуль нябожчык протапрэсьвітэр Мікола Лапіцкі не нагаварыў мяне ехаць у Амэрыку. Прызнацца, неяк не хацелася мне ехаць так далёка... Але ўсё ж паслухаў а. Лапіцкага...“*[9].





У 1949 г. у Кавылі, здаецца, яшчэ на нейкі момант абуджаецца Язэп Маёвы, ці хутчэй Маякоўскі (толькі, так бы мовіць, са знакам „плюс“, несавецкі — гл. верш „Паэту“) — я маю на ўвазе пачатак працы над прысьвечанай акупацыі й вайне паэмай „Міжагнёўе“, якая ёсьць у яго хаця й наймацнейшай, ды, так бы мовіць, не зусім „ягонай“ — аднак тая будзе скончаная толькі ў 1961 г. ужо ў Новым сьвеце.

## 6

*Амэрыка, мая другая Случчына...*
„Дзякую, Амэрыка“, 1951

*Амаль 90 працэнтаў маіх твораў напісаныя ў Амэрыцы“.*
„Мой шлях“

Спадзяюся, сам Міхась Кавыль пагадзіўся б з тым, што канчатковым прабуджэньнем (ці ўсьведамленьнем) свайго таленту ён абавязаны дзьвюм стыхіям: Атлянтычнаму акіяну й Нью-Ёрку. Пісаць пра гэты пэрыяд ягонай творчасьці надзвычай лёгка, бо Кавылёвы вершы таго часу камэнтароў і не патрабуюць — таму пагатоў была б шкада ўстрымацца тут ад іх цытаваньня.

*Вецер-смык на струнах-тросах*
*грае дзікія факстроты,*
*як дазоры, альбатросы,*
*нібы здані, шчоглы-гроты. [...]*

*Паўтарацьмеш безупынна,*
*як вар'ят той загайданы —*
*ўсе пяскі зьбяру з пустыняў*
*і засыплю акіяны...* („У акіяне“, 1950)[10]

*Ботам каменным упёрся ў воду,*
*у зямлю другім, стаіць і марыць,*
*голаў узьняўшы за хмары,*
*места нягодаў, места прыгодаў.*

[9] Кавыль, Міхась. Мой шлях // Кавыль, Міхась. Міжагнёўе... С. XV.
[10] Верш насамрэч напісаны ў часе падарожжа.

*Прыстань вятроў, акіяну хваляў,*
*сымфонія фарбаў, бэтону, сталі...*
*Горад мільённагаловы, мільённавокі*
*грудзі падставіў вятром шырокім.* („Нью-Ёрк“, 1950)

З фармальнага гледзішча да найбольш экспэрымэнтальных належыць верш „Трымайся, Марыя“, напісаны ў „дыялягічнай“ форме, хаця й ня новай (уласна, яшчэ сярэднявечнай), але ў Кавыля — нетыпова й шызафрэнічна „разарванай“, што толькі падкрэсьлівае адлегласьць паміж дзьвюма паралельнымі рэальнасьцямі, новай — і тамтэйшай, айчыннай:

*Кіпіць акіян.*
*Па-над Случчу*
*агні маякоў*
*рэхчуць коні.*
*Пагасьлі ў тумане,*
*над кручай*
*каб зноў загарэцца.*
*Сасоньнік.*
*У тросах стальных*
*каля гаю*
*вятры заблудзілі...* (1950)

Сярод вершаў, напісаных Кавылём у Амэрыцы, пад „зорамі белымі“ амэрыканскага сьцягу, ладная частка прысьвечаная самой Амэрыцы — ня толькі яе прыродзе й людзям, але й краіне як такой: гэта той амэрыканскі патрыятызм, які вельмі лёгка зблытаць з „антысаветызмам“, але падмурак ягоны — не ў антысаветызьме, а перадусім ва ўдзячнасьці той краіне, дзе ён урэшце знайшоў спакой і свабоду — дзьве перадумовы пісьма.

*Помнікі. Крыжы. Магільныя пліты.*
*І мы, жывыя, на цьвінтары.*
*Сьцюжы зацерлі імёны забітых,*
*і дух вітае ціха ўгары.*

*Дрэвы шумяць аб бясьсьмерці, вяліччы.*
*І мне за імі як паўтарыць?*
*Жбан уздымае Молі Пічэр*
*вышэй вяршалін — піце, вятры!..* („Молі Пічэр“, 1952)





*Расчасаўшы белыя грывы*
*з абрыву*
*стрымгалоў*
*як самазабойцы*
*кідаюцца*
*белапенныя*
*глыбы*
*вады....*

*Дым,*
*дыямэнтавы дым*
*уздымаецца*
*ў неба*
*хмарай,*
*Каб упасьці назад*
*Ніягарай...* („Ніягара“)

Аднак Кавыль Амэрыку, трэба сказаць, не ідэалізуе: зважае ён і на сацыяльную несправядлівасьць, і на залішнюю „мэханізаванасьць“ капіталістычнага сьвету:

*Нібы цясьніны гор — вуліцы.*
*Дамы — вылуджаныя ветрам скалы.*
*Бакамі размаляванымі туляцца,*
*у хмары лезуць — месца мала. [...]*

*Неба шрубуюць верталёты...*
*Хоць бы другая плянэта упала, —*
*будуць кідацца самазабойцы ў пралёты:*
*на зямлі месца мала.* („Месца мала“, 1952)

*Што пудзіла на агародзе, зашмальцаваны,*
*капялюх падмасьціўшы пад галаву,*
*сьпіць на ходніках каля рэстарану,*
*ногі, рукі раскінуў, бы павук.*

*Мінаюць яго, як бомбу, дасьціпныя дамы,*
*паліцэйскі пераступае, бы праз агрызак сухі.*
*А ён, нашчадак грэшнага Адама,*
*за чые пакутуе грахі?* („Бом“[11])

[11] Маецца на ўвазе „бомж“, беспрытульны.

Сваю „новую“ паэтыку Міхась Кавыль фармулюе на пачатку 1950-х у вершы, што паводле інтанацыяў гэтак жа нагадвае Маякоўскага (да якога ў Кавыля, трэба сказаць, вельмі амбівалентнае стаўленьне), як і паэма „Міжагнёўе“ — але каштоўны ён менавіта ўсьведамленьнем разрыву між уласнай ранейшай і новай творчасьцю:

*Годзе выседжваць*
*слоў кураняты,*
*раскалупваць*
*пачуцьцяў*
*труп!*
*Чуеш, рыгаюць*
*крывёй гарматы?*
*Бачыш, труп*
*абдымае труп? […]*
*Сьлінай*
*сьлімачай*
*раны ня гояць*
*і ня гасяць пажар*
*сьлязой.*
*Музыку волі —*
*у сэрцы*
*вояў!*
*Эскадрыльлі рыфмаў*
*у бой!* („Паэту“, 1952)

Тут уражвае не сама па сабе інтанацыя ці „запазычаны“ стыль, а менавіта кантраст між сучасным размахам паэтавай вобразнасьці й ранейшым „ясенінскім“ лірызмам, між поліфаніяй „новага“ голасу й ягонай ранейшай манатоннасьцю… А вось як гучыць зварот да „Маладога паэта“ ў больш уласьцівым самому Кавылю стылі:

*Ты бачыў, як лезуць*
*альпіністы на скалы?*
*Ты ведаеш, колькі*
*іх прадоньне схавала? […]*
*Вось так і цябе*
*на шляху да Парнасу*
*чакаюць выступы*
*ды расколіны часу…*





Ужо ў 1953 г. паэт з поўным правам канстатуе:

*Дзякуй, слаўны Амэрыга!*
*На зямлі тваёй ускрос… —*

і сапраўды, Міхасю Кавылю ёсьць шмат за што дзячыць Амэрыцы, але „ўскрос“ ён там (ці, як цяпер кажуць, „адбыўся“) перадусім як паэт, а за гэта ўжо ёй мусіць падзякаваць перадусім беларускі чытач.

## 7

*А той, хто зьведаў сьцежкі ўсе, дарожкі,*
*калі пылала Случчына ў агні,*
*шуміць пахілай, ціхаю валошкай*
*сярод чужых, неураджайных ніў.*

„Случчакі“

У пачатку 1950-х талент Міхася Кавыля дасягае свайго апагею. Яму, так бы мовіць, удаецца ўсё, за што ён ні возьмецца: ці за „чыстую“ лірыку, ці за рэмінісцэнцыі ўласнага жыцьця, ці за вершаваны камэнтар да актуальнай палітычнай сытуацыі („Вугорцам“). Зь вершаў з тыпова эміgranцкай, „настальгічнай“ тэматыкай найбольш удалымі ў Кавыля зьяўляюцца тыя, што зьвязаныя з канкрэтнымі успамінамі, маюць выразную асабістую пэрспэктыву. Гэта, напрыклад, кранальная „Баляда аб Тані“ ці верш „Маўкліня“:

*Баюся ў моўкны мой пакой заходзіць,*
*хтось скажа — трус… А я прайшоў агні.*
*І супакой знаходзіў у прыгодзе,*
*чакаў, бы вязень волі, маўкліні.*

*Тады, як неба на зямлю йшло ў наступ,*
*хрысьцілі высь пражэктараў нажы,*
*я прабіраўся, што вужака, пластам*
*у тыл варожы… Вось тады я жыў.* (1955)

Геніяльны ў сваёй канкрэтнай вобразнасьці й амаль „борхэсаўскі“ паводле ідэі „Нож“ — па-мойму, адзін з найлепшых вершаў у гісторыі беларускай паэзіі, прысьвечаных Янку Купалу (калі дакладней, ягонай спробе самагубства):

№

Да Управы Беларускага Інстытуту
Навукі й Мастацтва.
Нью-Ёрк, ЗША.

Прашу залічыць мяне у лік сябраў Беларускага Інстытуту Навукі й мастацтва. Мае пэрсанальныя дадзеныя й дадзеныя пра мой навуковы / літаратурны, мастацкі / стаж падаю ніжэй.

4 травеня 1955 г. Лешчынскі
/подпіс/

---

Прозьвішча й імя Лешчынскі Язэп
Літаратурныя /мастацкія/ псэўдонімы Міхась Кавыль
Адрыс 64 Armstrong Ave, South River, N. J.
Дата й месца народжаньня 1 сьнежня 1915 г., на Случчыне.
Асьвета й эвэнтуальны навуковы / мастацкі / стаж Амаль вышэйшая, друкавацца пачаў у 1930 годзе.
Навуковая ступень / калі ёсьць / Няма.
У якой галіне навукі / літаратуры, мастацтва/ маеце намер працаваць у Інстытуце У галіне мастацкай літаратуры.
Публікаваныя навуковыя / літаратурныя, мастацкія / творы: Маю зборнікі вершаў „Ростані“ і „Пад зорамі белымі“.
Гатовыя да публікацыі творы: Драма „Недасьпяваная песьня“ і паэма „Першая раса“.

Анкета-заява Міхася Кавыля ў БІНіМ





*Не зь нягнуткай сталі, зь серабра*
*ён адліты. Год яму ці мала.*
*Шмат разоў яго у рукі браў,*
*над сталом схіліўшыся, Купала.*

*Разразаў пяшчотна „Кабзара“,*
*вершы Гётэ, томікі Лангфэло...*
*За вакном крывавая зара*
*над зямлёй спалоханай зырэла. [...]*

*Зазьвінеў і змоўкнуў на стале.*
*Шуганулі шэрыя шынэлі...*
*Як паэт скрываўлены самлеў,*
*серабра усхліпы патускнелі.*

*З тэй пары лагодная рука*
*яго доўга, доўга не кранала.*
*На ліхую долю наракаў,*
*над сталом схіліўшыся, Купала. [...]*

*Шмат чаго ён бачыў. Не прасем —*
*ні аб чым ня здрадзіць да скананьня;*
*таямніцы ў неведзь панясе*
*у сваім сярэбраным маўчаньні.* (1953)

Калі раней Кавыль мог папросту напісаць верш у стылі Маякоўскага, то цяпер ён можа нападобіць хоць бы й Гумілёва:

*Шукачы блакітных пэрлаў*
*на нязьведаных глыбінях...*
*Караблёў разбойных жэрлы*
*ноччу чорнай іх ня спыняць. [...]*

*Напіваліся зь няўдачы,*
*пахмяляліся з знаходкі;*
*ім пялі „Кукарачу“*
*чарнавокія какоткі...* (найпазьней — 1960 г.)

Такое адчуваньне, што ў паэзіі для Кавыля няма нічога немагчымага — ён піша цяпер вольна, дзеля ўласнага задавальненьня. Якраз тады вядомы крытык Антон Адамовіч дае яму параду (ці хутчэй — „баявое заданьне“), якая зь сёньняшняга дня можа нам здацца абсурднай, але

тады, бадай, выглядала неабходнай з гледзішча патрэбы разьвіцьця, „удасканаленьня“ ці большай „эўрапеізацыі“ айчыннага пісьменства: запоўніць „прабел“ у беларускай літаратуры, а менавіта — стварыць не санэт, а вянок санэтаў, паводле клясычнага італійскага ўзору часоў Рэнэсансу. Апрача іншага гэтым, відаць, меркавалася давесьці, што „прафэсійныя здольнасьці“ эміграцыйных аўтараў ня меншыя, калі ня большыя, чым у „падсавецкіх“: вось жа, „мы“ змаглі, а „яны“ — не... З аднаго боку як бы прыкра, што ў беларускай літаратуры дагэтуль такой спробы не было, з другога — ня меней прыкра, што гэтае „заданьне“ накіравала Кавыля ў бок, які ніколі ня быў ягоным наймацнейшым — у сфэру „чыстай“ вэрсыфікацыі, пагатоў у час, калі ў той самай Эўропе Раймон Кэно стварае свае знакамітыя „100 трыльёнаў санэтаў“ (вянок санэтаў, у якіх усе радкі ёсьць узаемазамяняльнымі): жарт, які канчаткова адпраўляе гэтую й без таго антыкварную паэтычную форму на, так бы мовіць, ганаровую „маральную пэнсію“. Тым ня менш, Кавыль „прымае выклік“ Адамовіча і ў другой палове 1950-х сумленна працуе над санэтамі, у тым ліку ставарае некалькі „вянкоў“. Гэтыя санэты (што выйдуць пад сымптаматычнай назвай „Цяжкія думы“), якія ў 1960-х гг. эміграцкая крытыка называла „пэрламі“, належаць, па-мойму, да найслабейшых вершаў аўтара. Працэнт сапраўды ўдалых сярод іх, бадай, найніжэйшы — але гэта ня значыць, што іх там зусім няма (прынамсі, па-за „вянкамі“):

*Усе як людзі: сьпяць, нахлыне змрок,*
*істужкай сноў ружовых вяжуць зь сьветам*
*нялёгкай прошласьці і прышласьці прыкметы,*
*а ў ціхаце зашарахціць ледзь крок*

*цяжкога дня — ў бурлівасьці заток*
*ідуць лавіць запал, дарунак лета,*
*і дыхаць водарам духмяных кветак,*
*плясьці надзей вузорчаты вянок.*

*Ды толькі ты, бядак — палонны ночы.*
*У тваім сэрцы шасьцярні грукочуць,*
*бяссоньне нэрвы круціць, бы той дрот.*

*Адна уцеха — дзійныя прывіды:*
*удаву чорнаму шпурляе ў рот*
*на золку сонца агнявыя дзіды...* (1959)





Вынікам плённых 1950-х гг. стаюцца дзьве кнігі паэта: „Першая рана“ (Манчэстэр, 1960) і „Цяжкія думы“ (санэты, Саўт-Рывэр, 1961). Найлепшае ў іх, як і ў пазьнейшых творах аўтара, — вельмі жывая, „неўнармаваная“, сапраўды народная мова ягонай „дарэформавай“ маладосьці, якая з аўтаравым прафэсійным сталеньнем усё больш „рахмана“ паддаецца вэрсыфікацыі — ён усё больш слухае яе, а яна ўсё больш слухаецца яго... Гэтым, магчыма, і абумоўлены пазьнейшы адыход Кавыля ад якіх заўгодна літаратурных узораў: зь векам ён „заглыбляецца ў сябе“, робіцца калі не „дасканалым“, то безумоўна — самадастатковым. Адчуваньне, што пасьля санэтаў рабіць „літаратуру дзеля літаратуры“ яму ўжо болей не цікава.

## 8

*Жонка, вяжы лахманы!*
*Годзе „бадзяцца бяз працы“,*
*звоняць з Парыжу паны,*
*мушу ў паход сабірацца. [...]*
*Паўэрс там, кажуць, няўдала*
*сеў на калгасны загон?*
*Я-ж мо ня ён? Па сакрэту:*
*я прафэсійны шпіён.*

„Правакатарам“, 1960

У 1960 г. адбываецца яшчэ адна значная падзея ў паэтавым жыцьці, якая зноў па-свойму трагічна (з майго гледзішча) адбіваецца на ягонай творчасьці. У верасьні таго году ў газэце „Голас Радзімы“ зьяўляецца верш „Грэх на сэрцы цяжкі“ — *„напісаны янычарамі Масквы, а падпісаны маім псэўданімам“*, як адзначае сам Кавыль у камэнтары да ўласнага верша „Правакатарам“, напісанага ў адказ на публікацыю. Ён выказвае здагадку, што *„па тэорыі верагоднасьці верш гэны напісаны Максімам Танкам“*, — менавіта Танк і раней нібыта клікаў яго працаваць у „Завярталаўку“ (газэту „За вяртаньне на Радзіму“, у 1960 г. перайменаваную ў „Голас Радзімы“), але Кавыль публічна яму адмовіў у вершы „Максіму Танку“ (1957).

Трэба сказаць, што правакацыя, кім бы яна ні была падстроеная, была (ці здавалася яе аўтарам) „прафэсійнай“ — пра гэта можна меркаваць паводле таго, што ў верш былі ўключаныя сапраўдныя радкі Міхася Кавыля. Асобныя ўрыўкі з „Граху“ Кавыль цытуе ў якасьці эпіграфаў

да разьдзелаў свайго верша „Правакатарам“ — надзвычай пераканаўчай „дэканструкцыі“ фальшыўкі, у якой высьмейвае й абвяргае ейныя галоўныя тэзы, дзеля прыкладу: *„О, прабач мне, Радзіма, прабач... Чую сьмерць у маўчаньні злавесным... Пан Абрамчык пазвоніць з Парыжа: Ты жывы? Сабірайся ў паход... Не дурыся, казала мне маці, — Будзь заўсёды з народам, сынок. І паслала усьлед мне праклядьце, калі з дому, як злодзей, уцёк...“* і г.д.

Як бачым, тое, што ў фальшыўцы не ад самога Кавыля, напісана досыць бяздарна, шаблённа, „першаплянава“, павярхоўна, „прычасанай“, стандартнай „савецкай“ мовай — гэтага было б дастаткова, каб не паверыць у тое, што аўтарам „пакаяльнага верша“ мог быць сам Кавыль. Аднак паэт, мабыць, каб адвесьці ад сябе лішнія падазрэньні, нібы пачынае з таго часу зноў „апраўдвацца“, гэтым разам — перад сваімі суродзічамі-эмігрантамі; у ягоную паэзію зноў вяртаюцца агітацыйныя ноткі „грамадзянскай лірыкі“, якая й дагэтуль не была ягоным моцным бокам...

Апрача таго, ёсьць тут асаблівы нюанс: напісаньне „пакаяльнага верша“ ад імя паэта было, з аднаго боку, помстай за непахіснасьць ягонай грамадзянскай пазыцыі, з другога — своеасаблівым „прызнаньнем“ ягонага таленту з боку мэтраполіі: вось жа, ім „зацікавіліся“, менавіта Кавыль, а ня хто іншы, быў абраны ў якасьці „пакаяльнага голасу“ дыяспары, менавіта на „ягоным матэрыяле“ пастанавілі „зваяць“ прасавецкую агітку, на ўзьдзеяньне якой, відаць, разьлічвалі — чым іншым ён мог заслужыць такую „пашану“, як не сваімі вершамі? Факт уключэньня радкоў Кавыля ў падробку сьведчыць, што яе рыхтавалі на поўным сур'ёзе, спадзеючыся, відаць, на тое, што эмігранты павераць у аўтарства Кавыля й адвернуцца ад яго, пасьля чаго можна будзе зноў зрабіць яму прапанову, ад якой будзе немагчыма адмовіцца — але на свой бок не перацягваюць абы каго, а менавіта тых, чыя вартасьць не падлягае сумневу. Аднак дасягнуты правакацыяй эфэкт — наўпрост адваротны, хаця, бадай, зь сёньняшняй пэрспэктывы й ня меней шкодны для аўтара: зь яго робіцца, у камуністычнай тэрміналёгіі, „запісны антысаветчык“, у літаратурнай — „грамадзянскі лірык“. Кавылю — 45 гадоў, ён у росквіце сваіх жыцьцёвых сіл: каму, як не яму, насамрэч, па плячы гэтае чарговае „заданьне“ лёсу — даць адлуп усім паклёпнікам і на яго самога, і на Бацькаўшчыну?

І Кавыль ім адлуп дае. Відаць, ва ўмовах „халоднай вайны“ праігнараваць штосьці падобнае было немагчыма, бо гэта азначала б даць карт-блянш на далейшыя, ужо меней нявінныя правакацыі. Але гэта ў





пэўным сэнсе азначае й тое, што паэт усё-ткі на правакацыю па-свойму паддаецца: палітыка зноў не дае яму жыцьця, „прыходзіць па яго“, і ён не выстаўляе яе за дзьверы, а вітае з шырокімі абдымкамі, як доўгачаканую ганаровую госьцю.

Калі раней найлепшыя ўзоры ягонай патрыятычнай лірыкі грунтаваліся на ўжо згаданай асабістай пэрспэктыве, то з 1960-х гг., на маю думку, яна робіцца гэткай дэкляратыўнай, паэт ня грэбуе „моцным слоўцам“, каб паставіць усходніх „калегаў“ на месца. Сапраўды, калі сярод іх няма сумленных людзей, то яны ўжо як быццам і не калегі, а проста паслугачы Масквы — і атрымліваецца, што Кавылю з усіх беларускіх паэтаў як быццам бы „няма роўных“, бо паэтам можа заставацца толькі той, хто „творыць у вольным сьвеце“... Як ні парадаксальна, але можна сказаць, што на гэтым сапраўды „вольная“ творчасьць Кавыля амаль заканчваецца: *„Я найперш беларус, а пасьля паэт“*, — заяўляе ён. І сапраўды, у гэтым спадужаньні „беларуса з паэтам“ паэт пачынае з таго часу пацыху прайграваць...

*Мы кляліся барадою Маркса —*
*праслаўляць савецкую турму,*
*ад Нямігі да „каналаў“ Марса*
*пашыраць чырвоную чуму*
*На ўвесь рост ня крочым — ходзім ракам;*
*не на ўзвышша йдзём — паўзём уніз.*
*Пераржоўваем гнілы сілос бяз смаку:*
*сталінізм, марксізм ды брэжневізм. [...]*
*Ня дурнейшыя за Феербаха...*
*Прападзі ты, немарач, і згінь.*
*Нашу мужнасьць разбамбілі страхам,*
*замянілі робатам мазгі.*
*Для чаго нам галава прышыта,*
*і прычэплены язык за рот?*
*Каб жылі мы весела і сыта*
*і дурылі дарагі народ.* (“Марш „філёзафаў“ БССР“,
не раней за 1964)

Аб'ектамі сатыры Міхася Кавыля стаюцца Фідэль Кастра („Куба ў Менску“, 1963, з эпіграфам з ухвальнага верша А. Вялюгіна, зь якім аўтар палемізуе), Яўген Еўтушэнка („Коміваяжор“, 1975), ня кажучы пра сваіх „калег“ і суайчыньнікаў — вось паасобныя сылюэты беларускіх творцаў з аднайменнага верша:

*В. Быкаў*
*Трошкі мыкаў, трошкі брыкаў...*
*Залыгалі грозным крыкам.*

*М. Танк*
*Верш, ці доўгі, ці кароткі,*
*трасецца ленінскай бародкай. [...]*

*А. Макаёнак*
*У пазалочаным карыце*
*сьпіць зь Лявоніхай на арбіце. [...]*

*М. Лужанін*
*Калі-б хам Музу ня згнусіў —*
*Маякоўскі Беларусі.*

*П. Броўка*
*Вось таму ён і „народны“,*
*бо народу не прыгодны.* („Сылюэты“, 1972)

Зацемлю, што свайму колішняму суседу па этапным вагоне Лужаніну Кавыль закідае тут тое ж самае, што варта было б закінуць і Маякоўскаму (гэта ён і робіць пазьней, у паэме „Непакорныя“) — але ж тут расейскаму паэту аўтар як быццам „даруе“, магчыма, лічачы яго самога ахвярай сталінізму — а магчыма, папросту зь любові да ягонай паэзіі... Дзеля парадку нагадаю, што з адваротнага боку ў той жа час прыходзілі падобныя, калі не нашмат больш грубыя й рэзкія абвінавачаньні, кшталту агульнага ліста „Ня вам беларусамі звацца“ (1967), падпісанага ў тым ліку й пазьнейшымі „народнымі“: Барадуліным, Бураўкіным, Быкавым, Гілевічам.

Да найбольш цікавых вершаў Кавыля гэтага пэрыяду належыць, апрача „Правакатарам“, верш „Усеваладу Краўчанку. Заміж кветак на магілу“, напісаны з нагоды самагубства беларускага пісьменьніка ў Парыжы ў 1961 г.:

*Над Канам агні і зоры.*
*Ты зорку Вэнэру шукаў...*
*Ці думаў: „Ўва мне ёсьць вораг...*
*Прыкончу бальшавіка...“ [...]*

*Збылося тваё жаданьне:*
*ты — вольны, спакойна сьпіш...*





*Ў вакно, праламанае ў Кане,*
*глядзіць на цябе Парыж...*

Як бачым, лёс Краўчанкі (які, паводле перадсьмяротнага ліста, пабаяўся, што *„некаторыя яго словы могуць быць інтэрпрэтаваныя як варожыя“*) выкарыстоўваецца аўтарам, каб сказаць, што бальшавік можа быць вольным толькі мёртвы... Ня ведаю, наколькі такую адвольную „інтраспэкцыю“ можна лічыць паэтычнай удачай, але „ідэалягічнай“ — безумоўна. Сваёй кульмінацыі талент Кавыля-прапагандыста дасягае ў вершы „Сакавіковыя матывы“ (1968), напісаным да 50-х угодкаў БНР, дзе

*...нам віншаваньне са сьвятам —*
*разарвецца ў джунглях „марына“ граната...*

То бок амэрыканскія жаўнеры ў Віетнаме (як дагэтуль у Карэі), з гледзішча Кавыля, змагаюцца ў тым ліку „за вольную Беларусь“ — бо змагаюцца супраць камуністаў. Вось такія „чорна-белыя“ погляды дыктаваліся „чорна-белым“ падзелам часоў „халоднай вайны“. Няма дзіва, што ўжо сталы, 55-гадовы паэт ня можа зразумець студэнцкага руху канца 1960-х, які ён апісвае ў вершы „Ад імя свайго двара“:

*Бомбы — ў Нью-Ёрку...*
*Бомбы — ў Чыкага...*
*Зь „веткостга“ сьцягам*
*маршуюць юнакі-барадачы,*
*як малпы.*
*Крычаць:*
*спыніце ў Ветнаме залпы.*
*Ня кідайце бомбы, міны*
*на сьцежку Хошыміна.*
*Мао — слава!*
*Брэжняву — ура!..* (1970)

Затое ў іншых аспэктах маладое пакаленьне яму досыць сымпатычнае:

*Ножкі, як бярозкі... „міні-міні“...*
*Здэцца-б, піў дурман красы нагбом,*
*ды, каб жонка не разьбіла люстра,*
*трэба ганіць: „Цьфу, распуста!..“* („Ідуць дзяўчаты“, 1970)

Калі сур'ёзна, то я зусім не хачу тут палемізаваць з палітычнымі поглядамі аўтара, хачу толькі зацеміць непазьбежную заканамернасьць: паэтычная вартасьць любых „ангажаваных“ вершаў значна меншая за вартасьць тых, якія насамрэч звычайна пішуцца „для сябе й нікога“.

Аднак сапраўдны лірычны талент немагчыма цалкам і да канца паставіць на служэньне ніякай, нават самай „пачэснай“ і справядлівай палітычнай патрэбе. І ў тыя часы паэт час ад часу стварае вершы, якія належаць да найлепшых у гісторыі эміграНцкай паэзіі. Працытую ўсяго толькі два зь іх:

*Жуюць шасьцерні цішу*
*чыгуннымі зубамі,*
*маторы цяжка дышуць*
*гарачымі ілбамі.*

*У грукаце, у шуме,*
*у тым мажорным маршы,*
*і я ў бурлівым тлуме*
*над аўтаматам старшы:*

*націсну гузік — пойдзе,*
*другі — канец грукоцьцю.*
*Я з тэхнікай у згодзе,*
*хоць цела мокне ў поце,*

*усіх паджылкаў столкі*
*дрыжаць у тахт з маторам.*
*Ня ведаю вось толькі,*
*з душою з нас каторы...* (1961)

Да сыходу на пэнсію ў 1980 г. Міхась Кавыль працаваў на заводзе, і ў гэтым тэксьце (таксама як і ў вершы „Праца“) ён выяўляе не састарэлыя й дасёньня матывы адчужэньня чалавека, цалкам сугучныя „Аднавымернаму чалавеку“ Маркузэ — аднаму з ідэйных правадыроў тых самых *„барадатых, як малпы“* маладых людзей, якіх кляў паэт у раней цытаваных радках...

*Яшчэ сьнягоў ня выкіпела пена,*
*вятры ільдзінак зорных не зьмялі,*
*а ўжо бруіцца па бярэзін венах*
*прыглушаная музыка зямлі.*





*Шпурнуўшы ў сінь праменьне-камэртоны,*
*гарыць агнём няўрымсным дырыжор.*
*Яшчэ часіна — пяруной трамбоны*
*ударыць марш вясновы з рэ-мажор.*

*Лясы спрасоньня зашумяць: „Дзе лісьце?“*
*Зямля нап'ецца сонца і вады.*
*Паймчацца рэчкі ў эстафэтны высьціг,*
*у белай радасьці закружацца сады...* (1963)

Кажыце што заўгодна, але, па-мойму, гэта ня проста „добра“ — гэта геніяльна. Таксама да найлепшых належаць аўтабіяграфічныя вершыўспаміны, якія й раней удаваліся аўтару — такія як „Бязвусыя гады“, „Прытокаю Случы“, „Ліст маме“, і асабліва — санэт „Сястры“:

*Далёкая каханая сястра!*
*Ці помніш ты, як зьмеі-бліскавіцы*
*саджалі джалы ў жыта ды пшаніцу,*
*хвастамі росы абсякалі з траў?*

*Як неба ніву гром-пярун араў,*
*і я ў спалосе долу падаў ніцам?*
*А ты ня ўмела „Айчанаш“ маліцца,*
*дык ціхай песьняй адганяла страх?*

*З тае пары колькі разоў грымела.*
*Мо не паверыш, але стаў я сьмелы:*
*ўжо не дрыжу, бы ўзімку верабей.*

*Ды вось, як толькі блісьне, загрукоча,*
*замкнуцца самі неяк хутка вочы,*
*і ўбачу поле, гурт авец, цябе...* (1969)

У паэзіі Кавыля можна знайсьці шмат фармальных і іншых грахоў, моўных і рытмічных каструбаватасьцяў, пэўную недапрацаванасьць, што стварае ўражаньне „недасканаласьці“ (зрэшты, такое ж уражаньне стварае ў мяне асабіста й „перапрацаванасьць“ ягоных санэтаў), але чаго нельга знайсьці — дык гэта фальшу й пустаслоўя.

Аднак час ідзе, паэт, як выглядае, піша ўсё меней, ягоныя роздумы пра мінуўшчыну й будучыню адбываюцца ва ўсё болей „клясычным“ ключы, усё большую перавагу над лірыкай набывае эпіка — што пры такім доўгім і багатым жыцьці зусім не зьдзіўляе. Ягоныя вочы не ад-

варочваюцца ад зямлі, радзімы й прыроды, але ўсё больш з трывогаю павяртаюцца ўвышыню, у космас („Галяктыкаў голас касьмічны“, 1966, „Вэнэра“, 1972). У 1970—1980-х гг. мы знойдзем ня так і шмат вершаў, якія маглі б зраўняцца з папярэдняй лірыкай, але яны безумоўна ёсьць: „Летні вечар“ (*„Гамы летняга вечару дзіўныя...“*, 1973), „Першы сьнег“ (1973), „Зіма“, „Сон“, „Усё пакіну“ (усе — 1974), „Мой прарок“ (*„Дні, як сьцёртыя цэнты, звоняць...“*, 1983).

Тым ня менш, з часу „Цяжкіх думаў“ на працягу амаль трыццаці гадоў паэт, на жаль, ня выдаў ніводнага зборніка (затое выдаў у 1978 г. пераклад „Роздумаў“ Марка Аўрэлія — невядома, ці з старажытнагрэцкага арыгіналу, ці з лацінскага ці іншага перакладу?) — і толькі ў 1990 г. зьявілася ягонае выніковае „Міжагнёўе“, якое ўключае папярэднія вершаваныя кнігі, паэмы, пераклады зь іншых моў і на іншыя мовы, некалькі апавяданьняў, але галоўнае — значную частку неапублікаванай раней лірыкі 1960—1980-х гг. У „Міжагнёўя“, бадай, дзьве ўзаемавыключальныя заганы: нехраналягічнае разьмяшчэньне вершаў (у выпадку, калі кніга мусіла быць гэткім прыжыццёвым зборам твораў) і залішняя колькасьць, так бы мовіць, „прахадных“, неабавязковых рэчаў (калі мэтай кнігі было рэпрэзэнтаваць найлепшае з паэтавай спадчыны). Нягледзячы на гэта, „Міжагнёўе“, безумоўна, належыць да „залатога фонду“ беларускай літаратуры, у тым ліку й дзякуючы прозе: чаго вартае ўжо толькі „псыхадэлічнае“ апавяданьне „Бірута“ (што міжволі змусіла мяне прыгадаць не абы-што, а „Голад“ Гамсуна) — унутраны маналёг на мяжы „плыні сьвядомасьці“, які чытаецца на адным дыханьні, як паэма, зацягвае й выклікае такое рэдкае ў выпадку прозы жаданьне перачытаць тэкст ізноў, адразу ж пасьля таго, як ён абрываецца...

## 9

І чалавечыя, і літаратурныя лёсы прадстаўнікоў беларускай эмігранцкай літаратуры ў XX ст. былі ня проста цяжкімі, а трагічнымі. Так, яны ўрэшце дачакаліся развалу Савецкага саюзу — аднак той разваліўся ня ў выніку вайны, на якую ў свой час спадзяваліся ў дыяспары й якую там працягвалі весьці на паперы, у этэры і ў думках, а ў выніку эканамічнага крызісу й ідэйнай трансфармацыі „зь сярэдзіны“, роля ў якой прадстаўнікоў беларускай эміграцыі калі й была нейкай, то апасродкаванай, у кожным разе — непараўнальнай з роляй эміграцыі расейскай. Так, яны заклікалі да незалежнасьці Беларусі ад Масквы, і незалежнасьць гэтая насамрэч была ўпершыню ў гісторыі здабытая — толькі не са зброяй у руках, а шляхам галасаваньня ў парлямэнце (дзе яе падтрымалі тыя ж ненавісныя камуністы), пад уплывам рэвалюцыйных падзеяў ва ўсё той жа Расеі. Колішнія ідэйныя апанэнты эмігрантаў, што падпісвалі супраць іх гнеўныя лісты й пяялі асанну кампартыі, з дня на дзень ператвараліся ў „прарокаў Адраджэньня“. Да таго ж неўзабаве стала відавочна, што сама па сабе незалежнасьць — далёка не панацэя (калі, вядома, лічыць сучасны стан краіны сапраўды „незалежным“), і што беларускай культуры ад „незалежнасьці“ ня надта каб „палегчала“, калі не наадварот... Тая „Пагоня“, за якую ў свой час сядзеў у ГУЛАГу Кавыль, на кароткі час зрабілася дзяржаўным гербам — каб неўзабаве быць замененай у выніку „рэфэрэндуму“ на варыяцыю герба камуністычных часоў. Дый „за Пагоняй“ ніхто асабліва не вітаў беларускіх эмігрантаў на Радзіме як „прарокаў незалежнасьці“ ці „змагароў з камунізмам“ — так, выйшла тая ж „Туга па Радзіме“, іншыя выданьні паасобных аўтараў (зь літаратараў у гэтым пашанцавала толькі некаторым, такім як Масей Сяднёў ці Кастусь Акула — у той час як, прыкладам, лінгвіст Янка Станкевіч на пачатку 1990-х ператварыўся амаль у культавую фігуру ў вузкім асяродзьдзі філёлягаў), — аднак, як зазначае Лявон Юрэвіч у кнізе „Беларускі літаратурны рух на эміграцыі“, *„сапраўднага ўзьяднаньня эміграцыйнай і падсавецкай літаратур не адбылося... Створанаму эмігрантамі марна шукаць разуменьня, падтрымкі, папулярызацыі ў Беларусі“*[12]. Да гэтага яшчэ варта з прыкрасьцю дадаць, што фармаваньне найноўшых літаратурных плыняў маладой беларускай літаратуры пераломy тысячагодзьдзяў адбылося практычна безь якога-небудзь уплыву багатай спадчыны аўтараў эміграцыі, чыя творчасьць за рэдкімі выключэньнямі ўспрымалася і ўспрымаецца сучасным „маладняком“ як безнадзейна архаічная... Калі ўсё гэта несправядліва ў прынцыпе, то апошняе сьцьверджаньне асабліва несправядлівае ў дачыненьні да такога цікавага аўтара з усімі атрыбутамі клясыка, якім зьяўляецца Міхась Кавыль.

1 сьнежня 2010 г. Міхасю Кавылю споўнілася 95 гадоў. Ніякіх асаблівых „урачыстасьцяў“ з нагоды гэтае даты мною не было зарэгістравана. На адным гістарычным сайце ў календары падзеяў 2010 г. (аўтар — нехта Сымон Барыс) пазначана, што нарадзіўся паэт 1 лістапада, і што споўнілася яму 105 гадоў — дай бог яму столькі ў сапраўднасьці! — але як бы аўтар ужо настолькі аўтаматычна лічыцца „належным гісторыі“,

[12] Юрэвіч, Лявон. Літаратурны рух на эміграцыі. Мінск, 2002. С. 95.

што лянота нават як сьлед падлічыць ягоны ўзрост... Насамрэч, наколькі мне вядома, стары паэт дажывае век у адлюдненасьці, амаль сьляпы, пазьбягаючы сацыяльных кантактаў. Тым часам з „народнымі паэтамі“ наша „незалежнае грамадзтва“ носіцца, як зь пісанай торбай; з іншага боку, 100-гадовы юбілей іншай пакутніцы ГУЛАГу, Ларысы Геніюш, досыць шырока адзначаўся ў Беларусі і ў Чэхіі... У гэтым кантэксьце лічу вельмі своечасовым і патрэбным перавыдаць найкаштоўнейшыя вершы (а мажліва, і прозу, у тым ліку раман „З агню ды ў полымя“) Міхася Кавыля — найлепш, вядома, на радзіме, — з удакладненьнямі ў правапісе (у выданьні 1990 г. процьма абдрукоvак; чаго вартая толькі памылка ў першай фразе аповеду „Разводзьдзе„: *„Загасьціла ў госьці сонца“* — замест *„зачасьціла“*), з пашыраным біяграфічным і бібліяграфічным, а таксама крытычным інструмэнтарам, прычым — не чакаючы ягонага 100-гадовага юбілею, а як мага хутчэй: няхай прынамсі нехта з паэтаў эміграцыі дажыве да заслужанага, хай сабе й запозьненага „прызнаньня“. Вельмі хацелася б верыць, што такая кніга мела б шанец стаць у Беларусі кнігай году.

## Хранал ёгія асобных вершаў Міхася Кавыля

*1930-я гг.*

**„Расьцьвітуць сады“** (1931, „Маладняк“, пад псэўданімам Язэп Маёвы)
**„З пpастораў“** (1932, „Пад зорамі белымі“, с. 39)
**„Абэль“** (1933, Менская турма, „Ростань“, с. 11)
**„Адзін, адзін“** (1933, „Ростань“, с. 10)
**„Не кувай“** (1933, „Ростань“, с. 10)
**„Помніш, мама?“** (1934, „Ростань“, с. 12)
**„Поле, поле...“** (1938?, „Ростань“, с. 5)

*1940-я гг.*

Зборнік **„Ростань“** (Рэгенсбург, 1947)
**„Франтавое“** (1942?, найп. 1954, „Пад зорамі белымі“, с. 35)
**„Новы год“** (1943, „Міжагнёўе“, с. 182)
**„За вастрожнай сьцяной“** (1943, „Ростань“, с. 13)
**„У вір галавою“** (Менск, 1944, „Ростань“, с. 17)
**„Ідзі, ідзі“** (1944—1952, „Пад зорамі белымі“, с. 34)





**„Вечар“** (*„Наліліся сокам сонца зоры“,* 1945, „Міжагнёўе“, с. 183)
**„Вэнэра“** (*„У садзе каля явару“,* 1945, „Ростань“, с. 6)
**„Беларусь“** (1945, „Пад зорамі белымі“, с. 28)
**„Турынгія — царыца!“** (1946, „Ростань“, с. 14)
**„Вясёлка“** (*„Грукацелі грымоты грозна“,* 1947, „Міжагнёўе“, с. 186)
**„Іграе Жорж...“** (*„Царыца мараў“,* 1947, „Ростань“, с. 16)
**„Нам сэрца асьвяжае подых новы...“** (1947, „Пад зорамі белымі“, с. 47)
**„Прароцтва“** (*„Я маю надзею і мрою...“,* 1947, „Міжагнёўе“, с. 187)
**„Музе“** (1947, „Міжагнёўе“, с. 185)
**„Падзямельная песьня“** (1947, „Пад зорамі белымі“, с. 30)
**„На новы год“** (санэт, 1947, „Пад зорамі белымі“, с. 32)
**„Міжагнёўе“**, (паэма, 1949—1961, „Міжагнёўе“, с. 123)
**„Пацалункі“** („Біруза над садамі белымі...“, 1949, „Пад зорамі белымі“, с. 40)

*1950-я гг.*

Зборнік **„Пад зорамі белымі“** (Нью-Ёрк, 1954)
Зборнік **„Першая рана“** (Манчэстэр, 1960)
**„У акіяне“** (1950, „Пад зорамі белымі“, с. 47)
**„Прыстань“** (1950, „Пад зорамі белымі“, с. 48)
**„Нью-Ёрк“** (1950, „Пад зорамі белымі“, с. 48)
**„Мая малітва“** (1950, „Пад зорамі белымі“, с. 29)
**„Трымайся, Марыя“** (*„Кіпіць акіян...“,* 1950, „Пад зорамі белымі“, с. 43)
**„Дзякую, Амэрыка“** (1951, „Міжагнёўе“, с. 189)
**„Бом“** (каля 1952?, „Міжагнёўе“, с. 167)
**„Гайвэі“** (1952, „Міжагнёўе“, с. 167)
**„Месца мала“** (1952, „Пад зорамі белымі“, с. 48)
**„Паэту“** (*„Годзе выседжваць слоў кураняты...“,* 1952, „Міжагнёўе“, с. 173)
**„Паэзія — не табака, малакроўным нюхаць...“** (найп. 1954, **„Пад зорамі белымі“**, с. 28)
**„Моллі Пічэр“** (1952, „Міжагнёўе“, с. 190)
**„Просьба“** (*„Каля Слуцку ёсьць адно сяло...“,* 1952, „Пад зорамі белымі“, с. 33)

**„Закаханы я ў сонныя сіні...“** (1953, „Пад зорамі белымі“, с. 30)
**„І мяне ў шчасьця кнігу...“** (*„Дзякуй, слаўны Амэрыга“*, 1953, **„Першая рана“**, с. 64)
**„Нож“** (1953, „Пад зорамі белымі“, с. 50)
**„Ніягара“** (1953?, „Міжагнёўе“, с. 157)
**„Байдаркі і яхты... Бурлівыя хвалі...“** (1953, „Пад зорамі белымі“, с. 37)
**„Хоць лістам зеляніцца“** (1953, „Пад зорамі белымі“, с. 37)
**„Баляда аб Тані“** (найп. 1954, „Пад зорамі белымі“, с. 53)
**„Дзень замкнуў залатую браму...“** (1954, „Першая рана“, с. 59)
**„Хутчэй, хутчэй, сымфонія грымотаў...“** (найп. 1954, „Пад зорамі белымі“, с. 49)
**„Скарпіён“** (найп. 1954, „Пад зорамі белымі“, с. 38)
**„Жыцьцё“** (*„Люблю жыцьцё. І радасьць, і туга...“*, санэт, 1955, **„Цяжкія думы“**, с. 81)
**„Крытыку“** (санэт, 1955, „Першая рана“, с. 66)
**„Маўкліня“** (1955, „Першая рана“, с. 60)
**„Першая рана“** (паэма, 1955, „Першая рана“, с. 71)
**„Вугорцам“**, (санэт, 1957, „Цяжкія думы“, с. 86)
**„Мярэжа“** (санэт нумар 2, 1957, „Цяжкія думы“, с. 87)
**„Прайшоў гульлівы лівень...“** (1957, „Міжагнёўе“, с. 192)
**„Смага“** (1957, „Першая рана“, с. 59)
**„Я душу невыгойна параніў“** (1958, „Першая рана“, с. 58)
**„У садзе, у зялёным гальлі...“** (1959, „Міжагнёўе“, с. 166)
**„Варожыць ноч, смуглявая цыганка...“** (1959, „Першая рана“, с. 69)
**„Вясна“** (*„Сарамліва і нясьмела“*, 1959, „Міжагнёўе“, с. 176)
**„Вясну пазносілі пчолы ў вульлі“** (санэт, 1959, „Цяжкія думы“, с. 81)
**„Усе, як людзі: сьпяць, нахлыне змрок...“** (санэт, 1959, **„Цяжкія думы“**, с. 84)
**„Над Гудзонам“** (найп. 1960, „Першая рана“, с. 63)
**„Шукачы блакітных пэрлаў...“** (найп. 1960, „Першая рана“, с. 65)
**„Ня стыгне войная адвага...“** (найп. 1960, „Першая рана“, с. 70)
**„Шчэ ня хутка крылом залапоча...“** (найп. 1960, „Першая рана“, с. 60)





*1960-я гг.*

Зборнік санэтаў **„Цяжкія думы“** (Саўт-Рывэр, 1961)
**„Правакатарам“** (1960, „Міжагнёўе“, с. 116)
**„Помнік“** (?,„Міжагнёўе“, с. 112)
**„Вясна... А жураўлі, напэўна...“** (1961, „Міжагнёўе“, с. 166)
**„Не заўважыць у прыцем...“** (1961, „Міжагнёўе“, С. 180)
**„Жуюць шасьцерні цішу...“** (1961, „Міжагнёўе“, с. 141)
**„Зоркі смутнай, самотнай сьляза...“** (1961, „Міжагнёўе“, с. 193)
**„Маладому паэту“** (*„Ты бачыў, як лезуць альпіністы на скалы?“*, 1961, „Міжагнёўе“, с. 172)
**„Усеваладу Краўчанку“** (1961, „Міжагнёўе“, с. 106)
**„Яшчэ сьнягоў ня выкіпела пена...“** (1963, „Міжагнёўе“, с. 169)
**„Бязвусыя гады“** (1963, „Міжагнёўе“, с. 142)
**„Пагоня“** (1963, „Міжагнёўе“, с. 194)
**„Праца“** (санэт, 1963, „Міжагнёўе“, с. 146)
**„Салаўі“** (*„Яны старанна кроплі сонца...“*, 1963, „Міжагнёўе“, с. 142)
**„Жаваранак“** (1964, „Міжагнёўе“, с. 179)
**„Галяктыкаў голас касьмічны...“** (1966, „Міжагнёўе“, с. 164)
**„Лета“** (*„Лянотна хмараю мурзатай...“*, 1966, „Міжагнёўе“, с. 140)
**„Прытокаю Случы“** (1966, „Міжагнёўе“, с. 139)
**„Індзейскае лета“** (1968, „Міжагнёўе“, с. 177)
**„Ліст маме“** (1968, „Міжагнёўе“, с. 196)
**„Сястры“** (1969, „Міжагнёўе“, с . 138)

*1970-я гг.*

**„Ідуць дзяўчаты...“** (1970, „Міжагнёўе“, с. 145)
**„Ад імя свайго двара“** (1970, „Міжагнёўе“, с. 201)
**„Разьвітальнае“** (Ул. Клішэвічу, 1970, „Міжагнёўе“, с. 200)
**„Вэнэра“** (*„Стаю адзін у трапяткой цішы...“*, 1972, „Міжагнёўе“, с. 179)
**„Сылюэты“** (1972, „Міжагнёўе“, с. 202)
**„Летні вечар“** (*„Гамы летняга вечару дзіўныя...“*, 1973, „Міжагнёўе“, с. 177)
**„Першы сьнег“** (1973, „Міжагнёўе“, с. 150)
**„Зіма“** (1974, „Міжагнёўе“, с. 205)
**„Сон“** (1974, „Міжагнёўе“, с. 206)
**„Усё пакіну“** (1974, „Міжагнёўе“, с. 137)

*1980-я гг.*

**„Непакорныя“** (паэма, 1982, „Міжагнёўе“, с. 217)
**„Мой прарок“** (*„Дні, як сьцёртыя цэнты звоняць...“*, 1983, „Міжагнёўе“, с. 208)

*1990-я гг.*

Зборнік **„Міжагнёўе“** (Нью-Ёрк, 1990)
**„Настальгія“** (1990, „Міжагнёўе“, с. 210)





***Ціхан Чарнякевіч***
*Менск*

# ВАКОЛ ЦЬВЁРДАЕ ФОРМЫ
## (ліставаньне Антона Адамовіча й Міхася Кавыля)

Усяго таго, што вядома пра Антона Адамовіча (1909—1998), цалкам дастаткова, каб зразумець асноўныя вэктары ягоных зацікаўленасьцяў. Фундамэнтальныя зборы выбранага („Творы“ й „Да гісторыі беларускае літаратуры“)[1], публікацыі не друкаваных тэкстаў і эпісталярнай спадчыны даюць магчымасьць разгледзець здаўна шанаваную літаратуразнаўцамі „эвалюцыю“ знанага дасьледніка. Разам з тым, гартаючы гэтыя выданьні, штораз пераконваесься, што „эвалюцыі“ як такой у Адамовіча не было, а былі сфармаваныя й засвоеныя ў юнацтве прынцыпы, якіх ён прытрымліваўся ўсё астатняе жыцьцё, пастаянна вяртаючыся ды апэлюючы да тых часоў, калі яны, гэтыя прынцыпы, уласна й фармаваліся.



Антон Адамовіч. 1920-я гг.

Зусім зразумела, што часамі гэтымі зьяўляюцца 1920-я гг.: вучоба ў Белпэдтэхнікуме імя Ў. Ігнатоўскага, Беларускім дзяржаўным унівэрсытэце (літаратурна-лінгвістычнае аддзяленьне Пэдфаку), у літаратурным згуртаваньні „Узвышша“. Калі гаварыць пра характар дачыненьняў навучэнца з вышэйпададзенымі трыма інстытуцы-

[1] Адамовіч, Антон. Творы. Нью-Ёрк, 2003. — XXXIV+764 с.; Адамовіч, Антон. Да гісторыі беларускае літаратуры. Менск, 2005. — 1464 с.

ямі, то ў Белпэдтэхнікуме ён вучыўся нацыянальнай самасьвядомасьці, ва „Ўзвышшы“ адчуў сябе суб’ектам літаратурнага працэсу, а ў БДУ спазнаваў мэтадалягічныя асновы дасьледаваньня мастацкага твора. Дакладней, праўда, гаварыць пра тое, што на Адамовіча як на аб’ект былі скіраваныя ўсе гэтыя тры полі прыцягненьня. Нават яшчэ не навучаючыся ў БДУ, ён ведаў і аналізаваў працы новага беларускага літаратуразнаўства — кнігі Івана Замоціна, Аляксандра Вазьнясенскага, Аўгена Барычэўскага, Аляксандра Яўлахава. Пазьней, на эміграцыі, ён яшчэ й яшчэ раз будзе вяртацца да схемаў і мэтадаў, выкладзеных у працах гэтых вучоных. Сам патас 1920-х стымуляваў цікавасьць да тэарэтычных штудыяў, а знаўцаў літаратуры — найперш да спрэчак у галіне формы й тэхнікі codeвершаваньня.

Пачатак увагі да формы, несумненна, сыходзіць у 1910-я гг. Мэтадалёгія рускай акадэмічнай школы XIX ст. шмат у чым не задавальняла патрэбы літаратурнай навукі мяжы стагоддзяў. Аўтарытэтнымі былі канцэпцыі сымбалістаў (Вячаслава Іванава, Андрэя Белага, Валерыя Брусава), якія пераводзілі вывучэньне літаратурнага твора ў іншы плян — з аднаго боку, яны разглядалі творчасьць у адпаведнасьці з пэўнымі філязофскімі катэгорыямі, з другога боку — выяўлялі ўласна мастацкую спэцыфіку творчасьці таго ці іншага пісьменьніка. У выніку пачалося пераасэнсаваньне клясыкі, вызваленьне яе ад навуковых стэрэатыпаў, замацаваных крытыкамі й літаратуразнаўцамі XIX ст. Фармальны мэтад паўстаў як супрацьстаяньне й „старой“ акадэмічнай навуцы (найперш псыхалягічнаму кірунку *вучняў* Аляксандра Патабні), і філязофскаму імпрэсіянізму тэарэтыкаў-сымбалістаў з мэтай дасягненьня дакладнасьці й канкрэтнасьці ў вывучэньні мастацкага твору. У той жа час літаратуразнаўчы мэтад быў спалучаны з патасам новай паэзіі — акмэістаў і футурыстаў. Артыкулы „Зборнікаў па тэорыі паэтычнай мовы“, якія пачалі выдавацца ад 1916 г. суполкай ОПОЯЗ, расчлянялі літаратурны твор і дасьледавалі асобныя яго мікраэлемэнты. Рабілася гэта наўмысна дэкляратыўна, а часам і эпатажна. З гэтай прычыны спачатку „фармалістаў“ не лічылі сур’ёзнымі супернікамі й абвінавачвалі іх у мэханістычнасьці. Аднак час паказаў, што, узрастаючы ў сваім майстэрстве й выкарыстоўваючы сувязі зь лінгвістычнымі мэтадамі, тэарэтыкі „фармальнага“ мэтаду заклалі аснову для структурнага вывучэньня мастацкага тэксту. Адначасова з фармальным разьвіваўся сацыялягічны мэтад. Ён зьявіўся, зразумела, яшчэ да рэвалюцыі, але запатрабаваны ідэалёгіяй стаў толькі пасьля перамогі бальшавікоў. Праўда, і ў сацыялягічным мэтадзе вызначылася некалькі кірункаў.







Сим удостоверяю, что Адамович Антон Евстафьевич прослушал у меня на разных курсах, читанных при Минском ИНО, историю старой белорусской письменности и историю новой белорусской литературы. На коллоквиуме по этим предметам обнаружил познания достаточные. Минск. 1921. 28/XII.

Академик и профессор Е. Карский.

Управляющий Делами

Даведка, выдадзеная Антону Адамовічу Яўхімам Карскім. 1921 г.

Першы адлюстроўваў імкненьне акадэмічнай навукі XIX ст. перафармаваць і абгрунтаваць вывучэньне спэцыфікі эпохі, у якую ствараецца мастацкі тэкст (гл. працы Паўла Сакуліна, Васіля Кельтуялы, часткова — Івана Пераверзева); то бок стваралася тэарэтычная база для гісторыка-літаратурных дасьледаваньняў, далейшага панаваньня эмпірызму й літаралізму ў літаратуразнаўстве, супраць чаго змагаліся фармалісты. Другая плынь засноўвалася выключна на марксісцкай эстэтыцы — працах Фрыдрыха Энгельса, Карла Маркса, Уладзімера Леніна, Георгія Пляханава, выводзячы спэцыфіку мастацкага тэксту з сацыяльна-эканамічных варункаў эпохі. Пазьней, у час „напостаўскай“ крытыкі і ўтварэньня УАПП гэты кірунак вульгарызаваўся, сканцэнтраваўшыся выключна на паняцьцях „партыйнасьці“, „клясавасьці“, „пралетарскасьці“. Паступова ім губляўся які-кольвек тэарэтычны падмурак і набываўся выкрывальніцкі патас супраць рознага кшталту „-шчыны“. Першая плынь была абвешчана шкоднай і „эклектычнай“ (апошні ярлык быў ці не найстрашнейшым у той час).

Ва ўсёй гэтай куламесе мэтадаў крытыкам 1920-х гг. даводзілася арыентавацца надзвычай добра. Бо за кожны промах іх чакала як мінімум публічнае грамадзкае абмеркаваньне. Паўставаньне й інтэрпрэтацыя новых мэтадаў дасьледаваньня, палеміка паміж прадстаўнікамі тых ці іншых груповак у Беларусі мелі немалы характар той самай „эк-

лектычнасьці“ ці, прасьцей кажучы, падштурхоўвала крытыкаў да пошукаў літаратуразнаўчага сынтэзу. Гэта найбольш відавочна ў працах адамовічаўскага настаўніка — Адама Бабарэкі. У той жа час іншы „ўзвышэнец“ — Юры Бярозка — вёў выразную прапаганду фармальнага мэтаду хоць і пад выглядам... прававернага марксізму. Падобнай жа раздвоенасьці (калі не растроенасьці ці расчацьвёранасьці) не пазьбегнуў і Антон Адамовіч. Урэшце, ягоны падыход да аналізу ўкарэнены хутчэй у культурна-гістарычным мэтадзе. Асновай для яго заўжды заставаўся факт. Гэта, бясспрэчна, не прыніжае Адамовіча-дасьледніка, аднак і не дадае яму арэолу наватара ці дэміюрга пэўнай літаратуразнаўчай школы.

Факталягічнасьць Адамовічавых прац была дастаткова роўнай у ягоных гісторыка-літаратурных і крытычных працах. Пачынаючы з „узвышэнскай“ манаграфіі пра Максіма Гарэцкага й заканчваючы эміграцкімі прадмовамі да тамоў клясыкаў і сваіх сучасьнікаў, Адамовіч найперш вызначаў праблемы рэмінісцэнцыяў, запазычанасьцяў, уплываў, алюзій, матываў — усяго таго, што так любілі літаратуразнаўцы культурна-гістарычнай школы.

Калі ж справа даходзіла да ўласна аналізу тэкстаў, то крытык абмяжоўваўся досыць павярхоўным аналізам формы, на аснове якога нярэдка рабіў статыстычныя падлікі. Большую ж частку аналізу замянялі ацэначныя суджэньні.

Такі падыход можна зразумець і апраўдаць толькі ў тым выпадку, калі мы скажам, што Антон Адамовіч не быў уласна тэарэтыкам літаратуры, хаця й вельмі хацеў ім стаць. Аналізуючы пераважна сучасную яму літаратуру, ён імкнуўся накіроўваць яе на тое, што лічыў патрэбным і першчарговым. Ацэнкі й паказваньне шляху, безумоўна, належаць да прэрагатывы крытыкі. Тэксты, прысьвечаныя Якубу Коласу, Лукашу Калюгу, Уладзімеру Жылку ці таму ж Максіму Гарэцкаму, трэба лічыць працягам дыялёгу з сваімі сучасьнікамі — як старэйшымі, так і малодшымі. Паўставаньне часавай адлегласьці паміж зьяўленьнем твора й ягоным вывучэньнем падштурхоўвала Адамовіча не да бесстароньняга аналізу, а да гісторыка-літаратурных нарысаў, ці, паводле ягонага ж аўтарскага жанравага вызначэньня, *„мэмуарна-камэнтатыўных ды крытычна-тлумачальных нататак“*. То бок адлегласьць, патрэбная для аналізу, крытыкам увесь час нівэлявалася: ён зноў і зноў уваходзіў у час напісаньня твораў і праясьняў маладзейшаму пакаленьню тыя нюансы, якія далёка ня ўсе маглі адчуць напоўніцу. Цяпер, праўда, ужо цяжка зразумець, дзе Адамовіч быў аб’ектыўны ў сваіх ус-







Б С С Р.
Наркамасьветы
Беларускі Дзярж. Вышэйшы Педагаг. Інстытут | Белорусск. Госуд. Высший Педагогич. Институт
17-XII 1936 г.
№ 25
г. Менск

ДАВЕДКА.

Дадзена гэта тав. АДАМОВІЧУ Антосю Астапаву ў тым, што, як відаць з дакументаў, маючыхся ў Вышэйшым Педінстытуце, ён скончыў датэрмінова Літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне Педфака Беларускага Дзяржаўнага Універсітэта ў 1930 г. Тав. АДАМОВІЧАМ зданы ўсе прадметы навучальнага плана, акрамя навуковай граматыкі беларускай мовы.

ДЫРЭКТАР ВПІ (ГРЫНЕВІЧ)
КІР. СПРАЎ (УРМАН)

Даведка Антона Адамовіча. 1936 г.

памінах, а дзе даваў волю сваёй нястрымнай фантазіі — міты, якія ён стварыў, жывучыя тым больш, што ён у некаторых выпадках зьяўляецца адзіным сьведкам і камэнтатарам падзей.

Гэтыя сьведчаньні прыйдуць пазьней. Але ў 1920-х гг., знаходзячыся ў цені свайго настаўніка Адама Бабарэкі, Адамовіч уваходзіў у смак самое крытычнае працы. Ён бачыў, як пасьля таго ці іншага артыкулу Бабарэкі зьмяняўся літаратурны ляндшафт краіны, зьмянялася эстэтыка й расстаноўка літаратурных груповак. Яшчэ адзін „смак“ — праца ў камандзе. Згуртаваньне „Узвышша“ выхоўвала ўнутры арганізацыі супольную думку на ўсе літаратурныя зьявы й, урэшце, было даволі замкнёным, што заахвочвала да ўнутранай аналітыкі. Цэнтрам гэтай аналітычнасьці быў Адам Бабарэка. Маскоўскі старшыня — Уладзімер Дубоўка — быў арганізатарам і адміністратарам. Абодва яны ішлі нібы паралельна па адных і тых жа сьцежках: Бабарэка ў мысьленьні, Дубоўка — у паэзіі. Назіраючы за гэтым супольным ходам, і іншыя сябры „Узвышша“ вучыліся ў найлепшым значэньні гэтага слова калектыўнай працы.

„Узвышша“ ад самага пачатку ўносіла ў літаратурнае аблічча Беларусі момант нестандартнасьці. Кампактнае й высока прафэсійнае, гэтае

аб’яднаньне было выклікам тагачаснай літаратуры — як „нашаніўству“, так і „маладнякізму“. На хаатычнае вершаваньне маладнякоўцаў і традыцыйнасьць нашаніўцаў яны адказвалі мадэрнасьцю. Імкненьне сказаць болей, чым можна сказаць (і ў тэматычным, і ў маўленчым пляне) адрозьнівае паэтычныя творы Ўладзімера Дубоўкі, Язэпа Пушчы, Пятра Глебкі, Тодара Кляшторнага таго часу. Перш за ўсё гэта датычыцца, безумоўна, „слупоў“ — Дубоўкі й Пушчы. Мадэрнасьць у іх натуральна спалучалася зь неаклясычнымі тэндэнцыямі, што выявілася ў зацікаўленасьці цьвёрдымі формамі верша.

Сьвядома ідучы за Багдановічам, „узвышэнцы“ пераносілі канфлікт Багдановіча з нашаніўцамі ў свой час. Як і Максім Адамавіч, „Узвышша“ зьявілася рэакцыяй на масавую нізкаўзроўневую паэзію. Ясная рэч, што гэтай нізкаўзроўневасьці яны процістаўлялі клясыцызм: роўнасьць рытмікі, багацьце рыфмаў, кшталтаваньне паэтычнай мовы — вынясеньне ўсяго сьмецьця й нестыковак з кожнага верша.

Гэтымі прынцыпамі кіравалася ўсё згуртаваньне. Таксама й творы сваіх сябраў яно крытыкавала абсалютна бязьлітасна. Адно што адбывалася гэта ўнутры „Ўзвышша“ й вонкі фактычна не выходзіла, што дазволіла ў часе пагромных 1929—1930 гг. абвінавачваць „узвышэнцаў“ у *„адсутнасьці самакрытыкі“*. Лісты Антона Адамовіча да Пятра Глебкі дазваляюць пераканацца ў адваротным. Так, у лісьце ад 3 жніўня 1928 г. ён піша пра новыя вершы Глебкі, дасланыя ў рэдакцыю часопіса:

*„Ты просіш сказаць табе пра іх шчыра; я гэта, як бачыш, і зрабіў у пачатку ліста. Праўда, гэта, падкрэсьліваю яшчэ раз, першае ўражаньне, якое я, падобна, як і ты, магу выразіць словам „падабаецца“. Аднак ня думаю, каб паўторныя ўражаньні маглі грунтоўна яго пахіснуць. Ізноў-ткі, праўда, што і ў першым уражаньні адчуваюцца некаторыя шурпатасьці, „недаробленасьці“, пра якія я й думаю пагаварыць з табою зараз, падаць свой погляд на запрапанаваныя табою папраўкі й, сваім парадкам, запрапанаваць табе некаторыя праекты з свайго боку.*

*Перш за ўсё — на дадзенай рэчы адчуваюцца некаторыя чужыя ўплывы. Конкрэтна, адчуваецца ўплыў Дубоўкі, асабліва ягоных „Перакананьняў“ (верш другі, такія строфы, як „Я чую акорды…“, „Стаю заваражаны“), Брусава (у філёзофічных месцах), М. Багдановіча (верш трэйці — „і шапоча ласкава „засьнеце“), Рыльскага (там, дзе гаворыцца пра восень), нават Някрасава (у матчыных песьнях і казках) і нашага Алеся („Дасьпяваюць яблыкі…“ — ягонае „Дома“). Але пры*





*ўсёй вялікай, як бачыш, колькасьці й разнастайнасьці гэтых уплываў яны адчуваюцца ў рэчы, як пераможаныя табою, перапрацаваныя, моцна ўвязаныя, перакрыжованыя, пераплеценыя з тваім уласным. Таму тут бяды вялікай няма, і што можна было-б пажадаць табе ў гэтым кірунку — гэта крыху больш прыхаваць іх, так сказаць, формальную выпукленасьць. Як гэта зрабіць — табе параіць не магу, мяркуй сам. Калі нават, паўтараю, пакінуць і гэтак, дык рэч нічога ня згубіць…*

*Ты прапануеш у першым вершы паправіць „так“ на „і“. Я выказаўся-б проці гэткай папраўкі. Справа ў тым, што ўжо ў папярэднім радку мы маем два анафорычныя памацняльныя „і“, а з новым іх было-б у двох радкох аж чатыры — дужа загуста й замоцна („страшэнная моц“ — сказаў-бы Сяргей), а, сам ведаеш, што пачнеш вельмі ўмацоўваць — парвецца. Наконт „дыялектыкі“ я мяркую, што „дыялекто“ ўжыць ні ў якім разе нельга; я-б мог прапанаваць з свайго боку лепшыя новатворы — „дыялектыс“, або „-ос“ — яны больш стыльныя й „грэцкія“, т[ак] ск[азаць], але й гэта дрэнна. Ці ня можна тут абыйсьці вобразна: „і нязьменны закон — „дыялектык жыцьця“, або перабудаваўшы радок: „Дыялектыка жыцьця — нязьменны закон“, тым больш, што рыфма (той радок „халасты“) гэта дазваляе, а націск „жыцьця“ мае поўнае грамадзянства ў нас яшчэ з нашаніўцаў. Ува ўсякім разе „неадменнасьць“ ужо горш і процілежна па сэнсе; крыху лепш „нязыначанасьць“, але таксама дрэнна. Мяркуй сам, як тут зрабіць.*

*У апошняй строфе першага верша ты, што называецца, „спусьціў“ сваю добрую строфічную композыцыю, даўшы заміж халастых рыфмованыя два радкі („і / дум“ — „ідуць“), што яшчэ паўбяды, і што найгорш — здрадзіўшы прынцыпу таўтолёгічных рыфм, праведзеным у гэтым вершы: „калосьсяў“ — „галосяць“. Ці ня лепш было-б апошні радок заміж „а вятры шалясьцяць і галосяць“ перабудаваць як-небудзь у духу „шалясьцяць між калосься“ ці „у калосьсі“?*

*У другім вершы, па-мойму, лепш не „вялізарных крыл“, і не „вялізазных“, а „вялізманых“, што па-расійску азначае „грандиозных“ і зусім пасуе па сэнсе. У гэтым вершы мне не падабаецца русізм „падзеньні“ й зварот „у мацеры ў сініх вачах“, бо, па-першае, сама форма „мацеры“ крыху няпрыгожая й нагадуе вядомую лаянку, па другое, пры хуткім чытаньні атрымоўваецца як-бы нейкі дзеяслоў „мацерыў“… Ці ня лепш было-б „у матчыных сініх вачах“?*

*У вершы чацьвертым я ўжо дазволю сабе выправіць русізм „не апаўшым лісьцем“ на „не апалым“, а ў пятым — не разумею, нашто*

*бярэцца ў двукосьсі слова „восем“ у злучэньні: „перажытых год“. Памойму, зусім непатрэбна.*

*У шостым, здаецца, вершы атрымоўваецца крыху заблытана й таму як-бы нелёгічна:*

*У сялянскай закуранай хаце відней;*
*Дзецi ладзяць сваю ўрачыстасьць.*
*Лепяць бабу яны... і г.д.*

*Выходзіць, і можна так падумаць, быццам-бы „бабу“ дзеці лепяць у хаце.*

*У наступных вершах мне не падабаецца: канцоўка аднаго верша „Калі вочы расплюшчыў — пагасьлі агні“, у другім — вобраз „мяне дакранаюцца ветры“, у трэйцім — нейкі штучнаваты й нацяжны ў кантэксьце вобраз „сьцень ад ног“.*

*Здаецца, у 10-м вершы ў цябе ёсьць радок*

*„і маладзік у бяскрайнай высі...“*

*Я раіў-бы зьмяніць на „і месяц у бяскр...“, бо, па-першае, маладзік тут наагул ні пры чым і толькі стварае антыэўфонічнае „ў“, якое ў цябе ўва ўсёй рэчы бадай-што няма, а па-другое, „месяц“ больш будзе пасаваць і да наступнага радка:*

*„расплыўся ў казачную сінь“*

*У наступным за гэтым вершам няпрыемны дый ня зусім правільны зварот „ня хочацца яму і мухаў адганяць“. Лепш і правільней — „мухі адганяць“. Таксама няправільны й зварот далейшага верша: „Дагарае на захадзе дзень, на ўсходзе трывожачы зорак“ — трэба „зоры“, але можа тут — апіска, трэба „золак“ („дзе-дзе“ гэта паміж іншым).*

*У вершы, дзе апісваецца навальніца, ёсьць слова „ лiнi’ “ (з апострафам). Калі гэта не апіска й скарочана ад „лініі“, дык я раіў-бы напісаць: „ліны“.*

*У нейкім, ня помню якім, вершы маё недаўменьне выклікае ўжываньне слова „засаб“ у такім кантэксьце:*

*„...мары і казкі і песьні*
*кінуты засаб нядбайна“*

*Здаецца-ж, „засаб“ у нас значыць тое, што па-расійску „подряд“, „всплошь“.*





*Нарэшце, у яшчэ нейкім вершы сустракаецца наступная непатрэбная дубальтовасьць: у канцы аднае строфы — „пад холадам сініх сьнягоў“, а ўсяго праз радок, у пачатку наступнае — „над холадам вечнай тайгі“. Можа, лепш было-б замяніць у каторым-небудзь выпадку „холадам“ на „сьцюжаю“. У першым выпадку гэта лепш з гукавога боку (атрымаецца іграньне на „с“), у другім — з сынтаксычнага (магчыма зьначаньне сынтаксычнае пабудовы — „Над вечнаю сьцюжай тайгі“, якое больш адцянюе й разрозьніць абодва выпадкі). Вось і ўсе мае заўвагі. Што да тых тваіх, якіх я яшчэ не закрануў, скажу наступнае: па-першае, я ня бачу вялікае сэнсавае патрэбы ў зьмене „цёмнага“ крыла на „цёплае“, тым больш, што, як ты справядліва заўважаеш, тут церпіць тады й гукавы бок. Бачыш, пры першай рэдакцыі мы маем такі гукавы малюнак:*

*н — н — мн — мн — м — м*

*(то сон ахінуў мяне цёмным крылом).*

*— ігра на насавых „м“ і „н“ — у духу фігур „эпіфоры“ (паадзінокія гукі „н“ і „м“) і зэўгмы (групы „мн“), а разам атрымоўваецца прыгожае рондо. Пры другой-жа рэдакцыі ўсё гэта прападае, замяняючыся аднэю слабою эпіфораю санорных — „лм-лм“ („цёплым крылом“). Па другое, ня бачу патрэбы і ў замене „аблічча“ на „абліку“; сказаць то так і можна, але будзе больш непатрэбных асоцыяцый да розных „падлікаў“, „разьлікаў“ і да г.п.*

*Вось тыя абеглыя заўвагі, якія я магу зрабіць пры першым уражаньні аб тваёй рэчы...“*[2]

Кажучы пра *„абеглыя заўвагі“* й *„першае ўражаньне“*, Адамовіч, бясспрэчна, хацеў здавацца вельмі сьціплым. І дарэмна. Вершы разабраныя „па костачках“, аўтар шмат працаваў з тэкстам, аднак тут жа навідавоку не толькі станоўчыя якасьці Адамовіча, энцыкляпэдычнасьць ягоных ведаў[3], але й адмоўныя — як, напрыклад, навязваньне

---

[2] Цытуецца паводле аўтографу, які захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў акадэмічнай бібліятэкі імя Я. Коласа: АРКР ЦНБ НАНБ. Ф. 24. Воп. 1, Спр. 1529. Арк. 8—10 адв.).

[3] Энцыкляпэдычнасьць, што праўда, у выпадку з санэтарыем — амаль літаральная. У лісьце да Глебкі ад 2 ліпеня 1926 г. Адамовіч піша:
„Што да „вянку“, дык я справіўся ў „Літаратурнай Энцыклёпэдыі“ і вось што даведаўся: бываець вянок санэтаў і трыолетаў. Вянок санэтаў складаецца з 15-х (па ліку радкоў у санэце) санэтаў. 15-ты, апошні санэт або г[этак] зв[аны] магістрал складваецца з паўтораў усіх першых радкоў усіх санэтаў, апошні радок кожнага санэту агульны з першым радком наступнага, ⇨

ўласнага пункту погляду. Праводзячы сухі рацыянальны аналіз, Адамовіч падпарадкоўвае твор уласнай лёгіцы, аўтарава ж лёгіка застаецца на маргінэсе.

Тое самае можна ўбачыць і ў ліставаньні Антона Адамовіча зь Міхасём Кавылём. Прайшло 30 гадоў. Ці зьмянілася што? Меркаваць чытачу, перапіска друкуецца ніжэй. Ясна адно, што, будучы ў Амэрыцы, Адамовіч працягваў працаваць гэтак жа, як і ва „Ўзвышшы", мэтады ягоныя не зьмяніліся, тая ж жалезная воля імкнулася да ўсталяваньня ўласнага гледзішча — праз мяккія й ненавязьлівыя, але ўражальныя ў сваёй разгорнутасьці й факталягічнасьці парады. Розьніцы паміж 19-гадовым узвышэнцам і 50-гадовым эмігрантам нібыта й няма. Даволі пасрэдны вянок санэтаў Міхася Кавыля[4], шмат разоў перарэдагаваны, стаецца такім чынам і ўласным праектам Антона Адамовіча. Нездарма апошні так іранізуе ў лістах з Алеся Салаўя, бо той фактычна выйшаў з-пад ягонай „апекі", у той час як Кавыль прымае ўсе заўвагі, прагнучы стацца першым аўтарам „вянку" й не заўважаючы пры гэтым, што ідзе насуперак уласнаму сьветаадчуваньню...

Лісты друкуюцца ўпершыню з захаваньнем моўных асаблівасьцяў арыгіналу. Аўтографы й машынапісы эпісталярыя Антона Адамовіча й Міхася Кавыля захоўваюцца ў архіве БІНІіМу.

⇨так што 1-ы радок магістралу = 1-му радку 1-га сонэту і апошняму радку 14-га сонэту, 2-і р[адок] маг[істралу] = апошняму р[адку] 1-га сон[эту] і першаму р[адку] 2-га сон[эту], 3-і р[адок] маг[істралу] = апошн[яму] радку 2-га сон[эту] і першаму р[адку] 3-га сон[эту] і г.д.; апошні радок магістралу = апошняму радку 13-га і першаму 14-га сонэтаў.
*Вянок трыолетаў будуецца на тым-жа прынцыпе, але не рэкомэндуецца, бо атрымоўваецца загусты (шмат паўтораў як паасобных радкоў, гэтак і рыфмаў, бо трыолет сам па сабе форма з паўторамі). На мой погляд, вянок сонэтаў будзець цяжкаватым, бо ён патрабуець добрага сюжэту, стройнасьці ў разьвіцьці яго, яснасьці думак і выбіральнасьці, ці што, ня кажучы ўжо аб добрай „набіўцы рукі" на пісаньні сонэтаў, але калі ты звыканаеш усе гэтыя ўмовы, дык гэта будзіць для цябе вялікім дасягненьнем. Вянок-жа трыолетаў, апрача вышэйпаказаных хібаў, маець той як-бы дадатны бок, што ім ніхто (ці, ва ўсякім выпадку, мала хто), здаецца, не займаўся. Адно слова, усе досьледы, больш-менш закончаныя, у гэтым кірунку прысылай мне, я гэтым дужа цікаўлюся, а таксама якія спраўкі што-да форм магу табе навесьці"* (АРКР ЦНБ НАНБ. Ф. 24. Воп. 1. Спр. 1529. Арк. 5—6 адв.).

[4] Тут я салідарызуюся зь меркаваньнем Макса Шчура, выказаным у артыкуле „Адзін лёс і „дзьве" літаратуры" (гл. вышэй).





**Ліставаньне Антона Адамовіча й Міхася Кавыля**

*Глыбока Паважаны Спадар Адамовіч.*

*Даруйце за „палітычны" зявок. Былі і не такія промахі і зяўкі. Некаторыя і да магілы ня выправіш... А з гэтым можна даць рады. Праўда, зборнік я адсылаю Вам амаль апошні із двух, якія ў мяне яшчэ ўцалелі[5]. Але для Вас, як кажуць, і галава з Вас. Як там ні было, а Вы, як і я, „Хадзілі пад месяцам высокім ды яшчэ пад ГПУ..."[6]*

*З прывітаньнем і пашанаю, Міхась Кавыль*

*29/X-54 г.*

*10.6.55*

*Шматпаважаны Адамовіч!*

*Калі ня позна, зрабеце адну папраўку ў вершы „Жыцьцё"[7]. У радку „І я за ім па войнікаў касьцёх" замест „я" пастаўце „ты". Вось і ўсё.*

*З прывітаньнем Ваш, Міхась Кавыль.*

*П.С. Яшчэ адно: у вершы „Суворы край пакінуў я даўно" радкі „На сьвеце шмат нясходжаных краін, І прыгажуньняў маладых дзяўчын" замянеце наступнымі: „Шляхоў няс[х]оджаных на сьвеце шмат, І прыгажуньняў маладых дзяўчат..."*

*А слова „прывабны (сьвет)" на „вялікі (сьвет)".*

*М.К.*

6.10.55[8]

*Даражэнькі Міхасю!*

*Вялікі й шчыры дзякуй за ўсё прысланае! Усё ўжо ў наборы. Санэты пайшлі бязь ніякіх зьменаў. „Ліст Броўку" запраўды, як я й чуў ды пісаў Табе, вельмі ўдаўся, і „Конадні", з дадзенага Табою дазволу,*

[5] Цяжка сказаць дакладна, якая менавіта кніга маецца на ўвазе. На той час у Міхася Кавыля выйшлі два зборнікі паэзіі: „Ростань" (Рэгенсбург, 1947) і „Пад зоркамі белымі" (Нью-Ёрк, 1954).

[6] Цытуецца паэма Тодара Кляшторнага (1903—1937) „Калі асядае муць": *„Ходзім мы пад месяцам высокім, а яшчэ — пад ГПУ"*.

[7] Санэт Міхася Кавыля „Жыцьцё" быў апублікаваны ў часопісе „Конадні" (№3. 1955. С. 9).

[8] Трэба чытаць як 10.06.1955.

*будуць друкаваць яго незалежна ад таго, надрукуе „Бацькаўшчына“ ці не*[9] .

*Аднак таму, што гэта верш вельмі адказны — напэўна-ж дойдзе і на той бок — рэдакцыя захацела пракарэгаваць яго як найпільней. Што праўда, у карэкце з боку зьместу не было патрэбы й яна не рабілася, але з боку самога гучаньня й стылю зробленыя некаторыя папраўкі, аб якіх і паведамляю Табе ніжэй. Калі-б зь якімі зь іх не згадзіўся — пішы адразу-ж, яшчэ можна было-б адправіць ці перапраравіць перад самым друкам, які пачнецца хіба пад канец тыдня.*

*Дык вось:*

*1) У радкох*

Дайшоў ён так,
як сюды ўсё даходзіць. —[10]

*выкінена слова „так“, бо яно, стоячы побач зь „ён“ непатрэбна абцяжае і гучаньне, і сынтакс.*

*Радкі выглядаюць так:*

Дайшоў ён —
як сюды ўсё даходзіць.

*2) паўрадок*

слова кажнае лаві

*заменены на*

кажны гук лаві[11]

*бо, першае, „слова“ ёсьць толькі за паўрадок перад тым („слухаць праўды слова“), дык выходзіць загуста й аслабляецца, а другое, гучэньне таксама без патрэбы спавальняецца, тым часам як яно якраз мусіць паскорвацца („лаві“).*

*3) паўрадок*

глыбокія ў нас раны

*заменены на*

ня выгаяцца раны,[12]

9 Верш Міхася Кавыля „Ліст Пятрусю Броўку“ быў апублікаваны ў часопісе „Конадні“ (№3. 1955. С. 7—8). Да верша была дададзеная заўвага: *„З повадў ягонага верша „Здрадніку“, зьмешчанага ў сёлетнім №1 менскага часапісу „Беларусь“ і скіраванага супраць беларускіх эмігрантаў“.*

10 У друкаваным варыянце: „Ён дайшоў — // як сюды усё даходзіць“.

11 Праўка ўлічана ў друкаваным варыянце.

12 Праўка ўлічана ў друкаваным варыянце.





*бо тут нядобры (нецэнзурны) скрат (сдвиг) пры чытаньні (насраны), да чаго сваім часам былі вельмі чулыя, у тым ліку і сам Броўка*[13] *, дык адразу могуць хапіцца.*

*4) „Яжоў“*[14] *заменены на „Сяроў“*[15] *, бо й рыфма лепшая (пяро-Сяроў), і „Яжоў“ ужо фігура неактуальная, тым часам як Сяроў — цяперашні галава „Камітэту дзяржаўнай бясьпекі СССР“, наступнік Бэрыі*[16] *, які якраз займецца і „вынюхваньнем“, і вылоўленьнем ня толькі ўнутры, але й за межамі (у тым ліку й сярод эміграантаў) — будзе тут мацней.*

*5) Паўрадок*

Крамля рыфмуеш страшныя загады

*Заменены на*

Крамля рыфмуеш чорныя загады,[17]

*бо эпітэт „страшныя“ тут заслабы, „проходной“.*

*І гэта ўсё. Як бачыш, выходзілі з таго, каб верш гучэў яшчэ мацней і ня даў повадаў да прычэпак ні на той, ні на гэты бок зялезнае заслоны.*

*Пэўна-ж, паўтараю яшчэ раз, Твае права не прыняць гэтых папправак, ці некаторых зь іх, калі Табе яны чаму-небудзь не спадабаюцца, адно паведам тады аб гэтым адразу-ж.*

13 **Пятрусь Броўка** (1905—1980), паэт, пісьменьнік-функцыянэр. У 1920-х гг. быў сябрам літаб’яднаньня „Маладняк“. У 1948—1967 гг. — старшыня праўленьня СП БССР.

14 **Мікалай Яжоў** (1895—1940), супрацоўнік спэцслужбаў, арганізатар масавых рэпрэсій, народны камісар унутраных спраў СССР (1936—1938). Часы дзейнасьці Яжова неўзабаве пачалі называцца „яжоўшчынай“, менавіта пры ім крывавы сталінскі тэрор дасягнуў найбольшага размаху. Расстраляны.

15 **Іван Сяроў** (1905—1990), супрацоўнік спэцслужбаў. Першы старшыня Камітэту дзяржбясьпекі СССР (1954—1958). Да таго — старшыня Галоўразьведупраўленьня НКУС, наркам унутраных спраў Украінскай ССР, намесьнік наркама ўнутраных спраў СССР. У час вайны — упаўнаважаны НКУС па Першым Беларускім фронце, дарадца Міністэрства грамадзкай бясьпекі Польшчы, упаўнаважаны НКУС па Групе савецкіх акупацыйных войскаў у Нямеччыне.

16 **Лаўрэнцій Бэрыя** (1899—1953), супрацоўнік спэцслужбаў. Наркам унутраных спраў СССР (1938—1945), намесьнік старшыні Саўміна СССР (1946—1953), міністар унутраных спраў СССР (1953). Адзін з найбліжэйшых дарадцаў Сталіна, пасьля чыёй сьмерці быў арыштаваны ўрадам, абвінавачаны ў шпіянажы й падрыхтоўцы да захопу ўлады й расстраляны.

17 Праўка ўлічаная ў друкаваным варыянце.

*А тым часам — усяго Табе найлепшага*
*ад усяе рэдакцыі „Конадняў“*
*і ад мяне найбольш*

*Твой Антон*

*Глыбокапаважаны Адамовіч!*

*З усімі зьменамі згодзен. Толькі паўрадок „Дайшоў ён“ павярнеце канцом на перад — „Ён дайшоў“*[18]*. Так не нарушыцца рытміка.*

*У мяне ў пачатку было не Яжоў, а Сяроў, але замену я зрабіў па савеце Віцьбіча*[19] *і Сядуры*[20]*. Яжоў бо даўся больш у знакі. Сяроў — на месьце.*

*А наконт „у нас раны“ я і прагледзяў. Дзякую!*

*Пастарайцеся хутчэй надрукаваць „Конадні“, каб не папярэдзіла „Бацькаўшчына“ з „нас...“.*

*Учора адаслаў Вам адкрытачку зь зьменамі ў санэтах.*

*Жадаю ўсяго найлепшага!*

*З прывітаньнем, Ваш Міхась*

13.6.55 г.

*Паважаны Адамовіч!*

*Калі пайшло на папраўкі, дык будзем папраўляць да апошняга. Учора я адаслаў вам адкрытачку, у якой прасіў у санэце „Люблю жыцьцё“ „я“ замяніць на „ты“. Сягоньня, добра прыслухаўшыся і прыглядзеўшыся, знайшоў бязглузьдзіцу. Атрымліваецца, што жыцьцё гоніцца за коньнікам:*

*Жыцьцё, жыцьцё, — неразгаданы соньнік.*
*Ляціць зь мячом і крыжам слаўны коньнік,*
*І ты за ім...*

*А таму я рашыў замяніць гэты паўрадок так:*

*Паміж агнёў па войнікаў касьцёх.*[21]

[18] Пажаданьне Кавыля было ўлічанае.

[19] **Юрка Віцьбіч** (1905—1975), літаратар, публіцыст, краязнаўца, грамадзкі дзеяч, жыў у той час ў Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі, ЗША).

[20] **Уладзімер Сядура** (1910—1997), пісьменьнік, літаратуразнаўца, працаваў у той час у Школе гуманітарных навук Рэнсэлерскага політэхнічнага інстытуту ў Троі (Нью-Ёрк, ЗША).

[21] Праўка ўлічаная ў друкаваным варыянце.





*Калі яшчэ ня позна, будзьце добры, зрабеце гэтую замену.*
*Больш нічога мяняць ня буду.*

*З прывітаньнем, Міхась Кавыль*

*14.6.55 г.*

*10.10.1955*

*Даражэнькі Міхасю!*

*Новую рэдакцыю Тваіх „Санэтаў“ атрымаў, дзякую. Яны яшчэ ані не спазьніліся, бо ў друкарню яшчэ наагул для гэтага нумару нічога не пайшло. Дык можаш быць спакойным, і калі-б нат яшчэ нешта захацеў паправіць — ёсьць час і магчымасьць, аж да апошняга мамэнту, а да яго яшчэ ня блізка.*

*Рады я вельмі, што ў Цябе гэткая строгая Муза. Гэта вельмі добра. Пэўна-ж, „каноны“ не абавязковыя паэту, іх і не датрымваюць, і нат сьведама ламаюць, і часта выходзіць гэта нат не на шкоду. Але, з другога боку, і датрыманьне канонаў на шкоду не выходзіць ніколі, калі яно, як кажуць, „на ўзроўні“, бяз гвалту над сабою. Каноны дысцыплінуюць паэту, і сьведамае імкненьне да датрыманьня іх у Цябе можна толькі вітаць і дзякаваць за гэта Тваю Музу, якую й дазволь прывітаць у гэтым на гэтым месцы.*

*Калі ўжо такая ў Цябе Муза, калі ўжо такі гон Яе й Твой да датрыманьня канонаў, дык дазволь тады пагутарыць з Табою крыху пра самыя гэтыя каноны, санэтныя ў дадзеным выпадку, каб памагчы Табе крыху больш зарыентавацца ўва ўсім гэтым, каб яшчэ лепш магчы здавальняць тое Музава й Тваё імкненьне да датрыманьня кананічнае строгасьці.*

*Вось-жа, найперш, санэтны канон і дасюль, не зважаючы на яго-ную вялікую й багатую гісторыю, не становіць сабою чагось да канца аднагодна й абсалютна ўстаноўленага. Найперш, трэба адразьняць канон найстражэйшы й проста строгі.*

*Найстражэйшы канон патрабуе: 1) рыфмаваньня катрэнаў (чатырохрадак) толькі аднаго тыпу — „апяразанага“ й двурыфмавага, г.зн. формулы*

*abba abba*

*Гэтага-ж патрабуе й проста строгі канон, і санэты ўсякае іншае формулы вызнаюцца бязумоўна некананічнымі, хоць у некаторых разох (аб чым скажу далей у сваім месцы) яшчэ й могуць вызнавацца за санэты. З боку гэтага патрабаваньня Тваё апошнія „санэ-*

*ты“ ў першай рэдакцыі былі некананічныя, а ў прысланай цяпер другой — цалком кананічныя: тут ты датрымаў канон нат сама найстражэйшы, а ня толькі проста строгі.*

*2) Найстражэйшы канон патрабуе рыфмаваньня ў тэрцэтах (трохрадках) толькі формулы*

*ccd ede*

*Проста строгі канон дапушчае тут і ўсякае іншае рыфмаваньне. Дык тутака ты ўжо найстражэйшага канону не датрымаў, а толькі проста строгі (у Цябе ў санэтах „Боль“ і „Камэта“ cdc cdc, у „Чад“ — ccd dee, у „Крытыку“ — ccd eed). Але „найстражэйшы“ канон тут запраўды занадта строгі: сам Багдановіч у нас, хоць і раіў яго датрымваць і сам датрымваў, дапушчаў аднак і магчымасьць канону проста строгага*[22] *. Запраўды, паводля найстражэйшага канону, канчальна замацаваным францускім паэтам Малербам*[23] *і пад яго-ным імём найчасьцей і знанага, „некананічнымі“ выходзяць нат санэты гэткіх карыфэяў-санэтыстых, як Дантэ*[24] *(у яго звычайна cdc dcd, але трапляецца й cdd dcd, cde cde, cd cd cd, cde ede) або Пэтрарка*[25] *(у яго звычайна cde cde, але здараецца й cde dce, cde dcd)*

*3) Найстражэйшы канон дапушчае толькі чародаваньне рыфмаў мужчынскіх і жаноцкіх і толькі ў такім парадку (г. зн. a — мужч., b — жан., c — жан., d — мужч., e — жан.); проста строгі канон дапушчае й іншае чародаваньне, і суцэльнае аднастайнае (суцэльн — мужч. ці суцэльн жан.; тэарэтычна магчыма й датрыманьне) рыфмаваньне. Тут ізноў Ты найстражэйшага канону не датрымваеш, толькі строгі (у Цябе ў „Боль“ a — жан., b — мужч., c — жан., d — мужч., тое ж і ў „Камэце“, у „Чадзе“ ўжо бліжэй да найстражэйшага: a — мужч., b — жан., але c — мужч., d — мужч., e — жан., а ў „Крытыку“ — суцэльнае жаноцкае рыфмаваньне). Багдановіч патрабаваў і трымаўся сам найстражэйшага канону, але-ж для некаторых моваў, дзе традыцыйныя (а нат і проста магчымыя часам) толькі рыфмы аднаго роду (як у польскай, францускай, італьянскай, ангельскай і пад.) гэты канон проста неактуальны, а таму і ў нас адных (ды яшчэ расейцаў, украінцаў, немцаў і інш.) выглядае ўжо занадта строгім.*

*4) Найстражэйшы канон дапушчае толькі пяцістопны ямб, проста строгі — абы-які памер (у Цябе гэта датрымана толькі ў „Чад“, у іншых — ямб шасьці- й пяцістопны, а ў „Крытыку“ — зусім анапэст трохстопны). Багдановіч і патрабаваў, і трымаўся гэтак бязумоўна, але ўжо Купала — не*[26] *. Ізноў-жа, у некаторых іншых мовах, асабліва з сылябічным вершаскладаньнем (польская, француская, італьянская) гэта неактуальна, дык і для нас занадта строга.*

*5) Найстражэйшы канон не дапушчае рыфмаў дзеяслоўных, а навет і граматычных; строгі просты канон аб гэтым ужо маўчыць, маўчыць і наш Багдановіч і ў сябе дапушчае й дзеяслоўныя рыфмы*[27] *. У Цябе толькі адна дзеяслоўная рыфма ў „Чад“ (крыліцьпіць, у „Боль“ ірвецца-абзавецца ўжо нельга ўважаць за дзеяслоўную, бо апрача дзеяслоўнага канчатку рыфмуецца і карэнны гук в; там жа і магіле-мыле — не граматычная, бо апорныя гукі карэнныя), дык найстражэйшы канон тут Ты, як бачыш датрымаў блізу на 100%.*

*6) Найстражэйшы канон, бязумоўна, не дапусціў-бы рыфмаў недакладных; строгі канон аб гэтым маўчыць, маўчыць і Багдановіч, хоць сам і не ўжывае наагул недакладнага рыфмаваньня; але ў нас недакладнае рыфмаваньне запанавала ўжо даўно й сталася проста традыцыйным, дык з гэтым мамэнтам можна й ня лічыцца, як ня лічышся й Ты.*

---

[22] Тут і далей Адамовіч адсылае да артыкулу Максіма Багдановіча „Санэт (тэарэтыка-гістарычны нарыс)“.

[23] **Франсуа Малерб** (1555—1628), францускі паэт-клясыцыст, вядомы сваім строгім рацыяналісцкім стаўленьнем да тэхнікі віршаваньня.

[24] **Дантэ Аліг’еры** (1265—1321), клясык італьянскай літаратуры. Узорам напісаньня санэтаў сталі яго творы з кнігі „Новае жыцьцё“ (*La Vita Nuova*). Найбольш вядомы як аўтар паэмы „Камэдыя“ (*La Commedia*), зь лёгкай рукі Джавані Бакача перайменаванай пазьней у „Боскую камэдыю“.

[25] **Франчэска Пэтрарка** (1304—1374), італьянскі паэт. Большую частку паэтычных твораў напісаў на лаціне, да італьянскіх жа вершаў, што прынесьлі яму сусьветную славу, ставіўся амаль грэбліва. Тым ня менш, менавіта ягоныя італамоўныя санэты сталі ўзорам для перайманьня многіх рэнэсансавых і клясыцысцкіх аўтараў.

[26] Гл. у санэтах Янкі Купалы „Бацькаўшчына“ (1915): *„Яшчэ ў калысцы я наўчыўся зь песень сьніць [...] / Што зоркі роднай ў сэрцы мне іскрынка тліць“*; „На суд“ (1915): *„Нічым грашыць ад вас грашнейшым я ня ўмеў, [...] / Праступак, судзьдзі, мой: я сэрца, сэрца меў!“*; „Сярод магіл“ (1915): *„Сярод магіл, на плечы ўзьняўшы крыж свой, стану [...] / І скрозь туды, дзе вольнай думкаю дастану“* ды інш.

[27] Гл., напрыклад, у вершы „Санэт“ („На цёмнай гладзі сонных луж балота...“): *„Смуроднай жыжкаю узгадавала [...] / Маліся ж, каб зь літоўнасьці стрымала“.*

*7) Нарэшце, і найстражэйшы й проста строгі канон не дапушчаюць паўтарэньня ў санэце аніводнага слова (проста строгі яшчэ маўкліва дапушчае паўтарэньне словаў службовых — прыймяў, злучоў, адмоўяў, а таксама рытарычнае паўтарэньне — паўтарэньне аднаго й таго-ж слова побач, для памацненьня). Тутака і Багдановіч, і ўсе няўмольныя*[28] *. У Цябе ў „Боль“ ёсьць паўторы рытарычныя (маўчы, маўчы) і службовыя (як, не), тое-ж і ў „Камэце“ (гучней, гучней; як), і ў „Чадзе“ (ня мне, ня мне; і), і ў „Крытыку“ (вершы, вершы; як, у) — гэта ўсё толькі парушэньні канону найстражэйшага, значыцца, не такая бяда. Але ў вапошніх 2-х санэтах („Чад“ і „Крытыку“) ёсьць і горшае — ужо парушэньні канону проста строгага, што робіць іх некананічнымі, — паўтарэньні аднаго й таго-ж слова, і нат ня толькі ў розных склонах, што яшчэ можна было-б, бадай, нацягнуць на проста строгі канон (зямля-зямлі ў „Чад“, вершу-вершы ў „Крытыку“), але нат і ў той жа склонавай форме, што зусім недапушчальна („край“ у „Чадзе“).*

*Гэтак у вагульным выглядае „строгасьць“ канонаў і датрыманьне яе ў Цябе. Але санэты могуць быць і некананічныя; сярод гэтых некаторыя нат блізка падходзяць да кананічных, выпрацоўваючы нейкі свой сэпаратны канон. Сярод іх найбольш знаныя гэта: а) Шэксьпіраўскі санэт (або „Элізабэтаўскі“, ці проста ангельскі) — формулай abab cdcd efef gg, або — abba cddc effe gg, б) Спэнсэраў*[29] *(або „шчэплецы“ — „linked“) — abab bcbc cdc dee, в) Шэлеўскі*[30] *— abab acdc ede fef. Усё гэта — яшчэ санэты, хоць ужо й бязумоўна некананічныя, але абазначаць іх словам „санэт“ яшчэ можна. Твая Муза, хоць і строгая, думаю, магла-б дазволіць Табе паспрабаваць і гэтыя тыпы, тым больш, што ў нашай паэзіі яны зусім не прабаваныя.*

*Затое ўсе іншыя магчымыя, ці нат наяўныя формулы, паколькі яны не замацаваныя за ніякім аўтарытэтам (як гэтыя за Шэксьпірам, ці Спэнсэрам, ці Шэлі) ужо ня вызнаюцца за санэты, а проста за „катарзэны“, г. зн. „чатырнаццаткі“ — чатырнаццацірадковыя толькі вершы (строгія кананістыя вызнаюць за гэтакія нат „Шэксьпіраўскія санэты“). Пісаць іх, пэўна-ж, можна, нат можна старацца сканструяваць зь іх тып свайго — беларускага ці асабістага (чаму ня можа быць „Кавылёў санэт“?), але надпісваць іх санэтамі ўжо ня варта.*

*Нарэшце, бываюць яшчэ вершы, што зьбліжаюцца да санэтаў і нат часта абазначаюцца гэтым словам, але ўжо вельмі-ж нацягнута. У Спэнсара ёсьць „санэты“ зусім бяз рыфмаў (белыя), а таксама — усяго з 12 радкоў, а не з 14; у нашага, такога строгага Багдановіча нат ёсьць адзін „санэт“ з 13-х, а не 14-х радкоў („У Вільні“, але гэта барджджэй недагляд, і то не самога паэты, а рэдакцыі)*[31] *. Усё гэта можа быць, але такія рэчы лепш зваць ужо „санэтоідамі“, а не „санэтамі“.*

*Цяпер — сёе-тое ўжо канкрэтна да прысланых вершаў:*

*1. „Боль“. Ці не пазбыцца ўсё-ж паўтораў? „Як“ у параўнаньнях (ня толькі тут, а й наагул) можна-ж падмяняць „бы“ (скажам: „бы апалы плод“) і навет „што“. Цяжэй зь „не“, але й тут „не на дабро“, скажам, можна было-б замяніць нейкім пазытыўным выразам тыпу „на бяду“, „на ліха“ (гэтыя то рытмічна не падходзяць, але можна штось падобнае таго-ж тыпу). І „маўчы, маўчы“ лепш было-б „рассмактаць“, тым больш, што й яшчэ адно „маўчыць“ ёсьць, дык наагул абодва гэтыя „маўчы“ лепш было-б замяніць чымсь іншым.*

*2. „Камэта“. Ад паўтораў тут, здаецца, вельмі лёгка пазбавіцца, дык чаму-б і не пазбавіцца? Скажам: „А мы, бы тыя дзеці...“, „мацней, гучней“, — ці нек інакш.*

*3. „Чад“. Напрамілы Бог трэ было-б пазбавіцца ад паўтору „край“ і „зямля-зямлі“. Добра было-б і „ня мне“ зьліквідаваць (скажам: „О, не, ня мне“ — ужо-б ня так паўторна, хоць і ня зусім добра, але штосьу гэтым ці іншым родзе). „І“ ўжо магло-б і застацца.*

[28] Гл. у Максіма Багдановіча: *„Каб пабольшылася сьвежасьць вытваранага такім парадкам санэта, трэба каб ні адна нітка зь яго тканіны, ні адна цагліна зь яго гмаху, ці, прасьцей кажучы, ні адно слова зь яго не ўжывалася болі разу“* („Санэт (тэарэтыка-гістарычны нарыс)“).

[29] **Эдмунд Спэнсэр** (каля 1552—1599), ангельскі паэт, сучасьнік Уільяма Шэксьпіра, аўтар шматлікіх паэмаў, лірычных вершаў, у тым ліку дзясяткаў санэтаў. Плястычнасьць і музычнасьць верша Спэнсэра дагэтуль уважаецца за прыклад.

[30] **Пэрсі Бішы Шэлі** (1792—1822), ангельскі паэт-рамантык, крытык, філёзаф.

[31] Адамовіч тут фактычна паўтарае думку свайго настаўніка, прафэсара Аўгена Барычэўскага, пра тое, што санэт Максіма Багдановіча „У Вільні“ апублікаваны ў „Вянку“ з памылкай, з пропускам аднаго радка. Нягледзячы на гэтае сьцьверджаньне Барычэўскага, і ў двухтомных „Творах“ Багдановіча (1927—1928), і ў наступных выданьнях санэт друкаваўся паводле „Вянку“. Толькі ў Поўным зборы твораў у 3 т. багдановічазнаўцы наважыліся зьмяніць верш паводле аўтографу, апісаньне якога падавалася Інбелкультам у першым томе „Твораў“ (1927). У выніку санэт атрымаў клясычны 14-радковы выгляд. Але пытаньне, па чыёй волі верш аказаўся 13-радковым, застаецца адкрытым і дыскусійным па-ранейшаму.

*4. „Крытыку“. Тут, апрача адзначаных ужо мною ў сваім месцы паўтораў, якія варта-б зьліквідаваць, ёсьць яшчэ сёе-тое, папсаванае ў новай рэдакцыі. Проста немагчымая замена „падняць“ на „узбудзіць“: „узбудзіць“ ня вяжацца ані з „глыбамі граніту“, ані з „агнём дынаміту“ й страшна паслабляе, асабліва пасьля таго, як пры перастаўленьні радкоў наперад вылез дадаены сказ („калі ў сэрцы“…) і гэтым дадзены радок з галоўным сказам ужо паслабіўся. Я-б раіў — мінімум! — аднавіць „падняць“ (яно й з гукавога боку сваім „дн“ так добра інструмэнтуе верш на фоне наступных „гнм“ — „днм“.). Яшчэ добра было-б памацніць гэты радок устаўкаю якога „і“, але як яго ўставіць? (Хіба нек гэтак: „Не падняць іх і ‘гнём дынаміту“). Добра было-б і „воін“ замяніць на „войнік“, як гэта было ў „Жыцьцё“ ў папярэднім нумары. Наагул, я пабойваюся за гэты верш (дзеля ягонага „поснага епіскапа“) і хіба пастараюся прапхнуць усе твае вершы без рэдкалегіі, на сваю рызыку й галаву (Тумаш[32] -жа ўжо гартаў, не казаў нічога, дык можна будзе й на яго абаперціся, бо іншыя могуць прычапіцца). А мне хацелася-б, каб гэты верш быў. Мо толькі загаловак узяць у двукосьсе („Крытыку“ або мо — гора-крытыку?). А мо-б яшчэ — „гэткі посны“ заміж „як той посны“? — але наагул, усё гэта — твая рэч. А я ўжо мо й так „наблудасловіў бязбожна“ зашмат. Дык тым часам досыць. Па атрыманьні адказу ад Цябе буду мець яшчэ некаторыя „сугестыі“ ў сувязі з Тваім захапленьнем санэтамі й канонамі, а тым часам — усяго —*

*Антон*

*11.24.1955*

*Даражэнькі Міхасю!*

*Надоечы Арсеньнева[33] перадала мне Твае паштоўку й ліст із Славутычавым[34] лістом. Верш „Масею“ тым часам на Тваю просьбу затрымваецца — але што Ты там у ім такога знайшоў? Хіба што не з мастацкага, а зь якога „тактычнага“ боку, ну але гэта Твая справа („моя вэщ — куда хочу, ставлю“ — як той армянін казаў). Хацелася-б, у кажным разе, каб гэты верш усё-ж быў у „Конаднях“, як і той „злополучный“ „Крытыку“ — пры тэй папраўцы, аб якой ты ўжо пісаў („гэткі“ зам. „як той“) ужо справа была-б О.К., ну, а чыста мастацкі бок, санэтны канон, — з гэтым жа Ты лёгка даеш рады. І ніякага „падвядзеньня пад дурнога хату“ ня было-б — барждзэй яно будзе, калі гэткі верш зьявіцца ў нейкім іншым выданьні. Дык вельмі прасіў-бы й гэты „Крытыку“ для „Конадняў“.*

*Сп. Славутычу шчыра падзякуй і ад рэдакцыі, і ад мяне асабіста (ліст ягоны, на тваю просьбу, зварачаю Табе тут назад). Што да ягоных вершаў, дык паспрабую дастаць той ад Юхнаўца[35] (хоць, між намі кажучы, ня маю пэўнасьці, каб было штось магчымае — вельміж не конгеніяльны перакладнік аўтару)[36], напішу й Сяднёву[37] (калі ў яго ёсьць штось недрукаванае, бо передрукоўваць, хоць сабе й з ратастарных выданьняў, як „Шыпшына“ — ня ў нашых правілах). Але й так, апрача Твайго перакладу, маю яшчэ 2 („Замало дня“ — каля таго, што Ты пераклаў, і „Мілка надія“) — дык выйдзе ўжо й так нішто. „Спадчына“ яму напэўне будзе высланая[38], калі ўжо ня высланая — прынамся я ўжо бачыў экзэмпляр з поўным надпісам яму, урачыстым і ўдзячным.*

*Паколькі Ты згубіў нашыя адрысы (і собіла-ж Табе — на аднэй і тэй-жа Armstrong Ave перабіраўся ўсяго за пару дзесяткоў дамоў і пагубляў), дык маеш іх тут:*

*Anton Adamovich*
*323 East 100 St., apt.7*
*New York 29, n.y.*

[32] **Вітаўт Тумаш** (1910—1998), грамадзкі дзеяч, лекар, навуковец (скарыназнаўца), у 1955—1982 гг. — старшыня БІНіМу.

[33] **Натальля Арсеньнева** (1903—1997), паэтка, грамадзкая дзяячка. У той час яна яшчэ жыла ў Нью-Ёрку, працавала ў нью-ёрскім офісе Радыё „Свабода“.

[34] **Яр Славутыч** (сапр. **Рыгор Жучэнка**; 1918—2011), украінскі паэт, перакладнік. Падчас нямецкай акупацыі супрацоўнічаў з часопісам „Нова Україна“, пасьля — на эміграцыі ў Нямеччыне й ЗША. Ад 1960 г. стала жыў у Канадзе, выкладаў украінскую мову ў Альбэртаўскім унівэрсытэце, ⇨ рэдагаваў і выдаваў літаратурна-мастацкі альманах „Північне Сяйво“. Сябраваў з многімі дзеячамі беларускай эміграцыі, перакладаў вершы беларускіх паэтаў.

[35] **Янка Юхнавец** (1921—2004), літаратар, мастак. Жыў у Нью-Ёрку.

[36] Пры вонкавай павазе стаўленьне да мадэрновай лірыкі Янкі Юхнаўца на эміграцыі было больш чым скептычным.

[37] **Масей Сяднёў** (1915—2001), паэт, празаік.

[38] Маецца на ўвазе кніга выбраных вершаў Янкі Купалы: Купала, Янка. Спадчына. Нью-Ёрк—Мюнхэн, 1955. — 496 с.+LXVI

*V. Tumash*
*376 East 138 St., apt. 4E*
*New York 54, n.y.*

*Ці не апаў яшчэ ў Цябе пал да санэтаў? Калі не, дык я хацеў-бы загітаваць Цябе на складаныя санэтныя формы — „вянок". Ці хоць-бы „карону" санэтаў. Іх яшчэ няма зусім у нашай паэзіі. Яшчэ калісь Глебка мала не ў заклад ішоў, што напіша „вянок" — дый так і ня даў рады*[39]*. Яшчэ будучы ў Аўстрыі, Салавей хваліўся, што напісаў аж 3 „вянкі санэтаў", але шле іх мне аж дагэтуль (вось і ў вапошнім лісьце ўспамінае, што робіць „апошнія папраўкі" й вось-вось вышле...)*[40]*. Форма „вянку санэтаў" вельмі цяжкая (15 санэтаў), у расейцаў даў рады толькі Валеры Брусаў (напісаў іх аж 2)*[41]*, іншыя спрабавалі, але слабавата. Форма „кароны санэтаў" (7 санэтаў) крыху лягчэйшая. І ад яе мо й трэ было-б пачынаць (але наш Салавей адразу хоча на вышэйшую галіну скокнуць — адразу за „вянок"). Калі-б Ты зацікавіўся гэтымі формамі — падам Табе дакладныя іхныя правілы ў лісьце на першае Тваё жаданьне.*

*Калі бачышся з сп. Віцьбічам, перапрасі яго ад мяне, што даўно не адпісваю яму, але найшла гэткая навала, што не пісаў нікому. І Табеж гэты ліст пішу толькі дзеля пільнасьці. За тыдзень-другі ацерабьлюся крыху, дык „пойдет писать губерния".*

*На гэтым тым часам —*
*Найшчырэйшымі зычэньнямі (і з улазінамі),*

*Твой Антон*

[39] Для Пятра Глебкі ў 1920-х гг. Антон Адамовіч рабіў амаль ідэнтычныя прапановы й тэарэтычныя выкладкі да напісаньня вянку санэтаў (гл. прадмову да артыкула).

[40] Параўнай зь лістом Алеся Салаўя да Антона Адамовіча ад 26.10.1955: *„Першы і трэці разьдзелы зборніка „Вянкі" (бал. 1—40 і 89—112) Вы маеце — я іх паслаў Вам яшчэ з Аўстрыі. Балонкі 41—88 — гэта „Вянкі санэтаў", якіх яшчэ не пасылаў (з дня на дзень даводжу да канца)"* (Цыт. паводле: Салавей, Алесь. Творы: Паэзія, проза, лісты. Менск: Лімарыюс, 2010. С. 455)

[41] Першы рускамоўны вянок санэтаў зьявіўся ў 1889 г. і быў перакладны — твор Франца Прэшэрна ў перакладзе Ф. Корша. Арыгінальныя вянкі санэтаў зьявіліся пазьней, у час росквіту рускага сымбалізму: „Cor ardens" Вячаслава Іванава, „Роковой ряд" Валерыя Брусава, „Lucaria", „Corona Astralis" Максімільяна Валошына. Працягваліся штудыі ў гэтай галіне і ў савецкі час.





*12.20.1955*

*Даражэнькі Міхасю!*

*Апошнія два Твае лісты атрымаў. На жаль, не магу адразу выканаць Тваю просьбу — якраз крыху прастудзіўся й мушу колькі дзён пасядзець у хаце. Але за пару дзён, максымум за тыдзень, думаю, што выбяруся й тады зраблю, а можа, калі за гэты час наведае мяне хто адпаведны — дык таго папрашу. Таксама пастараюся й Табе й Масею „зарганізаваць" тую „Спадчыну", хоць яшчэ й не магу напэўна абяцаць выніку; мае-ж собскае цяпер сам ня маю на руках. (Зрэшты, моглбы Ты й Стасю*[42] *гэтак проста напісаць — ён хлопец свойскі: „Як я магу даць водгук на „Спадчыну", калі яе ня маю?" — мо-б у таго сумленьне загаварыла, і загадаў-бы ён Даніловічу*[43]*, што недалёкі ад Цябе, адпусьціць экзэмпляр — але мо лепш не чакай, мо я зарганізую).*

*Бачу я, што зачапіў Цябе з тым „Вянком", падражніў — а ў рукі ня даў. Вінаваты, але зараз-жа папраўлю. Справа тут вельмі простая тэарэтычна, але вельмі цяжкая практычна, бо рэч ня толькі ў „ідэёвым, тэматычным і настраёвым", як Ты пішаш, а якраз і галоўна — у тым „кананічным", у ім уся цяжкасьць (безь яго-ж 15 санэтаў будуць проста „нізкай", а не „вянком"). Дык вось: „вянок" мае 14 санэтаў плюс 15-ты — г. зв. „магістрал" (ён можа быць або першым, або апошнім у „вянку" — усё роўна будзе й тым і тым, паколькі якраз„змыкае"-шчапляе „вянок"). 14 санэтаў будуюцца так, што кажны апошні радок папярэдняга санэту робіцца першым радком наступнага (г. зн. паўтараецца, як першы радок наступнага); „магістрал" (г. зн. 15-ты, найчасьцей ставіцца ўсё-ж апошнім) складаецца зь першых радкоў усіх санэтаў па парадку. Бачыш, што за штука. Канкрэтная схема:*

*1. 11 — 141*
*2. 12 = 141 — 142*
*3. 13 = 142 — 143*

[42] Маецца на ўвазе **Станіслаў Станкевіч** (1907—1980), грамадзкі дзеяч, крытык, публіцыст, выдавец. У той час ён быў рэдактарам газэты „Бацькаўшчына" (Мюнхэн), у выдавецтве якой і выйшаў зборнік Янкі Купалы „Спадчына".

[43] **Антон Даніловіч** (псэўд. **Янка Золак**, 1912— 2000), пісьменьнік, журналіст, выдавец, грамадзкі дзеяч. Даніловіч, відавочна, займаўся распаўсюдам беларускіх кніг у ЗША.

*4. 14 = 143 — 144*
*5. 15 = 144 — 145*
*6. 16 = 145 — 146*
*7. 17 = 146 — 147*
*8. 18 = 147 — 148*
*9. 19 = 148 — 149*
*10. 110 = 149 — 1410*
*11. 111 = 1410 — 1411*
*12. 112 = 1411 — 1412*
*13. 113 = 1412 — 1413*
*14. 114 = 1413 — 11*
*Магістрал 11 — 114*

*Усе іншыя правілы канону звычайнага санэту датрымваюцца. „Карона санэтаў“ прасьцей: кажны апошні радок папярэдняга таксама робіцца першым радком наступнага, а апошні радок апошнім (сёмага) паўтарае першы радок самага першага, „магістралу“ няма. Схема:*

*1. 11 — 141*
*2. 12 = 141 — 142*
*3. 13 = 142 — 143*
*4. 14 = 143 — 144*
*5. 15 = 144 — 145*
*6. 16 = 145 — 146*
*7. 17 = 146 — 11*

*У гэтых схемах цыфрачкі ўнізе значаць парадкавы нумар санэту, знак = — як у матэматыцы, знак — прамежак, у які ўваходзяць тыя радкі кажнага санэту, што ніколі больш не паўтараецца (г.зн. ад 2 па 13 радок кажнага санэту).*

*Брусава ўзор, калі не знайду ў кнізе, дык перапішу ў бібліятэцы, але, здаецца, што ўжо з гэтым, што я падаў — лёгка разабрацца. Як што няясна, пішы адразу-ж, „не стесняйся“, цяпер, седзячы ў хаце, адпішу адразу-ж.*

*Справа п’есы пра Слуцкае паўстаньне таксама мне падабаецца, добра, што кансультуешся ў Сэляха*[44]*, ён, як я пераканаўся яшчэ ў Менску, калі пачыналася праца над Лебядовым „Загубленым жыцьцём“*[45] *— вялікі спэцыялісты ў гэтай справе. Але раю Табе ўсё-ж даведацца ў „Бацькаўшчыне“ — я быў там і ведаю, што ў іх за балаган, ды баюся, што Тваю п’есу маглі дзесь затэхціць у паперах нат не чытаўшы, а пасьля могуць знайсьці, усьцешыцца й жарнуць у друк той тэкст, над пераапрацаваньнем якога Ты цяпер сядзіш і які Цябе не здавальняе.*

*З „Конаднямі“ — Табе пад вялікім сакрэтам (сакрэт за сакрэт): ледзь наскрэблі грошы, і толькі днямі пойдзе ў друкарню... Бачыш, з грашыма тут ува ўсіх дрэнь, нат калі й „кантралёра“ няма.*

*Ну, на гэтым тым часам і скончу. Жадаю Табе вясёлых Калядаў (адпаведная традыцыйная картка ўжо ў дарозе) і — галоўна — удачаў у задуманым і твораным!*

*Пішы, „не стесняйся“!*

*Твой Антон*

*1.18.1956*

*Даражэнькі Міхасю!*

*Усё ніяк не зьбяруся адпісаць Табе, але цяпер, здаецца, адпішу ткі, бо й набралося сякіх-такіх справаў.*

---

[44] **Вячаслаў Сэлях** (на эміграцыі **Качанскі;** 1885—1976), опэрны сьпявак, тэатральны й грамадзкі дзеяч. Скончыў Маладэчанскую настаўніцкую сэмінарыю. У 1910 г. паступіў у опэрны кляс Пецярбургскай кансэрваторыі.⇨ ⇨ У 1915 г. выбраны з 300 прэтэндэнтаў у Марыінскі імпэратарскі тэатар. Сьпяваў у „Князю Ігару“, „Рыгалета“, „Дэмане“, „Барысу Гадуновым“, сумесна зь вядомым расейскім сьпеваком Фёдарам Шаляпіным — у „Хаваншчыне“ й „Кармэн“. У 1925 г. пераехаў у Менск, дзе працаваў выкладчыкам у музычным тэхнікуме й кіраваў музычнай сэкцыяй пры Інбелкульце. Паставіў першую опэру па-беларуску — „Русалка“. Ад 1927 г. быў дырэктарам БДТ-1. У 1933 г. рэпрэсаваны. Па вызваленьні жыў у Ленінградзкай вобласьці. У 1943 г. вярнуўся ў Беларусь, працаваў кіраўніком аддзелу культуры й мастацтва пры БНС, потым узначальваў аддзел культуры ва ўрадзе БЦР. Ад 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне стварыў тэатральна-мастацкую групу „Жыве Беларусь“, зь якой гастраляваў па беларускіх асяродках. У 1950 г. выехаў у ЗША. Жыў у Саўт-Рывэры, браў удзел у жыцьці мясцовай беларускай грамады.

[45] Драма **„Загубленае жыцьцё“** — твор **Тодара Лебяды** (сапр. **Пятро Шырокаў;** 1914—1970), паэта, драматурга, журналіста. У 1930–я ён быў рэпрэсаваны. У 1943 г. ягоная драма была пастаўлена на сцэне менскага гарадзкога тэатру й карысталася вялікім посьпехам. Ад лета 1944 г. аўтар — у Нямеччыне. У 1945 г. вярнуўся ў Беларусь, быў арыштаваны й асуджаны на 25 гадоў лягераў.

*Першае — Славутыч, ліст якога варочаю тут. На жаль, ня ведаю ягонага новага адрысу й прасіў-бы таму Цябе падаць мне гэты адрыс, а адначасна напісаць яму ад мяне, што я хочу выслаць яму асабіста Жылку*[46] *з падзякаю за ягоную анатацыю. А таксама выслаў-бы й таму амэрыканскаму прафэсару, што зацікавіўся ім — беспасярэдня (найлепш) ці праз Славутыча. Я маю яшчэ колькі аўтарскіх экзэмпляраў, а калі выпісваць іх із „Веды“, дык як выявілася, яны пасылаюць дэфэктыўныя — Янка*[47] *павыдзіраў адтуль „бязбожнага альбігойца“, за што я зь ім сварыўся, але-ж гэта бескарысна*[48]. *Дык каму трэба*


Яр Славутыч

[46] Маецца на ўвазе кніга: Жылка, Уладзімер. Творы. Нью-Ёрк, 1955. — 104 с.

[47] Маецца на ўвазе **Янка Станкевіч** (1891—1976), грамадзкі дзеяч, мовазнаўца, журналіст.

[48] У часопісе „Веда“ Янкі Станкевіча быў рэпублікаваны верш Уладзімера Жылкі „Альбігоец“, што выклікала немалы скандал сярод рэлігійна арыентаванай часткі беларускай эміграцыі празь нібыта „блюзьнерскі“ характар верша. Дзеля гэтага рэдактар кнігі Жылкавага выбранага (Антон Адамовіч) быў вымушаны падаць у камэнтарах да верша неабходныя тлумачэньні: *„Асобы аўтара ў вершы няма; у канфлікце Альбігойца із „Раскрыжаваным“ аўтар не далучае сябе ані да аднаго, ані да другога, ён — над гэтым канфліктам“.* І ў заўвазе да камэнтару: *„На магчымыя абвінавачаньні ў „блюзьнерсьцьве“ („кашчунсьцьве“, „баглайсьцьве“) самога Жылкі добрае выясьненьне можа даць сказанае калісь ведамым францускім паэтам і крытыкам Тэофілем Гот'е з повадe падобных абвінавачаньняў, стаўляных Бодлеру (пэўны ўплыў якога, дарэчы, адчуваецца й на Жылкавым „Альбігойцу“): „Блюзьнерства не ў прыродзе Бодлера, які верыць у вышэйшую матэматыку, устаноўленую Богам адвеку, найменшае ўзрушэньне якое караецца найсуравейшымі карамі ня толькі ў нашым, але і ў іншым сьвеце. Калі ён і адмаляваў закал ды паказаў шатана ва ўсім ягоным трыюмфе, дык напэўна без усякае ласкі. У Бодлера грэх заўсёды злучаецца з дакорамі сумленьня, мукаю, агідаю, роспачай і караецца сам сабою, што бывае найгоршай караю“* (Цыт. паводле: Жылка, У. Творы... С. 74—75).





*Жылку — лепш зварочацца беспасярэдня да мяне. З тым-жа амэрыканцам, што зацікавіўся нашаю літаратураю, добра было-б навязаць і беспасярэднія дачыненьні — можна было-б гэтую ягоную цікавасьць больш задаволіць і падтрымаць.*

*„Спадчыну“ Славутычу, кажуць, ужо выслалі, і кажуць, што на новы адрыс — цікава, ці пісаў ён Табе аб гэтым.*

*„Спадчына“ Табе ўжо забраніравана й будзе, хоць яшчэ не атрыманая тут.*

*Пару цэнтаў (літаральна) кошту перасылкі кніжкі не вартыя ўспамінаньня навет.*

*А цяпер — галоўнае й строга канфідэнцыяльнае — нікому не кажы! На маю прапанову БІНІМ пастанавіў адзначыць сёлета Твой юбілей. Прытарнаваць я думаю да даты зьяўленьня тых вершаў Маёвага ў „Маладняку“, лічачы ад іх пачатак Твае паэтычнае дзейнасьці*[49]. *Як Ты на гэта? Мо ўважаеш нейкую іншую дату — раней-шую — за пачатак? І дакладна на які дзень думаў-бы найлепш вызначыць абход? Ён, па-нашаму, складаўся-б зь літаратурнага вечару, у якім — даклад (хіба, мой) і Тваё чытаньне вершаў (добра было-б, каб ужо быў „Вянок санэтаў“ ці мо слуцкая п'еса — словам, нешта й большае паміж драбнейшае лірыкі), а па вечары – г. зв. „гарбатка“, ці „банкет“. Што Ты на ўсё гэта? Летась мы хацелі зрабіць падобнае Сяднёву, але ён круціўся нек дзіўна, між намі кажучы — то адмаўляўся зусім ад юбілею на той аснове, што быццам-бы час ужо мінуў, то як-бы й згаджаўся — „і хочацца, і колецца“. Таму й выйшла нейк куртата — а калі ўжо ўсякі час мінуў, ён дазволіў гаварыць пра юбілей і адзначаць яго іншым, не літаратурным, а палітычным установам. Ну, ды Бог зь ім — нам хочацца, каб з Табою выйшла гладка, і таму я прашу тут выказаць Тваю думку мне шчыра й дакладна — г. зн. адказаць на пытаньні — ці рабіць і калі рабіць, як рабіць — дый найбарджджэй. А тым часам прашу ўсё гэта мець у сакрэце, каб канчальны эфект быў большы — рэхт?*

*Вось гэта, здаецца, і галоўнае, і ўсё.*

*Як маецца „Вянок“? Цяпер хіба, калі брусаўскі ўзор перад вачыма*[50], *усё ясна Табе што да структуры, таму й не чапаю тых спра-*

[49] Антон Адамовіч, відавочна, адлічыў юбілейнае 25-годзьдзе творчай дзейнасьці Язэпа Лешчанкі ад часу надрукаваньня ў часопісе „Маладняк“ у 1931 г. верша „Расьцьвітуць сады“ (тады яшчэ Язэпа Маёвага, а не Міхася Кавыля).

[50] Відавочна, Антон Адамовіч пераслаў Кавылю вянок санэтаў Валерыя Брусава „Роковой ряд“ (1918).

*ваў рыфмоўкі, якія Ты парушаў у лісьце, пакуль яшчэ таго Брусава ня меў перад вачыма. Наагул, Брусаў — найбольшы паэта для паэтаў, ці літаратараў, і думаю, будзе Табе ў прыгодзе ня толькі дзеля „Вянку“. Шкода адно, што саветы, „выбіраючы“, ня выбралі некаторых добрых рэчаў зь яго (у тым ліку й другога ягонага „Вянку“), заміж таго, каб падаваць усякі тандэт „октябрьско-ленинский“.*

*На гэтым і канчаю — чакаю на неўзабаўны адказ,*

*Твой Антон*

*23/I-56*

*Даражэнькі Адамовіч!*

*Шчыра дзякую за, т.ск., прапанову. Я прымаю яе зь вялікай удзячнасьцю. Што датычыць даты, дык я не магу сам вызначыць, бо калі лічыць пачатак маёй літаратурнай дзейнасьці ад першага надрукаванага ў піянэрскай газэце верша „Гудкі“ (падражаньне Александровічу[51]), дык зараз будзе налічвацца якіх 26 гадоў — ня круглы (для юбілею) лік.*

*У „Маладняку“ было зьмешчана маіх два вершы: „З прастораў“ і „Дагарае восень у лістве ружовай“, але ў якім дакладна годзе яны былі надрукаваны, я не памятую — ці ў 1931, ці ў 1932? Вось і пачынай, адкуль хочаш. Ад „Гудкоў“ ці ад „З прастораў“? Мэтазгодней было-б пачаць ад „Маладняку“, бо „Гудкі“ — дзяцінная спроба пяра, а ня літаратурная дзейнасьць. Дату вызначайце самі — калі Вам лепш выпадае.*

*Чытаць я думаю — „Вянок“.*

*Я ўжо 22-га студзеня г. г. яго закончыў на чарнавое, а зараз „шліфую“.*

*Вось яго „магістрал“:*

*Плывуць наўгад бяз ветразяў чаўны.*
*За што, Тварэц, я цяжка пакараны?*
*Мяне растлілі Скіфіі сыны —*
*Пякуць агнём, крывавяць мае раны.*

[51] **Андрэй Александровіч** (1906—1963), пралетарскі паэт, перакладнік. Друкаваўся ад 1921 г. Адзін з арганізатараў літаб’яднаньня „Маладняк“. У 1934—1937 гг. — намесьнік старшыні Праўленьня СП БССР. Рэдагаваў часопіс „Малады араты“. Рэпрэсаваны. У 1920—1930-х гг. творчасьць Александровіча падавалася як эталён пралетарскай літаратуры, у сувязі з чым зьявілася вялікая колькасьць яго эпігонаў.





*Абрыдзеў гурт нікчэмнасьці, маны.*
*Ў маіх грудзёх бушуюць ураганы.*
*Гарцуе прывід новае вайны —*
*Ідзе паэт, ад важкіх думаў п’яны.*

*Хто мае меч вігілія Парнасу,*
*Аздобіць войных рыцараў сьляды, —*
*На штурм прадоньня кліч нямую масу!*

*Ці нам штодзень спраўляць сабе хаўтуры?*
*Шумяць у сэрцы родныя сады, —*
*Блакітны бераг — пад нагамі буры.*

*„Вянок“ мне самому падабаецца. Хутка дашлю для азнаямленьня і заўваг Вам. „Вянок“ я думаю назваць „Укрыжаваньне“[52]. Але, каб „тонкадумы“ не прычапіліся, добра было-б даць гэты назоў па-лацыні, якой і я, і яны не разумеюць. Што Вы на гэта?*

*Славутычу я напішу. Яго новы адрыс:*
*687 Lyndon St., Monterey. Calif.*
*So long!*
*З прывітаньнем, Ваш М. Кавыль*

*P.S. Прабач, што пішу алоўкам. Холадна ў хаце, і я пішу лежачы на ложку.*

*М.К.*

*2.28.1956*

*Даражэнькі Міхасю!*

*Усё атрымаў, дзякую шчыра (асабліва за неспадзяваную прысьвяту), віншую з майстроўскай удачай. Праўда, некаторыя мясьцінкі яшчэ мо й трэба дарабіць, але іх мала, яны нязначныя, і, здаецца, даць рады будзе зусім лёгка. Аб гэтым больш напішу за які тыдзень, калі крыху ацераблюся ад некаторых прыкрасьцяў і дробязяў, якія не давалі пісаць апошнім часам. Зь юбілеем усё ў парадку — арыентыравачна на красавік, падрабязьней напішу таксама. А тым часам — яшчэ раз — дзякуй і ўсяго —*

*Антон*

[52] Канчатковая назва вянку санэтаў — „Цяжкія думы“.

*Дарагі Адамовіч!*

*„Шліфоўка“ заняла болей часу, як само пісаньне.*

*Дасылаю апошнюю (Дай, Божа, каб была і астатняю!) рэдакцыю „вянку“. Назоў „Укрыжаваньне“ сам сабою адпаў.*

*„Няхай ідзе сьвятое правасудзьдзе!..“*[53] *Судзеце, як найстражэй, для агульнае карысьці.*

*А што з маім папярэднім лістом? Адаслаў я яго Вам недзе 25, ці 26 студзеня г. г. Ці атрымалі Вы яго? Мяне гэта вельмі цікавіць, бо там я даў адказ на парушаную Вамі справу наконт юбілею.*

*Што з „Конаднямі“?*

*Пішэце!*

*З прывітаньнем, Ваш Міхась*

*21/II-56.*

*4.19.1956*

*Даражэнькі Міхасю!*

*Ведаю, што Ты ўжо, хіба, ліха ведае што пра мяне думаць можаш. Жартачкі: гэтулькі часу, і я ні гу-гу Табе, і то пасьля атрыманьня Твайго вянку санэтаў, пасьля пастаўленьня на парадак дзённы справы Твайго юбілею без канчальнага разьвязаньня яе... Пэўна-ж, усё-ўсякае магло думацца. Дык адразу хачу запэўніць: усё ў парадку. Ня мог заняцца гэтымі справамі проста таму, што была іншая, з тэрмінамі зьвязаная, навала. Цяпер яна адваліла, і таму бяруся за Твае справы.*

*Найперш — Твой „вянок“. Паляжаўшы, ён здаўся мне яшчэ лепшым, чымся пры першым чытаньні (адзнака добрая: памятаеш Багдановіча пра віно — „дні ідуць, праходзяць годы, а ўсё мацней, хмяльней усё робіцца яно“*[54]*). Гэта — Твой здадзены экзамэн на паэта. І экзамэн ня толькі тэхнічны. Пэўна-ж, тэхнічныя цяжкасьці „вянку“ вялізарныя, і ўдалая перамога іх — вялізманая рэч. Але Ты здолеў перамагчы ня толькі тэхнічныя супраціўы матар’ялу, але й самы матар’ял здабыць такі, што ягоныя каштоўнасьці, запраўды зь „мільёнаў тон прамытае сырое масы“*[55]*, зіхацяць і надзяць і шчырасьцяй, і сьціпласьцяй, і прасьцінёй, і ўсім гэтым, узвышаным да „пэрліны тварэньня“. І, галоўнае, гэта ўсё так блізка й так сьвежа нам, сынам тае-ж эпохі, прагнаным праз цяжкія выпрабаваньні, таксама, больш ці менш, а „цяжка пакараным“, з большай ці меншай „на лбе крывавай зоркай“, „бацькоў хрышчоных лішніх у сьвеце жыдам“*[56]*. Мо й не адразу ацэняць Твой „вянок“ — не перайтмайся гэтым: мне ясна відаць ягонае месца ў гісторыі й нашае паэтыкі, паэтычнае тэхнікі, і нашае паэзіі, і нашае эпохі, пакаленьня нашага беларускіх ня проста выгнанцаў, а больш — гнаных. Усё гэта я кажу не як нейкія „пахвалы“, якіх, як і „наганаў“, звычайна чакаюць ад крытыкаў „чытачы“ ці „маса“, а нат і самыя „паэты“, кажу як зусім шчырыя свае думкі. Хацеў-бы толькі яшчэ раз прывітаць Цябе з удачаю й падзякаваць за прысьвяту.*

*Як я ўжо адразу пісаў Табе — пэўна-ж, у такой вялікай і цяжкой працы не абыйшлося без драбніцаў, ня зусім дапрацаваных. Але гэта драбніцы. Цяпер хачу паказаць Табе на іх, як іх бачу. Пакажу толькі драбніцы найбольшыя — усе яны найбольш з галіны выражэньня. Меншыя драбніцы — ужо чыста з галіны напісаньня — ня варта й паказваць, іх проста лёгка паправіць адразу ў парадку звычайнае карэкты перад апублікаваньнем твору.*

*Дык вось якія драбніцы ў выражэньні я тым часам бачу (падаю паводле нумароў санэтаў):*

*IV. Яствам. Наватвор, узораваны на ўкраінскім „Ество“, што сваім парадкам, узораванае на расейска-царкоўна-славянскім „естество“. Але ня ў гэтым бяда, а ў тым, што ў нашай мове ён можа асацыявацца зь ядою (параўнай расейска-царкоўна-славянскае „яство“), а ня з істотаю. Калі ня знойдзеш чаго іншага, найпрасьцейшы спосаб усьцерагчыся непажаданых асацыяцыяў — яшчэ „перановатворыць“ у іства, — „іствам жывы“ — што ўжо асацыявалася-б выразна зь „істота“, „іста“, „існасьць“, і зь нічым больш.*

*„Лацьвей бальзаму...“ — „лацьвей“ тут ужыта ня зусім дакладна. Яно мае адценьне „лягчэй“, якое тут перашкаджае. Больш падыходзіла-б „мудрэй“, „валей“ (ці „вялей“).*

*VII. Разгубленага сьвету. „Разгубленага“ — грубы этымалёгічны пераклад расейскага „растерянного“, гучыць „суконна“. І непатрэбна, паколькі ў нашай мове ёсьць „зьбянтэжанага“, якое тут зусім было-б на месцы й сэнсава, і рытмічна.*

[53] Кавылёва самацытата — з другога санэту вянку санэтаў „Цяжкія думы“.

[54] Недакладная цытата зь верша Максіма Багдановіча „Бледны, хілы, ўсё ж люблю я...“: *„Верш такі, – як дар прыроды, / Вінаграднае, густое, цёмнае віно: / Дні ідуць, праходзяць годы, — / Але ўсё крапчэй, хмяльнее робіцца яно“.*

[55] Верагодна, адсылка да верша Ўладзімера Маякоўскага „Разговор с фининспектором о поэзии“: *„Поэзия — / та же добыча радия. / В грамм добыча, / в год труды./ Изводишь / единого слова ради / тысячи тонн / словесной руды“.*

[56] Антон Адамовіч цытуе вянок санэтаў Міхася Кавыля.

*VIII. Слаўнае нірваны. Эпітэт „слаўнае“ тут ня вяжацца, асабліва пры папярэднім „шукае ў бітвах“. Нірвана — глыбака нутраны стан, чужы ўсякае вонкавасьці зь ейнаю „славаю“, дый яшчэ „ў бітвах шуканаю“. Трэ было-б нешта паводля „жаданае“, хоць гэтае тут рытмічна ня ўлазіць, але нешта таго-ж ці блізкага сэнсу.*

*Меч вігілія Парнасу. Вігіліі (у старавечным Рыме ночныя старажы) звычайна ўжываюцца ў множным ліку. Адзіночны лік нядобры тут яшчэ й тым, што тры радкі вышэй успамінаецца Дантэ, імя якога асацыюецца зь імём Віргілія, старога рымскага паэты, што вадзіў яго па „пекле“. Пры гукавой блізіні „вігілія“ — „Віргілія“ гэтыя асацыяцыі крыжуюцца й уносяць закалот. Я раіў-бы ўжыць множны лік: меч вігіліяў Парнасу. Або што сваё знайсьці. Дарэчы, „вігіліі“ ў другім значаньні — ночная старожа, варта наагул, у трэйцім, адсюль, — нашае „конадні“ (па-ангельску мы й перакладаем назоў нашага часапісу „Vigils“). Дык мо ўтварыць нешта ад „конадні“ — „канодніка“?*

*IX. Душаў інжынэры. Занадта тхне Іосіфам Вісарыёнавічам, хоць ён і ўкраў гэта ў нашага Адама Бабарэкі, які ўжыў „інжынэры духу“ яшчэ ў 1926 г. (у 1927 г. Дубоўка перафразаваў у „Кругох“ у „мэліяратары духу“)[57]. Але гэтага ніхто ня ведае, а „сталінская формула“ ведамая ўсім. Прынамся трэба аднавіць Бабарэкаў арыгінал — „духу інжынэры“, а найлепш было-б нек выкруціцца з гэтых „інжынэраў“ зусім. (Калі памятаеш, Гароднья[58] й іншыя доўга дражнілі ў сваіх артыкулах узвышэнцаў „інжынэрыкамі“ на аснове Бабарэкавага вобразу; тым дзіўней было пачуць, ужо ў 1934 г. ці што, гэты вобраз з вуснаў „самога правадыра“).*

*Мазком. Ня зусім добра і ў вобразным дачыненьні (як і „формай“), і, зноў-жа, у асацыяцыйным: у некаторых мясцовасьцях „мазком“ будзе ўспрыймацца ад „мозак“ = „мозаг“, „мазгі“. Можа — „разцом ды пэндзлем“ — але тут „пэндзаль“ ня зусім добра гучыць, хоць тэхнічна ён і на месцы. Падумай, мо што надумаеш.*

*XI. Важакі патасу. Ужо „важакі“ нядобра — чысты „маскалізм“. Але горш — патасу. Грэцкае „патос“ мае „о“, а ня „а“ — апошняе зьяўляецца толькі ў нашым правапісе, паколькі тут з „о“ зыходзіць націск. Калі-ж націск перанесьці сюды (што зусім магчыма — у грэкаў тут націск рухомы, і пераходзіць, у залежнасьці ад склону, зь 1-га на 2-гі склад) — дык павінна быць патосу. Тады паўстане ў рыфме дысананс а-о: згасу — патосу. Праўда, дысанансавае рыфмаваньне ўжо ёсьць у Цябе ў санэце XIV: буры-горы. Дык гэта быў-бы другі выпадак, і таму ўжо лягчэй. Тым больш, што ў вабодвых выпадках дысанансы зусім могуць апраўдвацца сэнсам. А „буры-горы“ нат горш за „згасу-патосу“, бо цягне на асацыяцыю з польскім „gŭry“ („гуры“). Наагул кажучы, санэтны канон не дапушчае дысанансавага рыфмаваньня, дык хочучы датрымаць ягоную строгасьць, трэ было-б абодва выпадкі (і „згасу-патосу“, і „буры-горы“) зьнішчыць. Але, з другога боку, нязьнішчэньне іх ня будзе вялікай бядой, а наадварот — пэўным сьве-*

[57] Антон Адамовіч шчыра лічыў, што Іосіф Сталін пераняў некалькі формулаў „узвышэнцаў“ — аб *„сацыялістычнай зьместам, нацыянальнай формай“* культуры й выраз *„інжынеры чалавечых душ“*. Гл. у працы „Супраціў саветызацыі ў беларускай літаратуры (1917—1957)“: *„Ня менш паказальны й другі выпадак „перахвату“. Паэта Ўладзімер Дубоўка ў паэме „Кругі“ (1927) кінуў, між іншага, крылатую фразу пра „мэліяратараў духу“: Там, дзе балота скалечаных душ, / Мэліяратары духу ідуць... Ягоны сябра крытык Адам Бабарэка адразу-ж падхапіў гэты вобраз і, крыху зьмяніўшы яго, заклікаў паэтаў стаць „інынэрамі душаў“ (Адам Бабарэка. За культуру мастацтва // Чырвоны сейбіт (літаратурны дадатак да газэты „Беларуская вёска“, Менск). 1926. №1. С. 1—2). Зноў афіцыйная крытыка сустрэла гэты вобраз у шыткі, і на працягу доўгага часу Ўл. Дубоўку, Адама Бабарэку й наагул усіх іхных сяброў зь літаратурнага аб’еднаньня „Ўзвышша“ называлі не інакш, як „нашымі інжынэрамі“, „інжынэрыкамі“, практыкуючыся ў вынаходніцтве розных падобных мянушак. Аднак неўзабаве пасьля ліквідацыі гэтых „інжынэрыкаў“ органамі ГПУ ніхто іншы, як зноў-жа сам таварыш Сталін, абвясьціў пра „пісьменьнікаў — інжынэраў чалавечых душаў“, і грамадзкасьць вітала яго з энтузіязмам як запраўднага аўтара гэтага афарызму. Малаверагодна, што⇨ ⇨ Сталін чытаў творы беларускіх пісьменьнікаў і запазычваў ідэі непасрэдна зь іх, але бясспрэчна, што ён карыстаўся рэгулярна пастаўлянымі яму падрабязнымі зводкамі „руху ідэй“ па ўсім Савецкім Саюзе“* (Цыт. паводле: Адамовіч, Антон. Супраціў саветызацыі ў беларускай літаратуры (1917—1957) // Адамовіч, Антон. Да гісторыі беларускае літаратуры. Менск: 2005. С. 749). Упершыню гэты тэзіс Адамовіч агучыў у артыкуле „Ўзвышэнства як беларуская нацыянальная ідэалёгія“, апублікаваным у „Беларускай газэце“ ў 1942 г. (Гл. тое ж выданьне. С. 296—297).

[58] **Алесь Гароднья** (сапр. **Аляксандар Функ**; 1899—1944), крытык, празаік. Друкаваўся ад 1925 г. Быў сябрам „Беларускай літаратурна-мастацкай камуны“, „Маладняку“. Актыўны крытык эстэтычнай плятформы аб’яднаньня „Ўзвышша“. Арыштаваны ў 1930 г. як „нацдэм“. Памёр у зьняволеньні.

*жым паневам, які не пашкодзіць таму канону, а твору ў цэлым, як кажная сьвяжыня, адно паможа.*

*XIV. Чайкаў. Ня зусім добра: у нас „чайкі“ ня птушкі, а лёгкія чаўны — лодкі. Уведзенае Танкам „кбгаркі“ — слова з-над „беларускага мора“ — возера Нарач — вельмі прыгожае. Але тут яно ня лезе рытмічна. Можна было-б крыху „прыкляпаць“, каб улезла, другое слова „бела-чорных“ у „бел-чорных“ (як ёсьць-жа „бел-чырвона-белы“), тады было-б: „а ў небе кагарак бел-чорных (пасмаглых) крыльле“. Але нек „не таго“, праўда? Падумай сам, што выдумаеш!*

*Напрамкі — украінскае малпаваньне рас. „направления“, у нашай мове зусім немагчымае, пакольні няма „прама“ (ёсьць толькі ў штучна зрусыфікаванай савецкай „белмове“). Канечна трэба — кірункі.*

*Утоплыя званы — і па-расейску, і наверх — вульгарна. Зусім добра было-б і сэнсава, і асабліва — гукава — затонныя. „А мо на дне затонныя званы“ — гучыць дасканальна.*

*Вось гэта, здаецца, і было-б усё. Як бачыш, няшмат, і ў бальшыні нестрашное, але хацелася-б, каб і шліфоўка была на вышыні — ці-ж не? Дык падумай над усім гэтым, і што надумаеш, ці выдумаеш — пішы пад развагу*

*Цяпер — зь юбілеем. У „Маладняку“ я знайшоў першы верш Язэпа Маёвага — „Расьцьвітуць сады“ — у № 4, г. зн. красавіковым, за 1931 г. Але Ты, здаецца, казаў, што гэта ўжо ня першы друкаваны Твой — дык дзе, калі, і пад якім псэўдонімам быў першы?*

*Ды каб гэтыя й былі першымі храналёгічна, дык усё роўна першым паэтычна трэ было-б уважаць „З прастораў“, які Ты й сам гэтак цэніш, перадрукаваўшы яго ў „Пад зорамі белымі“. Ён-жа надрукаваны ў тым-жа „Маладняку“ ў № 5, г. зн. маёвым, за той-жа 1931 г., і пад ім і дата стаіць 13.V.1931. І „маёвыя“ даты, і псэўдонім „Маёвы“ — усё гэта падказвала-б юбілей на май месяц сёлета.*

*Цяпер — тэхнічная справа. У маі маем такія сыботы: 5, 12, 19, 26. Найбольш хіба падыходзіла-б 12 (якраз той верш быў напісаны 13). 19 занята — будзе нейкі хор з Канады, беларускі, даваць канцэрт. У мяне была думка аб 26 — якраз 30-годзьдзе „Узвышша“, і спалучыць з Тваім юбілеем (асабліва, пакольні „З прастораў“ — вынік выразнай „учобы“ ў Пушчы, якая ў 1931 г. магла мець дэманстрацыйны характар[59]). Але баюся, што іншыя „паэты“ й „агнаты“ наробяць гармідару, тым больш пасьля Твае прысьвяты „вянку“ мне (Дубоўка пісаў калісь, у „Там, дзе кіпарысы“: „Дзяўчыне прысьвяціць паэму? Адразу скажуць: „нешта ёсьць!“ Правадыру якому — „Пэўна, падмазваецца, ягамосьць!“ Гэтак могуць тут зрабіць зь мяне „правадыра“, а зь Цябе — „ягамосьця“).*

*Пішы свае пагляды й меркаваньні. Тут больш-менш выясьніцца ў гэтую сыботу, але-ж Твае меркаваньні могуць быць заўсёды ўлічаныя.*

*Днямі вылезуць з друкарні „Конадні“. Вельмі-ж пакутна гэтым разам радзіны іхныя, бо — „трэба грошы, няма грошы“. Вершы я ўсё-ж упхнуў усе, і Твае, і іншых. Тваім я даў агульны загаловак „На халодную вайну“, узяты з аднаго з Тваіх радкоў. Ламаць нумару гэтым разам мне не давялося — рабілі Арсеньнева з Шукелайцем[60], бо я на той час быў хворы (прастудзіўся ў часе, калі вялікі сьнег рабіўся на вялікую ваду, набраўшы яе ў чаравікі; меўшы тэмпэратуру, мусіў ісьці на радыё гукаць прамову да 25 сакавіка, і так паправіў, што мусіў два тыдні папраўляцца). Ня бачыў яшчэ гэтага нумару, але спадзяюся, што ня будзе вялікага страху.*

*Тым часам гэта й было-б усё. Пішы адразу-ж па атрыманьні гэтага хоць збольшага, асабліва ў справе даты юбілею.*

*А тым часам — выбачай яшчэ раз за даўгое няпісаньне*
*і жыві здароў!*

*Твой Антон Адамовіч*

[23.05.1956][61]

*Даражэнькі Міхасю!*

*Твой вечар адбудзецца ў сыботу 2-га чырвеня, ніякіх адгаворак ад Цябе не прыймаем — гэта справа Інстытуту, а не Твая. Адбудзецца нат, калі-б Ты не зьявіўся — але падумай, як бы гэта выглядала для Цябе? Калі ўсё-ж маеш нейкія яшчэ засьцярогі ці мо хацеў-бы перанесьці на другі дзень, дык пішы праз Ханяўку[62] ці каго іншага з Сайт-*

[59] Ва ўзвышэнскага паэта Язэпа Пушчы (1902—1964), незадоўга перад тым 1931 г. жорстка раскрытыкаванага, арыштаванага й высланага, вучыцца нават у вобразна-тэхнічным пляне было даволі небясьпечна.

[60] **Антон Шукелойць** (н. 1915), грамадзка-культурны дзеяч. Доўгі час быў сябрам рэдкалегіі газэты „Беларус“. Сябра БІНіМу й дапамагаў у выданьні яго пэрыёдыкаў.

[61] Датуецца паводле штэмпэлю на паштоўцы.

[62] **Часлаў Ханяўка** (1909—1988), грамадскі дзеяч. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі й на агранамічным факультэце Віленскага ўнівэрсытэту.⇨



У літаратурнае згуртаваньне „Шыпшына".
Ад Міхася Кавыля

Заява.

Прашу залічыць мяне сябрам
літаратурнага згуртаваньня „Шыпшына".
24/VI-46 г. М. Кавыль.

Заява Міхася Кавыля на ўступленьне ў Згуртаваньне „Шыпшына“. 1946 г.

*Рывэрскіх, хто будзе тут у сыботу 26-га, або тэлеграфуй — не пазьней як 26-га!*

Антось[63]

*Дарагі Антось.*

*Я вельмі хацеў бы, каб Вы нічога не рабілі. Прычынаў шмат. Адну я ўжо ўказаў у ранейшай паштоўцы. Другая вось якая: першы верш „Гудкі“ я надрукаваў у 1929 годзе. Юбілеі пачаткуюцца ад першага надрукаванага верша і акругляюцца ў якуюсь „25“, „30“, ці „50“. Вось жа гэтага круглага ліку не атрымліваецца ў мяне, бо ж пераваліла за „25“. Дык чаго нам сьпяшыць? Даруй, што я цяпер аб гэтым пішу, бо я, прызнацца, ня думаў аб гэтым сур’ёзна. Ну, а калі ты „залез“ зы мною, ці з маім юбілеем, далёка і будзеш мець няпрыемнасьці, дык рабі. Але яшчэ раз прашу пачакаць да трыццацігодзьдзя. Я яшчэ не зьбіраюся паміраць.*

⇨ Браў актыўны ўдзел у Беларускім студэнцкім саюзе. Падчас Другой сусьветнай вайны працаваў у Камітэце беларускай самапомачы ў Бэрліне, Беларускім камітэце ў Варшаве. Займаўся вызваленьнем беларусаў, што трапілі ў нямецкі палон. У паваеннай Нямеччыне займаўся арганізацыяй беларускага школьніцтва. У 1950-х выехаў у ЗША. Жыў у Саўт-Рывэры. Сябра БАЗА, адзін з заснавальнікаў і сябра ўправы нью-джэрзійскага аддзелу арганізацыі.

63 На адвароце надпіс рукою Кавыля: *„Адаслаў „Вянок“ 11/VI-56 г.“*





*Калі выкруціцца ня ўдасься і давядзецца Вам усё ж спраўляць вечар, дык запрасеце наступных асоб:*

*1) Korbut, 292 Turnpike St., South River, n.g.*

*3) Ul. Mashchonski, 30 Eastern Ave, New Branswek, n.g.*

*4) Anton (Антось... Сябра Корбута, адрысу ня ведаю).*

*Вось і ўсё. Пастарайся для мяне — нічога не рабіць.*

*З прывітаньнем, Міхась Кавыль*

*26.5.56*

*P.S. Зараз бегаў (лятаў, можна сказаць) да Сп. Ханяўкі. Працуе. Няма з кім перадаць гэты ліст, а таму перасылаю па пошце. Не сьпяшэце, маем час.*

*Чакаю ліст ад Вас.*

*М.К.*

*6.3.1956*

*Даражэнькі Міхасю!*

*Ткі на Тваё выйшла — зь вечару тым часам нічога ня выйшла: усе даступныя нам залі занятыя на сыботы й нядзелі аж да канца месяца (усе канчаюць сэзон перад летнімі вакацыямі, чаго мы ня ўлічылі). Дык, уважаючы й на Твае просьбы, й на іншыя абставіны, пастанавілі адкласьці на восень, каб, магчыма, адчыніць новы сэзон якраз Тваім аўтарскім вечарам. Але-ж зваць яго будзем проста аўтарскім, паколькі Ты катэгарычна пярэчыш — і маеш у гэтым фармальную рацыю, бо 1929—1956 запраўды не даюць круглае цыфры — супраць называньня яго юбілейным. Апроч усяго, увосень людзі й адпачнуць, і надвор’е цяпер вельмі неспрыяльнае — то духота, то дождж і золь. Учора заміж Твайго вечара мелі дыскусію ў справе ліку жыхарства на Беларусі, вузкую, на якую чакалі толькі тыя, што цікавяцца такой рэчай, і ладзілі ў „кутку“ БАЗА — пакойчыку ня больш як на 20 асобаў, а надвор’е выпала такое паскуднае, што прыбыло каля 10-х, ня ўсе, на каго спадзяваліся, і мы з Арсеньневай (яна ня меншы энтузіясты Твайго вечару, як я) былі толькі здаволеныя, што гэта ня Твой вечар, які быў-бы ў гэтым часе, каб дасталі залю, і выйшаў-бы з гэтага боку запраўды „пшыкаватым“. Дык, значыцца, на восень.*

*Пачынаем ужо зьбіраць матар’ял на наступныя „Конадні“, хоць, праўда, „у кішэні пуста“ (але, пад сакрэтам, мо ўдасца ўладзіцца з друкам у Эўропе й на эўрапейскі кошт, тады й рэгулярней будзе, й*

*можна будзе больш размахнуцца). Думаю, што ў гэты нумар мусіць папайсьці Твой „Вянок“, ён і адчыніць нумар*[64]. *Дык, калі згода (а ня бачу прычынаў, каб не), і калі маеш яшчэ якія мо папраўкі — прысылай (зрэшты, час на гэта ёсьць – папраўкі можна рабіць аж да апошняй карэкты, да чаго яшчэ вельмі далёка).*

*Напачатку ліпеня ізноў еду ў Эўропу на канфэрэнцыю Інстытуту*[65]*, тады мо й з друкам „Конадняў“ уладжу (тым часам аб гэтым не кажы нікому).*

*Што цяпер робіш — ці бо пішаш? Мо яшчэ што маеш для „Конадняў“ — мо якую прозу ці п'есу (здаецца, пісаў жа, што спрабаваў нешта падобнае). У нас заўсёды бяда з прозай і драмай, бо вершаўлірыкі заўсёды Бог дае, дзякуй яму, над дастаткам. Дык калі-б мей нешта з гэтага — заўсёды месца будзе, не зважаючы на вершы, якія сваім парадкам бязь месца не застануцца. А ўжо варта Табе паспрабаваць сябе й па-за вершамі.*

*Што-ж да вершаў, дык, калі маеш ахвоту — маю для Цябе яшчэ адзін „фокус“, мо й не цяжэйшы за „вянок“, але ў нас яшчэ таксама нябывалы – „сыцыліяну“. Калі будзе цікава — напішу, што гэта за штука, як яна робіцца.*

*А тым часам – вітаю,*
*Пішы!*

*Твой Антон*

*[11/VI-56]*

*Даражэнькі Антось!*

*Дзякую за ліст і ўсе тое, што ты зрабіў для мяне! Хоць ты і ня хочаш, каб я прысьвячаў табе „вянок“, але гэта, як ты казаў, не твая справа, а мая. Ня было-б цябе, не зьявіўся-б на сьвет і „вянок“, а таму я табе яго і прысьвяціў.*

*„Цяжкія думы“ дасылаю з гэтым лістом. Калі заўважыш яшчэ якіясь недаробкі, пішы. Буду ўдзячны. Здаецца, прыдрацца ўжо няма да чаго. А можа? З боку відней.*

*Да восені яшчэ далёка, маем час дагаварыцца. А лепей нічога мне не гавары, бо я тады губляю спакой, а напішы за якіх пару дзён да вечару: „Прыяжджай на вечар...“ і ўсё. І будзе ўсё „окей“.*

[64] Вянок санэтаў Кавыля „Цяжкія думы“ сапраўды адкрываў нумар „Конадняў“, аднак адбылося гэта толькі праз два гады. Гл.: Кавыль, Міхась. Цяжкія думы (вянок санэтаў) // Конадні. №5-6. 1958. С. 3—9.

[65] Маецца на ўвазе Інстытут вывучэньня СССР (Мюнхэн).





*„Цыцыліяна“ мяне саб'е з панталыкі, і я не закончу пачатае: перарробку драмы „Недасьпяваная песьня“. Як ні цяжка ўсё амаль занава перарабляць, але хочацца давесьці да канца тое, што нам патрэбна і чаго ў нас няма. Праўда, я не драматург [і] бачу гэта сам, але, можа, штосьці вылупіцца зь вераб'інага яйка... Дык з „сыцыліянай“ трошкі пачакай, не дасылай, бо калі дашлеш і мне спадабаецца, — „Недасьпяваная песьня“ так і не дасьпяваецца.*

*Вельмі быў бы рад, каб „Цяжкія думы“ (хоць раз) вылезьлі наперад. Дзякую! З „Конаднямі“ сапраўды трэба штось рабіць. А ці не жадаеце пагаварыць на гэтую тэму зь Янкам Золакам? У яго ёсьць друкарня, нядрэнна выглядае „Палесьсе“*[66]*, якое ён друкуе. Калі што, я магу зь ім пагутарыць. Напалову будзе дзешавей, я думаю.*

*Яшчэ адно. Успомніў пра „Палесьсе“ і прыгадаў сваю крыўду на Крушыну*[67]. *Вось-жа, на вокладцы „Палесься“ красуюцца такія словы „Ой, ты край мой залаты, край мой васільковы...“ Падпісана — Крушына. У першым нумары таго-ж „Палесься“ быў зьмешчаны ўвесь верш, зь якога ўзяты гэтыя радкі. Таксама верш падпісаны Крушынам. Але Крушына яго не пісаў. Верш гэты пісаў я, друкаваўся ён, здаецца, у „Новым шляху“ Сядуры, ці ў „Раніцы“, добра ўжо ня памятую. Дык вось, буду прасіць цябе, каб ты, як паедзеш у Нямеччыну, пры спатканьні з Крушынам назваў яго плягіятам. Больш нічога.*

*Жадаю ўсяго найлепшага!*

*З прывітаньнем, М. Кавыль*

*Галоў у хату!*

*У панядзелак паслаў „вянок“. Думаў, што ўжо сьпіхнуў цяжар з плеч, аж ізноў давялося садзіцца за машынку: надумаўся сёе-тое зьмяніць. Вось-жа адразу і да справы. У другім санэце першыя два радкі другога катрэну выкінь і замяні наступнымі:*

*„Сумленьне мераць на стальны аршын?*
*Валей Сыбір, Галгота катаваных“*[68].

[66] Літаратурна-мастацкі часопіс „Палесьсе“ выдаваўся ў Канадзе (Таронта-Манрэаль), выйшла ўсяго два нумары: №1—2 за 1955 год.

[67] **Рыгор Крушына** (сапр. Казак; 1907—1979), паэт, празаік, крытык, грамадзкі дзеяч. У той час працаваў у Мюнхэне на радыё „Вызваленьне“.

[68] Папраўка ў друкаваным варыянце ўлічаная. У першай рэдакцыі гучала як: *„Сумленьне мераў на стальны аршын / Глушыў частушкай енкі катаваных“* (тут і далей цытуецца паводле машынапісу з аўтарскай і рэдактарскай праўкай, што захоўваецца ў архіве БІНіМу).

*Гэта болей будзе адпавядаць праўдзе, бо я і так шмат узьвёў на сябе напрасьліны.*

*Каб не паўтаралася слова „валей“, у чацьвертым санэце першую палову першага радку апошняга тэрцэту зьмяніць так: „Асілка роздых —“*[69]

*У пятым санэце ў апошнім радку першага катрэну слова „няўдачаў“ замяніць на „заломаў“.*

*У трэцім санэце ў першым радку апошняй тэрцэты слова „сквіляць“ замяніць на „скугляць“.*

*І апошняя замена. Каб не паўтаралася слова „крыльле“, у дзясятым санэце ў другім радку першай тэрцэты словы пасьля працяжніку „мацуе крыльлі“ замяніць на „сьцінае хмары“. Вось, здаецца, і ўсё.*

*Як спадабаліся мае ўсе папраўкі? Што новага? Ці піша да Вас Славутыч?*

*Чакаю на хуткі адказ!*

*З прывітаньнем, Ваш М. Кавыль*

*13/VI-56.*

*P. S. Атрымаў толькі што „Бацькаўшчыну“. Расхіліў бачыны і... „Урачыста панясём цымбалы многазвонныя“*[70] *... А з кім панясе? Зь Сядурам і Целяшам*[71] *хіба... Усе разьбегліся.*

*Хацеў я па ём стукнуць, але баюся чапаць: чаго добрага засіліцца... Не хачу грэх на душу браць.*

*І якое трэба мець сумленьне, каб залічаць сябе ў „узвышэнцы“ ды яшчэ пры кожнай нагодзе выхваляцца гэтым, калі сам ён добра разумее, што такіе, як ён, паганілі сваімі творамі сьвятыя ідэалы сапраўдных узвышэнцаў.*

[69] Папраўка ўлічаная. Гл. першую рэдакцыю: *„Латвей бальзаму хвораму парада“* папраўлена на *„Валей бальзаму хвораму парада“*. У друкаваным варыянце: *„Асілка роздых — хвораму парада“*.

[70] Віцьбіч, Юрка. „Урачыста панясем цымбалы мнагазвонныя“ (Да 10-годзьдзя „Шыпшыны“) // Бацькаўшчына. №21 (303). 20 траўня 1956.

[71] **Мікола Цэлеш** (1900 — пасьля 1976 г.), літаратар, перакладнік. Вучыўся ў Бялыніцкай народнай вучэльні. Ад 1916 г. жыў на поўдні Расеі. У 1919 г. уступіў у Чырвоную Армію, адкуль дэмабілізаваўся ў 1924 г. Ад 1929 г. пачаў друкавацца. Перад вайной працаваў у часопісе „Паляўнічы Беларусі“, выдаў чатыры кнігі прозы. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку жыў у Нямеччыне. У 1949 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Зарабляў фізычнай працай. У 1976 г. зьнік бязь вестак.





*Мярзотнік, пагромшчык — вось ён хто!*[72]

*М.К.*

*Дарагі Адамовіч!*

*Не дачакаўшыся адказу на апошні, з хворую галавою пісаны, ліст, — пішу ізноў. Вось-жа, калі яшчэ ня позна, дык у „Вянку“ зрабеце наступнае: апошнія папраўкі ў санэтах №№ 2 і 4 не рабеце, пакіньце, як было, а ў санэце № 7 слова „лічаць“ (кубаны) замянеце словам „лудзяць“. Вось і ўсё, што я яшчэ дагледзеў.*

*Як справы з „Конаднямі“? Калі думаеце выдаць? Прысьвяту, калі яна Вам шкодзіць, можацеануляваць. У нас тут друкуецца часапіс „Прыйсьце“*[73]*. Калі цікавіцеся ім, я вам тое-сёе напішу аб яго паяўленьні на сьвет.*

*Драму я амаль завяршаю, а таму змагу, бадай, узяцца за сыцыліяну. Калі можаце, дашлеце форму.*

*Ня злуйце на мяне, бо няма за што!*

*На паседжаньне Інстытуту я не магу зьяўляцца выключна па сямейных прычынах.*

*Уплыньце на БАЗА-ўцаў у напрамку стварэньня адной рэпрэзэнтацыйнай Арганізацыі.*

*З прывітаньнем, Ваш Міхась Кавыль*

*26/X-56 г.*

*01.11.1956*

*Даражэнькі Міхасю!*

*Усё зьбіраўся-зьбіраўся напісаць Табе ліст, аж дачакаўся Твае паштоўкі. Калі злаваць на каго, дык гэта Ты на мяне меў-бы, аніяк ня я на Цябе. Але прыехаўшы з Эўропы, паваліла ўсякая трасца, як з рукава — усякія драбніцы, а за імі й ліста не напішаш (павер, ня толькі Табе, але нікому ніяк не зьбяруся напісаць). І гэта — бачыш — паштоўку шкрэбаю, але ўжо ў цьвярдым намеры ў цягу якога тыдня здабыцца й на ліст, у якім і пра сыцыліяну будзе, і пра канчальныя ўдак-*

[72] Усе гэтыя закіды Кавыль, відавочна, робіць таму, што надзеі на Юрку Віцьбіча ў справе шырокага разгортваньня літаб’яднаньня „Шыпшына“ ўрэшце ня спраўдзіліся.

[73] „Прыйсьце“ — літаратурна-мастацкі часопіс. Выдаваўся ў Саўт-Рывэры, рэдактары: Янка Золак і Міхась Кавыль. Выйшаў адзін друкаваны нумар (№1. 1958). №2 — кантрольны асобнік: часткова — друкам, часткова — у рукапісе.

*ладненьні ў „Вянку“. Выхад для „Конадняў“ нарэшце здабылі і пачынаем майстраваць аж падвойны нумар, які будзе адчыняцца Тваім „Вянком“. Пра „Прыйсьце“ першы раз чую — пісані, што за яно (праўда, апошнім часам наагул мала што чую). Дык тым часам да ліста!*

*Твой Антон*

*3.1.1957*

*Даражэнькі Міхасю!*

*Так і ня ўправіўся ў старым годзе напісаць Табе таго, колькі разоў дакляраванага, ліста. Ну, ды ліха зь ім, із старым! Другая ягоная палавіна, а самы канец найбольш, выпалі мне вельмі-ж „перагружанымі“, дык ня толькі Табе, а й нікому наагул ніводнага людзкага ліста не напісалася. Ня дай Божа, каб і Новы год гэтак пакруціўся, таму адразу-ж (добрае адразу: толькі на 3-ці дзень Новага году!) бяруся за ліст — Табе — найперш.*

*„Конадні“ нашыя рухаюцца вельмі памалу — ня было й на іх часу за ўсім-усякім — але-ткі рухаюцца й нарэшце вырухаюцца. Нумар мае быць падвойны й адчыняцца Тваім вянком. То-ж-бо, як зірнуў я на яго сягоньня — яму ўжо год набягае (напісаны ці бо датаваны 20 студзеня 1956 г.!). Ну, але з другога боку, прынамсі відаці, што не барздасьпейка.*

*У ім ужо блізу ўсё ОК, толькі, перачытаўшы цяпер, бачу нейкую пару драбніцаў, якія яшчэ можна было б дашліфаваць. Ад іх і пачну.*

*1. У санэце №1 — „пазбавілі шатаны“ — слова „пазбавілі“ гучыць неяк запразаічна. Ці нельга было-б знайсьці чагось больш экспрэсійнага — выразьлівага? Але гэта дробязь, можа быць і так, як ёсьць.*

*2. У санэце №3 крумкачы „скугляць“ (было „сквіляць“). Ці падходзіць гэты гук да іх — „скугляць“, або й „сквіляць“? Крумкачы звычайна крумкаюць, крумцяць можна было-б, крычаць нарэшце (але апошняе ўжо ёсьць дзесь у іншым месцы, дзе груганы крычаць). Тутака і алітэрацыя „кр“ добрая. Але можна было й так, як ёсьць, ізноўжа — не бяда.*

*У санэце №5 „пагост“ крыху зарасейскі (тут якраз груганы крычаць, аказваецца). Мо якая „трупярня“ — хоць яна ўжо гучыць „запольска“. Можа „бы над трупоўем“? Але, зноў-жа, магло-б і застацца, як ёсьць, не бяда.*

*У санэце №7: 1) бяда з гэтым „драмсам“ — па-ангельску „drums“ множны лік, у Цябе выходзіць адзіночны — усё роўна як паводля на-*





*шых тутэйшых старых эмігрантаў „брыксіна“=„цэгліна“, ад „брыкс“ — множны лік — „цэглы“, а не ад адзіночнага — „брык“. Ня зусім і „танец шчакаўны“, танец у нас да больш плаўнага ўжываецца, а ўсё „шчакаўное“ ўжо больш выклікае „скок“. Можа неяк так — „вітаюць гойкам, скокам шчакаўным“? і 2) „Парыж гукае шалам кабарэту“ — таксама нек ня вяжацца. Мо „шугае“ — яно-б і сваім „ш“ увязвалася добра з гукавога боку.*

*У санэце №8 „бесканцовасьць“ лепш замяніць на „бесканцоўе“ — ну, гэта вельмі лёгка.*

*У санэце №10 „парочных“ — яўны русіцызм. Дакладны пераклад „спагудных“ (паводля Ластоўскага). Але можна было-б і нек іначай тых „блазнаў“ пакрыць. Думаю, гэта лёгка можа знайсьціся.*

*У санэце №11. Ранейшы тэкст „тралюе сьвет бязбожны ў procьму трасу“ быў лепшы, чымся новы — „цярэбіць“. Апошняе слова ёсьць у санэце 14; дый „тралюе“ тут гукава добра вяжацца з „трасу“. Мо аднавіць стары тэкст?*

*У санэце №12 „ды пахкасьць, смак адзін у спарышу“ — нек цяжка гучыць, ці ня лепш было-б — „ды пах а смак адзін у спарышу“? („а“ ў сэнсе „і“ ўжывае і народная мова, і паэтычная, прыкл. Дубоўка: „Думкі а пачуцьці, любыя атожылкі“; праўда, Янка Станкевіч злоўжывае тут, замяняючы кажнае „і“ на „а“, што немагчыма, і тым як-бы кампрамэтуе гэтае ўжываньне, як шмат што, за што возьмецца; але тут яно было-б зусім на месцы).*

*Гэта было-б усё. За папраўкамі можаш ня вельмі сьпяшацца, іх можна паправіць і ў вапошняй карэкце, да якой яшчэ далёка, і перад якой я магу зрабіць яшчэ раз канчальнае запытаньне ў Цябе.*

*Цяпер — другое. Кажаш, што мае ўжо час на сэкстыну, якую я Табе калісь прапанаваў, дык падаю тут ейны канон. Гэта рэдкая штука, у нас яшчэ няма ніводнай. Яна складаецца з 6-х строфаў па 6 радкоў кажная ды заключная страфа з 3-х радкоў. Уся музыка ў тым, што рыфмаў, сьцісла кажучы, няма, але шэсьць словаў, што на канцох шасьцёх радкоў першае страфы, павінны прайсьці на канцох усіх іншых радкоў у гэткім пераліку:*

*Страфа*

*1 – A B C D E F (гэта словы, якімі канчаюцца гэтыя радкі)*

*2 – F A E B D C*

*3 – C F D A B E*

*4 – E C B F A D*

*5 – D E A C F B*

*6 – B D F E C A*

*Заключ. – B D F (або A C E або F C A).*

*Ёсьць яшчэ і ўскладненьні — можна й рыфмаваць, але толькі на 2-3 рыфмы (паводля схемаў: ababa*a*, або babab*b*, або abaab*b*, або baaba*a*, дзе а — мужчынская рыфма, b — жаноцкая, або дактылічная, ці гіпэрдактылічная, a* b* — другія рыфмы — мужч. і ня мужч.). У заключнай страфе можна „хаваць“ і іншыя з паўторных словаў, каб у ёй паўтараліся ўсе паўторныя словы (у першым радку ў сярэдзіне ўжыць — „схаваць“ яшчэ B або E, у другім — D або C, у трэйцім — F або A). Хітрая штука? Пашукай, мо ў тым Брусаве, што ёсьць у Цябе, ёсьць узор. Уся штука, каб знайсьці такія шэсьць словаў, якія далей можна было-б паўтарыць у канцох усіх іншых радкоў у тым парадку, што паказаны. Лепш спачатку паспрабаваць не рыфмаваць, а ня ўдасца — паспрабаваць другую й з рыфмамі.*

*Памер звычайна 5 або 6-стопны ямб.*

*Можаш яшчэ ў заключнай страфе „хаваць“ у кажным радку B D F. Ёсьць і яшчэ розныя варыянты.*

*Дык, калі маеш час і ахвоту — паспрабуй патрэніравацца. Трэба будзе што паясьніць — пытайся. Можа, знайду дзе добры ўзор (у расейцаў таксама рэдкая штука) — прышлю.*

*У гэтым паўгодзе мо будзе больш часу. Украінцы прапануюць ладзіць супольныя аўтарскія вечары, дык тады стрывожыць давядзецца й Вас з Вашага благаславеннага Саўт-Рывэру — і Цябе, і Масея. Але пра гэта яшчэ будзе пісацца.*

*Пішы! І што там за часапіс „Выйсьце“ ці „Прыйсьце“, пра які сам пісаў — і калі выйдзе?*

*Тым часам вітаю,*

*Антон*

*Дарагі Антось!*

*Дзякую за ліст! Ніжэй падаю „Чалавека“, напісанага згодна Вашай формы. У Брусава нічога не знайшоў і пісаў без усялякага ўзору, а таму ня ведаю, ці адпавядацьме гэны „Чалавек“ канонам сэкстыны. Калі што ня так, хутчэй напішэце. Дык вось [...]*[74]

*Праўда, што гэта „хітрая штука“, як Вы пісалі.*

*Я болей ламаў над ёй голаў, як над „Вянком“.*

[74] Пропуск у лісьце. Відавочна, выразаны тэкст сэкстыны Міхася Кавыля „Чалавек“.





*Што да „вянку“, дык, прызнацца, быў так захоплены сэкстынай (чаму Вы яе празвалі неяк сыцыліянай?), што ня меў часу паправіць. Зараз бяруся за „Вянок“.*

*„Прыйсьце“ паўстае (вельмі марудна), як адпаведная рэакцыя „шыпшынаўцаў“ на сьмерць „Шыпшыны“. Няма чаго шаптаць у кулак, а трэба сказаць праўду ў вочы: ня ўсе паэты і пісьменьнікі на эміграцыі могуць друкавацца ў „Бацькаўшчыне“ і „Конаднях“, ды нават і тые, якія маюць гэтую магчымасьць, ня могуць ею карыстацца ва ўсёй поўні. А таму была спроба аднавіць „Шыпшыну“, але яе „бос“*[75] *сказаў: „Пабачым...“ „Бачыў“ і нюхаў, дзе пахне фондамі, аж да 1955 г. Запахла зь Нью-Ёрку. Кінуўся стрымгалоў туды, „вышменаванай Спадарыне“ (Н. А.)*[76] *паляцелі лісты зы словам „Дарагая Наташа“ і г.д. Але... асечка. Вяртае вецер на свае кругі. Аднойчы кажа мне: „Так, трэба выдаваць „Шыпшыну“. З гэтымі абармотамі да нічога ня дойдзеш“. А я кіўнуў галавой. І паляцелі лісты да ~~Клішэвіча~~*[77] *Ліманоўскага*[78]*, Сядуры, Вярбы*[79]*,*

[75] Маецца на ўвазе Юрка Віцьбіч.

[76] У ініцыялах угадваецца Натальля Арсеньнева.

[77] **Уладзімер Клішэвіч** (1914—1978), пісьменьнік, грамадзкі дзеяч. Па заканчэньні настаўніцкіх курсаў працаваў настаўнікам у Слуцку, ад 1933 — студэнт Менскага пэдагагічнага інстытуту. Друкаваў вершы ад 1931 г. Рэпрэсаваны ў 1936 г, высланы на Калыму. Падчас вайны жыў у Слуцку, рэдагаваў „Газэту Случчыны“. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну. Ад 1948 г. жыў у ЗША.

[78] **Янка Ліманоўскі** (1896—1989), празаік, літаратуразнаўца. Пісьменьнік-функцыянэр, быў сябрам „Маладняку“ і БелАПП. У 1929 г. стаў дырэктарам БДТ-2. Потым — намесьнікам кіраўніка Інстытуту літаратуры й мастацтва БелАН. Праз выкрыцьцё зьвестак аб шляхецкім паходжаньні быў выключаны з партыі й зьняты з пасады. Працаваў на катэдры замежных моваў у Політэхнічным інстытуце. Падчас нямецкай акупацыі — загадчык літаратурнай часткі менскага гарадзкога тэатру. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1949 г. пасяліўся ў ЗША. Жыў у Чыкага. У 1952—1954 гг. — дырэктар БІНіМу. У 1954 г. перабраўся ў Мюнхэн для працы ў беларускай рэдакцыі радыё „Вызваленьне“, аднак адпрацаваў там нядоўга. Вярнуўся ў Чыкага. Адышоў ад БІНіМу.

[79] **Мікола Сільвановіч** (псэўданім **Вярба**; 1917—1975), грамадзкі дзеяч, літаратар, філятэліст. Адзін са стваральнікаў у 1946 г. у Заходняй Нямеччыне творчага аб’яднаньня „Шыпшына“. Арганізаваў майстроўню беларускага мастацкага рамяства „Раніца“. У 1949 г. выехаў у Канаду. Жыў у Вініпэгу.

*Дудзіцкага[80], Жамойды[81] і інш. з просьбай аб дасылцы твораў, а я пайшоў як ~~казначэйным „босам“~~ сакратар (Сяднёў у гэты час да В.[82] не заходзіў, пісаў „Каб ісьці й не сустракацца“...) з падпісным лістом. Назьбіраў каля сотні даляраў. В. атрымаў ад Рытарыхі[83] і, здаецца, Савёнка, ці як яго прозьвішча[84], ня ведаю, пару апавяданьняў, ад Сядуры крытычны артыкул на мой зборнік вершаў і інш., Золак падахвоціўся друкаваць „Шыпшыну“. Усё было „окей“, але... У рэдактара[85] ў галаве закруціў другі вецер і, напіўшыся да „потери сознательности“, ён прышкандымаў да мяне ў хату, абклаў „культурнымі словамі“ мяне і маю жонку, а я, доўга не думаючы, культурна папрасіў яго болей да мяне не зьяўляцца. За пару дзён па гэтым я пашоў да яго пагутарыць па справах „Шыпшыны“. Дома якраз была яго жонка, якой ён аб сваіх паходжаньнях ніколі нічога ня кажа, і, баючыся майго разаблачэньня, В. прыняў мяне дыплёматычна — улыбаючыся. Наконт „Шыпшыны“ сказаў: „Шыпшына згуляла сваю ролю і яе ня варта аднаўляць“. Я аб гэтым сказаў Золаку і Сяднёву. Грошы былі ў мяне. Золак сказаў: „Раз так, абыйдземся і бяз В.“ І ўзяўшы ў мяне грошы, у суме 70 даляраў (Сядура сваю ахвяру ў суме 25 даляраў патрабаваў, каб яму вярнулі, што было зроблена, 5 даляраў В. расходуваў на свае патрэбы...) пачаў друкаваць „Прыйсьце“... Друкуе і зараз. Дай, Божа, каб надрукаваў у 1958 годзе...*

[80] **Уладзімер Дудзіцкі** (сапр. **Гуцька**, на эміграцыі **Гіцкі**; 1911 — пасьля 1976), паэт, публіцыст, грамадзкі дзеяч. У 1949—1956 гг. жыў у Вэнэсуэле. У 1956—1962 гг. — кіраўнік беларускай рэдакцыі радыё „Вызваленьне“ ў Мюнхэне. У 1962 г. выехаў у ЗША. Некаторы час жыў у Нью-Ёрку, пазьней перабраўся ў Індыяну, дзе ў 1976 г. бясьсьледна зьнік.

[81] **Сымон Жамойда** (1915—2008), грамадзкі й рэлігійны дзеяч. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі. У 1945 г. у Гармішы (Баварыя) удзельнічаў у выданьні газэты „Беларуская воля“. У пачатку 1950-х гг. выехаў у ЗША. Аўтар мэмуарнага тэксту „Убачанае й перажытае“.

[82] Маецца на ўвазе Юрка Віцьбіч.

[83] **Іна Каханоўская** (дзяв. **Рытар**, у першым шлюбе **Сеўрук**, псэўданім **Аляксандра Саковіч**; 1906—1997), пісьменьніца, грамадзкая дзяячка, другая жонка Аўгена Калубовіча (Каханоўскага). Ад 1955 г. жыла ў Кліўлэндзе. Выкладала ў беларускай суботняй школцы, займалася літаратурнай творчасьцю. У 1986 г. выйшаў збор твораў „У пошуках праўды“.

[84] Асоба ня высьветленая. Савёнкам быў на той час толькі Лявон (1897—1974), але ён у 1950-х гг. апавяданьняў, здаецца, не пісаў.

[85] Маецца на ўвазе Юрка Віцьбіч.





*Вось і ўсё кораценька аб „Прыйсьці“.*

*Што да вечарой з украінцамі, дык я магу толькі прывітаць такое пачынаньне. Можа і мне сягды-тагды ўдасься вырвацца з Саўтрывэрскай ямы на сьвет Божы.*

*Бывайце жывы і здаровы!*

*З сардэчным прывітаньнем,*
*Ваш Міхась Кавыль*

*14/І-57 г.*

*19.1.57*

*Дарагі Антоні,*

*Адказваю адразу-ж, як Ты гэтага і пажадаў. І таксама, каб было лягчэй, па пунктах.*

*1. Назоў. Яшчэ раз — згода. Ён сапраўды „общепонятный“, ня толькі з гледзішча мовы — за ім нічога не стаіць, ён проста ў лоб, як з пляча секануты, нічога не хавае ў сабе, ардынарны і ў гэтым сэнсе антымастацкі. І яшчэ — ён спэцыфічны, у той час калі такой спэцыфікі ў мяне ня будзе. Дык перад друкам у „Конаднёх“ я знайду іншы, сапраўдны назоў.*

*2. Папраўка з сакваяжыкам. Таксама згода — я зрабіў яе няўдала, адмахнуўся толькі тэхнічна, зьляпіў канцы фармальна, паясьніў тое, што і так (чытай далей сцэну ў „гаспадыні“) ясна. Дык ня трэба, памойму, ніякіх паправак — дзякую, што зьвярнуў на гэта ўвагу і падказаў выхад. А ці Генадзі Кандраценя забыў сакваяжык, ці пакінуў можа яго знарок (да гэтага яшчэ дойдзе, і я, магчыма, зайграю на гэтым) толькі можа ўзмацніць, а не аслабіць „любопытство“. І наагул-жа, як вядома, „дагаварваць“ ня добра. Дык калі ласка, выкіні тое „ўзяў сакваяжык“ і столькі ўсяго. За разом у наступным сказе замяні слова „прытуліўшыся“ на „прытаіўшыся“ (бал. 8).*

*3. Валіна рэакцыя на замкнутыя дзьверы. Твая заўвага правільная і тут. Гэтага аклёпанага „ёкнула“ я да зарэзу ня люблю і дзіўлюся сам, як я гэта сабе дараваў. Згаджаюся з Тваім уматываваньнем — папраў гэтак, як Ты прапанаваў мне, выкрэсьлі ўсё ад „пацягнула“ да „дзьвярэй“. А ў наступным сказе перад „спалохалася“ пастаў Твае „аж“ і будзе добра.*

*4. Валін унутраны маналёг. Праўда, што я, гаворачы за Валю, „няўзнак перайшоў з 3-й асобы на першую“, памыліўся проста, а потым (вычуў), што гэтак ня добра, і зноў паправіў на 3-ю. Чаму? Мне здаецца, што гэтак мусіць быць, што інакш нельга. Так я пішу*

ня толькі ў гэтым месцы. Гэта, па-мойму, звычайны, усюды прыняты ход, прыём. Калі я памыляюся, калі гэта не звычайны ход (я не магу цяпер праверыць гэтага), дык гэта маё „вынаходніцтва“ — прынамся, я ня браў прыкладу ад некага, не насьледаваў, дальбог. (Я ўжо даўно наогул нічога, можна сказаць, не чытаю). Мае, напрыклад, рэмінісцэнцыі на Шылера[86] і Франса[87] — стары капітал... Гэта-ж, як ты кажаш, унутраны маналёг, і як яго можна перадаць інакш? Я мог-бы перайсьці і на 1-ю асобу, на „дакладныя“ думкі гэтай асобы, але-ж трэба тады было-б браць іх у нейкія двукосьсі, чаго я ня вельмі люблю і што не заўсёды зручна. Што Ты хацеў напісаць, напішы, цікава.

Твой М. Кавыль

Выбачай за неахайны ліст — так выйшла.
Далучаю пару балонак з таго-ж разьдзелу.

1.30.1957

Даражэнькі Міхасю!

Твой ліст-палосіну з „Чалавекам“-сэкстынаю атрымаў. Мушу сказаць — Ты маладзец! „Гарэшак“ разгрыз і хутка, і спрытна. Яшчэ адзін (пасьля „Вянку“) экзамэн на паэтычную тэхнічную сьпеласьць вытрымаў бліскуча. Хоць я яшчэ „зь мікраскопам“ і ня ўзяўся (часу няма), але „на вока“ ніякіх нявытрыманасьцяў у каноне ня бачу. Адно дзьве драбніцы, чыста-стылістычнага парадку:

1. „За што, Тварэц, такі над сынам зьдзек“ — я паставіў-бы заміж „Тварэц“ — „Айцец“, бо, раз, што гэтага проста просіць наступны „сын“. А, два, што „Тварэц“ пераклікаецца зь „Вянком“, ды ён нат у тым-жа злучэньні „За што, Тварэц“...

2. У самым апошнім радку „джвагнуць“ нек выпадае з стылю, out of style. Хоць само па сабе й моцна, але нек паверхам ніжэй (асабліва пасьля такога „высокапаверхавага“ — „О!“).

Мо яшчэ якія дробязі знойдуцца, перачытваючы, але тым часам няма.

Дзе друкаваць? У тым самым нумары, дзе „Вянок“ — было-б, як кажуць Маскалі, „два гриба на одну ложку“ — і „грыб“ „вянку“ засталучыў-бы колькасна меншую сэкстыну. Трэ было-б „рассрочить“. Як Твой пагляд?

[86] **Фрыдрых Шылер** (1759—1805), нямецкі паэт-рамантык, драматург, філёзаф.

[87] **Анатоль Франс** (1844—1924), францускі празаік, крытык.





„Сэкстына“ — дакладнейшы назоў, „сыцыліянай“ называюць яшчэ (і, папраўдзе, часьцей) адзін зь відаў актавы (схема abababab, 5-стопны ямб).

У мяне зьявілася адна ідэя, але-ж — час, дзе яго ўзяць? Баюся нат і пісаць. Ці бачыў Ты калі зборнік Брусава „Опыты“[88] ? Там ён даў свае собскія ўзоры больш-менш усіх міжнародных мэтраў, строфаў, кананічных формаў з адпаведнымі даведкамі на кожны выпадак. Во каб нам з Табою на нешта падобнае ўзяцца? Я-б падабраў даведкі, а Ты — узоры, і выйшаў-бы такі зборнік. Пры тым, што ў нас дасюль няма тэорыі верша — гэта быў-бы й свайго роду падручнік. Як Ты на гэта глядзіш? У мяне, з майго боку, адна была-б бяда, што бліжэйшымі месяцамі ніяк нельга было-б на гэта часу ўрваць.

Як я калісь пісаў Табе, Салавей яшчэ ў 1946 г. хваліўся, што напісаў аж 3 „вянкі санэтаў“, але баіцца яшчэ пушчаць іх. Калі Ты напісаў свой „Вянок“, я зь ім падражніўся, што вось ужо ён і ззаду. Ён маўчаў аж дасюль, а цяпер напісаў, што неўзабаве прышле адзін зь вянкоў, канчальна адшліфаваўшы. Яшчэ няма. А калі прышле — дык папраўдзе будзе сьвята беларускага верша: аж 2 „Вянкі“!

Вялікі дзякуй за інфармацыю пра „Прыйсьце“. Калі-б маглі выходзіць ня толькі 2, а й больш літ. часапісаў у нас — ці-ж гэта было-б блага? Нядобра было-б адно, каб пры нашых абмежаных фінансах яны, праз узаемную неасьведамленасьць, друкавалі-б адны й тыя-ж рэчы. А гэткі страх у мяне зьявіўся, калі Ты ўспомніў пра апавяданьне Рытарыхі. То-ж яна й нам дала гэты свой скарб — і што будзе, калі ён зьявіцца і тут, і там! А нам, папраўдзе — і толькі між намі кажучы — і зусім не хацелася-б яго мець. Таму я прасіў-бы Цябе даведацца, ці ёсьць гэтая рэч у „Прыйсьці“ на варштаце, ці хоць-бы сабе ў „партфэлі“. Яшчэ лепш было-б наагул ведаць, што мае быць у „Прыйсьці“, бо могуць быць і яшчэ падобныя выпадкі падвойнай траты сродкаў (дарэчы, часта гэта робіць Віцьбіч, і розныя свае „Немны спад сьвятой гары“ друкуе па 2 і больш разоў у розных часапісах[89] . Аднойчы

[88] Гаворка пра кнігу: Брюсов, В. Опыты по метрике и ритмике, по евфонии и созвучиям, по строфике и формам (стихи 1912—1918). Со вступительной статьей автора. Москва: Книгоиздательство „Геликон“, 1918. — 200 с.

[89] Нарыс Юркі Віцьбіча „Плыве з-пад сьвятое гары Нёман“ сапраўды друкаваўся ў некалькіх выданьнях адначасна: Віцьбіч, Ю. Плыве з-пад Сьвятое Гары Нёман. Мастацкі нарыс. Ч. 1 // Бацькаўшчына. №39—40 (221—222). 31 кастрычніка 1954; №7 (237). 13 лютага 1955; №8 (238). 20 лютага 1955;⇨

рэдактар „Беларуса“ зьняў адзін такі ягоны „опус“ ужо набраны, бо ён якраз зьявіўся ў іншым месцы, і з свае кішэні заплаціў за набор). Калі-б Ты мог мне даць гэтыя весткі — быў-бы Табе вельмі ўдзячны, а далей мяне гэта не пайшло-б.

А так — каб былі ня толькі „Конадні“, а яшчэ й якія „Злыдні“, ці „На-Тым-Тыдні-Два-Дні-Тры-Дні“, і ня толькі „Прыйсьце“, але й „Выйсьце“ ці „На-Пшык-Зыйсьце“ — якая бяда? Адно Золак дзівак: яго калісьці запрашалі і ў „Конадні“, але-ж у яго нейкія „ганары“. І цяпер, каб прыслаў вершы — напэўне надрукавалі-б. У „Конаднях“ могуць друкавацца ўсе абсалютна (як, думаю, і ў „Бацькаўшчыне“), але-ж іх замала для ўсёй прадукцыі ўсіх, і іншыя часапісы ані не пашкодзілі-б.

Пішы!

Тым часам вітаю, Твой Антон

2.5.1957

Даражэнькі Міхасю!

Ліст атрымаў, дзякую, і адказваю гэтым разам, як бачыш, проста зь месца.

І што гэта Табе прыйшло, што Салавей Цябе зь першага месца выпхне? Я-ж тое месца сам Табе адразу-ж забясьпечыў і напісаў. Што да даты, дык ня ведаю, якую Салавей паставіць — ён наагул прыслаў яшчэ толькі 4 санэты — №№4—8 — і мо й зусім не пасьпее. Думаю ўсё-ж, што ён, як і заўсёды, акуратны ў датах, і калі і ўспамяне 1946, дык не адзін, а й з 1957. Гэта будзе відаць, і ў кажным разе, як толькі буду ведаць — паведамлю Табе, і абмяркуем, як датаваць Твой вянок — павер, што зробім усё бяз крыўды для нікога. Дык не бузі!

Рады, што ідэя тыпу „Опытов“ Табе падабаецца. Як і пісаў Табе, галоўная бяда тут для мяне — час. Але пастараюся вырваць зь яго

⇨ №9 (239). 27 лютага 1955; №10 (240). 6 сакавіка 1955; №11 (241). 13 сакавіка 1955; №12—13 (242—243). 25 сакавіка 1955; №14 (244). 3 красавіка 1955; №20 (250). 15 траўня 1955; №21 (251), 22 траўня 1955; №22 (252). 29 траўня 1955; №23 (253). 5 чэрвеня 1955.

Віцьбіч, Ю. Плыве з-пад Сьвятое Гары Нёман (Урыўкі: 1. Малітва ў паруганай Белай царкве; 2. Пахавала Віцьба Езафатаў камень) // Божым Шляхам. №62. Верасень—кастрычнік 1954. С. 11—12.

Віцьбіч, Ю. Плыве з-пад Сьвятое Гары Нёман. (Урыўкі: 1. „Стаяць і паміраць!“; 2. „...Назоў Смаленску паходзіць ад смалы...“) // Віці. №1 (7). Студзень 1955. С. 11—12.

Асобным выданьнем пабачыў сьвет у Мюнхэне ў 1956 г.





нейкія „міжчасы“, у якія апрацаваць праграму й пакрысе падкідаць Табе „гарэшкі“. Справа гэтая паважная й некароткая — мо нат на гады, але мо як выжывем — выцягнем, не?

Вялікі дзякуй за інфармацыі пра „Прыйсьце“. Хто гэта можа на яго „гневацца“ й за што, тым болей, што яшчэ няма й ягонага „выйсьця“? Яшчэ раз паўтару — калі будзе больш часапісаў, дык толькі цешыцца можна. Але паўтару й тое, што і ў „Конаднях“ усе могуць друкавацца, хто захоча (і, зразумела, зможа). Ды бяда тут і зь „людзішкамі“ — вось і ў нас той-жа Клішэвіч, не дачакаўшыся, тое самае пальнуў у „Б-ну“, а цяпер дзьмецца — не дае нічога. А Золак? Як проціаўтара — ані я, ані хто іншы ня меў і ня мае нічога проці яго. Хіба я блага адазваўся пра яго, як пра „слуцкага песьняра“, яшчэ ў „Шыпшыне“[90] ? А пасьля таго — ці чапаў яго дзе? І запрашалі-ж яго. Калі хочаш — можаш сказаць яму ад мяне, што я тутака сказаў: як і іншыя, можа друкавацца і ў „Прыйсьці“, і ў „Конаднях“, і яшчэ дзе хоча — пэўне-ж, толькі не адны й тыя рэчы — і ані яму, ані каму гэта не перашкодзіць, а толькі наадварот.

Што Рытарыха трапіла ў скарбніцу таго „васьмінога“[91] — туды ёй і дарога (нат вершам выйшла), няхай захоўваецца для гісторыі — мо зь вякамі й набярэ мацунку. Але бяда з гэтым Юхнаўцом, Юхневічам, Юхноўскім, Юхненко, Юхневам, Юхнезонам, Юхцешвілі й г. д. То-ж і ў нас стос апавяданьняў ляжыць — адно ад драмы ці трагікамэдыі Бог крыў. І шкода хлапца — трэ было-б цыркнуць, але што? Дык яшчэ адно пытаньне да Цябе — што іменна выбралі Вы для „Прыйсьця“, каб ня ўзяць і нам таго самага? А рэшта ўсё ў парадку. Зь вершамі, зрэшты, ужо не так страшна, калі й паўторыцца, але большыя рэчы — проста шкода марнаваньня сьціплых нашых капеек.

Гэтым разам, здаецца, усё. Папраўкі да вянку — О.К.

Пішы!

Вітаю, Твой Антон

„Васьміног“, здаецца, і на мяне „болт положил“ — даўно штось і ня піша, і не адпісвае.

[90] Маецца на ўвазе артыкул Антона Адамовіча: Альгердзіч, Г. Нашчадкі і спадкаемцы (Крыху думак каля „слуцкіх песьняроў“ і нашае літаратурнае сучаснасьці) // Шыпшына. 1946. №2. С. 30—40.

[91] Гутарка зноў жа ідзе пра Юрку Віцьбіча.

*Даражэнькі Антосю.*

*„А ўсё той кот, вядзьмарны кот*
*Сяброўства сьцежку нам дратуе“…*

*Здаравенны той „кот“, але ногі я яму калісь паперабіваю. Хай, да часу ўсё. А цяпер аб тым, што хацеў. Неяк зацягнулася справа з „Коняднямі“. Прычыну я трохі ведаю, але чым дапамагчы, ня ведаю, а мо проста „на дадзеным этапе“ не магу. Ці ёсьць якіе пэрспэктывы (калі не сакрэт?) на будучыню, бо я ўжо закончыў другі вянок і ня ведаю, куды яго піхнуць. За першы баюся, што ён можа ўтраціць „злабаднеўнасьць“. Чакаю на цёплае славечка.*

*З прывітаньнем, Міхась.*

*20/I-58*

*23.01.58*

*Даражэнькі Міхасю!*

*Аніякіх катоў, ані кошак, ані кацянятак навет. Усё ў парадку, нат з „Конаднямі“ да яго даходзіць — якраз цяпер маю на руках апошнюю карэкту ў зламаным выглядзе, „Цяжкія думы“ йдуць першыя (першыя 9 бал. нумару), за імі сэкстына „Чалавек“ (яшчэ 2 бал.). Так што часапіс выйдзе, хоць некалі (ужо як набраны й зламаны — дык дзе-ж дзенецца?), а што пасьля будзе — Бог бацька… Другі вянок прышлі пачытаць, а друкаваць мо пакуль ня зьявіцца першы (а такіж зьявіцца!) — ня ведаю, ці было-б добра. А месца яму як ні ў „Конаднях“, наступны № яшчэ Бог ведае калі зьбярэцца, дык у якой „Бацькаўшчыне“ заўсёды знойдзецца. Усе цёплыя словы ў гэтую сьцюдзёную зіму —*

*Антон*

[10.05.1958][92]

*Даражэнькі Міхасю!*

*Паведамляю зьмену свайго адрысу!*
*147 East 97 St., apt. 1-E*
*New York 29, N.Y.*

*Чуюся вельмі (сь)вінаватым, што дасюль на той вянок другі нічога не напісаў, як дакляраваў, але-ж ніяк рукі не даходзяць, ды настрой ня той — вянок той агулам ОК, але ёсьць некаторыя тэхнічныя дэталі, а за іх брацца — трэ й час і настрой. Усё-ж, далібог, зьбяруся. Дык — не крыўдуй! Спадабаліся мне вельмі некаторыя вершыкі ў Чарняўскага „Siaubicie“*[93]*, хоць сам гэты „Siaubit“ — Божа мой!*

*Дык ня крыўдуй!*

*Заўсёды Твой Антон*

*Выйшлі нарэшце „Конадні“, але прыйшоў тым часам толькі 1 экзэмпляр.*

6.4.58[94]

*Даражэнькі Міхасю!*

*Квітую атрыманьне новае рэдакцыі „Лёду“. Ня маеш рацыі, што „або ўзяць на душу грэх, або пакрыўдзіць аўтара“ — ні таго, ні другога, проста рукі не даходзяць, але та[к]і дойдуць неўзабаве. Трэбаж парушыць рад тэхнічных рэчаў, а цяпер ужо й варыянтаў, усё гэта зойме прастору, а значыцца й час. Некаторыя радкі ў старой рэдакцыі якраз падабаюцца лепш (перарэдагоўваньне — працэс разумовы, і гэтым рацыяналізмам паэты псуюць часам спачатныя паэтычныя варыянты, што ёсьць, прыкладам, у Багдановіча)*[95]*. А што хто гаворыць — плюй сьлінай, гаварыць заўсёды будуць. „Конадні“ яшчэ плывуць звычайнай поштай, як толькі прыплывуць, адразу атрымаеш. Твой вянок вельмі спадабаўся Нат. Арсеньневай, кажа, лепш за Салаўёў, наагул, кажуць ранейшыя скептыкі да ўсяго нумару, што выйшаў вельмі добры. А што ўсюды Тваё прозьвішча — не бяды, гэта не кампрамэтацыя. Пішы!*

*Антон*

[92] Датуецца паводле паштовага штэмпэлю.

[93] Беларускамоўны каталіцка-грамадзкі часопіс **„Siaubit“** выходзіў у ЗША раз на два месяцы ў 1958—1973 гг. Рэдактарам быў **Францішак Чарняўскі** (1893—1979), рэлігійны дзеяч. Вучыўся ў Віленскай духоўнай каталіцкай сэмінарыі. Ад 1920 г. — сьвятар. У 1920-х гг. вучыўся ў Рыме, дзе абараніў магістарскую дысэртацыю. Удзельнік уніяцкага руху. З 1929 г. — місыянэр у Францыі, вёў душпастырскую дзейнасьць сярод польскіх і беларускіх вуглякопаў. У кастрычніку 1933 г. выехаў у Бэльгію, дзе выдаваў і рэдагаваў бюлетэнь „Божае слова“. Ад красавіка 1957 г. стала жыў у ЗША.

[94] Трэба чытаць як 04.06.1958.

[95] Як варыянт, можна лічыць, што Адамовіч робіць тут адсылку да другой рэдакцыі „Слуцкіх ткачых“ Максіма Багдановіча, які істотна перарабіў верш у апошнія дні жыцьця, што, на думку многіх крытыкаў, не пайшло твору на карысьць.

*21 сакавіка 1963 г.*

*Даражэнькі Міхасю!*

*Патрэбныя Табе радкі Дубоўкі (імі пачынаецца прысьвячэньне паэмы „Там, дзе кіпарысы“ Кастусю Станкевічу, эмігранту з Заходняе Беларусі) чытаюцца гэтак:*

*Дзяўчыне прысьвяціць паэму?*
*Адразу скажуць: „нешта ёсьць!“*
*Праваднру якому — „Пэўна,*
*падмазваецца, ягамосьць!“*

*Беспасярэдня за гэтымі йдуць яшчэ два радкі, якія можа таксама падыйдуць для Твае мэты:*

*Сьмяешся, Костусь? Мне казалі*
*Аднойчы „добрыя сябры“...*

*Што да Твайго другога пытаньня пра зоркі — мышыныя норкі, дык наагул кажучы, тэрмін „плягіят“ — „творакрадзтва“ — звычайна не прыкладаецца да запазычаньняў адзінкавых добрых элемэнтаў, як асобныя радкі, вобразы, нат матывы. У тэй расейскай паэзіі, зь якое Ты хочаш пазычыць гэты вобраз, прыкладаў на падобныя рэчы процьма, і то пачынаючы ад самога Пушкіна, які, прыкладам, радок*

*Цветет отчизны край златой*

запазычыў з Бацюшкава

*Москва, отчизны край златой,*

Цютчаў радок

*Часов однообразный бой*

цалкам запазычыў у Дэльвіга й г. д. і да г. п.[96]

[96] Гл. верш Аляксандра Пушкіна „Кольна (Подражание Оссиану)“, 1814): *„Спокойны дебри Каломоны,/ Цветет отчизны край златой; / Но Кольна там не обитает, / И ныне по стезе глухой / Пустыню с милым протекает, / Пленившим сердце красотой“.*
Параўнай у Канстанціна Бацюшкава ў вершы „К Дашкову“ (1813): *„Нет, нет! талант погибни мой / И лира, дружбе драгоценна, / Когда ты будешь мной забвенна, / Москва, отчизны край златой!“*
Таксама гл. верш Антона Дэльвіга „К Евгению (Ты в Петербурге, ты со⇨





*Я ня памятаю, у якога гэта паэта НРС[97] ёсьць той вобраз, што Цябе й цікавіць, але калі гэта паэта невялічкі (што барджджэй за ўсё), дык няма чаго й думаць. А калі нат і большы паэта, дык толькі самому ня трэба казаць нікому, дык ніхто й не падумае навет. А каб падумаў і пачаў гаварыць, дык тады просты аргумэнт, што такія рэчы бываюць скрозь (можна падаць і гэтыя прыклады), прычым нельга ніяк цьвердзіць, што гэта запазычаньне, а ня просты супадак, самазараджэньне аднолькавых матываў, вельмі частае ў літаратуры, і толькі таго. Нарэшце, нехта (на жаль, ня памятаю хто, але было гэта, здаецца, у дыскусіі зь імажыністымі) добра сказаў, што „образы ничьи — Божьи“, собскасьці на іх ніякай няма, пазычаць сьмела можна.*

*Новага больш тым часам нічога. Якраз таго самага 19, калі Ты слаў сваю паштоўку, я выслаў Табе ліст зь некаторымі меркаваньнямі пра магчымыя ўдасканаленьні некаторых мясьцінаў у прысланых у „Конадні“ вершах. Спадзяюся, што Ты ўжо атрымаў, абдумаеш і адпішаш неўзабаве.*

*А тым часам — вітаю, жадаю ўдачаў,*

*заўсёды Твой*
*Антон*

⇨ мной)“ (1821): *„Друзьям пою любовь, похмелье / И хлопотливое безделье / Удалых рыцарей стола, / За коим шалость и веселье,/ Под звон блестящего стекла, / Поют, бокалы осушают / И громким смехом заглушают / Часов однообразный бой“.*
Параўнай у Фёдара Цютчава ў вершы „Бессонница“(1829): *„Часов однообразный бой, / Томительная ночи повесть! / Язык для всех равно чужой / И внятный каждому, как совесть!“.*
Дыямэтральна супрацьлеглыя па тэматыцы вершы гэтыя сапраўды, як і адзначае Антон Адамовіч, ня могуць быць нават у нейкай ступені прылічаныя да плагіяту. Падобнасьць радкоў магла адбыцца й бяз простага пазычаньня.

[97] Гаворка пра папулярную рускамоўную газэту „Новое русское слово“ (Нью-Ёрк).

*Тамаш Грыб*

# ДВА АРТЫКУЛЫ

*Калі пачынаеш пералічваць імёны-іконы дзеячаў 1920—1930-х гг. — Мітрафан Доўнар-Запольскі, Усевалад Ігнатоўскі, Уладзімер Пічэта, Вацлаў Ластоўскі, Браніслаў Тарашкевіч, Аляксандар Цьвікевіч, Аркадзь Смоліч, Язэп Лёсік, Сьцяпан Некрашэвіч, Адам Станкевіч, Антон Луцкевіч, — выразна ўсьведамляеш, што за кожным зь іх акрамя чыну ў гісторыі стаіць сабраная й выдадзеная спадчына: манаграфіі, артыкулы, пераклады.*

*У гэтым сьпісе яскрава адчуваецца адсутнасьць імя — а зь ім і кнігі — Тамаша Грыба, палітычнага й культурнага дзеяча, аднаго з аўтараў Устаўных грамат БНР, міністра земляробства й міністра ўнутраных спраў у Радзе БНР, лідэра Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў, рэдактара й выдаўца шэрагу часопісаў, філёзафа, публіцыста, загадчыка беларускага Замежнага архіву ў Празе, бібліятэкара, бібліёграфа, перакладчыка.*

*З ініцыятывы Беларускага інстытуту навукі й мастацтва ў 2011 г. распачалася праца па зборы, укладаньні й выданьні працаў гэтага выбітнага дзеяча, да якой выказалі жаданьне далучыцца як знаныя гісторыкі, так і маладыя навукоўцы, што дасьледуюць гісторыю беларускай эміграцыі ў былой Чэхаславаччыне; сярод іх — Валянціна Лебедзева, Уладзімер Ляхоўскі, Андрэй Буча.*



Тамаш Грыб

*Гэтая публікацыя ў рубрыцы „Будучыя кнігі“ пакліканая засьведчыць сур'ёзнасьць нашых намераў і запрасіць усіх ахвотных да талакі.*





***Грыб, Тамаш*** *(7(19).03.1895, в. Паляны Сьвянцянскага пав. Віленскай губ., цяпер Астравецкі р-н Гродзенскай вобл. — 25.01.1938, Прага, Чэхаславаччына).*

*Псэўдонімы: 1) Глеба, Т.; 2) Н-ка, А.; 3) Небарака, А.; 4) Небарака, Антон; 5) Т.; 6) Т. Г.; 7) Т-г; 8) Т-ш.; 9) А. N.; 10) G-be; 11) Ge, Tamasz; 12) N-ka, A.; 13) Niebaraka, Anton; 14) T. (лац.); 15) T. H. (лац.); 16) Тита, В.*[1]

## Што такое нацыянал-дэмакратызм[2]

У бальшавіцкім друку за апошні час з дня ў дзень паўтараюцца баёўныя словы: *„мы выкрылі й разграмілі“ — „партыя выкрыла й разграміла“ — „органы аховы пралетарскае дыктатуры выкрылі й разграмілі“*. І нібы ў адказ на гэта: *„вораг разьбіты, але недабіты“ — „засталіся яшчэ недабіткі“ — „мусімо завострыць нашу пільнасьць“ — „трэба максымальна ўзмацніць барацьбу“ — „бязьлітасная барацьба з рэшткамі недабіткаў“ — „выкрыць, выкарчаваць і аканчальна разграміць!“*.

Але што сталася, у чым справа?

Супраць каго намерана баёўнасьць гэтых словаў?

Вось нібы ў малітвах шпітальнае бабы: *„згінь-прападзі, дух шатанскі“ — „цьфу-цьфу-цьфу“* — гучаць тыя словы жорстка, настойліва, агідліва, драпежна і разам з тым — распачліва, трусьліва.

З кім бальшавікі вядуць такую барацьбу, зь якімі нячыстымі сіламі, зь якімі духамі?

Відовішча ёсьць годнае ўвагі багоў! Бальшавікі вядуць змаганьне зь беларускім нацыянал-дэмакратызмам…

### 1

Што такое нацыянал-дэмакратызм?

А. Зюзькоў, адзін з выдатнейшых бальшавіцкіх гісторыкаў, шчыра і адкрыта прызнаецца, што ў бальшавіцкім друку няма выразнага азна-

---

[1] Псэўданімы шчодра падказаныя Янкам Саламевічам.

[2] Друкуецца паводле першапублікацыі: Іскры Скарыны. 1935. № 5. С. 4—48. Праца апублікаваная пад псэўданімам *Т. Глеба*. Моўныя асаблівасьці аўтарскага тэксту захаваныя. Камэнтары рэдактара адмыслова пазначаныя ў спасылках.

чэньня гэтага тэрміну; ужываецца — „умоўна“; наогул, *„у нас гэту назву ўжываюць цяпер усюды“*[3].

Выходзіць так, што бальшавікі, ужываючы слова нацыянал-дэмакратызм, самі ня ведаюць, што трэба разумець пад гэтым словам, не разумеюць таго, што пішуць і гавораць!

Бальшавікі хваляцца на ўсе бакі сваей марксысцка-ленінскай навуковасьцю, а ў рэчаіснасьці — ня вызнаюцца нават і ў слоўных выразах: для іх усё роўна, што дуб ці то вольха; якая, маўляў, розьніца, калі на дубе і на вольсе растуць зялёныя лісьця!

Бальшавіцкая навука — гэта ўсё роўна, што боты без падэшвы: адна толькі назва!

**2**

Спрабуемо ўсё-ж такі вызначыць канкрэтна-рэчаісты зьмест слова нацыянал-дэмакратызм. Прычым: наперад ухіляемо ўсялякія дамнеўкі і прыпушчэньні; дасьледжуемо гэта слова так, як яно ўжываецца ў бальшавіцкім друку.

Пачнем з устанаўленьня гістарычных фактаў.

Калі бальшавікі пачалі ўжываць слова нацыянал-дэмакратызм?

Слова нацыянал-дэмакратызм бальшавікі пачалі ўжываць вусна і ў друку ў 1930 г. Гэта быў час вялікага ўзлому: бальшавікі адмянілі НЭП і пачалі ўводзіць дзяржаўны капіталізм.

Узьнікла гэта слова, мабыць, раптоўна, як гнеўны выкрык роспачы, як лаянка. Бальшавікі былі ў той час у вялікай роспачы і вельмі гневаліся: адмянілі НЭП, а ўвядзеньне дзяржаўнага капіталізму не адбывалася так гладка, як гэта ім раней здавалася. Яны памыляліся, як звычайна, у сваіх разрахунках; шмат цярпелі ад розных няўвязак, гневаліся, а сваю злосьць зганялі на іншых. Асабліва моцна разгневаліся бальшавікі на беларускую інтэлігэнцыю; не на ўсю, праўда, а на тую частку беларускае інтэлігэнцыі, якую ў пэрыяд НЭПу вабілі і запрашалі да супрацоўніцтва ў розных савецкіх установах, з пашанаю сустракалі, давалі высокія і адказныя пасады і, трэба прызнаць іх зручнасьць, дапялі свае мэты: стварылі масавае зьменатычніцтва[4] ў асяродзьдзі беларускай інтэлігэнцыі, прыдбалі сабе лояльных супрацоўнікаў ва ўсіх галінах гаспадарчага, культурнага і палітычнага жыцьця. У пэрыяд НЭПу гэта частка беларускай інтэлігэнцыі шчыра і аддана супрацоўнічала з бальшавікамі, але адыйшла ад бальшавікоў, адмовілася ад іх кіраўніцтва ў пэрыяд будаўніцтва дзяржаўнага капіталізму — павісла ў паветры. Бальшавікі ў роспачы закрычалі: *„здраднікі“ — „шкоднікі“ — „контррэвалюцыянэры“ — „нацдэмы“*!

Гэтак узьнікла слова — беларускі контррэвалюцыйны нацыянал-дэмакратызм.

**3**

Ведама, нельга ўважаць, што слова нацыянал-дэмакратызм ня мае ніякага зьместу. Бальшавікі гэта слова ўжываюць умоўна, але гэта не азначае, што не ўкладаюць у яго ніякага зьместу. Кожнае слова мае свой унутраны псыхічны зьмест[5]. Слова бязь зьместу — пусты гук. Мусімо шукаць, дзеля гэтага, унутраны псыхічны зьмест слова нацыянал-дэмакратызм, калі гэта слова ня ёсьць пусты гук.

Аб першапачатковым зьмесьце слова нацыянал-дэмакратызм можамо судзіць з гісторыі яго ўзьніку.

Беларуская інтэлігэнцыя, якая ў пэрыяд НЭПу лояльна супрацоўнічала з бальшавікамі, верыла ў магчымасьць паступеннага зжываньня бальшавіцкае дыктатуры, спадзяючыся на бальшавіцкі рэфармізм зьверху, на мірную эвалюцыю, верыла ў магчымасьць павольнага пераражджэньня бальшавіцкае дыктатуры ў дэмакратыю, імкнулася да зьдзяйсьненьня дэмакратыі. Згэтуль і назва — дэмакраты, а іх мэтаімкненьні — дэмакратызм. Іншае паходжаньне мае слова „нацыянал“; у

[3] Зюзькоў, А. Крывавы шлях беларускай нацдэмакратыі. Менск, 1931. С. 5.

[4] Калька з рускага слова „сменовеховство“ (ад зборніка артыкулаў „Смена вех“; Прага, 1921), назвы руху за супрацоўніцтва й прымірэньне рускай эміграцыі з савецкай уладай, які разгарнуўся ў 1920-я гг. у краінах Эўропы. ⇨ Прыхільнікі гэтай ідэі лічылі, што камуністычны рэжым разьвіваецца ў дэмакратычным кірунку й пачынае кіравацца нацыянальнымі інтарэсамі Расеі. — ***Рэд.***

[5] Магчыма, намёк на мовазнаўчыя ідэі **Вільгельма фон Гумбальта** (1767—1835), у тым ліку аб унутранай форме слова. Параўнай: *„Вялікая колькасьць прадметаў створаная словамі, якія іх азначаюць, і толькі ў іх знаходзіць сваё быцьцё (гэта можна распаўсюдзіць на ўсе прадметы ў тым сэнсе, што яны мысьляцца ў словах і ў думцы ўзьдзейнічаюць праз слова на дух)“* (О влиянии различного характера языков на литературу и духовное развитие // Гумбольдт, Вильгельм фон. Избранные труды по языкознанию. Москва, 1984. С. 324). — ***Рэд.***

бальшавіцкай тэрміналёгіі азначае тое-ж самае, што слова „іншародзец“ — нешта адменнае, ня рускае, зь іншага роду, зусім іншы народ. Беларусы — інародцы; так было пры царскім рэжыме. Беларусы — нацыяналы; гэтак ёсьць пры бальшавіцкім рэжыме. Беларусы — ня ёсьць рускія. Беларусь — ня ёсьць Расея. Беларусь там, дзе жыве беларускі народ, дзе жыве беларуская мова — ад Ловаці аж да Буга. Гэта ведае кожны сьвядамы беларус; тым больш гэта ведае нацыянальна-сьвядомая інтэлігэнцыя. Згэтуль беларускі нацыяналізм: на сваей зямлі — свая праўда і воля!

Нацыянал-дэмакратызм, такім чынам, ёсьць імкненьне беларускае інтэлігэнцыі да захаваньня адменных асаблівасьцяў беларускага народу і ўстанаўленьня на Беларусі народна-рэспубліканскага ладу.

Гэткі, відавочна, быў першапачатковы зьмест слова — беларускі нацыянал-дэмакратызм.

## 4

Шукаючы і выкрываючы канкрэтна-рэчаісты зьмест слова беларускі нацыянал-дэмакратызм, трэба мець на ўвазе пры гэтым і тую прыкрасу, якую прыдаюць яму бальшавікі, ужываючы тэрмін контррэвалюцыйны, што мае сьведчыць аб яго асаблівым значаньні — гэта, маўляў, ня ёсьць рэвалюцыйны нацыянал-дэмакратызм, але контррэвалюцыйны.

Тое, што беларускі нацыянал-дэмакратызм ня ёсьць рэвалюцыйны, аб гэтым няма і ня можа быць ніякага сумніву. Тая частка нацыянальна-сьвядомай беларускай інтэлігэнцыі, якая ў пэрыяд ейнага камунізму і грамадзкай вайны (1917—1921) уваходзіла ў розныя беларускія палітычныя партыі — спачатку ў Беларускую Сацыялістычную Грамаду, а пасьля яе расколу ў красавіку 1918 г. — у Беларускую Партыю Сацыялістаў-Рэвалюцыянэраў, у Беларускую Сацыял-Дэмакратычную Партыю і ў Беларускую Партыю Сацыялістаў-Федэралістаў, — прымала актыўны ўдзел у рэвалюцыйна-вызвольным змаганьні беларускага народу супраць маскоўска-бальшавіцкае навалы на Беларусі, супраць нямецкіх і супраць польскіх акупантаў на Беларусі, але ў пэрыяд НЭПу, 1921—1930, калі беларускія рэвалюцыйныя арганізацыі былі разгромляны акупантамі, перайшла ў значным ліку ў стан пераможцаў, пайшла на супрацоўніцтва з бальшавікамі, гэтым самым адмовілася ад рэвалюцыйнага спосабу змаганьня за волю й незалежнасьць Беларусі. *„Спадзявалася,* — як кажа А. Гаруновіч. — *на паступовае перараджэньне савецкае ўлады пад уплывам свабоднага тавараабароту... што НЭП зломіць шыю савецкай уладзе, што будзе ўстаноўлена Беларуская Народная Рэспубліка“*[6]. І гэта ў той час, калі другая частка нацыянальна-сьвядомай беларускай інтэлігенцыі, значна меншая, як сьведчыць А. Гаруновіч, *„стаяла на пункце погляду ўзбройнага аднаўленьня беларускай незалежнай нацыянальнай рэспублікі“*[7]. *„Гэта была — вядомая ў свой час лістападаўшчына,* — як сьведчыць Л. Бэндэ, — *якая ўжо тады, у адрозьненьне ад некаторых іншых буржуазных інтэлігентаў, якія спадзяваліся на наша мірнае перараджэньне, ставілі стаўку на безадкладнае адкрытае зьвяржэньне савецкае ўлады“*[8].

Беларускі нацыянал-дэмакратызм ня ёсьць рэвалюцыйны, але ня ёсьць таксама і контррэвалюцыйны. Што можа сьведчыць аб яго контррэвалюцыйнасьці?

*„Цяпер,* — кажа А. Гаруновіч, — *у сувязі з нашым рашучым сацыялістычным наступленьнем гэтыя зьменавехаўскія нацыянал-дэмакратычныя элемэнты пераканаліся ў тым, што няма ніякіх надзей на буржуазнае перараджэньне савецкай улады. Таму яны пачалі супраціўляцца гэтаму сацыялістычнаму наступленьню, актыўна выступаючы супроць палітыкі нашае партыі ва ўсіх галінах эканамічнага, палітычнага і культурнага жыцьця“*[9]. *„Чаго дабіваецца нацыянал-дэмакратызм? Нацыянал-дэмакратызм марыць аб стварэньні Беларускай Народнай Рэспублікі“*[10]. *„Чым зьяўляецца нацыянал-дэмакратызм? Нацыянал-дэмакратызм зьяўляецца контррэвалюцыйнай антысавецкай плыняй нашай сучаснасьці“*[11].

З гэтага бачымо, што беларускі нацыянал-дэмакратызм ёсьць актыўнае выступленьне беларускае буржуазнае інтэлігэнцыі, якая ў час

[6] Гаруновіч, А. Супроць нацыянал-дэмакратызму і шовінізму розных колераў. Менск, 1930. С. 30.

[7] Гаруновіч, А. Супроць нацыянал-дэмакратызму і шовінізму розных колераў... С. 31.

[8] Бэндэ, Л. Беларуская нацдэмаўская контррэвалюцыя ўчора і сёньня // Супроць беларускага контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму. Менск, 1931. С. 20.

[9] Гаруновіч, А. Супроць нацыянал-дэмакратызму і шовінізму розных колераў... С. 32.

[10] Гаруновіч, А. Супроць нацыянал-дэмакратызму і шовінізму розных колераў... С. 28.

[11] Гаруновіч, А. Супроць нацыянал-дэмакратызму і шовінізму розных колераў... С. 27.

НЭПу лаяльна супрацоўнічала з бальшавікамі, спадзяючыся на буржуазнае перараджэньне савецкае ўлады, на што бальшавікі ў той час, як ведама, моўчкі пагаджаліся, выстаўляючы баеўны покліч — *„узбагачайцеся“*[12] ! Гэта ёсьць актыўнае выступленьне зьменавехаўскае, але зьнявeранае ўжо ў бальшавізм беларускае інтэлігенцыі, зьнявeранае ў бальшавізм таму, што бальшавікі яе ачмуцілі і ашукалі — адмянілі НЭП[13] і зьнявечылі яе надзеі на мірнае перараджэньне савецкае ўлады. Гэта актыўнае выступленьне беларускае інтэлігенцыі намерана ёсьць проці хлусьлівае палітыкі камуністычнае партыі, якая рашуча зьдзяйсьняе цяпер дзяржаўны капіталізм, а ўсім і кожнаму апавядае, што будуе сацыялізм, што гэта, маўляў, і ёсьць ўзапраўдны сацыялізм.

У краіне саветаў няма цяпер ні буржуазнага капіталізму, ні сацыялізму; ёсьць нешта новае — будуецца дзяржаўны капіталізм.

У краіне саветаў няма цяпер ні буржуазнай, ні савецкай дэмакратыі; была і ёсьць дыктатура кампартыі і савецкай бюракратыі.

У краіне саветаў няма вольнага самаазначаньня нацыі, бо няма і вольнае і самастойнае дзяржаўнае самаарганізацыі — была і ёсьць гегемонія (над-улада) Расіі; СССР і БССР — гэта ёсьць толькі назвы-мянушкі, умоўныя тэрміны, канкрэтна-рэчаісты зьмест якіх запаўняецца ўзмоцняным цэнтралізмам усесаюзнай кампартыі, спадкаберніцы гістарычнае традыцыі ўсерасейскага вялікадзяржаўніцтва.

Вось-жа: актыўнае выступленьне беларускай інтэлігенцыі проці хлусьлівае палітыкі камуністычнае партыі можа ўважацца, дзеля гэтага, за антыпартыйнае, за проці-бальшавіцкае, нават і проці-савецкае, паскольку саветы зьяўляюцца органамі дыктатуры кампартыі, — але ні ў якім разе ня можа ўважацца за контррэвалюцыйнае. У аб'ектыўных абставінах сучаснае рэчаіснасьці гэта ёсьць рэвалюцыйнае выступленьне: зрывае маску з аблічча хлусьлівага бальшавізму!

**5**

Словы рэвалюцыя й контррэвалюцыя ўжываюцца ў бальшавіцкім друку, мабыць, таксама ўмоўна, як і слова нацыянал-дэмакратызм. Беларуская інтэлігенцыя, напрыклад, была рэвалюцыйная, калі ішла пад сьцягам кампартыі; беларуская інтэлігенцыя стала контррэвалюцыйная, калі адмовілася ад бальшавіцкага кіраўніцтва. Гэта мерка, як бачымо, ёсьць ня толькі ўмоўная, але і сумніўная; нават больш таго: фальшывая.

Што такое рэвалюцыя і што такое контррэвалюцыя?

Разгледзімо гэтыя паняцьці ў аб'ектыўных абставінах гістарычнае рэчаіснасьці.

Слова рэвалюцыя процістаўляецца звычайна слову эвалюцыя; рэвалюцыя, маўляў, азначае раптоўны скок у цягу гістарычнага разьвіцьця, а эвалюцыя — павольны поступ, крок за крокам. У рэчаістасьці, аднак, рэвалюцыя не выключае эвалюцыю, як і эвалюцыя не выключае рэвалюцыі. Усё цячэ, мінае; усё знаходзіцца ў бязупынным цягу разьвіцьця. Рэвалюцыя адбываецца там і тагды, дзе існуюць перашкоды на шляху эвалюцыі.



Вокладка і тытульны ліст дысэртацыі Тамаша Грыба. Прага, 1926 г.

А што азначае слова контррэвалюцыя?

Слова контррэвалюцыя процістаўляецца слову рэвалюцыя: азначае запярэчаньне гістарычнага разьвіцьця: усё тое, што проці рэвалюцыі і эвалюцыі, што проці разьвіцьця й поступу, што проці руху наперад, а цягне ўсё назад — гэта і ёсьць контррэвалюцыя, або інакш кажучы — рэакцыя.

У гістарычным разьвіцьці чалавецтва адбываюцца два праці-

[12] Заклік упершыню быў агучаны Мікалаем Бухарыным на сходзе актыву Маскоўскай партыйнай арганізацыі 17 красавіка 1925 г. у дакладзе „О новой экономической политике и наших задачах“: *„В общем и целом всему крестьянству, всем его слоям нужно сказать: обогащайтесь, накапливайте, развивайте свое хозяйство. Только идиоты могут говорить, что у нас всегда должна быть беднота; мы должны теперь вести такую политику, в результате которой у нас беднота исчезла бы“* (Цыт. паводле электроннай вэрсіі дакладу: http://www.magister.msk.ru/library/politica/buharin/buhan008.htm). Пазьней лёзунг быў падхоплены афіцыйным друкам, у тым ліку і ў БССР. — ***Рэд.***

[13] НЭП згарнулі з пачаткам выкананьня першага пяцігадовага пляну, прынятага ў 1928 г. Афіцыйная дата *„сьмерці НЭПу“* — 11 кастрычніка 1931 г., калі была апублікаваная пастанова аб поўнай забароне прыватнага гандлю. — ***Рэд.***

лежныя працэсы — поступ і рэакцыя; ёсьць дзьве галоўныя сілы, якія вызначаюць цяг гістарычнага разьвіцьця — сілы поступу і сілы рэакцыі. Агульны вынік уплыву гэтых дзьвюх сіл характарызуе тую ці іншую эпоху, пэўны пэрыяд, кожны адцінак у цягу гістарычнага разьвіцьця.

У канкрэтна-рэчаістых абставінах гістарычнага разьвіцьця беларускага народу гэта азначае: сілы рэакцыі — гэта ёсьць намага ўтрыманьня й замацаваньня існуючага ладу нацыянальнага паняволеньня і калёніяльнага вызыску, ладу зьдзірства і прымусу ў імя рускага ці то польскага вялікадзяржаўніцтва на Беларусі; сілы поступу — гэта ёсьць руйнуючыя існуючага ладу нацыянальна-каляніяльнага паняволеньня ў імя волі й незалежнасьці Беларусі. Згэтуль вынікаюць непрымірымыя супярэчнасьці, вострае й напружанае змаганьне. Так будзе прадаўжацца з усёй гістарычнай няўхільнасьцю аж да таго часу, пакуль хоць адзін узбройны рускі ці то польскі жаўнер будзе знаходзіцца на беларускай зямлі паміма волі беларускага народу.

З таго часу, калі беларускі народ, зварушаны грукатам гістарычнага поступу, сягнуў стварыць сабе лад новага жыцьця, пачаў зьдзяйсьняць сваё неад'ёмнае права на вольнае самаазначаньне, — перастаў быць аб'ектам розных сацыяльна-палітычных шахрайстваў, а стаў суб'ектам — самадзейнай асабістасьцю — у гістарычным разьвіцьці ўсяго чалавецтва, — з гэтага часу пачынаецца ўзапраўдная гісторыя беларускага народу навейшае эпохі. Разрываючы кайданы сацыяльна-нацыянальнага паняволеньня, беларускі народ імкнецца стварыць сваю вольную і незалежную дзяржаву як найвышэйшую і ў сучасных гістарычных абставінах няўхільную форму свае нацыянальнае самаарганізацыі. У гэтым вызвальным змаганьні беларускага народу заключаецца сутнасьць тых гістарычных падзеяў, якія адбываюцца на Беларусі пэрманэнтна, адбываецца беларуская народная рэвалюцыя.

Вось-жа, узапраўдны рэвалюцыянэр ёсьць той, хто змагаецца за волю й незалежнасьць беларускага народу; контррэвалюцыянэр ёсьць той, хто процi волі і незалежнасьці Беларусі!

## 6

Гістарычныя падзеі, якія адбываюцца на Беларусі ў апошнія дзесяцігодзьдзі, можамо характарызаваць паводле наступнае сацыялягічнае схэмы: рэвалюцыя на Беларусі, контррэвалюцыя на Беларусі і беларуская народная рэвалюцыя.





Рэвалюцыя на Беларусі — гэта ёсьць люты і кастрычнік 1917 г.

Люты і кастрычнік — гэта былі яскравыя праявы ўсерасейскае рэвалюцыі на Беларусі; адбыліся раптоўныя зьмены трох насьледуючых па сабе ўсерасейскіх дзяржаўна-палітычных ражымаў самадзяржаўна-раманаўскага, часова-дэмакратычнага і дыктатарска-ленінскага. У гістарычнае долі беларускага народу не настала ніякае зьмены: быў і заставаўся аб'ектам узьдзейнічаньня ўсерасейскага вялікадзяржаўніцтва. У выніку маемо: на мейсца раманаўскае дыктатуры прыйшла ленінская дыктатура, наяўна бачымо, што ленінская дыктатура ёсьць ня менш усерасейская і ня менш вялікадзяржаўніцкая, чымся раманаўская дыктатура.

Контррэвалюцыя на Беларусі — гэта ёсьць скрытныя і адкрытыя выступленьні ўсерасейска-вялікадзяржаўніцкіх элемэнтаў на Беларусі, якія намагаюцца вярнуць сваё страчанае становішча пад час раптоўных зьменаў усерасейскіх дзяржаўна-палітычных ражымаў. У гістарычнае долі беларускага народу ня прыносіць ніякае зьмены: Беларусь разглядаецца імі як неад'ёмная частка Расеі, як адна з правінцый усерасейскае дзяржаўнае тэрыторыі.

Рэвалюцыя і контррэвалюцыя на Беларусі — гэта нібы дзьве пасудзіны, якія маюць адно супольнае дно; гэтым дном зьяўляецца Расея. Гэта ёсьць змаганьне за форму дзяржаўна-палітычнага і сацыяльна-гаспадарчага ладу ў Расеі. Беларускі народ як самастойны чыньнік гістарычнага працэсу, як маральна-праўны суб'ект не прыймаецца на ўвагу — нібыто і не існуе. Беларус разглядаецца як неад'ёмная частка ўсерасейскае дзяржаўнае тэрыторыі.

Беларуская народная рэвалюцыя — гэта ёсьць сьнежань 1917 г.

Ня люты і не кастрычнік, але сьнежань — Першы Ўсебеларускі Зьезд — зьяўляецца вялікім рубяжом у гісторыі беларускага народу. Гэта ёсьць выступленьне беларускага народу на гістарычную арэну. Гэта ёсьць будаўніцтва вольнай і незалежнай беларускай народнай рэспублікі. Гэта ёсьць рашучае змаганьне з расейскімі вялікадзяржаўнікамі на Беларусі ўсіх колераў і масьцяў.

Беларуская народная рэвалюцыя непакоіць і палохае расейскіх вялікадзяржаўнікаў: блытае іх пляны ў будаўніцтве адзінай і непадзельнай Расіі. І гэта зразумела: беларускі народ перастаў быць аб'ектам узьдзейнічаньня ўсерасейскага вялікадзяржаўніцтва, самастойна ўзяў сваю долю ў свае ўласныя рукі. Беларусь вырываецца з чэпкіх абняцьцяў усерасейскага вялікадзяржаўніцтва.

Вольная і незалежная беларуская народная рэспубліка — гэта ёсьць баёўны покліч беларускай рэвалюцыі!

## 7

Нацыянальны профіль беларускай народнай рэвалюцыі ёсьць ясны і выразны: вольная і незалежная беларуская народная рэспубліка ў этнаграфічных межах разьсяленьня беларускага народу — ад Ловаці і аж да Буга. Гэтым вырашаецца справа адносін Беларусі ня толькі да Расеі, але таксама да іншых суседзяў — Польшчы, Украіны, Літвы, Латвіі, Эстоніі і Нямеччыны.

Ані аднэй пядзі беларускае зямлі чужынцам!

Ня менш ясны і выразны ёсьць сацыяльны профіль беларускай народнай рэвалюцыі: дэмакратыя; забясьпечаньне роўнасьці правоў і вольнасьцяў для ўсіх грамадзян рэспублікі; дзяржаўная ахова працы ўсіх наймітаў; сацыялізацыя зямлі — зямлёй можа карыстацца толькі той, хто ўласнымі сіламі яе абрабляе, прычым форма землякарыстаньня ўстанаўляецца дабравольна сялянамі-землярообамі пад кантроляй зямельных органаў дзяржаўна-рэспубліканскае ўлады Беларусі.

Вёска на Беларусі — гэта пераважная большасьць беларускага народу. Справа зямельная — гэта ёсьць беларуская нацыянальная справа!

Месты і мястэчкі на Беларусі, як і абшарніцкія двары на вёсцы, здэнацыяналізаваны; беларусы ў іх складаюць нязначную меншасьць і выконваюць функцыі працоўных наймітаў.

Сацыяльны профіль беларускай народнай рэвалюцыі — гэта ёсьць сацыяльны профіль беларускае вёскі: змаганьне беларускага сялянства з рэшткамі паншчыны на вёсцы за поўную ліквідацыю руска-польскага абшарніцкага земляўладаньня і за раўнамерны падзел зямлі паміж сялянамі. З другога боку, гэта ёсьць змаганьне беларускага сялянства за ўхіленьне залежнасьці вёскі ад руска-польска-жыдоўскіх местаў і мястэчак, за поўнае ўраўнапраўнаньне ўсіх грамадзян Беларусі. Гэта ёсьць змаганьне за дэмакратыю!

Дэмакратыя ёсьць арганізаваная ўлада большасьці; пераважная большасьць беларускага народу — працоўнае сялянства. Гэта ёсьць змаганьне за працоўную сялянскую дэмакратыю!

У гэтым ёсьць глыбокі сацыяльны зьмест і вялікае гістарычнае значаньне беларускай народнай рэвалюцыі. Сялянства зьяўляецца галоўным чыньнікам у будаўніцтве новага супольнага ладу ў незалежнай беларускай народнай рэспубліцы!

Паўзіраемся цяпер на сацыяльны профіль рэвалюцыі на Беларусі.

Сацыяльны профіль рэвалюцыі на Беларусі ёсьць вельмі падобны





да нацыянальнага профілю контррэвалюцыі на Беларусі. Маюць супольную сацыяльную базу ў каляніяльным становішчы Беларусі.

Здэнацыяналізаваныя месты і мястэчкі, як і панска-абшарніцкія двары, зьяўляюцца галоўнымі баштамі рускага і польскага вялікадзяржаўніцтва на Беларусі.

Сацыяльны профіль рэвалюцыі на Беларусі — гэта ёсьць імкненьне дробна-буржуазнага руска-польска-жыдоўскага мяшчанства да ўтрыманьня і замацаваньня ўпрывілеяванага іх становішча ў адносінах да беларускае вёскі. Згэтуль іх шуканьне апоры і падтрыманьне з боку Масквы і Варшавы, згэтуль іх намага да ўстанаўленьня і захаваньня дыктатуры як улады меншасьці над большасьцяй.

У гістарычнай пэрспэктыве гэта азначае — гэта ёсьць апошнія патугі рускага і польскага вялікадзяржаўніцтва на Беларусі.

## 8

Што такое бальшавізм?

Бальшавізм — гэта ёсьць адменная форма ўсерасейскага вялікадзяржаўніцтва. З усяе яскравасьцю аб гэтым сьведчыць VII усесаюзны зьезд саветаў[14]. На гэтым зьезьдзе шмат гаварылася аб савецкай радзіме, аб ахове межаў савецкай радзімы ад вонкавай небясьпекі. В. Молатаў[15], старшыня савету народных камісараў Савецкага Саюзу, уважае, што савецкая радзіма — гэта ёсьць Расея, што межы Савецкага Саюзу супадаюць зь межамі Расеі. Даслоўна ён сказаў наступныя крылатыя словы: *„Расея нэпаўская стала Расеяй сацыялістычнай“*[16]. Савецкі Саюз, такім чынам, увесь Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік — савецкая радзіма, а савецкая радзіма, паводле Молатава, — гэта і ёсьць Расея. СССР — гэта ёсьць толькі назва-мянушка Расеі.

Бальшавікі ўзіраюцца на Беларусь як на частку Расеі, як на рускую дзяржаўную тэрыторыю. Згэтуль іх напорыстае змаганьне зь беларускімі незалежнікамі; згэтуль іх покліч: *„БССР — неадлучная частка*

[14] VII Усесаюзны зьезд саветаў праходзіў у студзені—лютым 1935 г. у Маскве. — ***Рэд.***

[15] **Вячаслаў Молатаў** (1890—1986), савецкі функцыянэр. — ***Рэд.***

[16] Справаздачны даклад тав. В. М. Молатава аб рабоце ўраду VII зьезду саветаў СССР // Зьвязда. № 25. 30 студзеня 1935.

[17] З прывітаньня XI-га Усебеларускага зьезду саветаў ЦВК СССР — Калініну, СНК СССР — Молатаву // Зьвязда. № 13. 13 студзеня 1935.

*ўсяго СССР*“[17]. Згэтуль, нарэшце, іх клятва-прысяга ахоўваць і бараніць межы савецкай радзімы: *„Мы клянёмся табе, тав. Сталін, што будзем граніцу трымаць на замку, будзем яе ахоўваць, як зяніцу вока. Усякая спроба ворага парушыць нашы сьвяшчэнныя, недатыкальныя савецкія граніцы будзе разгромлена*“[18]. *„Разграміць ушчэнт усіх тых, хто пасягне хоць на пядзь сьвяшчэннай і недатыкальнай савецкай зямлі*“[19].

Інакш кажучы: бальшавікі ўсяляк намагаюцца ахоўваць і бараніць недатыкальнасьць сьвяшчэнных межаў савецкай радзімы ўсяго СССР — адзінай і непадзельнай Расеі.

Бальшавікі дамагаюцца таго, каб Беларусь і надалей заставалася калёніяй Расеі.

## 9

Яшчэ ў 1920 г. быў выданы зборнік матар'ялаў аб гаспадарчым і культурным становішчы БССР. Складзены кіраўніцтвам справамі радНаркому БССР, у гэным зборніку выразна гаворыцца, што 50% усіх прыбыткаў, якія зьбіраюцца на тэрыторыі БССР, непасрэдна паступаюць у агульна-саюзную казну і ні ў якой форме не вяртаюцца на Беларусь дзеля задавальненьня гаспадарчых і культурных патрэбнасьцяў беларускага народу[20].

Мінае ўжо з таго часу дзевяць гадоў. Агульнае каляніяльнае становішча Беларусі ні ў чым не зьмянілася. Хаця бальшавікі і замоўчваюць тое, сколькі грошы выплачывае Беларусь Расеі, але з пэўнасьцю можна цьвердзіць, што ня менш 56% усіх прыбыткаў, якія зьбіраюцца на тэрыторыі БССР, ня кажучы ўжо нават аб тэй частцы Беларусі, якая непасрэдна далучана да РСФСР, гэта ёсьць дань, какую плаціць беларус Расеі за сваё паняволяньне; гэта ёсьць жорсткі калёніяльны вызыск!

[18] З прывітаньня XI-га Усебеларускага зьезду саветаў Сталіну // Звязда. № 13. 13 студзеня 1935.

[19] З дакладу Д. Коніка, загадчыка аддзелу культуры і прапаганды ленінізму ЦК КП(б)Б на 3-цім Усебеларускім зьезьдзе рабселькораў // Зьвязда. № 50. 1 сакавіка 1935.

[20] Больш падробна аб гэтым у артыкуле: Гаспадарчае і культурнае адраджэньне Беларусі // Бюлетэнь Загранічнай Групы Беларускай Партыі Сацыялістаў-Рэвалюцыянэраў. № 6. Жнівень 1926. С. 3—16.





Калі яшчэ ў 1928 г. Алесь Адамовіч, старшыня раднаркому БССР[21], адважыўся сказаць праўду аб калёніяльным становішчы Беларусі і зьвярнуўся да ўсесаюзнага цэнтральнага выканаўчага камітэту, каб хоць трошкі зьменшыць — ня ўхіліць, а толькі зьменшыць! — калёніяльную залежнасьць Беларусі ад Расеі, то, як ведама, у парадку партыйнай дысцыпліны ЎсеКП-ы зьняты быў з пасады, выключаны з кампартыі і высланы за межы БССР як нацыянал-апартуністы і эс-эраўскі агэнт у шэрагах кампартыі.

Ня іначай паступаюць усерасійскія вялікадзяржаўнікі ў кампартыі і ў адносінах да іншых беларускіх камуністаў, якія маюць адвагу выступаць у абарону жыцьцёвых патрэбнасьцяў беларускага народу — выключаюць з кампартыі і высылаюць за межы БССР.

Гэтак: калі Зьмітро Прышчэпаў[22], народны камісар земляробства БССР, набыў у сабе столькі адвагі, што пачаў зьдзяйсьняць на Беларусі такую зямельную палітыку, якая найбольш адпавядае жыцьцёвым патрэбнасьцям беларускага сялянства — хутарызацыя і вольная каапэрацыя, — то што-ж, быў абвінавачаны ўсерасейскімі вялікадзяржаўнікамі ў беларускім нацыяналізьме, зьняты з пасады, выключаны з кампартыі, аддадзены пад суд і высланы за межы БССР.

Яшчэ горшая доля спаткала прафэсара Ўсевалада Ігнатоўскага[23], першага прэзыдэнта Беларускай Акадэміі Навук, які меў адвагу выказаць навуковую праўду аб Беларусі і распачаць актыўнае будаўніцтва самастойнай беларускай культуры, — быў зьняты з пасады, выключаны з кампартыі, арыштаваны і ў вастрозе забіты[24].

[21] Відавочна, тут кантамінуюцца дзьве асобы з аднолькавымі прозьвішчамі: **Язэп Адамовіч** (1897—1937), старшыня Саўнаркому ў 1924—1927 гг., які пазьней працаваў у Расеі, і **Алесь Адамовіч** (1900—1937), партыйны дзеяч, нацыянал-камуніст, у 1928—1929 гг. намесьнік наркама земляробства БССР, выключаны з кампартыі, арыштаваны ў 1930 г. па справе „Саюзу вызваленьня Беларусі“ і асуджаны да 10 год лягераў; расстраляны пасьля паўторнага арышту. — ***Рэд.***

[22] **Дзьмітрый Прышчэпаў** (1896—1940), дзяржаўны дзеяч, наркам земляробства БССР (1924—1929). Арыштаваны ў 1929 г. па справе „Саюзу вызваленьня Беларусі“, асуджаны на 10 гадоў лягераў. Памёр у турэмнай бальніцы. — ***Рэд.***

[23] **Усевалад Ігнатоўскі** (1881—1931), дзяржаўны дзеяч, гісторык, публіцыст. Наркам асьветы (1921—1926), стваральнік і старшыня Інбелкульту (1926—1929), першы прэзыдэнт Беларускай акадэміі навук (1929—1930). Падчас сьледзтва па справе „СВБ“ быў зьняты з пасады прэзыдэнта БелАН. — ***Рэд.***

[24] Фактычная памылка. Усевалад Ігнатоўскі скончыў жыцьцё самагубствам пасьля аднаго з допытаў у ДПУ БССР па справе „СВБ“. — ***Рэд.***

У той самы час — 1929—1930 гг. на Беларусі — арыштаваны былі і высланы ў розныя мейсцы Расеі выдатнейшыя працаўнікі на ніве гаспадарчага і культурнага адраджэньня беларускага народу, распачалася жорсткая расправа зь беларускай інтэлігэнцыяй.

Усерасейскія вялікадзяржаўнікі пад шыльдай кампартыі ўяўляюць сабе так, што Беларусь павінна быць ня толькі эканамічнай калёніяй Расеі, але што эканамічна, культурна і палітычна павінна зьліцца з Расеяй у адно цэлае, у адну савецкую радзіму, у адзіную й непадзельную Расею; беларускі народ, як і ўсе іншыя народы СССР — апрача рускага народу — павінны адмовіцца ад сваіх культурных і сацыяльна-гаспадарчых асаблівасьцяў, павінен разьвіваць толькі тыя асаблівасьці свае культуры, якія супольны з асаблівасьцямі рускае культуры і вядуць да поўнага зьліцьця з рускім народам[25].

Гэтым высьвятляецца, між іншым, і той факт жывой рэчаістасьці, што бальшавікі адмянілі НЭП і пачалі ўводзіць дзяржаўны капіталізм; у сацыяльна-псыхічным разрэзе гэта азначае: павялі ўзмоцнены націск усерасейскага вялікадзяржаўніцтва і цэнтралізму; распачалася ліквідацыя ўсіх нацыянальных і сацыяльных вольнасьцяў, якія здабыты былі каляніяльнымі народамі СССР у папярэдні пэрыяд рэвалюцыі як змушаныя ўступкі з боку ўсерасейскага вялікадзяржаўніцтва.

**10**

Гані прыроду ў дзьверы, то яна ўлезе праз вакно!

Калі з адменай НЭПу і ўвядзеньнем дзяржаўнага капіталізму ўсерасейскія вялікадзяржаўнікі пад шыльдай кампартыі намерваліся зьнішчыць усе культурныя і сацыяльныя асаблівасьці прыгнечаных і паняволеных народаў СССР, то дасяглі зваротных вынікаў — яшчэ больш узмоцнілі нацыянальныя антаганізмы і сацыяльныя супярэчнасьці.

Рэвалюцыя прадаўжаецца!

„*Наша партыя,* — кажуць бальшавікі, — *разграміла беларускі контррэвалюцыйны нацыянал-дэмакратызм*“. „*Але вораг яшчэ не дабіты. Ён яшчэ супраціўляецца... Толькі формы, прыёмы і тактыка яго супраціўленьня цяпер новая, іншая. Вораг прыстасоўваецца да новай абстаноўкі, мяняе зброю ў сваім арсэнале, перафарбоўваецца, як хамелеон*“[26]. „*Ва ўмовах БССР кулацкія, эсэраўскія і іншыя элемэнты ў сваёй контррэвалюцыйнай барацьбе супраць сацыялістычнага будаўніцтва прыкрываліся і зараз часта прыкрываюцца фальшыва-нацыянальным сьцягам*“[27].

[25] Таболов, К. О национальной культуре // Под знаменем марксизма. Москва, 1932. № 9—10. С. 113—136.





Бач, куды яны цяпер гнуць. Бальшавікі намагаюцца выступаць пад узапраўдным нацыянальным сьцягам вызваленьня і адраджэньня беларускага народу!

**11**

Па наказу ЦК УсеКП(б) ад 2 сакавіка 1933 г. у справе правядзеньня нацыянальнай палітыкі на Беларусі адбылося ў Менску надзвычайнае паседжаньне пленуму ЦК і Менгаркому КП(б). Прынята рэзалюцыя, у якой чытаемо: „*У мэтах найбольш поўнага выкрыцьця мінулага і цяперашняга нацдэмаўшчыны, бундызму і г.д. у Беларусі і ў мэтах узброеньня растучых кадраў бальшавіцка-распрацаваным матарыялам, пленум даручае Інстытуту гісторыі партыі, Інстытуту гісторыі БАН, ДВБ, наркомасьветы забясьпечыць выпуск раду праверэных, бальшавіцка-вытрыманых матарыялаў, дакумэнтаў і кніг па гэтых пытаньнях, каб першыя дакумэнты і матарыялы пачалі выходзіць у сьвет у бліжэйшыя-ж два месяцы*“[28].

І вось, распачалася пільная праца. Інстытут гісторыі кампартыі, Інстытут гісторыі Беларускай Акадэміі Навук, Народны камісарыят асьветы і Беларускае Дзяржаўнае выдавецтва мабілізуюць усе свае сілы, каб выкрыць і аканчальна разграміць беларускі нацыянал-дэмакратызм і беларускіх эсэраў; зьяўляюцца ў сьвет бальшавіцка-распрацаваныя матарыялы, дакумэнты, кнігі і паасобныя артыкулы; дасьціпныя асьпіранты і пачынаючыя журналісты робяць сабе на гэтым добрую кар’еру.

Ня будзем спыняцца на ўсіх выданьнях; аднастайныя і нудныя апавяданьні, як нудныя ёсьць песьні-літаньні шпітальных дзядоў пад час касьцёльнага фэсту.

Дзеля ўяўленьня таго, як бальшавікі змагаюцца ў сучаснасьці зь беларускай нацыянальнай небясьпекай, хопіць, калі мы разгледзімо найбольш ударныя артыкулы ў гэтай справе, якія нядаўна апублікаваны ў бальшавіцкім друку.

[26] Зьвязда. № 205. 16 верасьня 1933.

[27] Зьвязда. № 212. 25 верасьня 1933.

[28] Савецкая Беларусь. № 62. 20 сакавіка 1933.

**12**

П. Кірушын, выконваючы наказ партыі, напісаў ударны артыкул: „Контррэвалюцыйны беларускі нацыянал-дэмакратызм на службе інтэрвэнцыі"; надрукаваны гэны артыкул у часопісі „Бальшавік Беларусі", орган ЦК КП(б)Б (Менск, 1935. №1—2. С. 99—122).

П. Кірушын, мабыць, добры бальшавік, але дрэнны гісторык, яшчэ горшы пісьменьнік — яго творчая фантазыя не сягае далей суседняга частаколу; для яго няма іншага сьвету, як толькі той, што абмежаваны калючым дротам.

Ведама, аб навуковасьці яго працы ня можа быць і гутаркі: спаўняе наказ, небарака! Усё ён зблытаў і перапутаў: гістарычныя факты і легэнды, рэчаістасьць і фантастычныя ўявы, таксама імёны беларускіх дзеячаў, іх партыйную прыналежнасьць, іх палітычную дзейнасьць.

Над усім зграмаджаным ім матарыялам пануе ня лёгіка фактаў, нават і не марксысцка-ленінская дыялектыка, а фантастычная ўява — нейкая агідная пачвара, якая стаіць сабе, раскірэчыўшыся, і ляскае зубамі на яго.

Гэтак уяўляецца Кірушыну страшэнны вобраз беларускай нацдэмаўшчыны; гэта ўява гняце яго, не дае супакою.

Нацыянал-дэмакратызм у зьбянтэжанай фантазіі Кірушына робіць вялікія дзівы: нават і немагчымае для яго ёсьць магчыма — яшчэ ў 1920 г. займаўся падрыхтоўкаю інтэрвэнцыі супраць савецкай улады!

Сваё *„сыстэматычнае выкрыцьцё"* і *„асьвятленьне контррэвалюцыйнай дзейнасьці нацдэмаў"* ён пачынае з 1902 г., калі, як ён кажа, *„на беларускай тэрыторыі арганізуецца блізкая да эсэраў і пэпээсаў Беларуская Рэвалюцыйная Грамада, якая на сваім першым зьезьдзе ў 1903 годзе... пераймяноўваецца ў Беларускую Сацыялістычную Граміаду".* *„Як кулацка-эсэраўская партыя, яна з самага пачатку адлюстроўвала інтарэсы растучага кулака".* *„Праграма БСГ, прынятая ў студзені 1906 году, высоўвае патрабаваньні буржуазнага і дэмакратычнага пераўтварэньняў надта ўмеранага толку і разьлічана на саюз з манархіяй".* Паводле Леніна, маўляў, гэта ёсьць партыя дробнабуржуазных рэвалюцыянэраў. Ага, уяўляе сабе зьбянтэжаны Кірушын, гэта і ёсьць контррэвалюцыйны нацыянал-дэмакратызм, які намерываўся ўвайсьці ў саюз з рускай вялікадзяржаўнай манархіяй! (С. 104). І за гэта, мабыць, скажамо тут ад сябе, той самай рускай вялікадзяржаўнай манархіяй арыштаваны былі і кінуты ў вастрог ідэйныя правадары Беларускай Сацыялістычнай Грамады — Міхась Зялазей[29] сасланы быў у Сыбір на вечнае пасяленьне, дзе й загінуў за арганізацыю Беларускага Сялянскага Саюзу, які дамагаўся канфіскацыі ўсей абшарніцкай зямлі, а ў тым ліку і зямлі ўсерасейскага абшарніка Раманава, каб раўнамерна падзяліць усю зямлю паміж сялянамі; Алесь Бурбіс[30] засуджаны быў на тры гады ў вастрог за арганізацыю ўзброенага сялянскага паўстаньня з мэтаю зрынуцьця ўсерасейскае самадзяржаўнае ўлады на Беларусі. Гэта быў той самы Алесь Бурбіс, які ў 1920 г. быў дыплёматычным прадстаўніком ураду БССР у Маскве і ад імя ўраду БССР падпісваў дагоду з урадам РСФСР аб узаемных добрасуседзкіх адносінах незалежных савецкіх рэспублік — Беларусі і Расеі!





Што можна сказаць пасьля гэтага, якую праўду маемо шукаць у зьбянтэжанай фантазыі Кірушына?

Ня іначай, як выпладам фантазіі, зьяўляецца і наступнае яго *„сыстэматычнае выкрыцьцё"* і *„асьвятленьне контррэвалюцыйнай дзейнасьці нацдэмаў"*. Ён кажа: *„Аб'яднаўшыся, чорная раць беларускай контррэвалюцыі склікае 15 сьнежня 1917 году так званы Першы беларускі кангрэс, дзе нацдэмы сваімі падтасаванымі дэпутатамі з эсэраў, меншавікоў, бундаўцаў, паалей-сіяністаў, кулакоў проціставілі октябрскай рэвалюцыі волю беларускага народу".* *„Што-ж гаварыў гэты буржуазна-памешчыцкі-кулацкі народ? Ён выказаўся супраць пралетарскай дыктатуры, за дэмакратыю, г.зн. за дыктатуру буржуазіі, за адрубна-хутарское землякарыстаньне, за зямельную ўласнасьць. Ён проціставіў сябе бальшавіцкаму выканкому Заходняй вобласьці, які адзіны прадстаўнік агульна-нацыянальных (г.зн. буржуазна-памешчыцкіх) беларускіх інтарэсаў. Першы беларускі кангрэс стварыў сталы Савет зьезду, які потымператварыўся ў нацыянальны белагвардзейскі ўрад"* (С. 105). *„Для больш пасьпяховай барацьбы з рэвалюцыяй рада БНР імкнулася зьвязацца з усімі контррэвалюцыйнымі ўрадамі, што заснаваліся на тэрыторыі былой Расіі, са*

[29] Магчыма, маецца на ўвазе **Віктар Зелязей** (1881— пасьля 1951), грамадзкі й палітычны дзеяч, публіцыст. Ад 1903 г. быў сябрам і адным з кіраўнікоў Беларускай сацыялістычнай грамады ў Менску. У студзені 1906 г. на яго кватэры адбыўся Другі зьезд БСГ. У пачатку 1908 г. арыштаваны разам з малодшым братам Сігізмундам і асуджаны Віленскай судовай палатай на высылку. У 1920-х гг. працаваў у Інбелкульце. Падрыхтаваў даклад „Утварэньне і праца БСГ", зь якім выступіў на паседжаньні сэкцыі рэвалюцыйнага руху. У 1951 г. жыў у Ратамцы пад Менскам. — ***Рэд.***

[30] **Алесь Бурбіс** (1885—1922), палітычны дзеяч, адзін з стваральнікаў БСГ. У 1906—1909 гг. адбываў пакараньне за рэвалюцыйную дзейнасьць. — ***Рэд.***

*Скарападскім*[31]*, з царскімі гэнэраламі, з буржуазна-памешчыцкай Польшчай. Ад імя іх усіх рада прасіла сабе матарыяльнай дапамогі, усім прапаноўвала прадацца за сходнюю цану“. „У восені 1919 году большая частка тэрыторыі БССР была ізноў акупавана, на гэты раз ужо белапалякамі“. „Героем дня нацдэмаў стаў маршал Пілсудскі*[32]*“. „Каб заслужыць давер’е, нацдэмы пачалі арганізоўваць беларускія вайсковыя часьці для барацьбы з Чырвонай арміяй і заклікалі ўсіх „шчырых беларусаў“ дапамагчы белапалякам. У гэты час нацдэмы знайшлі і свайго „нацыянальнага гэнэрала“, вядомага Булак-Балаховіча*[33]*. Бравы гэнэрал пастараўся пакрыць беларускія палі вогнішчам пажараў, трупамі замучаных рабочых і сялян. У знак падзякі нацдэмы ўключылі Булак-Балаховіча ў сьпісак членаў „Беларускага ўраду“ ў якасьці ваеннага міністра“* (С. 106).

**13**

У зьбянтэжанай фантазыі Кірушына ўсё зблытана і перапутана, але тэндэнцыя ясная: зганьбіць і збэсьціць усё тое, што, казаў той, бальшавіцкаму духу варожа!

Але скуль ён чэрпае такія падзівугодныя весткі? На якіх гістарычных фактах ён абапірае свае цьверджаньні?

Скуль чэрпае, напрыклад, Кірушын весткі аб тым, што „бравы гэнэрал“ Булак-Балаховіч *„быў уключаны ў сьпісак членаў беларускага ўраду“*? Дзе і калі гэта было?

П. Кірушын, як і пераважная большасьць савецкіх гісторыкаў, паклікаецца ў сваіх цьверджаньнях на *„бальшавіцка-правераныя дакумэнты“*. Гэта яму робіць „гонар“ называцца *„бальшавіцкім вучоным“*. Кірушын знайшоў, бачыце, у архівах АДПУ *„бальшавіцка-вытрыманыя матарыялы“* — гэта... *„паказаньні пры допыце“* арыштаваных у 1930 г. у Менску *„нацдэмаўскіх контррэвалюцыянэраў“*. Сярод іншых паказаньняў — а было іх, мабыць, нямала — ён знайшоў і такія, дзе гаворыцца, што *„ў выпадку інтэрвэнцыі нацдэмы... ставілі сабе мэтай зьвяржэньне савецкай улады і ўстанаўленьне Беларускай Народнай Рэспублікі пад пратэктаратам Польшчы“. „Палітычным ідэалам нацдэмаў была неад’емнасьць прыватнай уласнасьці... Арганізацыя народнага ўраду, які шляхам нацыянальнага сходу выбірае прэзыдэнта рэспублікі і ўстанаўляе выбарчы закон“. „Для дасягненьня гэтых задач апорай павінны былі зьявіцца заможнае кулацкае сялянства і антысавецкая частка гарадзкога насельніцтва. Для ваеннага кіраўніцтва масамі ў гэты момант намячалася скарыстаньне кадраў афіцэрства“* (С. 117). *„Урад аднойленай БНР павінен быў мець прадстаўнікоў розных грамадзкіх колаў — капіталістаў, кулакоў, памешчыкаў, буржуазных інтэлігентаў, за выключэньнем, зразумела, працоўных сялян і рабочых“. „Пры разьмяркаваньні міністэрскіх партфэляў партфэль ваеннага міністра намячаўся нацдэмаўскаму „гэнэралу“ Булак-Балаховічу“* (С. 118).

Дык вось тыя крыніцы, скуль чэрпае Кірушын свае весткі аб „ідэалах і мэтах“ беларускіх „нацдэмаў“, якія, як ён кажа, *„яны адкрыта прызнавалі пры допыце“*, — гэта ёсьць паказаньні вязьняў, запісаныя агэнтамі АДПУ.

Магчыма... усё магчыма „пры допыце“ ў падзямельных мурах АДПУ. Арыштаваныя, застрашаныя і аж да сьмерці замучаныя няшчасныя ахвяры бальшавіцкага тэрору маглі падпісаць усё, што ім дыктавалі іх каты, маглі ўсё „прызнаць“ „пры допыце“, каб зьменшыць і аблегчыць свае мучэньні, тым больш калі ім за гэта абяцалі „даравацьжыцьцё“. Ня выключана таксама і тая магчымасьць, што агэнты АДПУ напісалі ў „паказаньні“ тое, што самі хацелі, маглі, нарэшце, і подпіс сфальшаваць. Усё магчыма за жалезнымі кратамі бальшавіцкіх вастрогаў... Хто-ж гэта можа праверыць?

Хто можа праверыць, напрыклад, праўдзівасьць тых „паказаньняў“ — *„пакаянных лістоў з прызнаньнем сваіх памылак“* (С. 118), „пакаянных лістоў“ прафэсара Ўсевалада Ігнатоўскага, першага прэзыдэнта Беларускай Акадэміі Навук, калі ўжо няма яго сярод жывых — замучаны „пры допыце“ ў бальшавіцкім вастрозе...

Хіба можна верыць агэнтам АДПУ, тым агэнтам АДПУ, рукі якіх запэцканы ў бязьвінна пралітай крыві?

Хіба можна верыць забойцам прафэсара-акадэміка Ўсевалада Ігнатоўскага?

[31] **Павал Скарападзкі** (1873—1945), вайсковы й палітычны дзеяч, гетман Украіны ад 29 красавіка да 14 сьнежня 1918 г. — ***Рэд.***

[32] **Юзаф Пілсудзкі** (1867—1935), вайсковы й палітычны дзеяч, на той час прэзыдэнт Польскай Рэспублікі (1918—1922). Мажліва, маецца на ўвазе вітаньне першага польскага прэзыдэнта Алесем Гаруном і іншымі дзеячамі нацыянальнага адраджэньня, якія пэўны час спадзяваліся, што ліцьвін Пілсудзкі падтрымае незалежніцкія беларускія колы. — ***Рэд.***

[33] **Станіслаў Булак-Балаховіч** (1883—1940), вайсковы і палітычны дзеяч. У кастрычніку—лістападзе 1920 г. кантраляваў тэрыторыю Ўсходняга Палесься. — ***Рэд.***

Ва ўсялякім прыпадку паказаньні „пры допыце“ *„выкрытых і разгромляных нацдэмаўскіх контррэвалюцыянэраў“* ёсьць вельмі падобныя да *„пратаколаў сіонскіх мудрацоў“*. Гэта-ж таксама былі застаўляны з адзінай мэтай — *„выкрыць і разграміць“*!

*„Ігнатоўскі — гэта адзін з галоўных кіраўнікоў беларускага контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму“,* — бянтэжыцца Кірушын. *„Гэта ён зьбіраў па ўсяму СССР нацдэмаў і перавозіў іх у Беларусь, а потым шукаў ім пасады, найбольш цёплыя і карысныя для нацдэмаўскай контррэвалюцыйнай справы“. „Ігнатоўскі быў тварцом буржуазнай, шкодніцкай схемы гісторыі Беларусі“. „Ён зьяўляецца адным з аўтараў тэорыі адзінства беларускай нацыі і абараняў яе да канца“* (С. 118).

Каб аканчальна зганьбіць і зьбэсьціць імя прафэсара Ўсевалада Ігнатоўскага, забітага здрадна ў бальшавіцкім вастрозе, Кірушын, асьлеплены „бальшавіцкай пільнасьцю“, кідае наступныя словы-абвінавачваньні: *„Выкрыты партыяй, Ігнатоўскі круціцца вужакай, падае пакаянныя заявы з прызнаньнем сваіх „памылак“ толькі для таго, каб партыя не раскрыла галоўнага — яго работу ў дэфэнзіве, аднак партыя канчаткова выкінула са сваіх радоў правакатара-ахраньніка і яго паплечнікаў“* (С. 118).

І што-ж, хай дазволена будзе тут спытацца, партыя выкрыла яго *„работу ў дэфэнзіве“*? Не, ня выкрыла! Кампартыя ня выкрыла і ніколі ня выкрые работу Ігнатоўскага ў польскай дэфэнзіве або ў рускай ахранцы, як гэтага хоча Кірушын, бо ўсё гэта ёсьць выплад яго зьбянтэжанай фантазіі.

Можа нехта спытае: чаму гэта бальшавікі ніяк ня могуць супакоіцца з трагічнай сьмерцю прафэсара Ўсевалада Ігнатоўскага? Можа таму, што яго забілі „пры допыце“ агэнты АДПУ? А хіба мала беларусаў загінула ў бальшавіцкіх вастрогах пры допыце і бяз жадных допытаў? Чаму аб іх маўчаць?

Адказаць на гэта пытаньне — гэта наяўна выкрыць праўду: прафэсар Усевалад Ігнатоўскі па сьмерці больш небясьпечны для бальшавікоў, чым пры жыцьці. Таму яны так ганьбяць і бэсьцяць яго імя. Іх трывожыць здань помсты за бязьвінна пралітую кроў. Намагаюцца апраўдаць сваё злачынства, сваё вялікае праступленьне. Гэта-ж падумаць толькі: бальшавіцкія агэнты АДПУ забілі першага прэзыдэнта Беларускай Акадэміі Навук, забілі за тое, што ён ствараў падваліны самастойнай беларускай навукі!

Ня сам факт забойства ім страшны — да гэтага яны ўжо прызвычайны; бальшавікоў пужае тое, як беларускі народ узіраецца на сьмерць прафэсара Ўсевалада Ігнатоўскага.





У сьвядомасьці беларускага народу Ігнатоўскі зьяўляецца мучанікам за народную справу!

*In memoriam* прафэсара Ўсевалада Ігнатоўскага.

Належаў ён да тэй часткі беларускай рэвалюцыйна-народніцкай інтэлігэнцыі, якая ў бураломныя дні рэвалюцыі 1917—1920 гг. высока ўзьняла сьцяг волі і незалежнасьці беларускага народу. Быў чынным сябрам Беларускай Партыі Сацыялістаў-Рэвалюцыянэраў. Стаяў на чале Беларускага Вучыцельскага Інстытуту, які стараньнямі эсэраў заснованы быў у Менску ў 1918 г.; гэта быў першы Беларускі Вучыцельскі Інстытут. Прафэсар Усевалад Ігнатоўскі выкладаў у БВІ гісторыю Беларусі; чытаў лекцыі па гісторыі Беларусі на беларускіх агульна-асьветніцкіх курсах у Менску. У 1919 г. выдаў друкам свае лекцыі пад назвай „Гісторыя Беларусі“. Гэта быў першы падручнік гісторыі Беларусі для школ і самаадукацыі.

Працуючы навукова, праф. Ус. Ігнатоўскі ня ўхіляўся таксама ад выкананьня баявых заданьняў Беларускай Партыі Сацыялістаў-Рэвалюцыянэраў.

У пачатку 1920 г. быў чынным сябрам баёўнага штабу беларускай народнай рэвалюцыі — прыймаў непасрэдны ўдзел у працах Беларускага Цэнтральнага Паўстанчаскага Камітэту.

У ліпені 1920 г. Менск быў здабыты беларускімі рэвалюцыйнымі партызанамі. Была арганізавана беларуская народна-рэвалюцыйная ўлада — Беларускі Рэвалюцыйны Камітэт.

У гэты час камуністы-бальшавікі пачалі вясьці перагаворы зь беларускімі эсэрамі аб утварэньні супольнага фронту. *„Наша партыя, — кажа В. Кнорын*[34]*, — прызнала магчымым пайсьці на перагаворы аб уваходжаньні ў савецкі ўрад БССР беларускіх эсэраў і бундаўцаў, не згаджаючыся ні на якія прынцыповыя ўступкі. Гэта пастанова была выклікана тым, што ва ўмовах рэвалюцыйнай хвалі, ва ўмовах нашага наступленьня на Варшаву, ва ўмовах росту рэвалюцыйных сіл на захадзе можна было разьлічваць на далейшае палявеньне тых мас, якія ўсё яшчэ ішлі за гэтымі партыямі. Гэта пастанова была выклікана тым, што партыя лічыла неабходным выкарыстаць усе рэва-*

[34] **Вільгельм Кнорын** (**Кнорыньш**, 1890—1938), грамадзка-палітычны дзеяч, гісторык, літаратурны крытык, журналіст. У 1932—1937 гг. ён быў дырэктарам Інстытуту чырвонай прафэсуры, галоўным рэдактарам часопісаў „Коммунистический Интернационал“ і „Большевик“. — ***Рэд.***

*люцыйныя сілы, асабліва зьвяртаючы ўвагу на беларускія сілы, якіх у той час у партыі было мала. У пасьледку, пры зьмене сытуацыі, пры новых труднасьцях — стала ясна, што дробна-буржуазны груз у выглядзе эсэраў моцна затрымаў-бы манэўраваньне маладога беларускага ўраду і прынёс-бы шмат шкоды справе пралетарскай дыктатуры БССР“*[35].

У рэчаістасьці справа іначай выглядала: калі бальшавікі ўбачылі, што беларускія эсэры, абапіраючыся на рэвалюцыйную волю беларускіх працоўных грамад, фактычна зьдзяйсьняюць народна-рэвалюцыйную ўладу на Беларусі, то, ня маючы ніякага ўплыву на бураломны цяг падзеяў, змушаны былі пайсьці на перагаворы з эсэрамі аб устанаўленьні адзінага фронту; пачалі „манэўраваць“, каб „пры зьмене сытуацыі“, якая хутка настала, рашуча адмовіцца ад адзінага фронту. Гэна „зьмена сытуацыі“ настала ў той спосаб, што бальшавікі атрымалі з Масквы дапамогу ў відзе некалькіх сот тысяч узброеных чырвонаармейцаў. Абапіраючыся на сілу штыхоў і кулямётаў акупацыйнай арміі, бальшавікі пачалі дыктатарскі паводзіцца на Беларусі. Беларускія эсэры востра паставіліся супраць маскоўска-бальшавіцкіх акупантаў, уважаючы, што ўся паўната ўлады на Беларусі мае належаць беларускаму працоўнаму народу.

*„Пасьля няўдалых перагавораў,* — кажа Алесь Адамовіч, — *эсэры павялі на нас вострую атаку і пачалі нават агітаваць за тое, каб мы вывялі з тэрыторыі Беларусі чырвоную армію, таму што яна не беларуская, каб устанавілі агульнае галасаваньне і г.д і г.д. Зразумела, што мы адказалі ўзмоцненым націскам, і эсэры здалі свае пазыцыі“*[36]. *„Яны хутка павярнуліся,* — кажа ў іншым месцы Алесь Адамовіч, — *так хутка, што мы нават не пасьпелі падаць адзін аднаму рукі. А пасьля гэтага яны, як кажуць, закасаўшы рукавы, пайшлі разам зь белагвардзейцамі на актыўнае змаганьне з намі, супраць савецкай улады“*[37].

Але бальшавікам у той час патрэбна была беларуская інтэлігэнцыя: у шэрагах кампартыі ня было беларускіх сілаў. Рашылі выўжыць спосаб айцоў езуітаў: павялі хлусьлівую тактыку ўнутранага расколу і разьбіцьця еднасьці беларускіх эсэраў. І што-ж, дапялі свае мэты. Група

[35] Кнорын, В. Заметкі к гісторыі пралетарыята ў Беларусі // Зьвязда. № 150. 10 жніўня 1934.

[36] Зьвязда. № 2366. 1926.

[37] Савецкая Беларусь. № 101. 7 траўня 1926.





інтэлігэнцыі на чале з прафэсарам Усеваладам Ігнатоўскім адкалолася ад БПС-Р. Заснована была група беларускіх рэвалюцыйных камуністаў-народнікаў, якая пайшла на супрацоўніцтва з бальшавікамі; у неўзабаве зусім нават зьлілася з кампартыяй, кладучы аснову ўзьніку Камуністычнай Партыі (бальшавікоў) Беларусі. Прафэсар Ус. Ігнатоўскі з гэтага часу быў сябрам савецкага ўраду БССР; займаў пасаду народнага камісара асьветы. Абапіраючыся на Беларускі Вучыцельскі Саюз, які яшчэ ў 1918 г. быў заснаваны беларускімі эсэрамі, закладаў беларускія пачатковыя, сярэднія і вышэйшыя школы. Пры яго непасрэдным удзеле быў заснаваны ў 1921 г. Беларускі Дзяржаўны Ўнівэрсытэт у Менску і Беларуская Сельска-Гаспадарчая Акадэмія ў Горы-Горках, шэраг Беларускіх Вучыцельскіх Інстытутаў і Педтэхнікумаў. Пры яго непасрэдным удзеле і пад яго кіраўніцтвам заснавана была ў 1921 г. беларуская тэрміналягічная камісія пры Народным камісарыяце асьветы, у 1922 г. тэрміналягічная камісія, папоўненая новымі працаўнікамі, рэарганізавана была ў Інстытут Беларускай Культуры; у 1929 г. Інбелкульт рэарганізаваны быў у Беларускую Акадэмію Навук. Гэтым былі паложаны моцныя падваліны культурнага будаўніцтва Беларусі. Але гэта, якраз, і напалохала маскоўска-бальшавіцкіх акупантаў. У студзені 1931 г. прафэсар Усевалад Ігнатоўскі быў *„выкрыты і разгромлены“* як галоўны кіраўнік *„беларускага контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму“*, а ў лютым 1931 г. — забіты ў менскім вастрозе.

Нельга не адзначыць, пры гэтым, адну вельмі характэрную псыхалягічную рысу.

У пастанове ЦК КП(б)Б аб выключэньні Ігнатоўскага з кампартыі чытаемо: *„Ігнатоўскі сьвядома фальсіфіцыраваў гістарычныя факты, імкнуўся затушаваць кіруючую ролю КП(б)Б барацьбой пралетарыяту і партызанскім рухам на Беларусі ў часе белапольскай акупацыі. Ігнатоўскі, заядлы нацыянал-дэмакрат, апраўдваў контррэвалюцыйныя выступленьні сваіх пабратымцаў беларускіх эсэраў і інш.“ „Будучы на чале Акадэміі Навук, ён садзейнічаў таму, што БАН стала цытадэльлю контррэвалюцыйных нац-дэмакратаў“*[38].

У бальшавіцкім друку аб сьмерці Ігнатоўскага была зьмешчана кароценькая зацемка: *„Пакончыў жыцьцё самагубствам“*.

У Менску ў той час адбываўся трэці ўсебеларускі настаўніцкі зьезд, на якім было 305 дэлегатаў, сярод дэлегатаў было 50 рабочых ад варштату, сельскагаспадарчых рабочых і калгасьнікаў. Пад націскам кам-

[38] Савецкая Беларусь. № 20. 25 студзеня 1931.

партыі зьезд пастанавіў абвесьціць сябе ўдарным у барацьбе за генэральную лінію партыі. Пастановай ЦВК БССР узнагароджаны быў ордэнам чырвонага працоўнага штандару.

Тыя беларускія настаўнікі, якія сумняваліся ў праўдзівасьці „генэральнай лініі партыі“, выключаліся з саюзу працаўнікоў асьветы, пазбаўляліся варштату свае творчае працы.

У Маскве ў той час пачалі адбывацца дэкады Савецкай Беларусі.

*„Удар па нацыянал-дэмакратызьме тут,* — кажа А. Альшэўскі, — *гэта адначасова ўдар па беларускай контррэвалюцыі за межамі“*[39].

Так, сьмерць прафэсара Ўсевалада Ігнатоўскага — гэта ёсьць моцны ўдар, які намераны рускімі вялікадзяржаўнікамі, каб зьнішчыць справу беларускага культурнага будаўніцтва.

Цяпер бальшавікі ганьбяць і бэсьцяць імя нябожчыка, балазе, што ня можа ён ужо сам абараніцца ад іх напасьцяў і лаянкі агіднай.

Але не пагасіць ім сьветач ясны!

Беларускі народ з пашанаю ўспамінае імя гэроя-мучаніка, імя першага прэзыдэнта Беларускай Акадэміі Навук…

## 14

Вернемся, аднак, да справы „бравага гэнэрала“, якога бальшавікі хочаць бачыць не іначай, як толькі ў ролі ваеннага міністра беларускага ўраду.

У Кірушына, мабыць, вельмі кароткая памяць. То ён кажа, што яшчэ ў 1919 г. *„нацдэмы ўключылі Булак-Балаховіча ў сьпісак членаў беларускага ўраду ў якасьці ваеннага міністра“* (С. 106), то ён сцьвярджае, што толькі ў выпадку інтэрвэнцыі і аднаўленьня БНР — гэта ўжо ў 1920 г. — *„пры разьмеркаваньні міністэрскіх партфэляў партфэль ваеннага міністра намячаўся нацдэмаўскаму генэралу Булак-Балаховічу“* (С. 118).

Дык вось: быў генэрал Булак-Балаховіч у 1919 г. ваенным міністрам беларускага ўраду ці ня быў?

У 1919 г., як ведама, быў толькі адзін беларускі ўрад — гэта ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі. Урад Савецкай Беларусі, абвешчаны ў студзені 1919 г. незалежнай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай у этнаграфічных межах разьсяленьня беларускага народу, праіснаваў усяго толькі некалькі дзён; гэта прызнае, зрэшты, і П. Кірушын (С. 105).

[39] Зьвязда. № 72. Люты 1931.





Але ён замоўчвае пры гэтым, што першы савецкі ўрад на Беларусі — не беларускі савецкі ўрад, а савецкі ўрад на Беларусі! — па загаду з Масквы быў „адменены“, а Беларусь разарвана была на часьці: усходняя частка Беларусі (большая палавіна Меншчыны, уся Віцебшчына і Смаленшчына) уваходзіла ў так-званую *„Западную Коммуну“*, а заходняя частка (меншая палавіна Меншчыны, уся Віцебшчына і Горадзеншчына) злучалася бальшавікамі зь Літвой; бальшавікамі створаны быў так-званы Літ-Бел — Літоўска-Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка. У 1921 г., паводле Рыжскае дагоды паміж Масквой і Варшавай, заходняя частка Беларусі была „ўступлена“ бальшавікамі Польшчы.

Як-жа адносіўся ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі да „бравага гэнэрала“ Булак-Балаховіча, якога бальшавікі намецілі ўжо ў сьпісак членаў беларускага ўраду?

Адказ на гэта пытаньне знаходзім у пастановах Беларускай Нацыянальна-Палітычнай Нарады — *„нацдэмаўскай нарады“*, як скажуць бальшавікі, — якая адбылася ў Празе-Чэскай 25—30 верасьня 1921 г.

У рэзалюцыі „Аб чыннасьці Булак-Балаховіча“ чытаемо:

*„Беларуская Нацыянальна-Палітычная Нарада ў Празе, абмеркаваўшы выступленьні Балаховіча пад нацыянальным беларускім штандарам, пастанаўляе:*

1. *што Балаховіч ня мае ніякага падтрыманьня з боку беларускіх нацыянальных арганізацый;*
2. *што зьвязаўшы сваё імя зь беларускім вызвольным рухам, ён дагэтуль не ачысьціў сябе ад пазорачых беларускае імя абвінавачаньняў у жыдоўскіх пагромах і грабежніцтвах;*
3. *што ён самавольна абвесьціў сябе галоўнакамандуючым беларускіх вайсковых сіл і*
4. *дазволіў сабе выдаваць акты дзяржаўнага значаньня.*

*Дзеля гэтага Беларуская Нацыянальна-Палітычная Нарада ў Празе лічыць Балаховіча — да таго часу, пакуль ён не апраўдае сябе перад беларускім грамадзянствам, — узурпатарам і авантурнікам“*[40].

Гэтак у рэчаістасьці выпадае справа з „бравым гэнэралам“ Булак-Балаховічам: беларускія „нацдэмы“ ўважалі і ўважаюць яго за авантурніка і прайдзісьвета!

[40] Рэзалюцыя, прынятая на Беларускай Нацыянальна-Палітычнай Нарадзе ў Празе // Сялянская Доля. 1921. № 4. С. 8

Але гэта яшчэ ня ўсё!

У бальшавіцкім друку чытаемо: *„Вярнуўшыся з заграніцы, Ластоўскі*[41] *і Цьвікевіч*[42] *самым наглым спосабам ашукалі савецкі ўрад, прадаўжаючы да апошняга часу тварыць сваю здрадную справу. Гэта нацыяналістычная хеўра, уластаваўшыся на адказнай працы ў савецкіх урадах, імкнулася выкарыстаць легальныя магчымасьці дзеля зьдзяйсьненьня сваей шкодніцкай працы. Яна падбірала і аб'ядньвала нацыянал-дэмакратычныя сілы, расстаўляла сваіх людзей на кіруючыя пасады ў розных савецкіх урадах. Гэта контррэвалюцыйная група намагалася таксама стварыць грунт для рэстаўрацыі капіталізму на Беларусі пад прыкрыцьцём установак і выступленьняў нацыянал-апартуністаў унутры партыі. Спачатку кіраўніцтва контррэвалюцыйнай арганізацыяй групавалася наўкола Беларускай Акадэміі Навук, а затым яно сваймі шчупальцамі сумела абхапіць Наркамзем, Наркомпрос, Белдзяржвыдат і іншыя савецкія органы. Падрыўная праца нацыяналістычных элемэнтаў была напраўлена проці савецкай улады з мэтаю стварэньня на Беларусі буржуазнай рэспублікі, гэта азначае вярнуць уладу абшарнікам і капіталістам і фактычна абярнуць БССР у калёнію польскага імпэрыялізму. Нацыянал-дэмакраты ніякай рэальнай сілы ўнутры краіны ня мелі, а дзеля гэтага будавалі разрахункі на дапамогу інтэрвэнтаў, на польскую акупацыю. Ды, пэўна-ж, рукамі, галоўным чынам, польскіх фашыстаў яны марылі зрабіць пераварот. У выніку няміласэрднай барацьбы партыі за ленінскую нацыянальную палітыку АДПУ Беларусі аканчальна сарвала маску з групы контррэвалюцыйнай нацыянал-дэмакратычнай інтэлігенцыі. У групе аказаліся добравядомыя працоўным масам Беларусі быўшыя міністры Беларускай Народнай Рэспублікі, эсэры і белагвардзейцы — Ластоўскі, Лёсік*[43]*, Краскоўскі*[44]*, Некрашэвіч*[45]*, Смоліч*[46]*, Цьвікевіч, якія здаўна марылі аб*

[41] **Вацлаў Ластоўскі** (1883—1938), грамадзкі й палітычны дзеяч, пісьменьнік, гісторык, філёляг, літаратуразнаўца, этнограф. Удзельнік абвяшчэньня незалежнасьці БНР. У 1919—1923 гг. — прэм'ер-міністар БНР. Працаваў у Міністэрстве беларускіх справаў у Літве. У 1927 г. пераехаў у БССР. Працаваў дырэктарам Беларускага дзяржаўнага музэю, загадчыкам катэдры этнаграфіі пры Інбелкульце. Ад 1928 г. — акадэмік БелАН. У 1930 г. арыштаваны па справе „Саюзу вызваленьня Беларусі" й высланы на 5 гадоў у Саратаў. Паўторна арыштаваны ў 1937 г. і прыгавораны да расстрэлу. — ***Рэд.***

[42] **Аляксандар Цьвікевіч** (1888—1937), палітык, навукоўца, публіцыст. У 1921—1923 гг. — міністар замежных справаў ва ўрадзе БНР Вацлава Ластоўскага, у 1923 г. узначаліў альтэрнатыўны ўрад БНР. На Другой усебеларускай канфэрэнцыі ў Бэрліне ў 1925 г. прызнаў дасягненьні культурнага будаўніцтва ў БССР і ліквідаваў урад БНР, неўзабаве пераехаў у Менск. У 1930 г. быў арыштаваны па справе „Саюзу вызваленьня Беларусі" й асуджаны на 5 гадоў высылкі. У 1937 г. расстраляны. — ***Рэд.***

[43] **Язэп Лёсік** (1883—1940), грамадзкі й палітычны дзеяч, пісьменьнік, публіцыст, мовазнаўца, пэдагог. Адзін з ініцыятараў акту незалежнасьці БНР. У 1919 г. — старшыня Найвышэйшай Рады БНР. Пасьля заканчэньня грамадзянскай вайны застаўся ў БССР. Займаўся навуковай, культурна-асьветнай, літаратурнай працай, выкладаў у БДУ, на беларукіх лектарскіх курсах, у Белпэдтэхнікуме. Удзельнік, а ад 1930 г. — старшыня Тэрміналягічнай камісіі. Дырэктар Інстытуту навуковай мовы. У 1930 г. арыштаваны па справе „Саюзу вызваленьня Беларусі" й прыгавораны да высылкі. У 1938 г. зноў арыштаваны й асуджаны на 5 гадоў лягераў. Памёр ад сухотаў у турме. — ***Рэд.***

[44] **Іван Краскоўскі** (1880—1955), беларускі палітычны дзеяч, публіцыст, пэдагог. Сябра БСГ, БСДП. У 1918 уваходзіў у склад ураду Ўкраінскай Народнай Рэспублікі, быў паслом УНР у Грузіі. У 1920 г — старшыня Беларускага нацыянальнага камітэту ў Вільні. Ад лета 1925 г. жыў у Менску, працаваў у БДУ, Інбелкульце (потым БелАН). Арыштаваны ў 1930 г. па справе „Саюзу вызваленьня Беларусі" й сасланы на 5 гадоў у Самару. Паўторна арыштаваны ў 1937 г., вызвалены ў 1940 г. Пасьля Другой сусьветнай вайны жыў у Чэхаславаччыне. — ***Рэд.***

[45] **Сьцяпан Некрашэвіч** (1883—1937), беларускі навуковец і грамадзкі дзеяч. Пасьля абвяшчэньня БНР у 1918 г. — прадстаўнік яе ўраду на поўдні Ўкраіны. Ад 1920 г. жыў у Менску. Працаваў у Народным камісарыяце асьветы БССР. Удзельнічаў у арганізацыі Інстытуту беларускай культуры, у 1922—1925 гг. — яго першы старшыня. Ад 1928 г. — акадэмік, віцэ-прэзыдэнт БелАН, ад 1929 г. — дырэктар Інстытуту мовазнаўства БелАН. У 1930 г. арыштаваны па справе „Саюзу вызваленьня Беларусі" й прыгавораны да 5 гадоў высылкі. Паўторна арыштаваны ў 1937 г. і прыгавораны да расстрэлу. — ***Рэд.***

[46] **Аркадзь Смоліч** (1891—1938), грамадзка-палітычны дзеяч, спэцыяліст у галіне геаграфіі, эканомікі, картаграфіі. Адзін з ініцыятараў абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР). У першым урадзе БНР займаў пасаду сакратара асьветы. У 1919 г. — намесьнік старшыні ўраду А. Луцкевіча, адначасова міністар сельскай гаспадаркі БНР. Ад 1922 г. — у БССР. Працаваў у наркамаце земляробства, выкладаў у БДУ, сябра Інбелкульту. Першы беларускі прафэсар геаграфіі. У 1930 г. арыштаваны па справе „Саюзу вызваленьня Беларусі" й высланы на 5 гадоў у Расею. У 1937 г. паўторна арыштаваны й прысуджаны да расстрэлу. — ***Рэд.***

*стварэньні незалежнай Беларусі пад скіпатрам аўтара „цуда над Віслай“*[47].

Гэтую-ж самую хлусьню паўтарае і Б. Тарашкевіч[48], быўшы „правадыр“ Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады. Ён піша, а можа быць і так, што за яго толькі подпісам друкуецца ўся гэта блытаніна, бо ён зьяўляецца цяпер „знатным заложнікам“ у Маскве, хаця можа і сам таго добра не ўсьведамляе; ва ўсялякім выпадку за яго подпісам чытаемо: *„Шалёнае супраціўленьне буржуазных ідэёлягаў на культурным фроньце барацьбы — гэта адна з форм абароны матар'яльных інтарэсаў буржуазіі і кулацтва. За гэтыя інтарэсы, у першую чаргу, і вядуць барацьбу беларускія нацыянал-фашысты ўсіх масьцей і груповак — адкрытыя саюзьнікі польскага фашызму: Луцкевіч*[49]*, Астроўскі*[50] *і Ко ў Польшчы; іх субраты — нацдэмы ў БССР. Беларускі*

[47] Гур, Г.Белорусская контрреволюция // Красная Газета. Вечерний выпуск. Ленинград. № 304. 25 декабря 1930.

[48] **Браніслаў Тарашкевіч** (1892—1938), беларускі грамадзка-палітычны дзеяч, мовазнаўца, перакладчык, публіцыст. Адзін зь лідэраў Беларускай сацыялістычнай грамады. У 1918 г. загадваў культурна-асьветным аддзелам Петраградзкага аддзяленьня Белнацкаму. Ад 1921 г. — дырэктар Віленскай беларускай гімназіі. Адзін з кіраўнікоў і заснавальнікаў ТБШ. У 1922—1924 гг. узначальваў Беларускі пасольскі клюб. Ад 1926 г. — сябра КПЗБ. У 1925 г. заснаваў і ўзначаліў Беларускую сялянска-работніцкую грамаду. У 1927 г. арыштаваны польскімі ўладамі і асуджаны да зьняволеньня на 12 гадоў, але вызвалены ў 1930 г. У 1931 г. зноў арыштаваны і асуджаны на 8 гадоў. У 1933 г. у выніку абмену зьняволенымі трапіў у СССР. Працаваў загадчыкам аддзелу Польшчы й Прыбалтыкі ў Міжнародным аграрным інстытуце ў Маскве. У 1937 г. арыштаваны па справе „Беларускага нацыянальнага цэнтру“ і прыгавораны да расстрэлу. — ***Рэд.***

[49] **Антон Луцкевіч** (1884—1942), палітычны й грамадзкі дзеяч, публіцыст, літаратурны крытык, гісторык, лінгвіст, выдавец. Адзін з ініцыятараў абвяшчэньня незалежнасьці БНР. Старшыня Рады Народных Міністраў і міністар замежных справаў БНР. У 1919—1920 гг. — Старшыня Рады Міністраў Найвышэйшай Рады БНР. Ад 1921 г. — старшыня Беларускага нацыянальнага камітэту ў Вільні. Пасьля ўтварэньня ў 1925 Беларускай сялянска-работніцкай грамады працаваў у яе рэдакцыйным камітэце. Неаднойчы арыштоўваўся польскімі ўладамі. У 1930-х гг. адышоў ад палітычнай дзейнасьці. У 1939 г. арыштаваны савецкімі ўладамі й прысуджаны да 8 гадоў лягераў, памёр у зьняволеньні. — ***Рэд.***

[50] **Радаслаў Астроўскі** (1887—1976), палітык, грамадзкі дзеяч, пэдагог, публіцыст. У 1924—1936 гг. — дырэктар Віленскай беларускай гімназіі, ⇨





*фашызм, праводзячы ў жыцьцё інтэрвэнцыянскія пляны імпэрыялістычных дзяржаў, аб'яднае палітычную платформу, праводзіць арганізацыйную смычку зь беларускімі нацыянал-дэмакратамі ў БССР. Сваяцтва, калі не аналягічнасьць буржуазна-кулацкай ідэалёгіі нацыянал-фашыстаў і нацдэмаў не прыходзіцца даказваць. Характар дзейнасьці адных і другіх указвае ня толькі на іх арганічную сувязь. Іх зьвязвае як контррэвалюцыйнае мінулае, так і контррэвалюцыйнае сучаснае: іх лёзунг аб незалежнай буржуазна-дэмакратычнай Беларускай Народнай Рэспубліцы — гэта актыўны ўдзел у падрыхтоўцы да інтэрвэнцыі, у пашырэньні польскай акупацыі на Ўсход, у зруйнаваньні буйна ўзрастаючага сацыялістычнага будаўніцтва, у падняволеньні працоўных мас“*[51].

Усё тут зблытана і перапутана, мабыць, з адзінай мэтаю — зьбянтэжыць чытача.

Як у рэчаістасьці выпадае беларуская „контррэвалюцыя“, аб гэтым наяўна сьведчыць Беларуская Нацыянальна-Палітычная Нарада ў Празе.

У гэтай Нарадзе прыймалі ўдзел усе тыя беларускія палітычныя партыі, якія стваралі БНР: беларускія эсэры, беларускія эсдэкі, беларускія эсэфы і беларускія нарсоцы. Усяго было 37 дэлегатаў. Паводле партыйнай прыналежнасьці ўсе дэлегаты разьмяркоўваліся ў наступным парадку: сяброў Беларускай Партыі Сацыялістаў-Рэвалюцыянэраў было 18; Беларускай Партыі Сацыялістаў-Федэралістаў — 5; Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Партыі — 4; Беларускай Партыі Народных Сацыялістаў — 2; рэшта былі беспартыйныя — іх было 8. У склад прэзыдыюму ўваходзілі: 2 эсэры і 1 эсэф.

Партыйны склад Нарады поўнасьцю адбіваў тагочасны ўплыў пасобных партый у краі.

⇨ адначасова ў 1930—1932 гг. — Беларускай праваслаўнай духоўнай сэмінарыі імя Ф. Багушэвіча. У другой палове 1920-х гг. выконваў абавязкі старшыні Таварыства беларускай школы, быў віцэ-старшынём Беларускай сялянска-работніцкай грамады (БСРГ). Пасьля разгрому БСРГ — прыхільнік „паланафільскага кірунку“ — супрацоўніцтва з польскімі ўладамі дзеля папулярызацыі беларускай культуры і школьніцтва. У 1936 г. быў высланы ў Лодзь (Польшча) настаўнікам матэматыкі і фізыкі. У 1939—1941 гг. — старшыня Беларускага камітэту самапомачы ў Лодзі. У 1943—1976 гг. — прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады. Пасьля Другой сусьветнай вайны жыў у Нямеччыне, Швайцарыі, Аргентыне, Вялікабрытаніі, ЗША. — ***Рэд.***

[51] Тарашкевіч, Б. Заходняя Беларусь — пляцдарм імпэрыялістычных інтэрвэнцый // Савецкая Беларусь. № 13. 16 студзеня 1931.

Нарада адбывалася на вольнай зямлі братняга Чэхаславацкага народу; зусім вольна абмяркоўваліся ўсе пытаньні дзяржаўна-палітычнага, гаспадарчага і культурнага будаўніцтва вольнай і незалежнай Беларусі. Усе пастановы гэтай Нарады маюць сілу аж па сяньняшні дзень; зьяўляюцца абавязковымі нормамі паступаваньня ня толькі для тых партый, якія прыймалі ўдзел у Нарадзе, але яны маральна абавязваюць таксама і ўсе беларускія нацыянальна-палітычныя арганізацыі, якія вядуць змаганьне за Беларускую Народную Рэспубліку.

Беларуская Нацыянальна-Палітычная Нарада ў Празе пастанавіла:

*I. Аб Рыжскім трактаце.*

*Стоячы на груньце граматы Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ад 25 сакавіка 1918 г., абвясьціўшай незалежнасьць Беларусі ў межах лічэбнай перавагі беларускага народу, Беларуская Нацыянальна-Палітычная Нарада ў Празе, зложаная з прадстаўнікоў беларускіх палітычных партый і арганізацый з-пад усіх акупацый Беларусі, сабраўшыся ў Прагу, аднагалосна заяўляе:*

1. *Беларускі народ вёў, вядзе і будзе весьці барацьбу за незалежнасьць і непадзельнасьць Беларусі;*
2. *усе ранейшыя пратэсты беларускіх палітычных і нацыянальных арганізацый, у свой час заяўляныя супраць Рыжскага трактату, дзелячага Беларусь паміж Расіяй і Польшай, Нарадай аднагалосна пацьвярджаюцца;*
3. *Беларуская Нацыянальна-Палітычная Нарада ў Празе заклікае ўсе актыўныя беларускія сілы да самай рашучай рэвалюцыйнай барацьбы ўсякімі маючыміся ў іх распараджэньні спосабамі супроць падзелу Беларусі і заклікае лічыць ворагам беларускага народу кожнага таго, хто згадзіўся бы прызнаць Рыжскі мірны трактат.*

*II. Палажэньне беларускага народу пад акупацыяй.*

*Беларуская Нацыянальна-Палітычная Нарада ў Празе, разважыўшы палажэньне беларускага народу пад расійскай і польскай акупацыямі, сьцьвярджае, што:*

*1. Пад расійскай акупацыяй у гэты момант знаходзіцца больш як 206.000 кв. клм беларускай тэрыторыі.*

*На тэрыторыі Савецкай Беларусі расійскі савецкі ўрад устанавіў уладу, зложаную з чужых беларускаму народу элемэнтаў, каторымі кіруе цэнтральны савецкі ўрад з Масквы. Шырока рэклямаваная талерантнасьць савецкай улады да беларускага адраджэнскага руху ў Савецкай Беларусі дагэтуль ня выйшла з чыста дэклярацыйных рамак і для нацыянальна-культурнага адраджэнскага руху ў Савецкай Беларусі дагэтуль нічога ня зроблена.*

*На беларускай тэрыторыі, далучанай беспасрэдна да Расіі, беларускае насяленьне падлегае самай натужанай русыфікацыі і пазбаўлена ўсіх, як палітычных, гэтак і нацыянальна-культурных правоў; урадовай мовай зьяўляецца мова расійская, беларускія газэты забароняны, беларуская адраджэнская праца тлуміцца турмой і расстрэламі.*

*2. Пад польскай акупацыяй больш як 100.000 кв. клм беларускай зямлі.*

*На захопляных польскім імпэрыялізмам беларускіх землях бушуе цяпер нічым не абмежаваны польскі шовінізм і нячуваны нацыянальны і сацыяльны ўціск і зьдзек над беларускім народам. З мэтай задушыць беларускую культуру і інтэлігенцыю, кіруючыся да поўнага зьнішчэньня на гэтых землях беларускага племяні, землі беларускіх уцекачоў польскі ўрад раздае салдатам, ураджэнцам Польшчы. Сьвядомае беларускае сялянства польскі ўрад гноіць па турмах і канцэнтрацыйных лягерох, ён зачыняе культурныя, нацыянальныя і эканамічныя арганізацыі, забараняе друк, беларускую школу і мову.*

*Беларуская Нацыянальна-Палітычная Нарада, у імя справядлівасьці й захаваньня беларускай нацыі і культуры, вымагае ад Лігі Нацый і ўсіх народаў сьвету адкінуць агідны польскі шовінізм і імпэрыялізм у яго этнаграфічнай межы — за Буг і Нарэў.*

*III. Аб дзяржаўным будаўніцтве Беларусі.*

*Беларуская Нацыянальна-Палітычная Нарада ў Празе, абмеркаваўшы пытаньне аб дзяржаўным будаўніцтве Беларусі, у поўнай сьвядомасьці надзвычайнай вагі гэтага пытаньня, зазначае:*

1. *Беларусь зьяўляецца краем працоўнага беларускага сялянства, рабочых і працоўнай інтэлігенцыі, — дзеля чаго Беларусь павінна быць дзяржавай працоўнага народу;*
2. *Беларусь павінна быць дзяржавай непадзельнай і ні ад каго незалежнай. Нарада зазначае, што ніякія, гэтак званыя, арыентацыі ня могуць быць падставай дзяржаўнага будаўніцтва Беларусі. Адзінай асновай дзяржавы, адзінай сілай, якая збудуе Беларусь і забясьпечыць ёй нармальнае разьвіцьцё, зьяўляецца сам працоўны беларускі народ;*
3. *Пасьля зьдзяйсьненьня беларускай дзяржаўнасьці, пасьля таго, як на беларускай зямлі запануе ўласная ні ад каго не залежная*

*ўлада, Беларусь працягне руку згоды, дзеля вольнага саюзу усім народам, зь якімі яна жыве побач і якіх яна лічыць за роўных братоў сваіх. Першай мэтай гэтага саюзу павінна быць узаемная абарона народных вольнасьцяў, якія здабудуць народы сваёй барацьбой.*

*IV. На шляху вызваленьня.*

*Сялянская Беларусь, прачнуўшыся ад летаргічнага сну векавой няволі, распачала змаганьне за сваё вольнае і роўнае жыцьцё сярод іншых вольных народаў.*

*Чацьвёрты ўжо год змагаецца Беларусь з насільствам розных акупантаў. У гэтым змаганьні беларускі народ добра сабе ўсьвядоміў, што справа вызваленьня і адраджэньня яго Бацькаўшчыны ёсьць справа яго ўласных рук. Беларускі народ пераканаўся, што ні ад Масквы, ні ад Варшавы яму няма чаго чакаць для паляпшэньня сваёй долі.*

*Цэлым радам паўстаньняў, у працягу гэтых чатырох гадоў, беларускі народ ясна паказаў, куды ён імкнецца і на каго пакладае ўсе свае надзеі.*

*Найяскраўшым момантам у гэтым змаганьні гераічным, апрача паўстаньняў у Віленшчыне, Віцебшчыне, Ашмяншчыне і г.д., зьяўляецца паўстаньне ў Случчыне, калі сам сярмяжны народ, стыхійна паўстаўшы з аружжам у руках за незалежнасьць сваёй бацькаўшчыны, напісаў на сваім штандары: „Ні польскіх паноў, ні маскоўскіх камісараў!“. Беларуская Нацыянальна-Палітычная Нарада ў Празе канстатуе, што гэтае паўстаньне было задушана пераважаючымі сіламі з абодвух бакоў.*

*Слава паўшым змагарам!*

*Беларуская Нацыянальна-Палітычная Нарада ў Празе перасьцерагае беларускі народ, каб ня было непатрэбнага праліцьця крыві, устрымацца ад неарганізаваных выступленьняў, але моцна аб'еднаць свае сілы к таму моманту, калі праб'е час усенароднага рэвалюцыйнага змаганьня за права кожнага народу быць гаспадаром у сваім краі*[52].

Гэткія ёсьць ідэалы і мэты ўзапраўдных беларускіх рэвалюцыянэраў.

Гэта ёсьць ідэалы і мэты беларускай народнай рэвалюцыі!

Хто іначай уяўляе сабе вызвальную справу беларускага народу, той вандруе па блудных сьцежках-дарожках — рашуча той разыходзіцца з праўдай жывой рэчаістасьці!

[52] Рэзалюцыя, прынятая на Беларускай Нацыянальна-Палітычнай Нарадзе ў Празе // Сялянская Доля. 1921. № 4. С. 6—16.







Франук Грышкевіч, Васіль Русак, інж. Лаўскі, Адольф Клімовіч, Тамаш Грыб. Прага, 1927(?) г.

**16**

Кірушын, аднак, ёсьць кепскі гісторык; ён ухіляецца ад фактаў гістарычнай рэчаістасьці; стварае фантастычныя ўявы і ўявамі замяняе факты.

Яго зьбянтэжаная фантазыя рысуе ў чорных барвах дзейнасьць „нацдэмаўскіх контррэвалюцыянэраў“. Ён уяўляе сабе так цяг гістарычных падзей: *„Узброеная барацьба супраць саветаў закончылася праваламі, нацдэмам прышлося мяняць сваю тактыку. Частка нацдэмаў паехала за мяжу, дзе ў якасьці розных самазваных „урадаў“ прапанавала ўсім і кожнаму прадаць беларускія лясы, торф, чыгунку, хлеб, пяньку і т.д. Другая частка нацдэмаў засталася ў Менску, каб працаваць тут у якасьці разнастайных „спэцыялістаў“ — у галіне навукі, народнай асьветы, зямельнай справы і т.д. Прыкідваючыся лаяльнай да савецкай улады, гэта група на справе вядзе падпольную разлагаючую работу, каб стварыць глебу для імпэрыялістычнай інтэрвэнцыі ў СССР і адарваць Беларусь ад Савецкага Саюзу. Аднача-сова вядзецца разьведка па заданьні гэнэральных штабаў і ахранак заходніх дзяржаў. Нарэшце, трэцяя частка нацдэмаў шляхам двурушніцтва прабіраецца нават у КП(б)Б, займае (у асобе Ігнатоўска-*

*га, Прышчэпава, Алеся Адамовіча, Баліцкага*[53] *і іншых) адказныя мейсцы ў нашым савецкім і партыйным апараце і, прыкрываючыся партбілетам, праводзіць сваю контррэвалюцыйную работу“* (С. 106—107). *„Беларускі контррэвалюцыйны нацыянал-дэмакратызм выражае буржуазна-рэстаўратарскія інтарэсы ўсіх зьнішчаемых параможным ходам сацыялізму капіталістычных элемэнтаў, галоўным чынам кулацтва. Пад чорным сьцягам ваяўнічай рэакцыі, пад сьцягам нацыянал-дэмакратызму зьбіраюцца ўсе тыя, хто прагне рэстаўраваць капіталізм, вярнуць фабрыкі й заводы капіталістам, зямлю памешчыкам, насадзіць на вёсцы кулацка-хутарскія гаспадаркі, увекавечыць галечу і кулацкую эксплоатацыю“. „Каб зьдзейсьніць заданьні міжнароднай буржуазіі, контррэволюцыйны нацыянал-дэмакратызм за апошнія гады асабліва ўзмоцнена праводзіць сваю контррэволюцыйную работу на розных вучастках, падрыхтоўваючы адрыў БССР ад Савецкага Саюзу“* (С. 102). *„Інтэрвэнцыя — галоўны сьцяг нацдэмаўскай контррэволюцыі. У гэты бок былі накіраваны ўсе дырэктывы замежных ахранак“. „У гэтым напрамку разьвівалася контррэволюцыйная дзейнасьць Прышчэпава, Баліцкага, Ігнатоўскага, Мятлы*[54]*, Дварчаніна*[55]*, Рака-Міхайлоўскага*[56] *і іншых“* (С. 109). *„Нават і тая зьменавехаўская нарада часткі беларускіх эмігрантаў, якая адбылася ў канцы 1925 году ў Бэрліне, на якой пастаноўлена аб ліквідацыі ўраду БНР і поўнае прызнаньне ўлады саветаў,* — адбылася тая нарада паводле ўявы Кірушына, — *па загаду чужых органаў“* (С. 107).

Так, па загаду чужых органаў — гэта былі органы савецкае ўлады!

*„У новых абставінах,* — уяўляе сабе Кірушын, — *нацдэмы павялі лінію вельмі тонка. Яны пачалі актыўна змагацца з нацыянал-дэмакратызмам. З гэтай мэтай яны трымалі прамовы, давалі ў газэты інтэрвію, пісалі артыкулы (Мятла, Рак-Міхайлоўскі, Янель, Бабровіч*[57] *і інш.), дыхалі паказной ненавісьцю да польскага імпэрыялізму, да фашызму і ў гэты-ж час самі ядналіся з усімі фашыстамі, шпіёнамі і правакатарамі, працаваўшымі за мяжой (Луцкевіч, Астроўскі,*

---

[53] **Антон Баліцкі** (1891—1937), беларускі дзяржаўны дзеяч, публіцыст. У 1926—1929 гг. — наркам асьветы БССР. Адзін з праваднікоў палітыкі беларусізацыі. У 1929—1930 гг. сябра ЦВК БССР. У 1930 г. арыштаваны па справе „Саюзу вызваленьня Беларусі“ й прысуджаны да 10 гадоў лягераў. У 1937 г. пры паўторным разглядзе справы прысуджаны да сьмяротнага пакараньня. — ***Рэд.***

[54] **Пётра Мятла** (1890—1938), грамадзка-палітычны дзеяч. У 1922 г. абраны паслом польскага сойму. Сябра Беларускага пасольскага клюбу. Сябра КПЗБ. Адзін са стваральнікаў і сябраў ЦК БСРГ. У 1927 г. арыштаваны польскімі ўладамі й асуджаны на 12 гадоў зьняволеньня. У 1930 г. дзякуючы абмену палітычнымі вязьнямі апынуўся ў БССР. У 1932—1933 гг. — старшыня Камісіі па вывучэньні Заходняй Беларусі БелАН. У 1933 г. арыштаваны па справе „Беларускага нацыянальнага цэнтру“ і прысуджаны да расстрэлу, які быў заменены 10 гадамі лягераў, дзе і памёр. — ***Рэд.***

[55] **Ігнат Дварчанін** (1895—1937), грамадзкі дзеяч, навуковец, паэт, празаік, літаратуразнаўца. У 1921—1925 гг. вучыўся ў Карлавым унівэрсытэце ў Празе. Быў старшынём Аб'яднаньня прагрэсіўных беларускіх студэнтаў у Празе, сябрам Беларускай рады. У 1926 г. вярнуўся ў Вільню, дзе быў удзельнікам нацыянальнага руху. Сябра БСРГ, сакратар Беларускага выдавецкага таварыства. У 1928 г. абраны ў польскі сойм. Сябра Беларускага рабоча-сялянскага пасольскага клюбу „Змаганьне“ і Галоўнай управы ТБШ.⇨ ⇨У 1930 г. арыштаваны польскімі ўладамі й прысуджаны да 8 гадоў зьняволеньня. У 1932 г. у выніку абмену вязьнямі трапіў у БССР. Працаваў у БелАН у камісіі па вывучэньні Заходняй Беларусі і КП(б)Б. Выконваў абавязкі дырэктара Інстытуту мовазнаўства. У 1933 г. арыштаваны па справе „Беларускага нацыянальнага цэнтру“ й прысуджаны да 10 гадоў зьняволеньня. У 1937 г. паводле новага прысуду расстраляны. — ***Рэд.***

[56] **Сымон Рак-Міхайлоўскі** (1895—1938), грамадзка-палітычны дзеяч, публіцыст, рэдактар, паэт. У 1922 г. абраны дэпутатам польскага сойму. Ад 1925 г. — намесьнік старшыні ЦК БСРГ. Ад 1926 г. — сябра КПЗБ. У 1927 г. арыштаваны польскімі ўладамі й прысуджаны да 12 гадоў зьняволеньня. Вызвалены ў 1930 г., пасьля чаго перабраўся ў Менск. Працаваў дырэктарам Беларускага дзяржаўнага музэю. У 1931—1932 гг. быў сябрам ЦВК БССР. У 1933 г. арыштаваны па справе „Беларускага нацыянальнага цэнтру“, прысуджаны да расстрэлу, але прысуд быў заменены на 10 гадоў лягераў. У 1938 г. пасьля перагляду справы расстраляны. — ***Рэд.***

[57] Былі два дзеячы з прозьвішчам Бабровіч, арыштаваныя ў 1933 г. па справе „Беларускага нацыянальнага цэнтру. **Ян Станіслававіч Бабровіч** (1902—1943), грамадзкі дзеяч, публіцыст. У 1922—1925 гг. вучыўся ў Праскім унівэрсытэце. Ад 1926 г. сябра КПЗБ. У 1928 г. арыштаваны польскімі ўладамі й прысуджаны да 15 гадоў зьняволеньня. У 1932 г. у выніку абмену вязьнямі апынуўся ў БССР. Узначальваў Камісію па вывучэньні Заходняй Беларусі пры БелАН. У 1933 г. арыштаваны й прысуджаны да 10 гадоў зьняволеньня. У 1939 г. да тэрміну дададзеныя яшчэ 10 гадоў. **Лявон Бабровіч** (1904—1934), гісторык і публіцыст. Ад 1923 г. сябра КПЗБ. У 1932 г. скончыў асьпірантуру БелАН, працаваў старшым навуковым супрацоўнікам у Камісіі па вывучэньні Заходняй Беларусі. У 1933 г. арыштаваны й прысуджаны да расстрэлу. — ***Рэд.***

*Езавітаў*[58]*, Пігулеўскі*[59]*, Варонка*[60]*, Якавюк*[61]*). Дзеячы „Беларускага нацыянальнага цэнтру“ аб'ядналіся з польскімі й германскімі фашыстамі і зьвязаліся непасрэдна з Розэнбергам*[62]*, з рускімі і ўкраінскімі белагвардзейцамі, з астаткамі ранейшых буржуазных партый, што захаваліся яшчэ на Беларусі — эсэрамі, бундаўцамі, трацкістамі, членамі БСГ і інш. — і на грошы замежных контрразьведак выконвалі шпіёнскую работу“* (С. 119—120).

Гэтак выконвае П. Кірушын наказ партыі — *„найбольш поўнага выкрыцьця мінулага й цяперашняга нацдэмаўшчыны, прышчэпаўшчыны, эсэраўшчыны, бундызму і г.д. у Беларусі.. у мэтах узброеньня растучых кадраў бальшавіцка-распрацаваным матарыялам!“*

[58] **Канстанцін Езавітаў** (1893—1946), ваенны й грамадзка-палітычны дзеяч. Народны сакратар па вайсковых справах, удзельнік абвяшчэньня незалежнасьці БНР. У 1919—1920 гг. быў кіраўніком Вайскова-дыпляматычнай місіі БНР у Латвіі й Эстоніі. У 1921—1944 гг. узначальваў Беларускае нацыянальнае аб'яднаньне ў Рызе. У часе Другой сусьветнай вайны займаўся арганізацыяй у Латвіі беларускіх школ. У 1945 г. займаў пасаду кіраўніка вайсковага аддзелу БЦР. Затрыманы СМЕРШ у 1945 г. — ***Рэд.***

[59] **Уладзімер Пігулеўскі** (1889—1958), грамадзкі дзеяч, пісьменьнік, драматург. У 1924—1925 гг. — дырэктар Люцынскай беларускай гімназіі. У 1926—1934 гг. працаваў загадчыкам Беларускага аддзелу пры Міністэрстве асьветы Латвіі ў Рызе. У 1934 г. арыштаваны й сасланы ў Ліепайскі лягер. Па вызваленьні займаўся журналістыкай. У 1940—1941 гг. працаваў інспэктарам Міністэрства асьветы Латвійскай ССР. Пасьля вайны жыў у Рызе. Публікаваў у латыскім друку артыкулы пра беларускую культуру й літаратуру. — ***Рэд.***

[60] **Язэп Варонка** (1891—1952), палітычны дзеяч, журналіст, выдавец. Першы старшыня Народнага сакратарыяту БНР. Ад канца 1918 г. жыў у Каўнасе. Да красавіка 1920 г. — міністар беларускіх справаў ва ўрадзе Літвы. Ад 1923 г. жыў у Чыкага (ЗША), дзе спрычыніўся да заснаваньня беларускіх арганізацый: стварыў Беларускі нацыянальны саюз, ад 1926 па 1932 г. выдаваў газэту „Белорусская трибуна“, вёў беларускія й рускія перадачы на радыё. — ***Рэд.***

[61] **Сымон Якавюк** (1881—1973), грамадзка-палітычны дзеяч. У 1919 г. уваходзіў у Цэнтральную беларускую раду Гродзеншчыны. У 1922 г. абраны паслом польскага сойму. Уваходзіў у Беларускі пасольскі клюб. У 1924 г. перабраўся ў Коўна. Уваходзіў у Беларускае культурна-асьветнае таварыства, абіраўся яго старшынём. Пасьля Другой сусьветнай вайны — на гаспадарчай працы ў Літве. Да пачатку 1960-х г. перабраўся ў Горадню. — ***Рэд.***

[62] **Альфрэд Розэнбэрг** (Rosenberg, 1893—1946), нямецкі палітык, у 1934—1945 гг. — кіраўнік замежнапалітычнага упраўленьня НСДАП. — ***Рэд.***







Ігнат Дварчанін, Ян Грэцкі, Язэп Гаўрылік, Флягонт Валынец

І не ў аднаго, мабыць, з „растучых кадраў“ узьнікне пытаньне: а што-ж органы савецкай юстыцыі на гэта? Чаму яны маўчаць, чаму ня судзяць *„нацдэмаўскіх шпіёнаў і правакатараў“*?

Ня судзяць, бо ня маюць за што іх судзіць. Усё гэта ёсьць толькі выплад зьбянтэжанай фантазіі бальшавіцкіх пісакаў!

**17**

П. Корчык[63] намагаецца выкрыць і разграміць беларускіх эсэраў. Напісаў „ударны артыкул“ „Нацыянал-опортунізм у КПЗБ і ідэалогічная спадчына Беларускай Рэвалюцыйнай Арганізацыі“, гэны яго артыкул надрукаваны ў часопісі „Бальшавік Беларусі“ (Менск, 1934. № 7. С. 35—43).

У канцы 1933 г., апавядае П. Корчык, органамі ГПУ ў Беларусі была выкрыта і разгромлена беларуская контррэволюцыйная нацыяналі-

[63] **Павал Корчык** (сапр. Язэп Лагіновіч, 1891—1940), палітычны дзеяч. Адзін з стваральнікаў Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі ў 1922 г., у ліпені 1923 г. кааптаваны ў склад ЦК КПЗБ. З восені 1925 г. да лютага 1936 г. — палітычны сакратар ЦК КПЗБ. У 1936 г. арыштаваны НКУС і прысуджаны да 5 гадоў зьняволеньня. У 1939 г. прысуджаны да расстрэлу. — ***Рэд.***

стычная арганізацыя, на чале якой стаялі былыя дзеячы „Грамады“ і „Змаганьня“ — Рак-Міхайлоўскі, Мятла, Дварчанін, Гаўрылік[64] і інш. Дэмаскаваны былі таксама агенты польскай дэфэнзівы і беларускага нацыяналізму ў верхавіне ТБШ (Таварыства Беларускай Школы). Гэта нанесла жорсткі ўдар махінацыям беларускага нацыянал-фашызму і польскага імпэрыялізму. З гэтага пункту гледжаньня — паскольку аснаўным заданьнем гэтых агентур было нанесьці рэвалюцыйнаму руху ў Заходняй Беларусі ўдар у самы рашучы момант — дэмаскаваньне іх павінна расцэньвацца як перамога рэвалюцыйнага руху. Але разам з тым ён азначае, што гэтым агентурам — беларускага нацыянал-фашызму і польскага імпэрыялізму — удалося пранікнуць у рэвалюцыйны рух, а іх дзейнасьць на працягу доўгага часу заставалася ня выяўленай; гэта сьведчыць аб нявыстарчальнай бальшавіцкай пільнасьці КПЗБ.

Чаму так сталася?

Прычына ясная, кажа дасьціпны Корчык: у першую чаргу ня зжытая да канца нацыяналістычная спадчына ўвайшоўшых у партыю груп, слабасьць пралетарскага ядра ў партыі, ціск на яе *„дробна-буржуазнай сялянскай стыхіі“*. Усё гэта не магло не адбіцца на замаражэньні тэмпаў бальшавізацыі КПЗБ.

І бальшавікі цяпер, маўляў, павінны ўдарным тэмпам „бальшавізавацца“!

І Корчык жаліцца, Корчык наракае: *„Нацыяналістычныя элемэнты тармазілі і тармозяць да гэтага часу працэс бальшавізацыі нашай партыі. Нацыянал-опартунізм у КПЗБ — гэта ў першую чаргу спадчына не пераможанай да канца нацыяналістычнай ідэалёгіі беларускай так званай... рэвалюцыйнай арганізацыі, якая ўлілася ў партыю ў канцы 1923 году“.*

Што гэта за арганізацыя такая, скуль яна ўзялася?

[64] **Язэп Гаўрылік** (1893—1937), грамадзка-палітычны дзеяч, пэдагог. У 1922—1928 гг. выкладаў у Радашкавіцкай беларускай гімназіі беларускую мову й сьпевы. З 1928 па 1930 г. — пасол польскага сойму, старшыня Беларускага сялянска-работніцкага пасольскага клюбу „Змаганьне“. У 1931 г. пазбаўлены пасольскага імунітэту й асуджаны на 9,5 гадоў зьняволеньня. У 1932 г. у выніку абмену вязьнямі апынуўся ў БССР. Працаваў у Народным камісарыяце асьветы БССР. У 1933 г. арыштаваны па справе „Беларускага нацыянальнага цэнтру“ й прысуджаны да расстрэлу, які быў заменены на 10 гадоў зьняволеньня. У 1937 г. пасьля перагляду справы прысуджаны да расстрэлу. — ***Рэд.***





*„Аснаўныя кіруючыя кадры БРА,* апавядае Корчак, *выйшлі з партыі беларускіх эсэраў, якая ўзьнікла ў выніку расколу Беларускай Сацыялістычнай Грамады — на беларускіх эсдэкаў (меншавікоў) і эсэраў. Ідэалёгія і контррэвалюцыйная роля беларускіх эсэраў у барацьбе супраць кастрычніцкай рэвалюцыі на Беларусі, у арганізацыі контррэвалюцыйных паўстаньняў супраць савецкай улады (напрыклад, арганізацыя кулацкага слуцкага паўстаньня), у дапамозе інтэрвэнтам, асабліва імпэрыялістычным плянам Пілсудскага — добра ўсім вядомы“.*

Выкрыў, можна сказаць, і аканчальна разграміў. *„Беларускія эсэры дапамагаюць польскім імпэрыялістам“!*

Але як вось дасьціпны Корчык высьвятліць беластоцкі працэс, які быў арганізаваны ў 1923 г. польскімі імпэрыялістамі над беларускімі эсэрамі? На колькі гадоў цяжкага вастрогу былі засуджаны беларускія эсэры, за што, за якія ўчынкі — можа за дапамогу імпэрыялістычным плянам Пілсудзкага?

Жалюгодны Корчык, ён аб гэтым чамусьці маўчыць: нічога ня кажа. Ён ня мае ў сабе столькі грамадзкае адвагі, каб выкрыць праўду!

Пасьля беластоцкага працэсу, калі Беларуская Партыя Сацыялістаў-Рэвалюцыянэраў была разгромлена польскімі імпэрыялістамі, частка сяброў БПС-Р адкалолася ад партыі і заснавала так званую Беларускую Рэвалюцыйную Арганізацыю. Гэта арганізацыя пачала шукаць кантакту і супрацоўніцтва з бальшавікамі; пасьля зусім зьлілася з Камуністычнай Партыяй Заходняй Беларусі. Выявіла шмат рупнасьці і актыўнасьці. Гэта была так-званая арыентацыя на савецкую Беларусь, на бальшавіцкі Менск, была ружовая надзея, што ўлада саветаў дапаможа ў вызвальным змаганьні супраць польскіх акупантаў за аб'еднаньне Заходняй Беларусі з БССР. Як у рэчаістасьці была зьдзейсьнена гэта ружовая надзея — аб гэтым наяўна сьведчыць артыкул Корчыка. Ён кажа: *„БРА ўлілася ў партыю са сваім няжжытым эсэраўскім нацыяналістычным багажом“. „Стоячы фармальна на пазыцыі саветаў рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў, БРА па сутнасьці займала негатыўную пазыцыю адносна дыктатуры і гегемоніі пралетарыяту, зразумела рабоча-сялянскі ўрад як коаліцыю рэвалюцыйных рабочых і сялянскіх партый, а тактыку адзінага фронту, як блёк усіх так-званых сацыялістычных партый. Нацыянальнае пытаньне расцэньвалася БРА ня як састаўная падпарадкавальная агульным задачам пралетарыяту частка рэвалюцыйнай стратэгіі, а як самамэта. Глыбока караніліся таксама эсэраўскія пагляды аб бяскласавасьці беларускага народу, адмаўленьне існаваньня беларускай бур-*

*жуазіі і расслаеньня ў беларускай вёсцы, тэорыя аб самабытных шляхох разьвіцьця беларускага народу, як, напрыклад, дамарошчаная тэорыя аб тым, што нацыянальнае вызваленьне Беларусі тым самым вырашае і пытаньне клясавага вызваленьня пралетарыяту і сялянства“. „У такой пастаноўцы пытаньня, прама супярэчлівай бальшавіцкай пастаноўцы, рабіўся вывад, што шлях да вызваленьня вядзе праз адзіны нацыянальны фронт барацьбы супраць акупацыі“.*

Аднак *„устаноўкі БРА, яе эсэраўскае мінулае... ня былі раскрытыкаваны і рэвізаваны“, „ня была праведзена ацэнка й крытыка гэтай арганізацыі“.*

Гэну задачу выконывае цяпер, як бачымо, Корчык. Ён выкрывае памылкі КПЗБ. *„Не пераможаная да канца нацыяналістычная спадчына БРА была ў тым ці іншым выглядзе крыніцай адраджаючыгся нацыянал-опортуністычных канцэпцый КПЗБ і ў першую чаргу тэорыйкі аб безбуржуазнасьці беларускага народу. Гэтыя пагляды глыбока праніклі ў нашую партыю. Адсюль выцекала няправільная ацэнка ролі беларускай інтэлігенцыі, выйшаўшай пераважна з асяродзьдзя беларускай буржуазіі й кулацтва, прыпісываньне ей рэвалюцыйнай ролі ў барацьбе супроць польскай акупацыі, разгляданьне яе як авангарда нацыянальна-вызвальнага руху. Яркім прыкладам гэтага зьяўляюцца нашы адносіны да складу кіруючай верхавіны „Грамады“ і „Змаганьня“. У выніку ідэалогічнай і арганізацыйнай расхлябанасьці і недастатковай пільнасьці з боку кіраўніцтва КПЗБ, беларускай буржуазіі і польскай дэфэнзыве лёгка ўдаецца праціснуць сваіх агентаў у ЦК Грамады і ў пасольскі клюб „Змаганьне““.*

Выходзіць так, паводле Корчыка, што ўсе няўдачы ў дзейнасьці КПЗБ, уся яе падзівугодная расхлябанасьць, яе опортунізм і надзвычайнае хамэлеонства — усё гэта ёсьць вынікам уплываў эсэраўскай ідэалёгіі. Ці не за шмат ужо будзе, вашэці?

„Грамаду“ і пасольскі клюб „Змаганьне“ заснавалі, як ведама, бальшавікі, а не эсэры; заснавалі ў напорыстым змаганьні супраць эсэраў. А тое, што сумна так скончылася ўся дзейнасьць „Грамады“ і пасольскага клюбу „Змаганьне“, што бальшавікі сяньня так жорстка і проста не па-людзку ганьбяць і бэсьцяць сваіх нядаўніх супрацоўнікаў — усіх выдатнейшых „правадыроў“ „Грамады“ і пасольскага клюбу „Змаганьне“, уважаючы іх за „правакатараў“ і „шпіёнаў“ (знайшлі казлоў адпушчэньня сваей уласнай расхлябанасьці!) то, ізноў такі, нясуць адказнасьць бальшавікі-камуністы, а не эсэры. Наогул — гэта ёсьць вынік бальшавіцкай „стратэгіі“!





Выкрываючы тыя памылкі, якія былі дапушчаны ў дзейнасьці Камуністычнай Партыі Заходняй Беларусі, Корчык запэўняе, што КПЗБ мае цьвёрдую волю стаць на бальшавіцкі шлях змаганьня. Але супраць каго? Хто ёсьць галоўны вораг працоўных грамад Беларусі — беларуская буржуазія, якая ходзе бяз портак, беларускі нацыяналізм, які знаходзіцца ў пялюшках, ці паўнакроўна-сільны і аж да зубоў азброяны польскі імпэрыялізм? Бо, Заходняя Беларусь — гэта ёсьць калёнія Польшчы; беларускі народ знаходзіцца ў горшым нават становішчы, чымся калёніяльныя народы Афрыкі: польскі імпэрыялізм цягне зь яго жыцьцёвыя сокі, дэфармуе сацыяльную структуру, нішчыць прыродныя багацьці, нявечыць мову і культуру, пазбаўляе магчымасьці нават самай элемэнтарнай самаарганізацыі, культурна-гаспадарчай самадзейнасьці і самапомачы; польскі імпэрыялізм на землях Заходняй Беларусі зьдзейсьняе сыстэму паступовага *„oczyszczenia terenow kolonizacyjnych“* — наўмысна зьдзейсняе ня толькі дэнацыяналізацыю, але й дэпапуляцыю беларускага народу. Дык што-ж гэта — хіба беларуская буржуазія і беларускі нацыяналізм грабуюць і прыгнятаюць беларускі працоўны народ?

А хто гэта, як не бальшавікі, падпісалі крывавую Рыжскую дагоду, разарвалі Беларусь на часьці і кінулі ў абоймы польскага імпэрыялізму Заходнюю Беларусь?!

П. Корчык зьвяртае ўсю сваю бальшавіцкую пільнасьць на беларускі нацыяналізм, які зьяўляецца натуральным вынікам абароннага змаганьня беларускага народу супраць польскага імпэрыялізму; П. Корчык з усяго размаху б’е па беларускай інтэлігенцыі, якую і безь яго дапамогі гняце і прасьледуе польскі імпэрыялізм, — ці не дапускае гэтым Корчык новае памылкі ў стратэгіі компартыі, асуднае памылкі ў дапамозе польскаму імпэрыялізму супраць працоўных грамад Беларусі?

Камуністычная Партыя Заходней Беларусі выканала ўжо сваю сумную ролю: разьбіла і зьнявечыла беларускі рэвалюцыйны рух супраць польскіх акупантаў; ачысьціла пляцдарм для ўзмоцненага наступу польскага імпэрыялізму. Ствараючы, дзеля розных тактычных меркаваньняў, „Грамаду“ і пасольскі клюб „Змаганьне“, КПЗБ разьбіла Беларускі Пасольскі Клюб у дзяржаўным Сойме і Санаце, давяла справу беларускага парлямэнцкага прадстаўніцтва да таго, што тры з паловаю мільёнаў беларусаў ня маюць ужо ні аднаго дэпутата, а ў 1922 г. было 16 дэпутатаў! І ўсё гэта рабіла КПЗБ пад кіраўніцтвам Цэнтральнага Камітэту Камуністычнай Партыі Польшчы. У гэтым, якраз, і палягае сутнасьць і галоўная прычына ўсіх „памылак“ КПЗБ.

Але наш Корчык гэтага ня бачыць, наш Корчык гэтага не разумее. Нават больш таго: ён з наіўнасьцю дзіцяці прапануе і ў будучыне моцна трымацца кіраўніцтва ЦК КПП, а ў змаганьні з беларускім „нацыяналізмам“ ён бачыць сутнасьць бальшавізацыі КПЗБ.

П. Корчык апавядае: *„Глыбокім імкненьнем стаць бальшавіцкай партыяй тлумачыцца той факт, што ў КПЗБ, нягледзячы на наяўнасьць у яе шэрагах нацыянал-опртуністычных элемэнтаў, ніколі не праяўляўся арганізацыйны сэпаратызм адносна да КПП, як гэта мела мейсца ў КПЗУ“. „Бальшавіцкае кіраўніцтва з боку ЦК КПП на чале з т. Ленскім, пастаянная цесная сувязь паміж ЦК КПП і ЦК КПЗБ забясьпечылі перамогу бальшавіцкай лініі ў КПЗБ“.* Адзначае, пры гэтым, *„вельмі важным фактарам у справе бальшавізацыі нашай партыі быў прыклад і ідэолёгічная дапамога КП(б)Б...выяўляючы і дэмаскуючы нацыянал-фашыстаўскіх агэнтаў, якія пралазяць з Заходняй Беларусі ў БССР“.*

Галоўнае — ніякага сэпаратызму адносна Польшчы і трымацца за край жупана ў *„prosze pana, prosze pana!“.*

Гэткае ёсьць апошняе слова „бальшавіцкай стратэгіі“ на землях Заходняй Беларусі.

## 18

*„1920—1930 гады,* — кажа В. Зайцаў, — *былі якраз тым пэрыядам, калі КП(б)Б выкрыла й разграміла контррэвалюцыйных нацдэмаў, акапаўшыхся ў гаспадарчых, культурных і навуковых цэнтрах БССР“*[65].

*„У 1933 годзе ў БССР,* — кажа Н. Гікало[66], — *была раскрыта і разгромлена нацыяналістычная контррэвалюцыйная арганізацыя, на чале якой знаходзіўся так званы „Беларускі нацыянальны цэнтар“. „Ядром арганізацыі былі перакінутыя замежнай контрразьведкай пад відам прасьледуемых рэвалюцыйных дзеячаў, шпіёны і правакатары. Чаго дабівалася гэтая зграя пражжоных правакатараў і шпіёнаў? Канчатковай мэтай... зьяўлялася стварэньне на аб'еднаных беларускіх землях Беларускай дэмакратычнай рэспублікі па тыпу капіталістычных краін. У склад гэтай рэспублікі меркавала-*

[65] Зайцаў, В. Там, дзе прыпынілася рэвалюцыйная пільнасьць // Зьвязда“. № 241. 31 кастрычніка 1930.

[66] **Мікалай Гікала** (1896—1938), савецкі партыйны й дзяржаўны дзеяч, кіраўнік ЦК КПБ у 1933—1937 гг. — ***Рэд.***





*ся ўключыць землі Заходняй Беларусі, тэрыторыю БССР, некаторыя часткі Літвы і Латвіі і амаль усю Заходнюю вобласьць РСФСР. Іншымі словамі: контррэвалюцыйныя беларускія нацыяналісты імкнуліся шляхам узброенага кулацкага і белагвардзейскага паўстаньня, пры дапамозе інтэрвэнтаў стварыць буржуазную Беларусь як калёнію польска-германскага імпэрыялізму“*[67].

*„Гэтыя людзі (Рак-Міхайлоўскі, Валошын*[68]*, Мятла, Гаўрылік, Дварчанін і інш.), прыймаўшыя ўдзел у якасьці правакатараў у нацыянальна-рэвалюцыйным руху ў Заходняй Беларусі, з такой-жа мэтай перакінуты і ў БССР. Яны пасланы,* — кажа М. Галадзед, — *для контррэвалюцыйнай работы ў нашай краіне, для падрыхтоўкі адрыву БССР ад СССР шляхам імпэрыялістычнай інтэрвэнцыі“*[69].

Гэта ёсьць людзі, — скажамо тут ад сябе, — якія сталі на чале Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і пасольскага клюбу „Змаганьне“. Выконывалі сваю дзейнасьць у цесным кантакце з КПЗБ і пад кіраўніцтвам КПП з дапамогаю КП(б)Б. Былі выкрыты і разгромлены ўладамі польскіх акупантаў; арыштаваны і засуджаны на некалькі дзясяткаў гадоў цяжкага вастрогу за тое, што імкнуліся да адарваньня Заходняй Беларусі ад Польшчы і далучэньня яе да БССР шляхам узброенага паўстаньня і пры дапамозе савецкай інтэрвэнцыі. Пасьля адбылася вымена палітычных вязьняў паміж Польшчай і Савецкім Саюзам; апынуліся ў Менску, дзе іх спаткала новае абвінавачваньне. Бальшавікі іх абвінавачваюць у тым, што яны, апынуўшыся ў Менску, пачалі імкнуцца да адарваньня БССР ад СССР і далучэньня да Польшчы шляхам узброенага паўстаньня і пры дапамозе польскае інтэрвэнцыі. Гэта ёсьць

[67] Гікало, Н. Бальшавікі Беларусі ў барацьбе за сацыялізм // Зьвязда. № 67. 23 сакавіка 1935.

[68] **Павал Валошын** (1891—1937), грамадзка-палітычны дзеяч, публіцыст. Уваходзіў у Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю, потым у Беларускую партыю незалежных сацыялістаў. У 1923 г. абраны дэпутатам польскага сойму, увайшоў у Беларускі пасольскі клюб. Адзін з заснавальнікаў БСРГ. У 1926 г. увайшоў у КПЗБ. У 1927 г. арыштаваны польскімі ўладамі й асуджаны на 12 гадоў турмы. У выніку абмену палітычнымі зьняволенымі ў 1932 г. апынуўся ў БССР. Працаваў у Беларускай дзяржаўнай бібліятэцы і ў Бібліяграфічным інстытуце пры гэтай бібліятэцы, займаўся грамадзкай дзейнасьцю. У 1933 г. арыштаваны па справе „Беларускага нацыянальнага цэнтру“ й прысуджаны да расстрэлу, замененага 10 гадамі лягераў. У 1937 г. паўторна прыгавораны да расстрэлу. — ***Рэд.***

[69] Зьвязда. № 8. Студзень 1934.

няшчасныя ахвяры бальшавіцкай „стратэгіі“ — лавіраваньня і манэўраваньня. Цяпер яны церпяць за сваё лёгкадумства, жорстка расплачваюцца за сваю бязьмежную веру ў тое, што бальшавікі, маючы ўладу ў саветах, дапамогуць вызваліць Заходнюю Беларусь з капцюроў польскага імпэрыялізму.

І што ёсьць найбольш характэрнае ў жахлівай трагедыі беларускай інтэлігэнцыі, якая пайшла на супрацоўніцтва з бальшавікамі: абвінавачваюць у розных недарэчнасьцях былых дзеячаў „Грамады“ і пасольскага клюбу „Змаганьне“, але аж да апошняга часу ня было ім прад'яўлена ніякага судовага абвінавачваньня; савецкая юстыцыя ня мае, відавочна, ніякіх даных, каб пацягнуць іх да судовай адказнасьці. Ня выключана, аднак, магчымасьць — і гэта найбольш праўдападобна: бальшавікі баяцца адкрытага судовага разбору справы над беларускімі „нацыяналістамі“, хаця і кідаюць ім абвінавачваньні ў „падрыхтоўцы інтэрвэнцыі“, у „шпіёнстве“ і „правакатарстве“, што, паводле абавязуючых праўных нормаў савецкага карнага кодэксу зьяўляецца найвялікшым праступленьнем супраць савецкае дзяржавы і падлягае найвышэйшай меры пакараньня.

Так, грамадзяне, суда няма; у бальшавікоў ёсьць страх перад судом. Яны баяцца таго, каб шырэйшыя колы грамадзянства не даведаліся аб закулісным шахрайстве кампартыі — а што, калі раптам вылязе на паверх уся хлусьлівая „стратэгія“ бальшавікоў у вырашэньні беларускага нацыянальнага пытаньня?

**19**

Падзівугодная зьява!

Польскія камуністы, якія стаялі на чале кіраўніцтва дзейнасьцю „Грамады“ і пасольскага клюбу „Змаганьня“ ў Заходняй Беларусі, апынуліся нейкім чынам на чале выкрыцьця і разгрому дзейнасьці правадыроў „Грамады“ і пасольскага клюбу „Змаганьне“ ў Савецкай Беларусі.

Як гэта сталася?

Можа гэта прыпадкова было, што польскі камуніст Т. Домбаль[70], былы пасол польскага сойму, адзін з выдатнейшых правадыроў Камуністычнае Партыі Польшчы, апынуўся нейкім чынам у Менску, пралез у Беларускую Акадэмію Навук, дзе як першы віцэ-прэзыдэнт напорыста праводзіў *„рэарганізацыю“*, *„бальшавізацыю“* і *„чыстку ад нацдэмаўскай засьмечанасьці“*? Можа гэта прыпадкова было, што якраз той самы Домбаль, польскі камуніст, зьявіўся найбольш актыўным абаронцам увядзеньня новага беларускага правапісу ў 1933? *„Зьмены й спрашчэньні беларускага правапісу,* — ён казаў, — *праведзяны ў мэтах выгнаньня зь беларускага правапісу нацыянал-дэмакратычных скажэньняў“*[71]. У рэчаістасьці ён сачыў зусім іншую мэту: наблізіць правапіс беларускае мовы да правапісу рускае мовы, а ўсе тыя асаблівасьці беларускае мовы, якія вылучаюцца з рэфармавана-спрошчанага правапісу, наблізіць да польскае мовы. З гэтай мэтаю ён стварыў нават і адумысную тэорыю расчэплянасьці беларускае мовы: мова ўсходняй часткі Беларусі набліжаецца, маўляў, да рускае мовы, а мова заходняй часткі Беларусі набліжаецца да польскае мовы. Гэта быў скрытна прыдуманы манэўр: пад шум і грукат разгрому беларускіх „нацдэмаўскіх контррэвалюцыянэраў“ праціснуцца наперад і на вогнішчы з карчоў і корчыкаў сасмажыць сабе смачны бігас. І што-ж, пашанцавала, каб це паляк сьвіснуў! Амаль усе каталіцкія касьцёлы ў БССР абернуты ў клюбы польскай нацменшасьці; сярод беларускага каталіцкага насельніцтва вядзецца напорыстая прапаганда, што, казаў той, хто католік, той і паляк; у шэрагу раёнаў засноўваюцца польскія школы і закладаюцца польскія нацсаветы; справа палёнізацыі так шпарка ідзе наперад, што нават і ўвесь койданаўскі раён з выключна беларускім насельніцтвам абвяшчаецца польскім нацыянальным раёнам. Расьце і пашыраецца польская нацыянальная меншасьць у БССР.

Ня прыпадкова, мабыць, на дапамогу Т. Домбалю прыходзе В. Жаброўскі[72], ня менш выдатны дзеяч Камуністычнай Партыі Польшчы, які раптам апыняецца ў Менску і пралазіць у ЦК КП(б)Б. У ролі сакратара ЦК КП(б)Б ён жорстка і бязьлітасна прасьледуе *„гнілы лібэралізм“* і *„нацыянал-опортунізм у адносінах да нацыянал-дэмакратычных і перараджэнскіх элемэнтаў унутры партыі“*, праводзіць у 1933 г. *„чыстку кампартыі ад засьмечанасьці нацдэмаўскім*

[70] **Томаш Домбаль** (1890—1937), савецкі партыйны дзеяч. У 1932—1934 гг. — віцэ-прэзыдэнт БелАН, дырэктар Інстытуту эканомікі. Сябра ЦК КП(б)Б, сябра ЦВК БССР. Ад 1935 г. працаваў у Маскве. У 1936 г. арыштаваны па справе „Польскай вайсковай арганізацыі“ і расстраляны. — ***Рэд.***

[71] „Аб рэформе беларускага правапісу“. Гутарка зь першым віцэ-прэзыдэнтам Беларускай Акадэміі Навук тав. Т. Домбалем // Зьвязда. № 193. 1 верасьня 1933.

[72] **Вацлаў Жаброўскі** (1895—1937), савецкі партыйны дзеяч. У 1932—1934 гг. — сакратар ЦК КП(б)Б. Пазьней працаваў у Маскве. У 1937 г. арыштаваны й прысуджаны да расстрэлу. — ***Рэд.***

*ахвосьцем“*. Пры яго бліжэйшым удзеле і пад яго кіраўніцтвам у лістападзе 1933 г. пленум ЦК КП(б)Б выставіў баёўны покліч: *„Мясцовы нацыяналізм зьяўляецца галоўнай небясьпекай“*[73].

А што такое мясцовы нацыяналізм, у чым ён выяўляецца?

В. Жаброўскі тлумачыў і высьвятляў: *„слуцкі пояс, напрыклад, як нацыянальная форма зьяўляецца ў руках нацыянал-дэмакратаў сродкам для правядзеньня буржуазнай культуры“*. Патураньне таму, што якая-небудзь кветачка, якую насілі беларускія нацдэмы, вышыванка або слуцкі пояс ёсьць нацыянальная форма — гэта, паводле Жаброўскага, ёсьць спроба прыкрыць мясцовы нацыяналізм, што на рукі беларускаму контррэвалюцыйнаму нацыянал-дэмакратызму, які *„сапраўды разгромляны, але яшчэ не дабіты“*[74].

Лёгіка ясная: аканчальна разграміць і дабіць беларускі нацыянал-дэмакратызм — гэта і ёсьць, паводле Жаброўскага, што трэба аканчальна зьнішчыць нацыянальную форму беларускае культуры, а тым самым будзе зьнішчаны і беларускі мясцовы нацыяналізм. У гэтым кірунку ён і выконываў сваю напорыстую дзейнасьць.

В. Жаброўскі, як і Т. Домбаль, сачыў далёкасяглую мэту.

Зьнішчаючы беларускі „мясцовы нацыяналізм“ на тэрыторыі БССР, ён гэтым самым даваў прыклад, як трэба змагацца з беларускім „нацыяналізмам“ на тэрыторыі Заходняй Беларусі; а можа і наадварот: нападабляў толькі тыя спосабы змаганьня зь беларускім „сэпаратызмам“, якія ўжываюцца польскімі гнабіцелямі ў Заходней Беларусі. Устанаўліваўся такім чынам адзіны фронт напору на ўсход; адбывалася змычка Домбаля і Жаброўскага зь Ялбжыкоўскім[75], Костка-Бернацкім[76], Мейстовічам[77] і Студніцкім[78].

[73] Бальшавік Беларусі. № 16. Лістапад 1933. С. 5.

[74] Жаброўскі, В. Скарочаны даклад на Ўсебеларускай нарадзе загадчыкаў раённых аддзелаў народнае асьветы, працаўнікоў школ, тэхнікумаў і вышэйшых навучальных установаў // Зьвязда. № 182. 19 жніўня 1933.

[75] **Рамуальд Яблжыкоўскі** (1876—1955), польскі рыма-каталіцкі дзеяч, біскуп ломжынскі (1925—1926), арцыбіскуп віленскі (1926—1955). — ***Рэд.***

[76] Маецца на ўвазе **Вацлаў Костэк-Бярнацкі** (1884—1957), дзяржаўны дзеяч міжваеннай Польшчы. У 1930 г. прызначаны на пасаду камэнданта Брэсцкай крэпасьці. У 1931—1932 гг. — наваградзкі ваявода, у 1932—1939 гг. — палескі ваявода. На пасадзе палескага ваяводы апекаваўся лягерам для палітзьняволеных у Бярозе-Картускай. — ***Рэд.***

[77] Маецца на ўвазе **Аляксандар Мэйштовіч** (1864—1943), польскі дзяржаўны й палітычны дзеяч, памешчык зь Віленшчыны. У 1926—1928 гг. — ⇨





*„Побач нямецкага „Drang nach Osten“,* — кажа Леон Васілеўскі[79], адзін з выдатнейшых тэорэтыкаў польскага імпэрыялізму, — *маемо аналёгічную зьяву польскага напору на ўсход, які адбываецца стыхійна, не даючыся ні ўстрымаць, ані спыніць“*[80].

Вось-жа: форпостам польскага напору на ўсход зьяўляюцца ў БССР польскія камуністы, пераважна эміграанты з Польшчы; на чале іх стаяць Т. Домбаль і В. Жаброўскі. Яны пралазяць на кіруючыя пасады ў партыйных і савецкіх установах, напорыстае вядуць змаганьне зь беларускім „мясцовым нацыяналізмам“, а ў рэчаістасьці — узмацняюць польскі імпэрыялізм.

Гэтак выпадае на справе бальшавіцкая дзейнасьць польскіх камуністаў у БССР.

## 20

„Зьвязда“ паведамляе: *„У сувязі зь пераходам тав. Домбаля на іншую работу, прэзыдыюм Беларускай Акадэміі Навук аслабаніў яго ад пасад першага віцэ-прэзыдэнта Акадэміі і дырэктара інстытуту эканомікі“* (№ 81. 9 красавіка 1935).

Каротка, ясна і вузлавата: Домбаль *„выкрыты і разгромляны“*!

Н. Гікало высьвятляе: *„Толькі нядаўна КП(б)Б выправіла памылку, дапушчаную ў радзе раёнаў зь пераважаючым беларускім насельніцтвам, дзе штучна былі насаджаны польскія школы, у якія па сутнасьці ў прымусовым парадку накіроўваліся дзеці беларусаў“*[81].

⇨міністар юстыцыі ва ўрадзе Ю. Пілсудзкага, адзін з галоўных натхняльнікаў і выканаўцаў рэпрэсій над лідэрамі Беларускай сялянска-работніцкай грамады. — ***Рэд.***

[78] Магчыма, маецца на ўвазе **Вацлаў Студніцкі**, віленскі польскі гісторык і публіцыст, прыхільнік кансэрватыўнай ідэалёгіі. — ***Рэд.***

[79] **Леан Васілеўскі** (1870—1936), польскі палітычны дзеяч, публіцыст, гісторык. Ад 1924 г. — прэзыдэнт Інстытуту вывучэньня найноўшай гісторыі Польшчы й рэдактар (ад 1929 г.) часопіса *„Niepodległość“*. Ад 1931 г. — прэзыдэнт Інстытуту вывучэньня нацыянальных справаў. Дасьледаваў развіцьцё культуры й асьветы, гісторыю беларускага й літоўскага нацыянальна-вызвольнага руху ў XIX—XX стст.

[80] Wasilewski, Leon. Sprawy narodowościowe w teorji i w życiu. Warszawa, 1929. S. V.

[81] Гікала, Н. Бальшавікі Беларусі ў барацьбе за сацыялізм // Зьвязда. № 67. 23 сакавіка 1935.

Інакш кажучы: бальшавікі выкрылі і разграмілі беларускі нацыянал-дэмакратызм, а ў рэчаістасьці — узмоцнілі польскі імпэрыялізм.

**21**

І так: ЦК КП(б)Б выправіла памылку: на тэрыторыі БССР выкрыты і разгромляны польскі імпэрыялізм; Т. Домбаль перайшоў на іншую работу.

Але якое дзіва!

Чаму раптам такая лагоднасьць да польскіх імпэрыялістаў пад шыльдай компартыі, лагоднасьць зусім нязвычайная ў адносінах да беларускіх нацыянал-опортуністаў?

Гэта, мабыць, дзеля таго, што, па-першае, польскія імпэрыялісты пад шыльдай компартыі зьяўляюцца прадстаўнікамі дзяржаўна-пануючай нацыі, а па-другое, яны маюць у Маскве вялікія знаёмствы сярод „знатных людзей“.

Гэтым, відавочна, тлумачыцца і той факт, што В. Жаброўскі, напрыклад, які ў мінуўшчыне быў членам сацыял-дэмакратычнай партыі *Krolewstwa Polskiego i Litwy*, даўгі час працаваў у шэрагах Камуністычнай Партыі Польшчы — з 1930 г. працаваў у ЦК УсеКП(б) адказным інструктарам, а потым намесьнікам загадчыка аддзелу агітацыі і масавых кампаній; быў адначасна сакратаром ЦК КП(б)Б. Супольна з Н. Гікало, першым сакратаром ЦК КП(б)Б, які таксама прывандраваў на Беларусь па загаду ЦК УсеКП(б), дапамагаў Т. Домбалю выкрываць і граміць беларускі „мясцовы нацыяналізм“, штучна насаджваючы польскія школы, і прымусова накіроўваць у польскія школы беларускіх дзяцей.

Існаваў, як бачымо, поўны кантакт і ўзаемнае паразуменьне, быў зьвязаны моцны вузёл, які злучаў і аб'ядноўваў у адну згодную грамаду польскіх і рускіх вялікадзяржаўнікаў-імпэрыялістаў пад шыльдай компартыі. Яны супольна гранілі і выкрывалі, выкрывалі і гранілі беларускі мясцовы нацыяналізм, усе асаблівасьці беларускае культуры.

Яскравым прыкладам іх супольнай пагромнай дзейнасьці на Беларусі можа быць хоць-бы і тое, як была імі выкрыта і разгромлена „шкодніцкая схема гісторыі Беларусі“ прафэсара Ўсевалада Ігнатоўскага: гісторыя Беларусі была выключана з праграмы школьнага навучаньня.

Гэта быў пагром над усёй мінуўшчынай беларускага народу!

Польска-расійскія вялікадзяржаўнікі-імпэрыялісты пад шыльдай компартыі *„выкрыць, выкарчаваць і аканчальна разграміць“* у сьвядомасьці беларускага народу ўспаміны аб гістарычнай мінуўшчыне Беларусі і ў гэткі спосаб нанесьці рашучы ўдар „мясцоваму нацыяналізму“; усю сваю бальшавіцкую пільнасьць яны засяродзілі на школьную моладзь.

У 1931 г. быў *„выкрыты і разгромлены“* падручнік гісторыі Беларусі прафэсара Ўсевалада Ігнатоўскага, а сам аўтар — забіты ў вастрозе. Усе іншыя навуковыя працы па гісторыі Беларусі (праф. Пічэта[82], праф. М. Доўнар-Запольскі[83], Друшчыца[84], Касьпяровіча[85], Шлюбска-

[82] **Уладзімер Пічэта** (1878—1947), беларускі гісторык, археоляг, пэдагог. Першы рэктар БДУ (1921—1930), заслужаны прафэсар БССР (1926), акадэмік АН БССР (1929). У 1930 г. арыштаваны й прысуджаны да 6 гадоў высылкі. Ад 1935 г. — у Маскве. У 1946 г. адзін з заснавальнікаў і першы дырэктар Інстытуту славяназнаўства АН СССР. Аўтар кнігі „Гісторыя Беларусі. Ч. 1“ (Масква—Ленінград, 1924). — ***Рэд.***

[83] **Мітрафан Доўнар-Запольскі** (1867—1934), гісторык, этнограф, фальклярыст і літаратуразнаўца. Быў чальцом камісіі БНР па арганізацыі Беларускага ўнівэрсытэту. У 1925—1926 гг. працаваў загадчыкам катэдры гісторыі Беларусі ў БДУ. Ад 1926 г. — у Маскве. Не пазьбег завуаляванай формы рэпрэсіяў: выбраньне акадэміка АН СССР было заблякаванае, рукапіс кнігі „Гісторыя Беларусі“ (1925) асуджаны як ідэйна заганны, быў паскораны выхад на пэнсію. Перад сьмерцю працаваў у Навукова-дасьледчым інстытуце пушніна-футравай гаспадаркі Наркамату замежнага гандлю СССР. — ***Рэд.***

[84] Маецца на ўвазе **Васіль Дружчыц** (1886—1937), гісторык. Ад 1922 г. — выкладчык, ад 1927 г.— прафэсар катэдры гісторыі Беларусі БДУ. Адначасова ад 1924 г. — правадзейны член Інбелкульту. Ад 1927 г. — старшыня камісіі Інбелкульту па гісторыі гарадоў. У 1933 г. стаў супрацоўнікам Інстытуту гісторыі БелАН, прафэсар катэдры гісторыі народаў СССР Літаратурнага інстытуту імя Герцана (Масква). Дасьледаваў беларускае сярэднявечча, магдэбургскае права ў беларускіх гарадах, гісторыю кнігадрукаваньня. Аўтар шэрагу публікацый. У 1937 г. арыштаваны і прысуджаны да расстрэлу. — ***Рэд.***

[85] **Мікалай Касьпяровіч** (1900—1937), краязнаўца, лексыкограф, мастацтвазнаўца й літаратуразнаўца. Ад 1926 г. — навуковы сакратар Цэнтральнага бюро краязнаўства пры Інбелкульце, сакратар краязнаўчага часопіса „Наш край“. Пісаў пра гісторыю краязнаўчай працы на Беларусі, яе задачы й мэтодыку, дасьледаваў гісторыю беларускага выяўленчага мастацтва, архітэктуру, сучасную графіку. Аўтар працы „Беларуская архітэктура“ (Віцебск, 1925). У 1930 г. арыштаваны па справе „Саюзу вызваленьня Беларусі“ й прысуджаны да 5 гадоў лягераў. У 1937 г. паўторна арыштаваны й расстраляны. — ***Рэд.***

га[86], Шчакаціхіна[87], Даўгялы[88]), усе ўспаміны аб гістарычнай мінуўшчыне беларускага народу былі абвешчаны нацдэмаўскай фальсыфікацыяй гісторыі. Бач, маўляў, нацдэмы кажуць аб адзінстве беларускага народу ў мінуўшчыне і ў сучаснасьці.

Гісторыя Беларусі была выключана з праграмы школьнага навучаньня, бо гэта, маўляў, ёсьць „нацдэмаўскае шкодніцтва“. *„Наркомасьветы пайшоў па шляху найменшага адпору,* — кажа Д. Вінік, асьпірант Інстытуту школьнай пэдагогіі, — *цалком без усякіх зьмен перадрукаваў праграмы РСФСР, у якіх ніякіх элемэнтаў з гісторыі Беларусі няма. А ня маючы ніякіх указаньняў наркома асьветы БССР, нашы настаўнікі баяцца праявіць хоць сколькі небудзь ініцыятыву, каб скарыстаць той матар'ял па гісторыі Беларусі, які ў апошнія часы зьявіўся ў выданьнях Беларускай Акадэміі Навук“. „Летам 1934 году адбыліся ў Менску настаўніцкія курсы. На запытаньне, якое мейсца*

[86] **Аляксандар Шлюбскі** (1897—1941?), этнограф, фальклярыст і бібліёграф. У 1918—1923 гг. удзельнічаў у арганізацыі архіваў у Веліжы, Віцебску, Оршы, Полацку. Ад 1923 г. працаваў у Інбелкульце, у 1929—1930 гг. — у Інстытуце гісторыі БелАН. Дасьледаваў старажытныя вераваньні, матэрыяльную культуру беларусаў. У 1930 г. арыштаваны па справе „Саюзу вызваленьня Беларусі“ й прысуджаны да 5 гадоў высылкі. У 1935 г. паўторна арыштаваны й прысуджаны да 3 гадоў пазбаўленьня волі. — ***Рэд.***

[87] **Мікола Шчакаціхін** (1896—1940), мастацтвазнаўца, гісторык і тэарэтык мастацтва, пэдагог. У 1922—1924 гг. працаваў у БДУ. У 1925—1928 гг. — у Інбелкульце (стварыў пры Інбелкульце Камісію па гісторыі мастацтва). У 1929—1930 гг. — у БелАН. Адзін з заснавальнікаў беларускага мастацтвазнаўства. Вывучаў старажытныя фрэскі, абразы, манумэнтальнае дойлідзтва, гравюры Ф. Скарыны, творчасьць беларускіх мастакоў. Упершыню ў беларускім мастацтвазнаўстве выпрацаваў навуковую канцэпцыю гісторыі беларускага мастацтва, зрабіў яго пэрыядызацыю. У 1928 г. выдаў першы том сваёй галоўнай працы „Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва“. У 1930 г. арыштаваны па справе „Саюзу вызваленьня Беларусі“ й прысуджаны да 5 гадоў высылкі. У 1937 г. асуджаны паўторна. — ***Рэд.***

[88] **Дзьмітры Даўгяла** (1868—1942), археограф і гісторык. Ад 1921 г. — загадчык Магілёўскага губэрнскага архіву. Ад 1925 г. супрацоўнічаў у Інбелкульце. У 1929 г. узначальваў бібліятэку БелАН, а ад 1937 г. — навуковы супрацоўнік акадэмічнага Інстытуту гісторыі. Найбольш вядомы дзякуючы археаграфічнай працы — падрыхтоўцы й выданьню зборнікаў дакумэнтаў па беларускай гісторыі. Да таго ж зьяўляецца аўтарам працаў па гісторыі гарадоў і мястэчак Беларусі. У 1937 г. арыштаваны й прысуджаны да 5 гадоў высылкі. — ***Рэд.***





*займае гісторыя Беларусі ў агульным выкладзе гісторыі ў школах, 104 настаўнікі з 107 прызналі адкрыта: гісторыя Беларусі наогул не выкладаецца і ў агульнай распрацоўцы не скарыстоўваецца. Такое становішча,* — кажа Д. Вінік, — *далей не сьцярпіма!“. „Трэба шырока папулярызаваць сярод настаўніцтва цыкль лекцый па гісторыі Беларусі. Пры доме работнікаў асьветы ў Менску наладзіць кансультацыі, каб любы настаўнік мог атрымаць указаньні па гісторыі Беларусі. Трэба дабіцца, каб урэшце ва ўсіх школах БССР быў уведзены курс гісторыі Беларусі!“*[89].

Узварухнуліся беларускія гісторыкі.

8 студзеня 1935 г. адбывалася ў Менску ўсебеларуская канфэрэнцыя гісторыкаў; аднагалосна сьцьверджана і ўстаноўлена: *„Уся віна за невыкладаньне гісторыі падае на камісарыят асьветы“; „Гэты недахоп тлумачыцца яшчэ й тым, што ня было падручніка“*[90].

*„Асноўная работа нашых гісторыкаў,* — кажа праф. В. Шчарбакоў[91], — *канцэнтруецца вакол падрыхтоўкі падручніка па гісторыі Беларусі. Мы правялі толькі першапачатковую работу ў гэтай галіне. Інстытутам гісторыі Акадэміі Навук выдана першая частка нарысу па гісторыі Беларусі*[92]. *Але гэты нарыс яшчэ поўнасьцю ня можа задаволіць тых патрабаваньняў, якія ставяцца перад гістарычным падручнікам для нашых школ і вышэйшых навучальных установаў. Галоўны недахоп гэтай кніжкі — гэта адсутнасьць храналёгіі, недастатковая насычанасьць адпаведным матар'ялам“. „Мы падрыхтавалі першы том хрэстаматыі па гісторыі Беларусі*[93]. *Сабрана вялікая колькасьць каштоўных дакумэнтаў, якія даюць нам магчымасьць на канкрэтных гістарычных фактах складаць патрэб-*

[89] Вінік, Д. Калі пачнуць у школах выкладаць гісторыю Беларусі // Зьвязда. № 285. 21 сьнежня 1934.

[90] Зьвязда. № 9. 10 студзеня 1935.

[91] **Васіль Шчарбакоў** (1898—1939), гісторык. Ад 1930 г. — загадчык сэктару навукі й асьветы пры ЦК КП(б)Б. У 1931—1935 гг. — віцэ-прэзыдэнт БелАН, у 1935—1937 гг. — сакратар АН БССР. У 1931—1937 гг. —намесьнік дырэктара, дырэктар Інстытуту гісторыі БелАН. Першы дэкан гістарычнага факультэту БДУ. У 1938 г. рэпрэсаваны. — ***Рэд.***

[92] Маецца на ўвазе выданьне Інстытуту гісторыі БелАН: Шчарбакоў, Васіль. Нарыс гісторыі Беларусі. Ч. 1. Менск, 1934. — 238 с. — ***Рэд.***

[93] Маецца на ўвазе: Гісторыя Беларусі ў дакумэнтах і матэрыялах. Т. 1: IX—XVIII ст. / склад.: В. К. Шчарбакоў, К. І. Кернажыцкі і Д. І. Даўгяла. Менск: Выдавецтва Акадэміі навук БССР, 1936 — 678 с. — ***Рэд.***

*ны нам падручнік па гісторыі*“. „*Тут вялікую ролю адыграе першы том дакумэнтаў пад назвай „Клясавая барацьба на Беларусі*“[94]. *Вялікі калякты́ў гісторыкаў-марксыстаў зараз працуе над складаньнем кароткай гісторыі КП(б)Б. Гэта зьяўляецца нашай баявой задачай. Аднача́сова намі вядзецца работа па складаньню поўнай гісторыі КП(б)Б*“[95].

Нават больш таго: у жніўні 1934 г. заснаваны гістарычны факультэт пры Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце ў Менску; дзеканам факультэту прызначаны праф. В. Шчарбакоў, які ўважае, што „*адным з важнейшых пытаньняў у справе падняцьця гістарычнай адукацыі на адпаведны ўзровень зьяўляецца пытаньне аб кадрах гісторыкаў — патрэбны высокакваліфікаваныя кадры гісторыкаў*“[96].

Што гэта ўсё азначае?

А гэта вось што азначае: бальшавікі пачынаюць „лавіраваць і адступаць“!

Ня інача́й адбываецца і на іншых вучастках культурнага будаўніцтва — у галіне літаратуры і мастацтва; трэба спадзявацца, што прыйдзе чарга і да зьмену новага рэфармаванага правапісу беларускай мовы.

Нельга не адзначыць пры гэтым, што знайшоўся і „казёл адпушчэньня“ ва ўсіх памылках КП(б)Б у галіне культурнага будаўніцтва — гэта Х. Дунец[97], намесьнік наркомасьветы БССР, загадчык Галоўмастацтва БССР, бальшавіцкі вучоны і літаратурны крытык, рэдактар часопісі „Літаратура і Мастацтва“; ён нядаўна яшчэ „з усёй бальшавіцкай пільнасьцю“ „*выкрываў і граміў беларускі контррэвалюцыйны нацыянал-дэмакратызм*“ у галіне мастацтва і навукі. Яго ўжо скінулі за палубу. ЦК КП(б)Б выкрыў яго „трацкісцка-зіноўеўскую кантрабанду“. „Ідэалягічна разграміў“ і выкінуў з компартыі[98].

[94] Маецца на ўвазе выданьне: Шчарбакоў, В. Клясавая барацьба і гістарычная навука на Беларусі. Менск, 1934. — 104 с. — ***Рэд.***

[95] Зьвязда. № 9. 10 студзеня 1935.

[96] Шчарбакоў, В. Да адкрыцьця гістарычнага факультэту БДУ // Зьвязда. № 172. 5 жніўня 1934.

[97] **Хайзэкіль Дунец** (1899—1937), літаратурны крытык. У 1920-х гг. працаваў у Інстытуце габрэйскай культуры ў Менску. Ад 1935 г. — намесьнік наркама асьветы БССР. — ***Рэд.***

[98] Звязда. №48. 27 лютага 1935.





**22**

У сакавіку месяцы сёлетняга году адбылося ў Менску надзвычайнае паседжаньне пленуму ЦК КП(б)Б. Заслуханы быў даклад В. Валковіча, сакратара ЦК КП(б)Б „Аб задачах партыйна-арганізацыйнай і палітыка-выхаваўчай работы ў КП(б)Б“. Па дакладу прынята рэзалюцыя, у якой чытаемо:

„*Аб беларусізацыі марксісцка-ленінскага выхаваньня.*

*Пленум ЦК КП(б)Б адзначае, што за апошні час у некаторых камуністаў наглядаюцца небальшавіцкія адносіны да пытаньняў праўдзеньня бальшавіцкай беларусізацыі, калі паасобныя члены КП(б)Б, уладаючы мовай, перастаюць гаварыць па-беларуску, што яўным чынам ліе ваду на млын буржуазнага нацыяналізму.*

*Адзначаючы рост савецкіх беларускіх кадраў і вылучэньне іх на адказную работу ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі і культуры, значнае павялічэньне праслойкі навуковых кадраў у нашых ВНУ, ВТНУ і тэхнікумах непасрэдна з рабочых і калгасьнікаў і стварэньне беларускай інтэлігенцыі, да канца адданай справе сацыялізму, справе камуністычнай партыі, — пленум ЦК КП(б)Б абавязвае ўсе партыйныя і савецкія арганізацыі яшчэ больш энэргічна й сьмела адбіраць, рыхтаваць і вылучаць на адказныя савецкія й партыйныя работы кадры з рабочых беларусаў, з перадавых людзей калгасаў, з беларускай савецкай інтэлігенцыі.*

*Асабліва важнае значаньне набывае пытаньне беларусізацыі марксысцка-ленінскага выхаваньня, бальшавіцкага праўдзеньня беларусізацыі, выкладаньня на беларускай мове, вылучэньне беларускіх кадраў, павялічэньня беларусізаваных школ і гурткоў у сетцы партыйнай асьветы, а таксама ўкараненьне ў партыйную асьвету гісторыі, экономікі й культуры Беларусі.*

*Пленум ЦК КП(б)Б патрабуе ад усіх партыйных арганізацый сур'ёзнай практычнай работы ў галіне сапраўднага бальшавіцкага праўдзеньня беларусізацыі і марксысцка-ленінскага выхаваньня*“[99].

У БССР, як бачымо, узнаўляецца і ўзмацняецца беларусізацыя, і не здарма так робіцца — гэта бальшавікі выпраўляюць свае „памылкі“.

[99] Зьвязда. № 88. 17 сакавіка 1935.

**23**

Шмат разоў мянялі ўжо бальшавікі сваю тактыку і стратэгію ў вырашэньні нацыянальнага пытаньня. То яны абвесьцілі неадойнае права народаў на вольнае самаазначэньне аж да аддзяленьня, то ўзмоцненае вялі змаганьне з усімі спробамі рэчаістага зьдзейсьненьня гэтага права; то яны лавіравалі і адступалі перад магутным уздоймам нацыянальна-вызвальных рухаў, то ізноў вялі рашучы наступ і максымальна ўзмацнялі барацьбу з „сэпаратыстамі“ — „выкрывалі і грамілі“ беларускіх „нацдэмаў“, украінскіх „петлюраўцаў-нацыяналістаў“, грузінскіх „меншавікоў-ухілістаў“, армянскіх „дашакоў-хвасьцістаў“, узьбекістанскіх і таджыкскіх „басмачоў“, татарскіх „султан-галіеўцаў“, адным словам — выкрывалі і грамілі ўсіх „нацыяналаў“, якія імкнуліся да зьдзяйсьненьня волі і самастойнасьці сваіх нацый, сваіх родных краін, а ў выніку — і гэта з усёй гістарычнай няўхільнасьцю! — бальшавікі ізноў пачынаюць лавіраваць і адступаць, пачынаюць „выпраўляць памылкі“.

Ды, пэўна-ж, хто не памыляецца? Нават і папеж рымскі ня ёсьць непамыльны; таксама памыляецца: у булах і энцыкліках вунь стараецца направіць свае і чужыя грахі!

Можа і бальшавікі нарэшце возьмуцца за розум; нарабіўшы столькі асудных памылак, можа і сапраўды — не на словах, але на справе! — пачнуць *„выкрываць, выкарчоўваць і бязьлітасна граміць“* свае вялікія грахі, пачнуць выпраўляць памылкі, якія зробляны імі ў вырашэньні нацыянальнага пытаньня на Ўсходзе Эўропы.

Ня будземо, аднак, лёгкадумныя; паўзіраемся глыбей — аж у самы корань справы.

*„Нацыянальнае пытаньне,* — кажа Сталін, — *нельга ўтоесамліваць зь сялянскім пытаньнем, бо апрача пытаньняў сялянскіх, нацыянальнае пытаньне ўключае ў сябе яшчэ пытаньні нацыянальнай культуры, нацыянальнай дзяржаўнасьці ды інш. Але ня сумнійна таксама і тое, што аснову нацыянальнага пытаньня, яго ўнутраную сутнасьць усё-ж такі складае пытаньне сялянскае. Гэтым уласна і тлумачыцца, што сялянства прадстаўляе аснаўную армію нацыянальнага руху, што без сялянскай арміі не бывае і ня можа быць магутнага нацыянальнага руху. Гэта ўласна і маюць на ўвазе, калі кажуць, што нацыянальнае пытаньне ёсьць па сутнасьці справы — пытаньне сялянскае“*[100].

[100] Сталін, І. Нацпытаньні. Менск, 1932. С. 363.





*„Сацыяльны сэнс нацыянальнага пытаньня ў пралетарскай рэвалюцыі,* — кажа М. Поташ[101], — *складаецца з таго, што ён па сутнасьці справы ёсьць пытаньне сялянскае. Сялянства ўяўляе зь сябе аснаўную армію нацыянальна-вызваленчай барацьбы і ў сапраўднасьці сялянская барацьба самым цесным спосабам перапляталася з нацыянальна-вызваленчай барацьбой і разам з разгортываньнем першай разгортывалася й другая. І ўся гэта барацьба вялася й была завершана толькі пад кіраўніцтвам бальшавікоў. Толькі бальшавікі былі адзінымі кіраўнікамі барацьбы працоўных мас і ў першую чаргу сялянскіх рэвалюцыйных мас і ў нацыянальна-вызвальным руху на Беларусі супраць эксплоатацыі і нацыянальнага прыгнечаньня прыгнятаючых клас пануючай нацыі“*[102].

Тое, што сялянства зьяўляецца галоўнай апорай нацыянальна-вызвальных рухаў, аб гэтым ня можа быць ніякага сумніву; але вось тое, што бальшавікі зьяўляюцца адзінымі кіраўнікамі рэвалюцыйна-вызвальнага змаганьня беларускага працоўнага сялянства супраць гнёту і вызыску капіталістычных клясаў пануючай нацыі — гэта ўжо выклікае супярэчнасьць з фактамі жывой рэчаістасьці.

*„Наша партыя,* — кажа Гарын, — *ставіць так пытаньне: мы імкнёмся да бяскласавага грамадзтва, мы зьнішчаем класы, да канца другой пяцігодкі мы пабудуем бяскласавае грамадзтва, але пабудуем яго праз жорсткую клясавую барацьбу. З уступленьнем у другую пяцігодку клясавая барацьба не аслабляецца і не зьнішчаецца, а, наадварот, абвастраецца, узмацняецца на паасобных вучастках, у паасобных пэрыядах“. „Што адбываецца зь сялянствам? Перш чым перайсьці да аналізу, якія працэсы будуць адбывацца ў вёсцы, трэба паставіць пытаньне аб тым, што ўяўляе сабой аднаасобнае сялянства ў нашай краіне. Сялянства зьяўляецца апошняй капіталістычнай клясай таму, што яно вядзе дробную таварную гаспадарку, заснаваную на прыватнай уласнасьці, і таму зь сялянства штомінут-*

[101] **Майсей Поташ** (1892—пасьля 1955), гісторык. У 1931—1936 гг. — намесьнік дырэктара Інстытуту гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б. Дасьледаваў гісторыю рэвалюцый 1905—1907 і 1917 гг., гісторыю Кампартыі. У 1937 г. арыштаваны й прысуджаны да 8 гадоў лягераў. У 1946—1948 гг. працаваў у Інстытуце гісторыі АН БССР. У 1948 г. зноў арыштаваны і прысуджаны да 2 гадоў зьняволеньня. — ***Рэд.***

[102] Поташ, М. Супраць фальсыфікацыі гісторыі КП(б)Б і БССР // Бальшавік Беларусі. Менск, 1932. № 21—22. С. 107.

*на, штогадзінна вырастаюць капіталістычныя элемэнты". „Зьнішчаючы капіталістычныя элемэнты, перарабляючы селяніна аднаасобніка, ліквідуючы дробна-таварную гаспадарку, заснаваную на прыватнай уласнасьці, мы тым самым ліквідуем прычыны, якія параджаюць капіталістычныя элемэнты ў вёсцы". „Раз мы зьнішчаем дробна-таварную гаспадарку, дык тым самым зьнішчаем найглыбейшыя карэньні капіталізму, зьнікае крыніца і прычыны ўзьнікненьня капіталістаў у нашай краіне". „Як можна гаварыць аб зьмякчэньні класавай барацьбы, калі мы ідзём да поўнага зьнішчаньня капіталістычных элемэнтаў, калі мы ставім гэта сваёй задачай да канца другой пяцігодкі. Што мы ставім перад сабой задачу зьнішчыць капіталістычныя элемэнты і клясы наогул, ведаюць цяпер ня толькі рабочыя, аднаасобнікі і калгасьнікі, аб гэтым ведаюць нашы класавыя ворагі". „Што справа стаіць іменна так, можна пераканацца на нашай беларускай практыцы. Чаму нас павінна вучыць практыка апошніх тыдняў і месяцаў? Яна вучыць нас таму, што мы маем у сябе, на Беларусі, абвостраньне класавай барацьбы. Гэта даказваецца цэлым радам фактаў, калі кулакі вядуць работу за выхад з калгасу, цэлым радам замахаў на актыўных вясковых работнікаў, гэта даказваецца падрыўной работай кулака ў калгасах. У такіх умовах, калі мы самі наглядна можам бачыць і адчуваць абвастрэньне класавай барацьбы, калі кулак адказвае шалёным супраціўленьнем на нашы наступленьні, у такіх умовах гаварыць аб тым, што класавая барацьба патухае, ёсьць нішто іншае, як праваапартуністычныя гутаркі, якія маюць сваёй аб'ектыўнай мэтай дэмабілізаваць партыю і дапамагчы класаваму ворагу"*[103].

Гэтак у рэчаістасьці выпадае бальшавіцкае кіраўніцтва працоўным сялянствам у рэвалюцыйным змаганьні за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленьне — усе сяляне аднаасобнікі, якія вядуць працоўную гаспадарку і сваймі ўласнымі сіламі абрабляюць зямлю, абвешчаны капіталістамі, і з гэтымі капіталістамі бальшавікі вядуць напорыстае змаганьне аж да поўнага зьнішчэньня „класавага ворага".

Працоўнае сялянства ў бальшавіцкім уяўленьні — гэта ёсьць кулакі і падкулачнікі, гэта ёсьць класавы вораг, якога трэба зьнішчыць; вось яны і ўзяліся за яго зьнішчэньне з усёй бальшавіцкай пільнасьцю; выставілі баёўны покліч: *„Зьнішчэньне сялянства як класы!"*.

[103] Гарын, М. У барацьбе з класавымі ворагамі і апартуністамі пабудуем грамадзтва // Зьвязда. № 64, 68. Сакавік 1932.





Цяпер бальшавікі падлічваюць свае здабычы: у 1931 г. было зьнішчана 15% усіх беднацка-сярэдняцкіх гаспадарак на Беларусі, на 1 студзеня 1932 г. — 50,4%, на 1 студзеня 1935 г. — 72%[104].

Нераўнамернасьць бальшавіцкіх перамог у барацьбе з працоўным сялянствам тлумачыцца тым, што сяляне ў шэрагу мясцовасьцей перахадзілі ад пасыўнае абароны да актыўнага наступу: насільна створаныя бальшавікамі калгасы распадаліся, нават і ў сучаснасьці ёсьць многа калгасаў, якія існуюць толькі на паперы, але бальшавікі іх жорстка прасьледуюць за гэта. Аб жыцьці раскулачаных сялян у бальшавіцкіх калгасах наяўна сьведчыць рэфрэн з народнае песьні: *„У калгасах добра жыць — ваду есьці, сьлёзы піць, малаточкам вошы біць!"*.

Бальшавікі, зьнішчаючы сялянства як клясу, намерываліся разам з тым зьнішчыць сацыяльную базу нацыянальна-вызвальных рухаў. У гэтым палягаў галоўны сэнс бальшавіцкага раскулачваньня сялянства ў нацыянальных рэспубліках і абласьцях Савецкага Саюзу; у гэтым, а ня ў чым іншым, палягае галоўны сэнс іх напорыстага змаганьня з працоўна-хутарскімі гаспадаркамі на Беларусі.

Ці дасяглі свае мэты?

*„Справа ў тым,* — кажа Якаўлеў[105], — *што парадку на зямлі ў нас да гэтага ўсё яшчэ недастаткова, у нас яшчэ няма самага простага парадку на зямлі"*[106].

Вось нібы той летапісны манах трудалюбівы сказ праўдзівы перадае для ўсеагульнага ўразумленьня: *„Земля у нас веліка і обільна, но порядка в ней лішь нет"*[107].

Каб устанавіць парадак на зямлі, бальшавікі склікалі ў Маскву 2-гі ўсесаюзны зьезд калгасьнікаў-ударнікаў; апрацавалі прыкладны статут сельска-гаспадарчай арцелі.

[104] Галадзед, М. Вынікі сацыялістычнага будаўніцтва БССР // Зьвязда. № 16. 18 студзеня 1935.

[105] **Якаў Якаўлеў** (1896—1938), савецкі дзяржаўны й партыйны дзеяч, гісторык, публіцыст. У 1929—1934 гг. — наркам земляробства СССР, старшыня Ўсесаюзнага савету сельгаскалектываў СССР. Праводзіў палітыку прымусовай калектывізацыі. Рэпрэсаваны. — ***Рэд.***

[106] Якаўлеў, Я. Аб прыкладным статуце сельскагаспадарчай арцелі // Зьвязда. № 37. 14 студзеня 1935.

[107] Цытата з „Аповесьці мінулых гадоў" з запісу за 862 г., калі славянскія пасьлы запрашалі да сябе на княжаньне варагаў. — ***Рэд.***

*„Паглядзіце,* — кажа Н. Бухарын[108], — *на новы статут сельскагаспадарчай арцелі, які ўнесен на 2-гі зьезд калгасьнікаў-ударнікаў. Зямля па гэтаму статуту — агульна-дзяржаўная ўласьнасьць. Але яна знаходзіцца ў бестэрміновым карыстаньні калгасьнікаў. Хто яе можа адабраць у калгасьнікаў? Ніхто. Яе ня можа адабраць памешчык, бо ён зьнішчаны. Яе ня можа адабраць кулак, бо разгромляны. Яе ня можа адабраць скупшчык, бо ён разьбіты. Яе ня можа атрымаць выскачка са сваіх радоў, бо зямля не прадаецца і не арэндуецца. Яна добра замацавана за калгасамі“*[109].

І ўзапраўды: новы статут сельска-гаспадарчай арцелі-калгасу замацоўвае зямлю за арцелямі-калгасамі ў бестэрміновае карыстаньне — навечна; устанаўлівае норму прысядзібнай зямлі (ад чвэрці і да аднаго гэктару), якая знаходзіцца ў асабістым карыстаньні двара; кожны калгасны двор можа мець у асабістым карыстаньні 2-3 каровы і маладняк, 2-3 сьвінаматкі з прыплодам, 20-25 авечак і коз разам, неабмежаваную колькасьць птушак і трусоў і 20 вульляў пчол. Аплата працы ў арцелі-калгасе адбываецца натурай і паводле выкананых працаднёў; разьмер аплаты за працадні ўстанаўліваецца агульным сходам сялян-калгасьнікаў пасьля таго, як арцель-калгас выканае ўсе свае павіннасьці адносна дзяржавы як галоўнага ўласьніка зямлі.

Здаецца, на першы погляд, усё ёсьць чыста і гладка. Вось, маўляў, хіба-ж гэта ня будзе ўжо цяпер парадку на зямлі?

Не, няма і ня будзе парадку на зямлі аж пакуль ня будзе волі!

Зямля добра замацавана за калгасамі, — кажа Бухарын; ніхто цяпер ня можа яе адабраць ад сялян-калгасьнікаў — ні абшарнікі, ні кулакі, ні выскачкі з свайго асяродзьдзя; зямля замацавана, маўляў, на вечныя часы за сялянамі-калгасьнікамі, або інакш кажучы: безтэрмінова; у рэчаістасьці гэта азначае, што дзяржава як галоўны ўласьнік зямлі можа адабраць ад сялян-калгасьнікаў зямлю, калі ёй гэта ўздумаецца і калі гэта ёй захочацца, а ў тым прыпадку, калі сяляне-калгасьнікі будуць супраціўляцца, то дзяржава, маючы ў сваім распараджэньні апарат прымусовае ўлады, прымусіць іх да гэтага — разгроміць і зьнішчыць як „клясавых ворагаў“.

А што такое ўяўляе з сябе сучасная савецкая дзяржава?

[108] **Мікалай Бухарын** (1888—1938), савецкі эканаміст, дзяржаўны й партыйны дзеяч. — ***Рэд.***

[109] Бухарын, Н. Калгасныя землі і калгасныя людзі // Зьвязда. № 41. 18 лістапада 1935.





Сучасная савецкая дзяржава — гэта ёсьць компартыя плюс бюракратыя; інакш кажучы гэта ёсьць тая ўпрывілеяваная супольная група, якая займае ўладарна-кіруючае становішча ў суспольстве; гэта ёсьць новая савецкая шляхта. У сацыяльна-псыхічным разрэзе гэта азначае: бальшавіцка-ленінская шляхта ўзіраецца на дзяржаву, як на сваё прадпрыемства, як на сьвяшчэнную і недатыкальную ўласнасьць; у адношаньні да сялян-калгасьнікаў, як і да рабочых на фабрыках і заводах, выступае нібы той капіталіст-прадпрыемец: наймае працоўную сілу, эксплюатуе, гандлюе прадуктамі вырабу, устанаўляе цьвёрдыя цэны на ўнутраным рынку і канкуруе ў гандлі з замежнымі капіталістамі. З дабавачнай вартасьці, якую атрымлівае ў выніку ўсяго гаспадарчага працэсу, устанаўлівае адпаведную норму свайго дабрабыту; прычым, вышыня дабрабыту селяніна-калгасьніка і фабрычнага рабочага ў параўнаньні з вышынёй дабрабыту сов-дзярж-капіталіста ёсьць ня менш адменная, чымся ў кожным іншым капіталістычным суспольстве: дыстанцыя, казаў той, вагромністага разьмеру[110]!

Зямля не арэндуецца, — кажа Бухарын. Гэта яго цьверджаньне не адпавядае рэчаістасьці: арэнда існуе — толькі ў замаскаванай форме.

Савецкая дзяржава як галоўны ўласьнік зямлі замацоўвае зямлю за калгасамі на пэўных умовах; наяўна аб гэтым сьведчыць новы прыкладны статут сельгасарцеляў, які сяляне-калгасьнікі павінны абгаварыць і прыняць. Гэта ёсьць аднабокія ўмовы, бо сяляне-калгасьнікі пазбаўлены магчымасьці іх зьмяняць, унасіць у іх свае папраўкі або зусім іх адхіляць; выстаўляць свае ўмовы; ня прыняцьцё ўмоваў, прадыктаваных компартыяй, азначае, паводле сучаснай бальшавіцкай тэрміналёгіі, „контррэвалюцыю“ і цягне за сабой жорсткае прасьледаваньне: выключэньне з калгасу, пазбаўленьне магчымасьці існаваньня. Сяляне-калгасьнікі мусяць прыняць і тыя абавязкі ў адношаньні да дзяржавы, якія на іх ускладае статут сельгасарцелі: у першую чаргу павінны выканаць хлебазагатоўкі і контрактацыі, якія вымагае дзяржава.

Савецка-бальшавіцкая дзяржава, як і кожны капіталістычны прадпрыемец, дбае толькі аб сваіх інтарэсах; цягне жыцьцёвыя сокі зь сялян-калгасьнікаў так, што не зьвяртае нават ніякае ўвагі на тое, ці застанецца што-небудзь у сялян-калгасьнікаў на пражыцьцё, калі выканаюць усе свае павіннасьці адносна дзяржавы; у статуце, напрыклад, нічога не гаворыцца аб тым, якая мае быць норма аплаты за працадні; можа здарыцца нават так, што нічога не застанецца за працу пасьля выкананьня ўзложаных абавязкаў адносна дзяржавы. Нічога не сказана ў

статуце і аб тым, зь якіх гэта сродкаў селянін-калгасьнік будзе ўтрымліваць сваю жывёлу — можа з свайго ўласнага пражытачнага мінімуму? Але што найбольш важнае — як гэта сяляне-калгасьнікі могуць арганізоўваць сваю вытворчую працу ў арцелі-калгасе, калі яны пазбаўлены элементарных магчымасьцяў вольнай самаарганізацыі? Ці мо гэта праца мае быць прымусовая; хто і каго прымушае? Затым, калі праца ў калгасе мае быць прымусовая, то гэтым самым вылучаецца дабравольнасьць аб'яднаньня сялян у калгасы, а бязь волі, як ведама, няма і ня можа быць парадку на зямлі.

Зямля і Воля — гэта ёсьць покліч сялянскіх рэвалюцыйна-вызвальных мэтаімкненьняў.

Зямля і Воля — гэта ёсьць покліч, які выставіла працоўнае сялянства ў змаганьні з царска-раманаўскай шляхтай; гэта ёсьць покліч, які выстаўляе працоўнае сялянства ў змаганьні з бальшавіцкаленінскай шляхтай; гэта ёсьць покліч змаганьня з гнётам, прымусам і зьдзірствам; гэта ёсьць покліч рэвалюцыйнага змаганьня з паншчынай!

*„У Савецкім Саюзе,* — кажа Молатаў, — *пастаўлена цяпер пытаньне аб далейшай дэмакратызацыі выбарчай сыстэмы ў сэньсе замены ня зусім роўных выбараў — роўнымі, многаступенных — простымі, адкрытых — закрытымі“. „Прыйшоў час,* — ён кажа, — *калі краіна Саветаў у мэтах далейшага ўмацаваньня савецкай сыстэмы можа перайсьці да поўнага пératварэньня ў жыцьцё ўсяго, што ёсьць лепшага ў агульным простым, роўным і тайным выбарчым праве — на аснове савецкага ладу“*[111].

*„Наша краіна сьмела падымае сьцяг сапраўднага дэмакратызму і савецкага парлямэнтарызму“. „Гэта ёсьць — новая эпоха савецкай дэмакратыі“*[112].

Што такое дэмакратыя?

Дэмакратыя ня ёсьць толькі форма арганізацыі палітычнае ўлады; дэмакратыя — гэта ёсьць вольная арганізацыя працы!

Сапраўдная савецкая дэмакратыя — гэта ёсьць дэмакратыя працы; гэта ёсьць працоўная дэмакратыя!

[110] Ад *„дистанция огромного размера“* — крылаты выраз з камэдыі А. Грыбаедава „Гора ад розуму“. — ***Рэд.***

[111] Молатаў, В. Аб зьменах у савецкай канстытуцыі // Зьвязда. № 33. 8 лютага 1935.

[112] Зьвязда. № 33. 9 лютага 1935 (перадрук з газэты „Правда“).





Калі бальшавікі адважыліся, нарэшце, падняць сьцяг сапраўднага дэмакратызму і савецкага парлямэнтарызму, калі яны і ўзапраўды — не на словах, але на справе! — зьменяць канстытуцыю ў сэньсе ператварэньня ў жыцьцё ўсяго, што ёсьць лепшага ў агульным, простым, роўным і тайным выбарчым праве, няхай нават і на аснове савецкага ладу, то гэта азначае, што дэмакратыя, працоўная дэмакратыя, павінна быць устаноўлена ў калгасах, на фабрыках і заводах, ва ўсіх дзяржаўных установах; гэта азначае канец дыктатуры. Дэмакратыя, сапраўдная дэмакратыя вылучае дыктатуру.

Дэмакратыя ўхіляе і вылучае дыктатуру ня толькі ў дзяржаўных установах і заводах, але і ў калгасах; і гэта ёсьць у першую чаргу: хочуць сяляне быць у калгасах — гэта іх воля, іх права; а ня хочуць — ніхто іх ня можа прымушаць на гэта!

Гэтак, на аснове дэмакратыі, вырашаецца сялянскае пытаньне.

Ня іначай вырашаецца, на аснове дэмакратыі, і нацыянальнае пытаньне: хочаць народ Усходняе Эўропы ўваходзіць у Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік — гэта іх воля, іх права, ня хочаць — ніхто іх ня можа прымушаць на гэта!

Калі дэмакратыя, то няхай будзе сапраўдная дэмакратыя!

Пасьлядоўна зьдзейсьненая савецкая дэмакратыя ператвараецца, такім чынам, у нацыянал-дэмакратыю; сов-дэмы абяртаюцца ў нац-дэмаў.

Дык на што было праліта столькі сьлёз і крыві бязьвінных ахвяр бальшавіцкага тэрору?

## 24

*„Нам прыходзіцца лічыцца з тым,* — кажа В. Молатаў, — *што непасрэдна небясьпека вайны для СССР узмацнілася. Аб вайне супраць Савецкага Саюзу даўно ўжо адкрыта гавораць некаторыя ўплывовыя колы ў Японіі. Нельга забываць і аб тым, што ў Эўропе цяпер ёсьць кіруючая партыя, якая адкрыта абвясьціла гістарычнай сваёй задачай захват тэрыторый у Савецкім Саюзе. Ня бачыць набліжэньня новай вайны — значыць закрываць вочы на галоўную небясьпеку. На ўсё гэта Савецкі Саюз адказаў перш за ўсё ўзмацненьнем актыўнасьці ў барацьбе за мір. Усім вядома шырокая ініцыятыва СССР у пытаньні аб пактах ненападу“. „Савецкі ўрад ня толькі праявіў ініцыятыву, але і падтрымліваў крокі другіх урадаў, накіраваныя на ахову міру і міжнароднай безапаснасьці“. „Аснова нашай зьнешняй палі-*

*тыкі — падтрыманьне міру і разьвіцьцё мірных адносін з усімі краінамі“*[113].

Ясна, што пры такіх абставінах, калі ўрад СССР змушаны вясьці мірную вонкавую палітыку, з усей няўхільнасьцю павінен зьмяніць і сваю ўнутраную палітыку. *„Мір дварцам — вайна хіжынам!“* — гэта ёсьць небясьпечная гульня. Можа ўзьняцца вялікая бура. Урад СССР, калі ён узапраўды імкнецца да падтрыманьня міру і разьвіцьця мірных адносін з усімі краінамі, то ў першую чаргу ён павінен устанавіць мір з хіжынамі — з працоўным сялянствам і з народамі СССР. Сіла штыха і кулямёта павінна быць зьменена на сілу права і вольнага самаазначэньня!

Узапраўдная палітыка міру — гэта ёсьць палітыка пасьлядоўнага зьдзяйсьненьня дэмакратыі; у канкрэтнай рэчаістасьці гэта азначае: ухіленьне акупацыйных рэжымаў і ўсеагульнае разбраеньне.

Але бальшавікі інакш узіраюцца на справу: яны лавіруюць і манэўруюць.

Супярэчнасьці вайны і міру бальшавікі намерываюцца вырашыць у той спосаб, што ўзмоцнена вядуць прапаганду за мір, а яшчэ больш узмоцнена рыхтуюцца да вайны.

*„Наша чырвоная армія,* — яны кажуць, — *да канца XVII гадавін прыходзіць з гіганскімі посьпехамі і ў колькасных і ў якасных адносінах. Несакрушальная магутнасьць чырвонай арміі. Савецкі Саюз цяпер можа вырабляць у масавым маштабе ўсе сучасныя сродкі абароны. Наша чырвоная армія цяпер узброена як ніколі, мацнейшымі паветранымі эскадрыліямі, цяжкой артылерыяй, быстраходнымі танкамі. Мы закавалі ў жалезабэтон нашу заходнюю граніцу ад Ладажскага возера і да Чорнага мора, мы закавалі ў жалезабэтон нашы граніцы на Далёкім Усходзе. Наша чырвоная армія ўмее і нястомна вучыцца ў дасканаласьці ўладаць той магутнай тэхнікай, якою яе ўзброіла рабоча-сялянская краіна. Чырвоная армія нястомна вучыцца, гэта — дасканалая школа палітычнага, культурнага і тэхнічнага безупыннага росту камандзіраў і байцоў. Наша армія — плоць ад плоці працоўнага народу. Ні адна армія ў сьвеце не акружана такой любоўю, такімі клопатамі, такой безупыннай увагай і падтрыманьнем найшырэйшых працоўных мас, як наша чырвоная армія. Варта толькі ўспомніць, якой бурай энтузіязму былі спатканы выступленьні прадстаўнікоў чырвонай арміі на XI усебеларускім і VII усесаюзным зьездах саветаў. Варта толькі ўспомніць, зь якой любасьцю сустрачаюць нашых чырвоных байцоў і камандзіраў на кожным заводзе, на кожнай фабрыцы, у кожным калгасе! Вялікі гонар — быць байцом чырвонай арміі! Няхай жыве нашая родная непераможная чырвоная армія!“*[114].

Жалезабэтон, магутная паветраная эскадрылья, цяжкая артылерыя, быстраходныя танкі і дасканала выўчаны ўладаць наймагутнейшай тэхнікай сучаснае вайны баец-чырвонаармеец — вось іх аргумэнты міру!

Хіба можна сумневацца ў тым, што гэткае разуменьне міру ёсьць нішто іншае, як разьдзьмухваньне вайны? Хіба-ж не такія самыя аргумэнты міру выстаўляюцца ўсімі капіталістычнымі дзяржавамі, зь якімі бальшавіцкая ўлада вядзе спаборніцтва ў найбольшым удасканаленьні тэхнікі сучаснага ўзбраеньня?

Павялічэньне мілітарнае сілы СССР — удасканаляньне тэхнікі ўзбраеньня і ваенізацыя супольнага жыцьця — моцным рэхам адзываецца ў суседніх капіталістычных краінах; тое-ж самае адбываецца і з другога боку *„сьвяшчэнных і недатыкальных межаў савецкае радзімы“.*

Крывавая рыжская мяжа, якой разарвана Беларусь на часьці, узмацоўваецца жалезам і бэтонам ня толькі з боку „савецкае радзімы“, але і з боку *„polskiej ojczyzny“.*

Спаборніцтва ўзбраеньняў, як бачымо, не ўхіляе супярэчнасьці вайны і міру, але яшчэ больш павялічвае і паглыбляе; небясьпека вайны з кожным днём узмацняецца; з кожным новым кулямётам і новым танкам набліжаецца час, калі яны самі пачнуць страляць!

Пакты аб ненападзе — гэта ёсьць толькі фармальнае прызнаньне таго, што напады магчымы і што трэба іх чакаць. Згэтуль яшчэ больш узмоцненая падрыхтоўка да вайны.

Адбываецца ўзмоцненая ваенізацыя ўсяго насельніцтва; у прыпадку вайны ўсё насельніцтва Савецкага Саюзу павінна ўзяць на сябе цяжкое бярэмя ваенных павіннасьцяў і без жадных нараканьняў складаць ахвяры на аўтар „савецкае радзімы“. У адмену за гэта бальшавікі абяцаюць даць раскулачаным сялянам *„заможнае жыцьцё ў калгасах“*, а прыгнечаным і паняволеным народам — *„бальшавіцка-ленінскае выхаваньне“.*

[113] Молатаў, В. Справаздачны даклад аб рабоце ўраду VII зьезду Саветаў СССР // Зьвязда. № 25. 30 студзеня 1935.

[114] XVII гадоў Чырвонай Арміі // Зьвязда. № 45. 23 лютага 1935.

Тое-ж самае адбываецца і з другога боку межаў савецкае радзімы; уся розьніца палягае хіба толькі ў тым, што замест *„заможнага жыцьця ў калгасах“* абяцаюць даць сялянам *„заможнае жыцьцё ў небе“*, а прыгнечаным і паняволеным народам — *„эўрапэйскае выхаваньне“*!

Як у рэчаістасьці выпадае гэта *„эўрапэйскае выхаваньне“* — яскрава сьведчаць факты народнае асьветы ў Заходняй Беларусі.

Вось што апавядае аб гэтым польская вучыцелька, якая ўжо шмат гадоў працуе ў пачатковай школе на тэрыторыі Заходняй Беларусі, дзе беларускія дзеці змушаны вучыцца ў польскіх школах: *„Дзеці прыходзяць у школу і ня знаюць аніводнага польскага слова. Наўкола ня чуюць ніякай іншай мовы, апрача мовы беларускай. Дзеці між сабой гавораць толькі па-беларуску, ніколі не гавораць па-польску. Па-польску гавораць толькі на лекцыях з прымусам і труднасьцяй. Дзеці ніколі ня думаюць па-польску. Вучацца лекцыяў і гавораць аб лекцыях і навуцы заўсёды толькі па-беларуску. 17 гадоў ужо працуе публічная пачатковая школа на тэрыторыі заселенай беларусамі. 17 гадоў вучымо беларускіх дзяцей па-польску. Якія сьляды гэтай працы? Дзеці гавораць па-польску толькі ў школе. Школа ня робіць таго, што рабіць павінна ані ў галіне навучаньня, ані ў галіне выхаваньня. У выніку — паўторны анальфабетызм. Каб гэтыя дзеці вучыліся па-беларуску, то напэўна школьная праграма была-б зрэалізаваная, але ня ўмелі-б па-польску. Цяпер ня ўмеюць ані добра па-польску, ані зразуменьня матарыялаў навучаньня. Няма выхаду. Што рабіць? Аб што ідзе? Ці-ж тыя спосабы, якія ўжываліся аж да апошняга часу, не паказалі яшчэ па 17-гадовай працы сьлёзных вынікаў?“*[115].

І ўзаўпраўды: аб што ідзе, якое гэта эўрапэйскае выхаваньне даюць беларусам польскія імпэрыялісты?

Польскім гнабіцелям ідзе аб тое, каб зьвязаць беларусаў з польскай дзяржавай, каб беларусы, у прыпадку вайны, самаахвярна ішлі паміраць *„za ojczyznu od morza do morza“*. У працягу 17-ці гадоў узывалі спосабы прымусовае палянізацыі. Але атрымаліся сьлёзныя вынікі. *„Wobec ludzi innej sfery lud nasz jest nieufny ł zamknęty w sobie“*[116].

Польскія акупанты ламаюць сабе галаву над тым, як здабыць заўфаньне беларускага народу да *„ojczyzny polskiej“*, якім спосабам прывязаць да польскае дзяржавы?

Прыходзяць да высноўку: каб гэтыя дзеці вучыліся па-беларуску.

[115] Kurjer Wilenski. № 94. Красавік 1935.

[116] Kurjer Wilenski. № 213. 1931.





Вось-жа: вызначаюцца новыя шляхі і спосабы польскага панаваньня на землях Заходняй Беларусі; польскія гнабіцелі пачынаюць выпраўляць свае памылкі: абмяркоўваюць пытаньне аб увядзеньні беларусізацыі як надзейнага спосабу прывязаньня беларусаў да польскае дзяржавы і заахвочваньня да самаахвярнасьці на аўтар польскага імпэрыялізму.

Узмоцненая падрыхтоўка да вайны і ваенізацыя ўсяго насельніцтва змушаюць акупацыйныя ўлады на Беларусі выпраўляць памылкі, якія дапушчаны былі імі ў адносінах да беларускага народу.

Але народ беларускі, навучаны горкім досьведам, прадаўжае быць *„nieufny ł zamknęty w sobie“* — ня верыць людзям *„z innej sfery“*, бо хоча мірнай працы, хоча волі і самастойнасьці.

Хто ўзапраўды хоча міру, той ня можа не хацець волі і незалежнасьці Беларусі.

На ўсім абшары беларускае зямлі ад Ловаці аж да Буга ўся паўната ўлады мае належаць беларускаму народу!

Вольная і незалежная Беларуская Народная Рэспубліка — гэта ёсьць адзіны і ўзапраўдны шлях міру!

**25**

Адважна ўзіраемся насустрач будучыні!

Беларускі народ у цягу стагодзьдзяў перажыў шмат розных ліхалецьцяў; жыве і будзе жыць!

Маючы на ўвазе досьвед гістарычнае мінуўшчыны, крытычна ацэньваючы ўсе папярэднія ступені разьвіцьця беларускага вызвальнага руху, нельга не прыйсьці да высноўку, што ў беларускага народу знойдзецца ў дастатку творчых сілаў і арганізацыйных здольнасьцяў, каб у час катаклізму, які надыходзе, здужаць і аўладаць усе плыні разьюшанай стыхіі ўстанавіць парадак міру і канструктыўна-творчай працы для дабра паспалітага люду.

І разарвуцца кайданы няволі, і спадуць чужацкія ёрмы, і распачнецца новае жыцьцё.

Беларусь, бацькаўшчына Скарыны, Буднага, Сапегі, Багушэвіча, Каліноўскага, Грынявецкага, Бурбіса, Ігнатоўскага, наша радзіма Беларусь будзе вольнай і ні ад каго не залежнай народнай рэспублікай!

## Да пытаньня аб паходжаньні гэрбу Пагоня[117]
## (прычынак да высьвятленьня беларускай гэральдыкі)

Многа стагодзьдзяў мінае ўжо з таго часу, як на Беларусі пачаў ужывацца дзяржаўны гэрб Пагоня: на белым кані сядзіць удалы ваяка, у правай руцэ ён трымае высока падняты меч, а ў левай мае шчыт, на якім ёсьць знак шасьціканцовага крыжа, апрануты ён з галавы і аж да ног у жалезны панцыр-броню, на галаве жалезны шлем, які закрывае ўсё аблічча, украшаны даўгім квяцістым пяром, моцна і ўпэўнена трымаецца ён у сядле, вострымі астругамі паўзбуджае каня да борскага скоку. Куды ён сьпяшыць, ваяка ўдалы; на каго ён нападае, ці мо бароніцца ён ад каго?


Тамаш Грыб

Ваяка на белым кані, пачынаючы з XIII ст., а можа нават і раней, і аж да канца XVIII ст., — гэта быў сымбаль дзяржаўнай самастойнасьці і незалежнасьці беларускага народу; узнаўленьне беларускае народнае дзяржаўнасьці ў 1917 г. — Першы Ўсебеларускі Кангрэс, на якім абвешчана было, што на ўсім абшары беларускае зямлі ўстанаўліваецца беларуская народна-рэспубліканская ўлада, — адбылося пад знакам старадаўняга сымбалю: на бел-чырвона-белым сьцягу ў залатых праменьнях сонца ваяка на белым кані; гэта ёсьць сымбаль дзяржаўнай незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Што азначае гэты сымбаль — ваяка на белым кані; хто ведае цяпер, які зьмест укладаўся ў гэты старадаўні сымбаль нашымі продкамі на ўсьвеце гісторыі?

Спрабуемо адказаць на гэтыя пытаньні.

На Беларусі, асабліва ў асяродзьдзі беларускага сялянства, існуюць аж па сяньняшні дзень такія звычаі і ўрачыстыя абраднасьці, якія сваім паходжаньнем сягаюць у глыбіню старадаўнасьці, або, як гэта кажуць, у даўно мінулыя часы паганства. Адным з такіх звычаяў зьяўляецца, напрыклад урачыстае спатканьне вясны: юр'еўскае сьвята, юр'я, калі вітаюць вясну.

[117] Друкуецца паводле: Іскры Скарыны. 1935. №5. С. 69—77. Подпіс: Др. Т. Грыб.





У старыя часы юр'я спраўлялася вельмі гучна і слаўна; прыпадала на другую палавіну красавіка месяца або на пачатак траўня па новаму стылю, калі распачыналіся першыя працы ў полі пад ярыну. Гэта было сьвята вітаньня бога сонца Ярыла.

Яшчэ ў канцы XIX ст., як сьцьвярджае А. Фамінцын, у сьвядомасьці беларусаў, якія наагул захавалі ў абраднасьці і вераваньнях сваіх многа вельмі старадаўніх рысаў і матываў, — не пераставаў жыць Ярыла ў сэньсе бога вясеньняга сонца[118].

Успаміны аб Ярыле захаваліся на Беларусі, як сьцьвярджае А. Афанасьеў, вельмі жыва: *„Беларусы ўяўляюць яго маладым прыгожым хлапцом на белым кані і ў белай вопратцы, на галаве ў яго вянок зь вясеньніх палявых кветак, а ў руцэ трымае жмені жытных каласоў, ногі ў яго босыя. Там, дзе ступаў старынны бог Ярыла сваімі босымі нагамі, то зараз-жа вырастала густое жыта, а куды абяртаўся ягоны пагляд — там расьцьвіталі і каласы: „А дзе-ж ён нагою — там жыта капою, а дзе-ж ён зірне — там колас зацьвіце“*[119].

Назва Ярыла захавалася на Беларусі аж да апошняга часу; сягае сваім паходжаньнем аж у глыбядзь старадаўнасьці.

Слова Ярыла складаецца з кораня „яр“ і канцоўкі „ыла“.

Корань „яр“ адпавядае санскрыцкаму *ar*, якому, у свой чарод, адпавядае грэцкае *Ερ*.

*Ar* у санскрыце азначае дзейнасьць узвышаную, рух наверх; канцоўка „ыла“, як, скажамо, „іла“, „ала“, маючы ў сабе суфікс мінулага часу прычасьця дзейнага залогу, азначае бязупынную дзейнасьць, як пэўную ўласьцівасьць таго, што дзейнічае. Напрыклад: Купала, Вазіла, ня йначай і Ярыла.

Канцоўцы „іла“ адпавядае ў санскрыце *van*, якое, у свой чарод прыраўніваецца да грэцкага *ώς, ώτς*.

У цэлым славянскае слова Ярыла адпавядае санскрыцкаму *Arvan* і грэцкаму *Ερώς*.

*Arvan* у пазьнейшым санскрыце азначае „кон“, але ў Ведах яно больш захавала сваё першапачатковае значаньне — хуткі, бягучы, пруткі, імклівы. Гэта назва ў Ведах адносіцца да сонца і ўжываецца нават замест сонца; інагды ўжываецца ў сэньсе каня і верхніка (усадніка, коньніка). Гэны верхнік — узыходзячае сонца. Ёсьць нават гімны ў Ведах аб сонцы, як і аб кані.

[118] Фаминцын, А. Божества древних славян. СПб, 1884. С. 220.

[119] Афанасьев, А. Поэтические воззрения славян на природу. Т. 2. Москва, 1865. С. 441—442.

Падобна санскрыцкаму *ar*, славянскае „яр“ таксама захавала значаньне хуткасьці, бягучасьці, прыткасьці, імклівасьці, а таксама палкасьці, сілы, сьвятла; вясеньняга або ўзыходзячага сонца. Як і санскрыцкае *ara* азначае хуткі і прыткі, так і наша беларускае „ярам“ — хутка, прытка.

Галоўная своมасьць сьвятла ёсьць хуткасьць яго распаўсюджаньня; у корні „яр“ сумешчаецца значаньне хуткасьці і сьвятла.

Вясеньні сьвет узбуджае ў прыродзе сілу адраджэньня і аплоджаньня; дзеля гэтага „яр“ ужываецца ў значаньні пладатворнай сілы вясеньняга сонечнага сьвятла.

Тое, што корнем „яр“ трэба разумець сьвет вясеньняга сонца, можамо бачыць, напрыклад, з назвы вясны: „яро“, як гэта ўжываецца аж да апошняга часу ў чэскай мове; адсюль назва вяснавых пасеваў: „ярына“, „яравое поле“; у нямецкай мове, напрыклад, захавалася нават і назва году: *Jahr*.

Вясна — гэта ёсьць час, калі ўзбуджаецца імкненьне да аплоджаньня: ярун, ярыцца, ярыць. Апрача таго вясеньні сьвет узбуджае сілу, мужнасьць. Корань „яр“, дзеля гэтага, у сучаснасьці, як і ў санскрыце, азначае сілу, мужнасьць, здатнасьць; „яры“ — гэта ўсё роўна што сільны, мужны, здатны. *Jarost* па-чэску — сьвежасьць, юнацкая сіла. Згэтуль паходзіць і яшчэ адно значаньне корня „яр“ — гнеўны, заўзяты, ярасны; адпаведная латынскаму *ira*, а грэцкаму *ατγς*, што таксама азначае гнеўнасьць, заўзятасьць. У беларускай мове слова ярасьць ужываецца ў сэньсе буйнасьці, палкасьці, жарыстасьці, гарачнасьці[120].

Слова „Ярыла“, такім чынам, азначае хуткую распаўсюджанасьць вясеньняга сьвятла, якое ўзбуджае сілу ўзросту ў травах, дрэвах, плоцкую сілу ў зьвяроў і ў людзей; а таксама — юнацкую сьвежасьць, здатнасьць, адвагу і храбрасьць у чалавеку.

Згэтуль вынікае, што Ярыла як увасабленьне вясеньняга сонца зьяўляецца богам аплоджаньня, богам каханьня, радасьці, красы, сілы і дасканаласьці.

Уява сонца ў вобразе каня ёсьць супольна многім народам: у Персаў, напрыклад, — белы конь, у скандзінаўскіх народаў — сьветлагрывы конь, ня іначай і ў славян, асабліва ў нашых продкаў, — белы конь.

Узьнікла гэта ўява ў пастушаскія часы, калі ў вобразе розных зьвяроў увасабляліся сілы прыроды; гэта была эпоха зооморфізму. Напа-

[120] Ластоўскі, В. Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. Коўна, 1924. С. 760.





чатку земляробскае эпохі, калі пачаў узьнікаць антропоморфізм — увасабленьне сілаў прыроды ў вобразе чалавека — народная фантазія злучыла папярэдні зооморфічны вобраз з новым антропорфічным: на белага каня быў пасаджаны малады чалавек; гэтак зьявілася ўява маладога прыгожага ўдалага хлапца, які сядзіць на белым кані — уява вясеньняга сонца.

Уява сонца ў вобразе прыгожага юнака, які разьяжджае па сьвеце на белым кані, існуе таксама і ў іншых народаў: у індусаў — Вішна, у рымлян — Апалон, у персаў — Мітра.

Наш беларускі Ярыла як бог сонца яўляецца ня іначай, як у вобразе прыгожага юнака на белым кані.

*„Аж да апошняга часу,* — кажа П. Ефіменко, — *беларусы ўяўляюць сабе Ярылу маладым, прыгожым чалавекам, які разьяжджае на белым кані“*[121].

Вобраз Ярылы ўяўляўся беларусам таксама і ў постаці дзяўчыны. Беларусы, кажа Ефіменко, у сьвята Ярылы прадстаўніком яго выбіраюць ня хлопца, але маладую прыгожую дзяўчыну, якую апранаюць так, як уяўляюць сабе Ярылу, і саджаюць яе на каня[122]. Аб гэтым сьведчыць таксама і Дрэўлянскі ў сваёй працы „Белорусския предания“[123].

Уява бога сонца ў вобразе жанчыны паходзіць, мабыць, з часоў матрыярхату, калі жанчына-матка ўважалася за прадстаўніка роду; не мужчына-бацька, але жанчына-матка стаяла на чале радавога суспольства.

Нельга не адзначыць пры гэтым, што ў старадаўнія часы была вельмі пашырана ўява прыраўнаньня сонца з чалавекам: узыходзячае сонца прыраўнівалася з прыгожым дзіцянём, паўдзённае сонца — з мужам поўналетнім, вячэрняе сонца — з старым дзедам. У выніку гэтага сонца ўвасаблялася ў розных вобразах: дзіцяці, юнака і старога дзеда. Узыходзячае сонца заўсёды ўяўлялася ў вобразе прыгожага дзіцяці на руках маткі-зямлі. Гэтак: у індусаў дзіця-сонца сядзіць на руках маткі-зямлі Лакшмы, у эгіпцян сонца сядзіць на руках маткі-зямлі

[121] Ефименко, П. О Ярыле, языческом божестве славян // Записки императорского русского географического общества по отделению этнографии. Т. 2. СПб, 1869. С. 83.

[122] Ефименко, П. О Ярыле, языческом божестве славян // Записки императорского русского географического общества по отделению этнографии. Т. 2. СПб, 1869. С. 83.

[123] Прибавление к Журналу Министерства Народнаго Просвещения. СПб, 1846. Кн. I. С. 20—21.

Ізыды, у фрыгійцаў і ў рымлян яно ўяўляецца з маткаю Цыбелаю; у славян сонца-дзіця сядзіць на галаве Жывы або Сівы, у фінаў — на руках Залатой Бабы. Аб гэтым сьведчыць, між іншым, і М. Кастамараў у сваей працы „Словянская мифология“[124]. На Беларусі, аднак, гэта ўява ў яе першапачатковай форме не захавалася; поўнасьцю, можна сказаць, была выцесьнена ў народнай сьвядомасьці хрысьціянскім вобразам Маткі Боскай Вострабрамскай, што пэўна-ж па свайму паходжаньню і першапачатковым значаньню ёсьць адное і тое-ж самае — дзіця-сонца сядзіць на руках маткі-зямлі.

Ярыла як бог вясеньняга сонца ўяўляецца на Беларусі выключна ў вобразе прыгожага юнака, які сядзіць на белым кані: адзеты ў белую вопратку, на галаве ў яго вянок зь вясеньніх кветак, у правай руцэ трымае людзкі чэрап — сымбаль перамогі над сьмерцю, у левай руцэ трымае жменю жытных каласоў — сымбаль жыцьця і ўроду; ногі ў яго босыя.

Гэта ёсьць уява ўдалага і здатнага героя, які перамагае зло — зіму, як кажа І. Ружычка, і нясе людзям дабро — сьвет вясеньняга сонца[125].

У вобразе Ярылы, як яго ўяўляюць беларусы, злучаецца, на думку І. Шыгірова, ідэя мужнасьці, здатнасьці і пажадлівасьці, якая праяўляецца ў цёплы і пладатворны час году — вясной, калі ўсё жывое, казаў той, бывае ў яры[126].

Час панаваньня бога сонца Ярылы быў абмежаваны — прадаўжаўся да Купальля, калі сонца дасягала найбольшага ўзвышша; з гэтага часу пачыналася ўжо панаваньне бога Купалы.

Урачыстае сьвяткаваньне Ярылы пачыналася звычайна ў той дзень, калі цяпер прыпадае Юр'я. Вясковая моладзь — хлопцы і дзяўчаты ў лепшай сьвяточнай вопратцы зьбіраліся рана пры ўзыходзе сонца на вызначанае мейсца, прыбіралі Ярылу, пяялі пры гэтым песьні, у якіх праслаўлялі бога сонца і вясну, пасьля яны ўсёй грамадой у стройнай працэсьсі на чале зь Ярылам адыходзілі на луг, дзе ладзілі гульні і розныя забавы.

Сьвяткаваньне бога сонца Ярылы адбывалася ў старадаўнія часы і ў іншых славянскіх народаў, але ў значна пазьмененай форме[127].

[124] Костомаров, Н. Славянская мифология. Киев, 1847. С. 30—33.
[125] Ružčęŕ, Jozef. Slovanska mythologie. Praha, 1907. S. 148.
[126] Шигирев, И. Русские простонародные праздники. Вып. IV. Москва, 1838. С. 53—54.
[127] Machal. Nakres slovanskeho bajeslovi. Praha, 1923. S. 203.





Украінскае вясеньняе сьвята Каструбы[128], як і рускае сьвята Кастрамы[129] — гэта ёсьць толькі водгук старадаўняга, мабыць, яшчэ праславянскага ўрачыстага сьвята вясны, сьвята адраджэньня прыроды і ўваскрашэньня да новага жыцьця. Гэта сьвята ў чыстай форме захавалася толькі на Беларусі, дзе, паводле праф. др. *Lubora Niderle*, яшчэ ў перадгістарычныя часы была калыска славянства і скуль у наступным часе пад уплывам розных чыньнікаў разыйшліся на захад, на ўсход і на паўдзённы захад усе славянскія народы; Беларусы, застаўшыся на адным і тым самым месцы, спрадвечныя тубыльцы краіны ў вадазборніку рэкаў Дняпра, Сожа, Прыпяці, Бярэзіны і Дзьвіны — ад Ловаці і аж да Буга! — захавалі ў чыстай форме ня толькі свой антрапалягічны славянскі тып, але і ўсе найбольш характэрныя асаблівасьці славянскае культуры[130].

Уява бога сонца Ярыла ў вобразе прыгожага юнака на белым кані захавалася толькі на Беларусі — гэта быў беларускі народны бог!

*„У іншых славян,* — кажа Афанасьеў, — *Ярыла ведамы быў пад назваю Яравіта, якога старынныя кронікі прыраўніваюць да Марса; Марс-жа першапачаткова — грамавік, спараджаючы дэманаў, а затым — бог вайны. Як нябесны ваяка (бог ярасны, гнеўны) Яравіт уяўляўся з баёным шчытом, але разам з тым ён быў і тварцом усялякае пладароднасьці“*[131].

Уяўленьне Ярылы ў вобразе ваякі з баёўным шчытом у руцэ ня ёсьць чужое для беларусаў: удалы ваяка на белым кані — гэта ёсьць вобраз бога сонца Ярылы!

Калі і як адбылася ваенізацыя ўявы бога сонца Ярыла, які спачатку быў мірным богам пастухоў, а затым — земляробаў, аб гэтым нельга сказаць нічога пэўнага: настала, мабыць, у эпоху вялікіх войнаў, калі мірная праца земляроба заменяна была на востры меч і баёўны шчыт ваякі.

Эпоха, калі мірны бог Ярыла адзеў вайсковае ўбраньне, гэта ёсьць адна з найцікавейшых эпохаў у гісторыі беларускага народу; з усёй праўдападобнасьцю можна сьцьвердзіць, што гэта эпоха прыпадае на

[128] Грушэўскі, М. Істория украинской литературы. Ч. 1. Київ, 1923. С. 189—191.
[129] Афанасьев, А. Поэтические воззрения славян на природу. Т. 3. Москва, 1865. С. 725—729.
[130] Niederle, Lubor. Slovanske starožitnosti. Od. I. Sv. IV. Puvod a počatky slovanu vychodnich. Praha, 1924. S. 11—12, 132—139, 203—213.
[131] Афанасьев, А. Поэтические воззрения славян на природу. Т. 1. Москва, 1865. С. 443.

XII і XIII стст. Беларусы ў той час вялі гераічнае змаганьне на два фронты: супраць нападаў нямецкіх крыжакоў — з захаду, і супраць татарскіх наездаў — з усходу. Гэта была вайна, як кажа М. Доўнар-Запольскі, у якой прыймала ўдзел усё вольнае насельніцтва — сьмерды і баяры; увесь беларускі народ ішоў у паспалітае рушэньне дзеля абароны свае бацькаўшчыны[132].

Спосаб вядзеньня вайны спачатку быў чыста партызанскі. Беларусы вылаўлівалі чужацкіх наездаў, заганялі іх у лясы і балоты і там іх разьбівалі. Але вораг быў напорысты: наезды нямецкіх крыжакоў і татарскіх багдыханаў адбываліся звычайна на конях; яны лёгка маглі пераяжджаць зь мейсца на мейсца і ўхіляцца ад боя там і тагды, калі ім гэта было ня зручна; адыходзілі назад з тэрыторыі Беларусі, каб пасьля ізноў, выбраўшы адпаведны час, зьнянацку напасьці на мірнае земляробскае насельніцтва. Беларускае паспалітае рушэньне — пераважна пяхотнае сялянскае войска — павінна было рэарганізавацца ў адпаведнасьці з вымогамі часу і спосабам вядзеньня абароннае вайны: проці коньніцы чужацкіх наездаў трэ' было паставіць сваю коньніцу і праганяць ворага аж у глыбядзь іх краінаў. Гэтак паложаны быў пачатак утварэньня сталага беларускага войска. Беларускія коньнікі ў неўзабаве воўкам лёталі ад берагоў Балтыйскага аж да Чорнага мора: разьбілі магутную сілу татараў і нанесьлі руйнуючы ўдар нямецкім крыжакам пад Грунвальдам у 1410 г. Беларусь была вольная і ні ад каго незалежная дзяржава!

Утварэньне сталага коннага войска мела ў той час далёкасягальныя вынікі. Узьнікла значная лікам група людзей, якія займаліся выключна толькі вайсковымі справамі; гэта былі ваякі-фахаўцы. У наступным часе, паскольку справа абароны краіны і бязупыннае вядзеньне вайны прадаўжала быць першай і галоўнай справай у жыцьці і дзейнасьці супольства, ваякі-фахаўцы паступенна набывалі ўсё большае і большае моцы, занялі, нарэшце, вызначанае становішча ў суспольстве і выдзяліліся ў асобны ўпрывілеяваны стан; у летапісах таго часу знаходзімо аб іх такія азначаньні, як *seniors, majores, boni viri*. Сярод гэтых „лепшых людзей“ не мала было, пэўна-ж, і патомных тых радавых старэйшын і тых радавых князькоў, аб якіх з вялікай любасьцю апавядаюць нашы летапісы; большасьць, аднак, складалася з удалых ваякаў паспалітага рушэньня.

[132] Довнар-Запольский, М. Государственное хозяйство Литовской Руси при Ягеллонах. Киев, 1901. С. 8—11.





З ваякаў-коньнікаў, такім чынам, узьнікла новая радавітая шляхта; цікава, між тым, што слова шляхта паходзіць ад нямецкага слова *schlagen* — біць, а нямецкае слова *Schlact* азначае бітву; даслоўны пераклад на беларускую мову слова шляхта азначае: баёўныя людзі, ваякі.

З узьнікам шляхты на Беларусі ўзьнікла новая зямельная арыстакратыя; за сваю службу ў войску ваякі-коньнікі атрымлівалі землі, на якіх працавалі ўжо з таго часу запрыгоняныя сяляне-земляробы.

Вярхі шляхты — магнаты — займалі вышэйшыя пасады ў дзяржаве і зьяўляліся раднікамі князя — выходзілі ў склад дзяржаўнае рады; нізы былі звычайнымі *sabienulites* — ім дано было права самаўрадаваньня, што наяўна выяўлялася ў павятовых і земскіх соймах. У наступным часе ўсе правы і вольнасьці шляхты былі кодыфікаваны ў зборніку законаў, які мае назву „Літоўскі Статут“. Чаму так сталася і скуль паходзіць гэта назва „Літоўскі“, „Літва“, існуюць розныя дамнеўкі; дакладна пагаворымо аб гэтым пры разборы „Літоўскага Статуту“. Адно тут скажамо: хай нас ня блытаюць розныя назвы, справа ня ў назьве, а ў нечым іншым; шукайма канкрэтна-рэчаісты зьмест гістарычных падзеяў.

У абставінах вайны зь нямецкімі крыжакамі і татарскімі багдыханамі, упартае й заўзятае вайны, якая вымагала напружаньня ўсіх сілаў і вялікай самаахвярнасьці, злучаліся і аб'ядноўваліся дзеля абароны свайго жыцьця і маёмасьці ўсе спародняныя славянскія племеньні на вагромністым абшары ад Ловаці і аж да Буга; гэтак, на рубяжы XII і XIII стст. узьнікла беларуская дзяржава з цэнтрам у Наваградку. У наступным часе, пасьля адстырчаньня нямецкіх крыжакоў на захад, сталіца незалежнай беларускай дзяржавы перанесена была ў Вільню. Прыгожае места Вільня, пабудаванае ў далёкай мінуўшчыне на шляху гандлёвай пераправы праз раку Вяльлю, прадаўжала быць галоўным цэнтрам Беларусі аж да часу заняпаду беларускае дзяржаўнасьці ў канцы XVIII ст.

Беларуская шляхта як упрывілеяваная суспольная група ваякаўконьнікаў, маючы сваё паходжаньне ў мінуўшчыне з паспалітага рушэньня ўсяго земляробскага насельніцтва, сацыяльна-палітычна адасобнілася ад працоўнага народу, уважала сябе за „шляхецкі народ“, але культурна і псыхалягічна захоўвала ўсе старадаўнія звыкі і вераваньні; успрынятае ў той час хрысьціянства ня мела спачатку значнага ўплыву на культурную сьвядомасьць беларускага народу.

Гэтак: калі для беларускага селяніна-земляроба ідэалам здатнасьці, красы і сілы прадаўжаў быць прыгожы хлапец на белым кані, адзе-

ты ў белую сялянскую вопратку, зь вянком палявых кветак на галаве і жменяй жытных каласоў у руцэ, то для ваякі-шляхціца ідэалам здатнасьці і сілы ёсьць ваяка на белым кані, адзеты ў жалезны панцыр, з высока паднятым мячом у правай руцэ, з баёўным шчытом у левай руцэ, жалезным шлемам на галаве, які аздобляны квяцістым пяром, з жалезнымі астругамі на ботах.

Як бачымо, гэта ёсьць нішто іншае, як звычайны соцыямарфізм: старадаўні бог сонца Ярыла адзеваецца ў розныя вопраткі!

У вобразе ваякі на белым кані мы бачымо бога сонца Ярылу і ў дзяржаўным гербе Беларусі.

Ува ваякі на белым кані ў дзяржаўным гербе Беларусі — гэта ёсьць наяўнае сьведчаньне аб тым, што ваякі-коньнікі стаялі на чале дзяржаўнага будаўніцтва беларускага народу. І ў гэтым няма нічога дзіўнага: так узьнікалі на ўсьвеце гісторыі ўсе эўрапейскія дзяржавы.

Ува старадаўняга бога сонца Ярылы сустрачаецца і ў іншых гербах на Беларусі; у беларускай гэральдыцы гэта ёсьць звычайная зьява.

Паўзіраемся, напрыклад, на гэрб Скарыны: на паўкруглым шчыце чалавечае аблічча — лоб, вочы, нос і шчокі; вочы ўзіраюцца проста, адважна і мудра; на ўсе бакі ад аблічча веярам разыходзяцца вогняныя пасмы сьвятла; правы бок аблічча, частка шчакі зьнізу ўверх засланяецца іншым абліччам, якое абернута бокам і ўзіраецца кудысьці ўніз напружана і гнеўна.

Што гэта азначае — мо' перад намі двулікі Янус?

Не, гэта ёсьць увасобленьне сьвятла і цемры, або, як гэта кажуць, сонца і месяца; гэта ёсьць вобраз узыходзячага сонца, якое праганяе начную цемрадзь.

Інакш кажучы: у гэрбе Скарыны зьяўляецца перад намі старадаўні бог сонца Ярыла ў адменным уяўленьні і ў іншай падобе; гэта ўжо ня вобраз прыгожага хлапца ў сялянскай вопратцы, ня вобраз ваякі на белым кані, але вобраз людзкога аблічча, вочы якога ўзіраюцца проста, адважна й мудра; гэта ёсьць увасобленая мудрасьць, сусьветны логос, спрадвечны творчы розум.

Гэткае ёсьць уяўленьне старадаўняга бога сонца Ярылы ў першага беларускага інтэлігента-народніка доктара Францішка Скарыны.

М. Шчакаціхін уважае, што гэрб Скарыны мае сваё паходжаньне ў зацьменьні сонца; гэту сваю дамнеўку ён абапірае на тым, што сонца ў гэрбе абкружана праменьнямі-пратубэранцамі; якія можамо спасьцерагаць толькі ў часе сонячных зацьменьняў. Устанаўлівае, паводле гэтага, і дзень нараджэньня Францішка Скарыны, сына Лукі, кушніра з





Полацку. 6 сакавіка 1486 г., у той дзень, калі адбылося зацьменьне сонца, якое можна было спасьцерагаць у Полацку. Гэта, маўляў, ёсьць дзень нараджэньня Францішка Скарыны; згэтуль паходзіць і гэрб Скарыны: зацьменьне сонца[133].

Дамнеўка М. Шчакаціхіна не пазбаўлена дасьціпнасьці. І ўзапраўду: хіба можна пярэчыць таму, што 6 сакавіка 1486 г. адбылося зацьменьне сонца, якое можна было спасьцерагаць у Полацку і што ў той дзень мог нарадзіцца Францішак Скарына? Усё магчыма; магчыма нават і тое, што Францішак Скарына, ня маючы шляхецкага гэрбу, бо паходзіў з паспалітага люду, узяў сабе за гэрб матыў зацьменьня сонца; гэты матыў поўнасьцю мог адпавядаць уяўленьню старадаўняга бога сонца Ярылы, які змагаецца зь цемрадзяй.

Тое, што ў дзень нараджэньня Францішка Скарыны магло адбыцца зацьменьне сонца, або, наадварот, у дзень зацьменьня сонца мог нарадзіцца Францішак Скарына, далёка яшчэ не азначае таго, што гэрб Скарыны ёсьць толькі прыпадковае астранамічнае здарэньне — зацьменьне сонца; мае глыбейшы сэнс і сусьветна-касьмічнае значаньне. З усей яскравасьцю аб гэтым сьведчыць ужо нават хоць-бы і тое, што ў Біблії, якую пераклаў Францішак Скарына на беларускую мову і выдаў друкам у Празе, сярод розных гравюр і аздобаў вельмі часта сустракаецца чалавечае аблічча, вочы якога ўзіраюцца проста, адважна й мудра; гэта аблічча мы бачымо і на гравюры, дзе зьмешчаны партрэт Скарыны; згэтуль узьнікла дамнеўка, што гэта, маўляў, ёсьць гэрб Скарыны. У рэчаістасьці — гэта ёсьць вобраз старадаўняга бога сонца Ярыла!

Беларуская гэральдыка ёсьць вельмі багатая, мо найбагацейшы скарб народнае творчасьці; існуе вагромністае множаства гэрбаў, якія ўжываліся рознымі асобамі й станамі беларускага суспольства, як пэўныя сымбалі-знакі іх здатнасьці, красы і сілы. Але ў кожным беларускім гэрбе пры ўважлівым яго разглядзе знойдземо таемны знак бога сонца — гэта ёсьць старадаўны сымбаль бога сонца Ярыла.

Паводле гэрбаў, якія ўзьніклі на Беларусі, можамо вывучаць гісторыю разьвіцьця беларускае культуры з найдаўнейшых часоў і аж да нашых дзён; спасьцерагаемо ў іх вобразы-ўяўленьні самаістае творчасьці з эпохі старадаўняга паганства і напластаваньні пазьнейшых уплываў хрысьціянскае цывілізацыі. Наяўна гэта бачымо ў дзяржаўным гэрбе Пагоня; зьмілітарызаванае ўяўленьне бога сонца Ярыла

[133] Шчакаціхін, М. Калі нарадзіўся Францішак Скарына // Полымя. Менск, 1925. № 5. С. 148—151.

дапоўнілася знакам хрысьціянскае цывілізацыі: на баёўным шчыце ў ваякі на белым кані з высока паднятым мячом у правай руцэ пастаўлены быў шасьціканцовы крыж.

Хрысьціянская цывілізацыя зь яе касьцёльна-царкоўнай сымболікай вядзе напорыстае змаганьне, у цягу стагодзьдзяў, з культурнай спадчынай паганства; пасьпела ўжо зьнішчыць шмат вялікіх каштоўнасьцяў самастойнае творчасьці беларускага народу.

Пад уплывам касьцёльна-царкоўнай сымболікі зьмянілася вобразатворнасьць беларускага народу; значна зьмянілася і першапачатковае ўяўленьне бога сонца Ярыла: вясеньняе сьвята Ярыла замянілася ўжо на Юр'я.

Але ў песьні народнай, якую сьпявае беларуская моладзь на Юр'я, вобраз Ярыла застаецца ў поўнай красе і сьвежасьці: *„Разыграўся Юра конік — залаценькі конік“*.

Нашы старадаўныя продкі, як сьведчыць П. Ефіменко[134], злучалі ўяўленьні сьвятла з барвамі залатымі, белымі і чырвонымі, а ўяўленьні цемры злучалі з барвамі цёмнымі і чорнымі. У залаценькім коніку, дзеля гэтага, нельга ня бачыць вясеньняга сонца — Ярылу — у яго першапачатковым зооморфічным вобразе.

Белы конь, або залаценькі конік, у народным уяўленьні, белы конь у дзяржаўным гэрбе Пагоня — хіба гэта ня ёсьць наяўны доказ узапраўднага паходжаньня гэрбу Пагоня?

Белы конь у залатых праменьнях сонца — гэта ёсьць вобраз сілы, красы і здатнасьці; гэта ёсьць сымбаль адраджэньня і ўваскрасеньня да новага жыцьця.

Ваяка на белым кані — гэта ёсьць сымбаль перамогі.

Белая барва як уяўленьне сьвятла вельмі пашырана ёсьць на Беларусі; згэтуль, мабыць, паходзіць і назва Беларусі — белая, чыстая, вольная, як сьвет сонца.

Ня менш пашырана ёсьць на Беларусі і чырвоная барва, як чырвоны ёсьць золак на небе перад усходам сонца; згэтуль наш бел-чырвона-белы сьцяг — сьцяг адраджэньня і вызваленьня беларускага народу.

*Падрыхтоўка да друку Лявона Юрэвіча,*
*камэнтары Натальлі Гардзіенкі й Ціхана Чарнякевіча*

[134] Ефименко, П. О Ярыле, языческом божестве славян // Записки императорского русского географического общества по отделению этнографии. Т. 2. СПб, 1869. С. 101.



*Архівалії*

***Н. Недасек***
***[Антон Адамовіч]***

# ПАЛІТЫКА ПРАВАКАЦЫІ Й РАЗГОНУ Ў КРЫВІІ (БЕЛАРУСІ)

## Кароткі нарыс дачыненьняў бальшавізму да крывічоў („беларусаў“)[1]

Калі крывіцкі („беларускі“) народ, вызваліўшыся ў 1917 г. із славутае „турмы народаў“ царскае Расеі, пачаў зьбірацца зь сіламі, каб адбудоўваць і разбудоўваць сваё вольнае й самастойнае нацыянальнае жыцьцё, ён бадай адразу-ж спаткаўся на сваім шляху лоб-у-лоб із бальшавікамі, як із найбольшымі, найзласьнейшымі й найкаведнейшымі ворагамі гэтае адбудовы.

Аднэй з выдатнейшых падзеяў крывіцкага руху, прытым падзеяй беспрэцэдэнтавай як ва ўсёй ягонай папярэдняй, так і, тым часам, наступнай гісторыі, зьявіўся славуты Вялікі Ўсекрывіцкі Кангрэс 18—20 сьнежня 1917 г. Забраўшы 1167 дэлегатаў з пастаноўным, 705 з дарадным голасам з усіх канцоў краю — зь Меншчыны, зь Віленшчыны, зь Горадзеншчыны, зь Магілеўшчыны, зь Віцебшчыны й Смаленшчыны, Кангрэс выліўся ў першае масавае выяўленьне волі крывіцкага народу. І хоць формы гэтага выяўленьня, у вадпаведнасьці з усёй пачатковай стадыяй разьвіцьця крывіцкага руху, былі вельмі сьціплымі й нясьмелымі, не сягаючы далей за патрабаваньне аўтаноміі Крывіі ў фэдэрацыйнай лучнасьці з Расеяй, Кангрэс быў проста разагнаны грубаю сілаю маскальскіх штыхоў і кулямётаў пад камандай п'яных бальшавіцкіх камісараў *„Западной Области“* як, верным тропам за нізрынутым кагадзе расейскім царызмам, называлі тады ўсю Крывію бальшавікі, што незадоўга перад гэтым гвалтам і ашуканствам

[1] Тэкст быў надрукаваны ў: Pour la Liberté des peuples = For the Freedom of Peoples. Issued by the Initiative Committee of the Block of Freedom Loving Peoples. №1. April 1946. P. 84—91.

захапілі ўладу ў разваленай вайной і рэвалюцыяй былой Расейскай імпэрыі.

Разгон Вялікага Ўсекрывіцкага Кангрэсу 1917 г., якім бальшавіцкі штых упяршыню, але навек так красамоўна расьпісаўся ў гісторыі Крывіі, фактычна й быў першым спатканьнем сам-насам крывіцкага руху з бальшавікамі. У гістарычным разрэзе спатканьне гэтае аказалася вельмі сымптаматычным, навет, можна сказаць — сымболічным. Яно адразу ж і на заўсёды зьначыла ўсе далейшыя дачыненьні бальшавізму да крывічоў. Ад разгону Ўсекрывіцкага Кангрэсу да ўсё новых і новых, шырэйшых і шырэйшых пэрманэнтных спробаў разагнаць ня толькі народных прадстаўнікоў, а і ўвесь крывіцкі народ, раскідаць яго па неабсяжных тундрах і Сыбірах вялікае катаргі народаў, а лепшых сыноў — *„простым транспартам перакінуць“* да самых *„тварцоў марксізму-ленінізму“* на той сьвет, пад жудасным тэрорам зь невялікімі „прасьветамі“ салодкапасыпанае й агідна цынічнае ў глыбіні правакацыі ў міжчасьсі гэтак улажыўся цярністы й крываві шлях гэных дачыненьняў. Адгэтуль і дасюль бальшавізм ня кідае ўжо думкі аб гэтых дзьвюх рэчах, якія, як відаць, цьвёрда й назаўсёды зьвязаліся ў ягоных п'яных і хворых мазгох: крывічы й разгон...

Не адразу, аднак, бальшавікі, як трэба, *„апанавалі тэхніку“* гэтага свайго ўлюбёнага і ўнівэрсальнага мэтаду разгону.

Эфэкт першага бальшавіцкага гвалту над Усекрывіцкім Кангрэсам быў зусім адваротны жаданаму й чаканаму разгоншчыкамі: ён даў у канцавым выніку толькі ўздым нацыянальнае сьведамасьці, адгэтуль і назаўсёды антыбальшавіцкае, узрост народнае згуртаванасьці, нябывалы датуль размах Крывіцкага руху й нарэшце, канчальны разрыў з бальшавіцкай і з усякай Масквою ў акце 25 сакавіка 1918 г., якім была абвешчана незалежнасьць Крывіцкае — „Беларускае Народнае Рэспублікі“.

З усім гэтым нельга было ня лічыцца й значыцца, ані не ўдалося адразу ўзяць крывіцкі рух, як кажуць, „у лоб“, не заставалася нічога іншага, як пусьціцца на розныя хітрыкі й крывадушнасьці, каб із часам здабыць яго „ў абход“. За гэта і ўзяліся бальшавікі, мо ўпяршыню тут ужыўшы свой аблюбаваны пасьлей мэтад, мэтад „адступленьня дзеля наступу“, згону для разгону, тут было абвешчана таксама „незалежнае“ Беларускае Савецкае Сацыялістычнае Рэспублікі 1 студзеня 1919 г. Гэты „акт“, які даўжэйшы час заставаўся на аднэй паперы, а нават і зыйшоўшы зь яе, толькі перайшоў на іншыя паперкі, меў на мэце, насамперш, парыраваць, а то й спаралізаваць акт 25 сакавіка. Карта БНР мелася быць бітай бальшавіцкаю картаю на адну літару большае БССР. Але гэты ход зусім не дасягнуў мэты напачатку, бо зрабіўшы яго, бальшавікі тут-жа спужаліся, ня ў змозе адразу пазбыцца свайго страху перад адным хоць-бы словам „незалежнасьць“. Зараз-жа каля навасьпечанае „незалежнае“ рэспублікі пачаліся розныя камбінацыі, паасобныя адступленьні ад зробленага „адступленьня“: і папяровую навет „незалежнасьць“ бальшавікі давалі так, што як кажуць *„із рук ня пушчалі“*.

Адразу-ж быў адсунуты ад марыянэтачнага „кіраўніцтва“ папяровай „рэспублікі“ аўтор самога „маніфэсту“ аб утварэньні яе й першы ейны старшыня, Жылуновіч (пісьменьнік Цішка Гартны)[2], адзін із лічаных крывічоў, якія не пагрэбавалі, ці мо ахвяраваліся сесьці ў вадзін „урад“ із тымі самымі камісарамі ранейшае *„Западной Области“*, з усялякімі бандытамі Мясьніковымі[3] й Ляндэрамі[4], што й разагналі сваім часам Усекрывіцкі Кангрэс. Бальшавікі адставілі Жылуновіча, *„забаяўшыся ягонай лішняй беларускасьці“*, як трапна й зусім правільна ацаніў гэты факт адзін із сучасьнікаў.

Пасьля камбінацыяў пэрсанальных пачаліся й „адступленьні“ тэрытарыяльныя: напачатку тэрыторыя „дзяржавы“ наагул была літаральна толькі на паперы. І хоць на ёй, таксама даволі туманна, быў дэкляраваны як-бы ўвесь крывіцкі этнаграфічны прастор, але практычна ня цэлы ён быў навет пад кантролем бальшавікоў тады, тыя ж часткі, якія былі ў іх, па-ранейшаму, як губэрні, падлягалі беспасярэдня мас-

---

[2] **Зьміцер Жылуновіч** (псэўд. Цішка Гартны, 1887—1937), празаік, паэт, грамадзкі дзеяч. Супрацоўнічаў з газэтай „Наша Ніва“, рэдактар беларускай бальшавіцкай газэты „Дзяньніца“, кіраўнік Часовага ўраду першай БССР (1919). Рэпрэсаваны, памёр у лякарні для псыхічна хворых.

[3] **Аляксандар Мясьнікоў** (сапр. Мясьнікян, 1886—1925), партыйны дзеяч. У верасьні 1917 — траўні 1918 гг. — старшыня Паўночна-Заходняга абласнога камітэту РКП(б). Ад лістапада 1917 г. камандаваў Заходнім фронтам, быў старшынём Аблвыканкамзаху. Кіраваў разгонам Першага Ўсебеларускага Кангрэсу. Першы сакратар ЦК КП(б)Б (1918—1919). У 1919—1920 гг. — адзін з кіраўнікоў першай БССР і Літоўска-Беларускай ССР. Ад 1921 г. — на партыйнай працы на Каўказе. Загінуў у авіякатастрофе.

[4] **Карл Ландэр** (1883—1937), партыйны дзеяч. У 1917 г. быў сябрам Ваенрэўкаму, старшынём Менскага савету салдацкіх і рабочых дэпутатаў, старшынём СНК Заходняй вобласьці й фронту. Падпісаў ордэр на разгон Першага Ўсебеларускага Кангрэсу. Арганізатар масавых рэпрэсій на Паўночным Каўказе, стваральнік чэкісцкіх „троек“ (1920). Расстраляны ў часы „яжоўшчыны“.

коўскаму цэнтру. Так што савецкая „незалежнасьць“ напачатку была запраўднай хоць-бы ў вадным сэнсе — у сэнсе поўнае незалежнасьці ад якое-небудзь тэрыторыі наагул. Дый за пару месяцаў такога бестурботнага йснаваньня „маладая рэспубліка“ падпала вялікаму пераўтварэньню: яна, як зазвычай, „добраахвотна“ злучылася зь яшчэ больш папяровай, зусім, можна сказаць, паветранай, без усякае тэрытарыяльнае базы ў руках бальшавікоў „Літоўскай Савецкай Рэспублікай“. Утварэньнем гэтае „ССРЛіБ“ („Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка Літвы й Беларусі“), ці іначай „Літбелу“, бальшавікі, відаць, хацелі адрадзіць ідэю калішняга Вялікага Княства Літоўскага, запраўды пачалі былі тут ад апошняга слова гісторыі, аддаўшы кіраўніцтва гэтага „Літбелу“ ў рукі катаў тыпу Дзяржынскага, а для шыльды пасадзіўшы на чале аднаго з т. зв. „ліцьвіноў“ — Міцкевіча-Капсукаса[5], ды зусім на задворках — пару тых самых „беларусаў“. З тэрыторыяй-жа гэтае новае „гістарычнае дзяржавы“ выйшла зусім дзіва, магчымае толькі ў бальшавікоў: яна ўтварылася ня толькі безь „літоўскае“ зямлі, але навет і зь „беларускага“ прастору ад яе пры гэтай нагодзе была прырэзаная да Расеі добрая палавіна — цалком губэрні Віцебская, Магілёўская й Смаленшчына, тая самая Смаленшчына, простыя сялянскія дэлегаты якое так актыўна бараніліся пры разгоне Ўсекрывіцкага Кангрэсу, ды ў сталіцы якое, у старым Смаленску, і быў нядаўна перад тым урачыста „дадзены“ самы „маніфэст“ пра ўтварэньне „незалежнае“ Савецкае Беларусі... Дый у гэтай дзіва-рэспубліцы бальшавікі не ўхапілі тады як сьлед „разгарнуць“ сваю работу, бо ўся ейная тэрыторыя неўзабаве была занятая польскай армійяй. Віцебшчына, Магілёўшчына й Смаленшчына, хоць і заставаліся ўвесь час у руках бальшавікоў, але на іхнай тэрыторыі ўжо не рабілася больш ніякіх спробаў аднаўленьня ні „Літбелу“, ні проста „Белу“...

Пры бальшавіцкім наступе на Варшаву „незалежная“ Савецкая Беларусь была адноўленая й пасьля Рыскае ўмовы засталася на тым агрызку калішняе „Літбел“, які не перайшоў да Польшчы й абыймаў усяго шэсьць паветаў Меншчыны, ды й то няпоўных... Гэтая сьмеху вартая куртатая „рэспубліка“ прайснавала ў такім выглядзе каля пяцёх

[5] **Вінцас Міцкявічус-Капсукас** (1880—1935), літоўскі нацыянальны дзеяч, сацыял-дэмакрат. Сябра РСДРП(б) ад 1917 г. Кіраўнік Часовага рэвалюцыйнага рабоча-сялянскага ўраду Літвы, старшыня СНК Літоўскай ССР, у 1919 г. — старшыня СНК ЛітБел ССР, старшыня Прэзыдыюму ЦК КП(б) Літвы й Беларусі.





год, а на ейнай тэрыторыі ў Случчыне, больш за паўгоду, ад восені 1920 да вясны 1921 г. трымаўся запраўды ад нікога незалежны лапік, баронены гераічнымі намаганьнямі слуцкіх паўстанцаў, што прызнавалі над сабою толькі сувэрэнітэт незалежнае БНР, рэспублікі 25 сакавіка. Здушэньне яго непамерна пераважлівымі сіламі бальшавікоў дало першыя масавыя крывавыя ахвяры з крывічоў, сотні й тысячы расстраляных і пассыланых, дзесяткі тысячаў у турмах і шчасьлівыя супроць іх, а гаротныя сваёй эміграцкай доляй тысячы выгнанцаў у Польшчы. Пасьля разгону Кангрэсу — гэта першая спроба разгону крывіцкага народу бальшавікамі, яшчэ, праўда, абмежаваная прасторамі аднае толькі Случчыны... Але беспасярэдні разглас гэтага гвалту сягае аж на пяць гадоў наперад, да 1925—1926 гг., калі бальшавікі тымі самымі сваімі мэтадамі „ліквідуюць“ нацыянальны крывіцкі рух ідэйных нашчадкаў паўстанцаў — маладых случчакоў пад правадырствам настаўніка Лістапада. Ліквідацыя гэтае пагардліва званае імі „лістападаўшчыны“ становіць сабою першую, таксама яшчэ колькасна й лёкальна абмежаваную расправу над піянэрамі крывіцкага актыву, нацыянальнасьведамай інтэлігэнцыі.

Ды тым часам бальшавікі ўсё больш разгортваюць і вялікае агульнае сваё *„адступленьне дзеля наступу“*, адступленьне бадай на ўсіх нутраных фронтах — славуты НЭП. Пэўна-ж, яно мусіла знайсьці й знайшло сваю форму і на нацыянальным фронце, форму другога і ўжо куды шырэйшага й далёкасяжнейшага, але ўсё-такі часовага „адступленьня“ зноў-жа „дзеля наступу“, які можна было прадчуваць у тым большых памерах, чым глыбейшым рабілася само „адступленьне“. Мэта гэтага другога бальшавіцкага манэўру была тая самая, што й ва ўсім НЭП-е, забіць тых самых двух зайцоў: з аднаго боку — прыцягнуць дзейныя сілы для адбудовы ад розруху грамадзянскае вайны й „ваеннага камунізму“, а з другога боку — адначасна справакаваць гэтыя сілы на большае як мага выяўленьне свае запраўднае (у нашым выпадку — нацыянальна-крывіцкае) існасьці, на самараскрыцьцё, на разгортаньне патэнцыяў, каб пасьля пры „наступе“ расправіцца зь імі паводле меры гэтага выяўленьня. Правакацыя была задуманая тут, як адчыненьне магчымасьцяў, і навет патураньне, падахвочаньне нацыянальна-культурнае крывіцкае працы як поля для самавыяўленьня „беларускага нацыяналізму“. Насамперш гэта выявілася ў т. зв. „беларусізацыі“, якая запраўды шырака была ахапіўшы й школьніцтва з вышэйшымі школамі ды ўнівэрсытэтамі ўлучна, і дзяржаўныя ды грамадзкія ўстановы, і само зрусыфікаванае грамадзтва гарадоў. Сюды-ж далучыліся

й шырокія мерапрыемства, завершаныя стварэньнем двух, на поўным эўрапэйскім узвышшы, тэатраў, багатае літаратуры, заснаваньнем „Беларускае Акадэміі Навук“. Каб яшчэ павялічыць прынаднасьць БССР як „беларускага народнага дому“, бальшавікі знайшлі магчымым пайсьці хоць часткова напярэймы жаданьням жыхарства й закідам нацыянальных дзеячоў эміграцыі ды правялі т. зв. „узбуйненьне“, павялічэньне тэрыторыі рэспублікі, паводля якога да тых няшчасных шасьцёх паветаў Меншчыны быў далучаны ўдвая большы за іх прастор Віцебшчыны й Магілёўшчыны. Праўда, і тут не абышлося бязь дзіваў, падобных да тых, што дзеяліся калісь каля „Літбел“: Віцебшчына адыйшла бяз трох паветаў (Себескага, Нэвельскага, Вяліскага), Магілёўшчына — бяз двух (Гомельскага й Рэчыцкага; яны, праўда, былі далучаныя пасьля, за другім наваратам, у выглядзе т. зв. Гомельшчыны). Найцікавейшым фокусам бальшавікоў было іхнае сьцьверджаньне, быццам яны далучылі й „беларускія часткі Смаленшчыны“, але гэта былі два (і то няпоўныя) паветы былое Магілёўшчыны (Горацкі й Мсьціслаўскі), якія перад гэтым самі-ж бальшавікі „перакінулі“ ад яе да Смаленшчыны. Ані п'ядзі запраўднае Смаленшчыны, калішняе Смаленскае губэрні, ні крывіцкіх частак іншых губэрняў і гэтым разам да БССР не перайшло, яны застаюцца й дагэтуль у складзе бальшавіцкае Расеі, РСФСР, як *„древнерусские“* ці *„искони русские“* землі, а да нядаўных часоў і насілі навет той стары, яшчэ царскіх часоў назоў *„Западной Области“*, якім хрысьцілі калісь усю Крывію, каб канчальна сьцерці яе запраўднае імя. Але ўсё-ж тады тэрыторыя БССР была ладна павялічаная, а бальшавіцкая прапаганда пастаралася яшчэ разьдзьмуць і раструбіць усё такое дабрадзейства. Для бальшавікоў гэта быў найбольш удалы ход, скіраваны на той „згон у кучу“ й пад свой кантроль асноўнае масы крывіцкага нацыянальнага актыву, як у краі, так і з-за межаў, якая датуль ставілася да бальшавікоў варожа ці вычакальна. Цяпер-жа бальшыня гэтага актыву, ня так паверыўшы ў шчырасьць і даўгатрываласьць бальшавіцкага будаўніцтва „беларускага дому“, як заўсёды імкнучыся выкарыстаць кажную магчмасьць для нацыянальнае працы й змаганьня за свой народ, змаганьня, першым чынам супроць бальшавіцкіх жа „апякуноў“ гэтага народу, хоць бы гэта й цягнула за сабой ахвяры цяжкое працы, а то й жыцьця, кінулася ў „гасьцінна“ адчыненыя дзьверы таго „дому“.

І бальшавікі маглі толькі здаволена заціраць рукі, бачачы, як напаўнялася іхнымі ворагамі пастка „дому“ правакацыі, ды старанна рыхтавацца да недалёкае „плённае працы“ разгону завабленых. Адначасна йшло падобнае правакацыйнае „апрацаваньне“ й асноўнае масы





народу, сялянства, праз падахвочваньне, а то навет і насаджэньне сярод яго скрайняя-індывідуалістычных формаў гаспадаркі ў выглядзе хутароў, пасёлкаў. Гэтым выяўляліся энэргічныя, ініцыятыўныя адзінкі сярод сялянства, якія тады зараз-жа ўзносіліся на шчыт як „культурныя“, „узорныя“ гаспадары, каб пазьней быць „зьліквідаванымі“ ў якасьці „кулакоў“. Гэтым-жа выяўляліся й ягоныя правадыры, якія, выкарыстоўваючы афіцыйна дадзеныя магчымасьці, кінулі ўсю сваю энэргію на тое, каб стварыць моцную базу нацыі — моцны, трывалы, незалежны сялянскі стан, як асабліва былы камісар земляробства Прышчэпаў, імя якога, стаўшыся легендарным, жыве й дасюль у памяці крывіцкага сялянства.

Калі ўсё гэта „выяўленьне“ й „згон“ далі належныя вынікі, можна было канчаць „адступленьне“ й брацца за новы наступ, вялізмана задуманы й яшчэ вялізманей праведзены разгон народу. Ён і пачаўся ўжо ў 1928 г. ад славутае калектывізацыі, якая хутка была абернутая ў „суцэльную“ й завершаная крывава-жорсткай *„ліквідацыяй кулацтва як клясы“*. Хоць гэтыя „сацыялістычныя мерапрыемствы“ ахапілі ўсе сялянскія народы Савецкага Саюзу, але крывіцкаму народу выпала належаць да тых зь іх, каму гэта далося найцяжэй. Асноўная расейская маса разьвіцьцём свае гісторыі псыхалёгічна была зусім падрыхтаваная да калгасаў, а фактычна й мела іх заўсёды ў сябе ў выглядзе т.зв. „грамады-абшчыны“, у якой, дарэчы, сваім часам расейскія сацыялістыя-народнікі бачылі той самы *„просты шлях да сацыялізму“*, за што рэзка крытыкаваліся тады марксістымі, у тым ліку бальшавікамі із самым іхным Ленінам. Крывіцкае-ж сялянства, ніколі ня знаўшы нічога падобнага да гэтае „грамады“, адвеку звыкшы да індывідуальнага землякарыстаньня, а цяпер яшчэ больш умацаваўшыся на гэтым шляху ўспамінанымі мерапрыемствамі хутарызацыі — адразу ўспрыняло гэтую плягу як „новую паншчыну“... а сотні тысячаў тых, што ці не маглі прыняць, ці не надаваліся на парабкоў для гэтае паншчыны ды нават мелі нахабнасьць *„разводзіць кулацкую агітацыю“*, а то й зусім бунтавацца (хваля сялянскіх паўстаньняў пракацілася па Крывіі, як і па іншых сялянскіх рэспубліках СССР) — пагналі па Котласах і Сыбірах, загналі ў магілы там, калі не *„пусьцілі ў расход“* адразу на месцы, ці па дарозе... Большага масавага разгону крывіцкі народ ня ведаў датуль у сваёй гісторыі...

Бадай адначасна пачаўся наступ і на крывіцкі нацыянальны актыў, якому раптам, няма ведама чаму, была прычэпленая мянушка „нацыянал-дэмакратаў“, скарочана „нацдэмаў“... Як камісар земляробства

Прышчэпаў, залічаны сюды-ж, аказаўся вінаватым у *„акулачваньні беларускага сялянства“*, так усе „нацдэмы“ мусілі несьці віну ўсяе тае нацыянальнае крывіцкае працы ў БССР, якія вялася зь ініцыятывы ды навет на загад і пад безумоўным кантролем бальшавіцкае партыі, так навет гэтае было пастаўленае ў віну, ня кажучы ўжо пра старыя, быццам-бы велікадушна дараваныя грахі ранейшае *„актыўнае контррэвалюцыйнае процісавецкае дзейнасьці“*. А што да пазьнейшага змаганьня за свой народ, якога і праўда ні на часіну не пакідалі ягоныя верныя сыны-„нацдэмы“, дык яно было проста абвешчанае *„шпіёнска-дывэрсыйнай работай на карысьць суседняе дзяржавы“*...

Шалёная кампанія цкаваньня ў прэсе й т. зв. „савецкай грамадзкасьці“ закончылася ў 1930 г. хвалямі масавых арыштаў нацыянальных актывістых, у тым ліку й некаторых зваблены з-за межаў дзеячоў БССР. Усё завяршылася ізноў павальным разгонам па неабсяжных ссыльных прасторах „краіны сацыялізму“. Гэты *„першы набор нацдэмаў на катаргу“*, які ахапіў каля паўтысячы найсьведамейшых, найактыўнейшых і найзаслужонейшых перад крывіцкім рухам нацыянальных працаўнікоў на чале зь Я. Лёсікам, В. Ластоўскім, А. Цьвікевічам і інш., ужо самы сваім фактам ня мог не прычыніцца да катастрафічнага згортваньня ўсяго пачатага нацыянальнага будаўніцтва. Шчодрыя-ж дабівальныя ўдары пасьля, паводле славутае *„рэформы правапісу й граматыкі“* ў 1933 г., што зусім падганяе крывіцкую мову пад *„вялікую мову кастрычніцкае рэвалюцыі“*, грунтоўна папсаваную яшчэ бальшавікамі расейскую мову, давяршалі так памысна пачатую справу. Падымаць-жа крывічаншчыну з гэтакага заняпаду ніякіх, навет правакацыйных стараньняў бальшавікі ўжо не рабілі, толькі калі-нікалі прыстукваючы яшчэ для пэўнасьці, каб, барані Божа, сама як не ўзьнялася...

Ад часу гэтых дзьвюх масавых апэрацыяў над „кулакамі“ й „нацдэмамі“ разгон крывіцкага народу ўжо набывае формы нясьціханна-пякучага, безупынна-штодзённага патоку, ад пары да пары й навет як-бы з больш-менш правільнай трохгадовай пэрыядычнасьцяй уздымаючыся паўторнымі масавымі хвалямі... Так, *„другі набор нацдэмаў на катаргу“* адбываецца ў 1933 г. Складам сваіх „навабранцаў“ гэта адзін зь цікавейшых „набораў“, у які трапілі людзі запраўды як „з агню ў прысак“...

Між агнём і прысакам, пэўна-ж, даводзілася кідацца ці быць кіданымі нацыянальным дзеячом Крывіі, падзеленае Рыскай мяжой між Польшчаю й Саветамі. Бальшавіцкае правакацыйнае будаўніцтва „беларускага дому“ ў БССР аднэй з галоўных мэтаў мела якраз узьдзеяньне на Заходнюю Крывію, што была пад Польшчаю. І гэтым спосабам, і шырака, асабліва на першых часох, разгорнутай сваёй падзямельнай работай бальшавікі як мага імкнуліся справакаваць крывіцкае сялянства й нацыянальных крывіцкіх актывістых Заходняе Крывіі. І тут бальшавікі цалялі адразу ў „двух зайцаў“: і ў ненавідную сабе Польшчу, і ў ня менш нялюбных крывіцкіх нацыянальных дзеячоў, выкарыстаўшы якіх, падстаўлялі пад польскую расправу, сваім парадкам выкарыстоўваючы ў прапагандавых мэтах і гэты факт. Гэтак было з магутнай масавай арганізацыяй „Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады“, якую бальшавікі проста справакавалі.

Ды найцікавей выйшла тут із правадырамі тае „Грамады“, што былі пасламі ў польскі сойм на чале з Бр. Тарашкевічам, С. Ракам-Міхайлоўскім, П. Мятлом і інш. Справакованыя бальшавікамі, усе яны селі на лаву падсудных, а зь яе і ў польскія турмы. Адтуль іх, як-бы шырокім добрародным гэстам, саветы былі выкупілі-вымянялі й на кароткі час узнесьлі на шчыт, навет як „зусім сваіх“ у процівагу тым „нацдэмам“, што тады сядзелі ўжо за кратамі. Але, пажыўшы ў Саветах і добра разгледзеўшыся, народныя трыбуны „Грамады“ не маглі не пайсьці шляхам тых-жа самых „нацдэмаў“ — нацыянальных змагароў з бальшавікамі. І ў 1933 г. якраз каля іх і адбываецца той другі, яшчэ больш масавы „набор нацдэмаў“. Так „добрародна“ выбаўленыя бальшавікамі з польскае турмы былыя паслы-грамадаўцы трапляюць у турму савецкую, а разам зь імі за адным махам зьмятаюцца туды-ж і новыя сотні нацыянальных працаўнікоў, як завабленых із Заходняе Крывіі, так і караных падсавецкіх, асабліва шмат студэнтаў. У паказаньнях, вымушаных, выбітых із слабейшых зь іх у ўсемагутным ГПУ, бальшавікі спрабуюць пацэліць і ў тую рэшту нацыянальных дзеячоў, што не даліся на іхную правакацыю й засталіся ў Заходняй Крывіі, выстаўляючы гэтых апошніх як змоўшчыкаў і супроць Польшчы. Праўда, польскія ўлады паважна не ўзялі гэтых сфабрыкаваных ГПУ „паказаньняў“, цана якіх пасьля разыграньня колькіх вялікіх інсцэнізаваных працэсаў у Маскве робіцца добра ведамай цэламу сьвету.

Наступны масавы „трэці“ набор і разгон крывіцкага актыву адбываецца на тры гады пазьней, у 1936—1937 гг., у часе славутае „яжоўшчыны“. І гэта вельмі характэрны „набор“. Праводзячы свае першыя „процінацдэмаўскія“ кампаніі ў 1930—1931 і 1933—1934 гг., бальшавікі імкнуліся выкарыстоўваць у якасьці „заганячых“ крывіцкіх-жа дзеячоў, толькі ўжо сваіх, камуністых, стараючыся душыць крывічоў крывіцкімі-ж рукамі. Напару ім удавалася знаходзіць такіх сярод больш-менш выпадковага або маральна-слабейшага элемэнту.

Моцныя-ж духам навет у безвыходных палажэньнях умелі знаходзіць горды выхад, як той, які абраў сабе ў 1931 г. адзін із выдатнейшых крывічоў — прэзыдэнт Беларускае Акадэміі Навук Усевалад Ігнатоўскі, скончыўшы жыцьцё самагубствам. І вось, у трэцім „наборы“ прыходзіць радоўка й на тых, і на гэтых, і на паслужліва-патульных, і на гордых ды моцных. Падбіраюцца рэшткі нацыянальных дзеячоў, якія былі раней ці датрымаліся датуль камуністымі, у тым ліку й аўтар калішняга маніфэсту аб утварэньні „незалежнае“ БССР, першы яе старшыня Жылуновіч, які й канчае сваё жыцьцё ў няволі поўным вар'ятам. Крывічы-камуністыя паводле яшчэ больш удасканаленых мэтадаў ГПУ НКВД мусілі-б сваймі собскімі рукамі душыць ужо ня іншых крывічоў, а самых сябе...

Гордыя й моцныя зноў з пагардай адкідаюць гэтую ролю свайго собскага ката й, перапрабаваўшы ўсе спосабы годнае й незалежнае паставы ў змаганьні, таксама мусяць спыніцца на выпрабаваным яшчэ ў першым „наборы“ спосабе Ігнатоўскага... Гэтак канчаюць самагубствам Чарвякоў, старшыня найвышэйшага органу ўлады — Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР, — і Галадзед, старшыня Савету Народных Камісараў БССР...

У вялізманейшым, праведзеным паводле ўсіх правілаў жудаснае „яжоўшчыны“ наборы, які трываў блізу цэлых два гады, падмятаюцца, падчышчаюцца ўсе, хто спрабаваў яшчэ весьці легальна якую-небудзь нацыянальную крывіцкую працу. Праца гэтая канчальна робіцца магчымай толькі ў глыбокім падзямельлі, й толькі там снуецца ейная ніць, не перарываючыся ні тады, ні пазьней.

Гэтак ідзе час у кірунку да наступнага „набору“, які паводле тае трохгадовае пэрыядычнасьці павінен быў бы адбыцца ў 1939 г. І тут якраз Саветам, што называецца, „прываліла шчасьце“: яны адхапілі нарэшце ад Польшчы пры ейным разгроме ў першым выбуху другое сусьветнае вайны Заходнюю Крывію. Трэ было сьпешна хапацца падагнаць яе пад дасягнуты ў усходняй частцы ўзровень „прачашчанага народу“. І бальшавікі пачалі ад тых самых крывіцкіх нацыянальных дзеячоў, якіх пры гэтым урачыстым *„воссоединении“* Заходняй Крывіі з Савецкай трэба-ж было таксама *„воссоединить“* зь сябрамі іхнымі „нацдэмамі“, што пакутавалі недзе на савецкай катарзе ці зупачывалі дзесь у безназоўных магілах. Гэтак адразу былі схоплены ў Вільні, пакуль аддаць яе патрымацца „ліцьвіном“, некатарыя з тамтэйшых нацыянальных дзеячоў старэйшага пакаленьня, што так ці іначай заставаліся на месцы. Калішні прэм'ер-міністр БНР А. Луцкевіч, рэдактар славутае піянэркі нацыянальнага адраджэньня — газэты „Наша Ніва“ А. Уласаў[6], аўтар цяперашняга нацыянальнага гімну „Мы выйдзем шчыльнымі радамі“ паэта Краўцоў Макар[7] і інш. А за імі пачаўся сыстэматычны разгон-развоз па тых самых Сыбірах і Казахстанах *„атсталага заходня-беларускага народу“*.





Раптоўны сутык із Нямеччынай у чэрвені 1941 г. крыху прычыніў быў гэтую кампанію. Крывія пала першая разьменнай манэтай у крывавай грызьні двух фашызмаў — гітлераўскага й сталінаўскага. І на прыкладзе крывіцкага народу хутка выявілася, як абодва яны згодна б'юць у адну кропку — вынішчэньне меншых і слабейшых народаў. Сплываючы крывёй у змаганьні з дужэйшым напачатку ворагам, бальшавізм усяроўна ня кінуў свае неадчэпнае думкі аб разгоне крывіцкага народу. Носьбітамі-прваднікамі яе сталіся Сталінавыя агенты-дывэрсанты й бандыты, аблажна называючы сябе партызанамі. Старымі, аблюбаванымі бальшавікамі мэтадамі тэрору й правакацыі разганялі яны цэлыя сёлы па тых сваіх схованках-лясох або самі, або падстройваючы ўсё так, каб гэта рабілі за іх немцы — ізноў-жа выпрабаваным сваім спосабам гнабіць і душыць нялюбых ці небясьпечных ды варожых сабе чужымі й ворагавымі рукамі. Хапіўшыся за ніколі не прызнаваную і ў такіх гарачных спрэчках засуджаную калісь марксістымі зброю індывідуальнага тэрору, яны ганяюцца цяпер за найлепшымі сёламі нацыянальнага актыву й зводзяць іх ізь сьвету. Гітлераўскае Гестапо моўчкі, але згодна дзьме зь імі ў адну дудку, то проста падстаўляючы крывіцкія галовы пад іхныя кулі, а то й інсцэнізуючы „ліквідацыю бальшавікамі“ непажаданых сабе нацыянальных актывістых. Гэтак гіне адзін із найстарэйшых нацыянальных дзеячоў праф. В. Іваноўскі, пісьменьнік Фр. Аляхновіч, які ў сваім багатым жыцьці пазнаў турмы ўсіх акупантаў Крывіі — і царскую расейскую, і польскую, і „літоўскую“, і бальшавіцкую катаргу ў Салаўках, і, нарэшце, нямецкую ды закончыў гэтае жыцьцё ад бальшавіцкае, а мо й гестапаўскае кулі...

---

[6] **Аляксандар Уласаў** (1874—1941), грамадзкі дзеяч, выдавец, мэмуарыст. Рэдактар газэты „Наша Ніва“ ў 1906—1914 гг. Браў удзел у працы Рады БНР, БСРГ, Таварыства беларускай школы. Арыштаваны ў 1939 г. неўзабаве пасьля далучэньня Заходняй Беларусі да БССР і асуджаны на 5 год лягераў. Памёр у зьняволеньні.

[7] **Макар Краўцоў** (1891 — пасьля 1939), паэт, грамадзкі дзеяч, публіцыст. Дэлегат Першага Ўсебеларускага Кангрэсу (1917). Аўтар гімну БНР „Мы выйдзем шчыльнымі радамі“. Арыштаваны ў 1939 г. неўзабаве пасьля далучэньня Заходняй Беларусі да БССР. Відавочна, памёр у зьняволеньні.

Гіне й шмат моладзі. Пад прыкладам *„змаганьня з бальшавіцкай партызанишчынай“* выпальваюцца цэлыя паселішчы зь людзьмі.

Ды ў надвечных крывіцкіх лясох нараджаецца й запраўдны партызанскі нацыянальны рух — рух на два фронты, і супраць гітлераўскіх крывяжэраў, і супроць сталінавых крывавых ганчакоў. Ён не спыняецца й дасюль, калі перад вачыма застаўся зноў толькі адзін, але стары й закажанелы вораг-разгоншчык, які займаецца й цяпер усё тым самым: адразае й перакідае за „лінію Керзона“[8] кавалкі нацыянальнае крывіцкае тэрыторыі — Беласточчыну, сівы Горадзен, векавечную Белавежу, зганяе з адвеку наседжаных і ня выпаленых навет немцамі радзімых аселішчаў ды пераганяе туды-ж апанаваную ўжо тэрорам бальшавіцкае „дзяржаўнае бясьпекі“ „дэмакратычную Польшчу“ масы крывічоў-каталікоў, выпрабаваных яшчэ царскім спосабам „хрысьцячы“ іх у „палякі“, і ўвесь час не забываецца вычэрпваць і вычэрпваць народныя крыніцы пад прыклёпам вылоўляньня „фашыстых“, „нацыяналістых“, „квісьлінгістых“ і да г. пад. Ды чым далей, тым больш і больш разгон пачынае памячацца на самых-жа разгоншчыках: поўняцца, перапаўняюцца народнымі рыцарамі помсты лясы й пушчы, і рады няма, ці ты іх перакідай за „Керзоны“, ці пакідай у сябе, й навет перад сьветам нельга змоўчаць аб шматтысячных „нацыяналістычных бандах“ у гэных пушчах „паўночна-ўсходняе Польшчы“... А тым-жа часам ня толькі лесавыя дабрахоты, а і ўвесь народ усё бліжэй і бліжэй падаецца да таго, каб нарэшце ўзяць ува ўсёй гэтай справе й свой голас, успамінаючы словы тае, сьпяванае ўпершыню на Ўсекрывіцкім Кангрэсе, а пасьля забароненае й выгнанае бальшавікамі нацыянальнае песьні:

*Мы дружна паўстанем з касамі, зь сярпамі,*
*Прагонім зь зямлі палачоў!*[9]

[8] **Лінія Керзона** (ад імя міністра замежных справаў Вялікабрытаніі ў 1919—1924 гг. Джорджа Кёрзана, 1859—1925) — умоўная лінія мяжы з Польшчай, прапанаваная кіраўніцтвам Антанты ў 1919 г. У 1945 г. на прапанову прэм'ер-міністра Вялікабрытаніі Ўінстана Чэрчыля лінія Кёрзана была ўзятая за аснову ўсходняй мяжы Польшчы зь невялікімі адхіленьнямі на карысьць Польшчы.

[9] Тут і пазьней — радкі зь верша **Юльяна Сергіевіча** (1910—1976), „Беларуская Марсэльеза“. Трэба адзначыць, што менавіта за публікацыю гэтага верша ў „Беларускай газэце“ Антон Адамовіч трапіў у няміласьць да акупацыйных уладаў, у выніку чаго адбыліся вядомыя падзеі з падкладаньнем міны ў ягоны пісьмовы стол.





Прагнаць палачоў-катаў, правакатараў-разгоншчыкаў навек із нашае роднае зямлі — гэтакае сяньняшняе найбольшае й найпякучае жаданьне народнае сьведамасьці. І носьбіты гэтае сьведамасьці, змагары нацыянальнага актыву, поўныя верою й пэўнасьцю, добра выказанай адным зь іх у сугучным да таго, калішняга:

*Палямі, лугамі далучацца з намі*
*Грамадна рады крывічоў!*

І ня толькі крывічоў, а і ўсіх іншых, таксама разганяных і заганяных бальшавізмам народаў.

*Падрыхтоўка да друку й камэнтары Ціхана Чарнякевіча*

***Юрка Віцьбіч***

## ЦЬВІЛІКАЕ ШЭРАНЬКІ ВЕРАБЕЙЧЫК[1]

*Ходзім мы пад месяцам высокім,*
*а яшчэ пад ГПУ.*

Тодар Кляшторны

Калісьці за даўнія часы, а менавіта ў канчатку 1920-х гг., у адным з бэсэсэраўскіх другарадных часапісаў зьявіліся даволі зухаватыя радкі:

*У хваробе крызысу корчацца лорды,*
*Чуецца вой і праклёны,*
*Крывяцца іх ашалелыя морды,*
*Трашчаць капіталу калёны.*

Гэтак урачыста, калі не пад гукі фэўдальных літаўраў, дык праз лямант капіталістычных акулаў, уваходзіў у літаратуру савецкі паэта Станіслаў Шушкевіч[2].

Шмат вады сплыла за 40 год, і дарэшты аблысеў „товарищ“ Стах. Таму цяпер ён піша мэмуары, якія нічым не адрозьніваюцца ад ягонага пышнага дэбюту, і з тае прычыны трапляюць не ў літаратурны часапіс накшталт „Полымя“, а на сьметнік, ці, дакладней, — на старонкі завяртанскага бюлетэню „Голас Радзімы“. У гэтых сваіх успамінах ён, падрабляючыся пад дружбака замардаваных расейскім бальшавізмам беларускіх паэтаў і празаікаў, перакручвае іхняе жыцьцё й замоўчвае аб

[1] Тэкст быў упершыню апублікаваны ў: Віцьбіч, Юрка. Цьвілікае шэранькі верабей // Беларус. 1966. №116. С. 2. Тут фэльетон друкуецца паводле аўтарскага арыгіналу.

[2] **Станіслаў Шушкевіч** (1908—1991), паэт, перакладнік. Сябра „Маладняку“ ад 1926 г., працаваў у Кніжнай палаце й Дзяржаўнай бібліятэцы БССР, газэце „Літаратура й мастацтва“. Арыштаваны ў 1936 г., асуджаны да 8 гадоў пазбаўленьня волі. У 1937—1946 гг. знаходзіўся ў лягеры й высылцы ў Кемераўскай вобласьці, пасьля чаго вярнуўся ў Беларусь.





варунках іхняе сьмерці. І паважаю за свой абавязак узяць іхнюю сьвятую памяць пад абарону.

„Ён крочыць побач з намі“ — гэтак называецца артыкульчык („Голас Радзімы“. №931), прысьвечаны Шушкевічам выдатнаму беларускаму паэце васількоvага россыпу, узвышэнцу Сяргею Дарожнаму[3]. Хібаж дагэтуль крочыць, а тым балей з вамі? Сяргей Дарожны загінуў у 1938 г. у бальшавіцкім засьценку[4]. ДПУ абвінаваціла яго ў падрыхтоўцы замаху на жыцьцё сакратара ЦК КП(б) Гікалы. Рэчавым доказам стаўся хатняга ўжытку нож, што пабачылі на ягоным стале чакістыя ў часе пошукаў. Дарэчы, сваю першую кніжку вершаў „Звон вясны“ (1926 г.) Сяргей Дарожны падзяліў з Ізраілем Плаўнікам[5] — братам Зьмітрака Бядулі. Пазьней Ізраіль Плаўнік звар'яцеў пасьля катаваньняў у сутарэньнях ДПУ. Няўжо-ж і ён крочыць побач з вамі?

Свой наступны артыкульчык пад назвай „Паэт залатой раніцы“ („Голас Радзімы“. №937) Станіслаў Шушкевіч прызначыў вядомаму паэце Міхасю Багуну[6], згадваючы адначасна пра Алеся Дудара[7], Валерыя Маракова[8] (якога ён называе Маранавым), Тодара Кляшторнага[9], Барыса Мікуліча[10] і Эдуарда Самуйлёнка[11].

[3] **Сяргей Дарожны** (сапр. Серада, 1909—1943), паэт, перакладнік. Друкаваўся ад 1925 г. Быў сябрам згуртаваньняў „Маладняк“ і „Ўзвышша“. У 1936 г. рэпрэсаваны. Аўтар кніг „Звон вясны“ (1926, у суаўт. з І. Плаўнікам), „Васількоvы россып“ (1929), „Пракосы на памяць“ (1932).

[4] Памылковае сьцьверджаньне. Сяргей Дарожны памёр ад няшчаснага выпадку пры будаўніцтве Камсамольска-на-Амуры ў 1943 г. падчас адбываньня свайго 8-гадовага тэрміну.

[5] **Ізраіль Плаўнік**, паэт, перакладнік, малодшы брат пісьменьніка-нашаніўца Зьмітрака Бядулі. Працаваў наборшчыкам у друкарні, карэктарам у выдавецтве. Памёр у псыхіятрычнай лякарні.

[6] **Міхась Багун** (сапр. Блошкін, 1908—1938), паэт, празаік, перакладнік. Друкаваўся ад 1925 г. У 1932—1936 гг. працаваў у Дзяржвыдавецтве БССР і ў рэдакцыі газэты „ЛіМ“. Рэпрэсаваны. Аўтар кніг „Рэха бур“ (1931), „Рэвалюцыі“ (1932).

[7] **Алесь Дудар** (сапр. Дайлідовіч, 1904—1937), паэт, празаік, крытык, перакладнік. Друкаваўся ад 1921 г. Адзін з арганізатараў і заснавальнікаў літаб'яднаньня „Маладняк“. Рэпрэсаваны. Аўтар кніг „Беларусь бунтарская“ (1925), „Сонечнымі сьцежкамі“ (1925), „І залацісьцей, і сталёвей“ (1926), зборніка апавяданьняў „Марсэльеза“ (1927), зборніка артыкулаў „Пра літаратурныя справы“ (1928).

[8] **Валеры Маракоў** (1909—1937), паэт. Друкаваўся ад 1925 г. Быў сябрам літаб'яднаньня „Маладняк“. Рэпрэсаваны. Аўтар кніг „Пялёсткі“ (1926), „На залатым пакосе“ (1927), „Вяршыні жаданьняў“ (1930), „Права на зброю“ (1932).⇨



Група пісьменьнікаў „Маладняка“. У першым шэрагу злева направа: Васіль Каваль, Ізраіль Плаўнік, Зіна Бандарына; у другім шэрагу: Алесь Дудар, Аркадзь Мардвілка, Ніна Вішнеўская, Мікола Нікановіч, Іляры Барашка. 1928 г.

Яшчэ маладым, 30-гадовым, сканаў Міхась Багун 23 лютага 1938 г. у Сыбіры — у перасыльнай турме гораду Марыінску Кемераўскае вобласьці. Ня вытрымала зьдзекаў змалку хворае сэрца. Ягоныя шчырыя сябры Мікуліч і Звонак[12] зьвярнуліся да турэмнікаў з просьбай:

⇨ [9] **Тодар Кляшторны** (1903—1937), паэт, перакладнік. Сябра „Ўзвышша“, пасьля ліквідацыі згуртаваньня — у БелАПП. Працаваў на радыё, у рэдакцыях газэт. Незаконна рэпрэсаваны.

[10] **Барыс Мікуліч** (1912—1954), празаік, крытык. Працаваў карэктарам і рэдактарам у выдавецтве, адказным сакратаром газэты „Літаратура й мастацтва“. Сябра „Маладняку“ ад 1928 г., СП БССР ад 1934 г. Арыштаваны ў 1936 г. і праз год асуджаны да 10 гадоў лягераў. У 1943 г. атрымаў статус ссыльнага. У 1947 г. вярнуўся ў Беларусь, дзе зь яго была зьнятая судзімасьць. Паўторна арыштаваны ў 1949 г., высланы ў Сыбір на вечнае пасяленьне. Рэабілітаваны праз тры месяцы пасьля сьмерці. Асноўныя яго творы таксама былі апублікаваныя пасьмяротна.

[11] **Эдуард Самуйлёнак** (1907—1939), празаік. Працаваў у рэдакцыях газэт „Чырвоная Полаччына“ (1930—1933), „Літаратура й мастацтва“ (1934—1939).

[12] **Алесь Звонак** (1907—1996), паэт, сцэнарыст, перакладнік. Друкаваўся ад 1925 г. Працаваў у газэтах „Чырвоная Полаччына“, „ЛіМ“, часопісе ⇨





*— Памірае ў нас чалавек. Ці ня можна паклікаць доктара?*

*— А можа ў Крым яго накіраваць?* — пачулі яны. — *Няхай здыхае. Адным ворагам зьменшыцца.*

Праз хвіліну па гэтай гутарцы назаўсёды спынілася неўгамаванае сэрца нязбыўнага Міхася Багуна, пра якое ён пісаў:

*Сэрца, сьпявай*
*Пра любы край,*
*Пра тых, што так,*
*Як мы любілі.*



Міхась Багун

А тагды, перш чым чакістыя выцягнулі нябожчыка за ногі навонкі, украінскія паэты, што пакутвалі тут таксама, пасьпелі адправіць па ім грамадзянскую паніхіду, прасьпяваўшы ў паўголас запавет кабзара:

*Поховайте та вставайте,*
*Кайдани порвіте*
*І вражою злою кров'ю*
*Волю окропіте.*

Дык хіба-ж не „залатая раніца“?

Валеры Маракоў ствараў вершы нават у турэмных карцарах, перадаючы іх грукатам у столь, у падлогу, у сьцены. На сьледзтвах, у процілегласьць Шушкевічу, нікога не абгаварваў. Памёр ён 31-гадовым 7 траўня 1940 г. на выгнаньні ў Горкаўскай вобласьці РСФСР. Памёр вар'ятам[13]. Нібы прадчуваючы сваю пагібель, Валеры Маракоў пісаў:

⇨„Маладняк“, на Беларускім радыё. У 1936—1954 гг. — у сталінскіх лягерах. Ад 1955 г. жыў у Менску. Аўтар кніг „Буры ў граніце“ (1929), „На лінію агню“ (1932), „Мая Радзіма“ (1935) і інш.

[13] Насамрэч Валеры Маракоў быў расстраляны ў Менску 29 кастрычніка 1937 г.



Алесь Дудар у смаленскай высылцы. 1930 г.

*Жыцьцё, як мора-акіян,*
*А шчасьце — бераг дальні,*
*Ці як у пустэльні караван*
*Пад гукі песьні пахавальнай.*

Цудоўны паэта кляновых завеяў, узвышэнец Тодар Кляшторны. Аглабельныя крытыкі на ўзор Лукаша Бэнды[14] прыклеілі яму ярлык канаркавага паэты, што ўсяляк ухіляецца ад так званага грамадзкага жыцьця, а між тым як гістарычны афарызм гучаць ягоныя радкі, узятыя за эпіграф да гэтага артыкулу. І вось, дастаўшы ганарар за зборнік вершаў „Ветразі“ (1929), Кляшторны набыў клетку з канаркай і зь ёю наведаў залю Дому Пісьменьніка, удэкараваную партрэтам Леніна, бюстам Сталіна ды рознымі камуністычнымі эмблемамі. Дзівячыся там на сваё набыцьцё, ён шчыра плакаў.

—*Чаму плачаш, Тодар?* — пыталіся ў яго сябры.

— *Канае ў клетцы канарка.*

...З Сыбіры ён не зьвярнуўся. Не кляновыя завеі Беларусі, а сьнежныя завірухі Калымы прыхавалі пад сабой роўнядзь, на якой без магільнага грудка спачыў назаўжды Тодар Кляшторны.

Алесь Дудар загінуў не старым, 42-гадовым, 25 лютага 1946 г. у адным з сыбірскіх нязьлічоных канцлягераў. Таксама заўчасна й таксама 42-гадовым, але ўжо, даруйце, на волі памёр 17 чэрвеня 1954 г. Барыс Мікуліч. Яго чакістыя абвінавацілі ў тым, што нібы ў букеце з ружаў ён меўся шпурнуць пад ногі наркома Варашылава бомбу. Стан здароўя пасьля савецкіх концаў не дазволіў Мікулічу дастацца Беларусі, і ён сканаў ад паралюшу сэрца ў Туркмэніі. Яны пагінулі, але, як прадбачыў Алесь Дудар:

*Мастацкі дух ніколі не памрэ.*
*Не пахаваць яго пад курганамі,*
*Ня вычарпаць гадамі і вякамі.*
*Яму ў агні пякельным не згарэць.*
*Ён вырвецца з багны*
*Разводзьдзем буйных рэк*
*І загарыцца зноў бліскучымі агнямі.*

Паасобку стаіць Эдуард Самуйлёнак. Усю сваю творчасьць ён прысьвяціў, прабачце, шчасьцю й радасьці савецкіх і падсавецкіх людзей, за што адным з першых паміж літаратарамі атрымаў дзяржаўную ўзнагароду — ордэн „Знак пашаны“. Але жывыя адпомсьцілі яму, памёрламу. У наступную-ж ноч пасьля ягонага пахаваньня ў лютым 1939 г. яны, раскапаўшы магілку, сьцягнулі зь яго гарнітур. Іх знайшлі, й падчас сьледзтва выявілася, што гарнітур яны прадалі на рынку ў Бабруйску, каб накарміць сваіх галодных дзяцей. Ці-ж ня сьведчыць гэтае аб *„шчасьці й радасьці“* савецкіх грамадзянаў і аб пасьмяротным банкруцтве Эдуарда Самуйлёнка як чалавека й пісьменьніка?

І ўсё гэтае, як сьцьвярджае Станіслаў Шушкевіч, зьяўляецца „залатой раніцай“, а бязьлітасна замардаваныя бальшавікамі крочаць цяпер побач зь імі. Каб ён меў хоць кроплю сумленьня, дык прыгадаў-бы, што сам даслаў з Сыбіры сваёй жонцы чэхаўскі „Сахалін“, у якім падкрэсьліў вуглём словы татарына: „Дрэнна! Дрэнна! Дрэнна!“.

Аднак, калі даць веры ягоным цяперашнім успамінам, ён увесь час працаваў у нейкіх геалягічных партыях, а вось Андрэй Александровіч[15], якому чэкістыя ў часе першага допыту зламалі два рабры, дык аж стаўся бухгальтарам? Прыпусьцім, што гэтае адпавядае праўдзе, але якім коштам яно тагды адбылося? Шчыра кажучы, па колькі срэбнікаў атрымаў Шушкевіч ад людамораў за кожнага свайго „сябру“?

Калі тыповы бэсэсэраўскі калябарант Станіслаў Шушкевіч так падрабляе жыцьцё й сьмерць „рэгабілітаваных“ цяпер колішніх „ворагаў народу“, дык пэўне-ж стакроць плявузгае ён на тых беларускіх літаратараў, якім пашанцавала апынуцца ў вольным сьвеце. Доказам зьяўляецца ягоны жалю годны радыёскрыпт „2 х 2...“ („Голас Радзімы“. №939), часткова прызначаны Юрку Віцьбічу.

[14] **Лукаш Бэндэ** (1903—1961), крытык-вульгарызатар. Друкаваўся ад 1925 г. Працаваў у Інстытуце мовы, літаратуры й мастацтва БССР, Дзяржаўным выдавецтве ў Ленінградзе, Інстытуце рускай літаратуры (Пушкінскі дом). У часе Другой сусьветнай вайны — у войсках НКУС (Ленінград). Аўтар некалькіх кніг, шматлікіх артыкулаў і складальнік хрэстаматый па беларускай літаратуры.

[15] Андрэй Александровіч быў рэпрэсаваны ў 1938 г.

І перадусім трэба заўважыць, што засьмечвацелю этэру Шушкевічу, хоць ён і зьяўляецца адной з мыліцаў, якой падпіраецца гумарыстычны часапіс „Вожык“, відавочна бракуе пачуцьця гумару. Так, ён закідае Віцьбічу, што той цяпер *„дакаціўся да старэчага голасу“*, гэта значыцца, абвінавачвае яго ў... старасьці, а між тым сам усяго толькі на два гады маладзейшы ад Віцьбіча. А на сваім партрэце („Пісьменьнікі савецкай Беларусі“. Менск, 1959. С. 478) з пляшывай ушчэнт, як у таго Мікіты, галавой ды зь нейкім сацьмелым позіркам душэўна спустошанага ён выглядае год пад 70. Крый мяне Божа ад гэткага галамоўзага юнацтва, калі не дзяцінства. А чаму дзяцінства, запытаецца чытач? А хіба не, адкажу я таксама пытаньнем, бо гэты свой скрыпт Шушкевіч распачынае вельмі ўдалым і характэрным для сябе сказам: *„Ня раз я цешыўся дзіцячай гульнёю“*.

*„Во гресех роди мя мати моя“*, але я ўсё-ж ніколі не зьмяняю сваё колішняе п’янства, на якое Станіслаў Шушкевіч тыцкае пальцам, на ягоную цьвярозасьць. І тым балей, што яно зусім не перашкаджала мне ствараць, як вызнае праз зубы сам Шушкевіч, — *„неблагія аповесьці й нарысы“*. Дарэчы, у 1930-х гг. у беларускім літаратарскім асяродзьдзі нейкі час існавала, бяз статутаў, суполка „ТАВІЗ“, або — Таварыства аматараў выпіць і закусіць. Да „ТАВІЗу належалі Міхась Багун, Валеры Маракоў, Тодар Кляшторны, Сяргей Дарожны, Уладзімер Хадыка[16], Юрка Віцьбіч і шмат іншых, уяўляючы зь сябе дэманстрацыйную ў дачыненьні да Саюзу савецкіх пісьменьнікаў БССР сувора забароненую багему. Ня ў залях і габінэтах Дому Пісьменьніка, а ў шынках па Савецкай й Камсамольскай вуліцах абмяркоўвалі таленавітыя тавізаўцы сваю творчасьць. Дагэтуль паміж рознымі фотакарткамі беларускіх літаратараў з прачулымі аўтографамі захавалася ў мяне фота Валерыя Маракова, які сядзіць у менскай „Шашлычнай“ за кухлем піва, апрацоўваючы свой чарговы добры верш. А ўвогуле гарэлку п’е чалавек у той час, калі вераб’ю, каб спагнаць смагу, цалкам хопіць лужыны, спакінутае крылатым Пэгасам.

*„Якое-ж гэта было прытворства! Як-жа гэта было нікчэмна!“* — абураецца Шушкевіч з намеру Юркі Віцьбіча паставіць за часы вайны помнік на магілцы расстралянага бальшавікамі ў 1921 г. славутага вяліскага партызана Паўлюка Нілёнка. Між тым, яшчэ ў 1934 г. у кніжцы

[16] **Уладзімер Хадыка** (1905—1940), паэт, перакладнік. Друкаваўся ад 1926 г. Быў сябрам „Маладняку“. Працаваў у часопісе „Полымя“. Аўтар кніг „Суніцы“ (1926), „Выбраныя вершы“ (1932), „Радасны будзень“ (1935). У 1936 г. арыштаваны й адпраўлены ў ГУЛАГ. Загінуў у лягеры.







Валеры Маракоў у шашлычнай на Камсамольскай вуліцы ў Менску

„Пісьменьнікі БССР аб рэформе правапісу беларускай мовы“ на ейнай 83-й старонцы партыйнае вока ў літаратуры Міхась Клімковіч[17] закідае Юрку Віцьбічу паміж рознымі іншымі абвінавачваньнямі *„замілаваньне бандытам Нілёнкам“*. Дык хіба не пасьлядоўны й лягічны намер Віцьбіча? А бандытам беларус Паўлюк Нілёнак зьяўляўся гэткім-жа, як ворагам народу беларус Міхась Багун. І пэўне-ж моцным беларусам быў Нілёнак, калі за момант перад расстрэлам плюнуў у вочы чакістаму ды калі склаў пра яго наш народ удзячную песьню:

*У Вяліжы дожд ідзе,*
*А ў Віцебску сьлізка,*
*Хавайцеся, бальшавікі,*
*Бо Нілёнак блізка.*

Адпавядае праўдзе, што маё апавяданьне „Сьмерць Ірмы Лаймінг“ („Узвышша“. №2. 1931) мела эпіграфам: *„2 х 2 = няма шляхоў да мінулага“*.

[17] **Міхась Клімковіч** (1899—1954), крытык-вульгарызатар, драматург. Друкаваўся ад 1928 г. У 1932—1934 гг. — старшыня аргкамітэту, у 1934—1939 гг. — старшыня Праўлення СП БССР.



Уладзімер Хадыка

Уласьне з гэтае прычыны Ірма Лаймінг, што марыла пра такі зварот, і скончыла жыцьцё самагубствам. Пэўне-ж да гэтага прылучыўся й аўтар, які з болем забіў свайго ўлюбёнага гэроя, абы толькі ня бачыць яго на каленках перад савецкай запраўднасьцю ці ў кіпцюрох ДПУ. Пасутнасьці згаданы эпіграф часткова перагукваецца з радкамі найвыдатнага Ўладзімера Хадыкі, што загінуў у 1940 г. ля возера Байкал на бальшавіцкай катарзе:

*Пасярод зямлі аблонь,*
*Па аблоні ходзяць рэкі,*
*Усё мінула што было,*
*Усё пайшло навекі.*

Аднак што датычыць беларускіх палітычных эміграантаў, а ў тым ліку й Юркі Віцьбіча, дык яны, у залежнасьці ад сваіх магчымасьцяў, змагаюцца не за зварот мінулага, а за прыйсьце сьветлае будучыні, калі на крушнях Расейскае чырвонае імпэрыі паўстане Вольная й Незалежная Беларусь.

Ёсьць паміж паэтаў сучаснае Беларусі салаўі. Можна згаджацца або не згаджацца з тым ці іншым іхным поглядам, але разам з тым шчыра захапляцца зь іхных вялікіх здатнасьцяў. Аднак побач з салаўямі ёсьць вераб'і, да якіх належыць Станіслаў Шушкевіч. Дзе яму, убогаму маскоўскаму пісару, зразумець словы бальшавіцкае ахвяры, рыцара Ўладзімера Жылкі[18], які пісаў, што лепш ужо чужына, чым

*...лёс раба*
*Зь бязвольля ўласнага й бясьсільля,*

чым

*...гэтая жальба*
*На скутыя рабамі крыльлі.*

І раб, які ня толькі не змагаецца са сваім прыгнятальнікам, але выхваляе ягоны бізун, заслугоўвае не спачуваньня, а пагарды.

7.10.66 г.

*Падрыхтоўка да друку й камэнтары Ціхана Чарнякевіча*

[18] **Уладзімер Жылка** (1900—1933), паэт, перакладнік. У 1923—1926 гг. вучыўся ў Чэхіі на гісторыка-філялягічным факультэце Карлава ўнівэрсытэту ў Празе. У 1926 г. пераехаў у БССР. Быў сябрам згуртаваньня „Ўзвышша", працаваў у газэце „Зьвязда". Арыштаваны ў 1930 г. Памёр у лягернай бальніцы. Аўтар кніг „Уяўленьне" (1923), „На ростані" (1924), „З палёў Заходняй Беларусі" (1927).

***Віктар Жыбуль***
*Менск*

# „І ЎВЕСЬ ПАДЦЯГНУТЫ І СТРОЙНЫ…“: УЛАДЗІМЕР СЯДУРА Ў ЗГАДЦЫ ЗЬМІТРА ВІТАЛІНА

Зьмітро Віталін (сапр. Сергіевіч; 1912—2004) і Ўладзімер Глыбінны (сапр. Сядура; 1910—1995)… Лёсы гэтых двух пісьменьнікаў беларускай дыяспары шмат у чым розныя, але шмат у чым і падобныя. Абодва дэбютавалі ў друку амаль адначасова, уваходзілі ў Беларускую асацыяцыю пралетарскіх пісьменьнікаў (БелАПП), сябравалі… Абодва ж былі арыштаваныя па сфабрыкаванай справе ў 1933 г. (Віталін — 23 лютага, Сядура — 3 сакавіка) і ў адзін дзень (10 жніўня таго самага года) асуджаны адпаведна на 2 і 3 гады папраўча-працоўных лягераў. Разам ехалі ў Сыбір у вагоне-„цялятніку“[1]. І абодва атрымалі датэрміновае вызваленьне: Віталін 9 лістапада 1934 г., Сядура — у жніўні 1935 г. Абодва вярнуліся на Беларусь, але, як і многія былыя „зэкі“, сутыкнуліся з праблемаю працаўладкаваньня, таму мусілі старанна хаваць факты сваіх „заплямленых“ біяграфій. Зьмітру Віталіну гэта дазволіла заняцца журналісцкай дзейнасьцю, а Ўладзімеру Сядуру — паступіць у Маскоўскі ўнівэрсытэт, а потым у Ленінградзкі пэдагагічны інстытут імя М. Пакроўскага й нават абараніць у 1941 г. у Менску кандыдацкую дысэртацыю па філялёгіі.

У першыя месяцы Другой сусьветнай вайны Ўладзімер Сядура застаўся ў акупаваным Менску, а Зьмітро Віталін пайшоў на фронт. Але ў Беларусі ўрэшце не затрымаліся абодва: Сядура падзяліў лёс многіх эмігрантаў, зьехаўшы ў Нямеччыну, Чэхію, а пазьней — у ЗША; Віталін

[1] У тым самым вагоне знаходзіліся й іншыя бязьвінна асуджаныя літаратары: Зьмітрок Астапенка, Сяргей Астрэйка, Франц Гінтаўт, Уладзімер Дудзіцкі, Міхась Кавыль, Лукаш Калюга, Сьцяпан Ліхадзіеўскі, Максім Лужанін, Мікола Нікановіч, Сяргей Русаковіч, Юлі Таўбін.






Зьмітро Віталін. 1945 г.

жа, пайшоўшы па ваенна-журналісцкай лініі, апынуўся ў Аўстрыі, Вугоршчыне і ўрэшце на Ўкраіне, у Адэсе. Удалечыні ад радзімы абодва пісьменьнікі даволі пасьпяхова займаліся літаратурнай дзейнасьцю, але дзеля гэтага былі вымушаны актыўна карыстацца не сваёй роднай мовай: так, частка літаратуразнаўчых і крытычных прац Уладзімера Сядуры (Глыбіннага) выйшла па-ангельску, а паўтара дзясятка кніг прозы Зьмітра Сергіевіча (Віталіна) — па-расейску. Толькі, у адрозьненьне ад выбітнага эміграцыйнага дзеяча Сядуры, Сергіевіч па-беларуску не друкаваўся ўвогуле: жывучы ў СССР, ён баяўся, што колішняе ўтойваньне рэальных фактаў біяграфіі яму можа абярнуцца новым крымінальным пераследам, і нікому не прызнаваўся, што ён і ёсьць той самы беларускі паэт 1930-х Зьмітро Віталін. Таму вершы на роднай мове ён пісаў „у шуфляду“, адважыўшыся ізноў „адкрыцца“ й вярнуцца ў беларускую літаратуру толькі ў 1990-х гг. — пасьля таго, як даведаўся, што ў энцыклапэдыях і біяграфічных слоўніках пра яго пішуць як пра *„зьніклага на фронце бязь вестак на фронце ў час Вялікай Айчыннай вайны“*[2] альбо *„застрэленага пры ўцёках зь лягеру“*[3].

Нядаўна агульнымі намаганьнямі апякункі пісьменьніка Валянціны Андрыянавай, адэскага беларуса Вячаслава Яфімава й калінкавіцкага краязнаўца, аўтара кнігі „Тры жыцьці Зьмітра Віталіна“ Ўладзімера Лякіна[4] асабісты архіў Зьмітра Віталіна быў перададзены ў Беларускі дзяржаўны архіў-музэй літаратуры й мастацтва (БДАМЛМ). Асноўную частку рукапісаў складаюць тэксты вершаў, якія ніколі не пуб-

[2] Змітро Віталін // Пісьменьнікі савецкай Беларусі: кароткі даведнік / скл. А. К. Гардзіцкі. Менск: Мастацкая літаратура, 1981. С. 68.

[3] Змітро Віталін // Беларускія пісьменьнікі: біябібліяграфічны слоўнік. Т. 2. Менск: БелЭн, 1993. С. 13.

[4] Лякін, У. А. Тры жыцьці Зьмітра Віталіна: гіст.-біягр. нарыс. Мазыр: Белы вецер, 2012. — 201, [3] с.

лікаваліся: філязофская, рэлігійная, пэйзажная й публіцыстычная (з антысталінскім і антыбальшавіцкім патасам) лірыка, сатырычныя й гумарыстычныя творы[5]. Прыцягваюць увагу вершаваныя ўспаміны Зьмітра Віталіна пра часы рэпрэсій, лягерныя будні, сяброў маладосьці (пераважна рэпрэсаваных), калегаў па пяры ўвогуле: „За што?“, „Юлі Таўбін“, „Памяці Тодара Кляшторнага“, „Крапіва“, „Памяці Петруся Броўкі“... Ёсьць і верш „Сябра“, прысьвечаны *„памяці Ўладзімера Сядуры“.* Дата пад тэкстам адсутнічае (аўтар быў ня схільны датаваць свае позьнія вершы), аднак, мяркуючы па почырку й паперы, твор быў напісаны ў 1990-х гг. Як вядома, Уладзімер Сядура (Глыбінны) памёр пасьля працяглай хваробы 13 сакавіка 1995 г. Аднак Зьмітро Віталін нічога ня ведаў пра лёс сябра маладосьці: ён быў перакананы, што Сядура *„загінуў недзе за Байкалам“* яшчэ ў 1930-х гг. Гэта не выглядае чымсьці дзіўным — асабліва калі ўлічыць ступень культурнай ізаляванасьці, у якой жыў Зьмітро Віталін, а магчыма, і пэўныя парушэньні памяці. Так, падчас сустрэчы ў Адэсе ў ліпені 1998 г. ён спытаўся ў мяне пра Петруся Броўку: *„Як ён там цяпер?“* — і вельмі зьдзівіўся й засмуціўся, калі я адказаў: *„Памёр яшчэ ў 1980-м годзе“.* Калі ён ня ведаў (ці забыўся) пра лёс вядомага на ўвесь СССР народнага паэта, дык што ўжо казаць пра пісьменьнікаў-эмігрантаў зь іншага кантынэнту? Так што, магчыма, верш *„памяці Ўладзімера Сядуры“* мог быць напісаны нават яшчэ пры жыцьці апошняга. Па іроніі лёсу, як ужо згадвалася, самога Віталіна гэтак „хавалі“ ў энцыкляпэдыях, і неаднаразова.

У вершы-ўспаміне Зьмітро Віталін прыгадвае й перадае зьмест размоваў і літаратурных спрэчак, якія адбываліся паміж ім і Ўладзімерам Сядурам у пачатку 1930-х гг.; успамінае й тое, як у 1933 г. былі разам этапаваныя ў лягер.

Асабліва цікавы верш тым, што Зьмітро Віталін быў адным зь нямногіх на той момант жывых сяброў Уладзімера Сядуры, хто памятаў яго яшчэ як паэта — хоць яго захапленьне вершапісаньнем было непрацяглым. Пэўнае ўяўленьне пра яго раньнюю паэтычную творчасьць дае літаграфічны часопіс студэнцкага літаратурнага гуртка пры менскім Белпэдтэхнікуме „Крыніца“, дзе, у прыватнасьці, у № 1 (4) за 1929 г. быў надрукаваны верш Сядуры „Рытмы сёньняшняга дня“. Аўтарка прадмовы да факсымільнай публікацыі нумару Ірына Багдановіч назвала гэты твор *„бадай самым адпаведным авангарднаму стылю тых часоў,*

[5] Публікацыю некалькіх вершаў з архіву Зьмітра Віталіна гл. у: Роднае слова. 2012. № 9. С. 20—21.







Зьлева направа: Пятро Старавыбарны, Павал Пруднікаў, Алесь Пруднікаў, Васіль Баранаў, Клім Грыневіч, Зьмітро Віталін. Менск, 1932 г.
Фота з асабістага фонду П. Пруднікава ў БДАМЛіМ

*які зьмяшчаў у сабе футурыстычна-ЛЕФаўскія рысы й індустрыяльна-машынны патас супраць „сахі старасьвецкага стылю““*, заўважыўшы ў вершы *„ўсе прыкметы тагачаснага авангардызму зь ягонай прапагандысцка-агітацыйнай устаноўкай на ўтылітарную грамадзкую ролю мастацтва“*[6]. Але ўспамін Зьмітра Віталіна сьведчыць, што пісаў Уладзімер Сядура ў той час ня толькі агітацыйную публіцыстыку кшталту *„Паэты! Ударнай брыгадай / Пурнём перашкоды, пурнём!..“*, але й вершы, прасякнутыя зусім інакшым настроем: *„Ля дамавіны чорных дум / З вачмі патухшымі прайду...“* Трэба думаць, гэтыя радкі аўтэнтычныя: Зьмітро Віталін часам устаўляў у вершы-ўспаміны дакладныя цытаты зь іншых паэтаў: Францішка Багушэвіча („Багацьце“), Тодара Кляшторнага („Памяці Тодара Кляшторнага“), Уладзімера Хадыкі („Чакаючы пісьма ад сябра“), Веліміра Хлебнікава („Сьмех“) і інш. Прысутнічаюць у творы й некаторыя элемэнты вонкавага і ўнутранага партрэту маладога Уладзімера Сядуры: *„...увесь падцягнуты і строй-*

[6] Крыніца: літ.-маст. часопіс літгуртка МенБПТ. № 1 (4). 1929-30 нав. год. Факсымільная публікацыя. Прадмова І. Багдановіч // Запісы БІНіМ. №27. 2004. С. 259.



Уладзімер Сядура з бацькамі

*ны“, „Як той паэт, ён быў ня горды, / А горды быў як чалавек“; „Ён чэсна жыў, ён палка марыў, / Як бацьку, Коласа любіў...“* Запомніліся Віталіну й хітраватая ўсьмешка сябра, і *„погляд неспакойны / У затуманеную даль“.*

Верш Зьмітра Віталіна „Сябра“ каштоўны як мэмуарнае сьведчаньне пра далёкія студэнцкія гады таленавітага пісьменьніка й навукоўца, вядомага дасьледніка творчасьці Фёдара Дастаеўскага, доктара Народнага ўнівэрсытэту Амэрыкі, заслужанага прафэсара Ўладзімера Сядуры (Глыбіннага).

Друкуецца тэкст з захаваньнем арыгінальнага правапісу.

***Зьмітро Віталін***

**Сябра**

*Памяці Ўладзімера Сядуры*

*„Ля дамавіны чорных дум*
*З вачмі патухшымі прайду...“ —*
*Пісаў мой сябра так сур'ёзна*
*І мне чытаў амаль ня слёзна.*





*Якая к чорту дамавіна,*
*Калі захоплены жыццём,*
*Калі гуляе ён з дзяўчынай,*
*Каторая кроў з малаком.*

*Было мне смешна тое слухаць —*
*Ну, хоць кладзіся, памірай! —*
*Усмешка — з вуха і да вуха,*
*І радасць пырскае праз край,*

*І ўвесь падцягнуты і стройны —*
*Чорт ведае, адкуль той жаль?*
*Ды погляд — погляд неспакойны*
*У затуманеную даль.*

*У тую даль, дзе потым крочыў*
*Тайгой сібірскай у журбе,*
*Нібыта сам і напрарочыў*
*Онь тую долю сам сабе.*

*Ахоплены чарнейшай думай,*
*Ішоў пад брэх аўчарак злых.*
*У зямлю ціха лёг, бяз тлуму,*
*Як леглі тысячы другіх.*

*Загінуў недзе за Байкалам,*
*Пракладваючы той наш БАМ.*
*Пурга на сопках бушавала,*
*Шаман лупіў у барабан...*

*Я ўспамінаю — прачытае*
*І запытае: „Ну і як?“*
*Сказаць няпраўду ён ня раіць:*
*„Ня будзеш мне тады дружбак!“*

*І як кажу, хоць з неахвотай, —*
*У крытыцы ж я толькі госць:*
*— Ад Пастарнака колькі нотак*
*І ад Хадыкі штосьці ёсць...*

*І ён руку маю хапае,*
*Трасе і цісне, долу гне:*

*— Я лепшай пахвалы ня знаю,*
*Цяпер я бачу — друг ты мне!*

*І гаварыў далей з уздымам:*
*— І калі ёсць паэта [я] —*
*То наш Хадыка Уладзімер*
*І Пастарнак, [дык удвая!]*

*І хітранька так ён смяецца —*
*Маўляў, што скажаш у адказ?*
*І я кажу яму ад сэрца:*
*— Паэты, браце, першы клас!*

*Далей кажу я шчырым [гартам],*
*Кажу сур'ёзна, не смяшком:*
*— Пазногця іхняга ня варты*
*Мы ўсе — [звязаўшы] іх вузлом.*

*Бывалі й спрэчкі — не заўсёды*
*Па шэрсці, а й насупярэк.*
*Як той паэт, ён быў ня горды,*
*А горды быў як чалавек.*

*Калі ж нас падсякла нядоля,*
*Ён суцяшаў мяне ня раз:*
*— Дзе воля, браце, дзе няволя —*
*Пра тое скажа яшчэ час.*

*Казаў загадкава, з падтэкстам —*
*Усё-ткі крытыкам ён быў —*
*І тое лагернае цеста,*
*Як тысячы другіх, мясіў.*

*Я шчасны тым, што у дарозе*
*Йшоў поплеч гэты сябра мой,*
*Што нас аднолькава марозіў*
*Той холад лютаю зімой.*

*Я шчасны, што ў жыццёвых бітвах*
*Сустрэўся гэты чалавек,*
*Так, ЧАЛАВЕК з вялікіх літар,*
*Ліхому злу насупярэк.*





*Жыццё, браткі, такая штука —*
*Ну, думаеш, не ахапіць! —*
*А як прыглянеш — той навукі:*
*Каб толькі чэсна век пражыць.*

*Ён чэсна жыў, ён палка марыў,*
*Як бацьку, Коласа любіў...*
*Гараць нязгасныя Стажары,*
*І ток крыві — ён жыў, ён быў.*

*[1990-я гг.]*

# АНТЫБАЛЬШАВІЦКІЯ ПАЎСТАНЬНІ Й ПАРТЫЗАНСКАЯ БАРАЦЬБА НА БЕЛАРУСІ: ТЭМА, ЯКАЯ НЕ АДПУСКАЛА

*Праца Юркі Віцьбіча пра антыбальшавіцкія паўстаньні й партызанскую барацьбу, што была выдадзеная толькі па ягонай сьмерці й пазьней перавыдадзеная на Беларусі (двойчы, бо першы наклад быў амаль цалкам сканфіскаваны)*[1]*, сталася, тым ня менш, ягонай візытоўкаю, апярэдзіўшы па папулярнасьці ды запатрабаванасьці мастацкія апавяданьні, фэльетоны, нарысы пісьменьніка. Відаць, і самога аўтара тэма не адпускала; ён зноў і зноў вяртаўся да яе, зьбіраючы матэрыял. Чарговым пацьверджаньнем гэтага сталася нядаўняя знаходка невялікай тэчкі, на якой рукой Віцьбіча выведзены назоў: „Дадаткі да працы аб паўстаньнях і партызанах на Беларусі“.*

*Тэчка зьмяшчае невялікія ўспаміны Міхася Кавыля, лісты Аляксандра Яцэвіча (Змагара) й Валера Навіцкага, а таксама выпіскі з газэтаў.*

***Міхась Кавыль***

**Із успамінаў**

У нашым доме зьбіраліся вячоркі. Прыходзілі на вячоркі хлопцы. Сяло наша — Покаршаў — невялікае, усяго 60 двароў, і хлопцаў можна на пальцах пералічыць. Так як яны прыходзілі да нас кожны вечар, я зь імі быў, як кажуць, запанібрата. Звычайна яны садзіліся ў кутку за стол, ігралі ў карты. Іграючы, вялі незразумелыя мне гутаркі. Гутарку вялі ціха, каб ня чулі дзеўкі. Мяне яны, мабыць, не баяліся, бо я быў „жэўжык“, як часта мяне называў Вінцук Цішкевіч. Ды я асабліва й не прыслухоўваўся, а таму, можа, і запомнілася толькі два слова: „Гаўрыловіч“ і „паўстаньне“.

[1] Віцьбіч, Юрка. Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі. Нью-Ёрк, 1996. — XVI+397 с.; Віцьбіч, Юрка. Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі. Выданьне другое, выпраўленае. Смаленск, 2007. — 308 с.





Адзін раз прыйшло двое незнаёмых. Доўга ў тую ноч яны ігралі ў карты. Дзеўкі паразыходзіліся, а яны ўсё ігралі й аб чымсьці спрачаліся. Зь іх спрэчак я нічога не зразумеў і ўклаўся спаць.

Назаўтра яны да нас не прыйшлі. Не прыходзілі вечар, другі, трэці. Іх замянілі за сталом другія, маладзейшыя, і жыцьцё пацякло па-ранейшаму. Аб іх адсутнасьці як быццам ніхто не шкадаваў, бо ні аднаго разу ні адна дзяўчына, нават Марылька, якая кахала Вінцука Цішкевіча, ні маладзейшыя хлопцы нават не заікнуліся, дзе яны ды што зь імі. Толькі я кожны вечар ускакваў з печы, дзе звычайна сядзеў, і высоўваў голаў з-за коміна, каб паглядзець, ці ня прыйшоў Вінцук, ці Міхась Лешчанка, ці Янка Заяц. Але яны не прыходзілі.

Прайшло які зь месяц, а можа й болей. Удзень прыбягае да мае сястры Францішкі Марылька. Такая радасная, усхваляваная. Штосьці шэпчуць. А я падслухаў: „Прыйшоў Вінцук і Міхась“.

Міхась — наш сусед, праз вуліцу. Я, нічога нікому ня кажучы, за дзьверы й да Міхася. Убег у хату. Міхась за сталом, на стале гарэлка. Міхась распавядае суседзям: *„Залавілі басякоў (г. з. Бальшавікоў) у саменькую ноч, зьлялі варту. Мелі мы толькі дзьве бірданкі і бомбу-самадзелку. Такога спалоху нагналі... Уцякалі хто куды. Стрэльбы пакідалі і адзін кулямёт. Я вось нават шынэльку захапіў“.* Ён вылез з-за стала, прымераў шынэль і шапку-кубанку з чырвоным верхам.

*„Казак, далі Бог, казак“,* — засьмяялася цётка Альжбэта. І сапраўды, Міхась быў стройны, высокі, як казак.

*„А майго-ж Янку? Дзе ён, сыночак?“* — ужо празь сьлёзы неяк нечакана запытала яна.

Міхась дастаў з-пад сеньніка вінтоўку й, лязгануўшы затворам, паставіў у куток.

*„Жывы. Прыйдзе, цётка Альжбэта. Хутка прыйдзе. Усім адразу вяртаца няможна“.* І ён, распрануўшыся, палез за стол.

Празь некаторы час прыйшоў Янка Заяц. А пазьней Антось Волат, Яраслаў і Броніс Чарнушэвічы, Цішкевіч Адам, брат Вінцука, тры браты Шчарбіцкія. Ня прыйшоў толькі Язэп Шчарбіцкі. Пасьля я даведаўся, што ён уцёк у Польшчу.

Першыя гады савецкай улады ў нашай вёсцы ніхто не адчуваў. Нават старасты ня было. Адчувалі савецкую ўладу толькі тады, калі прыходзіла па пошце квітанцыя на продналог. Паўстанцы жылі, аралі, сеялі, жаніліся.

Праз год пасьля паўстаньня Чарнушэвічы Яраслаў і Броніс уцяклі ў Польшчу.

У 1935 годзе Міхася Лешчанку арыштавалі й далі 5 гадоў канцлягеру. Тры браты Шчарбіцкія (па-вулічнаму Мельнікавы) не дачакаліся арышту, паўміралі ад сухотаў. Антося Волата арыштавалі ў 1935 годзе. Дзе ён дзеўся, невядома. Арыштавалі й Цішкевіча Адама. Заяц арыштаваць ня даўся — уцёк. Жыў у лесе, а ноччу прыходзіў дадому, запрагаў каня і ехаў месячнай ноччу араць поле. Хаваўся гэтак аж да 1937 году, а ў гэтым годзе быў схоплены ў хляве, дзе спаў пасьля начной працы. Расстралялі. З усіх уцалеў толькі Цішкевіч Вінцук. Я яго спаткаў у 1943 годзе. Ён быў начальнікам беларускай самааховы ў в. Покаршаў. Аб лёсе паўстанцаў ён мне й расказаў.

*27.1.52 г.*

### Лісты Аляксандра Яцэвіча[2] й Валера Навіцкага[3]

*Vinantes par Juilly.*
*9.3.52 г.*

В. Паважаны Спадар Юрка Віцьбіч!

Прабачце за мой гэтак спозьнены адказ. Я працую на сельскай гаспадарцы й маю больш-менш час толькі ў нядзелю. Але досыць часта трапляе ехаць у нядзелю ў Парыж на тую ці іншую сходку або нараду, а камунікацыя ад майго месца працы настолькі дрэнная (выяжджаю з дому раніцаю, а прыяжджаю позна ўвечары), дык і даводзіцца адзін ліст пісаць 2 або 3 тыдні. Гэта на мяне вельмі моцна дзейнічае, але нічога не магу зрабіць.

Вашую прапанову аб дасылцы маіх твораў у час. „Шыпшына“ з прыемнасьцю прымаю ды адначасна цешуся, што хоць у літаратурна-мастацкім кірунку ўзьнікла здаровая плынь — аб'яднаньне беларускіх

[2] **Алесь Змагар** (сапраўднае імя **Аляксандар Яцэвіч,** 1903—?), грамадзкі дзеяч, пісьменьнік, выдавец. Браў удзел у Слуцкім паўстаньні й антысавецкай партызанцы. Падчас нямецкай акупацыі працаваў настаўнікам. Быў дэлегатам Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Нямеччыне, Аўстрыі. У 1949 г. пасяліўся ў Францыі, быў сябрам Рады БНР. У 1956 г. выехаў у ЗША. Быў актывістам Беларускага вызвольнага руху. Сябра літаратурнай сустані „Баявая Ўскалось“.

[3] **Навіцкі Валер** (1920—2001), грамадзкі дзеяч. Скончыў Слуцкі пэдтэхнікум, працаваў настаўнікам. Падчас нямецкай акупацыі — старшы зьвязовы СБМ (Грэскі раён). Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Ад канца 1940-х гг. жыў у Канадзе.





творчых сілаў на грунце 25 Сакавіка — Незалежнасьці Беларусі ў яе этнаграфічных межах.

Дзякую за бандэролю з час. „Шыпшына“, хоць я яе яшчэ не атрымаў. Спадзяюся, што бандэроля не загіне ў дарозе, тым больш што я яе чакаю — не магу дачакацца.

Адносна вашае просьбы пераслаць Вам матар'ял аб Слуцкіх паўстаньнях, я з прыемнасьцю выконваю. Ёсьць толькі засьцярога, што сваякі некаторых зь іх засталіся па той бок зялезнае заслоны. Мае ўспаміны будуць далёка ня поўныя й досыць сухія, бо для апрацаваньня іх патрэбны некаторы час. Шмат прозьвішчаў і падзеяў забытыя й пры ўспаміне адных успамінаюцца другія. Але каб справу гэтую доўга не цягнуць, я зараз-жа падам некалькі фактаў з нацыянальна-вызвольнага руху ў Случчыне.

4.9.1917 г. Р. Астроўскі адчыніў у Слуцку 1-ю Беларускую Гімназію, закладаючы падваліны для ўзгадаваньня беларускай нацыянальна-сьведамай інтэлігэнцыі.

У 1918 г. у Слуцку паўстаў Беларускі Нацыянальны Камітэт на чале з Паўлам Жаўрыдам[4], які шырока па ўсёй Случчыне разгарнуў культурна-выхаваўчую працу, арганізуючы пры валасьцях, а дзе былі ініцыятыўныя групы, дык і пры вёсках або засьценках, гурткі: драматычныя, харавыя, нацыянальных танцаў, сельскагаспадарчыя ды інш.

У 1919 г. адбываюцца баявыя сутычкі случчакоў з чырвонымі маскалямі.

У 1920 г. зноў працуе Беларускі Нацыянальны Камітэт у Слуцку. Жаўрыд, будучы вывезены чырвонымі маскалямі, яшчэ не вярнуўся на бацькаўшчыну, і старшынёю Камітэту быў абраны доктар Паўлюкевіч[5], які адыграў досыць значную ролю ў нацыянальным руху Случчакоў. Працуюць беларускія гурткі, бібліятэкі. Арганізуецца батальён Слуцкай міліцыі, які потым стаў асноваю 1-га Слуцкага палка.

Камітэт складаўся з 3-х асобаў: старшыні доктара Паўлюкевіча й сяброў А. Бочкі[6] і яшчэ аднаго (прозьвішча ня помню).

[4] **Павал Жаўрыд** (1889—1939), палітычны дзеяч. Удзельнік I Усебеларускага зьезду (1917), у 1920 Найвышэйшай радай БНР прызначаны камісарам Случчыны. Адзін з кіраўнікоў Слуцкага збройнага чыну. Пазьней працаваў у Інбелкульце і газэце „Зьвязда“. У 1930 г. арыштаваны па справе „Саюзу вызваленьня Беларусі“. Памёр у лягеры.

[5] Маецца на ўвазе **Арсень Паўлюкевіч** (1888—?), грамадзкі дзеяч, лекар, удзельнік Слуцкага збройнага чыну.

[6] **Антон Бочка** (1889—?), вайсковец, удзельнік Слуцкага збройнага чыну, бацька айца Аляксандра Надсана.

Надышоў лістапад. Чырвоныя маскалі спыніліся за Вясеяй на той бок рэчкі, прыблізна ў 14 кілямэтрах ад Слуцка на поўнач. У Слуцку сабралася вялікая колькасьць беларускай інтэлігенцыі й ахвіцэрства. Чуткі аб прыходзе ў Слуцак чырвоных маскалёў моцна хвалявалі случчакоў, амаль кожны дзень адбываліся сходкі. Зьбіраліся на рагу Шасовай і Трайчанскага завулка каля дому Фрыдмана. Ня могучы браць на сябе ўсю адказнасьць за небясьпечнасьць ад насунуўшайся савецкай пагрозы, Слуцкі Выканаўчы Камітэт ухваліў неадкладна сазваць Зьезд Случчыны, які толькі адзін меў права ў такі адказны момант вырашаць аб далейшым лёсе Случчыны. І Слуцак хутка запоўніўся шэрымі сьвіткамі й кажухамі.

Зьезд адбыўся 14.11.1920 у невялікай залі будынку Вайніловічаў. У ім прымала ўдзел 107 дэлегатаў ад г. Слуцка й 15 валасьцей. Было таксама некалькі прадстаўнікоў ад беларускіх аддзелаў Булак-Булаховіча, быў і Павал Жаўрыд, якому пашчасьціла выратавацца ад бальшавіцкіх кіпцюроў. Зьявіўся ён як прадстаўнік Найвышэйшай Рады й камісар на Слуцкую Акругу (уезд). На старшыню Зьезду быў абраны Васіль Русак[7], на Віцэ-Старшыню — Пракулевіч[8]. Прамовы былі кароткія, але палкія й рашучыя — змагацца за незалежнасьць супроць чырвоных захопнікаў. Прамаўлялі Старшыня Зьезду Васіль Русак, Павал Жаўрыд, Іван Біруковіч, Аляксей Кабычкін, Юльян Сасноўскі, Грыгор Грынько, капітан Анцыповіч, Павал Бань, капітан Сокал-Кутылоўскі, Уладзімер Пракулевіч, настаўнік Наронскі (які сказаў надзвычай добрую прамову) і яшчэ 6 прамоўцаў.

З прычын недахопу часу Зьезд працягваўся толькі адзін дзень. Была абрана рада Зьезду Случчыны ў ліку 17 асобаў. У Раду ўвайшлі

[7] **Васіль Русак** (1896 — пасьля 1946), палітык, выдавец. Удзельнік Першага й Другога Ўсебеларускіх кангрэсаў. Адзін з кіраўнікоў Слуцкага збройнага чыну, камісар Другога Грозаўскага палка. Ад 1922 г. жыў у Празе, адзін з кіраўнікоў беларускага руху ў Чэхіі, фундатар часопіса „Іскры Скарыны“. У 1945 г. арыштаваны савецкімі ўладамі й праз год асуджаны да 10 год лягераў. Далейшы лёс невядомы.

[8] **Уладзімер Пракулевіч** (1887—1938), юрыст, грамадзка-палітычны дзеяч, старшыня Беларускай рады Случчыны, адзін з кіраўнікоў Слуцкага збройнага чыну. Працаваў сакратаром ураду БНР Аляксандра Цьвікевіча. У 1926 г. пераехаў у БССР, працаваў у Дзяржбібліятэцы БССР, Інбелкульце, БелАН. Арыштаваны ў 1930 г. па справе „Саюзу вызваленьня Беларусі“. У 1938 г. пасьля паўторнага суду расстраляны.





Васіль Русак, Іван Біруковіч, Аляксей Кабычкін, Юльян Сасноўскі, Грыгор Грынько, кап. Анцыповіч, Паваль Бань і інш.

(Штабс-капітан Анцыповіч, народжаны ў вёсцы Працавічы (8 км ад Слуцка на поўдзень), былы фэльдфэбэль старой рускай арміі, які за баявыя заслугі даслужыўся ахвіцэрскага чыну яшчэ пры царызьме (штабс-капітан), быў назначаны камандзірам усяе збройнае сілы Случчыны. Асноваю Слуцкага палка зьявіўся батальён Слуцкай міліцыі).

Па абедзе ўся плошча была запоўненая Случчакамі. Усе платы, дрэвы, нават дахі бліжэйшых дамоў былі аблепленыя моладзьдзю, старэйшыя ціснуліся на плошчы, стараючыся бліжэй стаць каля трыбуны. А зь вёсак усё прыбывалі й прыбывалі новыя барацьбіты, запаўняючы вуліцы й завулкі. Кожнаму хацелася хутчэй пачуць пастанову Рады Зьезду Случчыны. Нарэшце, плошча захвалявалася.

— Ідуць, ідуць... — неслася з усіх канцоў.

Праціснуўшыся цераз натоўп, на трыбуну хутка ўзьбегла некалькі радных. Адзін зь іх, трымаючы ў руках пастанову, голасна прачытаў:

*„І-шы Беларускі Зьезд Случчыны ў ліку 107 асобаў вітае Раду Беларускай Народнай Рэспублікі й заяўляе, што ўсе свае сілы аддасьць на адбудову бацькаўшчыны, катэгарычна пратэстуе супроць заняцьця нашай бацькаўшчыны чужацкімі й самазванча-савецкімі ўладамі. Хай жыве вольная незалежная Народная Беларуская Рэспубліка ў яе этнаграфічных межах“.*

— У-у-ра-а-а! — грымела з усіх канцоў.

Таго-ж вечара частка дэлегатаў выехала на вёскі і ў воласьці Грозаўскую, Грэскую, Цараўскую, Раманаўскую, Чапліцкую, Быстрыцкую, Старобінскую, Вызьненскую, Копыльскую, Цімкавіцкую і ў інш., заклікаючы да барацьбы за сваю самастойнасьць.

Чырвоныя-ж маскалі, апавяшчаючы лёзунгі *„свабоды, равенства й брацтва“*, ліхаманкава рыхтаваліся да прыгнёту нязломных духам змагароў.

У адказ на гэта Рада Случчыны 21 лістапада выдае дэклярацыю.

На гэтым пакуль што канчаю. У наступным лісьце апішу лёс тых Случчакоў, камандзіраў, якія былі ў Слуцкай брыгадзе, а таксама тых паўстанцаў, якія вярнуліся назад у Слуцкія лясы й працягвалі барацьбу з чырвонымі захопнікамі, зьнішчаючы харч-камісараў і карныя аддзелы. Некаторыя зь іх дачакаліся нават прыходу немцаў. Сам Сокал-Кутылоўскі ў астатнюю вайну змагаўся ў Францыі, адкуль яго разам з часткаю беларускіх ваякаў, якія называлі сябе беларусамі, выдалі чыр-

воным катам. Беларускія вайскавікі засталіся толькі тыя, хто пасьпеў перапісацца на паляка. Але аб гэтым потым.

З пашанаю, А. Яцэвіч.

*Vinantes par Juilly.*
*30.9.52*

В. Паважаны Юрка Віцьбіч!

Прабачце за доўгае маўчаньне. Працую досыць цяжка й як толькі прыйду з работы й сяду, каб напісаць ліст, дык ад зморанасьці адразу засынаю. Аб Слуцкім Паўстаньні больш падрабязна напішу Вам на Новы год, калі буду пару дзён вольны ад работы.

Што датычыцца докт. Паўлюкевіча, дык у час Слуцкага Паўстаньня ён кіраваў палявым шпіталем, а Біруковіч стаяў на чале вайсковага суду, сарганізаванага ў Семежаве. Справа аб'яднаньня з Балаховічам дэтальна абмяркоўвалася на паседжаньні Слуцкай Рады ў Семежаве, зараз-жа пасьля адыходу із Слуцка. Паўлюкевіч горача выступаў за аб'яднаньне з Балаховічам, але Юрка Лістапад, Юльян Сасноўскі, Васіль Русак, Бусял і Дубіна рэзка выступілі супраць (Балаховіч хацеў адкінуць бальшавікоў за Бярэзіну, а не аслабаніць усю Беларусь). У гэты-ж час Ул. Пракулевіч і П. Жаўрыд запрапанавалі навязаць перамовы з бальшавікамі, але большасьць сяброў Рады і гэтую прапанову адкінула.

Пракулевіч і Жаўрыд пасьля таго, як яны на Бэрлінскай нарадзе прызналі бальшавікоў адзінаю законнаю ўладаю на Беларусі, выехалі ў Саветы, дзе й загінулі.

Аб баявых эпізодах, а таксама аб лёсе шмат каго із Случчакоў я напішу ў больш вольны час.

Аб тым, што Паўлюкевіч быў засуджаны палякамі, — гэта бясспрэчна, але зь якога часу ён пачаў працаваць на руку Саветам — ня ведаю. Што ў Слуцкай Радзе ён быў палянафіл, гэта таксама праўда, але што ў свой час, будучы ў Беларускім Камітэце, адыграў ролю ва ўздыме нацыянальнае справы Случчыны, таксама бясспрэчна. Толькі ён у часы працы Рады Случчыны больш пазіраў на захад, а Пракулевіч і Жаўрыд на ўсход. Што было ў Празе, аб гэтым я ня ведаю.

Я бяру нейкі адрэзак часу і разглядаю даданасьць або адмоўнасьць дзеяньня й ролі, якую мог выконваць той ці іншы дзейнік. Бо мне здаецца, што зусім „сьвятых“ сярод нашых дзеячоў вельмі трудна знайсьці. Чытаў я на днях „Бацькаўшчыну“ 34, артыкул „Чарговая палітычная





авантура Астроўскага“[9], у якім успаміналася аб ягонай дзейнасьці ў 1918 г. Нейкі Язэп Каранеўскі[10] меў вялікую нахабнасьць напісаць аб яго бязыдэйнасьці ў той час, або што слуцкае грамадзянства апавясьціла яму байкот. Наадварот, за адчыненьне І-й Беларускай Гімназіі ў Слуцку слуцкае грамадзянства назаўсёды застанецца яму ўдзячным. Ён у той час адыграў дадатную ролю ў Случчыне дзеля ўтварэньня нацыянальна-сьведамай інтэлігенцыі. Ня ведаючы аб ягонай дзейнасьці ў Вільні, аж да 1925 г. я пражываў у Слуцку й нічога дрэннага аб ім ня чуў. Ведаю я й справу Лістапада. Ці былі Вы на працэсе Лістапада, які адбыўся ў Менску? Я хацеў-бы для ўдасканаленьня некаторых эпізодаў працэсу бачыць выпадковых сьведкаў таго працэсу. Я некалькі дзён быў на гэтым працэсе, але дзеля асьвяжэньня памяці патрэбна было-б з кім падзяліцца ўспамінамі.

Чытаю Вашыя артыкулы ў „Бацькаўшчыне“ й „Беларусе“ й знаходжу, што яны ня толькі найбольш апавядаюць жаданьням нашай эміграцыі, але й найбольш правільна адбіваюць нацыянальна-вызвольны рух беларускага народу.

Я вельмі задаволены, што маю магчымасьць навязаць з Вамі лучнасьць і дапамагчы Вам у Вашых працах. Аб Слуцкім Паўстаньні я пачаў працу яшчэ будучы ў Аўстрыі, але зараз-жа па пераезьдзе ў Францыю часова спыніў, ня маючы часу. Акрамя сваіх успамінаў я выкарыстоўваў успаміны Сокал-Кутылоўскага, Бочкі, Езавітава й Кабычкіна.

Вельмі шкода, што Сокал-Кутылоўскага разам зь іншымі вайскавікамі, якія да канца не зракліся імя Беларусі, выдалі Саветам. Шкода, што не знайшлося тут у Францыі ні аднаго беларуса, які адважыўся-б тым ці іншым спосабам іх выратаваць. Здаецца, што і ў лягер, дзе яны перабывалі, ніхто не адважыўся заглянуць, а ня то, каб іх ратаваць.

А ў „Беларускіх Навінах“[11] пісалася, што ў гісторыі Францыі ня было такога выпадку, каб хоць аднаго палітычнага эмігранта Францыя выдала. Як я потым даведаўся, палітычнымі эмігрантамі лічыліся тут толькі чырвоныя. Тых-жа, хто ратаваўся ад чырвоных катаў, лічылі падпальшчыкамі вайны.

[9] Каранеўскі, Язэп. Чарговая палітычная авантура Астроўскага. // Бацькаўшчына. №34 (113). 24 жніўня 1952. С. 1—2.

[10] Язэп Каранеўскі — псэўданім Станіслава Станкевіча.

[11] **„Беларускія навіны“** — беларуская газэта, якая выходзіла ў Францыі ў 1945—1947 гг. Выдавец — Лявон Рыдлеўскі. Пабачыла сьвет 8 нумароў.

Добра, што, ратуючыся ад выдачы чырвоным драпежнікам, нашыя ваякі, што знаходзіліся ў Аўстрыі, не пайшлі нелегальна ў Францыю. Такі лёс мог-бы спаткаць і іх.

Што датычыцца супрацоўніцтва ў „Шыпшыне“, дык я пастараюся, можа, нават на днях, напісаць кароткае апавяданьне й перасляць Вам. Добра было-б, каб „Шыпшына“ й „Баявая Ўскалось“[12] адыгралі ролю „Ўзвышша“, выкрысталізоўваючы ідэалёгію беларускай эміграцыі. Гэтыя 2 часапісы якраз адпавядалі-б гэтай ролі.

Шчыра дзякую за паштовую бандэролю „Шыпшына“, якую я атрымаў. Не дастае яшчэ № 3, 4, 8 і 10 ды іншыя[13], калі выйшлі. Калі Вас не абцяжыць, будзьце ласкавы, дашлеце мне! Мною атрыманы ў бандэролі № 6, 7 і 9. Чамусьці восьмага не было.

Пішэце, што ў Вас добрага? Як адносна супрацоўніцтва пісьменнікаў і навукоўцаў? Напішэце, што наагул чутно й з нашага нутранага эміграцыйнага жыцьця і нашых суадносін у міжнародным становішчы. Якія Вашыя погляды на Рагулін подпіс і супрацоўніцтва з маскалямі[14]? Пішэце аб працы як БНР, гэтак і БЦР (што роблена дадатнае, а што адмоўнае). Напішэце, а калі можна больш падрабязна, як пачалася ў Нямеччыне грызьня, якая давяла да падзелу беларускай эміграцыі на БНР і БЦР-аўцаў. Якія ёсьць перашкоды для кансалідацыі розных беларускіх груповак, якія грунтуюцца на Акце 25 Сакавіка, а да гэтага часу яшчэ ня прыйшлі да згоды? Вашыя думкі на гэта? Я ў Нямеччыне ня быў, а ў Аўстрыі гэткіх лаянак ня было. Прыехаўшы ў Францыю, сустракаўся як з аднымі шэраговымі прыхільнікамі, гэтак і з другімі, але мне здаецца, яны й самі ня ведаюць прычыны распадзелу беларускай эміграцыі.

[12] **„Баявая Ўскалось“** — беларускі часопіс, орган Літаратурнай сустані „Баявая Ўскалось“. Выходзіў спачатку ў Ольдэнбургу (Нямеччына) у 1948—1949 гг., а пазьней быў адноўлены ў Таронта (Канада).

[13] Пабачылі сьвет толькі 9 нумароў часопіса „Шыпшына“. Нумар 10 рыхтаваўся, але так і не пабачыў сьвет.

[14] Маецца на ўвазе подпіс Барыса Рагулі як прадстаўніка Рады БНР пад Вісбадэнскім пагадненьнем 1951 г. аб супрацоўніцтве ў межах Саюзу вызваленьня народаў Расеі, якім замацоўваўся прынцып „непрадрашэнства“, г. зн. нацыянальныя інтарэсы эмігрантаў мелі адысьці на другі плян перад супольнай барацьбой з камуністычным рэжымам у СССР. Гэтае пагадненьне выклікала сур'ёзныя спрэчкі ў шэрагах беларускай эміграцыі на Захадзе і ўнутры самой Рады БНР.





На маю думку, уся гэтая грызьня з вынікаючымі зь яе атрыбутамі вельмі шкодны беларускаму вызвольнаму руху й служаць як дапамаговы сродак у выкананьні тых ці іншых заданьняў агентамі НКВД-МВД.

На гэтым пакуль што канчаю.

Прыймеце найлепшыя пажаданьні.

Жыве Беларусь!

З пашанаю да Вас, А. Змагар.

Глыбокапаважаны сп-ру Віцьбіч!

Стараюся адказаць Вам як найхутчэй на Ваш ліст. Пра ўспомненую Вамі чырвонаармейскую частку, што стаяла ў Грэску, прызнацца, я ня чуў. Мажліва такая й была, але я ня чуў ні ад каго з старэйшых аб ёй і зьвязаных зь ёю падзеяў. Сам я ў той час, як кажуць, пад стол пяшком хадзіў, а праўдзівей лазіў. У Грэску, што ад мае вёскі толькі 6 км, я пражываў 1942—1944 гг. і таксама аб гэтым ня чуў. Болей за ўсё будзе праўдзівей, што гэта не адпавядае сапраўднасьці. Довады: мястэчка Грэзак стаіць убаку ад цэнтральных дарог, дзе ў 1920 г. былі баі: дарога Слуцак — Грозаў — Капыль — Цімкавічы — Семежава; другая дарога Менск — в. Пакоршаў — г. Слуцак. Тут былі сутычкі чырвоных з палякамі (бой у Грозаве, наступна паўтарадзённыя баі з артылерыйскім абстрэлам у ляску Бор каля в. Катохі й в. Дубейкі (мая вёска); сутычкі чырвонаармейцаў і кавалерыйскіх атрадаў з Слуцкімі паўстанцамі каля м. Копыль, Цімкавічы (што ляжаць 25 км ад Грэску). Стары Копыль і др. мясцовасьці. Зрэштай, Грэзак у той час ня быў нават мястэчкам, а толькі вёскай і за савецкія часы раённым цэнтрам стаў штосьці ў 1935 ці 36 годах, а значыцца й павялічылася насельніцтва што да разьмераў маленькага мястэчка, якім я яго бачыў у 1943 г.

Усе гэтыя прычыны болей даюць шансаў за тое, што ў Грэску такой гісторыі не магло быць. Але, паўтараю, я магу памыліцца й напэўна ня ведаю.

Пра другое пытаньне ведаю крыху болей. Пра падзеі ў Грэшчыне (лес за 10 км ад Грэску), дзе былі партызаны антыбальшавіцкія аж да 1922 году, а таксама былі яны ў балоцістых мясцовасьцях з вялізнымі лясамі, што пераходзяць пад Магілёў і ў Бранскую пушчу: мясцовасьці Гала й Гусяў. Матка й мае дзядзькі Сакалоўскія мне многа расказвалі пра падзеі, напады й бойкі. Прызнацца, многа ўжо забыў. У гэтай групе партызан было 60—80 асоб, жылі яны па хатах быўшых лясьнікоў, хутарах, прыходзілі нават дадому, а потым зноў ішлі ў лес.

Камандзір гэтага атраду быў быўшы царскі паручак, сын хутараніна-беларуса. Прозьвішча, на вялікі жаль, не памятаю, забыўся. Як што ўспомню — напішу. Як Вас цікавяць падрабязнасьці — напішэце, падам у другім лісьце.

Ведаю асабіста аднаго чалавека, што быў ці то толькі партызанам, ці то нават камандзірам маленькай групкі партызан. Дзейнічалі яны ў ляску Бор (каля в. Канюхоў і м. Грозаў), а таксама ў Грэшчыне. У 1919—1920 гг. біліся яны спачатку супроць палякаў (корпус Даўбер-Мусьніцкага[15], што аставіў крывавую славу на Случчыне), а пасьля супроць бальшавікоў. Быў гэта сп-р Кудзёлка з в. Краснакі, 4 км ад Грэску, 2 км ад мяне. За бальшавікоў меў 10 год. Пры немцах якась дастаўся дадому і біў зноў партызанаў, якія яго нарэшце злавілі і зьверскі замучылі: выкалалі мёртваму вочы, у жывот насыпалі зямлі.

Каб болей пакапаўся ў памяці, можа-б яшчэ што знайшоў, але на авось не хачу пісаць, падводзіць Вас.

Між іншым, быў тут у Таронта г-н Ю. Далін[16], заступнік дырэктара фордаўскай інстытуцыі *Research Program on the USSR*. Быў мне спачатку паручыў напісаць нешта пра дзейнасьць КП(б)Б або ЛКСМБ на Беларусі. Я падаў некалькі тэмаў. Але ці то адсутнасьць акадэмічнае адукацыі, ці прафэсарскіх тытулаў, ці, можа, тое, што некаторыя пункты зь дзейнасьці партыі й камсамолу не пагаджаліся з адзінанедзялімаўскімі паглядамі Даліна, — пакуль што затрымалася. Я ўжо й матэрыялы пачаў зьбіраць. Шкода, але за грошы я ня буду пісаць тое, што будзе насуперак маім перакананьням і справе вызвольнай ідэі (адсутнасьць расейскага шавінізму ў пасьляваенным выхаваньні беларускай моладзі, незалежная ад Масквы дзейнасьць КП(б)Б і г. д).

Ці ня ў той інстытут і Вы часам трапілі? Але гэта ня так важна. Сталася, хай так і будзе. Што з „Шыпшынай“?

Чакаю адказу.

З пашанай В. Навіцкі.

*Падрыхтоўка да друку Лявона Юрэвіча,*
*камэнтары Натальлі Гардзіенкі*

[15] Маецца на ўвазе **Юзаф Доўбар-Мусьніцкі** (1867—1937), расейскі і польскі вайсковы дзеяч, кіраўнік мецяжу супраць савецкай улады на Беларусі ў 1918 г.

[16] Хутчэй за ўсё маецца на ўвазе **Аляксандар Далін** (*Dallin*, 1924—2000), які пазьней быў прэзыдэнтам Міжнароднай рады па вывучэньні СССР і Ўсходняй Эўропы, кансультантам ураду ЗША па пытаньнях замежнай палітыкі.



*Архівалii*

# З СПАДЧЫНЫ ФРАНЦІШКА КУШАЛЯ, ВАЙСКОЎЦА Й МЭМУАРЫСТА

*Бібліятэчная сэрыя „Беларускага Гістарычнага Агляду“ распачалася ў 1999 г. зборнічкам артыкулаў і ўспамінаў Францішка Кушаля „Спробы стварэньня Беларускага войска“. Кніга вяртала ва ўжытак працы гэтага ваеннага й грамадзкага дзеяча, але, зразумела, не магла ахапіць усёй спадчыны Кушаля. Па-за зьместам застаўся шэраг публікацыяў у газэтах „Бацькаўшчына“ й „Беларус“[1], часопісе „Беларуская Моладзь“[2].*

*Недатаваны рукапіс успаміну, што публікуецца ніжэй, быў выяўлены сярод папераў Натальлі Арсеньневай, перададзеных яе сынам Уладзімерам Кушалем у Беларускі інстытут навукі й мастацтва; друкуецца з захаваньнем моўных і стылістычных адметнасьцяўісьніка.*

## Успаміны

1 верасьня 1939 г. Гітлер кінуў усю вайсковую магутнасьць Нямеччыны на Польшчу. Польшча ня ўсьпела яшчэ правесьці мабілізацыю. Тым часам на працягу 2—3-х дзён усе камунікацыйныя лініі польскай дзяржавы былі разьбітыя нямецкім лятніцтвам. Рух быў паралізаваны, і мабілізацыя не была праведзеная. Такім чынам, польская армія, не папоўненая рэзэрвам, была кінутая супроць арміі нямецкай, у шмат разоў перавышаючай колькасна жаўнерамі й тэхнічным узбраеньнем. Пасьля кароткіх вельмі зацятых баёў польская армія пачала адступаць на ўсход. У працягу больш-менш аднаго тыдня пачалі выкляроўвацца два абаронныя пункты, гэта Варшава й на поўдні Львоў.

[1] Гл. бібліяграфію ў канцы публікацыі.

[2] Напрыклад: Нязьдзейсьненыя спадзяваньні // Беларуская Моладзь. №21. 1964; Падрэзаныя крылы // Беларуская Моладзь. №22. 1964.

Но.

Да

Ураду Беларускага Інстытуту
Навукі і Мастацтва .
Нью Ёрк, З.Г.А.

Прашу залічыць мяне ў лік сяброў Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва. Мае пэрсанальныя дадзеныя і дадзеныя пра мои навуковы /літаратурны, мастацкі / стаж падаю ніжэй .

Дня 5 V 1952 г. Кушаль /подпіс/
памёр 25.V.1968 г.

Прозьвішча і імя Кушаль Францішак

Літаратурны /мастацкі/ псэўдонім/ы/ ———

Адрыс 435 New Jersey Ave Brooklyn 7 N.Y.

Дата і месяц нараджэньня 16-га лютага 1895 года

Асьвета і эвэнтуальны навуковы /мастацкі/ стаж
Агульная сярэдняя, спэцыяльная вайсковая

Навуковая ступень /калі ёсьць/ ———

У якой галіне навукі /літаратуры, мастацтва/ маеце намер працаваць у Інстытуце Гісторыя вайсковасьці.

Публікаваныя навуковыя /літаратурныя, мастацкія/ творы :
Працы із галіны вайсковай
спэцыяльна агнястрэльная зброя

Прыгатаваныя да публікацыі творы

Анкета-заява Францa Кушаля ў БІНіМ. 1952 г.

Я трапіў у Львоў. Тут адбывалася зацятая абарона Львова. Недабіткі польскай арміі на паўднёвым фронце канцэнтраваліся на абаронных пазыцыях Львова. Камандзір львоўскага корпусу й ён-жа камандзір абароны генэрал Лянгер выдаў загад бараніць Львоў да апошняга жаў-





нера. І сапраўды, нямецкая армія атрымоўвала вялізарныя страты й здабыць Львоў не магла.

Раптам 17 верасьня 1939 г., як гром зь яснага неба, пранеслася вестка, што савецкая армія перайшла польскую мяжу й пасьпяхова маршыруе ў кірунку Львова. Камандаваньне абаронай Львова было пастаўлена перад праблемай або змагацца на два фронты, што было немагчыма, або капітуляваць перад адной староной. Генэрал Лянгер пастанавіў капітуляваць перад савецкай арміяй. Сваё вырашэньне ён матываваў тым, што зь Нямеччынай Польшча знаходзіцца ў вайне, а савецкая Расія вайны Польшчы не аб'явіла, і няведама, зь якім намерам савецкая армія перайшла польскую граніцу.

Генэрал Лянгер выслаў парлямэнтараў у штаб савецкага камандаваньня дзеля дамаўленьня варункаў капітуляцыі. Савецкім корпусам, што машыраваў на Львоў, [камандаваў] генэрал Цімашэнка. Умовы капітуляцыі прадстаўляліся так, што савецкая армія абезаружыць усіх афіцэраў і жаўнераў, пасьля чаго ўсіх звольніць, і кожны будзе мець права вярнуцца да свайго дому.

Над вечар 17 верасьня савецкія танкі ўвайшлі ў Львоў. Па загадзе генэрала Лянгера афіцэры й жаўнеры здалі зброю савецкім жаўнерам. Пасьля гэтага афіцэры былі сабраныя ў адну групу, у другую былі сабраныя жаўнеры. Сярод жаўнераў зараз-жа зьявіліся савецкія прапагандзісты, якія пачалі падбураць жаўнераў, каб тыя помсьцілі афіцэрам за іхнія зьдзекі над імі. Но як-жа савецкія ўлады былі зьдзіўленыя, калі ні адзін жаўнер нават пальцам не крануў афіцэра.

Пасьля гэтага як жаўнеры, так і афіцэры маршам пешым машыравалі да першай большай чыгуначнай станцыі, дзе былі заладаваныя на транспарт і павезеныя на ўсход. Капітуляцыйная ўмова не была датрыманая.

Нас прывезьлі ў Старабельск, невялікі гарадок паміж Харкавам і Варашылаўградам. Памясьцілі як афіцэраў, так і жаўнераў у будынках былога манастыра. Супольна як афіцэры, так і жаўнеры прабылі [тут] да вясны 1940 г.

Гэта быў лягер ваеннапалонных, які знаходзіўся пад надзорам НКВД. Савецкія прапагандзістыя некалькі раз прабавалі натравіць жаўнераў на афіцэраў безь ніякага скутку.

Пад вясну 1940 г. усіх жаўнераў вывезьлі ізь лягеру, як гаварылі, на работы. У сакавіку гэтага-ж году пачалі вывозіць і афіцэраў невялікімі групамі, па чалавек пяцьдзясят. Савецкія прапагандзісты гаварылі нам, што ўсіх афіцэраў звальняюць на свабоду, а дзеля таго, што ўсіх нараз

звольніць немагчыма, то звальняюць невялікімі групамі. Гэтая прапаганда падняла настрой сярод афіцэраў, але нікому не магла прыйсьці ў галаву думка, што іхныя групы вывозяць на расстрэл. Мейсца расстрэлу афіцэраў із Старабельска да гэтага часу не адкрытае. У Катыні былі расстраляныя афіцэры ізь лягеру Казельск, што было ўстаноўлена спэцыяльнай камісіяй за часы нямецкай акупацыі.

У красавіку 1940 г. вывезьлі групу чалавек восемдзесят, да якой належаў і я. Нашу групу прывезьлі ў лягер пад Смаленскам, які называўся Павлішчэв-Бор. Тут ужо была такая-ж група ізь лягеру Казельск, а праз некалькі дзён прывезьлі групу ізь лягеру Осташково.

Ад афіцэраў гэтых групаў нашая група першы раз даведалася, што былі лягеры ваеннапалонных польскіх афіцэраў яшчэ ў Казельску й Осташково, і з гэтых лягераў таксама вывезьлі афіцэраў няведама куды. Такім чынам, арганізаваўся новы лягер вайсковапалонных польскіх афіцэраў Павлішчэв-Бор.

У хуткім часе із гэтага лягеру пачалі НКВДзістыя забіраць афіцэраў і па адным вывозіць невядома куды. У маі месяцы 1940 г. забралі мяне, і двух вельмі ўзброеных НКВД самаходам прывезьлі мяне ў Маскву, проста ў турму на Лубянцы.

Летам 1939 г., калі ўжо стала ясна, што вайна зь Нямеччынай не ўнікнёная, я адправіў сям'ю, жонку із дваіма дзецьмі ў Доры Валожынскага павету, дзе жылі мой бацька й браты, будучы пераканаты, што яны там спакойна перажывуць вайну. Сталася-ж зусім іначай. 17 верасьня 1939 г. савецкая армія заняла Заходнюю Беларусь, усьлед за арміяй прыйшло НКВД з мэтай ачышчэньня новазанятага абшару ад „няпэўнага элемэнту“. Мая сям'я як [сям'я] афіцэра папала пад паняцьце „няпэўнага элемэнту“. Жонка была арыштаваная, разам із двумя дзецьмі вывезеная ў Казахстан. Было гэта ўвосені 1940 г. Аб арышце маёй жонкі й вывазе ў Казахстан хутка даведаўся Саюз беларускіх пісьменьнікаў у Менску. Дзеля таго, што жонка была ведамая Саюзу як паэтка Натальля Арсеньнева, то Саюз распачаў рабіць стараньні перад савецкімі ўладамі аб звальненьні жонкі із ссылкі ў Казахстане й дазволе вярнуцца ёй на Беларусь. Справа гэтая цягнулася доўгі час, але нарэшце ў сакавіку 1941 г. была [яна] звольненая з Казахстану й па загадзе ўладаў прыехала зь дзецьмі ў Маскву.

У Маскве прадстаўнікі НКВД запрапанавалі маёй жонцы, каб яна ўзяла са мной развод, матывуючы тым, што я афіцэр і актыўна змагаўся з Савецкім Саюзам у 1919—1920-х гг. Жонка, аднак, ад гэтага адмовілася, не зважаючы на намовы й пагрозы, і заявіла, што ў Савецкім Саюзе яна будзе сябе чуць добра толькі тады, калі будзе жыць разам са мной.





Гэта вырашыла маё жыцьцё. НКВД накіравала яе ў Беласток на сталае мейсца жыхарства й заявіла, што хутка звольніць і мяне й таксама накіруе ў Беласток.

У тым часе, калі адбываліся вышэйапісаныя падзеі із маёй сям'ёй, я сядзеў у турме на Лубянцы. Там дапрашывалі мяне сьледаваццелі НКВД амаль кожны дзень. Аж нарэшце ў маі 1941 г. сьледавацель выклікаў мяне на дапрос і замест дапросу прывёў у асобае памешканьне, там быў фатограф. Там сфатаграфавалі мяне ў некалькіх позах, адпячаталі пальцы й рукі ды прывезьлі назад у камэру.

Я быў звольнены із Лубянкі й накіраваны на сталае жыхарства ў Беласток. Было, аднак, дазволена па дарозе заехаць у Валожынскі павет наведаць свайго бацьку. Такім чынам, у чэрвені я прыехаў у Доры.

22 чэрвеня армія Гітлера распачала наступ на Савецкі Саюз. На другі дзень нямецкія танкі праз наш раён машыравалі на Менск. Такім чынам я знайшоўся пад нямецкай акупацыяй.

Прыблізна ў палове ліпеня жонка пяхотаю прыйшла із Беластоку ў Доры. Мая сям'я ўся сабралася ізноў разам. Нам нічога не аставалася, як толькі жыць на мейсцы й сачыць, як будуць разгортвацца падзеі.

Падзеі тым часам разгортваліся вельмі шыбка. Савецкія ўлады, наладаваныя ў грузавікі із сем'ямі й маёмасьцяй, імкнуліся на ўсход. У першых днях ліпеня начамі наглядалася вялізарная чырвоная пагара на ўсходзе — гэта гарэў Менск, разьбіты нямецкім лятунствам. Незадоўга па дарогах пачалі машыраваць на Захад вялізарныя калёны чырвонаармейцаў, захопляных у палон немцамі. Невядома, якім спосабам да людзей пачалі даходзіць весткі аб вялізарнай паразе чырвонай арміі. Цэлыя савецкія дывізіі без аднаго выстрэлу пераходзілі ў палон да немцаў. Настраеньне ў людзей было прыпаднятае. Нарэшце вызваліліся ад савецкай жудасьці.

## Артыкулы Францішка Кушаля на старонках газэтаў „Бацькаўшчына“ й „Беларус“

**Кушаль, Ф. Аб афіцэрскіх рангах** // Беларус. №17 (23). 13 сьнежаня 1952. С. 2; Бацькаўшчына. №3 (134). 18 студзеня 1953. С. 2, 4.

**Кушаль, Ф. Аб гэтым трэба памятаць. [Першая Руская Нацыянальная Брыгада Гіль-Радзіёнава]** // Беларус. №100. Ліпень 1965. С. 2.

**Кушаль, Ф. Адзначаючы яшчэ адны ўгодкі** // Беларус. №98. Травень 1965. С. 2.

20-годзьдзе прарыву дывізіяй „Беларусь“ нямецкага фронту й далучэньня яе да амэрыканскай арміі.

**Кушаль, Ф. Адказ вэтэранаў** // Беларус. №84. Сакавік 1964. С. 2.

Адказ ЗБВ Аддзелу Нью-Ёрк газэце „Голос Родины“ на артыкул „О том, как Акула Белоруссию строил“.

**Кушаль. Ф. Адкрыты ліст да сп. Ч. Будзькі** // Бацькаўшчына. №19 (554). 7 травеня 1961. С. 3.

Роля гетмана Януша Радзівіла ў вайне 1654—1667 гг.

**Кушаль, Ф. Ад Менску да Лодзі** // Беларус. №15 (21). 15 лістапада 1952. С. 2; №17 (23). 13 сьнежаня 1952. С. 2; №18 (24). 25 сьнежаня 1952. С. 2, 4; №1 (25). 10 студзеня 1953. С. 2, 4.

**Кушаль, Ф. Баяздольнасьць Савецкай Арміі** // Беларус. №3 (27). 7 лютага 1953. С. 2; №4 (28). 24 лютага 1953. С. 2, 4; №7 (31). 5 красавіка 1953. С. 2; №8 (32). 18 красавіка 1953. С. 2; №9 (33). 2 травеня 1953. С. 2; №10 (34). 16 травеня 1953. С. 2, 4; №11 (35). 1 чырвеня 1953. С. 2, 4.

**Кушаль, Ф. Беларуска-Літоўская дывізія** // Беларус. №14 (20). 1 лістапада 1952. С. 2—4.

**Кушаль, Ф. Беларускаю рукою. Да 35 гадавіны Слуцкага паўстаньня** // Бацькаўшчына. №47—48 (277—278). 27 лістапада 1955. С. 1—2.

**Кушаль, Ф. Бітва ля ракі Воркслы. (У пэрпэктыве часу)** // Бацькаўшчына. №46 (380). 17 лістапада 1957. С. 3—4.

**Кушаль, Ф. Бітва пад Грунвальдам** // Бацькаўшчына. №22 (506). 5 чырвеня 1960. С. 3; №23 (507). 12 чырвеня 1960. С. 2—3; №24—25 (508—509). 26 чырвеня 1960. С. 4—7; №26 (510). 3 ліпеня 1960. С. 2—3; №27 (511). 10 ліпеня 1960. С. 2—3.

**Кушаль, Ф. Важныя ўгодкі** // Беларус. №82. Студзень 1964. С. 2.

20-ыя ўгодкі БКА.

**Кушаль, Ф. Вайскоўцы-беларусы** // Бацькаўшчына. №45—46 (124—125). 16 лістапада 1952. С. 2.

**Кушаль, Ф. Вайскоўцы-беларусы** // Беларус. №14 (20). 1 лістапада 1952. С. 1.

Угодкі Слуцкага паўстаньня.

**Кушаль, Ф. Вайскоўцы-беларусы на чужыне** // Беларус. №2. 27 лістапада 1950. С. 3.





**Кушаль, Ф. Ваюй жа, народзе! Беларускае паўстаньне 1863—1864 гадоў. (У 39-ыя ўгодкі Беларускага Збройнага Паўстаньня на Случчыне ў 1920 годзе)** // Бацькаўшчына. №43—44 (479—480). 29 лістапада 1959. С. 3—7; №45 (481). 6 сьнежня 1959. С. 2—3; №46 (482). 13 сьнежаня 1959. С. 2—3; №47—48 (483—484). Каталіцкія Каляды 1959. С. 4—5.

**Кушаль, Ф. Веліч Слуцкага Збройнага Чыну** // Беларус. №21 (45). 28 лістапада 1953. С. 2—3.

**Кушаль, Ф. Войны вялікага князя маскоўскага Івана Трэйцяга зь Вялікім Княствам Літоўскім** // Бацькаўшчына. №29—30 (564—565). 23 ліпеня 1961. С. 3—5; №31 (566). 30 ліпеня 1861. С. 2—3; №32 (567). 6 жнівеня 1961. С. 2—3; №33 (568). 13 жнівеня 1961. С. 2.

**Кушаль, Ф. Гістарычная Місія Беларускага народу. Да саракавых угодкаў Слуцкага паўстаньня** // Бацькаўшчына. №46—47 (530—531). 27 лістапада 1960. С. 1—2.

**Кушаль, Ф. Да 36-х угодкаў Слуцкага Паўстаньня** // Бацькаўшчына. №47—48 (329—330). 25 лістапада 1956. С. 1, 7.

**Кушаль, Ф. Да 42-х угодкаў Слуцкага Паўстаньня** // Бацькаўшчына. №15 (599). 2 сьнежаня 1962. С. 1—2.

**Кушаль, Ф. Да ведама беларускіх вайскоўцаў** // Беларус. №1. 20 верасьня 1950. С. 2.

Галоўны ўрад ЗБВ пераехаў з Амэрыканскай акупацыйнай зоны ў ЗША, Нью-Ёрк.

**Кушаль, Ф. Дзе няма ахвяраў — няма й перамогі. Да ўгодкаў Слуцкага Паўстаньня** // Бацькаўшчына. №45—46 (431—432). 30 лістапада 1958. С. 3, 6.

**Кушаль, Ф. „Змагарныя дарогі“** // Беларус. №75. Сакавік 1962. С. 3; Бацькаўшчына. №9 (593). 20 травеня 1962. С. 4.

Станоўчы водгук на кнігу Кастуся Акулы.

**Кушаль, Ф. Калі б'еецца ў грудзях беларускае сэрца... Да 34-ай гадавіны Слуцкага Паўстаньня** // Бацькаўшчына. №43—44 (225—226). 28 лістапада 1954. С. 1—2.

**Кушаль, Ф. Ліст у рэдакцыю** // Беларус. №58. 30 сьнежаня 1956. С. 8.

**Папраўка да артыкулу „Да 36-ых Угодкаў Слуцкага паўстаньня“.**

**Кушаль, Ф. Магілёўскае паўстаньне [1661 году]** // Бацькаўшчына. №6 (541). 5 лютага 1961. С. 2—3.

**Кушаль, Ф. Мае ўспаміны пра „Нашу Ніву“** // Беларус. №118. Люты 1967. С. 3.

**Кушаль, Ф. Мой прабег вайсковай службы** // Беларус. №421. Люты 1995. С. 4.

**Кушаль, Ф. Наш кон. Да 44-ых угодкаў Слуцкага Паўстаньне** // Беларус. №92—93. Лістапад—сьнежань 1964. С. 2.

**Кушаль, Ф. Пераможаныя — пераможам! Да 37-ай гадавіны Слуцкага Паўстаньня** // Бацькаўшчына. №47 (381). 24 лістапада 1957. С. 1—2.

**Кушаль, Ф. Польская палітыка на Беларусі ў часе Польска-Бальшавіцкае вайны 1919—1920 гг. (Да 41-ых угодкаў Слуцкага Паўстаньня)** // Бацькаўшчына. №48—49 (583—584). Каталіцкія Каляды 1961. С. 3—6; №1—2 (585—586). Праваслаўныя Каляды 1962. С. 5—6; №3 (587). 28 студзеня 1962. С. 3; №4 (588). 11 лютага 1962. С. 2—3.

**Кушаль, Ф. Слуцкія ўгодкі** // Беларус. №71. Лістапад 1961. С. 1.

**Кушаль, Ф. Тры сустрэчы. Успаміны, прысьвечаныя памяці Мітр. Пратаярэя а. Хв. Данілюка** // Беларус. №101—102. Жнівень—верасень 1965. С. 3.

**Кушаль, Ф. У дваццатыя ўгодкі ганебнага чыну. (Да забойства праф. Вацлава Іваноўскага)** // Беларус. №89. Жнівень 1964. С. 2—3.

*Уступнае слова, публікацыя й бібліяграфія Лявона Юрэвіча*



*Архівалії*

***Ларыса Геніюш***

## ЛІСТЫ ДА НАТАЛЬЛІ АРСЕНЬНЕВАЙ

*Апошнім часам эпістолярная спадчына Ларысы Геніюш прыцягнула да сябе вялікую ўвагу, вынікам чаго стала зьяўленьне адметнай колькасьці яе публікацыяў, падрыхтаваных Міхасём Скоблам[1]. Разам з тым, з часам зьяўляюцца і ўсё новыя не друкаваныя раней лісты паэткі. Да публікацыі эпістолярыяў паэткі далучаецца й БІНіМ, прапануючы чытачам тры лісты Ларысы Геніюш з архіву Натальлі Арсеньневай.*

*Гэтыя эпістолярыі цікавыя зь некалькіх пунктаў гледжаньня. Па-першае, яны з пэрыяду Другой сусьветнай вайны, то бок дастаткова аддаленыя ў часе. Гэта ў некаторым сэнсе ўскладняе іх камэнтаваньне, аднак і робіць асабліва каштоўнымі як сьведчаньні падзеяў у жыцьці Геніюш, ня так добра вядомых. Па-другое, гэта лісты да іншай паэткі, Натальлі Арсеньневай, якая ў той час знаходзілася ў Нямеччыне і, як высьвятляецца, мела даволі шчыльныя прыяцельскія стасункі з Ларысай Геніюш. У публікаваных ніжэй лістах можна знайсьці цікавыя сьведчаньні таго складанага ваеннага часу, міжасабовых дачыненьняў у беларускіх асяродках у Празе ды Бэрліне, дэталяў штодзённага жыцьця абедзьвюх паэтак. Можна толькі пашкадаваць, што гэтых лістоў захавалася так няшмат.*

---

[1] Геніюш, Ларыса. Каб вы ведалі: з эпістолярнай спадчыны (1945—1983) / Укладаньне, прадмова, камэнтар М. Скоблы. Менск: Лімарыюс, 2005. — 447 с.; Геніюш, Ларыса. Збор твораў: у 2 т. / Укладаньне, прадмова і камэнтар М. Скоблы. Менск: Лімарыюс, 2010. Т. 1. Паэзія. — 439 с.; Т. 2. Проза. Лісты. — 469 с.; Геніюш, Ларыса. Лісты з Зэльвы: з эпістолярнай спадчыны (1964—1983) / Укладаньне, прадмова і камэнтар М. Скоблы. Гародня — Wrocław, 2012. — 449 с.



Прага 22/XI 44 г.

Даражэнькая!

Мне так захвалявалі
справы твае пасылкі
што я напішу табе
адразу і адпаведзь. Будзь
так ласкава прышлі
мне адрас у які я ад
пасылаць пісала толькі
хоць дагатую з яго
катарага я магла выслаць.
Я прасіла ужо сваю сваячку
у Бэрліне каб давядалася
ці пошта ці не прыпыніла
перапад, які № пасылкі

Старонка аднаго зь лістоў Ларысы Геніюш. 22.11.1944





Прага, 03.IX.44 г.

Даражэнькая!

Шчыра дзякую табе за лісты. Толькі ўчора ад'ехалі Лапіцкія[2] ў *Francisbad*[3], да гэтага часу ня было мне вольнай хвілінкі, каб табе напісаць, асабліва апошнія дні, бо ж ведаеш, як яно перад ад'ездам. Шкада мне іх крыху, але запасьліся мукою і інш., дык нeяк будуць працаваць і жыць. Пакінуць тут іх ніяк не хацелі. У мінулы панядзелак паслала я табе нейкія драбніцы, але на *Forst*[4]. Ці ты пакінула хоць там адрыс? Даруй, але пішаш дурніцы аб грашох, выглядала б гэта, што за рэчы, якія маю ў дома недзе даўно купляныя, буду ад Цябе браць грошы, а чаравікі, што я табе паслала, яны не асабліва важныя. Вось калі твой муж ня курыць, дык прышлі мне за іх пачку папяросаў, бо іначай, бачу, ад Цябе не адчэпісься. У аднэй бутэлечцы ляк на чаравікі (пашмаруй два разы), у другой гліцэрына табе на рукі. Калі дастану болей нітак, дык прышлю табе яшчэ. Ага, напішы ці чаравікі добрыя, а то тут мая сьнягоўцы наш шовец блізо такой вялічыны, дык вазьму табе, каб ня мерзла зімою. Калі туфлі малыя, дык памяняй іх, альбо прадай, а мне хутчэй абвядзі на памер сваю ножку і прышлі ў Прагу. З рукой мне крыху лягчэй, толькі яшчэ пагана ўначы. Ты мяне нічым не затрудняеш, нешта старацца для Цябе — гэта мне радасьць, ды ўрэшце я табе нічога і не стараюся. У нас тут мусіць ніхто з беларусаў не застанецца акрамя пару асоб. Сядуры[5] тваю просьбу і з дадаткам да яе ад сябе перадам. Між іншым, жыве ён у Русака[6] і зь яго незадаволены, ня ладзіць з Малевічыхай і г. д. У нас ён быў толькі раз.

---

[2] Маецца на ўвазе сям'я праваслаўнага сьвятара Мікалая Лапіцкага (1907—1976), якую складалі, акрамя самога айца, матушка Валянціна ды дзеці Лёля й Жорж. Пра прыезд Лапіцкіх у Прагу Ларыса Геніюш згадвае ў сваёй „Споведзі“. Гл.: Геніюш, Ларыса. Выбраныя творы. Менск: Беларускі кнігазбор, 2000. С. 310.

[3] Маецца на ўвазе Franzensbad — чэскія Францішковы Лазьні — курортны горад у Рудных гарах у сучаснай Чэхіі, недалёка ад гораду Хеб (раней — Эгер) ды сёньняшняй мяжы зь Нямеччынай.

[4] Форст — горад у Нямеччыне ў зямлі Брандэнбург, дзе ў лягеры пасьля эвакуацыі зь Беларусі й кароткага побыту ў Кёнігсбэргу Натальля Арсеньнева з сынам правяла каля месяца.

[5] Пісьменьнік Уладзімер Сядура-Глыбінны ў згаданы час знаходзіўся ў Празе, адкуль пазьней перабраўся ў Нямеччыну.

[6] Маецца на ўвазе **Васіль Русак**, які ад 1922 г. жыў у Чэхаславаччыне. Ад 1931 г. — кіраўнік Беларускага нацыянальнага камітэту ў Празе.



Група беларускіх пісьменьнікаў і дзеячаў у Менску ўлетку 1944 г., у дні Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Зьлева направа: Юрка Віцьбіч, Ларыса Геніюш, Кастусь Езавітаў, Натальля Арсеньнева, Андрэй Чэмер

Так што жывеш у Бэрліне[7], паміма тваіх запэўненьняў, што нічога супраць ночных атракцыяў[8] ня маяш, зусім мне не падабаяцца. Перад атрыманьнем апошняга ліста сьнілася мне, ну але не напішу лепш, а то можа яшчэ будзеш думаць і баяцца. Я вельмі цешуся, што твой муж разом, толькі як успомню гэты кажух... Даражэнькая, там запытайся ў Езавітава[9], ён табе раскажа, як гэта было, усяму вінават гэты „пыжон" Сяднёў[10]. Адно што меў, гэта партфэль і кажух уцякаючы з вагону, і то не дагледзяў. Урэшце, было гэта цяжка, бо груба выгналі нас перад самым адыходам цягніка[11], дык сапраўды чалавек толькі думаў, каб сам не застаўся на пацеху партызанам.

Урэшце, як я пісала, ёсьць у нас два пальты, пішы, ці прыслаць? Крыху часу я прабыла ў атмасфэры матушкі Лапіцкай і інш. беспасярэдня з апалонікам у руццэ, дык цяпер цешуся, што буду ізноў сама.

Касмовіч[12] прывёз мне мой мэдальён. Зараз ня было мяне ў хаце, тым лепш. Бачыш, я ўсё думала, як недзе пад Барысавам ляжыць забіты малады ахвіцэр, засыпаны зямлёй і абрызганы кроўю і як зь ім на роднай зямлі застанецца і нешта ад мяне, бачыш, бачыш, а ён, гэты „герой", быў першы, які сюды ўцёк... Ці ж сапраўды беларускі герой — гэта яшчэ толькі фантазыя? — Не, урэшці я мяркую куды лепш, што Касмовіч жыве...

Скуль у „Раніцы"[13] столькі работы? — Дык жа там нехта ёсьць з старых і новых? Пытаюся таму, што хачу, каб ты прыехала сюды. Праўда „атракцыяў" Тваіх „любімых" тут, дзякаваць Богу, няма, але і плакаць табе тут ня дам.

Я таксама ня пішу, найгорай тое, што мусялі б старацца, бо „канкурэнцыя" ўжо, брат, паважная...

[7] Натальля Арсеньнева з сынам Уладкам перабралася ў Бэрлін для працы ў газэце „Раніца" недзе ў жніўні 1944 г.

[8] Тут маюцца на ўвазе, відавочна, начныя налёты авіяцыі на Бэрлін.

[9] Ваенны й грамадзка-палітычны дзеяч Кастусь Езавітаў (1893—1946) на Другім Усебеларускім кангрэсе быў абраны ў склад БЦР і ўвосень 1944 г. знаходзіўся ў Бэрліне разам з усёй арганізацыяй.

[10] Маецца на ўвазе Масей Сяднёў, які ў 1943 г. разам з бацькамі выехаў на Захад. Жыў у Беластоку, працаваў карэктарам у „Новай дарозе", у Беларускім камітэце.

[11] Пра гісторыю з кажухом Кушаля Ларыса Геніюш згадвае ў сваёй „Споведзі": *„Назаўтра ранічкай мы былі ўжо на вакзале. Посьвядкі аб дэзінфэкцыі мы зь Езавітавым проста купілі. Занялі мы цэлае купэ. Яшчэ да нас прыселі землякі, і цягнік на адыходзе. Тут я замерла, убачыла Сьцяпанава, а з ім нямецкія салдаты, якія напалі на нашае купэ, з крыкам „раўс русішэ швайн"* (ням. heraus russisches Schwein — вон, руская сьвіньня) *усіх нас выкінулі! А цягнік адыходзіць! Даў мне з сабою Кушаль, каб перавезла яму, даўгі кажух, а ў мяне яшчэ рэчы. Дала я кажух Сяднёву, паэту, бо ён нічога з сабою ня меў. Усе кінуліся да другіх вагонаў, хто куды. Цягнік рушыў. На дручку вісеў Кушалеў кажух, а ледзь жывы Сяднёў ехаў на буфэрах. Ну й ну..."* (Геніюш, Ларыса. Выбраныя творы... С. 304—305).

[12] Маецца на ўвазе Дзьмітры Касмовіч (1909—1991), вайсковы й грамадзкі дзеяч. З пачаткам нямецкай акупацыі ён кіраваў аддзелам забясьпечаньня менскай управы й менскай паліцыяй. У 1941—1943 гг. выконваў абавязкі інспэктара дапаможнай паліцыі прыфронтавай зоны групы армій „Цэнтар". Браў актыўны ўдзел у беларускім руху, удзельнічаў у Другім Усебеларускім кангрэсе. Быў адным зь лідэраў Беларускай незалежніцкай партыі.

[13] Газэта „Раніца" выдавалася ў Бэрліне у 1939—1945 гг. У розны час яе рэдагавалі Фабіян Акінчыц, Вітаўт Тумаш, Мікола Шкялёнак, Станіслаў Грынкевіч-малодшы. Пэрыядычнасьць — звычайна раз на тыдзень. Наклад — да 12 тыс. асобнікаў, выйшла 233 нумары, распаўсюджвалася пераважна на тэрыторыі Нямеччыны, Польшчы, Чэхіі, Прыбалтыкі.

А покуль горача цалую Цябе і здараўлю Тваіх

Ларыса

P.S. Вітай ад мяне мужа і сыночка і пішы, што патрабуеш і як наогул жывецца?

Твая Г.

Прага 28.IX.44 г.

Мілая і даражэнькая!

Цешуся, што можаш пісаць і што пішаш, мяне нешта здушыла за грудзі і не магу даць... Затым маю прыкрасьць, мой злосны, эгаістычны і дарагі „сужэнець“ мусіць ехаць недзе ў фабрыку з Прагі[14]. Мы, як ужо разумееш, сумныя і маўчымо... Пакуль што стараямся быць усё разам — часамі трымаямся доўга за рукі і цалуямся, як калісьці даўно. Гэтыя апошнія сумныя дні для нас нейкія дарагія і прыгожыя, нешта як восень, ведаеш, што зараз прыйдзя немінуча марозная і нямілая, даўгая зіма. Бачыш, цяпер то думаю напэўна мяне адведаеш, вугля маю даволі і ў хаце будзя ў нас цёпла. Сьпімо пакуль што як суслы і хлеба ў нас хапае. Толькі апошняя „хмара“ крыху нас зьбіла градам, але нічога, Янъчка[15] будзя ў Пратэктарацe[16], і я буду да яго часта езьдзіць.

Я рада, што прыйшла пасылачка. Табе шчыра дзякую за папяросы, крыху мне Цябе жаль, што Ты іх паслала. У нядзелю я пачаставала імі Прэзыдэнта[17], а Янъчка дзівіўся, скуль у мяне папяросы. Цяпер падзогваюся зь ім і даю яму на 5 ці па аднэй. Даражэнькая, не пранімайся вельмі Ільляшэвічам[18], ён і маіх вершаў ня друкуе, і сваіх не, гэта арыгінал. Аднак апошні твой верш вельмі мілы. Ці была ты ўжо ў братавай[19]? Напішы мне, што яшчэ патрабуяш, ну, бязумоўна, калі дастану, дык прышлю. Я чула, што „Раніца“ ўпіваяцца. Ты, дарагая, бязумоўна, не, але іншыя, ей якоя гора народнае. Ільляшэвіча вітай, а места сумаваць раз аж яго добра накрылі.

Пішы, няхай хоць ведаю, што жывая і здаровая.

Цалую цябе шчыра і моцна. Ларыса

Прага, 20.XI 44 г.

Даражэнькая!

Мяне так знэрвавала справа Твае пасылкі, што я не магла Табе адразу і адказаць. Будзь так ласкава, прышлі мне ліста, у якім я аб пасылцэ пісала, можа, хоць дачытаюся зь яго, каторага я магла выслаць. Я прасіла ўжо свайго сваяка ў Бэрліне, каб даведаўся на пошце, ці не прыйшоў пераказ, які № пасылкі і на сколькі яна застрахована, бо я як на злосьць згубіла квіта (можа, яго яшчэ мая пазнанскі Русак[20]). Гэта,



Натальля Арсеньнева з бацькоўскай сям’ёй

[14] У гэты час Янка Геніюш выехаў на працу на фабрыцы. Ларыса Геніюш згадвае ў „Споведзі“: *„Перад гэтым яшчэ за пайгода прыйшоў да нас опа (бацька фраў Піпэр). Муж быў на працы. Ён пачаў мне даводзіць, што цяпер такі час, што лекары працуюць і з лапатамі й што яго зяць бясьсільны ў гэтым выпадку нам памагчы, што мужа маяго загадалі пасьлаць у лягер працоўных на Мараву, у Куціны, куды перанесьлі нейкую авіяфабрыку з Аўстры“* (Цыт. паводле: Геніюш, Ларыса. Выбраныя творы... С. 314).

[15] Маецца на ўвазе муж Ларысы Геніюш Янка (1902—1979).

[16] Маецца на ўвазе Пратэктарат Багеміі й Маравіі — дзяржаўнае ўтварэньне, заснаванае Трэцім Рэйхам на акупаваных этнічных чэскіх тэрыторыях.

[17] Хутчэй за ўсё маецца на ўвазе Прэзыдэнт БЦР Радаслаў Астроўскі (1997—1976).

[18] **Хведар Ільляшэвіч** (1910—1948), грамадзкі дзеяч, журналіст, пісьменьнік. Падчас нямецкай акупацыі ў Беластоку кіраваў Беларускім камітэтам, рэдагаваў штотыднёвік „Новая дарога“. У ліпені 1944 г. выехаў у Бэрлін, працаваў у рэдакцыі газэты „Раніца“, у 1944 г. выдаў восем кніг з сэрыі „Народная бібліятэчка“.

[19] Маецца на ўвазе жонка памерлага ў 1942 г. брата Натальлі Арсеньневай, які жыў у Ляйпцыгу.

[20] Маецца на ўвазе **Аляксандар Русак** (1907—1957), грамадзкі дзеяч, інжынэр. У 1934 г. скончыў Познанскі ўнівэрсытэт, а ў 1939—1941 гг. быў ⇨

ведаяш, для мяне трагэдыя. Пасьля яшчэ адна рэч. Сядура патрабаваў ад мяне кніжку Ясеніна нейкага Гуцькі[21], дык я ўжо Табе пісала, усе кнігі і мае фатагр. засталіся ў кума, ён іх павёз у Беласток. Ведаю, што ён ўжо на гэтай старане. Выяхаў з фабрыкай, дык можа захапіў. Сапраўды была мая віна, што я гэныя рэчы ўзяла, а апрача таго нейкая няшчасьця іх прасьледуя. Ну, аб гэтым годзя. Думаю, што ты ўжо вярнулася спакойная і адпачыўшая. Я на гэтым тыдні хачу паехаць да Яначкі, але ўсяго на пару дзён. Ага, што да пасылкі, то яна высланая на Цэнтральную Раду, на *Franz Kuschel*. Чуюся няважна і без пардону ірву адносіны з большасьцю беларусаў, за адно надаела „мяшчанства“, за другое трэба публіку крыху вучыць. Праскі Русак[22] чаўпе на мяне самыя дзікія рэчы, але ўрэшці дабяруся і да яго. Між іншым, выслалі Яначку, здаецца, дзякуючы такім-жа „дарагім“ земляком. Апошня мы разышліся і з Станкевічам[23] ён усё-ж ліс. Ты недзя бярэшся за галаву, але глядзі, сколькі мне застаецца: думкі, успаміны, зіма, муж, сын, надзея, недзі бацькі і суродзічы, а ўрэшце ты, Тумаш[24], Адамовіч[25]. Ці-ж мала. Цікавей, шмат цікавей вея вецер на вуліцах Прагі, чымсі нешта гавора Сядура ці нехта другі.

А пакуль што бывай

Цалую цябе моцна. Твая Ларыса.

*Падрыхтоўка да друку й камэнтары Натальлі Гардзіенкі*

⇨ заснавальнікам і старшынём Беларускага камітэту ў Познані. Улетку 1941 г. арганізаваў Беларускі нацыянальны камітэт у Гародні. У 1942 г. у Баранавічах заснаваў Адміністрацыйна-гандлёвую школу й стаў яе першым дырэктарам. Заснаваў Арганізацыю гандлёвых і прамысловых прадпрыемстваў. У 1943 г. — бурмістар Баранавічаў, удзельнік Другога Усебеларускага кангрэсу. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У паваеннай Нямеччыне быў арганізатарам Беларускага лягеру ў Рэгенсбургу.

21 Магчыма, маецца на ўвазе Уладзімер Дудзіцкі.

22 Маецца на ўвазе Васіль Русак.

23 Маецца на ўвазе Янка Станкевіч, які ў 1944 г. перабраўся да сям'і ў Прагу.

24 Зь Вітаўтам Тумашам, рэдактарам першай кнігі паэзіі Ларысы Геніюш, паэтка падтрымлівала кантакты амаль усё жыцьцё.

25 Пра ліставаньне Антона Адамовіча з Ларысай Геніюш у той час можна даведацца зь ягоных лістоў да Натальлі Арсеньневай: Адамовіч, Антон. Лісты да Натальлі Арсеньневай 1944—1945 // Запісы БІНіМ. №33. Нью-Ёрк—Менск, 2010. С. 121—216.





Жыцьцё

Жыцьцё — як бярозавы сок,
Жыцьцё — як салодкая брага:
П'еш, п'еш —
і, маўляў хто урок,
Шчэ горшая чуецца смага.
Ледзь верасень, спрытны каваль
У медзь закуе даляччыні, —
Нам хочацца ўжо, каб трава
Ізноў зелянела ў лагчынах.
Ледзь цёплаю сіняй імгльне
Вясна на марцовым рызманьні
І вецер пазьлізвае сьнег, —
Зноў сьніцца нам восень, туманы
Адразу жадаем абняць
Мы ўсе (не пакінуць нічога!):
Прасфуяў каласься, і сьнег,
І бездані неба сівога.
З кульгавай, цынавай нудой
Сустрэцца цяпер цяжкавата.
Не звіць ёй між намі гнязда,
Калі зноў на вуснах — гармата,
Калі не ўтаймуеш бяды,
Хоць сэрца жывое ёй вынмі,
А лёс — што ізноў на гады
Сыноў разлучыў із Радзімай...

Рукапіс верша Натальлі Арсеньневай

***Алесь Карповіч***

# МАТЭРЫЯЛЫ ДА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ МУЗЫКІ

### Храналёгія[1]

**Дагістарычная пара.** Магічныя абрады з музыкай, песьнямі й танцамі ў чэсьць багоў пры першабытна-патрыярхальным ладзе старажытных славянаў.

**IX–XII стагодзьдзі.** Пэрыяд гераічна-эпічнага музычнага мастацтва пры княжых дварох у часе існаваньня самастойных княстваў[2].

— Паэмы й гістарычныя песьні (аб княгіні Рагнедзе, князю Ізяславу, Усяславу Чарадзею, „Слова аб палку Ігаравым“, песьня пра абарону горада Крычава ад татарскага нападу).

Манэра выкананьня — мэлядычная рэчытацыя з інструмэнтальным суправаджэньнем (гусьлі).

Дзейнасьць выканаўцаў паэмаў і гістарычных песьняў — баянаў.

— Першае знаёмства з інструмэнтальнай музычнай культурай праз гандлёвыя зносіны з Поўначчу, Поўднем, Захадам і Ўсходам.

— Дзейнасьць першых складальнікаў і выканаўцаў беларускага народнага фальклёру — вандроўных музыкаў (скамарохаў, валачобнікаў і дудароў).

Сатырычныя сцэны зь пяяньнем і музыкай, жартоўныя гульні й танцы, валачобныя дударскія песьні ў суправаджэньні дуды, дудкі, жалейкі й бубна — як рэпэртуар вандроўных музыкаў.

— Першыя аўтары беларускай культавай музыкі (мэлёдыі да акафістаў, трапароў, кандакоў) — сьв. Прадслава-Афрасіня (†1173), сьвятары — Кірыла Тураўскі (†1182), Клімэнт Смаляціч (†1147), Аўрам Смаленскі.

[1] Арыгінальны тэкст быў зроблены ў выглядзе табліцы й надрукаваны лацінкаю. Дата падпісаная ад рукі: *„Верасень 1950 г.“*

[2] Тут і далей вылучана Алесем Карповічам.





Дзейнасьць старцаў-лірнікаў, выканаўцаў духоўных вершаў і псальмаў як рэакцыя царквы на мастацтва вандроўных музыкаў.

**XIII—XVII стагодзьдзі.** Шырокае разьвіцьцё і ўдасканаленьне музычнага майстэрства ў пару існаваньня Вялікага Княства Літоўскага.

— Пранікненьне ў Беларусь заходнеэўрапейскай музыкі, яе прадстаўнікоў-выканаўцаў і музычнага інструмэнтарыю (трубадуры, майстарзынгеры зь лютнямі, скрыпкамі, флейтамі, арфамі).

**1392.** Кароль і вялікі князь Ягайла кліча да сябе ў Кракаў высокакваліфікаваных беларускіх музыкаў і сьпевакоў (паводле хронікі Яна Длугаша — „Historia Polonica“, або „Opera omnia“).

— Пачатак прафэсіяналізацыі беларускага царкоўна-музычнага мастацтва. Рэгенты, харысты, вучыцелі сьпеву й музыкі на службе ў царквы.

Пачатак партэснага (шматгалосага) царкоўнага пяяньня па нотах і з удзелам дырыгента.

— Пачатак музычнай адукацыі ў акадэміях, школах і манастырох.

— Першыя зборнікі малітваў і рэлігійных песьняў на сюжэты з новага запавету й з жыцьця сьвятых (багаслоўнікі).

**XV стагодзьдзе.** Новыя формы мастацка-культавай практыкі: школьная (вэртэпная) драма ў каталіцкай царкве й — пазьней — містэрыя ў праваслаўнай. Пранікненьне ў іх народна-песеннага элемэнту ў выглядзе інтэрмэдыяў.

**XVI стагодзьдзе.** Імпарт італьянскай музыкі пад уплывам каралевы Боны й ейных прадстаўнікоў у часе княжаньня вялікага князя Жыгімонта II (1506—1548)[3].

— Разьвіцьцё хатняга музычнага выканаўства, часткова на беларускім народным песенным матэрыяле.

— Пачатак знаёмства з клявішнымі музычнымі інструмэнтамі (клявэсін, сьпінэт, візьдзінал).

— Пашырэньне дзейнасьці вандроўных музыкаў. Яны аб’ядноўваюцца ў карпарацыі-цэхі.

[3] Маецца на ўвазе Жыгімонт I Стары, якога ў беларускай гістарыяграфіі першай паловы XX ст. часам называлі Жыгімонтам II. Далей таксама згадваюцца кіраўнікі ВКЛ у адпаведнасьці з гэтай традыцыяй.

**1517.** Францішак Скарына ў прадмове да біблійнай кнігі Сыраха заклікае беларускую моладзь паважна вывучаць музыку побач з іншымі навукамі.

**1526.** Пачатак пашырэньня вайсковых песьняў у сувязі з увядзеньнем вайсковай павіннасьці ў Беларусі.

— Нараджэньне музычнай інтэлігенцыі ў часе княжаньня Жыгімонта III Аўгуста (1548—1572): кампазытар-сьпявак Сымон Пятка, сьпевакі Саўка, Табіяшак, Юры Вярбковіч, флейтысты — Андрэй Кулікоўскі, цымбалісты — Правінскі.

— Цэхі вандроўных музыкаў паступова губляюць сваё значэньне. Прычыны гэтага — перасьледаваньне царквы й канкурэнцыя музыкаўпрафэсіяналаў.

**XVI—XVII стагодзьдзі.** Паўстаньне й пашырэньне беларускага лялечнага тэатру батлейка. Рэпэртуар — п'есы біблійнага зьместу з інтэрмэдыямі на фальклёрным матэрыяле.

**XVIII стагодзьдзе.** Заняпад беларускай прафэсійнай музычнай культуры ў сувязі з запанаваньнем польскіх уплываў у Беларусі й пазьнейшага пераходу пад уладу Масквы. Шырокае разьвіцьцё народнага мастацтва.

— Высакаякасныя ўзоры музычнага фальклёру таго часу й ягоны шырокі ідэёвы дыяпазон.

Удасканаленьне інструмэнтальнага выканаўства (барысаўскія дудары, віцебскія лірнікі, цымбалісты-віртуозы, як Іван Гузілаў з Магілёўшчыны).

— Разьвіцьцё народнай ансамблевай музыкі — скрыпка, цымбалы, бубен (т.зв. траістая музыка).

**1788.** Нарадзіўся выдатны этнограф і дасьледнік беларускага песеннага фальклёру Іван Насовіч (†1877).

**XIX стагодзьдзе.** Пэрыяд зьбіраньня, вывучэньня й гарманізацыі беларускіх народных песьняў.

**1804.** Нарадзіўся расейскі кампазытар беларускага паходжаньня Міхаіл Глінка (Смаленшчына).





**1807.** Выдатны зборнік гарманізацыяў беларускіх народных песьняў Марыі Чарноўскай.

— Нарадзіўся пісьменьнік Вінцук Дунін-Марцінкевіч, аўтар тэксту першай беларускай опэры „Сялянка“ Манюшкі, а таксама іншых опэраў-зынгшпіляў „Пінская шляхта“, „Гапон“, „Залёты“, „Вечарніцы“ (†1844).

**1809.** Паэтам Янам Баршчэўскім напісаны верш „Ах, чым жа твая, дзеванька, галоўка занята“, які стаў тэкстам аднаго зь першых беларускіх рамансаў.

**1818.** Выданы зборнік гарманізацыяў беларускіх народных песьняў Ігната Шыдлоўскага (Варшава).

**1819.** Нарадзіўся польскі кампазытар беларускага паходжаньня Станіслаў Манюшка (Меншчына).

**1837.** Напісаны „Тарас на Парнасе“, які стаў сюжэтам для беларускай камічнай опэры кампазытара Аладава (1925 г.).

**1843.** Кампазытар-дылетант Антон Абрамовіч зьмяшчае ў часапісе „Rocznik Literacki“ (Пецярбург) артыкул: „Некалькі мэлёдыяў беларускіх народных песьняў, запісаных з акампанэмэнтам п'яніна“ з далучэньнем 4 мэлёдыяў песьняў-рамансаў.

**1844.** Нарадзіўся выдатны этнограф і зьбіральнік беларускіх народных песьняў Мікола Нікіфароўскі (†1910).

**1846.** Кампазытар-дылетант Антон Абрамовіч піша сымфанічную фантазію „Камарынская“ на тэму беларускага народнага танцу, запісанага ім ў сяле Камарына (Смаленшчына).

**1852.** Пастаноўка першага беларускага твору вялікай формы — опэры-зынгшпіля „Сялянка“ на сцэне маленькага тэатру. Лібрэта — Дуніна-Марцінкевіча, музыка — Манюшкі й часткова Крыжаноўскага.

**1855.** Нарадзіўся выдатны этнограф Аўдакім Раманаў.

**1857.** Памёр у Бэрліне кампазытар Глінка.

**1861.** Нарадзіўся беларусазнавец, аўтар выдатнай працы аб Беларусі Яўхім Карскі.

**1863.** Пісьменьнік Сыракомля й кампазытар Лапатынскі пішуць п’есу са сьпевамі й музыкай.

**1871.** Славіст Пётра Бяссонаў выдае ў Маскве зборнік тэкстаў беларускіх народных песьняў.

**1872.** Памёр Іван Насовіч.

**1881.** Нарадзіўся зьбіральнік беларускага песеннага фальклёру Ўсевалад Ігнатоўскі (†1930)[4].

**1882.** Нарадзіўся народны артыст, пісьменьнік і драматург Усевалад Галубок.

**1884.** Памёр Вінцук Дунін-Марцінкевіч.

**5.12.1886.** Нарадзіўся кампазытар Мікола Равенскі.

**1887.** Этнограф Мікола Раманаў выдае першы том свайго „Беларускага зборніка“[5].

**1896.** Нарадзіўся паэт Міхась Чарот, аўтар тэксту „На Купальле“ Тэраўскага (†1936).

**XX стагодзьдзе.** Стварэньне буйных узораў беларускага прафэсійнага музычнага мастацтва.

**?** Польскі кампазытар беларускага паходжаньня Мечыслаў Карловіч (Вялейшчына) піша „Літоўскую рапсодыю“ для сымфанічнага аркестру, пабудаваную на беларускім песенным матэрыяле.

**2.7.1909.** Нарадзіўся музыказнаўца Алесь Карповіч.

[4] Памылка. Усевалад Інатоўскі памёр у 1931 г.
[5] Памылка. Правільна — Еўдакім Раманаў.





**1910.** Памёр зьбіральнік народных песьняў М. Нікіфароўскі.
— Адбываецца ў Вільні першы паказ музычна-драматычна-балетнай групы Ігната Буйніцкага.

**1911.** Нарадзіўся кампазытар Рыгор Самохін.
— Нарадзіўся кампазытар Алесь Спаскі.
— Кампазытар Янчык піша музыку да верша Янкі Купалы „Не пагаснуць зоркі ў небе“, якая пазьней стане беларускім нацыянальным гімнам.

**1912.** Этнограф Раманаў заканчвае выдаваць „Беларускі зборнік“ (9 тамоў).

**1915 (?)** Кампазытарка М. Кімон піша апэрэту „Залёты“ на тэкст Дуніна-Марцінкевіча.

**1917.** Кампазытар Уладзімер Тэраўскі арганізуе ў Менску беларускі народны хор.

**1919.** Адчыненьне ў Магілёве музычнай школы — першай музычна-асьветнай установы ў Беларусі ў пасьлярэвалюцыйны пэрыяд.
— Арганізацыя ў Менску опэрнай студыі.

**1920.** Кампазытар Тэраўскі выдае ў Менску трохгалосны сьпеўнік з №25.
— Кампазытар Туранкоў піша „Ўсходнюю сюіту“ для сымфанічнага аркестру.

**1922.** Кампазытар Тэраўскі выдае ў Бэрліне шырока вядомы зборнік 100 харавых твораў „Беларускі Лірнік“.
— Ён жа піша музыку да п’есы Чарота „На Купальле“.

**1923.** Народны камісарыят асьветы БССР склікае ў Маскве „Беларускую песенную камісію“, у склад якой уваходзілі кампазытары Грыневіч, Прохараў, Аладаў, Равенскі, Чуркін, Ягораў, Леўчанка, Нікалаевіч, Мацісон, Іпалітаў-Іванаў, Грачанінаў, Нікольскі, заданьнем якой была гарманізацыя беларускіх народных песьняў.
— Кампазытар Мікола Равенскі выдае ў Менску зборнік беларускіх народных песьняў.

— Памёр зьбіральнік беларускага народнага фальклёру Міхал Федароўскі.

**1924.** Адчыненьне Беларускага дзяржаўнага музычнага тэхнікуму ў Менску.

**1925.** Кампазытар Мікола Аладаў піша камічную опэру „Тарас на Парнасе“.

**1926.** Кампазытар Тэраўскі піша вайсковы сьпеўнік з №30.

**1927.** Пачатак музычнай дзейнасьці ў Заходняй Беларусі хормайстра й зьбіральніка беларускіх песьняў Рыгора Шырмы (Вільня).

— Кампазытар, хормайстар Ягораў і рэжысэр-сьпявак Вячаслаў Сэлях арганізуе ў Менску беларускую харавую капэлу.

— Першы Беларускі дзяржаўны тэатар у Менску пачынае іграць выдатную ролю для разьвіцьця беларускай музычнай культуры. Сымфанічны аркестар тэатру першы раз мясцовымі сіламі выконвае IX сымфонію Бэтховэна. Сіламі актораў тэатру дае першы опэрны паказ у Менску мясцовымі артыстамі — „Русалка“ Даргамыжскага.

**1928.** У Віленскай беларускай гімназіі адбываецца пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы „Вечар славянскай песьні“, якім пачынаецца шырэйшая праца над зьбіраньнем, гарманізацыяй і выкананьнем народнага фальклёру ў Заходняй Беларусі.

— Пачатак дзейнасьці на музычнай ніве кампазытара Канстанціна Галкоўскага, гарманізатара песьняў для хору Шырмы.

— Кампазытар Мікола Шчаглоў піша II сымфонію.

— Пачатак музычнай дзейнасьці кампазытара Валынчыка (Наваградак), гарманізатара беларускіх народных песьняў, аўтара рамансаў і музычнай казкі „Чорт і баба“ на словы Казіміра Сваяка.

**1929.** Кампазытар Галкоўскі піша опэру „Сымон-музыка“ (няскончаная) паводле паэмы Якуба Коласа.

— Кампазытар Чурнік распачынае працу над гераічнай опэрай „Паўстаньне“ (тэкст Шастакова), якая асталася няскончанаю.

— Кампазытар Аўген Ціхоцкі піша I сымфонію.

— Кампазытар Грачанінаў піша „Беларускую рапсодыю“ для сымфанічнага аркестру й сола для скрыпкі з фартэпіяна на мэлёдыю беларускай калядкі „Ўва Ярдані“ — „Дар Белай Русі“.





— Выданы „Беларускі песеньнік Рыгора Шырмы“ (Вільня).

**1930.** Кончыў самагубствам зьбіральнік песьняў Усевалад Ігнатоўскі.

— Кампазытар Мікола Равенскі піша опэру „Браніслава“ на тэкст Дубоўкі (няскончаная).

**1931.** Памёр Яўхім Карскі.

**1932.** Заснаваньне Саюзу савецкіх кампазытараў у БССР.

— Адкрыцьцё Беларускай дзяржаўнай кансэрваторыі ў Менску.

— Кампазытар Туранкоў піша першую рэдакцыю опэры „Кветка шчасьця“, тэкст Чарота, якая з палітычных матываў не была дапушчаная на сцэну. Ён жа піша струнны квартэт на беларускія тэмы.

— Пачынае працу на беларускай музычнай ніве прафэсар Васіль Залатароў як кампазытар і пэдагог маладога пакаленьня беларускіх кампазытараў (Багатырова, Падкавырава, Самохіна, Лукаса, Алоўнікава й інш.).

**1933.** Кампазытар Мікола Аладаў піша араторыю „Над ракой Арэсай“ на словы Янкі Купалы.

— Адчыненьне опэрнага тэатру ў Менску (опэрай „Кармэн“ Бізэ).

**1933?** Памёр кампазытар-аматар Альбін Стаповіч[6].

**1934.** Сьпявак Міхась Забэйда-Суміцкі, тэнар, вяртаецца з Італіі на Заходнюю Беларусь.

— Менскі радыёцэнтар пачынае сыстэматычна выконваць у сваіх канцэртах творы беларускіх кампазытараў.

**1936.** Пачатак тэатральнай харэаграфічнай дзейнасьці танцора Янкі Хвораста — кіраўніка балетнай часткі канцэртаў Р. Шырмы.

— Кампазытар Тэраўскі арыштаваны НКВД і закатаваны насьмерць[7].

[6] Недакладнае сьцьверджаньне. Музыколяг Альбін Стаповіч памёр 18 сьнежня 1934 г.

[7] Памылковае сьцьверджаньне. Уладзімер Тэраўскі быў арыштаваны й расстраляны ў Менску ў 1938 г.

— Кампазытар Самохін піша трыё *E-moll* для фартэпіяна, скрыпкі й віялянчэлі.

— Кампазытар Чуркін піша дзіцячую опэру „Шчасьлівая дарога“ на казачнае лібрэта Александровіча.

— Расстраляны НКВД Міхась Чарот, аўтар тэксту „На Купальле“ Тэраўскага й „Кветкі шчасьця“ Туранкова[8].

— Кампазытар Туранкоў піша „Рапсодыю“ на беларускія тэмы для сымфанічнага аркестру.

**1937.** Заснаваньне Беларускай дзяржаўнай філярмоніі ў Менску.

— Заснаваньне аркестру беларускіх народных інструмэнтаў філярмоніяй.

— Кампазытар Анатоль Багатыроў піша сымфонію й сымфанічна-вакальную паэму „Казка пра мядзьведзіцу“ (паводле Пушкіна).

— Кампазытар Падкавыраў распачынае працу над опэрай „Як гартавалася сталь“ паводле рамана Астроўскага.

— Кампазытар Крошнэр піша балет „Салавей“ паводле аповесьці Зьмітрака Бядулі.

— Кампазытар Казура піша польскую опэру „Powrót“, збудаваную на элемэнтах беларускай народнай песьні.

— Кампазытар Мікола Шчаглоў піша опэру „Кацярына“ на гістарычны сюжэт (незакончаная).

— Кампазытар Багатыроў піша опэру „Дрыгва“ (канчатковы назоў — „У пушчах Палесься“) паводле повесьці Якуба Коласа.

— Кампазытар Ціхоцкі піша опэру „Міхась Падгорны“.

**10.3.1939.** Адчыненьне Вялікага тэатру опэры й балету ў Менску (опэрай „Міхась Падгорны“ Ціхоцкага).

— Кампазытар Чуркін піша апэрэту „Кок-сагыз“, лібрэта Ўшакова й Жаркоўскага.

— Кампазытар Ціхоцкі піша II сымфонію.

— Памёр тэарэтык музыкі, пэдагог кансэрваторыі Мацісон, аўтар падручніка па тэорыі музыкі.

— Кампазытар Туранкоў перарабляе сваю опэру „На Купальле“, не дапушчаную на сцэну, у опэру „Кветка шчасьця“ (лібрэта: Барысевіч, Броўка, Глебка).

[8] Памылковае сьцьверджаньне. Міхась Чарот быў арыштаваны ў студзені 1937 г. і расстраляны 29 кастрычніка таго ж году.





— Кампазытар-піяніст Алесь Клумаў піша рад п’есаў для фартэпіяна, выкарыстоўваючы беларускі народны мэляс.

— Кампазытар Аладаў піша „Nonet“ (для 9 інструмэнтаў).

— Дэкада беларускага мастацтва ў Маскве (чэрвень).

**1940.** Беларуская філярмонія ў Менску атрымлівае ўласны будынак для канцэртнай працы.

**1941.** Аднаўленьне першай рэдакцыі опэры Туранкова „Купальле“ ў Менскім тэатры (пры нямецкай акупацыі).

— Выкананьне „На Купальле“ Тэраўскага хорам і салістамі Менскага опэрнага тэатру.

**1942.** Кампазытар Мікола Шчаглоў піша опэру „Лясное возера“ (лібрэта Натальлі Арсеньневай) і музыку да п’есы Герхарта Гаўптмана „Затонуты звон“.

— Канцэртнае турнэ Міхася Забэйды-Суміцкага: Прага, Бэрлін, Лодзь, Познань, Рыга.

— Загінуў у гета тэарэтык музыкі, кампазытар, пэдагог кансэрваторыі Тові Шнітман.

**1943.** Адчыненьне музычнай школы ў Баранавічах.

— Кампазытар Мікола Кляўс піша музыку да п’есы Францішка Аляхновіча „На Антокалі“.

— Выданьне ў Рызе Канстанцінам Езавітавым беларускіх рамансаў Туранкова, Замохіна й інш.

— Трагічна загінулі ў Менску сьпявачка беларускіх песьняў Стэфанія Люскавец і сьпявак-акардэаніст Васіль Савіцкі.

**1944.** Кампазытар Мікола Шчаглоў піша опэру „Ўсяслаў Чарадзей“, лібрэта Натальлі Арсеньневай.

— Арганізацыя ў Менску музычнай школы.

**1947—1949.** Арганізацыя беларускага вандроўнага эстраднага тэатру — „Беларускі тэатар эстрады“ — пад кіраўніцтвам кампазытара Міколы Куліковіча.

**1950.** Кампазытар Алесь Карповіч піша рад рамансаў і „Беларускую рапсодыю“ для фартэпіяна.

## Алесь Карповіч[9]

Кампазытар, музыказнаўца й пэдагог Алесь Карповіч нарадзіўся 2.VII.1909 г. у Горадні. Музычную адукацыю атрымаў у Маскоўскай кансэрваторыі, якую скончыў на гісторыка-тэарэтычным факультэце. Працаваў як загадчык навуковай часткі й дацэнт Беларускай дзяржаўнай кансэрваторыі ў Менску. Пасьля вайны апынуўся ў Заходняй Нямеччыне, дзе ўвесь час да выхаду на рэнту працаваў як выкладчык у музычнай школе г. Ольдэнбургу.

Першыя апрацоўкі беларускіх песьняў і кампазыцыі на беларускую песенную тэматыку адносяцца да гадоў студыяў у маскоўскай кансэрваторыі. У Менску блізка пазнаёміўся з выдатным кампазытарам і зьбіральнікам беларускіх песьняў Міколам Равенскім, ад якога шмат даведаўся аб інтанацыйнай пабудове беларускага песеннага фальклёру й мэтадах ягонага апрацаваньня. На гэтую тэму была пачатая навуковая праца, скончыць якую перашкодзіла вайна. Пошукі ў дзялянцы беларускае музыкі працягваліся і ў часе вайны, вынікам чаго сталася сэрыя нарысаў зь гісторыі беларускае музыкі, якія друкаваліся ў „Беларускай газэце“ ў Менску. Трапіўшы па вайне ў украінскі лягер, шмат працаваў у пэдагагічнай і творчай дзялянках, напісаў шмат рамансаў на словы ўкраінскіх паэтаў, цыкл прэлюдыяў для клявіру ды працягваў працу з апрацаваньнямі беларускіх песьняў.

Вынікам інтэнсіўнай музычнай дзейнасьці й абмену творчымі дасягненьнямі ў пэрыяд цеснай сувязі зь беларускім студэнцкім хорам у Лювэне (Бэльгія) і сустрэчаў з кампазытарам Міколам Равенскім зьявіліся кампазыцыі для фартэпіяна „Полька-Янка“, „Баляда на беларускую тэму“ й рамансы, некаторыя зь якіх запісаныя на кружэлкі („Драўляны дом“, „Вячэрняя песьня“, „Каханьне“ й іншыя).

На кружэлкі запісаныя й харавыя апрацоўкі беларускіх песьняў, зробленыя для беларускага хору „Жалейка“ ў Канадзе. Нямецкім выдавецтвам „Цымэрман“ надрукаваны цыкл расейска-цыганскіх харавых і сольных апрацовак. Вялікай працай для хору й салістаў зьяўляецца кантата „Апокрыф“ на тэкст Максіма Багдановіча.

Зь іншых твораў для вакалу трэба адцеміць рамансы на словы беларускіх паэтаў Сяднёва, Козыра, Буйлы, Случчаніна, Геніюш, Коласа,

[9] Біяграма й бібліяграфія напісаныя самім Алесем Карповічам (пра што сьведчыць ягоны подпіс і дата „1980“), біяграма захавалася ў архіве БІНіМу ў некалькіх машынапісных рэдакцыях. Тут друкуецца паводле найпаўнейшай зь іх.





По.

Да
Ураду Беларускага Інстытуту
Навукі і Мастацтва
Нью Ёрк. З.Г.А.

Прашу залічыць мяне ў лік сяброў Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва. Мае пэрсанальныя дадзеныя і дадзеныя пра мой навуковы /літаратурны, мастацкі/ стаж падаю ніжэй.

Дня 10.III 1952 г.

Алесь Карповіч
/подпіс/

Прозьвішча і імя Карповіч Алесь

Літаратурны /мастацкі/ псэўдонім/ы/

Адрэс Germany (23) Oldenburg i.O. Ohmstede Lager Bar. 22/10

Дата і месца нараджэньня 2.VII.09 GRODNO

Асьвета і эвэнтуальны навуковы /мастацкі/ стаж
Вышэйшая. 15 г.

Навуковая ступень /калі ёсьць/ Дацэнт

У якой галіне навукі /літаратуры, мастацтва/ маеце намер працаваць у Інстытуце Музыказнаўства

Публікаваныя навуковыя /літаратурныя, мастацкія/ творы:
„Нарысы з гісторыі беларускае музыкі“
„Крытычныя артыкулы.
Манаграфіі.

Прыгатаваныя да публікацыі творы
Матэр'ялы да гісторыі беларускай музыкі.
Народнае музычнае жыцьцё старадаўняй Беларусі.
Матэр'ялы з. гісторыі бел. музыкі для „Enciclopedia dello spettacolo“ (Italia)
Музычныя творы

Анкета-заява Алеся Карповіча ў БІНіМ. 1952 г.

Купалы, Арсеньневай, Багушэвіча, Пушчы, Кавыля, Змагара, Клішэвіча, Ясеня, Золака, Крушыны, Танка, Дудзіцкага, Багдановіча, Макаля, Барадуліна; расейскіх паэтаў — Блока, Гумілёва, Сабуравай, Ясеніна; украінскіх паэтаў — Чэрынь, Кізкі, Шаўчэнкі, Ткача, Ігнацюка, Вератнічэнкі, Раб-

чанкі, Олэся, Кіяніна, Палтавы, Ануфрыенкі. Некаторыя з украінскіх рамансаў уваходзяць у рэпэртуар выдатнага ўкраінскага сьпевака М. Мінскага й выдадзеныя з аркестравым суправаджэньнем як кружэлкі.

Заўсёды прываблівал творчую ўвагу кампазытара фартэпіяна, для якога напісаныя 2 санаты, рапсодыя, баляда, нактурны, прэлюдыі, цыкл „Беларускія абразкі“, „Полька-Янка“, 2 санаціны й інш. Амаль ва ўсіх гэтых творах выкарыстаная беларуская песенная тэматыка.

Навукова-дасьледчыя працы й рэцэнзіі надрукаваныя ў „Запісах Беларускага інстытуту навукі й мастацтва“ ў Нью-Ёрку.

Для Алеся Карповіча галоўнае ў музыцы — мэлёдыя. Ягонае творчае *credo* — гэта словы вялікага кампазытара, беларуса па паходжаньні, Міхася Глінкі: *„Найпрыгажэйшыя мэлёдыі стварыў народ. Кампазытар толькі аранжыруе іх“.*

* * *

Гнеўна-выкрывальная „Песьня гусьляра“ — гэта вакальны нумар з музыкі да паэмы Янкі Купалы „Курган“. Песьня напісаная ў рапсадычным вольным стылі (рапсоды — вандроўныя сьпевакі ў старадаўняй Грэцыі). Мэлёдыя пабудаваная на інтанацыях беларускага народнага песеннага фальклёру, часам пераходзіць у рэчытатыў. Рытма-мэтрыка вольная, уласьцівая народнай песьні. Суправаджэньне імітуе брацаньне струнаў народнага інструмэнту гусьляў.

## Бібліяграфія[10]

Усе музыказнаўчыя працы даваеннага пэрыяду згубленыя ў часе вайны.

### Артыкулы й рэцэнзіі ад 1943 г.


1. **Беларуская батлейка** // Шляхам жыцьця. Рыга, 1943.
2. **Выданьне музычных твораў** // Шляхам жыцьця. Рыга, 1943.
3. **Кампазытар Алесь Спаскі** // Шляхам жыцьця. Рыга, 1943.
4. **Кампазытар Рыгор Самохін** // Шляхам жыцьця. Рыга, 1943.
5. **„Лясное возера“** // Раніца. №17—43. Бэрлін, 1943.
6. **Нарысы з гісторыі беларускай музыкі** // Менская газэта[11]. Менск, 1944.


[10] Публікуецца ўпарадкаваны варыянт бібліяграфіі.

[11] У 1944 г. газэта ўжо мела назву ня „Менская“, а „Беларуская“.






7. **Беларускія кампазытары працуюць** // Бацькаўшчына. 29.5.1952.
8. **Кампазытар Мікола Равенскі** // Запісы БІНіМ. №2. Нью-Ёрк, 1952.
9. **Беларуская песьня на міжнароднай арэне** // Бацькаўшчына. Мюнхэн, 1953.
10. **Апошні твор Міколы Равенскага** // Конадні. №2. Нью-Ёрк, 1954.
11. **Да праблемы беларускага нацыянальнага стылю ў музыцы** // Запісы БІНіМ. №1. 1954.
12. **Мы песьнямі ўславім Цябе, Беларусь** // Бацькаўшчына. №1. 1954.
13. **2-і зьезд кампазытараў БССР** // Беларускі зборнік. №4. Мюнхэн, 1956.
14. **Бэрлінская баляда М. Равенскага** // Беларус. №1. 1956.
15. **Памяці М. Равенскага** // Беларус. №7? 1956.
16. **Кніга У. Сядуры „Беларускі тэатар і драма“**.
17. **Кампазытар М. Куліковіч** // Беларус. №177. 1972.
18. **Кампазытар Алесь Карповіч** // Беларус. №177. 1972.
19. **Прадмова да зборніка песьняў Э. Зубовіч „Край мой васільковы“** (1972).
20. Прадмова да зборніка Э. Зубковіч **„12 песьняў“** (1972).
21. **Падручнік „Гісторыя беларускай савецкай музыкі“** // Беларус. №193. 1973.
22. **Беларускія хоры а капэла** // Запісы БІНіМ. №12. 1974.
23. **Можейко „Песенная культура белорусского Полесья“** // Запісы БІНіМ. №12. 1974.
24. **Кампазытар Э. Зубковіч** // Беларус. №223. 1975.
25. **Мухарынская „Беларуская народная песьня“** // Запісы БІНіМ. №15. 1977.
26. **Памяці М. Куліковіча** // Беларус. №254. 1978.


## Дыскаграфія
### Уласныя творы й апрацоўкі

1. **„Драўляны дом“**. 501-B. ZHALEIKA-RECORDS. Канада.
2. **„У саду гуляла“**. 501-B. ZHALEIKA-RECORDS. Канада.
3. **„Марш беларускіх партызанаў“**. 502-A. ZHALEIKA-RECORDS. Канада.

4. **„На выгнаньні“**. 502-B. ZHALEIKA-RECORDS. Канада.
5. **„Восеньская песьня“**. F-4214. Brussels.
6. **„І трэба ж была здарыцца тады“**. F-4213. Brussels.
7. **„Каханая“**. F-4216. Brussels.
8. **„Каханая“**. APL 0965. APON RECORD COMPANY. NEW-YORK.
9. **„Драўляны дом“**. APL 0965. APON RECORD COMPANY. NEW-YORK.
10. **„Балада про Сагайдачного“**, украінская песьня. 2653. APON. NEW-YORK.
11. **„Чупрінци“**, укр. песьня. ME1213-14. ARFA RECORDS. CANADA.
12. **„Журавлі летять“**. ME 1213-13. ARFA RECORDS. CANADA.
13. **„На світанку сину“**. ME 1213-3. ARFA RECORDS. CANADA.
14. **„Лапці“**, бел. песьня.
15. **„Цераз сад-вінаград“**, бел. песьня.

*Падрыхтоўка да друку й публікацыя Марыны Чарнякевіч*



*Архівалії*

***Васіль Быкаў***

# ЛІСТЫ ДА ВІТАЎТА Й ЗОРЫ КІПЕЛЯЎ

*Адна з малавядомых старонак біяграфіі Васіля Быкава — сувязі зь пісьменьнікамі й грамадзкімі дзеячамі беларускай эміграцыі. Зусім натуральна, што лістоўная лучнасьць зь імі ўзмацнілася галоўным чынам у апошнія гады жыцьця Васіля Ўладзімеравіча, калі ён сам вымушана трапіў у становішча эмігранта. Трэба думаць, у асабістых архівах за мяжой захоўваецца не адна памятка ад народнага пісьменьніка Беларусі. Прапануем увазе чытачоў тры лісты Васіля Быкава да Вітаўта й Зоры Кіпеляў, арыгіналы якіх захоўваюцца ў архіве Беларускага інстытуту навукі й мастацтва.*

*У публікацыі захаваны правапіс першакрыніцы.*

*Паводле дамоўленасьці зь БІНіМам арыгіналы лістоў пасьля публікацыі будуць перададзеныя ў хатні архіў пісьменьніка.*

Шаноўны спадар Вітаўт Кіпель!

Як і дамаўляліся, высылаю Вам тры маіх творы, напісаных у апошні час у маёй экзыльнасьці.

Калі надрукуеце, хацеў бы мець хоць адзін асобнік іх.

Са шчырасьцю і прывітаньнем мілай сп. Зоры.

Васіль Быкаў

25 студзеня 1999 г.
Хельсінкі

Мой тутэйшы адрас:
*V. BYKAU*
*Kalkkiihiekantie*
2 c-32
00980 Helsinki-98
*FINLAND*[1]

[1] Вылучаны тэкст выдрукаваны на налепцы, прыклееная да ліста.

Шаноўны спадар Вітаўт,

надта Вы мяне ўсхвалявалі і ўсьцешылі прысланымі кніжкамі, асабліва "Эпізодамі" Вашага пакутніка-бацькі[2]. Чытаў з болем, з захапленьнем, зь няспынным адчуваньнем бяды, якая ўсьселася і не зьлязае з нашага нацыянальнага карку. Дужа-дужа шкада шчырых і гарачых памкненьняў даўніх і цяперашніх найлепшых нашых людзей, якія зьнікаюць у нікуды. У пясок і попел гісторыі...

Але, пэўна, такое нашае наканаваньне, і гэты крыж несьці беларусам аж да скананьня. Але ж — не кінуць!

Шчасьця Вам і ўдачы ў далёкім Заакіяньні.

Сардэчнае вітаньне мілай сп. Зоры.

Будзьце здаровенькія!

Ваш Быкаў (фінскі).

29 сакавіка [1]999 г.

Шаноўная спадарыня Зора,
шаноўны спадар Вітаўт!

Дзякуй Вам вялікі за "Беларускую мемуарыстыку"[3], якую я атрымаў і адразу ж прачытаў. Кніга вельмі цікавая, добра надрукаваная і чытаецца з захапленьнем. Каб такіх кніг было болей! Беларусь павінна ведаць лёсы і справы сваіх апосталаў. У тым ліку і на эміграцыі. М.[ожа] б.[ыць] найлепшыя ўспаміны Натальлі Арсеньневай[4]. І лёсам, і літаратурай. Вялікі дзякуй укладальніку Лявону Юрэвічу[5] і друкару Міколу Прускаму[6]. Буду ўдзячны Вам, калі прышлеце нешта яшчэ. Я тут да канца года. А пасьля будзе відаць.

[2] Маецца на ўвазе кніга ўспамінаў аднаго з заснавальнікаў Беларускага інстытуту навукі й мастацтва Яўхіма Кіпеля (1896—1969): Кіпель, Яўхім. Эпізоды. Нью-Ёрк: выдавецтва газэты "Беларус", 1998. — XVI + 305 с.

[3] Гаворка пра кнігу: Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі / Уклад. і камэнт. Л. Юрэвіча. Нью-Ёрк: БІНІМ, 1999. — 359 с.

[4] Маецца на ўвазе „Аўтабіяграфічны нарыс" паэткі Натальлі Арсеньневай (1903—1997), напісаны на просьбу Вітаўта Тумаша і зьмешчаны ў кнізе "Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі".

[5] Лявон Юрэвіч (н. 1965), гісторык, літаратуразнаўца, бібліёграф, сябра Рады БНР. У 1993 г. пераехаў зь Менску на сталае жыхарства ў ЗША.

[6] **Мікола Прускі** (н. 1927), выдавец, грамадзкі дзеяч, сын стрыечнай сястры Якуба Коласа. Актыўны сябра БАЗА. У 1960—1970-х гг. — актывіст Беларуска-амерыканскага рэспубліканскага клюбу ў Дэтройце. Рэдактар і выдавец пэрыёдыкаў "Беларускі сьвет" (1971—1989), "Беларускі дайджэст" (ад 1993 г.).





Бывайце здаровыя. І посьпеху Вам у беларускай справе.

Ваш Васіль Быкаў

26 вер.[асьня] [1]999 [г.]
Хельсінкі

*Прадмова, падрыхтоўка да друку й камэнтары*
*Ціхана Чарнякевіча*

**Ціхан Чарнякевіч**
*Менск*

# ЭПІСТАЛЯРНЫ АРХІЎ МАСЕЯ СЯДНЁВА

Зборы Масея Ларывонавіча Сяднёва (1913—2001), аднаго з выбітных паэтаў эміграцыі, сталі паступаць у Беларускі дзяржаўны архіў літаратуры й мастацтва (далей — БДАМЛіМ) у кастрычніку 1992 г. Перадаваў іх сам пісьменьнік (трэба адзначыць, што менавіта ў тым годзе Сяднёў быў цалкам рэабілітаваны Вярхоўным Судом РБ, крымінальная справа была спыненая, прысуд, вынесены 3 кастрычніка 1937 г., — скасаваны). Дакумэнты яшчэ да канца года прайшлі першасную апрацоўку, і быў складзены вопіс №1 пэрсанальнага фонду №363 (усяго 132 справы за 1934—1992 гг., вопіс і апрацоўку зрабіла старшы навуковы супрацоўнік архіва Г. М. Жукава).

За колькі гадоў да сьмерці паэт пачаў перасылаць у архіў другую частку сваіх збораў. У 1997—2000 гг. дакумэнты паступалі ад самога Сяднёва, у 2003 г. Сьвятланай Сачанкай былі перададзеныя лісты Масея Сяднёва да яе. У выніку ўтварыўся вопіс №2 (37 адзінак захоўваньня, 434 дакумэнты за 1949—2000 гг.; падрыхтавала вопіс і зрабіла апрацоўку дакумэнтаў вядучы архівіст БДАМЛіМ Н.М. Чэрнік-Рымашэўская). У 2008 г. і гэтыя дакумэнты былі адкрытыя для карыстаньня.

Зразумела, што ў фонд Масея Сяднёва ўваходзяць дакумэнты самага рознага кшталту: рукапісы твораў, машынапісы зборнікаў, ксэракопіі й выцінкі з газэтаў і часопісаў, фотаздымкі, службовыя й асабістыя матэрыялы. Аднак заўважную частку фонду №363 складае перапіска. З увагі на тое, што на сёньня толькі невялікая частка эпісталярных збораў уведзена ў шырокі навуковы ўжытак (маю на ўвазе перш за ўсё лісты Алеся Салаўя да Масея Сяднёва, цалкам апублікаваныя ў складзе нядаўна выдадзеных выбраных твораў першага[1]), падалося неабходным падаць больш шырокі агляд гэтай часткі сяднёўскага архіву. Спадзяемся, што публікацыя паспрыяе далейшаму вывучэньню дастаткова багатага пэрсанальнага фонду ці, прынамсі, паслужыць даведнікам і гідам па архіве Сяднёва для будучых дасьледнікаў ягонай (і ня толькі ягонай) біяграфіі.

[1] Салавей Алесь. Творы: Паэзія, проза, лісты. Менск: Лімарыюс, 2010. — 560 с.





Апісаньне складаецца з пазнакі нумару справы, імя адрасата, даты напісаньня, агульнай колькасьці аркушаў у справе, агульнай колькасьці дакумэнтаў у справе. Адзначаецца асобна мова напісаньня ліста (па змоўчаньні — беларуская), наяўнасьць ці адсутнасьць прыкладзеных да справы паэтычных твораў ці дакумэнтаў.

**Вопіс №1**
**Лісты Масея Сяднёва**

Спр. 36
Брылю Янку. 06.07.1990. 1 арк. 1 д.
Спр. 37
А. Вярцінскаму, Гарбанеўскай, С. Законьнікаву, У. Калесьніку, Котаву, Кругловічу, В. Мацкевічу, Міхалюку, Панадзе, С. Станкевічу, Я. Чыквіну, Г. Шупеньку й інш. 08.10.1951—05.12.1991. 17 арк. 17 д.
Спр. 38
Запрудніку Янку. Да ліста прыкладзены водгук на кнігу Масея Сяднёва „Раман Корзюк“. 1990—1991. 3 арк. 2 д.
Спр. 39
Кудраўцу Анатолю. 18.08.1990, 27.02.1991. 3 арк. 2 д.
Спр. 40
Надсану Аляксандру. 12.01.1986. 1 арк. 1 д.
Спр. 41
Пазьняк Вользе. 14.06.1949—15.03.1972. 35 арк. 26 д.
Спр. 42
Пранчаку Леаніду. 6.02.1990. 1 арк. 1 д.
Спр. 43
Сачанку Барысу. 9.07.1990, 14.03.1991. 3 арк. 2 д.
Спр. 44
Славутычу Яру. 05.06—07.07.1989. 3 арк. 3 д.
Спр. 45
Сурмач Ганьне. 21.10.1991, 22.07.1992. 3 арк. 2 д.
Спр. 46
Хомчанку Васілю. 22.09.1989—16.12.1990. 3 арк. 3 д.
Спр. 47

Лісты рэдактарам газэтаў, часопісаў, выданьняў па пытаньнях супрацоўніцтва. 4.04.1984—13.02.1990. 9 арк. 9 д.

### Лісты да Масея Сяднёва

Спр. 48

Адамовіча Антона. 22.05.1955—15.09.1966. 12 арк. 11 д.

Спр. 49

Айзенштат Галіны Іосіфаўны. 28.10.1989—30.03.1990. 6 арк. 4 д.

Спр. 50

Акулы Кастуся. 07.09—18.12.1965. 3 арк. 3 д.

Спр. 51

Б. Аляксандрава, І. Бібі, А. Бірукова, Л. Геніюш, У. Глыбіннага, М. Грынчык, В. Жызьнеўскай, Н. Кавалеўскай, Г. Каржанеўскай, Ф. Кардубы, С. Коўша, В. Куртаніч і інш. 03.01.1945—09.10.1991. 20 арк. 19 д.

Спр. 52

Арсеньневай Натальлі. 23.02.1964—11.08.1966. 3 арк. 3 д.

Спр. 53

В. Арэхвы, біскупа Афанасія, Р. Беразоўскага, В. Бубуля, М. Вераб'я, М. Вярбы, Я. Вярбіцкага, В. Жгута, М. Караленкі, С. Карпіловіч і інш. 17.04.1944—22.05.1989. 32 арк. 32 д.

Спр. 54

Баркоўскага Алеся. 02.09.1989—28.10.1990. 15 арк. 9 д.

Спр. 55

Белай Сьвятланы. 1991. 3 арк. 3 д.

Спр. 56

Белямука Міхася. 06.02.1990. 1 арк. 1 д.

Спр. 57

Брыля Янкі. 3.10.1990—13.01.1992. 9 арк. 5 д.

Спр. 58

Верасава Дзьмітрыя. 16.08.1975. 4 арк. 1 д.

Спр. 59

Віцьбіча Юркі. 28.01.1970—28.12.1981. 7 арк. 4 д.

Спр. 60

Дзітмаер Вольгі (у нямецкай мове). 12.01.1948—09.05.1968. 37 арк. 20. д.

Спр. 61

Дудзіцкага Ўладзімера. 02.02.1947—24.09.1956. 8 арк. 5 д.

Спр. 62





Завістовіча Расьціслава. 03.07.1986. 3 арк. 1 д.

Спр. 63

Запрудніка Янкі. 31.08.1965—22.12.1987. 5 арк. 5 д.

Спр. 64

Золака Янкі. 26.12.1953. 2 арк. 2 д.

Спр. 65

Ільляшэвіча Хведара. 25.05.1948—[1940-ыя]. 2 арк. 2 д.

Спр. 66

Каханоўскага-Калубовіча Яўгена. 14.08.1962—19.06.1986. 11 арк. 10 д.

Спр. 67

Кіта Барыса (у беларускай і нямецкай мовах). 30.09.1985—29.02.1986. 2 арк. 2 д.

Спр. 68

Клёнава Андрэя. 22.07.1975—06.02.1976. 5 арк. 3 д.

Спр. 69

Клішэвіча Ўладзімера. 03.09.1947—13.02.1957. 55 арк. 17 д.

Спр. 70

Крэйда Вадзіма (да некаторых лістоў прыкладзеныя вершы). 16.03.1989—02.04.1991. 45 арк. 45 д.

Спр. 71

Кудраўца Анатоля. 18.10.1990—16.03.1991. 3 арк. 2 д.

Спр. 72

М. Латушкіна, Б. Ліманоўскага, У. Лукашэвіча, І. Макарэвіча, В. Махнач, М. Палюховіча, В. Пашкевіч, А. Русака, Я. Скурата, В. Таполі, Л. Федарчука, С. Хоха, А. Цярэшкі, С. Шаўцова, Я. Юхнаўца, Д. Ясько й інш. сяброў і знаёмых. 28.07.1937, 20.08.1947—23.04.1990. 43 арк. 36 д.

Спр. 73

В. Лубы, М. Лутынскага, Я. Маланюка, а. Міколы, Я. Мойсіка, А. Радзюка, Ю. Сянькоўскага, Ч. Сіповіча, Р. Тамушанскага, С. Чыгрына, Г. Шупенькі ды інш. 21.03.1944—19.07.1991. 25 арк. 18 д.

Спр. 74

Манькова Палікарпа. 22.10.1948—08.01.1987. 6 арк. 6 д.

Спр. 75

Пазьняк Вольгі Піліпаўны.18.03.1949—26.01.1950. 13 арк. 13 д.

Спр. 76

Палтавы Леаніда (да некаторых лістоў прыкладзеныя вершы). 20.07.1946—02.11.1990. 50 арк. 41 д.

Спр. 77

Пранчака Леаніда. 15.11.1989—24.09.1990. 6 арк. 5 д.
Спр. 78
Раецкага Міхася. 18.04.1986—28.04.1987. 11 арк. 6 д.
Спр. 79
Савік Лідзіі. 04.05.1991—20.06.1992. 21 арк. 10 д.
Спр. 80
Салаўя Алеся (да некаторых лістоў прыкладзеныя вершы). 31.12.1943—22.09.1948. 89 арк. 43 д.
Спр. 81
Сачанкі Барыса. 25.01.1990—15.07.1991. 12 арк. 10 д.
Спр. 82
Славутыча Яра (да некаторых лістоў прыкладзеныя вершы). 05.01.1943—08.06.1955. 18 арк. 17 д.
Спр. 83
Станкевіча Станіслава, Станкевіча Янкі. 12.03.1947—20.12.1976. 14 арк. 12 д.
Спр. 84
Сядуры Ўладзімера. 03.04.1946—16.09.1954. 5 арк. 4 д.
Спр. 85
Сурмач Ганны. 06—12.12.1991. 2 арк. 2 д.
Спр. 86
Тумаша Вітаўта. 18.10.1954—05.01.1971. 4 арк. 4 д.
Спр. 87
Тычкі Галіны. 01.02.1990—05.01.1992. 14 арк. 8 д.
Спр. 88
Хомчанкі Васіля. 02.09.1989—16.10.1991. 23 арк. 21 д.
Спр. 89
Цьвіркі Кастуся. 26.05.1991. 1 арк. 1 д.
Спр. 90
Цьвіркі Ўладзімера. 17.02—29.08.1948. 8 арк. 4 д.
Спр. 91
Чыквіна Яна. 05.02.1991—04.06.1992. 5 арк. 4 д.
Спр. 92
Шчарбака Міколы. 06.1992. 1 арк. 1 д.
Спр. 93
Шчорса Міколы. 13.11.1947—01.01.1990. 3 арк. 3 д.
Спр. 94
Юр'евай Зоі. 12.03.1946—13.09.1975. 21 арк. 13 д.
Спр. 95





Лісты з подпісамі „Аксана“, „Аня“, „Валя“, „Ніна“ й інш. (у беларускай, польскай, рускай, ангельскай мовах). 29.08.1944—27.04.1986. 71 арк. 55 д.
Спр. 96
Лісты сваякоў: брата, сясьцёр, унука й інш. 28.01.1948—01.04.1990. 17 арк. 12 д.
Спр. 97
Ліст рэдакцыі часопіса „Наперад“ зь віншаваньнем са сьвятам. 24.12.1948 г. 1 арк. 1 д.
Спр.98.
Ліст ад Рады БНР за подпісам Ф. Кушаля з прапановай аказаць матэрыяльную дапамогу згуртаваньню беларускай эміграцыі. 20.06.1962. 1 арк. 1 д.
Спр. 99
Лісты ўнівэрсытэту штата Мантана, Голінскага каледжу й інш. з прапановамі супрацоўніцтва. 21.02, 24.03.1967—17.03.1989. 7 арк. 7 д.
Спр. 100
Ліст сакратара БІНіМу Янкі Запрудніка з прапановай выступіць на юбілеі В. Тумаша. 03.12.1970. 1 арк. 1 д.
Спр. 101
Ліст намесьніка старшыні Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны Я. Цумарава з просьбай прыслаць копіі беларускіх эміграцыйных выданьняў. [1990—1991]. 1 арк. 1 д.
Спр. 122
Ліст Юркі Віцьбіча Смалянцу [б/д]. 2 арк. 1 д.
Спр. 123
Ліст В. П. Сяднёвай у дэпартамэнт з просьбай выдаць візу на прыезд родзічаў (на англ. мове) [б/д]. 1 арк. 1 д.

**Вопіс №2**
**Лісты Масея Сяднёва**

Спр. 8
Лісты да С. Сачанкі. 1992—1994. 35 арк. 23 д.
Спр. 9
Лісты да С. Сачанкі. 1995—2000. 40 арк. 27 д.
Спр. 10
Лісты да Г. Тычкі, І. [Чыгрынава]. 1990—1993. 9 арк. 3 д.
Спр. 11

Лісты да рэдактара выдавецтва „Мастацкая літаратура“ С. Андраюка, дырэктара БДАМЛМ Г. Запартыкі. [1991]—2000. 19 арк. 17 д.

### Лісты да Масея Сяднёва

Спр. 12

Лісты У. Арлова, Г. Багданавай, Я. Брыля, В. Каваленкі, А. Кудраўца, В. Куртаніч і інш. (да пісьма В. Куртаніч прыкладзеныя яе вершы). 1991—1996. 33 арк. 20 д.

Спр. 13

Лісты Я. Лецкі, А. Мемуса, М. Міцкевіча, М. Мятліцкага, Л. Пранчака, У. Пучынскага, Г. Рымскага й інш. (да ліста У. Пучынскага прыкладзеныя яго вершы) 1990—1999. 38 арк. 26 д.

Спр. 14

Лісты Б. Сачанкі, Т. Сачанкі. 1991—1996. 12 арк. 11 д.

Спр. 15

Лісты С. Сачанкі (да ліста ад 29.11.1992 прыкладзеная праграма канфэрэнцыі „Праблемы беларускага правапісу“, вершы С. Сачанкі). 1991—1993. 39 арк. 17 д.

Спр. 16

Лісты С. Сачанкі. 1994—1998. 23 арк. 16 д.

Спр. 17

Лісты Л. Савік, М. Скоблы, Г. Сурмач (да ліста Л. Савік ад 10.12.1992 прыкладзены яе артыкул, прысьвечаны М. Сяднёву). 1991—1998. 43 арк. 22 д.

Спр. 18

Лісты Г. Тварановіч (да лістоў прыкладзеныя яе вершы). 1994—1995. 44 арк. 36 д.

Спр. 19

Лісты Г. Тварановіч. 1996—1999. 51 арк. 34 д.

Спр. 20

Лісты Г. Тычкі, А. Федарэнкі, Г. Хваль. 1990—1999. 37 арк. 30 д.

Спр. 21

Лісты Н. Рандаў (Нямеччына), С. Белай, В. Крэйда, М. Махнача (ЗША), А. Карлецi (Манака). 1985—1993. 23 арк. 18 д.

Спр. 22

Лісты А. Глагоўскай, Ю. Туронка, Я. Чыквіна. 1991—1999. 37 арк. 26 д.

Спр. 23





Лісты сына, В. М. Карнеенкі, і ўнукаў. 1990—1996. 16 арк. 9 д.

Спр. 24

Лісты сястры, М. Сяднёвай, пляменьнікаў. 1990—1997. 12 арк. 9 д.

Спр. 25

Лісты ад чытачоў і знаёмых (на адвароце ліста Я. Аляксейчанкі ад 14.01.1993 запіска М. Сяднёва да С. Сачанкі й яе адказ). 1991—1995. 24 арк. 10 д.

Спр. 26

Лісты БДАМЛМ, Дзяржаўнага музэя гісторыі беларускай літаратуры, Гродзенскага гісторыка-краязнаўчага музэя й інш. аб супрацоўніцтве. 1990—1998. 11 арк. 11 д.

Спр. 27

Лісты галоўнага рэдактара газэты „Ніва“ В. Лубы аб супрацоўніцтве. 1991—1997. 4 арк. 4 д.

Спр. 37

Віншавальная паштоўка зь вершаванымі радкамі М. Сяднёва. З аўтографам нявызначанай асобы. 1949. 1 арк. 1 д.

*Мікалай Гогаль*

## РЭВІЗОР
### (пераклад Антона Адамовіча)[1]

*Дарма на люстэрак крывіцца, калі сам крывы.*
*Народная прыказка*

### ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:

Антон Антонавіч Сквозьнік-Дмуханоўскі, гараднічы
Ганна Андрэеўна, ягоная жонка
Мар'я Антонаўна, ягоная дачка
Лукаш Лукашовіч Хлопаў, інспэктар школаў
Жонка ягоная
Амос Хведаравіч Ляпкін-Цяпкін, судзьдзя
Арцём Піліпавіч Земляніка, апякун богугодных установаў
Іван Кузьмовіч Шпёкін, паштмайстар
Пётра Іванавіч Добчынскі } гарадзкія дамаўласьнікі
Пётра Іванавіч Бобчынскі }
Іван Аляксандравіч Хлестакоў, чыноўнік із Пецярбургу
Восіп, ягоны служка
Хрысьціян Іванавіч Гібнэр, паветавы лекар
Хведар Андрэевіч Люлюкоў }
Іван Лазаравіч Растакоўскі } адстаўныя чыноўнікі, паважаныя асобы ў горадзе
Сьцяпан Іванавіч Каробкін }
Сьцяпан Ільлёвіч Ухавёртаў, паліцыйны прыстаў
Сьвістуноў }
Пугаўкін } паліцыянты
Дзяржыморда }

[1] Пераклад Антона Адамовіча друкуецца ўпершыню паводле рукапісу, які захоўваецца ў архіве БІНіМу. У аўтографе ёсьць дата заканчэньня працы над перакладам — 1 ліпеня 1943 г.





Абдулін, купец
Хаўроньня Пётраўна Паплешына, сьлесарыха[2]
Жонка унтэр-афіцэра
Міхалка, служка гараднічага
Служка Заезду
Госьці, купцы, мяшчане, просьбіты

### ХАРАКТАРЫ І КАСЬЦЮМЫ
*Зацемкі спадаром акторам*

Гараднічы, ужо пастарэлы на службе й дужа ня дурны, як па-свойму, чалавек. Хоць і хабарнік, аднак захоўваецца дужа салідна, даволі паважны, крыху нават рэзанэр; гаворыць ні заголасна, ні заціха, ні зашмат, ні замала. Ягонае кажнае слова важкае. Рысы твару ў яго грубыя й жорсткія, як у кажнага, хто пачаў цяжкую службу ад ніжэйшых чыноў. Пераход ад страху да радасьці, ад нізоты да хванабэрыі, даволі шпаркі, як у чалавека з груба-разьвітымі нахіламі душы. Ён апранены звычайна ў сваім мундзеры з зашплікамі і ў батфортах із шпорамі. Валасы ў яго стрыжаныя, зь сівізною.

Ганна Андрэеўна, ягоная жонка, правінцыяльная какетка, яшчэ не зусім паджылых год, узгадаваная напалавіну на раманах, альбомах, напалавіну на клопатах у сваёй каморы і дзявічнай. Дужа цікаўная й пры нагодзе выказвае пустахвальства. Бярэ часам уладу над мужам таму толькі, што той не знаходзіцца, што адказваць ёй; але ўлада гэтая пашыраецца толькі на драбніцы й палягае на вымовах і насьмешках. Яна чатыры разы пераапранаецца ў розныя сукні на працягу п'есы.

Хлестакоў, малады чалавек год дваццацёх трох, тоненькі, худзенькі, крыху прыдуркаваты і, як кажуць, без цара ў галаве, — адзін із тых людзей, якіх у канцылярыях называюць пусьцейшымі. Гаворыць і дзеіць без усялякага меркаваньня. Ён ня ў стане спыніць сталае ўвагі над якой-небудзь думкаю. Гаворка ягоная адрывістая, і словы вылётаюць із вуснаў ягоных зусім неспадзявана. Чым больш выканавец гэтае ролі пакажа чыстасэрдзя й прасьціні, тым больш ён выйграе. Апранаецца паводле моды.

[2] У Гогаля — „Февронья Петровна Пошлепкина“. У дзеі чацьвертай, зьяве 11 яе прозьвішча названае ў перакладзе як „Пашлёпкіна“ [Тут і далей заўвагі публікатара].

Восіп, служка, такі, якімі зазвычай бываюць служкі крыху паджылых год. Гаворыць паважна, пазірае крыху ўніз, рэзанэр і любіць самому сабе чытаць маралы для свайго пана. Голас ягоны блізу заўсёды роўны, у гаворцы з панам набывае суворы, адрывісты й крыху навет грубы выраз. Ён разумнейшы за свайго пана і таму хутчэй здагадваецца, але ня любіць зашмат гаварыць, і таму моўчкі круцель. Касьцюм ягоны — шэры ці сіні падношаны сурдут.

Бобчынскі й Добчынскі, абодвы нізенькія, кароценькія, дужа цікаўныя; надзвычай падобныя адзін да аднаго: абодва зь невялічкімі пузікамі, абодва гавораць хуценька й надзвычай шмат памагаюць гэстамі й рукамі. Добчынскі крыху вышэйшы, паважнейшы за Бобчынскага, але Бобчынскі разьвязьнейшы й жвавейшы за Добчынскага.

Ляпкін-Цяпкін, судзьдзя, чалавек, які прачытаў пяць ці шэсьць кніжок і таму крыху вальнадумны. Вялікі ахвотнік да здагадкаў, таму кожнаму свайму слову надае вагу. Выканавец гэтай ролі павінен заўсёды захоўваць на сваім твары мнагазначную міну. Гаворыць басам із даўгаватым расьцягам, хрыпам і сапам, як старэтны гадзіньнік, які перш сіпіць, а тады ўжо б'е.

Земляніка, апякун богугодных установаў, дужа таўсты, непавароткі, нязграбны чалавек; але пры ўсім тым пройда й круцель. Дужа прыслужлівы й мітусьлівы.

Паштмайстар, прастадушны да наіўнасьці чалавек.

Рэшта роляў не патрабуець асаблівых тлумачэньняў; арыгіналы іхныя заўсёды бадай знаходзяцца перад вачыма.

Спадары актory асабліва павінны ўзяць увагу на апошнюю сцэну. Апошняе праказанае слова павінна зрабіць электрычны ўскалот на ўсіх — адразу, раптам. Уся група павінна зьмяніць палажэньне за адно вокамгненьне. Гук зьдзіўленьня павінен вырвацца ўва ўсіх жанок разам, як быццам із адных грудзей. Ад незахаваньня гэтых заўвагаў можа зьнікнуць увесь эфэкт.





**Дзея першая**

Пакой у доме гараднічага.

*Зьява I*

Гараднічы, апякун богугодных установаў, інспэктар школаў, судзьдзя, паліцыйны прыстаў, лекар, два квартальныя.

Гараднічы. Я запрасіў вас, спадары, каб паведаміць вам вельмі паганую навіну: да нас едзе рэвізор.

Амос Хведаравіч. Як, рэвізор?

Арцём Піліпавіч. Як, рэвізор?

Гараднічы. Рэвізор із Пецярбургу, інкогніта. І яшчэ з сакрэтнай інструкцыяй.

Амос Хведаравіч. Вось табе маеш!

Арцём Піліпавіч. Вось ня мелі клопату, дык давай!

Лукаш Лукашовіч. Божухна-Бацюхна! Яшчэ й з сакрэтнай інструкцыяй.

Гараднічы. Я быццам прачуваў: сяньня мне цалюткую ноч сьніліся нейкія два нязвычайныя пацукі. Праўда-ж, гэткіх я ніколі ня бачыў: чорныя, нясусьветнае велічыні! Прыйшлі, панюхалі — і пайшлі прэч. Вось я вам прачытаю ліст, што меў я ад Андрэя Іванавіча Чмыхава, якога самі, Арцёме Піліпавічу, знаеце. Вось што ён піша: *„Даражэнькі сябру, куме й дабрадзею (мармыча напаўголасу, прачытваючы хутка вачыма) — і паведаміць цябе...“* Ага, вось: *„Сьпяшаюся, між іншага, паведаміць цябе, што прыехаў чыноўнік з інструкцыяй агледзець усю губэрню й асабліва наш павет (мнагазначна ўздымае палец угару). Я даведаўся гэта ад самаверыгодных людзей, хоць ён удае зь сябе прыватную асобу. Ведаючы, што за табою, як за кажным, вядуцца грашкі, бо чалавек ты разумны й ня любіш цадзіць праз пальцы, што плыве само ў рукі...“* (спыніўшыся). Ну, тутака свае. — *„...дык раю табе ўзяць перасьцярогу, бо ён можа наехаць кажнае гадзіны, калі толькі ўжо ня прыехаў і ня жыве дзе інкогніта... Учарайшага дня...“* Ну, гэттака ўжо пайшлі справы сямейныя: *„Сястра Ганна Кірылаўна прыехаўшы да нас із сваім мужам; Іван Кірылавіч вельмі рассыцеў і ўсё грае на скрыпцы“* і іншае, і іншае. Дык вось якая акалічнасьць.

Амос Хведаравіч. Але-ж, акалічнасьць такая нязвычайная, проста нязвычайная. Нештачка нездарма.

Лукаш Лукашовіч. Навошта-ж, Антоне Антонавічу, із чаго гэта? Навошта да нас рэвізор?

Гараднічы. Навошта! Гэтак ужо, мабыць, доля. *(Уздыхнуўшы)*. Дасюль, дзякаваць Богу, падкочваліся да іншых гарадоў, цяпер падыйшоў чарод да нашага.

Амос Хведаравіч. Я думаю, Антоне Антонавічу, што тутака тонкая й больш палітычная прычына. Гэта значыць вось што: Расея... але-ж... хоча ваяваць, дык-жа міністэрыя, во бачыце, і падаслала чыноўніка, каб даведацца, ці няма дзе здрады.

Гараднічы. Гэнь, куды маханулі! Яшчэ разумны чалавек! У паветавым горадзе здрада! Што ён, на ўзьмежку, ці што? Ды адсюль, хоць тры гады гані, да ніякае дзяржавы не даедзеш.

Амос Хведаравіч. Не, я самім скажу... самі ня гэта... самі ня... Начальства мае тонкія мэты: дарма, што далёка, а яно накручвае на вус.

Гараднічы. Накручвае ці не накручвае, а я вас, спадары, перасьцярог. Глядзеце! У сваёй галіне я сякія-такія распараджэньні зрабіў, раю й вам. Асабліва самім, Арцёме Піліпавічу! І ня думаць, праежджы чыноўнік захоча насамперш агледзець падначаленыя самім богугодныя ўстановы — і таму зрабеце так, каб усё было гожа: каптуры каб былі чыстыя, і хворыя не выглядалі-б на кавалёў, як зазвычай яны ходзяць па-свойску.

Арцём Піліпавіч. Ну, гэта йшчэ дарма. Каптуры, бадай, можна надзець і чыстыя.

Гараднічы. Але. І таксама над кажным ложкам надпісаць палаціне ці іншай якой моваю... гэта ўжо саміх частка, Хрысьціяне Іванавічу, — кажную хваробу, калі хто захварэўшы, каторага дня й даты... Ня добра, што ў вас хворыя такі сіберны тытун кураць, што заўсёды разачхаешся чалавек, увайшоўшы. Дый лепш, каб іх было меней: адразу запішуць на благі догляд ці на лекарава няўмельства.

Арцём Піліпавіч. О! Што да лекарства, мы з Хрысьціянам Іванавічам ужылі свае захады: чым бліжэй да натуры, тым лепш, — лекаў дарагіх мы ня ўжываем. Чалавек просты: калі памрэ, дык і так памрэ; калі ачуняе, дык і так ачуняе. Дый Хрысьціяну Іванавічу цяжкавата былоб зь імі паразумецца — ён па-нашаму ані слоўца ня ўмее.

Хрысьціян Іванавіч выдае гук, часткаю падобны да літары *і*, а крыху да *е*.

Гараднічы. Самім гэтак-жа раіў-бы, Амосе Хведаравічу, узяць увагу на прысудзкія ўстановы. У саміх тамака ў сходні, куды зазвычай прыходзяць із просьбамі, старажы загадавалі свойскіх гусей з маленькімі гусянятамі, што так і шныпараць пад нагамі. Яно пэўна-ж, сваёй гаспадаркай абжывацца кажнаму ўхвальна, дык чаму-ж і старажу не абжыцца, толькі, ведаеце, у такім месцы нягожа... Я й перш хацеў самім гэта зазначыць, ды ўсё нек забываўся...

Амос Хведаравіч. А вось я іх сяньня-ж загадаю ўсіх забраць да кухні. Хочаце, прыходзьце на абед.

Гараднічы. Апрача таго, блага, што ў саміх высушваецца ў саменькім прысудзтве ўсялякая дрэнь, і над самюсенькай шафай з паперамі — паляўнічы гарапнік. Я ведаю, самі любіце паляваньне, але ўсёж на час лепш прыхаваць яго, а там, як праедзе рэвізор, бадай, ізноў можаце сабе павесіць. Таксама і лаўнік у саміх... ён, пэўна-ж, чалавек дазнаны, але ад яго такі пах, быццам-бы ён кагадзе выйшаўшы з бровару, — гэта таксама нядобра. Я хацеў даўно пра гэта сказаць самім, ды быў, ня памятаю чым, забаўлены. Ёсьць проці гэтага спосабы, калі ўжо гэта, запраўды, як ён кажа, у яго прыродны пах: можна параіць яму есьці цыбулю, ці часнык, ці што іншае. У гэтым разе можа дапамагчы рознымі мэдыкамэнтамі Хрысьціян Іванавіч.

Хрысьціян Іванавіч выдае той самы гук.

Амос Хведаравіч. Не, гэтага ўжо немагчыма выжыць: ён кажа, што яго маленькім мамка адбіла, і згэнуль ад яго тхне крыху гарэлкаю.

Гараднічы. Ды я так толькі зазначыў самім... Што-ж да нутранога распараджэньня й таго, што называе ў лісьце Андрэй Іванавіч грашкамі, я нічога не магу сказаць. Ды й дзіва казаць: няма чалавека, які ня меў бы за сабою якіх грахоў. Гэта ўжо так самым Богам уладжана, і валтар'янцы дарэмна супраць гэтага кажуць.

Амос Хведаравіч. Што-ж самі маеце, Антоне Антонавічу, грашкамі? Грашкі на грашкі ня выходзяць. Я кажу ўсім прылюдна, што бяру хабары, але чым хабары? Хартовымі шчанюкамі. Гэта зусім што іншае.

Гараднічы. Ну, шчанюкамі ці чым іншым, усёдна хабары.

Амос Хведаравіч. Ну не, Антоне Антонавічу. А вось, прыкладам, калі ў каго хутра каштуе пяцьсот рублёў, ды жонцы шаль...

Гараднічы. Ну, а што з таго, што самі берацё хабары хартовымі шчанюкамі? Затое самі ў Бога не ўвяраеце, самі ў царкву аніколі ня ходзіце; а я, прынамсі, у веры цьвярды й што нядзелькі бываю ў царкве. О, я знаю саміх, самі калі пачняцё распраўляць пра стварэньне сьвету, дык проста валасы дуба даюць.

Амос Хведаравіч. Дык-жа сам сабою дайшоў, собскім розумам.

Гараднічы. Ну, іншым разам зашмат розуму горш, чымся-б яго ані ня было. Зрэшты, я так толькі ўспамянуў пра паветавы суд; а праўду кажучы, бадай ці хто калі-небудзь зазірне туды: гэта ўжо такая зайздросная мясьціна, сам Бог над ёй апякуецца. А вось самім, Лукашу Лу-

кашовічу, як інспэктару навучальных установаў, трэба паруліцца, асабліва што да настаўнікаў. Яны людзі, пэўна-ж, вучоныя й гадаваліся па розных калегіях, але маюць вельмі дзіўныя абыходкі, натуральна, неразлучныя з вучонай годнасьцяй. Адзін зь іх, прыкладам, вунь гэты, што ў яго таўшчэнны твар... ня прыпамятаю ягонага прозьвішча, аніяк ня можа абыцца без таго, каб, узышоўшы на катэдру, ня скрывеліцца во гэтак *(паказвае)*, і пасьля пачне рукою з-пад гальштуку прасаваць сваю бараду. Ведама, калі ён вучню зробіць такую крывелю, дык яно йшчэ дарма, можа, яно там і трэба гэтак, аб гэтым я не магу меркаваць; але памяркуйце самі, калі ён зробіць гэта гасьцю — гэта можа быць вельмі пагана: спадар рэвізор ці іншы хто можа ўзяць гэта на сябе. З гэтага ліха ведае што можа выкрывіцца.

Лукаш Лукашовіч. Што-ж мне, праўдачка, зь ім рабіць? Я ўжо колькі разоў яму казаў. Вось яшчэ надовечы, як зайшоўся быў у клясу наш маршалак, ён скроіў такую крывеліну, што я ніколі йшчэ не аглядаў. Дык-жа ён зрабіў ад добрага сэрца, а мне нагонка: навошта вальнадумныя ідэі натхняюцца моладзі.

Гараднічы. Тое-ж мушу зазначыць самім і пра настаўніка гістарычнай часткі. Ён вучоная галава — гэта знаць, і ведаў нахапаўся процьму, але толькі выкладае з гэткім запалам, што сябе ня памятае. Я аднойчы слухаў яго: ну, пакулечы распраўляў пра асырыйцаў і бабілёнцаў — яшчэ дарма, а як дабраўся да Аляксандры Македонскага, дык я не магу вам сказаць, што зь ім зрабілася. Я думаў, што пажар, далібог! Зьбег із катэдры, і, як дужы, трэсь крэслам аб памост! Яно, пэўна-ж, Аляксандра Македонскі гэрой, ды навошта-ж крэслы крышыць! Ад гэтага дзяржаве страта.

Лукаш Лукашовіч. Але-ж, ён гарачы! Я гэта яму ўжо колькі разоў зазначаў... Кажа: *„Як хочаце, дзеля навукі я жыцьця не пашкадую“*.

Гараднічы. Але-ж, такі ўжо незьясьнёны закон лёсу: разумны чалавек — або п'яніца, альбо крывелю такую строіць, што хоць абразы выносі.

Лукаш Лукашовіч. Ня дай Божачка служыць у вучонай галіне, усяго-ўсенькага чалавека баішся! Кажны мяшаецца, кажнаму хочацца паказаць, што ён таксама разумны чалавек.

Гараднічы. Гэта-б яшчэ дарма — інконгіта проклятае! Раптам зазірне: *„Га, вы тутака, галубочкі! А хто, — скажа, — тут за судзьдзю?“ — „Ляпкін-Цяпкін!“ — „А давайце сюды Ляпкіна-Цяпкіна! А хто за апякуна богугодных установаў?“ — „Земляніка“. — „А давайце сюды Землянікý!“* — Вось што пагана.





*Зьява II*

Тыя самыя й паштмайстар.

Паштмайстар. Растлумачце, спадары, што, які чыноўнік едзе?

Гараднічы. А самі хіба ня чулі?

Паштмайстар. Чуў ад Пётры Іванавіча Бобчынскага. Ён кагадзе быў у мяне ў паштовай канторы.

Гараднічы. Ну, што? Як самі думаеце на гэта?

Паштмайстар. А што думаю? Вайна з туркамі будзе.

Амос Хведаравіч. У вадно слоўца! Я сам тое самае думаў.

Гараднічы. Але-ж, абодва пальцам у неба поркнулі.

Паштмайстар. Праўда-ж, із туркамі. Гэта ўсё француз паскудзіць.

Гараднічы. Якая вайна з туркамі! Проста нам блага будзе, а ня туркам. Гэта ўжо ведама: у мяне ліст.

Паштмайстар. А, калі гэтак, дык ня будзе вайны з туркамі.

Гараднічы. Ну, што-ж, як самі, Іване Кузьмовічу?

Паштмайстар. Ды што я? Як самі, Антоне Антонавічу?

Гараднічы. Ды што я! Дык-жа страху няма, а так, крышачку. Купецтва ды грамадзянства мяне сумяцiць. Кажуць, што я ім салона даўся; а я, вось далібог, калі і ўзяў з каго, дык, праўда-ж, без усялякае нянавісьці. Я навет думаю *(бярэць яго пад руку і адводзіць набок)*. Я навет думаю, ці ня было на мяне якога даносу. Навошта-ж, запраўды, да нас рэвізор? Слухайце адно, Іване Кузьмовічу, ці нельга самім, дзеля агульнае нашае карысьці, кажны ліст, што прыбывае да самых у паштовую кантору, уваходны ці выходны, ведаеце, гэтак крышку расьпячатваць і прачытаць, ці нямашака ў ім якога данашэньня ці проста ліставаньня? Калі-ж няма, дык можна зноў запячатваць; зрэшты, можна й так аддаць ліст, расьпячатваны.

Паштмайстар. Ведаю, ведаю... Гэтага ня вучэце, гэта я раблю ня тое каб дзеля перасьцярогі, а больш дзеля цікаўнасьці, — да сьмерці люблю даведацца, што ёсьць новага на сьвеце. Я самім скажу, што гэта страх як цікавае чытаньне! Іншы ліст з асалодаю прачытае чалавек, гэтак апісваюцца розныя пасажы... а паўчальнасьць такая... лепш, чымся ў „Маскоўскіх ведамасьцях“!

Гараднічы. Ну, што-ж, скажэце, нічога ня вычыталі пра якога чыноўніка зь Пецярбургу?

Паштмайстар. Не, пра пецярбурскага нічагуткі няма, а пра кастрамскіх ды саратаўскіх шмат гаворыцца. Шкада, аднак-жа, што самі ня чытаеце лістоў. Ёсьць дасканалыя мясьціны. Вось нядаўна адзін па-

ручнік піша да прыяцеля й апісаў баляваньне ў самагульлівым... вельмі, вельмі добра. *„Жыцьё маё, любы сябру, плыве, — кажа, — у эмпірэях: паненкаў шмат, музыка грае, штандарт скача...“* — зь вялікім, зь вялікім пачуцьцём апісаў. Я знарок пакінуў яго ў сябе. Хочаце, прачытаю?

Гараднічы. Не, цяперака не да таго. Дык зрабеце ласку, Іване Кузьмовічу: калі выпадкам трапіцца жальба ці данашэньне, дык бяз усякага разважаньня запыняйце.

Паштмайстар. Ізь вялікай прыемнасьцяй.

Амос Хведаравіч. Глядзеце, будзе вам калі за гэта.

Паштмайстар. Ах, Божухна!

Гараднічы. Дарма, дарма. Што іншае, калі-б самі з гэтага публічнае што зрабілі, але-ж гэта справа сямейная.

Амос Хведаравіч. Але-ж, нядобрая справа заварылася! А я, прызнаюся, ішоў быў да саміх, Антоне Антонавічу, каб пачаставаць саміх сабачанёткам. Родная сястра таго кяжучка, што самі знаеце. Самі-ж чулі, што Чаптовіч із Вархавінскім завяліся судзіцца, і цяперака мне раскоша: ганяю зайцоў на землях і ў гэтага, і ў гэнага.

Гараднічы. Бацюхна, няўлюб мне цяпер саміх зайцы: у мяне інкогніта проклятае сядзіць у галаве! Гэтак і чакаеш чалавек, што вось адчыняцца дзьверы — і шась...

*Зьява III*

Тыя самыя, Бобчынскі й Добчынскі, абодва ўваходзяць засопшыся.

Бобчынскі. Надзвычайная праява!

Добчынскі. Неспадзяваная справа!

Усе. Што, што такое?

Добчынскі. Непрадбачаная рэч: прыходзіма ў гасьцініцу...

Бобчынскі *(перапыняючы)*. Прыходзіма зь Пётрам Іванавічам у гасьцініцу...

Добчынскі *(перапыняючы)*. Гэ, дазвольце, Пётра Іванавічу, я раскажу.

Бобчынскі. Гэ, не, дазвольце, ужо я... дазвольце, дазвольце... самі ўжо й стылю такога ня маеце.

Добчынскі. А самі зьбянтэжыцеся й ня прыпамятаеце ўсяго.

Бобчынскі. Прыпамятаю, далібог, прыпамятаю. Ужо-ткі не замінайце, хай я раскажу, не замінайце! Скажэце, спадары, зрабеце ласку, каб Пётра Іванавіч не замінаў.





Гараднічы. Ды кажэце, дзеля Бога, што такое? У мяне сэрца не ўтаймуецца. Сядайце, спадары! Вазьмеце крэслы! Пётра Іванавічу, вось самім крэсла.

Усе расьсядаюцца вакол абодвух Пётраў Іванавічаў.

Ну, што, што такое?

Бобчынскі. Дазвольце, дазвольце: я ўсё парадкам. Як толькі меў я прыемнасьць выйсьці ад саміх пасьля таго, як самі мелі ласку сумецца атрыманым лістом, але-ж, дык я тады сама забегся... ужо калі ласка, не перапыняйце, Пётра Іванавічу! Я-ж ужо ўсё, усё, усё ведаю-ж. Дык я, вось будзьце ласкавы бачыць, забегся да Каробкіна. Дык-жа не засьпеўшы Каробкіна ўдома, закруціўся да Растакоўскага, а не засьпеўшы Растакоўскага, зайшоўся вось да Івана Кузьмовіча, каб паведаміць яму атрыманую самімі навіну, ды, ідучы адтуль, сустрэўся зь Пётрам Іванавічам...

Добчынскі *(перапыняючы)*. Каля будкі, дзе прадаюцца булкі.

Бобчынскі. Каля будкі, дзе прадаюцца булкі. Але, сустрэўшыся зь Пётрам Іванавічам і кажу яму: *„Ці чулі самі пра навіну, што меў Антон Антонавіч ізь верыгоднага ліста?“* А Пётра Іванавіч ужо чулі пра гэта ад саміх ахмістрыні, ад Аўдоцьці, якая, ня ведаю, па штосьці была пасланая да Піліпа Антонавіча Пачачуева.

Добчынскі *(перапыняючы)*. Па бочачку на французскую гарэлку.

Бобчынскі *(адводзячы ягоныя рукі)*. Па бочачку на французскую гарэлку. Вось мы прыйшлі зь Пётрам Іванавічам да Пачачуева... Ужо самі, Пётра Іванавічу, гэнага... не перапыняйце, калі ласка, не перапыняйце!.. Пайшлі да Пачачуева, ды па дарозе Пётра Іванавіч кажуць: *„Зойдземся, — кажуць, — у заезд, бо-ж у жываце ў мяне... зраньня я нічога ня еўшы, дык жывотная трасяніна“.* Але-ж, гэта ў жываце ў Пётры Іванавіча... *„А ў заезд, — кажа, — прывезьлі цяперака сьвежае сёмгі, дык мы закусім“.* Толькі гэта мы ў гасьцініцу, як раптам малады чалавек...

Добчынскі *(перапыняючы)*. Нішто сабе з выгляду, у партыкулярнай адзежы...

Бобчынскі. Нішто сабе з выгляду, у партыкулярнай адзежы, пахаджае гэттака па пакоі, і на твары гэнкае разважаньне... фізыяномія... абыходкі, і тутака *(круціць рукою каля лобу)* багата, багата ўсяго. Я быццам прачуваў і кажу Пётру Іванавічу: *„Тут нештачка нездарматкі“.* Але. Дык-жа Пётра Іванавіч ужо міргнулі пальцам і падклікалі гаспадара, дык-жа гаспадара заезду Аўласа — у яго жонка тры тыдні таму радзіўшы, і такі баявецкі хлопчык, будзе таксама, як і бацька, за-

езд трымаць. Падклікаўшы Аўласа, Пётра Іванавіч узялі й спыталіся ў яго ціхенька: *„Хто, — кажа, — гэты маладзён?“* — а Аўлас адказвае на гэта: *„Гэта“*, — кажа... Гэ, не перапыняйце, Пётра Іванавічу, калі ласка, не перапыняйце, самі не раскажаце, дальбог, не раскажаце: самі прышаптоўваеце, у саміх, я ведаю, адзін зуб у роце ізь сьвістам... *„Гэта, — кажа, — малады чалавек, чыноўнік, — але-ж, — едзе зь Пецярбургу, а на прозьвішча, — кажа, — Іван Аляксандравіч, дык-жа, Хлестакоў, а едзе, — кажа, — у Саратаўскую губэрню і, — кажа, — дзівосна сябе атэстуе: другі ўжо тыдзень жыве, з заезду ня едзе, набірае ўсё напавер і ні капейчыны ня хоча плаціць“*. Як сказаў ён мне гэта, а мяне гэтак во звыш і трокнула: „Гэ!“ — кажу я Пётру Іванавічу...

Добчынскі. Не, Пётра Іванавічу, гэта я сказаў „Гэ!“

Бобчынскі. Спачатку самі сказалі, а пасьля й я сказаў. „Гэ!“ — сказалі мы зь Пётрам Іванавічам. *„А зь якое рацыі сядзець яму гэттака, калі дарога яму пралягае ў Саратаўскую губэрню?“* Але-ж. Дык-жа вось ён і ёсьць гэты чыноўнік.

Гараднічы. Хто, які чыноўнік?

Бобчынскі. Дык-жа чыноўнік, пра якога мелі ласку атрымаць натацыю, — рэвізор.

Гараднічы *(у страху)*. Што вы, Госпад Бог із вамі! Гэта ня ён.

Добчынскі. Ён! І грошай ня плаціць, і ня едзе. Хто-ж будзе, як ня ён? І падарожная прапісаная ў Саратаў.

Бобчынскі. Ён, ён, дальбожачка, ён... Такі прыгледлівы: усё агледзеў. Згледзеў, што мы зь Пётрам Іванавічам вось елі сёмгу, — больш таму, што Пётра Іванавіч збоку свайго жывата... але-ж, дык ён і ў талеркі да нас зазірнуў. Мяне гэтак і праняло жахам.

Гараднічы. Божухна, зьлітуйся над намі грэшнымі! Дзе-ж ён тамака жыве?

Добчынскі. У пятым нумары, пад сходамі.

Бобчынскі. У тым саменькім нумары, дзе летась пабіліся праезжыя афіцэры.

Гараднічы. І даўно ён тутака?

Добчынскі. А ўжо тыдні два. Прыехаў на Васільле Эгіпскае.

Гараднічы. Два тыдні! *(Набок)*. Бацюхны, сватухны, выносьце, сьвятыя ўгоднікі! За гэтыя два тыдні адлупцаваная унтэр-афіцэрская жонка! Арыштантам не выдавалі харчоў! На вуліцах карчма, бруд! Ганьба! Сарамоцьце! *(Хапаецца за голаў)*.

Арцём Піліпавіч. Што-ж, Антоне Антонавічу, ехаць парадам у гасьцінніцу!





Амос Хведаравіч. Не, не! Наперад пусьціць галаву, духавенства, купецтва; вунь і ў кнізе „Дзеі Іоана Масона“...

Гараднічы. Не, не, дазвольце ўжо мне самому! Бывалі цяжкія выпадкі ў жыцьці, сплывалі, яшчэ навет і дзякуй зарабляў. Ану-ж, Бог вынясе й цяперака. *(Да Бобчынскага)*. Самі кажаце, ён малады чалавек?

Бобчынскі. Малады, год дваццаць тры ці чатыры з хвосьцікам.

Гараднічы. Тым балазей, маладога хутчэй пранюхаеш. Бяда, калі стары чарцюга, а малады — увесь наверсе. Вы, спадары, рухтуйцеся ў сваёй галіне, а я падамся адзін, ці вось хоць ізь Пётрам Іванавічам, прыватна, дзеля праходкі, даведацца, ці ня церпяць праежджыя прыкрасьцяў. Гэй, Сьвістуноў!

Сьвістуноў. Чаго ласка?

Гараднічы. Пайшоў зараз па прystава; ці-ткі не, ты мне патрэбен. Скажы там каму, каб як мага хутчэй да мяне прystава, і прыходзь сюды.

Квартальны бяжыць кумільгам.

Арцём Піліпавіч. Хадзем, хадзем, Амосе Хведаравічу. Запраўды, можа здарыцца бяда.

Амос Хведаравіч. Ды самім чаго баяцца? Каптуры насунуў на хворых — дый канцы ў капцы.

Арцём Піліпавіч. Якое каптуры! Хворым загадана габэр-зуп даваць, а ў мяне на ўсе калідоры пахціць такая капуста, што шануй толькі нос, чалавеча.

Амос Хведаравіч. А я на гэты конт супакойны. Запраўды, хто зойдзецца ў паветавы суд? А калі й зірне ў якую паперыну, дык жыцьця ня ўзрадуецца. Я вось ужо пятнаццаць год сяджу на судзьдзёвым крэсьле, а як зазірну ў дакладную запіску — га! адно рукою махну! Сам Салімон не разьвядзе, што ў ёй праўда й што няпраўда.

Судзьдзя, апякун богугодных установаў, інспэктар школаў і паштмайстар выходзяць і ў дзьверах стыкаюцца з квартальным, які вяртаецца.

*Зьява IV*

Гараднічы, Бобчынскі, Добчынскі й квартальны.

Гараднічы. Што, брычка гэнам стаіць?

Квартальны. Стаіць.

Гараднічы. Пайшоў на вуліцу... ці-ткі не, чакай! пайшоў прынясі... Ды болей вас дзе? Няўжо ты толькі адзін? Дык-жа я загадваў, каб і Прохараў быў гэттака. Дзе Прохараў?

Квартальны. Прохараў у часьці, ды толькі да справы ня можа быць ужыты.

Гараднічы. Як гэта?

Квартальны. Ды гэтак: прывезьлі яго заранcraнья, як сноп. Во ўжо два цабэркі вады ўзьлілі, дасюль ня выцьверазіўся.

Гараднічы *(хапаючыся за голаў)*. Ах, Божа мой, Божа мой! Пайшоў хутчэй на вуліцу, ці-ткі не — бягай перш у пакоі, чуў! і прынясі адытуль шпагу й новы капялюш. Ну, Пётра Іванавічу, едзьма.

Бобчынскі. І я, і я... дазвольце й мне, Антоне Антонавічу!

Гараднічы. Не, не, Пётра Іванавічу, нельга! Няёмка, дый у брычцы ня стоўпімся.

Бобчынскі. Дарма, дарма, я так: пеўнічкам, пеўнічкам пабягу за брычкаю. Мне абы толькі праз шчылінку, празь дзьверы гэнака паляддзець, як у яго гэныя абыходкі...

Гараднічы *(прыймаючы шпагу, да квартальнага)*. Бягай зараз, вазьмі дзясяцкіх, ды хай кажны зь іх возьме... Гэх, шпага, як абшаркалася! Пракляты купчанюшка Аўдулін — бачыць, што ў гараднічага старая шпага, ня прыслаў новае. О, крывадушны народ! А так, зладзюгі, піць даць, просьбы з-пад хвартуха рыхтуюць. Хай кажны возьме ў рукі па вуліцы... Ліха матары, па вуліцы — па мятле! І вымялі-б цэлую вуліцу, што йдзе да заезду, і вымялі-б чысьцютка... Чуеш! ды шануйся: ты, ты, я знаю цябе: ты там кумуешся ды крадзеш у халявы срэбныя лыжачкі — глядзі, у мяне найстры вуха! Што ты зрабіў з купцом Чарняевым — га? Ён табе на мундзер даў два аршыны сукна, а ты скруціў усю трубку! Глядзі, не да чыну бярэш! Пайшоў!

*Зьява V*

Тыя самыя й прыстаў.

Гараднічы. А, Сьцяпане Ільлёвічу, скажэце, дзеля Бога, куды самі запраторыліся? Куды гэта падобна?

Прыстаў. Я быў гэттака зараз-жа за брамаю.

Гараднічы. Ну, слухайце адно, Сьцяпане Ільлёвічу! Дык-жа чыноўнік ізь Пецярбургу прыехаўшы. Як самі там распарадзіліся?

Прыстаў. Ды так, як самі загадвалі. Квартальнага Пугавіцына я паслаў зь дзясяцкімі падчышчаць пратавар.





Гараднічы. А Дзяржыморда дзе?

Прыстаў. Дзяржыморда паехаўшы на пажарнай трубе.

Гараднічы. А Прохараў п’яны?

Прыстаў. П’яны.

Гараднічы. Як-жа самі гэта так дапусьціліся?

Прыстаў. Ды Бог яго ведае. Учарайшага дня здарылася за горадам бойка, — паехаў туды дзеля парадку, а зьвярнуўся п’яны.

Гараднічы. Слухайце-ж адно, самі зробіце вось што: квартальны паручнік... ён высокага росту, дык хай стаіць, дзеля добрага ладу, на мосьце. Ды раскідаць нагвалт стары плот, што каля шаўца, і пастаўце саламяную вяху, каб было падобна да плянаваньня. Яно чым болей ламаніны, тым больш азначае дзейнасьці кіраўніка гораду. Ах, Божа мой! Я й забыўся, што каля таго плоту нагрувашджана на сорак вазоў усялякага сьмецьця. Што за паганы горад: толькі дзе-небудзь пастаў які-небудзь помнік ці проста плот, ліха іх ведае, адкулечы і пананосяць усялякае дрэні. Ды калі прыежджы чыноўнік будзе пытацца службу, ці здаволеныя — каб адказвалі: *„З усяго здаволеныя, ваша чэсьць“*, а каторы будзе нездаволены, дык яму пасьля дам такога нездаволу... *(Уздыхае)*. Авохці-ох! Грэшны, багата ў чым грэшны! *(Бярэ заміж капялюша футарал)*. Дай толькі Божачка, каб зыйшло з рук як хутчэй, дык-жа тады я пастаўлю такую сьвеччыну, што йшчэ ніхто ня ставіў: на кажную гадаву пару купца накладу дастачыць па тры пуды воску. О, Божа мой, Божа мой! Едзьма, Пётра Іванавічу! *(Заміж капялюша хоча надзець папяровы футарал)*.

Прыстаў. Антоне Антонавічу, гэта кардонаўка, а не капялюш!

Гараднічы *(кідае кардонаўку)*. Кардонаўка дык кардонаўка! Ліха і зь ёй! Ды калі спытаюцца: чаму ня збудаваўшыся царква пры богугоднай установе, на якую пяць год таму былі асыгнаваныя грошы, дык не забыцца сказаць, што пачала будавацца, ды згарэла. Ато, бадай, хто, забыўшыся, здуру целяпне, што яна й не пачыналася. Ды сказаць Дзяржыморду, каб ня надта даваў волі кулаком сваім: ён, дзеля парадку, усім ставіць ліхтары пад вачыма — і віннаму, і бязьвіннаму. Едзьма, Пётра Іванавічу. *(Выходзіць і вяртаецца)*. Ды ня выпушчаць салдатні на вуліцу без усяго-ўсенькага: гэтая паганая гарніза насуне толькі па кашулі мундзер, а ўнізе нічога нямаш.

Усе выходзяць.

*Зьява VI*

Ганна Андрэеўна й Мар’я Антонаўна выбягаюць на сцэну.

Ганна Андрэеўна. Дзе-ж яны, дзе-ж яны? Ах, Божа мой! *(Адчыняючы дзьверы).* Мужу! Антоська! Антоне! *(Гаворыць хуценька).* А ўсё сама, а ўсё за самой. І пайшла поркацца: *„Я шпілечку, я хусьціначчку“. (Падбягае да вакна й крычыць).* Антоне, куды, куды? Што, прыехаў? рэвізор? з вусамі? зь якімі вусамі?

Голас гараднічага. Пасьля, пасьля, матухна.

Ганна Андрэеўна. Пасьля? Вось навіна, пасьля! Я ня хачу пасьля… Мне толькі адно слоўца: што ён, палкоўнік? Га? *(Грэбліва).* Паехаў! Я табе ўспамяну гэта! А ўсё гэтая: *„Мамуленька, пачакайце, зашпілю адзаду хусьцінку; я зараз“.* Вось табе й зараз! Вось табе й нічога не даведаліся! А ўсё праклятае какятоўства: пачула, што паштмайстар тутака, і давай перад люстрам жамоніцца, і з гэнага боку, і з гэтага боку падыйдзе. Мроіла, што ён за ёй уганяецца, а ён проста самой міну строіць, калі сама адвернешся.

Мар’я Антонаўна. Ды што-ж рабіць, мамуленька? Усё’дна, за дзьве гадзінкі мы ўсё даведаемся.

Ганна Андрэеўна. За дзьве гадзінкі: шчыра дзякую! Вось узычыла адказам! Як ты не здаўмелася сказаць — за месяц яшчэ лепш можна даведацца! *(Перавешваецца за вакно).* Гэй, Аўдоцьця! Га? Што, Аўдоцьця, чула, тамака прыехаў нехта?.. Ня чула? Дурніла якая! Махае рукамі? Хай махае, а ты-б усё-ткі ў яго распыталася? Не магла гэтага даведацца, у галаве пацяруха, усё кавалеры сядзяць! Га? Хутка паехалі! ды ты-б пабегла за брычкаю! Пайшла, пайшла зараз-жа! Чуеш, бягай, распытайся: куды паехалі, ды распытайся добранька, што за прыежджы, які ён, — чуеш? падцікуй праз шчылінку і даведайся ўсё, і вочы якія: чорныя ці не, і вомірг-жа вяртайся назад, чуеш? Хутчэй, хутчэй, хутчэй, хутчэй! *(Крычыць датуль, пакуль ня спушчаецца заслона і не засланяець іх абедзьвюх, стаючы ля вакна).*





**Дзея другая**

Маленькі пакойчык у гасьцінньіцы. Ложак, стол, валіза, пустая пляшка, боты, шчотка ад адзежы й іншае.

*Зьява I*

Восіп ляжыць на панавым ложку.

Восіп. Ліха матары, есьці гэтак хочацца і ў чэраве трэскат такі, быццам цэлы полк затрубіў у трубы. Вось-жа не даедзем, дый годзе, дадому! І што ты скажаш рабіць? Другі месяц пайшоў, як ужо зь Піцеру! прамантачыў па дарозе грошыкі, галубок, цяперака сядзіць, і хвост пад сябе, і ані кіпіць. А стала-б, і аж надта стала-б на прагоны; дык не, глянь ты, трэба ў кажным горадзе паказаць сябе! *(Перадражнявае). „Гэй, Восіп, пайшоў, палядзі пакой, лепшы, ды абед накажы самалепшы: я не магу есьці благога абеду, мне трэба лепшы абед“.* Балазе каб было, запраўды, што людзкае, а гэта-ж алістрацюжка звычайнюсенькі! Із праежджым знаёміцца, а тады ў карталюшкі — вось табе й дагуляўся! Гэх, абрыдала такое жыцьцё! Праўда-ж, на сяле лепш: яно хоць няма публічнасьці, дык турботнасьці меней! Возьмеш сабе бабу, дый ляжы цэлы век на печы й паядай перапечы. Ну, хто-ж запярэчыць, ведама, калі пойдзе на праўду, дык жыцьцё ў Піцеры балазей за ўсё. Былі-б адно грошы, а жыцьцё тонкае й палітыцкае: кіятры, сабакі табе танцуюць, і ўсё, што хочаш. Размаўляе ўсё на тонкай далікатнасьці, што хіба толькі дваранству саступіць; пойдзеш на Шчукін — купцы табе крычаць: *„Шаноўны!“* На перавозе ў човен із чыноўнікам сядзеш; кумпаніі захацеў — пайшоў у крамку: там табе кавалер раскажа пра лягеры й абвесьціць, што кажная зорка значыць на небе, гэтак во, як на далані ўсё бачыш чалавек. Старая афіцэрыха праблукаецца; пакаёвачка часамі зазірне такая… фу, фу, фу! *(Усьміхаецца й трасе галавою).* Галянтарэйнае, на яго ліха, абыходжаньне! Недалікатнага слоўца ніколі не пачуеш: кажнюсенькі гаворыць „вы“. Нуда табе йсьці — бярэш чалавек рамізьніка й сядзіш сабе, як пан, а ня хочаш заплаціць яму — калі ласка: у кажным доме вароты навылёт, і ты гэтак сьлізганеш, што цябе аніякі чорт ня знойдзе. Адно дрэнь: часам слаўна наясіся, а іншым разам — адно што ня лусьнеш ад голаду, як цяперака, прыкладам. А ўсё ён вінаваты. Што зь ім рабіць? Татуля прышлюць грошы, што каб іх прытрымаць — і кудэю! Пайшоў балюваць: езьдзіць на рамізьніку, штодня ты даставай у кіятры білет, а там, за тыдзень, глянь — і пасылае на барахолку прадаць новы храк. Іншым разам усё да апошняе сарочкі спусьціць, так што на ім усяго застанецца сурдуцінка ды шыня-

лінка, дальбог, праўда! І сукно такое важнецкае, англейскае! Рубельчыкаў з паўтараста яму адзін храк стане, а на рынку спусьціць рублёў за дваццатку; а пра порткі й гаворкі няма — ні за сабаку йдуць. А чаму? — таму, што работкі ня пільнуецца. Заміж, каб на службу, а ён ідзе праходжацца прышпэктам, у карталюшкі рэжа. Гэх, каб даведаўся гэта стары пан! Ён не палядзеў-бы на тое, што ты чыноўнік, а, загаліўшы кашулінку, такіх-бы засыпаў табе, што дні з чытыры-б ты папачухаўся. Якся служыць, дык служы. Во цяперака гаспадар сказаў, што ня дам вам есьці, пакуль не заплаціце за наетае; ну а якся не заплацім? *(Уздыхаючы).* Ах, Божа ты мой, хоць бы якое капусты! Здэцца, так-бы цяперака цэлы сьвет ізьеў. Стукае, мабыць, гэта ён ідзець. *(Хуценька зрываецца з ложка).*

*Зьява II*

Восіп і Хлестакоў.

Хлестакоў. Маеш, прыймі гэта. *(Аддае шапку й кіёк.)* А, зноў качаўся на ложку?

Восіп. Ды навошта-ж мне качацца? Ня бачыў я хіба ложка, ці што?

Хлестакоў. Хлусіш, качаўся; бачыш, усё склычана.

Восіп. Ды навошта мне ён? Хіба я ня ведаю, што гэта за ложак? У мяне ногі ёсьцека; я й пастаю. Навошта мне саміх ложак?

Хлестакоў *(ходзіць па пакоі).* Глянь там, у капшуку, тытуну няма?

Восіп. Ды дзе-ж ён будзе, тытун? Самі папазаўчора апошняе скурылі.

Хлестакоў *(ходзіць і па-рознаму сьціскае свае вусны; нарэшце гаворыць голасна й станоўка).* Слухай, гэй, Восіп!

Восіп. Чаго ласка?

Хлестакоў *(голасна, ды ня так станоўка).* Ты пайшоў туды.

Восіп. Куды?

Хлестакоў *(зусім нестаноўка й ня голасна, вельмі блізка да просьбы).* Наніз у буфэт... Тамака скажы... каб мне далі паабеду.

Восіп. Ды не, я й хадзіць ня хочу.

Хлестакоў. Як ты важышся, дурню?

Восіп. Ды так, усёдна, хоць і пайду, анічога з гэтага ня будзе. Гаспадар сказаў, што больш ня дасьць абеду.

Хлестакоў. Як ён паважыцца ня даць? Во йшчэ дурніна!

Восіп. Яшчэ кажа: і да гараднічага пайду; трэйці тыдзень пан грошай ня плаціць. Вы, пыні, з панам, кажа, зладзюгі, і пан твой — чмут. Мы, пыні, кажа, гэткіх прайдзісьветаў і падлюгаў бачылі.





Хлестакоў. А ты ўжо і рады, скаціна, зараз-жа пераказваць мне ўсё гэта.

Восіп. Кажа: *„Гэтак кажны прыедзе, абжывецца, запазычыцца, пасьля й вытурыць нельга“.* Я, кажа, *„жартаў строіць ня буду, я проста з жальбаю, каб на зьежджую, ды ў турму“.*

Хлестакоў. Ну, ну, дурніла, годзе! Пайшоў, пайшоў, скажы яму! Такая грубіянская жывёліна!

Восіп. Ды лепш я самога гаспадара да саміх паклічу.

Хлестакоў. Навошта-ж гаспадара? Ты схадзі сам скажы.

Восіп. Ды праўда-ж, спадару...

Хлестакоў. Ну, пайшоў, ліха з табой! пакліч гаспадара.

Восіп выходзіць.

*Зьява III*

Хлестакоў адзін.

Хлестакоў. Страшэнна як хочацца есьці! Гэтак крышку прайшоўся! думаў, ці ня сыйдзець апэтыт — не, на яго ліха, ня сыходзіць! Але-ж, каб у Пензе я не пагуляў, стала-б грошай даехаць дадому. Пяхотны капітан ёмка падчапіў мяне: штосы на дзіва, гадава пара, зразае. Усяго якую з чвэрць гадзінкі пасядзеў — і ўсё аблатошыў. А пры ўсім тым, страх хацелася-б зь ім яшчэ раз зрэзацца. Нагоды толькі не прывядзе. Які паганы гарадзец! У крамах анічога не даюць напавер. Гэта ўжо проста подласьць. *(Высьвіствае спачатку з „Рабэрта“, тады: „Ня шый ты мне, матухна“, а нарэшце ні тое, ні сёе.)* Ніхто ня хоча йсьці.

*Зьява IV*

Хлестакоў, Восіп і служка заезду.

Служка. Гаспадар загадалі спытацца, чаго саміх ласка.

Хлестакоў. Здароў, братка! Ну, што, ты здаровы?

Служка. Дзякуй Богу!

Хлестакоў. Ну што, як у вас у гасьцініцы? ці добра ўсё йдзе?

Служка. Але-ж, дзякуй Богу, усё добра.

Хлестакоў. Шмат праежджых?

Служка. Але-ж, даволі.

Хлестакоў. Слухай адно, даражэнькі, там мне дасюль абеду не нясуць, дык, калі ласка, падгані, каб хутчэй... бачыш, мне зараз па абедзе трэба сім-тым заняцца.

Служка. Ды гаспадар сказаў, што ня будзе больш даваць. Ён, няйначай, хацеў ісьці сяньня-ж жаліцца гараднічаму.

Хлестакоў. Ды што-ж жаліцца? Памяркуй сам, даражэнькі, як жа? Мне ж трэба есьці. Гэтак я магу зусім зьнясілець. Мне вельмі есьці хочацца: я ня жартам гэта кажу.

Служка. Дык-жа так. Ён казаў: *„Я яму абеду ня дам, пакулечы ён не заплаціць мне за ранейшае“*. Гэткі ўжо адказ ягоны быў.

Хлестакоў. Ды ты пераканай, угавары яго.

Служка. Ды што-ж яму такое гаварыць?

Хлестакоў. Ты растлумач яму паважна, што мне трэба есьці. Грошы самі сабою... Ён думае, што як яму, мужычылу, дарма, калі і не паесьці дзень, дык і іншым тое самае. Во навіна![3]

*Зьява V*

Хлестакоў адзін.

Хлестакоў. Гэта пагана, аднак-жа, калі ён зусім нічога ня дасьць есьці. Гэтак хочацца, як ніколі йшчэ не хацелася. Хіба з адзежы што пусьціць у рух? Порткі, ці што, прадаць? Не, ужо лепш пагаладаваць, ды прыехаць дадому ў пецярбурскім касьцюме. Шкада, што Ёхім не пазычыў карэты, а балазе-б, на яго ліха, прыехаць дадому ў карэце, падкаціць гэткім чартом да якога суседа-панка пад ганак, зь ліхтарамі, а Восіпа адзадзя, апрануць у лібрэю. Як-бы, я ўяўляю, усе перапудзіліся: *„Хто такі, што такое?“* А лёкай уваходзіць *(выцягваючыся й паказваючы лёкая): „Іван Аляксандравіч Хлестакоў зь Пецярбургу, загадаеце прыняць?“* Яны, капшукі, і ня ведаюць, што гэта значыць: *„Загадаеце прыняць“*. Да іх калі прыедзец які гусь-панок, дык і прэцца, мядзьведзь, проста ў гасьціны пакой. Да дочачкі якое-небудзь харошанькае падыйдзеш: *„Спадарыня, як я...“ (Зацірае рукі й падшарквае ножкаю)*. Цьфу! *(плюе)*, аж нудзіць, гэтак есьці хочацца.

[3] Далей у Гогаля рэпліка: „Служка. Пожалуй, я скажу“. У Адамовіча не перакладзеная.





*Зьява VI*

Хлестакоў, Восіп, пасьля служка.

Хлестакоў. А што?

Восіп. Нясуць абед.

Хлестакоў *(прыплясваючы ў далоні й зьлёгку падскокваючы на крэсьле)*. Нясуць! Нясуць! Нясуць!

Служка *(з талеркамі й сарвэткамі)*. Гаспадар апошні раз ужо даець.

Хлестакоў. Ну, гаспадар, гаспадар... Я плюваць на твайго гаспадара! Што там такое?

Служка. Першае й другое.

Хлестакоў. Як, толькі дзьве стравы?

Служка. Толечкі.

Хлестакоў. Во дурніна якая! я гэтага ня прыймаю. Ты скажы яму, што гэта запраўды такое? гэтага мала.

Служка. Не, гаспадар кажа, што йшчэ зашмат.

Хлестакоў. А падліўкі чаму няма?

Служка. Падліўкі няма.

Хлестакоў. Чаму-ж няма? Я сам бачыў, ідучы паўз кухню, там шмат гатавалася. І ў страўні сяньня раніцою два нейкія кароценькія чалавечкі елі сёмгу й яшчэ шмат сяго-таго.

Служка. Дык-жа яно й ёсьць, бадай, ды няма.

Хлестакоў. Як няма?

Служка. Ды ўжо-ж нямашака.

Хлестакоў. А сёмга, а рыба, а катлеты?

Служка. Ды гэта для тых, што мудрэй.

Хлестакоў. Ах ты, дурніла!

Служка. Але-ж.

Хлестакоў. Парасё ты паганае... Як-жа-ж, яны ядуць, а я ня ем? Чаму-ж я, ліха матары, не магу таксама? Хіба яны ня гэткія праежджыя, як і я?

Служка. Ды ўжо-ж, ведама, што ня гэткія.

Хлестакоў. А якія-ж?

Служка. Зазвычна, якія! Яны ўжо, пэўна што: яны грошы плацяць.

Хлестакоў. Я з табою, дурніла, ня хачу распраўляць. *(Налівае булён і есьць)*. Што гэта за булён? Ты проста вады наліў у міску: аніякага смаку няма, толькі сьмярдзіць. Я ня хачу гэткага булёну, дай мне іншага.

Служка. Дык мы прыймем. Гаспадар сказаў: якся ня хочаце, дык і ня трэба.

Хлестакоў *(баронячы рукою страву)*. Ну, ну, ну! Пакінь, дурніла! Ты звык там абыходзіцца каля іншых: я, браце, ня гэткага роду! Каля мяне ня раю… *(Есьць)*. Божа мой, які булён! *(Есьць далей)*. Я думаю, яшчэ аніводзін чалавек на сьвеце ня еў такога булёну: нейкае пер’е плавае заміж скалак! *(Кроіць курыцу)*. Ай, ай, ай, якая курыца! Дай другое! Там булёну крыху засталося, Восіп, вазьмі сабе. *(Кроіць другое)*. Што гэта за другое? Гэта не другое.

Служка. Ды што-ж такое?

Хлестакоў. Ліха яго ведае, што такое, толькі ня другое. Гэта сякера, усмажаная заміж ялавічаў. *(Есьць)*. Зладзюгі, гіцлі, чым яны кормяць? І сківіцы забаляць, калі зьесьці адзін такі кусок. *(Калупае пальцам у зубах)*. Падлюгі! Зусім як кара ад дрэва — анічым выцягці нельга, і зубы ўчарнеюць пасьля гэткіх стаўаў, рыштанцюжыны! *(Выцірае губы сарвэткай)*. Болей нічога няма?

Служка. Няма.

Хлестакоў. Гіцлі! падлюгі! і навет хоць-бы якая падліўка ці цестачка! Дзяньгубы! Зьдзіраюць толькі з праезджых!

Служка прыбірае й выносіць талеркі разам із Восіпам.

*Зьява VII*

Хлестакоў, пасьля Восіп.

Хлестакоў. Праўда-ж, як быццам і ня еў; толькі сама разахвоціўся. Каб дробязь, паслаць бы на рынак і купіць хоць кухан.

Восіп *(уваходзячы)*. Там чагосьці гараднічы прыехаўшы, даведваецца й дапытваецца пра самых.

Хлестакоў *(спалохаўшыся)*. Вось табе маеш! Гэткая гадава пара гаспадар, управіўся ўжо нажаліцца! Што, калі й запраўды ён патурыць мяне ў турму? Што-ж, калі дабрародным парадкам, я, бадай… Не, не, ня хочу! Тамака ў горадзе цягаюцца афіцэры й народ, а я, бы знарок, задаў тону й перамігнуўся з аднэй купецкай дачкою… Не, ня хочу… Ды што ён, як ён важыцца, запраўды? Што я яму, хіба купец ці рамесьнік? *(Чапурыцца й выпростваецца)*. Ды я яму проста скажу: „Як самі…“ *(У дзьвярах круціцца ручка; Хлестакоў бялее ў твары й стуляецца)*.





*Зьява VIII*

Хлестакоў, гараднічы й Добчынскі. Гараднічы, увайшоўшы, спыняецца. Абодва ў сполаху пазіраюць колькі часінаў адзін на аднаго, вырачыўшы вочы.

Гараднічы *(крыху ачуняўшы й працягнуўшы рукі па швох)*. Зычу здаровейка!

Хлестакоў *(кланяецца)*. Маё шанаваньне!

Гараднічы. Прабачце!

Хлестакоў. Дарма…

Гараднічы. Павіннасьць мая, як гараданачальніка тутэйшага гораду, рупіцца аб тое, каб праезджым і ўсім дабрародным людзям ніякіх уціскаў…

Хлестакоў *(спачатку крыху заікліва, але пад канец моцна)*. Ды што-ж рабіць?.. Я не вінаваты… Я, дапраўды-ж, заплачу… Мне прышлюць із двара.

Бобчынскі выглядае з-за дзьвярэй.

Ён больш вінаваты: ялавічыну мне падае такую цьвярдую, як бервяно; а булён — ён ліха ведае чаго лінуў туды, я мусіў выкінуць яго за вакно. Ён мяне голадам цэлымі днямі… Гарбата такая дзіўная, сьмярдзіць рыбаю, а не гарбатай. Завошта-ж я… Во навіна!

Гараднічы *(таропеючы)*. Прабачце, я, праўда-ж, не вінаваты. На рынку ў мяне ялавічы заўсёды добрыя. Прывозяць халмагорскія купцы, людзі цьвярозыя й закону добрага. Я ўжо й ня ведаю, адкуль ён бярэ такія. А калі што ня гэтак, дык… Дазвольце мне запрапанаваць самім перабрацца са мною на іншую гасподу.

Хлестакоў. Не, ня хочу! Я ведаю, што значыць на іншую гасподу: гэта значыць — у турму. Ды якое самі маеце права, ды як самі важыцеся!.. Ды вось я… Я служу ў Пецярбургу. *(Горда)*. Я, я, я…

Гараднічы *(набок)*. О, Божухна ды бацюхна, які злосны! Усё даведаўся, усё расказалі праклятыя купцы!

Хлестакоў *(харобрачыся)*. Ды вось вы тут хоць з усёй сваёй камандаю — не пайду! Я проста да міністра! *(Стукае кулаком па стале)*. Што вы? што вы?

Гараднічы *(выцягнуўшыся й калоцячыся ўсім целам)*. Зьлітуйцеся, не загубеце! Жонка, дзеткі дробныя… не зрабеце няшчасным чалавека!

Хлестакоў. Не, я ня хочу! Во йшчэ! мне што да таго? Затое, што ў самых жонка й дзеці, я мушу йсьці ў турму, во любата!

Бобчынскі выглядае празь дзьверы і ў сполаху хаваецца.

Не, дзякуй шчыра, ня хочу!

Гараднічы *(калоцячыся)*. Бяз практыкі, дальбог, бяз практыкі. Незаможнасьць стану. Самі майце ласку разважыць, дзяржаўнае пэнсіі не стае навет на хлеб із квасам. Калі-ж і былі якія хабаркі, дык самая драбяза: на стол што-небудзь ды на пару адзежыны. Што-ж да унтэр-афіцэрскае ўдавы, што займаецца купецтвам, якую я быццам-бы адлупцаваў, дык гэта паклёп, дальбог, паклёп. Гэта выдумалі злосьнікі мае; гэта такі народ, што на жыцьцё маё гатовы замахнуцца.

Хлестакоў. Ды што, мне няма анічога да іх... *(У развазе)*. Я ня ведаю, аднак-жа, навошта самі кажаце пра злосьнікаў ці пра нейкую унтэр-афіцэрскую ўдаву... Унтэр-афіцэрская жонка зусім што іншае, а мяне самі ня важцеся лупцаваць, да гэтага самім задалёка. Во йшчэ! глянь ты які! Я заплачу грошы, ды ў мяне цяпер няма. Я таму й сяджу тутака, што ў мяне няма ні капейкі.

Гараднічы *(набок)*. О, тонкая штука! Вунь куды шпургануў! Якога туману напусьціў! разчапі, хто хоча! Ня ведаеш чалавек, зь якога боку і ўзяцца. Ну, ды ўжо-ткі паспрабаваць ні куды йшло! Што будзе, тое будзе, паспрабаваць[4] *(Уголас)*. Калі самі праўда маеце патрэбу на грошы ці на што іншае, дык я гатовы служыць зараз-жа. Мая павіннасьць дапамагаць праежджым.

Хлестакоў. Дайце, пазычце мне! Я зараз расплачуся з гаспадаром. Мне каб толькі рублёў дзвяста ці хоць навет і менш.

Гараднічы *(падносячы папяроўнік)*. Акурат дзвяста рублёў, хоць і ня турбуйцеся лічыць.

Хлестакоў *(бяручы грошы)*. Шчыра дзякую! Я самім адразу-ж адашлю іх із двара... у мяне гэта раптам... Я бачу, самі дабрародны чалавек! Цяпер што іншае.

Гараднічы *(набок)*. Ну, дзякуй Богу, грошы ўзяў. Справа, здаецца, пойдзе цяпер на лад. Я-ткі яму заміж двухсот чатырыста ўстрычыў.

Хлестакоў. Гэй, Восіп!

Восіп уваходзіць.

Пакліч сюды гаспадаровага служку. *(Да гараднічага й Добчынскага.)* А што-ж самі стаіцё? Зрабеце ласку, сядайце. *(Добчынскаму)*. Сядайце, дужа прашу.

Гараднічы. Дарма, мы й так пастаімо.

[4] Далей у рукапісе адно слова неразборліва.





Хлестакоў. Зрабеце ласку, сядайце. Я цяпер бачу зусім шчырасьць вашага характару і ветласьць, а то, прызнаюся, я ўжо думаў, што вы прыйшлі, каб мяне.... *(Добчынскаму)*. Сядайце!

Гараднічы й Добчынскі сядаюць. Бобчынскі выглядае праз дзьверы й прыслухоўваецца.

Гараднічы *(набок)*. Трэ быць сьмялей. Ён хоча, каб мелі яго за інкогніту. Добра, падпусьцім і мы тарэсы: удадзём, як быццам і зусім ня ведаем, што ён за чалавек. *(Уголас)*. Мы, праходжваючыся ў справах службы, вось із Пётрам Іванавічам Бобчынскім, тутэйшым дамаўласьнікам, зайшліся ў гасьціньніцу, каб даведацца, ці добра маюцца праежджыя, бо я ня гэтак, як іншы гараднічы, якому ні да чога няма нічога; але я, апрача службы, із хрысьціянскае чалавекалюбасьці, хочу, каб кажнаму сьмяротнаму давалася добрае прыняцьце — і вось, як быццам за нагароду, выпадак падараваў такое прыемнае знаёмства.

Хлестакоў. Я таксама й сам вельмі рады. Без саміх я, прызнаюся, доўга праседзеў-бы тутака: зусім ня ведаў, чым заплаціць.

Гараднічы *(набок)*. Але-ж, распраўляй, ня ведаў, чым заплаціць! *(Уголас)*. А ці паважуся спытацца, куды і ў якія мясьціны самі маеце ласку ехаць?

Хлестакоў. Я еду ў Саратаўскую губэрню, у свой двор.

Гараднічы *(набок, з тварам, які прыймае гіранічны выраз)*. Га?[5] І рака не сьпячэ! О, ды зь ім трэба вуха найстрыўшы. *(Уголас)*. Дабрэчую справу мелі ласку наважыць. Гэта-ж вось што да дарогі: кажуць, з аднаго боку, прыкрасьці наконт затрыманьня коняй, а гэта-ж, із другога боку, забава для розуму. То-ж самі, мабыць, больш дзеля собскае прыемнасьці едзеце?

Хлестакоў. Не, татуля мяне патрабуе. Узлаваўся стары, што дасюль нічога ня выслужыў у Пецярбургу. Ён думае, што так вось прыехаў, ды зараз табе Валадзімера ў зашпілік і дадуць. Не, я паслаў-бы яго самога паабівацца ў канцылярыю.

Гараднічы *(набок)*. Прашу паглядзець, якія кулі адлівае! І бацьку старога прыплёў![6] І на даўжэйшы час маеце ласку ехаць?

Хлестакоў. Праўда-ж, ня ведаю. То-ж мой бацька наравісты й дурны, стары хрэн, як бервяно. Я яму проста скажу: як хочаце, я не магу

[5] Перад гэтым *„В Саратовскую губернию!“* — прапушчаная ў перакладзе фраза.

[6] Пасля гэтага „(Вслух)“ — прапушчаная ў перакладзе рэмарка.

жыць безь Пецярбургу. Завошта, дапраўды-ж, я павінен загубіць жыцьцё з мужыкамі? Цяпер ня тыя патрэбы, душа мая прагне прасьветы.

Гараднічы *(набок)*. Слаўна засмаргнуў вузельчык! Хлусіць, хлусіць, — і нідзе не сахлысьнецца! А які-ж нявыглядны, нізенькі, здаецца, кіпцем-ба прыдушыў яго. Ну, ды чакай-жа! Ты ў мяне прагаворышся. Я цябе ўжо-ткі змушу як найбольш расказаць! *(Уголас)*. Справядліва мелі ласку зазначыць! Што можна зрабіць у глушэчы! Гэта-ж вось хоць-бы й тутака: ночы ня сьпіш чалавек, стараешся для Бацькаўшчыны, не шкадуючы нічога, а ўзнагарода няма ведама йшчэ калі будзе. *(Азірае пакой)*. Здаецца, гэты пакой крыху макраваты?

Хлестакоў. Паганы пакой, і клапы такія, якіх я анідзе ня бачыў: як сабакі кусаюцца.

Гараднічы. Скажэце! Такі асьвечаны госьць, і церпіць ад каго-ж! — ад якіх-небудзь нягодных клапоў-блышчыцаў, якім-бы й на сьвет ня трэ было радзіцца! Няйначай, і цёмна ў гэтым пакоі?

Хлестакоў. Але-ж, зусім цямнюсенька. Гаспадар займеў звычай не даваць сьвечак. Часам што-небудзь хочацца зрабіць, пачытаць, ці прыйдзе фантазія апісаць што — не магу: цёмна, цёмна!

Гараднічы. А ці паважуся прасіць саміх... ды не, я ня годны.

Хлестакоў. А што?

Гараднічы. Не, не, ня годны, ня годны!

Хлестакоў. Ды што-ж такога?

Гараднічы. Я-б здабыўся на адвагу... У мяне ў хаце ёсьць харошы для саміх пакойчык, сьветлы, спакойны... ды не, пачуваю сам, што гэта ўжо занадта вялікі гонар... Не загневайцеся, дальбог, ад простае душы прапанаваў.

Хлестакоў. Наадварот, я з ахвотаю. Мне куды прыямней у прыватным доме, чымся ў гэтай карчме.

Гараднічы. А ўжо-ж мне якая будзе радасьць! А ўжо-ж як жонка ўзрадуецца! У мяне ўжо такі характар: гасьціннасьць ад сама адмалку, асабліўна калі госьць асьвечаны чалавек. Ня ўздумайце, каб я казаў гэта зь лісьліўства; не, ня маю гэтае ганьбы, ад паўніні душы выказваюся.

Хлестакоў. Шчыра дзякую! Я сам таксама ня люблю людзей двудушных. Мне вельмі падабаецца ў саміх шчырасьць і зычлівасьць, і я-б, прызнаюся, больш-бы нічога й не патрабаваў, як толькі аддавай мне адданасьць і пашану, пашану й адданасьць.





*Зьява IX*

Тыя самыя й гаспадароў служка, у таварыстве Восіпа.
Бобчынскі выглядае празь дзьверы.

Служка. Мелі ласку пытацца?

Хлестакоў. Але, падай рахунак.

Служка. Я ўжо надовечы падаваў самім другі рахунак.

Хлестакоў. Я ўжо ня памятаю тваіх дурных рахункаў. Кажы, колькі там?

Служка. Самі мелі ласку першага дня ўзяць абед, а на другі дзень толькі закусілі сёмгі і пасьля пайшлі ўсё напавер браць.

Хлестакоў. Дурніла! Яшчэ пачаў вылічаць. За ўсё колькі трэба?

Гараднічы. Ды самі будзьце ласкавы ня турбавацца: ён пачакае. *(Служку)*. Пайшоў вон, табе прышлецца.

Хлестакоў. Запраўды, і гэта рацыя. *(Хавае грошы)*.

Служка выходзіць. Празь дзьверы выглядае Бобчынскі.

*Зьява X.*

Гараднічы, Хлестакоў, Добчынскі.

Гараднічы. Ці ня будзе саміх ласка аглядзець цяпер некаторыя ўстановы ў нашым горадзе, як гэта — богугодныя й іншыя?

Хлестакоў. А што там за што?

Гараднічы. А так, палядзіце, якая ў нас плынь справаў.... парадак які...

Хлестакоў. Зь вялікай прыемнасьцяй, я гатовы.

Бобчынскі выстаўляе голаў празь дзьверы.

Гараднічы. Таксама, калі будзе саміх зычэньне, адтуль у паветавае вучылішча, агледзець парадак, у якім выкладаюцца ў нас навукі.

Хлестакоў. Калі ласка, калі ласка.

Гараднічы. Пасьля, калі зажадаеце наведаць вастрог і гарадзкія турмы — разгледзіце, як у нас маюцца злачынцы.

Хлестакоў. Ды навошта-ж турмы? Ужо лепш агледзьма богугодныя ўстановы.

Гараднічы. Як саміх ласка. Як самі маніцёся, у сваім повазе, ці разам са мною ў брычцы?

Хлестакоў. Але, я лепш із самімі ў брычцы паеду.

Гараднічы *(Добчынскаму)*. Ну, Пётра Іванавічу, самім цяперака няма месца.

Добчынскі. Дарма, я так.

Гараднічы *(ціха Добчынскаму)*. Слухайце: самі бягайце, ды подбегам, на ўсе застаўкі, і аднясіце дзьве пісулькі: адну ў богугодную ўстанову Земляніку, а другую жонцы. *(Хлестакову)*. А ці паважуся я прасіць дазваленьня напісаць у саміх прытымбыцьці адзін радок жонцы, каб яна падрыхтавалася да прыняцьця шаноўнага гасьця?

Хлестакоў. Ды навошта-ж!.. А, зрэшты, вось дзе й чэрня, толькі паперы, ня ведаю... Хіба на гэтым рахунку?

Гараднічы. Я восьдзека напішу. *(Піша й тым-жа часам гаворыць сам сабе)*. А вось палядзімо, як пойдзе справа пасьля фрыштыку ды пляшкі-таўстапузкі! Ды ёсьцека ў нас губэрнская мадэра, непаглядная на вока, а сланя зваліць із капытоў. Адно-б мне даведацца, што ён за што і ў якой меры яго трэба сьцерагчыся. *(Напісаўшы, аддае Добчынскаму, які падыходзіць да дзьвярэй, ды ў гэтым часе дзьверы зрываюцца, і Бобчынскі, які падслухоўваў з другога боку, ляціць разам із дзьвярыма на сцэну. Усіхныя воклічы. Бобчынскі ўзьнімаецца)*.

Хлестакоў. Што? Ці не пабіліся самі дзе-небудзь?

Бобчынскі. Нічога, нічагутка, без усякенькага памяшальніцтва, толькі звыш носу невялічкі плескачэц. Я забягуся да Хрысьціяна Іванавіча: у яго-ж ёсьцека пляйстар гэнакі, — яно й загоіцца.

Гараднічы *(робячы Бобчынскаму дакорлівы знак, Хлестакову)*. Гэта-ж дарма. Прашу, калі ласка, будзьце ласкавы! а саміх служку я скажу, каб перанёс рэчы. *(Восіпу)*. Даражэнькі, ты перанясі ўсё да мяне, да гараднічага, табе кожны пакажа. Прашу, калі ласка! *(Прапушчае напэрад Хлестакова і йдзе за ім, але, абярнуўшыся, гаворыць із дакорам Бобчынскаму)*. Ужо й самі! не знайшлі іншае мясьціны зваліцца! І расьцёгся, як ліха ведае што якое. *(Выходзіць; за ім Бобчынскі)*.

Заслона апушчаецца.

## Дзея трэйцяя

Пакой першае дзеі

*Зьява I*

Ганна Андрэеўна, Мар'я Антонаўна
стаяць ля вакна ў тых-жа самых паставах.

Ганна Андрэеўна. Ну, вось ужо цэлую гадзіну не дачакаемся, а ўсё ты із сваім дурным жамонствам: зусім надзелася, не! яшчэ трэба порцацца... Ня слухаць-бы яе зусім. Гэткая дакука! Як знарок, ні душы! Як быццам-бы вымерла ўсё.





Мар'я Антонаўна. Ды праўда-ж, мамуленька, часінкі за дзьве ўсё даведаемся. Ужо неўзабаве Аўдоцьця павінна прыйсьці. *(Узіраецца ў вакно й скрыквае)*. Ах, мамуленька, мамуленька! нехта йдзе, вунь, на канцы вуліцы.

Ганна Андрэеўна. Дзе йдзе? У цябе вечна якія-небудзь фантазіі. Ну але, ідзе. Хто-ж ідзе? Невялічкага росту... у фраку... Хто ж гэта? Га? Гэта, аднак-жа, дакука! Хто-ж бы гэта такі быў?

Мар'я Антонаўна. Гэта Добчынскі, мамуленька!

Ганна Андрэеўна. Які Добчынскі! Табе заўсёды раптам уроіцца гэтакае... Зусім ня Добчынскі. *(Махае хусткаю)*. Гэй, самі, хадзеце сюды! хутчэй!

Мар'я Антонаўна. Праўда-ж, мамуленька, Добчынскі!

Ганна Андрэеўна. Ну, вось знарок, абы толькі папярэчыць. Кажуць табе — ня Добчынскі.

Мар'я Антонаўна. А што? а што, мамуленька? бачыце, што Добчынскі.

Ганна Андрэеўна. Ну але, Добчынскі, цяперака бачу, — чаго-ж ты пярэчыш? *(Крычыць праз вакно)*. Хутчэй, хутчэй! самі заціха йдзяцё! Ну што, дзе яны? Га? Ды кажэце-ж адтуль — усё 'дна. Што, вельмі строгі? Га? муж, муж? *(Крыху адступаючы ад вакна, з дакукаю)*. Такі дурніла: пакуль ня ўвойдзе ў пакой, нічога не раскажа!

*Зьява II*

Тыя самыя й Добчынскі.

Ганна Андрэеўна. Ну, скажэце на ласку: ну, ці-ж ня сорам самім? Я на саміх на адных спадзявалася, як на прыстойнага чалавека: усе раптам выбеглі, і самі туды сама за імі! і я вось, ад нікога дасюль ладу не дайду. Ці-ж ня сорам самім? Я ў саміх хрысьціла вашага Янечку й Лізачку, а самі вось як са мной абыйшліся!

Добчынскі. Дальбог, кумухна, гэтак бег засьветчыць пашану, што не магу адсапнуцца. Маё шанаваньне, Мар'я Антонаўна!

Мар'я Антонаўна. Дабрыдзень, Пётра Іванавічу!

Ганна Андрэеўна. Ну, што? Ну, расказвайце: што й як тамака?

Добчынскі. Антон Антонавіч прыслалі самім пісульку.

Ганна Андрэеўна. Ну, ды ён хто гэткі? гэнэрал?

Добчынскі. Не, не гэнэрал, а не паддасца гэнэралу. Такая адукацыя й важнецкія абыходкі.

Ганна Андрэеўна. Га! дык гэта той самы, пра якога было пісана мужу.

Добчынскі. Запраўдны! Я гэта першы выкрыў разам із Пётрам Іванавічам.

Ганна Андрэеўна. Ну, раскажэце, што й як?

Добчынскі. Ды, дзякуй Богу, усё шчасьліва. Спачатку ён прыняў быў Антона Антонавіча крыху засурова; але-ж, злаваў і казаў, што ў гасьціньніцы ўсё нядобра, і да яго не паедзе, і што ён ня хоча сядзець за яго ў турме; ды пасьля, як пазнаў бязьвіннасьць Антона Антонавіча і як бліжэй разгаварыўся зь ім, адразу-ж зьмяніў думкі і, дзякуй Богу, усё пайшло добра. Яны цяперака паехалі аглядаць богугодныя ўстановы... ато, прызнаюся, ужо Антон Антонавіч думалі, ці ня было патаёмнага даносу. Я сам таксама спалохаўся крышку.

Ганна Андрэеўна. Дык-жа самім чаго баяцца? Самі-ж ня служыце.

Добчынскі. Ды так, ведаеце, калі вяльможны гаворыць, пачуваеш чалавек страх.

Ганна Андрэеўна. Ну, што-ж... гэта ўсё, аднак-жа, дурніна; раскажэце, які ён із сябе? што, стары ці малады?

Добчынскі. Малады, малады чалавек, год дваццаць тры; а гаворыць зусім як стары. *„Калі ласка, — кажа, — я паеду й туды, і гэнтуды...“ (вымахвае рукамі) так гэта ўсё слаўна. „Я, — кажа, — і напісаць, і пачытаць люблю; ды шкодзіць, што ў пакоі, — кажа, — крышку зацёмна“.*

Ганна Андрэеўна. А зь сябе які ён, брунэт ці блёндын?

Добчынскі. Не, болей шантрэт, і вочы такія шпаркія, як зьвераняты, гэтак да замяшаньня ажно даводзяць.

Ганна Андрэеўна. Што тут ён піша мне ў сваёй пісульцы? *(Чытае). „Сьпяшаюся табе паведаміць, сэрцайка, што стан мой быў вельмі жаласны; але, спадзеючыся на міласэрдзе Боскае, за два салоныя гуркі асобна й паўпорцыю ікры рубель дваццаць пяць капейкаў...“ (Спыняецца).* Я нічога не разумею: да чаго-ж тут салоныя гуркі й ікра?

Добчынскі. А, гэта Антон Антонавіч пісалі на чорнай паперы, з насьпеху: там нейкі рахунак быў напісаны.

Ганна Андрэеўна. А, але, праўда. *(Чытае далей). „Але, спадзеючыся на міласэрдзе Боскае, здаецца, усё будзе на добры канец. Падрыхтуй як хутчэй пакой для важнага гасьця, той, што выклееены жоўтымі паперкамі; да абеду дадаваць ня турбуйся, бо закусім у богугоднай установе, у Арцёма Піліпавіча, а віна накажы якболей; скажы купцу Аўдуліну, каб прыслаў самалепшага, а не, дык я перапару ўвесь ягоны склеп. Цалуючы, сэрцайка, тваю ручку, застаюся твой Антон Сквозьнік-Дмуханоўскі...“* Ах, Божа мой! гэта, аднак-жа, трэба якхутчэй! Гэй, хто там? Міхалка!

Добчынскі *(бяжыць і крычыць праз дзьверы)*. Міхалка! Міхалка! Міхалка!

Міхалка ўваходзіць.

Ганна Андрэеўна. Слухай адно: бягай да купца Аўдуліна... чакай, я дам табе пісульку *(сядае да стала, піша пісульку і тымжачасам гаворыць):* гэтую пісульку ты аддай хурману Сідару, каб ён пабег да купца Аўдуліна і прынёс адтуль віна. А сам пайшоў зараз агледзь добранька гэты пакой для гасьця. Там паставіць ложак, мыцельнік і іншае.

Добчынскі. Ну, Ганна Андрэеўна, я пабягу цяпер якхутчэй зірнуць, як там ён аглядае.

Ганна Андрэеўна. Ідзеце, ідзеце, я ня баўлю самых.

*Зьява III*

*Ганна Андрэеўна й Мар'я Антонаўна.*

Ганна Андрэеўна. Ну, Марылька, нам трэба цяпер узяцца за тоалет. Ён сталічная штучка: крый Божа, каб чаго ня высьмяяў. Табе прыстайней за ўсё надзець тваю блакітную сукенку з дробнымі хвальбонкамі.

Мар'я Антонаўна. Фэ, мамуленька, блакітную! Мне зусім не падабаецца: і Ляпкіна-Цяпкіна ходзіць у блакітным, і Землянікава дачка таксама ў блакітным. Не, лепш я надзену каляровую.

Ганна Андрэеўна. Каляровую!... Праўда-ж, гаворыш, абы толькі наўсуперак. Яна табе будзе куды лепш, бо я хачу надзець крэмавую; я вельмі люблю крэмавую.

Мар'я Антонаўна. Ах, мамуленька, самім не да твару крэмавая!

Ганна Андрэеўна. Мне крэмавая не да твару?

Мар'я Антонаўна. Не да твару, я што хаця даю, не да твару; на гэта трэба, каб вочы былі зусім цёмныя.

Ганна Андрэеўна. Во добра! а ў мяне вочы хіба ня цёмныя? самацёмныя! Якую дурніну пляцеш! Як-жа ня цёмныя, калі я варажу на сябе заўсёды на хрысьценную даму?

Мар'я Антонаўна. Ах, мамуленька, самі больш чырвенная дама!

Ганна Андрэеўна. Кепства, зусім кепства! Я ніколі ня была чырвенная дама. *(У пасьпеху выходзіць разам із Мар'яй Антонаўнай і гаворыць за сцэнай)*. Гэтакае раптам уроіцца: чырвенная дама! Бог ведае, што такое!

Як яны выйшлі, адчыняюцца дзьверы, і Міхалка выкідае зь іх сьмецьце. З другіх дзьвярэй выходзіць Восіп із куфэркам на галаве.

*Зьява IV*

Міхалка й Восіп.

Восіп. Куды тут?

Міхалка. Сюды, дзядзечка, сюды!

Восіп. Чакай, перш дай адсапнуцца. Ах ты, гаротнае жыцьцё! на пустое чэрава кажная ношка зацяжкой выдаецца.

Міхалка. Што, дзядзечка, скажэце, хутка будзе ганарал?

Восіп. Які ганарал?

Міхалка. Ды пан саміх.

Восіп. Пан? ды які ён ганарал?

Міхалка. А хіба не ганарал?

Восіп. Ганарал, ды толькі з другога боку.

Міхалка. Што-ж? болей ці меней за праўдзівага ганарала?

Восіп. Болей.

Міхалка. Бач то як! то-ж бо то, у нас замітусіліся.

Восіп. Слухай адно, хлопча: ты, бачу я, пракідкі дзяцюк; ану, наладзь нам чаго ўкусіць.

Міхалка. Ды для саміх, дзядзечка, яшчэ нічога не гатовае. Простае стравы самі ня будзеце есьці, а вось як пан саміх сядзе да стала, дык і самім тае-ж стравы ўзычаць.

Восіп. Ну, а з простае, дык што ў вас ёсьць?

Міхалка. Капуста, каша ды перапечкі.

Восіп. Давай іх, капусту, кашу ды перапечкі! Дарма, усё будзем есьці. Ну, панясем куфэрак! Што, другі выхад ёсьць?

Міхалка. Ёсьць.

Абодва нясуць куфэрак у субочны пакой.





*Зьява V*

Квартальныя адчыняюць абедзьве палавіцы дзьвярэй. Уваходзіць Хлестакоў; за ім гараднічы, далей апякун богугодных установаў, інспэктар школаў, Добчынскі й Бобчынскі, з плястырам на носе. Гараднічы паказвае квартальным на падлозе папурку — яны бягуць і падымаюць яе, штурхаючы адзін аднаго ў пасьпеху.

Хлестакоў. Добрыя ўстановы! Мне падабаецца, што ў вас паказваюць праежджым усё ў горадзе. У іншых гарадох мне нічога не паказвалі.

Гараднічы. У іншых гарадох, адважуся далажыць самім, кіраўнікі гораду й чыноўнікі больш рупяцца аб сваёй карысьці; а тутака, можна сказаць, няма іншае подумкі, апрача тае, каб дабрачыньнем і пільнасьцяй заслужыцца на ўвагу начальства.

Хлестакоў. Сьнеданьне было вельмі добрае; я зусім аб'еўшыся. Што, у вас штодня бывае гэткае?

Гараднічы. Знарок дзеля такога прыемнага гасьця.

Хлестакоў. Я люблю пад'есьці. Гэта-ж на тое жывеш, каб зрываць краскі прыемнасьці. Як называлася гэная рыба?

Арцём Піліпавіч *(падбягаючы)*. Лабардан.

Хлестакоў. Вельмі смачная! Дзе гэта мы сьнедалі? у больніцы, ці што?

Арцём Піліпавіч. Чыста так, у богугоднай установе.

Хлестакоў. Памятаю, памятаю, там стаялі ложкі. А хворыя ачунялі? там іх, здаецца, няшмат.

Арцём Піліпавіч.Чалавекаў зь дзесяць засталося, ня больш; а рэшта ўсе ачунялі. Гэта ўжо так уладжана, такі парадак. Ад тых дат, як я пераняў начальства, можа, самім здасца навет няверыгодным, усе, як мухі, ачуньваюць. Хворы ня ўправіцца ўвайсьці ў лязарэт, як ужо здаровы; і ня гэтулькі мэдыкамэнтамі, колькі сумленнасьцяй і парадкам.

Гараднічы. Ужо навошта, адважуся самім далажыць, галовістая павіннасьць гараданачальніка! Гэтулькі ляжыць усялякіх справаў што да аднае чысьціні, падладаў, падправаў... словам, найразумнейшы чалавек прыйшоў-бы ў затлумленьне, але, дзякаваць Богу, усё йдзе шчасьліва. Іншы гараднічы, ведама, рупіўся-б аб сваіх выгодах; але ці дасьцё веры, што навет калі кладзешся спаць, усё думаеш: *„Божухна-Бацюхна ты мой, як-бы гэтак уладзіць, каб начальства ўгледзела маю шчырасьць і было задаволенае?..“* Узнагародзіць яно ці не, ведама,

у ягонай волі, прынамся я буду супакойны на сэрцы. Калі ў горадзе ўва ўсім парадак, вуліцы вымеценыя, арыштанты добра маюцца, п'яніцаў мала... дык чаго-ж мне болей? Дальбожачка, і чэсьці ніякае ня хочу. Яно, пэўна-ж, прынадна, але перад дабрачыннасьцяй — усё попел і марнасьць.

Арцём Піліпавіч *(набок)*. Вось дзе дзяньдзівір, як расьпісвае! даў жа Бог гэткі талент!

Хлестакоў. Гэта праўда. Я, прызнаюся, люблю таксама часам заrалавіцца: іншым разам прозаю, а іншым і вершык выкінецца.

Бобчынскі *(Добчынскаму)*. Справядліва, усё справядліва, Пётра Іванавічу! Заўвагі такія... відаць, што навукаў вучыўся.

Хлестакоў. Скажэце, на ласку, ці няма ў вас якіх забаваў, таварыстваў, дзе можна было-б, прыкладам, згуляць у карты?

Гараднічы *(набок)*. Эгэ, ведаем, галубочку, у чый гародчык камяньчыкі шпурляюць! *(Уголас)*. Крый Божа! Тутака й чуць не пачуеш пра такія кумпаніі. Я картаў і ў рукі ніколі ня браў; нат ня ведаю, як гуляць у карты. Глядзець на іх не магу спакойна, а калі здарыцца згледзець гэтак якога званковага караля ці што-небудзь іншае, дык гэткая агіда апануе, што, проста, плюнеш чалавек. Аднойчы нек здарылася, забаўляючы дзяцей, злажыў будку з картаў, дык пасьля гэтага цалюткую ноч сьніліся, праклятыя! Бог із імі! Як можна, каб такі дарагі час марнаваць на іх.

Лукаш Лукашовіч *(набок)*. А ў мяне, падлюга, выпантаваў учора сто рублёў.

Гараднічы. Балазей-жа я ўжыву гэты час на карысьць дзяржаўную.

Хлестакоў. Ну, не, самі дарэмна, аднак-жа... Усё залежыць ад таго, зь якога боку хто глядзіць на рэч. Калі, прыкладам, забастуеш, тымчасам як трэба гнуць ад трох рагоў... ну тады, ведама!.. Не, не кажэце, часам вельмі прынадна згуляць.

*Зьява VI*

Тыя самыя, Ганна Андрэеўна й Мар'я Антонаўна.

Гараднічы. Адважуся пазнаёміць сямейку маю: жонка й дачка.

Хлестакоў *(раскланьваючыся)*. Які я шчасьлівы, спадарыня, што маю ў сваім сэньсе прыемнасьць самых бачыць.

Ганна Андрэеўна. Нам яшчэ больш прыемна бачыць такую асобу.

Хлестакоў *(рысуючыся)*. Дайце рады, спадарыня, зусім наадварот: мне йшчэ прыямней.





Ганна Андрэеўна. Як-жа можна! Самі гэта так маеце ласку казаць, дзеля камплімэнту. Прашу шчыра, сядайце.

Хлестакоў. Каля самых стаяць ёсьць ужо шчасьце; зрэшты, калі самі так канечна жадаеце, я сяду. Які я шчасьлівы, што, нарэшце, сяджу каля самых.

Ганна Андрэеўна. Дайце рады, я ніяк ня важуся прыняць на сябе. Я думаю, самім пасьля сталіцы ваяжаваньне выдалася вельмі прыкрым.

Хлестакоў. Надзвычай прыкрым. Звыкшы жыць, *comprenez vous*, у сьвеце, і раптам апыніцца ў дарозе — брудныя корчмы, цемра невуцтва... Калі-б, прызнаюся, не такая нагода, якая мяне... *(паглядае на Ганну Андрэеўну й рысуецца перад ёй)* гэтак узнагародзіла за ўсё...

Ганна Андрэеўна. Запраўды, як самім мусіць быць няпрыемна!

Хлестакоў. Зрэшты, спадарыня, гэтае часіны мне вельмі прыемна.

Ганна Андрэеўна. Як-жа можна! Самі робіце багата гонару. Я на гэта не заслугоўваю.

Хлестакоў. Чаму-ж не заслугоўваеце? Самі, спадарыня, заслугоўваеце.

Ганна Андрэеўна. Я жыву на вёсцы...

Хлестакоў. Але, вёска, зрэшты, таксама мае свае ўзгоркі, ручайкі... Ну, пэўна-ж, хто параўнае да Пецярбургу! Гэх, Пецярбург! Што за жыцьцё, праўда-ж! Вы, мажа, думаеце, што я толькі перапісваю; не, начальнік аддзяленьня са мной у сябрах. Гэтак стукне па плячы: *„Прыходзь, братка, на абед!“* Я толькі на дзьве часінкі заходжуся ў дэпартамэнт, толькі каб сказаць, гэта вось гэтак, гэта вунь гэнак. А там ужо чыноўнік для пісьма, гэнтакі пацучына, пяром толькі — тртр... пайшоў пісаць! Хацелі былі навет мяне на калескага асэсара зрабіць, ды, думаю, навошта. І стораж ляціць яшчэ на сходах за мною із шчоткаю: *„Дазвольце, Іване Аляксандравічу, я самім, — кажа, — боты выляксую“. (Да гараднічага).* Што вы, спадары, стаіце? Калі ласка, сядайце!

Разам: Гараднічы. Чын такі, што йшчэ можна пастаяць.

Арцём Піліпавіч. Мы пастаімо.

Лукаш Лукашовіч. Будзьце ласкавенькі, ня турбуйцеся!

Хлестакоў. Бяз чыноў, прашу сядаць.

Гараднічы і ўсе сядаюць.

Наадварот, я навет стараюся заўсёды прасьлізнуць няўзнак[7]. Ды ніяк нельга схавацца, ніяк нельга! Толькі выйду куды, ужо й кажуць: *„Вунь, — кажуць, — Іван Аляксандравіч ідзе!“* А аднойчы на мяне паду-

[7] Перад гэтым сказам *„Я не люблю церемонии“* — не перакладзеная фраза.

малі, што галоўнакамандуючы, салдаты выскачылі з гаўптвахты й зрабілі стрэльбаю. Пасьля афіцэр, які мне вельмі знаёмы, кажа мне: *„Ну, братка, мы цябе зусім узялі за галоўнакамандуючага“.*

Ганна Андрэеўна. Скажэце, як!

Хлестакоў. З прыгожанькамі артысткамі знаёмы. Я-ж таксама розныя вадэвільчыкі... літаратараў часта бачу. Із Пушкіным у сябрах. Бывала, часта кажу яму: *„Ну, што, браце Пушкін?“ — „Ды так, браце, — адказваў бывала, — там неяк усё...“* Вялікі арыгінал.

Ганна Андрэеўна. Дык самі й пішаце? Як гэта мусіць быць прыемна пісьменьніку! Самі, пэўна, і ў журналы зьмяшчаеце?

Хлестакоў. Але, і ў журналы зьмяшчаю. Маіх, зрэшты, багата ёсьць твораў: „Вясельле Фігаро“, „Робэрт Д'ябал“, „Норма“. Ужо й назоваў навет не памятаю. І ўсё выпадкам: я не хацеў пісаць, ды тэатральная дырэкцыя кажа: *„Калі ласка, братачка, напішы што-колечы“.* Думаю сабе: *„Бадай, калі ласка, братка!“* І тут-жа за адзін вечар, здаецца, усё напісаў[8]. У мяне лёгкасьць нязвычайная ў думках. Усё гэта, што было пад імём барона Брамбэуса, „Фрэгат Надзеі“ й „Маскоўскі тэлеграф“... усё гэта я пісаў.

Ганна Андрэеўна. Скажэце, дык гэта самі былі Брамбэус?

Хлестакоў. Як-жа! Я ім усім папраўляю вершы[9]. Мне Сьмірдзін дае за гэта сорак тысячаў.

Ганна Андрэеўна. Дык, пэўна, і „Юры Міласлаўскі“ саміх твор?

Хлестакоў. Але, гэта мой твор.

Ганна Андрэеўна. Я адразу здагадалася.

Мар'я Антонаўна. Ах, мамуленька, тамака напісана, што гэта Загоскінаў твор.

Ганна Андрэеўна. Ну, вось я й ведала, што навет і тут будзеш пярэчыць.

Хлестакоў. Ах, але, гэта праўда: гэты, якурат, Загоскінаў, а ёсьць другі „Юры Міласлаўскі“, дык гэны ўжо мой.

Ганна Андрэеўна. Ну гэта, пэўна, я саміх чытала. Як хораша напісана!

Хлестакоў. Я, прызнаюся, літаратурай існую. У мяне дом першы ў Пецярбурзе. Гэтак ужо й знаны: дом Івана Аляксандравіча. *(Зварачаючыся да ўсіх).* Зрабеце ласку, спадары, калі будзеце ў Пецярбурзе, прашу, прашу да мяне. Я-ж таксама й баляваньні задаю.

---

[8] Далей *„всех изумил“* — гэтая частка фразы неперакладзеная.

[9] У арыгінале — *„я им всем поправляю статьи“.*





Ганна Андрэеўна. Я думаю, зь якім там густам і пышнасьцяй задаюць баляваньні!

Хлестакоў. Проста не кажэце. На стале, прыкладам, кавун — на семсот рублёў кавун. Булён у гаршчэчку проста на параплаве прыплыў з Парыжу; адымуць вечка — пара, падобнае да якой нельга адшукаць у прыродзе. Я штодня на баляваньнях. Там у нас і віст свой зладжыўся: міністар замежных справаў, француські пасланьнік, нямецкі пасланьнік і я. І ўжо гэтак уходаешся, гуляючы, што, проста, нікуды ня варта. Як ускруцішся па сходах да сябе на чацьверты паверх — скажаш адно кухарцы: *„Маеш, Маўруся, шынэль...“* Што-ж гэта я хлушу — я й забыўся, што жыву ў бэльэтажы. У мяне адны сходы... А цікава зірнуць да мяне ў сходню, калі я йшчэ не прачнуўшыся: графы й князі таўкуцца й гудуць там, як чмялі, толькі й чуваць: ж... ж.... ж.... Іншым разам і міністар...

Гараднічы й іншыя палахліва ўстаюць із сваіх крэслаў.

Мне навет на пакетах пішуць „ваша дастойнасьць“. Аднойчы я навет кіраваў дэпартамэнт. І дзіва: дырэктар выехаў — куды выехаў, няма ведама. Ну, натуральна, пайшлі расправы: як, што, каму заняць месца? Шмат із гэнэралаў знаходзіліся ахвотнікаў, і браліся, але пойдуць, бывала, — не, мудравата! Здаецца, і лёгка на вока, а разгледзецца — проста ліха што! Бачаць, нічога не парадзіш — да мяне. І тае ж часіны па вуліцах — кур'еры, кур'еры, кур'еры... можаце ўявіць сабе, трыццаць пяць тысячаў адных кур'ераў! Якое палажэньне? — пытаюся. *„Іване Аляксандравічу, ідзеце дэпартамэнт кіраваць!“* Я, прызнаюся, крыху сумеўся, выйшаў у халаце, хацеў адмовіцца, але думаю: дойдзе да імпэратара, ну, ды й паслужны сьпіс таксама... *„Калі ласка, спадары, я прыймаю становішча, я прыймаю, — кажу, — так і будзь, — кажу, — я прыймаю, толечкі ўжо ў мяне: ні, ні, ні! ужо ў мяне вуха найстрыць! ужо я...“* І праўда, бывала, праходжу праз дэпартамэнт — проста землятрус, усё дрыжыць, калоціцца, як ліст.

Гараднічы й іншыя калоцяцца ад страху.
Хлестакоў распаляецца мацней.

О, я жарцікаў ня люблю: я ім усім задаў пастраху! Мяне сама Дзяржаўная рада баіцца. Ды што запраўды? Я гэткі! я не паляджу на нікога... я кажу ўсім: *„Я сам сябе ведаю, сам“.* Я ўсюды, усюды. У палацы штодня ежджу. Мяне заўтра-ж зробяць зараз фэльдмарш... *(Пасьлізгоўваецца і ледзь-ледзь ня валіцца на падлогу, але з пашанаю падтрымваецца чыноўнікамі).*

Гараднічы *(падыходзячы й калоцячыся цэлым целам, намагаецца вымавіць)*. А ва-ва-ва... ва...

Хлестакоў *(шпаркім адрывістым голасам)*. Што такое?

Гараднічы. А ва-ва-ва... ва...

Хлестакоў *(такім самым голасам)*. Не рашчую нічога, усё дурное.

Гараднічы. Ва-ва-ва... шасьць, дастойнасьць, ці не загадаеце адпачыць... вось і пакой, і ўсё, што трэба.

Хлестакоў. Дурное — адпачыць! Калі ласка, я гатовы адпачыць. Сьнеданьне ў вас, спадары, добрае... Я здаволены, я здаволены. *(З дэклямацыяй)*. Лабардан! Лабардан! *(Уваходзіць у бочны пакой, за ім гараднічы)*.

*Зьява VII*

Тыя самыя, апрача Хлестакова й гараднічага.

Бобчынскі[10]. Вось гэта, Пётра Іванавічу, дык чалавек! Вунь яно, што значыць чалавек! Як жывы, ня быў на ваччу такое важнае пэрсоны, ледзь не памёр ад страху. Як самі думаеце, Пётра Іванавічу, хто ён гэткі ў разважаньні да чыну?

Добчынскі. Я думаю, мала не гэнэрал.

Бобчынскі. А я дык думаю, што гэнэрал-жаж яму і ў падноскі ня стане! а калі гэнэрал, дык ужо хіба сам гэнэралісымус. Чулі, дзяржаўную вунь раду як прыціс! Хадзем, раскажам якхутчэй Амосу Хведаравічу й Каробкіну. Бывайце, Ганна Андрэеўна!

Добчынскі. Бывайце, кумачка!

Абодва выходзяць.

Арцём Піліпавіч *(Лукашу Лукашовічу)*. Страх проста. А чаму, і сам чалавек ня ведаеш. А мы навет і ня ў мундзеры. Ну, што, як прачнецца ды ў Пецярбург махане данашэньне? *(Выходзіць у задуме, разам з інспэктарам школаў, праказваючы):* Бывайце, спадарыня!

*Зьява VIII*

Ганна Андрэеўна й Мар'я Антонаўна.

Ганна Андрэеўна. Ах, які прыемны!

Мар'я Антонаўна. Ах, любчык!

[10] „(Добчинскому)“ — рэмарка прапушчаная ў перакладзе.





Ганна Андрэеўна. Але толькі якое тонкае абыходжаньне! Адразу можна пазнаць сталічную штучку. Прыхапкі і ўсё гэта такое... Ах, якая дабрыня! я страх люблю гэткіх маладых людзей! Я прост бяз памяці. Я, аднак-жа, яму вельмі спадабалася: я заўважыла — усё на мяне пазіраў.

Мар'я Антонаўна. Ах, мамуленька, ён на мяне глядзеў!

Ганна Андрэеўна. Калі ласка, із сваёй дурніной якдалей! Гэта тут зусім недарэчы.

Мар'я Антонаўна. Не, мамулечка, праўда-ж!

Ганна Андрэеўна. Ну, вось! Крый Божа, каб не папярэчыць! нельга дый годзе! Дзе яму глядзець на цябе? і зь якое рацыі яму глядзець на цябе?

Мар'я Антонаўна. Праўда-ж, мамуленька, усё глядзеў. І як пачаў казаць пра літаратуру, дык зірнуў на мяне, і пасьля, калі расказваў, як гуляў у віста з пасланьнікамі, і тады паглядзеў на мяне.

Ганна Андрэеўна. Ну, можа, адзін які раз, дый тое так сабе ўжо, абы толькі. *„Га, — кажа сабе, — дай ужо-ткі зірну на яе!“*

*Зьява IX*

Тыя самыя й гараднічы.

Гараднічы *(уваходзіць на пальчыках)*. Чш... ш...

Ганна Андрэеўна. Што?

Гараднічы. І ня рады, што напаіў. Ну, што, калі хоць адна палавіна з таго, што ён казаў, праўда? *(Задумваецца)*. Ды як-жа й ня будзе праўда? Падгуляўшы, чалавек усё прэ наўзьверх: што на сэрцы, тое й на языку. Ведама, прыхлусянуў крышку; але-ж, не прыхлусіўшы, ніякая гаворка не гаворыцца. Зь міністрамі гуляе і ў палацы езьдзіць... Гэтак вось, праўда-ж, чым болей думаеш... ліха яго ведае, ня ведаеш, што й робіцца ў галаве: прост як быццам ці стаіш чалавек на якой званіцы, ці цябе павесіць хочуць.

Ганна Андрэеўна. А я ніякай ані не адчула боязі; я проста бачыла ў ім адукаванага, сьвецкага, вышэйшага тону чалавека, а пра чыны ягоныя мне — ані шум баравы.

Гараднічы. Ну, ужо-ткі вы — жонкі. Усё скончана, аднаго гэтага слова даволі! Вам усё — фіньцірлюшкі! Раптам плюхнуць ні з тога, ні зь сёга слоўца. Вас адсьцёбаюць, дый годзе, а мужа — толькі й бачылі. Ты, сэрца маё, абыходзілася зь ім так вольна, як быццам зь якім Добчынскім.

Ганна Андрэеўна. Пра гэта я ўжо раю самім не турбавацца. Мы сёе-тое ведаем такое... *(Паглядае на дачку)*.

Гараднічы *(адзін)*. Ну, ужо з вамі гаварыць!.. Гэткая, запраўды, прыгода! дасюль не магу ахамянуцца ад страху. *(Адчыняе дзьверы і гаворыць туды)*. Міхалка! пакліч квартальных, Сьвістунова й Дзяржымορду: яны тут недалёчка дзе-небудзь за брамаю. *(Пасьля невялікае маўчанкі)*. Дзівосна ўсё павялося цяперака на сьвеце: хоць-бы народ-жаж ужо быў выглядны, а то хударлявенькі, танклявенькі — як яго пазнаеш чалавек, хто за ён? Яшчэ вайсковы ўсё-ткі выдае зь сябе; а як надзеўшы фрачынку — ну, рыхтык муха з падцятымі крылцамі. А гэта-ж доўга мацаваўся надовечы ў заезьдзе, заломваў такія алегорыі й эківокі, што, здэцца, век-бы не дайшоў чалавек да ладу. А вось, нарэшце, і даўся. Ды йшчэ нагаварыў больш, як трэба. Відаць, што маладзён!

*Зьява X*

Тыя-ж і Восіп. Усе бягуць да яго напярэймы, ківаючы пальцамі.

Ганна Андрэеўна. Падыйдзі сюды, даражэнькі!

Гараднічы. Тш!.. што? што? сьпіць?

Восіп. Не, йшчэ крышку пацягаецца.

Ганна Андрэеўна. Слухай, адно, як ты завешся?

Восіп. Восіп, спадарыня.

Гараднічы *(жонцы й дачцы)*. Годзе, годзе вам! *(Восіпу)*. Ну што, браце, цябе накармілі добра?

Восіп. Накармілі, шчыранька дзякую, добра накармілі.

Ганна Андрэеўна. Ну што, скажы: да твайго пана, я думаю, шмат езьдзіць графоў і князёў?

Восіп *(набок)*. А што казаць, якся цяперака накармілі добра, знацца, пасьлей яшчэ лепш накормяць. *(Уголас)*. Але, бываюць і графы.

Мар'я Антонаўна. Сэрцайка Восіпка, які твой пан харошанькі!

Ганна Андрэеўна. А што, скажы, будзь ласкаў, Восіпе, як ён...

Гараднічы. Ды пакіньце, на ласку! Вы гэткімі пустымі гаворкамі толькі мне замінаеце. Ну, што, браце...

Ганна Андрэеўна. А чын які на тваім пану?

Восіп. Чын звычайна які.

Гараднічы. Ах, Божа мой, вы ўсё із сваімі дурнымі пытаньнямі! Не дасьцё ні слова пагутарыць пра справу. Ну што, браце, як твой пан?.. строгі? любіць гэтак расьпякаць ці не?

Восіп. Але, парадак любіць. Ужо яму каб усё было ў спраўнасьці.

Гараднічы. А мне вельмі падабаецца тваё аблічча, браце! Ты мусіш быць добрым чалавекам. Ну, што...





Ганна Андрэеўна. Скажы адно, Восіпе, а як пан твой там, у мундзеры ходзіць ці...

Гараднічы. Годзе вам, праўда-ж, ляшчоткі якія! Тутака патрэбная рэч: ідзець аб жыцьці чалавека... *(Да Восіпа)*. Ну, што, браце, праўда-ж, мне ты вельмі падабаешся, у дарозе ня шкодзіць, ведаеш, перакуліць лішнюю чарачку. Яно цяперака сьцюдзенавата, дык вось табе пара рублёвак на чарку.

Восіп *(бяручы грошы)*. А шчыранька дзякую, спадару! Дай Божа самім усялякага здароўя! Бедны чалавек, памаглі й яму.

Гараднічы. Добра, добра, я й сам рады. А што, браце...

Ганна Андрэеўна. Слухай адно, Восіпе, а якія вочы больш за ўсё падабаюцца твайму пану?..

Мар'я Антонаўна. Восіпка, сэрцайка! які міленькі насочак у твайго пана!

Гараднічы. Ды пачакайце, дайце мне! *(Да Восіпа)*. А што, браце, скажы, будзь ласкаў, на што больш пан твой мае ўвагу, ці бо, што яму ў дарозе больш падабаецца?

Восіп. Любіць ён, на разгледзішча, што як давядзецца. Больш за ўсё любіць, каб яго прыймалі добра, пачастунак каб быў добры.

Гараднічы. Добры?

Восіп. Але, добры. Во ўжо на што я, прыгонны чалавек, ды й тое глядзіць, каб і мне было добра. Дальбог! Бывала, заедземся куды. *„Што, Восіпе, добра цябе пачаставалі?“ — „Блага, ваша высокачэсьць“. — „Гэ, — кажа, — гэта, Восіпе, нядобры гаспадар. Ты, — кажа, — напамяні мне, як прыеду“. — „Га, — думаю сабе (махнуўшы рукою), — Бог із зь ім! Я чалавек просты!“*

Гараднічы. Добра, добра, і добра ты кажаш. Там я табе даў на чарку, дык вось яшчэ наверх на тое, на скварку.

Восіп. За што дорыце, ваша высокачэсьць? *(Хавае грошы)*. Хіба ўжо вып'ю за здароўе саміх.

Ганна Андрэеўна. Прыходзь, Восіпе, да мяне, таксама будзеш мець.

Мар'я Антонаўна. Восіпка, сэрцайка, пацалуй твайго пана!

З другога пакою чуваць невялікае кашляньне Хлестакова.

Гараднічы. Чш! *(Усьпінаецца на пальчыкі; уся сцэна напаўголасу)*. Божа вас крый галадамірыць! Ідзеце сабе! Годзе ўжо вам!

Ганна Андрэеўна. Хадзем, Марылька! Я табе скажу, што зглядзела ў гасьця гэткае, што нам удзьвюх толькі можна сказаць.

Гараднічы. О, ужо там так нагавораць! Я думаю, пайдзі адно ды паслухай! і вушы пасьля заткнеш. *(Да Восіпа)*. Ну, браце...

*Зьява XI*

Тыя самыя, Дзяржыморда й Сьвістуноў.

Гараднічы. Чш! гэнкія касалапыя медзьвядзі грукацяць ботамі! гэтак і прэцца, як быццам сорак пудоў скідае хто з возу! Дзе вас ліха носіць?

Дзяржыморда. Быў на загаданьне...

Гараднічы. Чш! *(Зачыняець яму губу)*. Гэк, як кэркнула варона! *(Дражніць яго)*. Быў на загаданьне! Як із цэбра, гэтак рыкае! *(Да Восіпа)*. Ну, браце, ты йдзі, рыхтуй там[11], што ні ёсьць у хаце, патрабуй.

Восіп выходзіць.

А вы — стаяць на ганку й ані зь месца! І нікога ня пушчаць у хату староньняга, асабліва купцоў! Калі хоць аднаго зь іх упусьціце, дык... Толькі згледзіце, што йдзе хто з просьбаю, а хоць і ня з просьбаю, ды падобны да такога чалавека, што хоча падаць на мяне просьбу, укаршэнь так проста яго й піхайце! гэтак яго! добранька! *(Паказвае нагою)*. Чулі? Чш... чш... *(Выходзіць на пальчыках сьледам за квартальнымі)*.

Заслона[12].

## Дзея чацьвертая

Той самы пакой у доме гараднічага

*Зьява I*

Выходзяць асьцярожна, мала не на пальчыках: Амос Хведаравіч, Арцём Піліпавіч, паштмайстар, Лукаш Лукашовіч, Добчынскі, Бобчынскі, усе ў поўным парадзе і ў мундзерах. Уся сцэна адбываецца напаўголасу.

Амос Хведаравіч *(шыхтуе ўсіх паўколам)*. Дзеля Бога, спадары, хутчэй у гурток, ды як больш парадку. Бог із ім: і ў палацы езьдзіць, і дзяржаўную раду расьпякае. Стройцеся на вайсковую нагу, канечна на вайсковую нагу! Самі, Пётра Іванавічу, станьце вось гэттака[13].

[11] *„что нужно для барина“* — гэтая частка фразы не перакладзеная.

[12] У арыгінале гэтага слова няма.

[13] У арыгінале: *„Вы, Пётр Иванович, забегите с этой стороны, а вы, Пётр Иванович, станьте вот тут“.*





Абодва Пятры Іванавічы забягаюць на пальчыках.

Арцём Піліпавіч. Як сабе хочаце, Амосе Хведаравічу, нам трэ было-б сёе-тое наладзіць.

Амос Хведаравіч. А што-ж-бы гэткае?

Арцём Піліпавіч. Ну, ведама што.

Амос Хведаравіч. Падсунуць?

Арцём Піліпавіч. Ну але, хоць і падсунуць.

Амос Хведаравіч. Небясьпечна, разгамоніцца: дзяржаўны чалавек. Хіба ў выглядзе падношаньня з боку дваранства — якую-небудзь памятку.

Паштмайстар. Або: вось, бач, прыйшлі поштаю грошы, няма ведама чые прыналежнасьці.

Арцём Піліпавіч. Глядзеце, каб ён саміх поштаю не патурыў куды за сьвет. Слухайце, гэтыя рэчы ня так робяцца ў упарадкаванай дзяржаве. Навошта нас гэттака цэлы эскадрон? Рэкамэндавацца трэба па адным ды сам-на-сам і гэнага... як там трэба; дык каб і вушы ня чулі! Вось як у грамадзянстве ўпарадкаваным робіцца. Ну, вось самі, Амосе Хведаравічу, першыя пачнеце.

Амос Хведаравіч. Дык лепш-жа самі: у саміх у ўстанове высокі госьць хлеба ўкаштаваў.

Арцём Піліпавіч. Дык ужо лепш Лукашу Лукашовічу, як прасьветніку моладзі.

Лукаш Лукашовіч. Не магу, не магу, спадары! Я, прызнаюся, гэтак узгадаваны, што, як загаворыць да мяне на адзін чын вышэйшы, у мяне прост і душы нямаш, і язык, як у балота, загруз. Не, спадары, аслабанеце, праўда-ж, аслабанеце!

Арцём Піліпавіч. Але-ж, Амосе Хведаравічу, апрача саміх няма каму. У саміх што ні слоўца, дык Цыцэрон зь языка зьляцеў.

Амос Хведаравіч. Што гэта! Што гэта! Цыцэрон! гляньце, што выдумалі! Што іншым разам захопішся чалавек, калі пра сабачую ганьню ці пра ганчака...

Усе *(чапляюцца да яго)*. Не, самі-ж ня толькі пра сабакаў, самі й пра стаўпатварэньне... Не, Амосе Хведаравічу, не пакідайце нас, будзьце бацькам нашым!.. Не, Амосе Хведаравічу!

Амос Хведаравіч. Адкасьнецеся, спадары!

Тымчасам чуваць хада й адкашляваньне ў пакоі Хлестакова. Усе сьпяшаюцца на прамілы Бог да дзьвярэй, ціснуцца й намагаюцца выйсьці, што адбываецца не без таго, каб ня прыціснулі сяго-таго. Чуваць напаўголасу воклічы.

Голас Бобчынскага. Вой! Пётра Іванавічу, Пётра Іванавічу, нагу адціснулі!

Голас Землянікі. Пусьцеце, пусьцеце, пусьцеце хоць із душою — зусім прыцісьлі.

Вымыкаюцца колькі воклічаў: *„ай! вой!“*
Нарэшце, усе выбіраюцца, й пакой застаецца пусты.

*Зьява II*

Хлестакоў адзін, выходзіць із заспанымі вачамі.

Хлестакоў. Я, здаецца, ніштo сабе храпануў. Адкуль яны набралі такіх пехцяроў і пярынаў? аж учаўрэў. Здаецца, яны ўчора мне падсунулі чагосьці на сьнеданьні: у галаве дасюль стукаціць. Тутака, я бачу, можна з прыемнасьцяй праганяць час. Я люблю ветласьць, і мне, прызнаюся, больш падабаецца, калі мне дагаджаюць ад шчырага сэрца, а ня тое, каб дзеля інтарэсу... А дачка гараднічага вельмі ніштo сабе, дый матуля такая, што йшчэ можна-б... Не, я ня ведаю, а мне, праўда-ж, падабаецца такое жыцьцё.

*Зьява III*

Хлестакоў і судзьдзя[14].

Судзьдзя *(уваходзячы й спыняючыся, сам сабе)*. Божа, Божа! вынясі шчасьліва; гэтак во каленцы й ломіць. *(Уголас, выцягнуўшыся й прытрымваючы рукою шпагу)*. Маю гонар рэкамэндавацца: судзьдзя тутэйшага акруговага суда, калескі асэсар Ляпкін-Цяпкін.

Хлестакоў. Прашу сядаць. Дык самі тутака за судзьдзю?

Судзьдзя. Ад 816-га быў абраны на трохгодьдзе з волі дваранства й спраўляю службу да сяе пары.

Хлестакоў. А выгода, аднак-жа, быць за судзьдзю?

Судзьдзя. За тры трохгодзьдзі прадстаўлены да Валадзімера 4-е ступені з ухваленьня з боку начальства. *(Набок)*. А грошы ў кулаку, а кулак-жаж увесь у вагні.

Хлестакоў. А мне падабаецца Валадзімер. Вось Ганна 3-е ступені ўжо ня гэтак.

[14] У арыгінале тут і паўсюль далей да канца гэтай зьявы замест *„Судья“ — „Аммос Фёдорович“*.





Судзьдзя *(высоўваючы пакрысе наперад сьціснуты кулак. Набок)*. Божухна-Бацюхна, ня ведаю, дзе сяджу. Быццам гарачае вугальле пад табою.

Хлестакоў. Што гэта ў самі́х у руцэ?

Судзьдзя *(зьбянтэжыўшыся й губляючы на падлогу асыгнацыі)*. Нічагуткі.

Хлестакоў. Як нічога? Я бачу, грошы выпалі.

Судзьдзя *(калоцячыся ўсім целам)*. Аніяк не-а! *(Набок)*. О, Божа! вось ужо я й пад судом! і карэта пад’ехала хапіць мяне!

Хлестакоў *(падымаючы)*. Але-ж, гэта грошы.

Судзьдзя *(набок)*. Ну, пэўнюсенька загінуў! Загінуў!

Хлестакоў. А ведаеце, пазычце іх мне!

Судзьдзя *(пасьпешна)*. Як-жаж, як-жаж... зь вялікай прыемнасьцяй! *(Набок)*. Ну, сьмялей, сьмялей! вывозь, Прачыстая Маці!

Хлестакоў. Я, ведаеце, у дарозе пратраціўся: тое ды сёе... Зрэшты, я самім із двара зараз-жа іх адашлю.

Судзьдзя. Дайце сьвет, як можна! і без таго гэта такі гонар... Пэўна-ж, слабымі маймі сіламі, шчырасьцяй і стараннасьцяй да начальства... пастараюся заслужыцца... *(прыўздымаецца з крэсла, выцягнуўшыся й рукі па швох)*. Ня важуся больш турбаваць сваім тут быцьцём. Ці ня будзе ніякага загаду?

Хлестакоў. Якога загаду?

Судзьдзя. Я разумею, ці не дасьцё якога загаду тутэйшаму паветаваму суду?

Хлестакоў. Навошта-ж? Мне-ж няма цяпер да яго ніякае патрэбы. Не, нічога, шчыра дзякую[15].

Судзьдзя *(раскланьваючыся й выходзячы, набок)*. Ну, горад наш!

Хлестакоў *(па ягоным выхадзе)*. Судзьдзя — слаўны чалавек!

*Зьява IV*

Хлестакоў і паштмайстар

(уваходзіць выцягнуўшыся, у мундзеры, прытрымліваючы шпагу).

Паштмайстар. Маю гонар рэкамэндавацца: паштмайстар, надворны раднік Шпёкін!

Хлестакоў. А, прашу ласкі. Я вельмі люблю прыемнае таварыства. Сядайце. Гэта-ж самі тутака заўсёды жывяцё?

[15] Гэтай апошняй фразы ў арыгінале няма.

Паштмайстар. Чыста так.

Хлестакоў. А мне падабаецца тутэйшы гарадок. Пэўна-ж, ня так модна — ну, што-ж? Гэта-ж не сталіца. Ці-ж ня праўда, гэта-ж не сталіца?

Паштмайстар. Чыстая праўда.

Хлестакоў. Гэта-ж толькі ў сталіцы бон-тон, і няма правінцыяльных гусей. Як саміх погляд, ці-ж ня так?

Паштмайстар. Так чыста! *(Набок).* А ён, аднак-жа, ані не ганарысты: пра ўсё распытваецца.

Хлестакоў. А гэта-ж, аднак, прызнайцеся, гэта-ж і ў маленькім гарадку можна пражыць шчасьліва?

Паштмайстар. Чыста так.

Хлестакоў. На мой погляд, чаго трэба? Трэба толькі, каб цябе паважалі, любілі шчыра, — ці-ж ня праўда?

Паштмайстар. Чыста справядліва.

Хлестакоў. Я, прызнаюся, рады, што самі аднаго погляду са мною. Мяне, пэўна-ж, назавуць дзіўным, ды ўжо ў мяне гэткі характар. *(Пазіраючы ў вочы яму, кажа сам сабе).* А ну, папрашу-ткі я ў гэтага паштмайстра пазычыць. *(Уголас).* Які дзіўны са мною выпадак: у дарозе чыста пратраціўся. Ці ня можаце самі пазычыць мне трыста рублёў?

Паштмайстар. Чаму-ж, чаму? За найвялікшае шчасьце. Восьдзе, будзьце ласкавы. Ад сэрца гатовы служыць.

Хлестакоў. Вельмі ўдзячны! А я, прызнаюся, сьмерць як ня люблю адмаўляць сабе ў дарозе, дый навошта? Ці-ж ня так?

Паштмайстар. Так чыста. *(Устае, выцягваецца й прытрымлівае шпагу).* Ня важуся больш турбаваць сваім тут быцьцём… Ці ня будзець якое заўвагі ў галіне паштовага кіраўніцтва?

Хлестакоў. Не, нічога!

Паштмайстар раскланьваецца й выходзіць.

Хлестакоў *(адзін, раскурваючы цыгару).* Паштмайстар, мне здаецца, таксама вельмі слаўны чалавек. Прынамся, прыслужлівы; люблю гэткіх людзей.

*Зьява V*

*Хлестакоў і Лукаш Лукашовіч, які мала не выпіхаецца зь дзьвярэй.*

Адзаду ў яго чуваць мала ня ўголас: „Чаго баішся?“

Лукаш Лукашовіч *(выцягваючыся не бяз дрыготкі й прытрымваючы шпагу).* Маю гонар рэкамэндавацца: інспэктар школаў, тытулярны раднік Хлопаў!





Хлестакоў. А, прашу ласкі! Сядайце, сядайце! Ці ня хочаце цыгарачку? *(Падаець яму цыгару).*

Лукаш Лукашовіч *(сам сабе, у ненаважнасьці).* Вось табе штука! Ужо на гэта ніяк не падумаў. Браць ці ня браць?

Хлестакоў. Вазьмеце, вазьмеце; гэта людзкая цыгарка! Пэўна-ж, ня тое, што ў Пецярбургу. Там, бацюхна, я папакурваў цыгаркі па дваццаць пяць рублёў сотачка, прост ручкі сабе пасьля пацалуеш, як выкурыш. Вось агонь, закурэце. *(Падаець яму сьвечку).*

Лукаш Лукашовіч спрабуе закурыць і ўвесь калоціцца.

Хлестакоў. Ды не з таго канца!

Лукаш Лукашовіч *(ад сполаху ўпусьціў цыгару, плюнуў і махнуў рукою, сам сабе).* Ліхенька з усім! загубіла праклятая боязь!

Хлестакоў. Самі, як бачу, не ахвотнік да цыгаркаў. А я прызнаюся, гэта мая слабасьць. Вось яшчэ наконт жаноцкае палавіны, дык не магу быць бязуважным. Як самі? Якія самім больш падабаюцца, брунэткі ці блёндынкі?

Лукаш Лукашовіч знаходзіцца ў поўным нездаўменьні, што сказаць.

Хлестакоў. Не, скажэце шчыра, брунэткі ці блёндынкі?

Лукаш Лукашовіч. Ня важуся ведаць.

Хлестакоў. Не, не, ня выкручвайцеся! Мне хочацца ведаць канечна саміх густ.

Лукаш Лукашовіч. Адважуся далажыць… *(Набок).* І сам ня ведаю, што кажу; у галаве ўсё пайшло карагодам.

Хлестакоў. А! А! ня хочаце сказаць. Пэўна, ужо якая брунэтка зрабіла самім маленькую загваздачку! Прызнайцеся, зрабіла?

Лукаш Лукашовіч маўчыць.

Хлестакоў. А! А! пачырванелі, бачыце, бачыце! Чаму-ж самі ня кажаце?

Лукаш Лукашовіч. Забаяўся, ваша чэ…. дастой… яск… *(Набок).* Прадаў, пракляты язычына, прадаў!

Хлестакоў. Забаяліся? А ў мяне ўваччу, праўда, ёсьць штосьці гэткае, што наганяе боязі. Прынамся я ведаю, што ніводная жанчына ня можа іх вытрымаць, ці ж ня так?

Лукаш Лукашовіч. Так чыста.

Хлестакоў. Вось са мною дзівосьнейшы выпадак — у дарозе зусім пратраціўся. Ці ня можаце самі пазычыць трыста рублёў?

Лукаш Лукашовіч *(хапаючыся за кішаню. Сам сабе)*. Вось-жа штука, калі няма! Ёсьць, ёсьць! *(Выймае й падае, калоцячыся, асыгнацыі)*.

Хлестакоў. Шчыра дзякую.

Лукаш Лукашовіч. Ня важуся больш турбаваць быцьцём.

Хлестакоў. Бывайце.

Лукаш Лукашовіч *(ляціць вон блізу бегма й гаворыць набок)*. Ну, дзякуй Богу! ану-ж не зазірне ў клясы.

*Зьява VI*

Хлестакоў і Арцём Піліпавіч, выцягнуўшыся й прытрымваючы шпагу.

Арцём Піліпавіч. Маю гонар рэкамэндавацца: апякун богугодных установаў, надворны раднік Земляніка.

Хлестакоў. Дабрыдзень, шчыра прашу сесьці.

Арцём Піліпавіч. Меў гонар таварышаваць самім і прыймаць асабіста ў давераных майму дагляданьню богугодных установах.

Хлестакоў. А, але, памятаю. Самі вельмі добра пачаставалі сьнеданьнем.

Арцём Піліпавіч. Рады старацца на службу бацькаўшчыне.

Хлестакоў. Я прызнаюся, гэта мая слабасьць — люблю добрую кухню. Скажэце, калі ласка, мне здаецца, як быццам-бы ўчора самі былі крышку ніжэйшага росту, ці-ж ня праўда?

Арцём Піліпавіч. Вельмі магчыма. *(Памаўчаўшы)*. Магу сказаць, што не шкадую нічога й шчыра спраўляю службу. *(Прысоўваецца бліжэй із сваім крэслам і гаворыць напаўголасу)*. Вось тутэйшы паштмайстар ані нічога ня робіць: усе справы ў вялікім запушчэньні, пасылкі затрымваюцца… на ласку, знарок дасьледуйце самі. Судзьдзя таксама, які кагадзе быў перад маім прыходам, езьдзіць толькі на зайцоў, у прысудзкіх установах трымае сабакаў, і захоўваньня, калі прызнацца перад самімі, — ведама, дзеля карысьці бацькаўшчыны, я мушу гэта зрабіць, хоць ён мне сваяк і прыяцель, — захоўваньня самазаганнага. Тутака ёсьць адзін дамаўласьнік Добчынскі, якога самі мелі ласку бачыць, і толькі як гэны Добчынскі выйдзе куды здому, дык ён тамака ўжо й сядзіць у жонкі ў ягонае, я прысягнуцца гатовы… І знарок прыгледзьцеся да дзяцей: ніводнае зь іх не падобнае да Добчынскага, а ўсе, навет дзяўчынка маленькая, як уліты судзьдзя.

Хлестакоў. Скажэце, на ласку! А я ані гэтага ня думаў.

Арцём Піліпавіч. Вось і інспэктар тутэйшае школы. Я ня ведаю, як магло начальства даверыць яму гэткую пасаду. Ён горшы за якабінца, і такія натхняе нядобрамысныя правілы, што нат выказаць цяжка. Ці не загадаеце, я ўсё гэта вылажу лепш на паперы?





Хлестакоў. Добра, хоць на паперы. Мне вельмі будзе прыемна. Я, ведаеце, гэтак люблю нудным часам прачытаць што-небудзь пацешнае… Як саміх прозьвішча? Усё я забываюся.

Арцём Піліпавіч. Земляніка.

Хлестакоў. А, так! Земляніка. І што-ж, скажэце на ласку, ёсьць у саміх дзеткі?

Арцём Піліпавіч. А як-жа-ж! пяцёра; двое ўжо выраслыя.

Хлестакоў. Скажэце, выраслыя! а як іхны.. як яны гэтага?..

Арцём Піліпавіч. Гэта значыць, ці ня маеце ласкі пытацца, як яны завуцца?

Хлестакоў. Але, як яны завуцца?

Арцём Піліпавіч. Мікалай, Іван, Альжбэта, Мар’я й Перапятуя.

Хлестакоў. Гэта добра.

Арцём Піліпавіч. Ня важачыся турбаваць сваім быцьцём, адбіраць часу, вызначанага на сьвяцейшыя абавязкі… *(Раскланьваецца, каб адыйсьці)*.

Хлестакоў *(прапускаючы)*. Не, дарма. Гэта ўсё вельмі сьмяхотна, што самі казалі. Калі ласка, і іншым таксама часам… Я гэта вельмі люблю. *(Вяртаецца і, адчыніўшы дзьверы, крычыць наўздагон яму)*. Гэй, самі! Як саміх? Я ўсё забываюся, як саміх імя й па бацьку.

Арцём Піліпавіч. Арцём Піліпавіч.

Хлестакоў. Зрабеце ласку, Арцёме Піліпавічу, са мною дзіўное здарэньне: у дарозе чыста пратраціўся. Ці няма ў саміх грошай пазычыць рублёў чатырыста?

Арцём Піліпавіч. Ёсьць.

Хлестакоў. Скажэце, як дарэчы! Шчыра самім удзячны.

*Зьява VII*

Хлестакоў, Бобчынскі й Добчынскі.

Бобчынскі. Маю гонар рэкамэндавацца: жыхар тутэйшага гораду, Пётра, Іванаў сын, Бобчынскі.

Добчынскі. Абываталь Пётра, Іванаў сын, Добчынскі.

Хлестакоў. Я, ды я ўжо саміх бачыў. Самі, здаецца, тады зваліліся? Што, як у саміх нос?

Бобчынскі. Дзякуй Богу! Будзьце ласкавы не турбавацца: прысох цяперака, зусім прысох.

Хлестакоў. Добра, што прысох. Я рады... *(Раптам і адрывіста)*. Грошай няма ў саміх?

Бобчынскі. Грошай? як грошай?

Хлестакоў. Пазычыць рублёў тысячу.

Бобчынскі. Такіх грошай, дальбог, няма. А ці няма ў саміх, Пётра Іванавічу?

Добчынскі. Пры сабе дык-жа нямашака, бо грошы мае, калі маеце ласку ведаць, пакладзеныя ў урад грамадзкага дагляду.

Хлестакоў. Але, ну калі тысячы няма, дык рублёў сто.

Бобчынскі *(мацаючы па кішэнях)*. У саміх, Пётра Іванавічу, няма сту рублёў? У мяне ўсяго сорак асыгнацыямі.

Добчынскі. Дваццаць пяць рублёў усяго.

Бобчынскі. Ды самі пашукайце адно лепш, Пётра Іванавічу! У саміх тамака, я ведаю, у кішані вунь із правага боку распорак, дык-жа ў распорак, пэўне, як-колечы закінуліся.

Добчынскі. Не, праўда-ж, і ў распорку няма.

Хлестакоў. Ну, усёдна. Я-ж толькі так. Добра, хай будзе і шэсьцьдзесят пяць рублёў... гэта ўсёдна. *(Бярэ грошы)*.

Добчынскі. Я адважваюся папрасіць саміх датычна аднае вельмі тонкай акалічнасьці.

Хлестакоў. А што гэта?

Добчынскі. Справа вельмі-ж тонкага характару: дык-жа старэйшы сын мой, маеце ласку бачыць, народжаны мною йшчэ перад жанімствам...

Хлестакоў. Так?

Добчынскі. Ці бо, яно гэтак толькі кажацца, а ён народжаны мною чыста як-бы і ў жанімстве, і ўсё гэта, як належыцца, я завяршыў пасьля законнымі-ж вязямі сужэнства-ж. Дык я, маеце ласку бачыць, хочу, каб ён цяпер ужо быў зусім, гэта знацца, законным маім сынам і зваўся-б гэтак, як я, Добчынскі.

Хлестакоў. Добра, хай завецца, гэта можна.

Добчынскі. Я-б не турбаваў саміх, ды шкада з-боку здольнасьцяў. Дык жа хлапчына такі... вялікія надзеі падае: напамяць вершы розныя раскажа і, калі дзе падхопіць ножык, зараз зробіць маленькую каламажачку так па-мастацку, чыста штукар. Вось і Пётра Іванавіч ведаюць.

Бобчынскі. Але-ж, вялікія здольнасьці мае!

Хлестакоў. Добра, добра! Я пра гэта пастараюся, я буду гаварыць... я спадзяюся... усё гэта будзе зроблена, але, але... *(Да Бобчынскага)*. Ці ня маеце й самі чаго сказаць мне?

Бобчынскі. Як-жа, маю вельмі ніжэйшую просьбу.





Хлестакоў. А што, аб чым?

Бобчынскі. Я прашу саміх шчыра-шчыра, як паедзеце ў Пецярбург, скажэце ўсім тамака вяльможам розным, сэнатарам і адміралам, што вось, ваша яснасьць, ці дастойнасьць, жывець у такім а такім горадзе Пётра Іванавіч Бобчынскі. Гэтак і скажэце: жывець Пётра Іванавіч Бобчынскі.

Хлестакоў. Вельмі добра.

Бобчынскі. Ды калі гэта й цару імпэратару давядзецца, дык скажэце й цару, што вось, пыні, ваша імпэратарская вялікасьць, у такім а такім горадзе жывець Пётра Іванавіч Бобчынскі.

Хлестакоў. Вельмі добра.

Добчынскі. Прабачце, што гэтак абцяжылі саміх сваім быцьцём.

Бобчынскі. Прабачце, што гэтак абцяжылі саміх сваім быцьцём.

Хлестакоў. Дарма, дарма! Мне вельмі прыемна! *(Выпраўляе іх)*.

*Зьява VIII*

Хлестакоў адзін.

Тутака шмат чыноўнікаў. Мне здаецца, аднак-жа, што мяне маюць за дзяржаўнага чалавека. Пэўна, я ўчора ім падпусьціў пылу. Гэнкае дураньнё! Напішу-ткі я пра ўсё ў Пецярбург да Трапічкіна: ён папісваець артыкульчыкі — хай-жа ён іх паабстрыквае добранька. Гэй, Восіп! падай мне паперы й чэрні!

Восіп вызірнуў зь дзьвярэй, праказаўшы: *„Зараз“*.

А ўжо Трапічкіну, чыста, калі гэта трапіць на зубок, — сьцеражыся: бацькі роднага не пашкадуе дзеля слоўца, і капейчыну таксама любіць. Зрэшты, чыноўнікі гэтыя добрыя людцы; гэта зь іхнага боку слаўная рыса, што яны напазычалі мне. Перагледжу знарок, колькі ў мяне грошай. Гэта ад судзьдзі трыста, гэта ад паштмайстра трыста, шэсьцьсот, семсот, восемсот... якая зацухмоленая паперынка! Восемсот, дзевяцьсот... Ого! За тысячу перакінулася... А ну-ж, цяперака, капітане, падкруціся ты мне адно цяперака, палядзімо, хто каго.

*Зьява IX*

Хлестакоў і Восіп, із чэрняю й папераю.

Хлестакоў. Ну што, бачыш, дурніла, як мяне частуюць і прыймаюць? *(Пачынае пісаць)*.

Восіп. Але-ж, дзякуй Богу! Толькі ведаеце што, Іване Аляксандравічу?

Хлестакоў. А што?

Восіп. Выяжджайце адсюля! Дальбог, пара ўжо!

Хлестакоў *(піша)*. Во дурніна! Чаму?

Восіп. Ды так. Бог і зь імі з усімі! Пагулялі тутака два дзянёчкі, — ну, і досыць. Што зь імі доўга зьвязвацца! Плюньце на іх! Няўрокам кажучы, які-небудзь іншы наедзе! А коні тутака слаўныя — гэтак-бы закацілі.

Хлестакоў *(піша)*. Не, мне йшчэ хочацца пажыць гэтта. Няхай заўтра.

Восіп. Ды што заўтра! Дальбог, паедзьма, Іване Аляксандравічу! Яно хоць і вялікі тутака гонар самім, ды ўсё-ж, ведаеце, лепш выехаць барджджэй. Гэта-ж саміх, праўдачка, за кагосьці іншага маюць, і, татуля будуць гневацца, што гэтак забавіліся. Гэтак-бы, праўда-ж, закацілі слаўна! а коняй-бы важнецкіх тутака далі.

Хлестакоў *(піша)*. Ну, добра. Аднясі адно наўперад гэты ліст, бадай, разам і падарожную вазьмі. Ды затое глядзі, каб коні добрыя былі. Хурманом скажы, што я буду даваць па рублі ў зубы, каб так, як фэльд'егеры, кацілі! і песьні-б пяялі! *(Піша далей)*. Уяўляю, Трапічкін памрэ зусім...

Восіп. Я, спадару, выпраўлю яго з чалавекам тутэйшым, а сам лепш буду пакавацца, каб ня сыйшоў час надарэмна.

Хлестакоў. Добра, прынясі адно сьвечку.

Восіп *(выходзіць і гаворыць за сцэнай)*. Гэй, слухай, браце! Занясеш ліста на пошту, і скажы паштмайстру, каб ён прыняў бяз грошай, ды скажы, каб зараз прыгналі да пана самалепшую тройку кур'ерскую, а прагону, скажы, пан ня плаціць: прагон, бач, скажы, дзяржаўны. Ды каб усё спрытней, а не дык, бач, пан злуе. Чакай, яшчэ ліст не гатовы.

Хлестакоў *(піша далей)*. Цікава ведаць, дзе ён цяпер жыве, пры Паштамцкай ці пры Гарохавай. Ён-жа таксама любіць часта перабірацца з кватэры й не даплачваць. Напішу наўдачу на Паштамцкую. *(Складае й надпісвае)*.

Восіп прыносіць сьвечку. Хлестакоў пячатае.
Тымчасам чуваць голас Дзяржыморды: *„Куды прэшся, барада? Кажуць табе, нікога не загадана пушчаць“.*

Хлестакоў *(дае Восіпу ліст)*. Маеш, занясі.

Галасы купцоў. Дапусьцеце, бацюхна, ня можаце не дапусьціць: мы ў справе прыйшоўшы.





Голас Дзяждыморды: Пайшоў, пайшоў! Ня прыймае, сьпіць.

Гармідар павялічваецца.

Хлестакоў. Што там гэткае, Восіп? Палядзі, што за гармідар.

Восіп *(пазіраючы ў вакно)*. Купцы нейкія хочуць увайсьці, ды ня пушчае квартальны. Махаюць паперамі, пэўна, саміх хочуць бачыць.

Хлестакоў *(падыходзячы да вакна)*. А што вы, даражэнькія?

Галасы купцоў. Ды твае ласкі ўпадаем! Загадайце, спадарочку, просьбу прыняць.

Хлестакоў. Упусьцеце іх, упусьцеце! Хай ідуць[16].

Восіп выходзіць.

Хлестакоў *(прыймае з вакна просьбы, разгортаець адну зь іх і чытае:) „Яго высокачэснаму сьветласьці спадару фінансаваму ад купца Абдуліна...“* Ліха ведае, што: і чыну такога няма!

*Зьява X*

Хлестакоў і купцы, з корабам віна й цукровымі галовамі.

Хлестакоў. А што вы, даражэнькія?

Купцы. Чалом б'ем вашай ласцы.

Хлестакоў. А чаго-ж вы хочаце?

Купцы. Не загубі, спадарочку! Крыўдаванства церпім зусім задарма.

Хлестакоў. Ад каго?

Адзін із купцоў. Ды ўсё ад гараднічага тутэйшага. Гэткага гараднічага ніколі йшчэ, спадарочку, ня было. Такія крыўды ўчыняе, што апісаць нельга. Папасам чыста замучыў, хоць у пятлю чалавек лезь. Не з абыходкаў абыходзіцца. Хопіць за бараду, кажа: *„Ах ты, татарын!“* Дальбог! Калі-б, гэта знацца, чым-небудзь не ўшанавалі яго, ато мы ўжо парадак заўсёды спраўляем: што належыцца на сукні дружэбніцы ягонай і дачцы — мы супраць гэнага не стаімо. Не, бач ты, яму ўсяго замала — дальбожачка! Прыйдзе ў краму, і што ні пападзя, усё бярэць: сукна згледзіць трубку, кажа: *„Гэ, міленькі, гэта добрае сукенца: занясі-ткі яго да мяне“*. Ну й нясеш чалавек, а ў трубцы-ж будзе бяз мала аршынаў пяцьдзесят.

[16] Далей у арыгінале *„Осип, скажи им: пусть идут“* — гэтая фраза ў перакладзе прапушчаная.

Хлестакоў. Няўжо? Ах, які-ж зь яго зладзюга!

Купцы. Дальбог! Гэткага ніхто ня ўпамятае гараднічага. Так усё й прыхоўваеш чалавек у краме, як яго загледзіш. Ці бо, ня тое ўжо кажучы, каб якое далікацтва, усялякую дрэнь бярэць: сьлівы гэткія, што год па сем ужо ляжаць у бочцы, што ў мяне сядзелец ня будзець есьці, а ён цэлую жменю туды запусьціць. Мяніны ягоныя бываюць на Антона, і ўжо, здэцца, усенькага нанясеш чалавек, ні ў чым ня мае патрэбы; не, яму йшчэ падавай; кажа, і на Анупрэя ягоныя мяніны. Што рабіць? і на Анупрэя нясем.

Хлестакоў. Ды гэта проста разбойнік?

Купцы. Дальбожачкі! А паспрабуй пярэчыць, навядзець да цябе ў хату цэльны полк на папас. А калі што, загадае замкнуць дзьверы. *„Я цябе ня буду, — кажа, — паддаваць цялесному пакараньню, ці катам катаваць — гэта, — кажа, — забаронена законам, а вось ты ў мяне, даражэнькі, папаясі селядца!“*

Хлестакоў. Ах, які рыштанюга! Ды за гэта прост у Сібір.

Купцы. Ды ўжо куды ласка твая ні запраторыць яго, усё будзе добра, адно-б, гэта знацца, ад нас як далей. Не пагрэбуй, бацька наш, хлебам і соляй: кланяемся табе цукярочкам і карабцом віна.

Хлестакоў. Не, вы гэтага ня думайце: я не бяру зусім ніякіх хабараў. Вось калі-б вы, прыкладам, запрапанавалі мне пазычыць рублёў трыста — ну, тады зусім што іншае: я магу ўзяць.

Купцы. Будзь ласкаў, бацька наш! *(Выймаюць грошы)*. Ды што трыста! Ужо лепш пяцьсот вазьмі, памажы толькі.

Хлестакоў. Калі ласка: пазычаць — я ні слова, я вазьму.

Купцы *(падносяць на срэбным падносе грошы)*. Ужо, калі ласка, і падносік разам вазьмеце.

Хлестакоў. Ну, і падносік можна.

Купцы *(кланяючыся)*. Дык ужо вазьмеце за адным разам і цукярочку.

Хлестакоў. О, не, я хабараў аніякіх...

Восіп. Ваша высокачэсьць! Чаму самі не берацё? Вазьмеце! на дарозе ўсё прыдасца! Давай сюды галовы й кошык! падавай усё! усё пойдзе ў спор! Што гэна? Вяровачка? Давай і вяровачку — і вяровачка ў дарозе здасца! брычка абломіцца ці што йшчэ — падвязаць можна.

Купцы. Дык ужо зрабеце гэткую ласку, ваша яснасьць! Калі ўжо самі, знацца, не паможаце ў нашай просьбе, дык ужо й ня ведаем, як і будзем: прост хоць у зашмаргу лезь.

Хлестакоў. Конча, конча! Я пастараюся.





Купцы выходзяць; чуваць голас жанчыны:
*„Не, ты ня важся ня дапусьціць мяне! На цябе нажалюся яму самому. Ты ня пхайся гэтак дужа!“*

Хлестакоў. Хто тамака? *(Падыходзіць да вакна)*. А што ты, матухна?

Галасы дзьвюх жанок. Ласкі твае, бацюхна, прашу! Загадай, спадарыку, выслухаць.

Хлестакоў *(праз вакно)*. Прапусьціць яе.

*Зьява XI*

Хлестакоў, сьлесарыха й унтэр-афіцэрыха.

Сьлесарыха. (кланяючыся ў ногі). Ласкі прашу!

Унтэр-афіцэрыха. Ласкі прашу...

Хлестакоў. Ды што вы за жанкі?

Унтэр-афіцэрыха. Унтэр-афіцэрская жонка Іванова.

Сьлесарыха. Сьлесарыха, тутэйшая мяшчанка, Хаўроньня Пётрава Пашлёпкіна, бацюхна мой.

Хлестакоў. Чакай, гавары перш адна, чаго табе трэба?

Сьлесарыха. Ласкі прашу, на гараднічага чалом б'ю! Нашлі на яго, Божа, усялякае зло, каб ні дзеткам ягоным, ні яму, зладзюгу, ні дзядзьком, ні цёткам ягоным ні ў чым аніякага прыбытку ня было!

Хлестакоў. А што?

Сьлесарыха. Дык-жа вось мужыку майму загадаў загаліць лоб у маскалі, і радоўка-ж на нас не прыпадала, зладзюга гэткі! ды й з закону нельга — ён жанаты.

Хлестакоў. Як-жа ён мог гэта зрабіць?!

Сьлесарыха. Зрабіў, зладзюга, зрабіў — пабі яго, Божа, і на тым, і на гэтым сьвеце! каб яму, калі й цётка ёсьць, дык і цётцы усялякае паскудзтва, і бацька калі жыве ў яго, дык каб і ён, гіцаль, спруцянеў ці падавіўся навекі, рыштанюга гэткі! Трэ было ўзяць краўцова сына, ён-жа й п'янчужка быў, ды бацькі багаты падарунак далі, дык ён і прысукаў да сына купчыхі Панцялейвае, а Панцялейва таксама падаслала жонцы палатна тры трубкі, дык ён да мяне. *„Навошта, — кажа, — табе мужык — ён ужо табе не надаецца“*. Дык-жа я гэта ведаю — надаецца ці не надаецца: гэта мая рэч, зладзюга гэткі. *„Ён, — кажа, — злодзей, хоць ён цяперачы і ня ўкраў, ды ўсёдна, — кажа, — ён украдзе, яго й бяз гэтага налета возьмуць у некруты“*. Дык-жа мне якаво бяз мужыка, рыштанюга гэткі! Я слабы чалавек, падлюга ты гэнкі! Каб усёй радні тваёй не давялося сьвету Божага аглядаць, а калі ёсьцека цешча, дык каб і цешчы...

Хлестакоў. Добра, добра! Ну, а ты? *(Выпраўляе старую).*

Сьлесарыха *(выходзячы).* Не забудзься, бацюхна мой! будзь ласкавы!

Унтэр-афіцэрыха. На гараднічага, бацюхна, прыйшла...

Хлестакоў. Ну ды што, чаго? Кажы ў кароткіх словах.

Унтэр-афіцэрыха. Адлупіў, бацюхна!

Хлестакоў. Як?

Унтэр-афіцэрыха. З памылкі, бацюхна мой. Дык-жа бабы нашыя шчапіліся на рынку, а паліцыя не дасьпела, дый хапанулі мяне, ды гэтак адляпарталі: два дні сесьці не магла.

Хлестакоў. Дык што-ж цяперака рабіць?

Унтэр-афіцэрыха. Дык-жа рабіць, пэўна, няма чаго. А за памылку за гэтую загадай яму заплаціць штрах. Мне ад свайго шчасьця нямаш чаго адракацца, а грошы мне цяперачка вельмі здаліся-б.

Хлестакоў. Добра, добра! ідзеце, ідзеце, я загадаю.

Праз вокны высоўваюцца рукі з просьбамі.

Хлестакоў. Ды хто там яшчэ? *(Падыходзіць да вакна).* Ня хочу, ня хочу! Ня трэба, ня трэба! *(Адыходзячы).* Абрыдалі, ліха матары! Ня пушчай, Восіп!

Восіп *(крычыць праз вакно).* Пайшліце, пайшліце, ня час, заўтра прыходзьце!

Дзьверы адчыняюцца, і выстаўляецца нейкая постаць у фрызавым шынялі зь няголенай барадою, разьдзьмутаю губою й перавязанаю шчакою; за ёй у пэрспэктыве паказваецца колькі іншых.

Восіп. Пайшоў, пайшоў! Чаго прэшся! *(Упіраецца першаму рукамі ў чэрава й выпіраецца разам зь ім у сходню, захлыснуўшы за сабой дзьверы).*

*Зьява XII*

Хлестакоў і Мар'я Антонаўна.

Мар'я Антонаўна. Ах!

Хлестакоў. Чаго самі гэтак спалохаліся, спадарыня?

Мар'я Антонаўна. Не, я не спалохалася.

Хлестакоў *(рысуецца).* Дайце рады, сударыня, мне вельмі прыемна, што самі мяне ўзялі за такога чалавека, які... А ці адважуся спытацца ў самых: куды самі наважылі былі йсьці?

Мар'я Антонаўна. Праўда-ж, я нікуды ня йшла.





Хлестакоў. Чаму-ж, прыкладам, самі нікуды ня йшлі?

Мар'я Антонаўна. Я думала, ці ня тут мамуленька...

Хлестакоў. Не, мне хацелася-б ведаць, чаму самі нікуды ня йшлі?

Мар'я Антонаўна. Я самім перашкодзіла. Самі займаліся важнымі справамі.

Хлестакоў *(рысуецца).* А ў саміх вочы лепшыя, чымся важныя справы... Самі аніяк ня можаце мне перашкодзіць, аніякім парадкам ня можаце: наадварот таго, самі можаце прынесьці прыемнасьць.

Мар'я Антонаўна. Самі гаворыце па-сталічнаму.

Хлестакоў. Для такое прыгожай асобы, як самі! Ці адважуся быць такім шчасьлівым, каб запрапанаваць самім крэсла? Але не, самім належыць ня крэсла, а трон.

Мар'я Антонаўна. Праўда-ж, я ня ведаю... мне так трэ было йсьці. *(Села).*

Хлестакоў. Які ў саміх прыгожанькі шалік.

Мар'я Антонаўна. Самі насьмешнікі, абы толькі пасьмяяцца каля правінцыяльных.

Хлестакоў. Як-бы я жадаў, спадарыня, быць саміх шалікам, каб аблягаць саміх лілёвую шыйку.

Мар'я Антонаўна. Я зусім не разумею, праўшта самі кажаце; нейкі шалік... Сяньня якое дзіўное надвор'е.

Хлестакоў. А ў саміх губкі, спадарыня, лепшыя за ўсялякае надвор'е.

Мар'я Антонаўна. Самі ўсё гэнкае кажаце... Я-б у саміх папрасіла, каб самі мне напісалі лепш на ўспамін які вершык у альбом. Самі, пэўна, шмат іх ведаеце.

Хлестакоў. Для саміх, спадарыня, усё, што хочаце. Патрабуйце, які самім верш?

Мар'я Антонаўна. Які-небудзь, гэнкі — харошы, новы.

Хлестакоў. Ды што верш! Я багата іх ведаю.

Мар'я Антонаўна. Ну, скажэце-ж, які-ж самі мне напішаце?

Хлестакоў. Ды навошта-ж казаць! Я й бяз гэтага іх ведаю.

Мар'я Антонаўна. Я вельмі люблю вершы.

Хлестакоў. Ды ў мяне шмат іх усякіх. Ну, бадай, я самім хоць гэта. *„О ты, што ў горы надарэмна клянеш на Бога, чалавек“*... ну й іншае... цяперака не магу прыпамятаць, зрэшты, гэта ўсё дарма. Я самім лепш, заміж гэтага, прадстаўлю маё каханьне, якое ад саміх позірку... *(Прысоўваючы крэсла).*

Мар'я Антонаўна. Каханьне? Я не разумею каханьня... Я ніколі й ня ведала, што за каханьне... *(Адсоўвае крэсла).*

Хлестакоў[17]. Чаго ж самі адсоўваеце крэсла? Нам лепш будзе сядзець блізка адно да аднаго.

Мар'я Антонаўна *(адсоўваючыся)*. Навошта-ж блізка? усёдна й далёка.

Хлестакоў *(прысоўваючыся)*. Чаму-ж далёка? усёдна й блізка.

Мар'я Антонаўна *(адсоўваецца)*. Ды навошта-ж гэта?

Хлестакоў *(прысоўваючыся)*. Ды гэта-ж самім здаецца толькі, што блізка, а самі ўявеце сабе, што далёка. Які-б я быў шчасьлівы, спадарыня, каб мог прытуліць самих у свае абдымкі.

Мар'я Антонаўна *(глядзіць у вакно)*. Што гэта, так як быццам-бы паляцела? Сарока ці іншая якая птушка?

Хлестакоў *(цалуець яе ў плячо й глядзіць у вакно)*. Гэта сарока.

Мар'я Антонаўна *(устае ў вабурэньні)*. Не, гэта ўжо занадта... Нахабства такое!..

Хлестакоў *(утрымваючы яе)*. Даруйце, спадарыня: я гэта зрабіў ад каханьня, чыста ад каханьня.

Мар'я Антонаўна. Самі ўважаеце мяне за гэткую правінцыялку... *(Намагаецца йсьці)*.

Хлестакоў *(усё ўтрымваючы яе)*. Ад каханьня, праўда-ж, ад каханьня. Я так толькі, пажартаваў, Мар'я Антонаўна, ня злуйце! Я гатовы на каленах прасіць у саміх дараваньня. *(Падае на калены)*. Даруйце-ж, даруйце! Самі бачыце, я на каленах.

*Зьява XIII*

Тыя самыя й Ганна Андрэеўна.

Ганна Андрэеўна *(пабачыўшы Хлестакова на каленах)*. Ах, які пасаж!

Хлестакоў *(устаючы)*. Ах, ліхенька!

Ганна Андрэеўна *(дачцы)*. Гэта што значыць, спадарыня, гэта што за абыходкі такія?

Мар'я Антонаўна. Я, мамуленька...

Ганна Андрэеўна. Пайшла прэч адсюль! чуеш, прэчкі, прэч! і ня важся паказвацца на вочы.

Мар'я Антонаўна выходзіць у сьлёзах.

Ганна Андрэеўна. Прабачце, я, прызнаюся, прыведзеная ў такое зьдзіўленьне...

[17] Далей у арыгінале *„(придвигая стул)“* — рэмарка не перакладзеная.





Хлестакоў *(набок)*. А яна таксама апэтытная, вельмі нішто сабе. *(Кідаецца на калены)*. Спадарыня, самі бачыце, я чэзну ад каханьня.

Ганна Андрэеўна. Як, самі на каленах? Ах, устаньце, устаньце! Тутака падлога зусім ня чыстая.

Хлестакоў. Не, на каленах, найначай на каленах, я хачу ведаць, што такое мне суджана, жыцьцё ці сьмерць.

Ганна Андрэеўна. Ды дазвольце, я йшчэ не разумею зусім значаньня словаў. Калі ня мыляюся, самі робіце дэклярацыю што да мае дачкі.

Хлестакоў. Не, я закахаўшыся ў саміх. Жыцьцё маё на валасінцы. Калі самі не ўкаранууеце сталае каханьне маё, дык я ня годны земнага быту. З полымем у грудзёх прашу рукі саміх.

Ганна Андрэеўна. Але дазвольце зазначыць; я ў некаторым родзе... я ў замужы!

Хлестакоў. Гэта дарма! Для каханьня няма розьніцы; і Карамзін сказаў: *„Законы засуджаюць“*. Мы пададзёмся пад засень струмянёў... Рукі саміх, рукі прашу.

*Зьява XIV*

Тыя самыя й Мар'я Антонаўна, раптам убягае.

Мар'я Антонаўна. Мамуленька, татуля сказалі, каб самі... *(Пабачыўшы Хлестакова на каленах, скрыквае)*. Ах, які пасаж!

Ганна Андрэеўна. Ну, што ты? да чаго? навошта? Што за пуставейства такое! Раптам убегла, як кошка ўчадзеўшы. Ну, што ты знайшла такога дзіву годнага? Ну, што табе ўзманулася? Праўда-ж, як дзіцянё якое трохгоднае. Не падобна, не падобна, ані не падобна, каб ёй было васямнаццаць год. Я ня ведаю, калі ты будзеш разважнейшая, будзеш захоўвацца, як прыстойна добра ўзгадаванай дзеўчыне; калі ты будзеш ведаць, што такое добрыя правілы й саліднасьць у вабыходках!

Мар'я Антонаўна. Я, праўда-ж, мамулечка, ня ведала...

Ганна Андрэеўна. У цябе вечна нейкі падвей гуляе ў галаве; ты бярэш прыклад із дачок Ляпкіна-Цяпкіна. Што табе глядзець на іх! Ня трэба табе глядзець на іх. Табе ёсьць прыклады іншыя — перад табою маці твая. Вось якія прыклады ты павінна пераймаць.

Хлестакоў *(хапае за руку дачку)*. Ганна Андрэеўна, не спраціўцеся нашай шчаснасьці, багаславіце сталае каханьне!

Ганна Андрэеўна *(із зьдзіўленьнем)*. Дык самі ў ёй?

Хлестакоў. Пастанаўляйце — жыцьцё ці сьмерць?

Ганна Андрэеўна. Ну вось бачыш, дурніла, ну вось бачыш: дзеля цябе, гэткае дрэні, госьць меў ласку стаяць на каленах; а ты раптам убегла, як вар'ятка. Ну вось, праўда-ж, варта, каб я знарок адмовіла: ты нягодная гэткага шчасьця.

Мар'я Антонаўна. Ня буду, мамуленька, праўда-ж, наўперад ня буду.

*Зьява XV*

Тыя самыя й гараднічы, хапаючыся.

Гараднічы. Ня буду, ваша дастойнасьць! не загубеце! не загубеце.

Хлестакоў. Што із самімі?

Гараднічы. Там купцы жаліліся вашай дастойнасьці. Гонарам прысягаюся, і на палавіцу няма таго, што яны кажуць. Яны самыя ашукваюць і абмерваюць народ. Унтэр-афіцэрыха наманілі самім, быццам-бы я яе адлупцаваў; яна хлусіць, дальбог, хлусіць. Яна сама сябе адлупцавала.

Хлестакоў. А праваліся скрозьдоньня унтэр-афіцэрыха — мне не да яе!

Гараднічы. Не давайце веры, не давайце веры! Гэта такія хлусы... Ім вось гэткае дзіця ня дасьць веры. Яны ўжо й па цэлым горадзе зназаны за хлусоў. А што да зладзюжніцтва, адважуся далажыць: гэта такія зладзюгі, якіх сьвет не спараджаў.

Ганна Андрэеўна. А ці ведаеш ты, якім гонарам абдорвае нас Іван Аляксандравіч? Ён просіць рукі нашае дачкі.

Гараднічы. Куды! куды! з глузду зьехала, матухна! Майце ласку ня гневацца, ваша дастойнасьць, яна крыху з прыдуркам, гэткасамая была й маці ейная.

Хлестакоў. Але, я запраўды прашу рукі. Я закахаўшыся.

Гараднічы. Не магу даць веры, ваша дастойнасьць.

Ганна Андрэеўна. Ды калі кажуць табе?

Хлестакоў. Я ня жартам самім кажу... Я магу ад каханьня дацца з розуму.

Гараднічы. Ня важуся даць веры, ня годны такога гонару.

Хлестакоў. Але, калі самі ня згодзіцеся аддаць рукі Мар'і Антонаўны, дык я, ліха ведае, што гатовы!

Гараднічы. Не магу даць веры: маеце ласку жартаваць, ваша дастойнасьць.

Ганна Андрэеўна. Ах, які боўдзіла запраўды! Ну калі табе тлумачаць.





Гараднічы. Не магу даць веры.

Хлестакоў. Аддайце, аддайце! Я адчайны чалавек, я пушчуся на ўсё: калі застрэлюся, саміх пад суд аддадуць.

Гараднічы. Ах, Божа мой! Я, дальбожачкі, не вінаваты, ні душою, ні целам. Майце ласку ня гневацца! Майце ласку рабіць так, якваскай ласцы ласка! У мяне, праўда-ж, у галаве цяперака... я й сам ня ведаю, што робіцца. Такі дурніла цяпер зрабіўся, якім яшчэ ніколі ня бываў.

Ганна Андрэеўна. Ну, багаслаўляй!

Хлестакоў падыходзіць з Мар'яй Антонаўнай.

Гараднічы. Хай багаславіць вас Бог, а я не вінаваты.

Хлестакоў цалуецца з Мар'яй Антонаўнай.
Гараднічы глядзіць на іх.

Гараднічы. Што за ліха! Запраўды! *(Працірае вочы)*. Але, але, цалуюцца! праўда цалуюцца! Як быццам-бы праўда нарачоны! Эхэ! Якое шчасьце наперла! Вось табе маеш![18]

*Зьява XVI*

Тыя самыя й Восіп.

Восіп. Коні гатовыя.

Хлестакоў. А, добра... я зараз.

Гараднічы. Маеце ласку ехаць?

Хлестакоў. Але, еду.

Гараднічы. А калі-ж, гэта значыцца... Самі мелі ласку напомніцца што да, здаецца, што да вясельля?

Хлестакоў. А гэта ў мяне раптам, я еду толькі на адзін дзень да дзядзькі — багаты стары; а заўтра-ж і назад.

Гараднічы. Ня важымся ніяк запыньваць, у надзеі шчасьлівага звароту.

Хлестакоў. Як-жаж, як-жаж, я раптам. Бывайце, каханьне маё... не, прост не магу выказаць. Бывайце, сэрцайка! *(Цалуець ёй у руку)*.

Гараднічы. Ды ці ня трэба на дарогу чаго? самі мелі ласку, здаецца, патрабаваць грошай?

[18] У арыгінале гэты абзац гучыць так: *„Что за черт! в самом деле! (Протирает глаза). Целуются! Ах, батюшки, целуются! Точный жених! (Вскрикивает, подпрыгивает от радости). Ай, Антон! Ай, Антон! Ай, городничий! Вона, как дело-то пошло!“*

Хлестакоў. О, не, навошта гэта? *(Крыху падумаўшы).* А зрэшты, бадай што.

Гараднічы. Колькі саміх ласка?

Хлестакоў. Ды вось тады самі далі дваста, ці бо ня дваста а чатырыста, — я ня хочу скарыстаць із саміх памылкі, — дык, бадай што, і цяперака гэтулькі сама, каб ужо рыхтык было восемсот.

Гараднічы. Зараз! *(Выймае з папяроўніка).* Яшчэ, як знарок, саманавюсенькімі паперкамі.

Хлестакоў. А, але! *(Бярэ й разглядае асыгнацыі).* Гэта добра! Гэтаж, кажуць, новае шчасьце, калі новенькімі паперкамі?

Гараднічы. Чыста так!

Хлестакоў. Бывайце, Антоне Антонавічу! Вельмі абавязаны за саміх гасьціннасьць; мне нідзе ня было гэткага добрага прыняцьця. Бывайце, Ганна Андрэеўна. Бывайце, маё сэрцайка, Мар'я Антонаўна!

Выходзяць[19].

*За сцэнай.*

Голас Хлестакова. Бывайце, анёл душы мае, Мар'я Антонаўна.

Голас гараднічага. Як-жа гэта самі? Проста гэтак на перакладной і едзеце?

Голас Хлестакова. Але, я звык ужо гэтак. У мяне галава баліць ад рэсораў.

Голас хурмана. Тпр...

Голас гараднічага. Дык, прынамся, чым-небудзь заслаць, хоць бы дыванікам. Ці не загадаеце, я скажу падаць дыванік.

Голас Хлестакова. Не, навошта? гэта пустое; а, зрэшты, бадай што, хай даюць дыванік.

Голас гараднічага. Гэй, Аўдоцьця! бягай у камору, дастань дыван самалепшы, што па блакітным дне, пэрсыдзкі, хутчэй!

Голас хурмана. Тпр...

Голас гараднічага. Дык калі-ж загадаеце чакаць на саміх?

Голас Хлестакова. Заўтра ці пасьлязаўтра.

Голас Восіпа. А, гэта дыван? давай яго сюды, кладзі во гэтак! цяперака давай з гэтага боку сена.

Голас хурмана. Тпр...

Голас Восіпа. Вунь з гэнага боку! сюды! яшчэ! добра! Слаўна будзе! *(Б'е рукой па дыване).* Цяпер сядайце, ваша чэсьць.

[19] Гэтая рэмарка прапушчаная ў перакладзе.





Голас Хлестакова. Бывайце, Антоне Антонавічу!

Голас гараднічага. Бывайце, ваша дастойнасьць!

Жаноцкія галасы. Бывайце, Іване Аляксандравічу!

Голас Хлестакова. Бывайце, матуленька!

Голас хурмана. Гэй, вы, залётныя!

Званочак зьвініць. Заслона апушчаецца.

## Дзея пятая

Той самы пакой.

*Зьява I*

Гараднічы, Ганна Андрэеўна й Мар'я Антонаўна.

Гараднічы. Што, Ганна Андрэеўна? га? ці думала ты што-небудзь аб гэтым? Гэнкі багаты прыз, паганства! Ну, прызнайся шчыра: табе і ўва сьне ня сьнілася — проста зь якое-небудзь гараднічыхі й раптам, цьфу ты, паганства, зь якім д'яблам спараднілася.

Ганна Андрэеўна. Ані не; я даўно гэта ведала. Гэта табе дзівоты, бо ты просты чалавек, ніколі ня бачыў прыстойных людзей.

Гараднічы. Я сам, матухна, прыстойны чалавек. Аднак-жа, праўда, як падумаеш, Ганна Андрэеўна, якія мы з табою цяперака птушкі зрабіліся! га, Ганна Андрэеўна! Высокага лёту, ліха матары! Чакай-жа, цяпер-жа я задам перцу ўсім гэтым ахвотнікам падаваць просьбы й даносы! Гэй, хто там?

Уваходзіць квартальны.

А гэта ты, Іван Карпавіч! А закліч сюды, браце, купцоў. Вось-жа я іх, рыштанюжынаў! Дык жаліцца на мяне! Бач ты, пракляты юдзейскі народ, чакайце-ж, галубочкі! Перш я вас карміў да вусоў усяго, а цяперака накармлю да барады. Запішы ўсіх, хто толечкі хадзіў біць чалом на мяне і вось гэтых болей за ўсё пісакаў, пісакаў, што закручвалі ім просьбы. Ды абвесьць усім, каб ведалі, што вось, пыні, які гонар Бог паслаў гараднічаму, што выдае дачку сваю — ня тое, каб за якога простага чалавека, а за такога, што й на сьвеце йшчэ не было, што можа ўсё зрабіць, усё, усё, усё! Усім абвесьць, каб усе ведалі! Крычы на ўвесь народ, лупі ў званы, ліха матары! ужо як сьвята, дык сьвята!

Квартальны выходзіць.

Дык вось як, Ганна Андрэеўна, га? Як-жа мы цяперака, дзе будзем жыць? Тутака ці ў Піцеры?

Ганна Андрэеўна. Натуральна, у Пецярбурзе. Як можна тут заставацца?

Гараднічы. Ну, у Піцеры дык у Піцеры, а яно нішто-б і тутака. Што, гэта-ж, я думаю, ужо гараднiцтва тады да ліха, га, Ганна Андрэеўна?

Ганна Андрэеўна. Натуральна, што за гараднiцтва!

Гараднічы. Гэта-ж, яно, як ты думаеш, Ганна Андрэеўна, цяперака можна вялікі чын сьцебануць, бо ён за панібрата з усімі міністрамі і ў палацы езьдзіць; дык таму можа такое ўчынаваньне зрабіць, што з часам і ў гэнэралы ўвапхнешся. Як ты думаеш, Ганна Андрэеўна: можна ўвапхнуцца ў гэнэралы?

Ганна Андрэеўна. Чаму не! пэўна-ж можна.

Гараднічы. А, ліха матары, слаўна быць за гэнэрала! Кавалераю павесяць табе праз плячо. А якую кавалерыю лепш, Ганна Андрэеўна, чырвоную ці блакітную?

Ганна Андрэеўна. Ужо ведама, што блакітную лепш.

Гараднічы. Гэ? бач, чаго захацела! Нішто й чырвоную. Гэта-ж чаму хочацца быць за гэнэрала? таму што здарыцца, паедзеш куды — фельд'егеры й ад'ютанты паскачуць усюды наперад — коняй! і там на станцыях нікому не дадуць, усё чакае: усе гэтыя тытулярныя, капітаны, гараднічыя, а ты сабе й вухам не вядзеш! Абед дзе-небудзь у губарнатара, а там — стой, гараднічы! Хэ, хэ, хэ! *(Заліваецца й паміраець ад сьмеху)*. Вось што, паганства, прынадна!

Ганна Андрэеўна. Табе ўсё гэткае мужыцкае падабаецца. Ты мусіш памятаць, што жыцьцё трэ будзе зусім перайначыць, што твае знаёмыя будуць ня тое, што які судзьдзя-сабакар, зь якім ты езьдзіш ганяць зайцоў, або Земляніка; наадварот, знаёмыя табе будуць із саматонкім абыходжаньнем: графы і ўсе сьвецкія... Толькі я, праўда-ж, баюся за цябе: ты часам вымавіш такое слоўца, якога ў добрым таварысьцьве ніколі не пачуеш.

Гараднічы. Што-ж, дык-жа, слова ня шкодзіць!

Ганна Андрэеўна. Ды добра, калі ты быў за гараднічага; а там-жа жыцьцё зусім інакшае.

Гараднічы. Але! Тамака, кажуць, ёсьць дзьве рыбінкі: рапейка і ўклейка, такія, што толькі сьлінка пацячэць, як пачнеш есьці.

Ганна Андрэеўна. Яму-б усё толькі рыбкі. Я няйначай хачу, каб наш дом быў першы ў сталіцы й каб у мяне ў пакоі такое было амбрэ, каб нельга было ўвайсьці й каб толькі гэтак заплюшчыць вочы. *(Заплюшчвае вочы й нюхае)*. Ах, якое хараство!





*Зьява II*

Тыя самыя й купцы.

Гараднічы. Га! Здаровы, саколікі!

Купцы *(кланяючыся)*. Здароўя зычым, бацюхна!

Гараднічы. Што, галубочкі, як маецеся? Як тавар ідзе ваш? Што, самаварнікі, аршыньнікі, жаліцца? Арцыгіцлі, протагадзіны, абакулы морскія[20], жаліцца? Што, багата выскуралі? *„Восьдзе, — думаюць, — гэтак у турму яго й запратораць!“* А ці ведаеце вы, сем чартоў і адна ведзьма вам у зубы, што...

Ганна Андрэеўна. Ах, Божа мой! Якія ты, Антоська, словы вымаўляеш!

Гараднічы *(зь незадаволеньнем)*. Га, не да словаў цяперака! Ці ведаеце вы, што той самы чыноўнік, якому вы жаліліся, цяперака жэніцца з маёй дачкою? Што? га? што цяперака вы скажаце? Цяпер я вас!.. ашукваеце народ! Зробіш кантракт із дзяржаваю, на сто тысячаў нагрэеш яе, пастачыўшы гнілога сукна, ды пасьля ахвяруеш дваццаць аршынаў, дый давай яшчэ табе нагароду за гэта! Ды каб ведалі, дык бы табе... І пуза пхае наперад: ён — купец, яго ня руш; „мы, — кажа, — і дваранам не паддадзёмся“. Ды дваранін... ах ты, лычак! дваранін вучыцца навукаў: яго хоць і лупцуюць у школе, ды за справу, каб ён знаў карысьці. А ты што? пачынаеш ад махеркаў, цябе гаспадар б'е за тое, што ня ўмееш ашукваць. Яшчэ хлапчуком, „Войча наш“ ня ведаеш, а ўжо абмерваеш; а як разапрэ табе чэрава ды напхаеш сабе кішаню, дык і заважнiўся! Цьфу ты, якая небач! із таго, што ты шаснаццаць самавараў выдуньдзіш на дзень, дык із таго і важнішся! Ды я плюваць на тваю галаў і на тваю важніцу!

Купцы *(кланяючыся)*. Вінаватыя, Антоне Антонавічу!

Гараднічы. Жаліцца! А хто табе дапамог змахляваць, калі ты будаваў мост і напісаў дрэва на дваццаць тысячаў, а тымчасам яго й на сто рублёў ня было? Я дапамог, казловая барада! Ты забыўся на гэна? Я, паказаўшы гэта на цябе, мог бы цябе таксама спраторыць у Сібір. Што скажаш, га?

Адзін із купцоў. Богу вінаватыя, Антоне Антонавічу, нячысьцік аблытаў! І заракомся наўперад жаліцца. Ужо які хоч задавол — ня гнеўся толькі!

Гараднічы. Ня гнеўся! Вось ты цяпер качаешся ля ног маіх. А чаму? — а таму, што маё ўзяло; а было-б хоць крышку на тваім баку,

[20] У Гогаля — „мирские“, а не „морские“.

дык ты-б мяне, рыштанюга, утаптаў-бы ў самое балота, яшчэ-б і бервяном наверх наваліў-бы.

Купцы *(кланяюцца да ног)*. Не загубі, Антоне Антонавічу!

Гараднічы. *„Не загубі, — цяперака: — не загубі!“* А раней што? Яб вас... *(Махнуўшы рукою)*. Ну, бы Бог даруе! годзе! Я не злапомны; адно цяперака глядзі, вайстры вуха! Я выдаю дачку не за якога простага двараніна; каб віншаваньне было... разумееш? ня тое, каб адбаярыцца якім балычком ці галавою цукру... Ну, пайшоў з Богам!

Купцы выходзяць.

*Зьява III*

Тыя самыя, Амос Хведаравіч, Арцём Піліпавіч, пасьля Растакоўскі.

Амос Хведаравіч *(яшчэ ў дзьверах)*. Ці даць веры чуткам, Антоне Антонавічу? да саміх прываліла нязвычайнае шчасьце?

Арцём Піліпавіч. Маю гонар віншаваць із нязвычайным шчасьцем! Я сардэчна ўсьцешыўся, як пачуў. *(Падыходзіць да ручкі Ганны Андрэеўны)*. Ганна Андрэеўна! *(Падыходзіць да ручкі Мар'і Антонаўны)*. Мар'я Антонаўна!

Растакоўскі *(уваходзіць)*. Антона Антонавіча віншую, хай прадоўжыць Бог жыцьцё саміх і новае пары і дасьць самім нашчадзі безьліч, унучанятаў і праўнучанятаў! Ганна Андрэеўна! *(Падыходзіць да ручкі Ганны Андрэеўны)*. Мар'я Антонаўна! *(Падыходзіць да ручкі Мар'і Антонаўны)*.

*Зьява IV*

Тыя самыя, Каробкін із жонкаю й Люлюкоў.

Каробкін. Маю гонар віншаваць Антона Антонавіча! Ганна Андрэеўна! *(Падыходзіць да ручкі Ганны Андрэеўны)*. Мар'я Антонаўна! *(Падыходзіць да ейнае ручкі)*.

Каробкінава жонка. Сардэчна віншую саміх, Ганна Андрэеўна, з новым шчасьцем.

Люлюкоў. Маю гонар віншаваць, Ганна Андрэеўна! *(Падыходзіць да ручкі й пасьля, адвярнуўшыся да гледачоў, пляскаець языком з удалецкім выглядам)*. Мар'я Антонаўна! Маю гонар віншаваць... *(Падыходзіць да ейнае ручкі й абарочваецца да гледачоў з тым самым удалецтвам)*.





*Зьява V*

Мноства гасьцей у сурдутах і фраках падыходзяць спачатку да ручкі Ганны Андрэеўны, кажучы: *„Ганна Андрэеўна!“*, пасьля да Мар'і Антонаўны, кажучы: *„Мар'я Антонаўна!“*

Бобчынскі й Добчынскі праціскваюцца.

Бобчынскі. Маю гонар віншаваць!

Добчынскі. Антоне Антонавічу! маю гонар віншаваць!

Бобчынскі. Із шчасьлівай падзеяю!

Добчынскі. Ганна Андрэеўна!

Бобчынскі. Ганна Андрэеўна!

Абодва падыходзіць аднначасова й стыкаюцца ілбамі.

Добчынскі. Мар'я Антонаўна! *(Падыходзіць да ручкі)*. Маю гонар віншаваць. Самі будзеце ў вялікім-вялікім шчасьці ў залатой сукні хадзіць і далікатныя розныя стравы смакаваць, вельмі пацешна будзеце бавіць час.

Бобчынскі *(перапыняючы)*. Мар'я Антонаўна, маю гонар віншаваць. Дай Божа самім усялякага багацьця, чырванцоў і сыночка-ж гэнкага малесенькага, гэначкага-ж *(паказвае рукою)*, каб можна было-б на далоньку пасадзіць, але-ж! усё будзе хлапчына кугакаць: ку-га! ку-га! ку-га!

*Зьява VI*

Яшчэ колькі гасьцей падыходзяць да ручак, і Лукаш Лукашовіч із жонкаю.

Лукаш Лукашовіч. Маю гонар...

Жонка Лукаша Лукашовіча *(забягае наперад)*. Віншую саміх, Ганна Андрэеўна!

Цалуюцца.

А я дык, праўда-ж, — усьцешылася! Кажуць мне: *„Ганна Андрэеўна выдае дачку“. — „Ах, Божа мой!“* — думаю сабе, і гэтак усьцешылася, што кажу мужу: *„Слухай адно, Лукашэнчыку: вось якое шчасьце Ганьне Андрэеўне!“ — „Ну, — думаю сабе, — дзякуй Богу!“* — і кажу яму: *„Я ў такім захапленьні, што гару зь нецярплівосьці асьветчыць асабіста Ганьне Андрэеўне“... „Ах, Божа мой!“ — думаю сабе: — Ганна Андрэеўна якурат чакала на добрую партыю для сваё дачкі, а вось цяпер такі лёс: якурат гэтак зрабілася, як яна хацела“*, — і гэтак,

праўда-ж, усьцешылася, што не магла гаварыць. Плачу, плачу, вось прост ад плачу заходжуся! Ужо Лукаш Лукашовіч кажа: *„Чаго ты, Настуленька, заходзішся?“* — Лукашэнчыку, — кажу, — я й сама ня ведаю, сьлёзы гэтак вось ракой і ліюцца.

Гараднічы. Шчыра прашу сядаць, спадары. Гэй, Міхалка, прынясі сюды як болей крэслаў[21].

*Зьява VII*

Тыя самыя, прыстаў і квартальныя.

Прыстаў. Маю гонар віншаваць саміх, ваша высокачэсьць, і пажадаць дабрабытнасьці на многалецьце!

Гараднічы. Дзякуй, дзякуй! Прашу сядаць, спадары!

Госьці ўсядаюцца.

Амос Хведаравіч. Ды скажэце, на ласку, Антоне Антонавічу, якім парадкам усё гэта пачалося, паступовы ход усяе справы.

Гараднічы. Ход справы надзвычайны: меў ласку сваеасабова зрабіць асьветчаньне.

Ганна Андрэеўна. Вельмі пачціва і саматонкім парадкам. Усё надзвычай добра казаў: *„Я, Ганна Андрэеўна, з аднае толькі пашаны да саміх годнасьцяў“.* І так дасканалы, узгадаваны чалавек, самадабрароднейшых правілаў! *„Мне, ці дасьцё веры, Ганна Андрэеўна, мне жыцьцё — капейка; я толькі таму, што шаную саміх рэдкія якасьці“.*

Мар’я Антонаўна. Ах, мамуленька! Гэта-ж ён мне казаў.

Ганна Андрэеўна. Пакінь, ты анічога ня ведаеш і не ў сваё не мяшайся! *„Я, Ганна Андрэеўна, дзівуюся“.* У такіх лёсткіх рассыпаўся словах… і калі я хацела сказаць*: „Мы ніяк ня важыліся спадзявацца на гэткі гонар“*, ён раптам шаснуў на калены й гэткім самадабрароднейшым парадкам: *„Ганна Андрэеўна! Не зрабеце няшчасьнейшым! згадзецеся адказваць маім пачуцьцям, а не — дык я сьмерцяй скончу жыцьцё сваё“.*

Мар’я Антонаўна. Праўда-ж, мамуленька, ён пра мяне гэта казаў.

Ганна Андрэеўна. Але, пэўна-ж… і пра цябе было, я нічога гэтага не адкідаю.

Гараднічы. І гэтак нат напалохаў: кажа, што застрэліцца. *„Застрэлюся, застрэлюся!“* — кажа.

[21] Далей у Гогаля рэмарка *„Гости садятся“.* У перакладзе прапушчаная.





Шмат хто з гасьцей. Скажэце, на ласку!

Амос Хведаравіч. Гэнкая штука!

Лукаш Лукашовіч. Вось запраўды доля ўжо гэтак вяла.

Арцём Піліпавіч. Ня доля, бацюхна, доля — індычка: заслугі прывялі да таго. *(Набок).* Гэткай сьвіньні прэцца заўсёды ў зяпу шчасьце!

Амос Хведаравіч. Я, бадай, Антоне Антонавічу, прадам самім таго шчанючка, што таргавалі.

Гараднічы. Не, мне цяперака не да шчанюкоў!

Амос Хведаравіч. Ну, ня хочаце, на іншым сабаку сыйдземся.

Каробкінава жонка. Ах, як, Ганна Андрэеўна, я радая саміх шчасьцю! Самі ня можаце сабе ўявіць.

Каробкін. Дзе-ж цяпер, дазвольце даведацца, знаходзіцца вяльможны госьць? Я чуў, што ён паехаўшы па штосьці.

Гараднічы. Але-ж, ён падаўся на адзін дзень, у вельмі важнай справе.

Ганна Андрэеўна. Да свайго дзядзькі, каб узпрасіць багаславенства.

Гараднічы. Узпрасіць багаславенства, але заўтра-ж… *(Чхае).*

Паздароўі зьліваюцца ў вадзін гул.

Вельмі дзякую! але заўтра-ж і назад… *(Чхае).*

Паздароўны гул; больш за іншых чуваць галасы:

Прystava. Здароўя зычым, ваша высокачэсьць!

Бобчынскага. Сто год і куль чырванцоў!

Добчынскага. Дай, Божа, на сорак саракоў!

Арцёма Піліпавіча. Каб ты спрах!

Каробкінавай жонкі. На цябе ліха!

Гараднічы. Шчыра дзякую! І вам таго самага жадаю.

Ганна Андрэеўна. Мы цяперака ў Пецярбургу манімся жыць. А тутака, прызнаюся, такое паветра… селавое ўжо занадта!.. прызнаюся, вялікая прыкрасьць… Вось і муж мой… ён там атрымае гэнэральскі чын.

Гараднічы. Але, прызнаюся, спадары, я, ліхенька, вельмі хачу быць гэнэралам.

Лукаш Лукашовіч. І дай Божа мець!

Растакоўскі. Ад чалавека немагчыма, а ад Бога ўсё магчыма.

Амос Хведаравіч. Вялікаму караблю — вялікае плаваньне.

Арцём Піліпавіч. Як заслужыцца, так і учціцца.

Амос Хведаравіч *(набок).* Во выкіне штуку, калі запраўды зробіцца гэнэралам! Во ўжо каму пасуе гэнэральства, як карове сядло! Не, да

гэтага йшчэ далёкая песьня. Тутака й мудрэй за цябе ёсьць, а дасюль яшчэ не гэнэралы.

Арцём Піліпавіч *(набок)*. Гэнак, ліха матары, ужо і ў гэнэралы прэцца. Чаго добрага, можа й будзе гэнэралам. То-ж у яго важнасьці, на яго-б ліхенька, ня купіць! *(Зварачаючыся да яго)*. Тады, Антоне Антонавічу, і на нас не забудзьцеся.

Амос Хведаравіч. І калі што здарыцца, прыкладам, якая патрэба ў справах, не пакіньце апекаю!

Каробкін. Налета павязу сынка ў сталіцу на карысьць дзяржавы, дык, зрабеце ласку, прыўдзяліце яму свае пратэкцыі, месца бацькава заступеце сірацінку.

Гараднічы. Я гатовы, із свайго боку, гатовы старацца.

Ганна Андрэеўна. Ты, Антоська, заўсёды гатовы дакляраваць. Папершае, табе ня будзе часу думаць пра гэта. І як можна, і зь якое рацыі сябе абцяжваць гэткімі дакляраваньнямі?

Гараднічы. Чаму-ж, сэрца маё? часам можна!

Ганна Андрэеўна. Можна, пэўна-ж, ды ня кожнай-жа драбязой апекавацца.

Каробкінава жонка. Самі чулі, як яна трактуе нас?

Госьця. Але-ж, яна гэткая заўсёды была; я яе ведаю: пасадзі як за стол, яна й з нагамі сваймі…

*Зьява VIII*

Тыя самыя й паштмайстар, хапаючыся, з расьпячатаным лістом у руцэ.

Паштмайстар. Дзіўная рэч, спадары! Чыноўнік, якога мы ўзялі за рэвізора, быў ніякі не рэвізор.

Усе. Як не рэвізор?

Паштмайстар. Зусім не рэвізор — я даведаўся пра гэта зь ліста.

Гараднічы. Што, што самі кажаце, зь якога ліста?

Паштмайстар. Ды з собскага ягонага ліста. Прыносяць да мяне на пошту ліст. Зірнуў на адрыс — бачу: *„на Паштамцкую вуліцу“*. Я гэтак і ўвамлеў. *„Ну, — думаю сабе, — пэўна, знайшоў непарадкі ў паштовай галіне й паведамляе начальства“*. Узяў дый расьпячатваў.

Гараднічы. Як-жа гэта самі?

Паштмайстар. Сам ня ведаю, ненатуральная сіла пхнула. Заклікаў быў ужо кур'ера, каб выправіць яго із штафэтай, — але цікаўнасьць гэткая апанавала, якое йшчэ ніколі не пачуваў. Не магу, не магу, чую, што не магу! цягне, так вось і цягне! У вадным вуху так вось і чую: *„Гэй, не расьпячатвай, загінеш, як курыца!“*, а ў другім як чарцюк які шапоча: *„Расьпячатвай, расьпячатвай, расьпячатвай!“* І як прыдушыў ляк — па жылах агонь, а расьпячатваў — мароз, дальбог, мароз. І рукі калоцяцца, і ўсё закаламуцілася.





Гараднічы. Ды як-жа самі адважыліся расьпячатваць ліст такое ўпаўнаважанай асобы?

Паштмайстар. То-ж бо й штука, што ён не ўпаўнаважаны й не асоба!

Гараднічы. А што-ж ён, самі думаеце, такое?

Паштмайстар. Ні сёе, ні тое; ліха ведае, што такое!

Гараднічы *(запальчыва)*. Як ні сёе, ні тое? Як самі важыцесяназваць яго ні тым, ні сім, ды йшчэ й ліха ведае чым? Я саміх пад арышт…

Паштмайстар. Хто? самі?

Гараднічы. Але, я!

Паштмайстар. Закароткія рукі!

Гараднічы. А ці ведаеце, што ён жэніцца з маёй дачкою, што я сам буду вяльможа, што я ў самы Сібір[22].

Паштмайстар. Эх, Антоне Антонавічу, што Сібір, — задалёка Сібір! Вось лепш я вам прачытаю. Спадары! Дазвольце прачытаць ліст!

Усе. Чытайце, чытайце.

Паштмайстар *(чытае)*. Сьпяшаюся паведаміць табе, душа Трапічкін, якія са мной дзівосы. На дарозе абчысьціў мяне дазваньня пяхотны капітан, так што гаспадар заезду хацеў ужо быў пасадзіць у турму; як раптам, з мае пецярбурскае фізіяноміі ды з касьцюму, цэлы горад узяў мяне за гэнэрал-губэрнатара. І я цяперака жыву ў гараднічага, жуірую, уганяюся на прамілы Бог за ягонай жонкай і дачкой; ня важуся толькі, ад каторае пачаць — думаю, перш ад матулі, бо, здаецца, гатовая зараз да ўсіх паслугаў. Памятаеш, як мы з табою гаравалі, абедалі на шармака й як аднойчы кандытар быў згробшы мяне за каршэнь, з прычыны зьедзеных піражкоў на конта прыбыткаў ангельскага караля? Цяперака зусім іншы зварот. Усе мне пазычаюць, колькі хаця. Арыгіналы страшэнныя, ад сьмеху ты памёр-бы! Ты, я ведаю, пішаш артыкулікі: зьмясьці іх у сваю літаратуру. Па-першае — гараднічы: дурны, як лысая кабыла…

Гараднічы. Ня можа быць! Там няма гэтага!

Паштмайстар *(паказвае ліст)*. Чытайце самі.

[22] Далей адно слова неразборліва.

Гараднічы *(чытае). „Як лысая кабыла...“* Ня можа быць, гэта самі напісалі!

Паштмайстар. Як-жаж бы я напісаў?

Арцём Піліпавіч. Чытайце!

Лукаш Лукашовіч. Чытайце!

Паштмайстар *(чытаючы далей). „Гараднічы — дурны, як лысая кабыла“.*

Гараднічы. О, ліха матары! трэба йшчэ паўтараць! як быццам яно тамака й бяз гэтага не напісана.

Паштмайстар *(чытаючы далей).* Хм... хм... хм... *„лысая кабыла. Паштмайстар таксама добры чалавек...“ (Пакідаючы чытаць).* Ну, тутака ён і пра мяне таксама нягожа выказаўся.

Гараднічы. Не, чытайце!

Паштмайстар. Ды навошта-ж?

Гараднічы. Не, ліха матары, калі ўжо чытаць, дык чытаць! Чытайце ўсё!

Арцём Піліпавіч. Дазвольце, я прачытаю. *(Ускладае акуляры й чытае). „Паштмайстар — рыхтык дэпартамэнцкі сторaж Міхееў, мабыць, таксама, падлюка, жлукціць горкую“.*

Паштмайстар *(да гледачоў).* Ну, падшыванец, якому задаць лупцоўку; больш нічога!

Арцём Піліпавіч *(чытаючы далей). „Наглядачы над богугоднай устано... ва... ва...“ (Заікаецца).*

Каробкін. А што-ж самі спыніліся?

Арцём Піліпавіч. Ды нявыразнае пяро... Зрэшты, відаць, што гад.

Каробкін. Дайце мне! вось у мяне, я думаю, лепшыя вочы. *(Бярэ ліст).*

Арцём Піліпавіч *(не дае ліста).* Не, гэтую мясьцінку можна прапусьціць, а там далей рашчытваецца.

Каробкін. Ды дазвольце, ужо-ткі, я ведаю.

Арцём Піліпавіч. Прачытаць я й сам прачытаю, — далей, праўдаж, усё рашчытваецца.

Паштмайстар. Не, усё чытайце. То-ж раней усё чытана.

Усе. Аддайце, Арцёме Піліпавічу, аддайце ліст! *(Каробкіну).* Чытайце!

Арцём Піліпавіч. Зараз. *(Аддае ліст).* Вось, дазвольце... *(Закрывае пальцам).* Вось адгэтуль чытайце.

Усе падступаюць да яго.





Паштмайстар. Чытайце, чытайце! дурніна, усё чытайце!

Каробкін *(чытаючы). „Наглядачы над богугоднай установай Земляніка — чыстая сьвіньня ў ярмолцы“.*

Арцём Піліпавіч *(да гледачоў).* І ня трапна! сьвіньня ў ярмолцы! дзе ж сьвіньня бывае ў ярмолцы?

Каробкін *(чытаючы). „Інспэктар школаў прасьмердзеў навылёт цыбуляю“.*

Лукаш Лукашовіч *(да гледачоў).* Дальбог, і ў губу ніколі цыбулі ня браў!

Амос Хведаравіч. Дзякуй Богу, хоць, прынамся, пра мяне няма!

Каробкін *(чытае). „Судзьдзя...“*

Амос Хведаравіч. Вось табе маеш! *(Уголас).* Спадары, я думаю, што ліст задаўгі. Дый ліха зь ім, дрэнь гэткую чытаць!

Лукаш Лукашовіч. Не!

Паштмайстар. Не, чытайце!

Арцём Піліпавіч. Не, ужо-ткі чытайце!

Каробкін *(чытае далей). „Судзьдзя Ляпкін-Цяпкін у найвышэйшай ступені мовэтон...“ (Спыняецца).* Мабыць, францускае слова.

Амос Хведаравіч. А ліха яго ведае, што яно значыць! Яшчэ добра, калі толькі мутасьвет, а можа й таго йшчэ горш.

Каробкін *(чытаючы далей). „А зрэшты, народ гасьцінны й дабрадушны. Бывай, душа Трапічкін. Я сам, із твайго прыкладу, хачу ўзяцца за літаратуру. Нуда, браце, гэтак жыць, хочаш чалавек, нарэшце, спажывы для душы. Бачу, праўда, трэба за што высокае ўзяцца. Пішы да мяне ў Саратаўскую губэрню, а адтуль у сяло Падкацілаўку. (Пераварочвае ліст і чытаець адрыс). Яго чэсьці, вяльможнаму спадару Івану Васілевічу Трапічкіну, у Санкт-Пецярбурзе, на Паштамцкую вуліцу, у доме пад нумерам дзевяцьдзесят сёмым, закруціўшы на панадворак, на трэйцім паверсе, направа“.*

Адна з дамаў. Які рэпрыманд нечаканы!

Гараднічы. Во калі зарэзаў дык зарэзаў! забіты, забіты, зусім забіты! Нічога ня бачу: бачу нейкія сьвіныя лычы, заміж твараў, а больш нічога... Вярнуць, вярнуць яго! *(Махае рукою).*

Паштмайстар. Куды вярнуць! Я, быццам знарок, загадаў дагляддачаму даць самалепшую тройку; чорт умудрыў даць і напеpад наказ.

Каробкінава жонка. Вось ужо праўда, вось ужо бяспрыкладная канфузія!

Амос Хведаравіч. Аднак-жа, на яго ліха, спадары! ён у мяне пазычыў трыста рублёў.

Арцём Піліпавіч. У мяне таксама трыста рублёў.

Паштмайстар *(уздыхае)*. Авохці! і ў мяне трыста рублёў.

Бобчынскі. У нас ізь Пётрам Іванавічам шэсьдзесят ізь пятачкай, на асыгнацыі, але-ж.

Амос Хведаравіч *(у нездаўменьні расстаўляе рукі)*. Як-жаж гэта, спадары? Як гэта запраўды мы так далі пудлу?

Гараднічы *(б'е сябе па плячы)*[23]. Як я — не, як я, стары дурніла? Зьдзяцінеў, дурны маркач! Трыццаць год жыву на службе; ніводзін купец, ні падрадчык ня мог ашукаць; круцялёў над круцялямі абдурваў, пройдаў і чмутоў такіх, што цэлы сьвет гатовы абкрасьці, падчапляў на вуду; трох губарнатараў абшыў!.. што губарнатараў! *(махнуўшы рукою)* няма чаго й казаць пра губарнатараў...

Ганна Андрэеўна. Але гэта ня можа быць, Антоська: ён заручыўся з Марыськаю...

Гараднічы *(із злосьцяй)*. Заручыўся! дуля з макам — во табе заручыўся! Лезе мне ў вочы із заручынамі! *(Разьюшана)*. Вось глядзеце, глядзеце, увесь сьвет, усё хрысьціянства, усе глядзеце, як абдурылі гараднічага! Дурня яму, дурня, старому падлюгу! *(Грозіць самому сабе кулаком)*. Эх ты, таўстаносы! Смаркача, анучыну ўзяў за важнага чалавека. Вунь ён цяперака па ўсёй дарозе залівaецца званочкамі! Разьнясе па цэлым сьвеце гісторыю! мала таго, што пойдзеш чалавек у пасьмеішча, — знойдзецца скрыпапёр, паперапсуй, у камэдыю цябе ўштыліць. Вось дзе крыўда! чыну, годнасьці не пашкадуе, і будуць усе выскаляцца і пляскаць у далоні! Чаго сьмеяцёся! Зь сябе сьмеяцёся!.. Эх, вы! *(Тупаець ад злосьці нагамі аб падлогу)*. Я-б усіх гэтых паперапсуяў! Цух, скрыпапёры, лібэралы праклятыя! У вузёл-бы вас усіх завязаў, на муку-б стоўк вас усіх, ды чорту ў подшыўку! у шапку туды яму! *(Тыцкае кулаком і б'е высьпятка ў падлогу. Пасьля некаторае маўчанкі)*. Дасюль не магу ахамянуцца. Во, праўда дзе, калі Бог хоча пакараць, дык адбярэ перш розум. Ну, што было ў гэтым пуставею падобнага да рэвізора? Анічога ня было! Вось, прост, ні на паўкіпця ня было падобнага — і раптам усе: рэвізор! рэвізор! Ну, хто першы выпусьціў, што ён рэвізор? Адказвайце!

Арцём Піліпавіч *(расставіўшы рукі)*. Ужо як гэта здарылася, хоць забі, не магу вытлумачыць. Быццам туман якісь ашаламаніў, нячысьцік аблытаў.

Амос Хведаравіч. Ды хто выпусьціў, — вунь хто выпусьціў: гэтыя малойчыкі! *(Паказвае на Добчынскага й Бобчынскага)*.

[23] У Гогаля — *„бьёт себя по лбу“*.





Бобчынскі. Дальбожачкі, ня я! і ня думаў...

Добчынскі. Я нічагуткі, ані нічагуткі...

Арцём Піліпавіч. Пэўна-ж, вы!

Лукаш Лукашовіч. Ведама. Прыбеглі, як шалёныя, з заезду: *„Прыехаў, прыехаў і грошай ня плаціць...“* Знайшлі важную птушку!

Гараднічы. Натуральна, вы! плеткары гарадзкія, хлусы праклятыя!

Арцём Піліпавіч. Каб вас ліха ўзяло із вашым рэвізорам і расказамі.

Гараднічы. Толькі нікаеце па горадзе ды бянтэжыце ўсіх, ляшчоткі праклятыя, плёткі сееце, сарокі кароткахвостыя!

Амос Хведаравіч. Пэцкалі праклятыя!

Лукаш Лукашовіч. Каптуры![24]

Арцём Піліпавіч. Смаршкі кароткапузыя!

Усе абступаюць іх.

Бобчынскі. Дальбог, гэта ня я, гэта Пётра Іванавіч.

Добчынскі. Гэ, не, Пётра Іванавічу, самі-ж першыя гэтага...

Бобчынскі. А вось-жа й не, першыя былі самі.

*Зьява апошняя*

Тыя самыя й жандар.

Жандар. Прыбылы на йменны загад зь Пецярбургу чыноўнік патрабуе вас зараз-жа да сябе. Ён спыніўся ў гасьцініцы.

Праказаныя словы ўражаюць, як пяруном, усіх.
Гук зьдзіўленьня аднадушна зьлятае з дамскіх вуснаў; уся група, раптам зьмяніўшы палажэньне, застаецца ў вакамяненьні.

**Немая сцэна**

*Гараднічы пасярэдзіне ў выглядзе слупа з растапыранымі рукамі й закінутаю назад галавою. З правага боку ягоная жонка й дачка, памкнуўшыся да яго рухам усяго цела; за імі паштмайстар, абярнуўшыся ў пытальнік, завернуты да глядачоў; за ім Лукаш Лукашовіч, зьбянтэжаны саманявінным парадкам; за ім, ля самага ўскрайку сцэны, тры дамы, госьці, прыхінуўшыся адна да аднае з сама сатырычным выразам твараў, што датычыць проста да сямейкі гараднічa-*

[24] Гэтай рэплікі ў Гогаля няма.

*га. Зь левага боку ад гараднічага: Земляніка, нахінуўшы галаву крыху набок, як быццам да чаго прыслухоўваючыся; за ім судзьдзя з растапыранымі рукамі, прысеўшы мала не да зямлі, зрабіўшы рух губамі, як-бы хацеў прасьвістаць ці праказаць: „Вось табе, бабуля, і Дзяды!“ За ім Каробкін, завярнуўшыся да глядачоў з прыплюшчаным вокам і едкім напамінкам на гараднічага; за ім, ля самага ўскрайку сцэны, Добчынскі й Бобчынскі, памкнуўшыся адзін да аднаго рухам рук, разьзяўленымі ратамі й вырачанымі адзін на аднаго вачыма. Рэшта гасьцей застаюцца проста слупамі. Блізу паўтары часіны закамянелая група захоўвае такое палажэньне. Заслона апушчаецца.*

**Канец.**

*Падрыхтоўка да друку й камэнтары Віялеты Кавалёвай*



*Бібліяграфіі*

***Норбэрт Рандаў***
*Нямеччына*

# БАГДАНОВІЧ ПА-НЯМЕЦКУ (бібліяграфія)

## 1. Творы Максіма Багдановіча ў перакладзе на нямецкую мову

1.1 **Sonett** *(„In der Wüste im Ägypterland...„)* [Санэт *(„Паміж пяскоў Эгіпецкай зямлі...“)*] // Europäische Lyrik der Gegenwart 1900—1925 / In Nachdichtungen von Josef Kalmer. Wien—Leipzig, 1927.
Гл. таксама: 1.4; 1.15; 1.23.

1.2 **Der Wasserman** [Вадзянік] // Europäische Lyrik der Gegenwart 1900—1925 / In Nachdichtungen von Josef Kalmer. Wien—Leipzig, 1927.

1.3 **Meine Lieder** [Мае песьні]: „Wenn die Trauer mir mein Herz bedrängt...„, „Faßt die Trauer um mein Heimatland...„ // Bahdanovič, Maksim. Weißruthenische Heimatlyrik / Ins Deutsche übertragen von Eugen Freiherrn von Engelhardt. Hildesheim, 1949.

1.4 **Das Weizenkorn** [Санэт („Паміж пяскоў Эгіпецкай зямлі...“)] // Bahdanovič, Maksim. Weißruthenische Heimatlyrik / Ins Deutsche übertragen von Eugen Freiherrn von Engelhardt. Hildesheim, 1949.
Гл. таксама: 1.1; 1.15; 1.23.

1.5 **Mein Heimatland** [„Краю мой родны! Як выкляты Богам...“] // Bahdanovič, Maksim. Weißruthenische Heimatlyrik / Ins Deutsche übertragen von Eugen Freiherrn von Engelhardt. Hildesheim, 1949.

1.6 **Emigranten** [Эміграцкая песьня] // Bahdanovič, Maksim. Weißruthenische Heimatlyrik / Ins Deutsche übertragen von Eugen Freiherrn von Engelhardt. Hildesheim, 1949.

1.7 **Vor dem Hochwasser** [Перад паводкай] // Bahdanovič, Maksim. Weißruthenische Heimatlyrik / Ins Deutsche übertragen von Eugen Freiherrn von Engelhardt. Hildesheim, 1949.

1.8 **Abend** [Вечар („Месяц круглы ўстаў на небе...“)] // Bahdanovič, Maksim. Weißruthenische Heimatlyrik / Ins Deutsche übertragen von Eugen Freiherrn von Engelhardt. Hildesheim, 1949.

1.9 **Am Lagerfeuer** [„Вечар на захадзе ў попеле тушыць...“] // Bahdanovič, Maksim. Weißruthenische Heimatlyrik / Ins Deutsche übertragen von Eugen Freiherrn von Engelhardt. Hildesheim, 1949.

1.10 **Sommernacht im Walde** [„Цёплы вечар, ціхі вецер, свежы стог...“] // Bahdanovič, Maksim. Weißruthenische Heimatlyrik / Ins Deutsche übertragen von Eugen Freiherrn von Engelhardt. Hildesheim, 1949.

1.11 **Herbstblumen** [„Плакала лета, зямлю пакідаючы...“] // Bahdanovič, Maksim. Weißruthenische Heimatlyrik / Ins Deutsche übertragen von Eugen Freiherrn von Engelhardt. Hildesheim, 1949.

1.12 **Mein letzter Wunsch** [„Даўно ўжо целам я хварэю...“] // Bahdanovič, Maksim. Weißruthenische Heimatlyrik / Ins Deutsche übertragen von Eugen Freiherrn von Engelhardt. Hildesheim, 1949.

1.13 **Sonett** („Dein Strahlenblick verlockend auf mir ruht...“) [Санэт („Прынадна вочы зьзяюць для мяне“)] / Deutsch von Johan Warkentin // Sowjetliteratur. №35. 1983. Heft 3. S. 134—135.

Гл. таксама 1.24.

1.14 ***„Als Herkules zu Baden schmetterte Antäus...“*** [„Калі зваліў дужы Геракл у пыл Антэя“] / Deutsch von Johan Warkentin // Sowjetliteratur. №35. 1983. Heft 3. S. 134—135.

1.15 **Sonett** („Fern in Ägyptens heißem Wüstensand...“) [Санэт („Паміж пяскоў Эгіпецкай зямлі...“) / Deutsch von Johan Warkentin // Sowjetliteratur. №35. 1983. Heft 3. S. 134—135.

Гл. таксама 1.1; 1.4; 1.23.

1.16 ***„In rosa Asche löscht langsam im Westen...“*** [„Вечар на захадзе ў попеле тушыць...“] / Deutsch von Johan Warkentin // Sowjetliteratur. №35. 1983. Heft 3. S. 134—135.

Гл. таксама 1.9.

1.17 ***„Ich hab bei den Satten um Brot gefleht...“*** [Зь песьняў беларускага мужыка. II „Я хлеба ў багатых прасіў і маліў...“] / Deutsch von Michail Schaiber // Sowjetliteratur. №35. 1983. Heft 3. S. 132—133. [Innerhalb eines Artikels von N. Gilevitsch].

1.18 ***„Ein Tag voller Sonne, noch nie gekannt...“*** [„Беларусь, твой народ дачакаецца...“] / Deutsch von Michail Schaiber // Sowjetliteratur. №35. 1983. Heft 3. S. 132—133. [Innerhalb eines Artikels von N. Gilevitsch].





1.19 ***„Gern würde ich Sie...“*** [„Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы...“] / Deutsch von Michail Schaiber // Sowjetliteratur. №35. 1983. Heft 3. S. 132—133. [Innerhalb eines Artikels von N. Gilevitsch].

1.20 **Pagonia** [Пагоня] / Deutsch von Ferdinand Neureiter // Пагоня Максіма Багдановіча. Львів, 1992. С. 14.

1.21 **Die Weberinnen von Sluzk** [Слуцкія ткачыхі] // Neureiter, Ferdinand. Weißrussische Anthologie. Ein Lesebuch zur weißrussischen Literatur (mit deutschen Übersetzungen). München, 1983. S. 89—96. (Slavistische Beiträge. Band 162).

1.22 **Romanze** („Der Venus-Stern ging über der Erde auf...“) [Раманс („Зорка Вэнэра ўзышла над зямлёю...“] // Neureiter, Ferdinand. Weißrussische Anthologie. Ein Lesebuch zur weißrussischen Literatur (mit deutschen Übersetzungen). München, 1983. S. 89—96. (Slavistische Beiträge. Band 162).

1.23 **Sonett** („In der sandigen ägyptischen Erde...“) [Санэт („Паміж пяскоў Эгіпецкай зямлі...“)] // Neureiter, Ferdinand. Weißrussische Anthologie. Ein Lesebuch zur weißrussischen Literatur (mit deutschen Übersetzungen). München, 1983. S. 89—96. (Slavistische Beiträge. Band 162).

Гл. таксама 1.1; 1.4; 1.15.

1.24 **Sonett** („Augen strahlen mich verlockend an...“) [Санэт („Прынадна вочы зьзяюць да мяне“)] // Neureiter, Ferdinand. Weißrussische Anthologie. Ein Lesebuch zur weißrussischen Literatur (mit deutschen Übersetzungen). München, 1983. S. 89—96. (Slavistische Beiträge. Band 162).

Гл. таксама 1.13.

1.25 **Apokryph** [Апокрыф] // Neureiter, Ferdinand. Weißrussische Anthologie. Ein Lesebuch zur weißrussischen Literatur (mit deutschen Übersetzungen). München, 1983. S. 89—96. (Slavistische Beiträge. Band 162).

1.26 **Die Geschichte von dem Ikonenmaler und dem Goldschmied...** [Апавяданьне аб іконьніку і залатару...] // Störche über den Sümpfen. Belorussische Erzähler / Herausgegeben von N. Randow. Berlin, 1971. S. 109—13.

## 2. Нарысы, біяграфіі, рэцэнзіі на выданьні твораў Максіма Багдановіча

2.1 **Boričevskij, E.** ***Bahdanovič, M.: Tvory. Padrychtavana Litaraturnaj Kamisijaj Instytutu Belaruskaj Kul'tury pad redakcyjaj prof. I.I. Zamotina. Mensk 1927/28. (Werke, Gr. 8°, Bd. I, XV + 502 S.; Bd. II, LXL + 418 S.*** [Rezension] // Slavische Rundschau. Band 1. №7. 1929. S. 471—472.

2.2 **Haertel, E.** ***Eugenio Ljackij: Un poeta bianko-russo. Massimo Bagdanovič. – Rivista di letterature slave. Anno 3.2 (1928). S. 193—201*** [Rezension] // Jahrbücher für Kultur und Geschichte der Slaven. N.[eue] F.[olge]. Band IV. Heft IV. 1928. S. 690.

2.3 **Randow, N. Maxim Bahdanovitsch** [Kurzbiographie] // Störche über den Sümpfen. Belorussische Erzähler / Herausgegeben von N. Randow. Berlin, 1971. S. 483—484.

2.4. **Bojko-Blochyn, J. Maksim Bahdanovič. Weltbild, lyrische Motive, Stil** // Die Welt der Slaven. №21. 1976. Heft 1. S. 22—39.

Перадрукавана ў: Bojko-Blochyn, J. Gegen den Strom. Ausgewählte Beiträge zur Geschichte der slavishen Literaturen. Heidelberg 1979 S. 122—135. (Beitrдge zur neueren Literaturgeschichte. Dritte Folge. Band 43).

2.5 **Bojko-Blochyn, J. Maksim Bahdanovič und die ukrainische Literatur** // Slavistishe Studien zum VIII. Internationalen Slavistenkongreß in Zagreb 1978 / Herausgegeben von J. Holthusen, W. Kasack und K. Olesch. Köln—Wien, 1978. S. 63—69.

2.6 **Gilewitsch, N. Maxim Bogdanowitsch (1981—1917)** // Sowjetliteratur. №35. 1983. Heft 3. S. 131—134. [mit Photo].

2.7 **Neureiter, F. Maksim Bahdanovič** [Kurzbiographie] // Neureiter, F. Weißrussische Anthologie. Ein Lesebuch zur weißrussischen Literatur (mit deutschen Übersetzungen). München, 1983. S. 88. (Slavische Beiträge. Band 162).

2.8 **Bankowski-Züllig, M. Ein weißrussischer Europäer. Zum hundertsten Geburtstag von Maksim Bahdanovič** // Neue Zürcher Zeitung. ą286. 9 Dezember 1991. S. 19.

2.9 **Scholz, Fr. Maksim Bahdanovič und die zeitgenössische Literatur. Ein Beitrag zur Geschichte der Moderne in der weißrussischen Literatur** // Festschrift für Erwin Wendel zum 65. Geburtstag. München, 1991. S. 393—407. (Slavische Sprachen und Literaturen. Band 20).





## 3. Тэксты пра Максіма Багдановіча ў гісторыі беларускай літаратуры

3.1 **Karskij, E. Geschichte der weißrussischen Volksdichtung und Literatur** / Deutsch von M. Woltner. Berlin—Leipzig, 1926. (Grundriß der slavischen Philologie und Kulturgeschichte / Íerausgegeben von R. Trautmann und M. Vasmer.). S. 183—187 [ein Kapitel: Maxsim Bahdanovič]; S. 198 [wird Bahdanovič noch einmal als Kritiker erwähnt].

3.2 **McMillin, A. B. Die Literatur der Weißrussen. A History of Byelorussian Literature From its Origins to the Present Day** [in englischer Sprache. Mit Bibliographie]. Gießen, 1977 S. 149—160. [das 12 Kapitel: Bahdanovič]. (Bausteine zur Geschichte der Literatur bei den Slaven. Band 6)

## 4. Тэксты пра Максіма Багдановіча ў даведніках

4.1 **Stankevič, St. Bahdanovič, Maksim** // Kleine slavische Biographie. Harassowitz. Wiesbaden, 1958. S. 31. [11 Zeilen].

4.2.1 **Leffenbauer, W. Bahdanovič, Maksim Adamowitsch** // Lexikon der Weltliteratur. Bibliographisch-bibliographisches Handwörterbuch nach Autoren und anonymen Werken / Herausgegeben von G. von Wilpert. Stuttgart, 1963. S. 105. [11 Zeilen].

4.2.2 **Leffenbauer, W. Bahdanovič, Maksim Adamowitsch** // Lexikon der Weltliteratur / Herausgegeben von G. von Wilpert. Band 1: Autoren. Stuttgart, 1975. [11 Zeilen].

4.2.3 **Lettenbauer, W. Bahdanovič, Maksim Adamowitsch** // Lexikon der Weltliteratur / Herausgegeben von G. von Wilpert. Band 1: Autoren. Stuttgart, 1988. [3 Auflage in 2 Bänden von 4.2.1]. S. 103. [12 Zeilen].

4.3 **Bogdanovitsch (Bahdanovič), Maksim Adamowitsch** // Meyers neues Lexikon in acht Bänden. Leipzig, 1963—1964. Band 1. S. 899: [10 Zeilen].

4.4 **Bahdanovič, Maksim Adamowič** // Das große Duden-Lexikon in acht Bänden. Mannheim, 1964—1968. Band 1. S. 431. [9 Zeilen] [Verweis auf (S. 419): Bahdanovitsch, Maksim Adamowitsch].

4.5 **Bahdanovitsch, Maksim Adamowitsch** // Das neue Duden-Lexikon in zehn Bänden. Mannheim—Wien—Zürich, 1984. Band 2. S. 465. [4 Zeilen].

4.6.1 **Bahdanovitsch, Maksim Adamowitsch** // Meyers Handbuch über die Literatur. Mannheim—Wien—Zürich, 1964. S. 174. [9 Zeilen].

4.6.2 **Bahdanovitsch, Maksim Adamowitsch** // Meyers Handbuch über die Literatur. Mannheim—Wien—Zürich, 1970. S. 121. [9 Zeilen].

4.7 **Kasper, K.-H. Bahdanovitsch, Bohdanovitsch, Maxim Adamowitsch** // Literaturen der Völker der Sowjetunion / Herausgegeben von H. Jünger. Leipzig, 1967. S. 136. [15 Zeilen].

4.8 **Bahdanovitsch, Maksim Adamowitsch** // Meyers enzyklopädisches Lexikon. 9. Auflage (28 Bände). Band 4. Mannheim—Wien—Zürich, 1972. S. 427. [7 Zeilen].

4.9 **Kasper, K.-H. Bahdanovič, Maksim Adamowič** // Lexikon fremdsprachiger Schriftsteller / Herausgegeben von G. Steiner, H. Greiner-Mai, W. Lehmann. Band 1. Leipzig, 1977. S. 131. [21 Zeilen].

4.10 **Bahdanovitsch, Maksim Adamowitsch** // Der Literatur-Brockhaus / Herausgegeben von W. Habicht, W.-D. Lange und der Brockhaus-Redaktion. Band 1. Mannheim—Wien—Zürich, 1988. S. 169. [7 Zeilen].

4.11 **Gajewski, A. Maksim Bahdanovič. Das lyrische Werk [mit Bibliographie]** // Kindler Neues Literaturlexikon / Herausgegeben von W. Jens. Band 2. München, 1989. S. 59—61.

### 5. Згадкі пра Максіма Багдановіча ў даведніках у разьдзелах „Беларуская літаратура“

5.1.1 **Der große Brockhaus.** 15 Auflage. (20 Bände). Band 20. Leipzig, 1935. S. 144

Згадка: M. Bahdanovitsch (1892 [sic!] — 1917).

5.1.2 **Der große Brockhaus.** 16 Auflage. (12 Bände). Band 12. Wiesbaden, 1957. S. 415.

Згадка: M. Bahdanovitsch (+1917).

5.1.3 **Der große Brockhaus.** 17 Auflage. (20 Bände). Band 20. Wiesbaden, 1974. S. 158.

Згадка: Maksim Bahdanovitsch (1891—1917).

5.1.4 **Der große Brockhaus.** 18 Auflage. (12 Bände). Band 12. Wiesbaden, 1981. S. 314.

Згадка: M. Bahdanovitsch (1891—1917).

5.1.5 **Der große Brockhaus.** 19 Auflage (24 Bände). Band 19. Mannheim, 1993.





5.2 **Meyers Lexikon.** 7 Auflage (12 Bände). Band 12. Leipzig 1930. S. 1189.

Згадка: Maxim Bohdanovitsch (1892 [sic!] — 1917).

5.3 **Meyers enzyklopädisches Lexikon** (25 Bände). Band 25. Mannheim—Wien—Zürich, 1979. S. 156.

Згадка: M. A. Bohdanovitsch.

5.4 **Meyers großes Universal — Lexikon** (15 Bände). Band 15. Mannheim—Wien—Zürich, 1986. S. 325.

Згадка: M. A. Bohdanovitsch.

5.5 **Meyers neues Lexikon in acht Bänden.** Band 1. Leipzig, 1963. S. 711.

Згадка: M. A. Bogdanovitsch.

5.6 **Meyers neues Lexikon** (18 Bände). Band 2. Leipzig, 1972. S. 186.

Згадка: M. Bogdanovitsch.

5.7 **Meyers großes Universal — Lexikon** (4 Bände). Band 1. Leipzig, 1978. S. 251.

Згадка: M. Bohdanovitsch. [2 Auflage: 1979—1980].

5.8 **Schweizer Lexikon** (7 Bände). Band 7. Zürich, 1948. Spalte 1206.

Згадка: M. Bohdanovitsch (1892 [sic!] — 1917).

5.9 **Die Weltliteratur. Bibliografisches, literaturhistorisches und bibliografisches Lexikon in Übersichten und Stichwörtern** / Herausgegeben von E. Frauwallner, H. Giebisch und E. Heinzel (3 Bände). Band 3. Wien, 1954. S. 1910.

Згадка: Maxim Bohdanovič (1892 [sic!] — 1917) і верш „Vjanok“ [„Вянок“] (1913).

5.10 **Kasper, K.-H. Belorussische Literatur** // Literaturen der Völker der Sowjetunion / Herausgegeben von H. Jünger. Leipzig, 1967. S. 73.

Згадка: M. Bohdanovitsch.

5.11 **Der Literatur-Brockhaus** / Herausgegeben von W. Habicht, W.-D. Lange und der Brockhaus-Redaktion (3 Bände). Band 3. Mannheim—Wien—Zürich, 1988. S. 658.

Згадка: M. A. Bahdanovitsch.

5.12 **Randow, N. Die weißruthenische Literatur** // Kindler Neues Literaturlexikon / Herausgegeben von W. Jens. (20 Bände). Band 20. München, 1992. S. 405. [8 Zeilen].

Згадка: Bahdanovič і пра яго — 8 радкоў.

### 6. Згадкі пра Максіма Багдановіча ў публікацыях, прысьвечаных беларускай літаратуры й Беларусі

6.1 **Rudniański, S. Weißrussischer Brief** // Das literarische Echo. Halbmonatsschrift für Literaturfreunde. 18 Jahrgang. Heft 2. 15 Oktober 1915. Spalte 116.

6.2 **Hartny, C. (?) Die weißruthenische Literatur** // Weißruthenische Kultur I. Sammlung von Aufsätzen aus dem Gebiete der weißruthenischen Kultur / Verdeutschung von G. Petzold. Minsk: Weißruthenische Gesellschaft für kulturelle Verbindung mit dem Ausland, 1928. S. 21.

Згадка: M. Bohdanovitsch і ягоны зборнік вершаў „Der Kranz„ [„Вянок“] — 7 радкоў. Акрамя таго на с. 83 — 13 радкоў, прысьвечаныя падзеям дзясятай гадавіны сьмерці Багдановіча 29 траўня 1927.

6.3 **Wirschubski, G. *„Die Etappen der Entwicklung der weißrussischen Literatur“ in: „Belorusskaja Saveckaja Socialističeskaja respublika“ — Verlag: Rat der Volkskommissare der Weißrussischen Sozialistischen Sowjetrepublik. Minsk 1927*** [Rezension] // Jahrbücher für Kultur und Geschichte der Slaven. N.[eue] F.[olge]. Band IV. Heft I. 1928. S. 466.

6.4 **Samojlo, V. *Jasep S'vetasar: Ales' Garun und sein literarischen Schaffen. — Belaruskaje Slova. 1927. Heft 27—28*** [Rezension] // Jahrbücher für Kultur und Geschichte der Slaven. N. F. Band V. Heft I. 1929. S. 141.

6.5 **Samojlo, V. *Anton Navina: „Unter dem blauen Himmel“, ein Versband von N. Arseneva. — Naša Prauda, 1927. Nr. 35*** [Rezension] // Jahrbücher für Kultur und Geschichte der Slaven. N. F. Band V. Heft I. 1929. S. 143.

6.6 **N. D. Das Institut für Weißrussische Kultur und Weißrussische Akademie der Wissenschaften** // Slavische Rundschau. Jahrgang 1. ą3. 1929. S. 234.

Пра выданьне твораў Максіма Багдановіча — 5 радкоў.

6.7 **Samojlo, V. *Anton Navina (Anton Luckevič): „Adbitae žyz'ze“. Vorträge und Abhandlungen über die weißrussische Renaissanceliteratur. Bd. 1. Verlag: Belaruskaje vydavezkaje tavarystvo. Wilna 1929. 145 s.*** [Rezension] // Jahrbücher für Kultur und Geschichte der Slaven. N. F. Band VI. Heft II—III. 1930. S. 371.

6.8 **Luckevič, A. Die weißruthenische Literatur in der Vergangenheit und Gegenwart** // Jahrbücher für Kultur und Geschichte der Slaven. N. F. Band VII. Heft IV. 1931. S. 383—384, 385.





6.9 **Samojlo, V. *Mikolaj Iljaševič: Belorus a Belorusove. Z 1 mapoj a 13 illustr. (Weißrußland und die Weißrussen. Mit einer Karte und 13 Illustr.). — Prag 1930. 124 s.*** [Rezension] // Jahrbücher für Kultur und Geschichte der Slaven. N. F. Band VII. Heft IV. 1931. S. 462.

6.10 **Bronstein, J. Die schöne Literatur der Weißrussischen SSR** // Die Literatur der Sowjetunion. Illustrierte Sammelbände der WOKS. Heft 7—8. [Moskau], 1934. S. 70 [6 Zeilen], 72.

6.11 **Bakatsch, P. Lehrbuch der deutschen Sprache für Weißruthenen.** Berlin 1941. S. 241—243, 248.

6.12 **Engelhardt, E. Frh. Von. Weißruthenien. Volk und Land.** Berlin—Amsterdam—Prag—Wien, 1943. S. 272, 273 [11 Zeilen].

6.13 **Moskalik, M. Janka Kupala, der Sänger des weißrussischen Volkstums.** München, 1961. S. 8, 107, 111, 114, 153. (Slavistische Beiträge. Band 3).

6.14 **Bugajew, D. Im Wandel der Jahrhunderte** / Deutsch von L. Keith // Sowjet-Literatur. 1962. Heft 8. S. 153. [4 Zeilen].

6.15 **Tschiževskij, D. Vergleichende Geschichte der slavischen Literaturen** (2 Bändchen). Band 2. Berlin, 1968. S. 81, 87. [3 Zeilen].

6.16 **Randow, N. „Nachtwort“ zu dem Buch „Störche über den Sümpfen. Belorussische Erzähler“.** Berlin, 1971. S. 475. [2 Zeilen].

6.17 **Flaker, A. Die slavischen Literatur zur Zeit des Modernismus. Das Auftreten der Avantgarde und des Expressionismus / Bearbeitet von Th. Rothschild, Hans Hinterhäuser (Herausgeber)** // Neues Handbuch der Literaturwissenschaft. Herausgegeben von Klaus von See (23 Bände). Band 19. II Teil. Wiesbaden, 1976. S. 401. [3 Zeilen und es wird ein 8 Zeilen langes Zitat aus seinem Artikel „Забыты шлях“ angeführt].

6.18 **Lojko, O. Einige Gesetzmäßigkeit in der Entwicklung der belorussischen Gegenwartslyrik** // Wissenschaftliche Zeitschrift der Friedrich — Schiller — Universität Jena. 25 Jahrgang, Heft 2. Gesellschaft — und Sprachwissenschaftliche Reihe. 1976. S. 210. [3 Zeilen].

6.19 **Auerswald, Hans. Zur Rezeption revolutionär — proletarischer und sozialistischer deutscher Literatur in der BSSR und belorussischer Literatur in der Weimarer Republik und in der DDR** // Zur Geschichte der BSSR und der deutsch — belorussischen Beziehungen. Kolloquium der Sektion Geschichte 30 und 31.

Oktober 1979 / Wissenschaftliche Bearbeitung: C. Remer. Jena, 1981. S. 121, 125, 126.

6.20 **Bojko-Blochyn, J. Belorussische Poesie im Zerrspiegel sowjetischer Darstellung** // Bojko-Blochyn, J. Gegen den Strom. Ausgewählte Beiträge zur Geschichte der slavischen Literaturen. Heidelberg, 1979. S. 120—121. (Beiträge zur neueren Literaturgeschichte. Dritte Folge. Band 43).

6.21 **Gutschmidt, K. *McMillin, A. B. Die Literatur der Weißrussen. A History of Byelorussian Literature From its Origins to the Present Day. Gießen: Schmitz, 1977. 447 Seiten. 60. — DM (Bausteine zur Gesch. der Lit. bei den Slawen 6)*** [Rezension] // Referatendienst für Literaturwissenschaft. Jahrgang 13. 1981. Heft 3. S. 435.

6.22 **McMillin, A. B. Goethe in weißrussischer Übersetzung // Goethe und die Welt der Slawen** / Herausgegeben von H.-B. Harder und H. Rothe. Gießen, 1981 (Schriften des Komitees der Bundesrepublik Deutschland zur Förderung der Slavischen Studien / Herausgegeben von H. Rothe. Band 4). S. 228. [6 Zeilen].

6.23 **Karatkewitsch, W. Land unter weißen Flügeln. Essai** / Aus dem Belorussischen von W. Tschapeha. Minsk, 1983. S. 158 [24 Zeilen], 164 [wird eine Porträtbüste Bahdanovitsch's von A. Grube erwähnt].

6.24 **Schäfer, I. Die belorussische Literatur //** Einführung in die multinationale Sowjetliteratur / Von einem Autorenkollektiv unter Leitung von W. Beitz. Leipzig, 1983. S. 195.

6.25 **Baranowa, M. P., Pawlowa, N. G. Kurze Geschichte der Belorussischen Sozialistischen Sowjetrepublik** / Bearbeitet und mit einem Vorwort versehen von D. Jena. Übersetzung: G. Höhne und C. Remer. Jena, 1985. S. 67.

6.26 **Randow, N. „Nachwort“ zu dem Buch: Jakub Kolas, Märchen des Lebens. Berlin,** 1988. S. 161.

6.27 **McMillin, A. B. Landmarks and Tendencies in the Development of Byelorussian Poetry** // „Прими собранье пестрых глав„. Slavistische und slavenkundliche Beiträge für Peter Brang zum 65 Geburtstag / Herausgegeben von C. Goehrke, R. Kemball, D. Weiss; redigiert von Monika Bankowski-Züllig. Bern—Frankfurt am Main—New York—Paris, 1989. S. 235, 238—239, 240, 244. (Slavica Helvetica. Band 33).

6.28 **McMillin, A. B. Early 20th Century Byelorussian Spiritual Poetry** // „Tgoli chole Mêstró„. Gedenkschrift für Reinhold Olesch / Herausgegeben von R. Lachmann, A. Lauhus, Th. Lewandowski, B. Zelinsky. Köln—Wien, 1990. S. 537, 543.





6.29 **Bieder, H. Die erste und zweite Wiedergeburt der weißrussischen Sprache und Kultur** // Georg Mayer zum 60 Geburtstag / Herausgegeben von U. Bieber und A. Woldan. München, 1991. S. 407. (Sagners Slavistische Sammlung. Band 16).

6.30 **Bieber, H. Die gegenwärtige Sprach- und kulturpolitische Entwicklung in Weißrussland** // Die Welt der Slaven. Jahrgang XXXVII. 1 + 2, N. F. XVI. 1 + 2. München, 1992. S. 158.

*Падрыхтоўка да друку Сьвятланы Шахоўскай і Натальлі Гардзіенкі*

## МАКСІМ БАГДАНОВІЧ НА СТАРОНКАХ ГАЗЭТАЎ „БАЦЬКАЎШЧЫНА“ Й „БЕЛАРУС“

**А-віч. „Апокрыф“ М. Багдановіча ў „Вільным слове“. Перакладнік Барыс Аляксандраў. [Зь беларускага жыцьця]** // Бацькаўшчына. №9 (544). 26 лютага 1961. С. 4.

**Аганёк, В. Васілёк і Незабудка. (Казка Багдановічавым „беларускім вершам“)** // Бацькаўшчына. №78—79. 25 сьнежаня 1951. С. 6.

Перадрукавана з часопіса „Сакавік“ (№1. 1947).

**Адамовіч, Ант. Наш Багдановіч** // Бацькаўшчына. №31 (467). 9 жнівеня 1959. С. 2—3; №32 (468). 30 жнівеня 1959. С. 2—3; №33 (469). 6 верасьня 1959. С. 2—3; №34 (470). 13 верасьня 1959. С. 2—3.

**„Апокрыф“ М. Багдановіча па-ангельску. Пераклад Веры Рыч** // Беларус. №163. Лістапад 1970. С. 5.

**Багдановіч, Максім. Апокрыф** // Беларус. №3 (9). 30 красавіка 1952. С. 3.

**Багдановіч, Максім. Забыты шлях. Літаратурна-крытычны артыкул** // Бацькаўшчына. №20—21 (354—355). 26 травеня 1957. С. 6—7.

**Багдановіч, Максім. Зь літаратурнай спадчыны: 1. Пагоня, 2. Краю мой родны! Як выкляты богам, 3. Санэт, 4. Слуцкія ткачыхі, 5. „Даўно ўжо целам я хварэю...“, 6. Раманс** // Бацькаўшчына. №20—21 (354—355). 26 травеня 1957. Літаратурны дадатак. С. 3.

**Багдановіч, Максім. Качулка. Апавяданьне** // Бацькаўшчына. №21—22 (152—153). 31 травеня 1953. Літаратурны дадатак. С. 4, 6; №34 (470). 13 верасьня 1959. С. 2—3.

Незахаваны беларускі тэкст з расейскае мовы аднавіў С. Смутніца.

**Багдановіч, Максім. Музыка. Апокрыф. Апавяданьне аб іконьніку й залатару** // Бацькаўшчына. №20—21 (354—355). 26 травеня 1957. Літаратурны дадатак. С. 4—6.

**Багдановіч, Максім. Творы: I. Музыка, II. Вершы, ня ўплеценыя ў „Вянок“** // Бацькаўшчына. №34 (368). 25 жнівеня 1957. С. 2—3; №35—36 (369—370). 8 верасьня 1957. С. 2—6; №37 (371). 15 верасьня 1957. С. 2—3; №38 (372). 22 верасьня 1957. С. 2—3; №39 (373). 29 верасьня 1957. С. 2—3.

**Багдановіч, Максім. Творы: „Вянок“** // Бацькаўшчына. №40 (374). 6 кастрычніка 1957. С. 2—3; №41 (375). 13 кастрычніка 1957. С. 2—3; №44 (378). 3 лістапада 1957. С. 2—3; №45 (379). 10 лістапада 1957. С. 2—3; №46 (380). 17 лістапада 1957. С. 2—3; №47 (381). 24 лістапада 1957. С. 2—3; №48 (382). 1 сьнежаня 1957. С. 2—3; №49 (383). 8 сьнежаня 1957. С. 2—3; №50 (384). 15 сьнежаня 1957. С. 2—3; №1—2 (387—388). 7 студзеня 1958. С. 3—6; №3 (389). 19 студзеня 1958. С. 2—3; №4 (390). 26 студзеня 1958. С. 2—3; №5 (391). 2 лютага 1958. С. 2—3.

**Багдановіч, Максім. Творы: Да новае рэдакцыі „Вянку“ (1916—1917). Найбольш грунтоўна перарэдагаваныя вершы „Вянку“** // Бацькаўшчына. №16—17 (402—403). 20 красавіка 1958. С. 6; №20 (406). 18 травеня 1958. С. 2.

**Багдановіч, Максім. Творы: Да нявыданага зборніка „Палын-трава“ (вершы пра Аню; 1914—1915)** // Бацькаўшчына. №6 (392). 2 лютага 1958. С. 2—3; №7 (393). 16 лютага 1958. С. 2—3; №8 (394). 23 лютага 1958. С. 2—3; №9 (395). 2 сакавіка 1958. С. 2—3.

**Багдановіч, Максім. Творы: Да нявыданага зборніка „Шыпшына“ (1915—1916)** // Бацькаўшчына. №10 (396). 9 сакавіка 1958. С. 2—3.

**Багдановіч, Максім. Творы: З глебы чужое (1913—1916). Пераклады** // Бацькаўшчына. №16—17 (402—403). 20 красавіка 1958. С. 4—5.

**Багдановіч, Максім. Творы: Зь недапрацаванага. Думы** // Бацькаўшчына. №16—17 (402—403). 20 красавіка 1958. С. 7.

**Багдановіч, Максім. Творы: Насьледваньні песьняў некаторых народаў. 1915** // Бацькаўшчына. №16—17 (402—403). 20 красавіка 1958. С. 6—7.

**Багдановіч, Максім. Творы: Перадсьмяротныя радкі (1917)** // Бацькаўшчына. №20 (406). 18 травеня 1958. С. 2—3.

Багдановіч, Максім. Творы: Пераклады з Вэрлена: Шынок; Ракаўка; З альбомных вершаў крытыку; „Жывая лялечка...“; „Вечар ціхі...“; „Прычасьціўся целу мацуры...“; Лясун; „Я нядужы бяскры-

Салавей, Алесь. Актавы (Ну што. Пакінуў я. Нішто. Слупы. Чалом, чалом, слухмяныя актавы. Спакой. Альпы. Не ўспамінай). (С. 4—5)

Клішэвіч, Уладзімер. Песьні суму ліюцца далёка. (С. 5—6)

Лебяда, Тодар. Годзе! (С. 6)

Кавыль, Міхась. Муза. Галгофа. Падзямельная песьня. Недабітыя рыцары. Менск. (С. 7—12)

Вярба, Мікола. Крывавы клічнік. Вясна. Санэт. (С. 12—13)

Крушына, Рыгор. Эротава скрыпка. Астралёг. (С. 14—19)

Золак, Янка. Васількі. (С. 19—20)

Юхнавец, Янка. З лістоў да брата. У дом бацькоўскі ізноў я завітаў. Мінуўшчыны зрудзелае прачытаны тамы. (С. 20—23)

Сяднёў, Масей. Тут сонца, а за даляглядам. (С. 23)

Чорны, Кузьма. Скіп'ёўскі лес. (С. 24—34)

Таполя, Вольга. Безназоўнае. (С. 34—39)

Жамойда, Сымон. Як жартуюць у Малінавічах. (С. 40—44)

Зь недрукаванае спадчыны.

Васілёк, Міхась. На магілу нязнаных. (С. 45)

З узвышэнскае паэзіі.

Дубоўка, Уладзімер. Ты руку сваю забінтавала. (С. 46)

Пушча, Язэп. Песьня песень. (С. 46—47)

Лужанін, Максім. Вільнянка. (С. 47—48)

Віцьбіч, Юрка. Да рэшты бой! (С. 48—49)

Я. К. Пясьняр, змагар, бядняк праз век. Мае ўспаміны аб сьмерці Ўладзімера Жылкі. (С. 49—52)

Гай, Ігнат. Зацемкі аб культуры мовы. (С. 53—58)

Мікола Шыла ня жыве. (С. 58)

У літаратурным згуртаваньні „Шыпшына". (С. 59—60)

Ліст чытача ў рэдакцыю. (С. 60—62)

Бібліяграфія. (С. 62—63)

**№ 8. Літаратурна-мастацкі часапіс.**
**Орган літаратурнага згуртаваньня „Шыпшына". Год 5. 1950**

Дубоўка, Уладзімер. Плач навальніцы. (С. 1)

[Прадмова]. (С. 1)

Сяднёў, Масей. Ты насустрач — болем. Ах, стаміўся я. Баялася ты ўвечары ісьці адна. Хліпнуў агонь — лягла. Малітва. Едзеш ты. (С. 2—4)

Клішэвіч, Уладзімер. Змаўкаю я, зьнікае голас слова. (С. 4)





Салавей, Алесь. У сузор'і зазьзяе Колас. (С. 4—5)

Кавыль, Міхась. Міжагнёўе. Паэма. (С. 5—8)

Ільляшэвіч, Хведар. Сябром. Прадмова Ю. В. (С. 9)

Дудзіцкі, Уладзімер. Дымяцца хмары. Каля вакна равесьнік клён. (С. 10)

Крушына, Рыгор. Вечавы звон. (С. 10—11)

Золак, Янка. На чаўне шчасьлівых дум. (С. 11)

Сокал, Янка. Прыйдзем мы да цябе. (С. 11)

Віцьбіч, Юрка. Вышэй галаву, Дубавец! (С. 12—13)

Жывіца, Юрка. Пушча шуміць. (С. 14—17)

Жамойда, Сымон. І так дрэнна, і гэтак ня добра. (С. 17—29)

Коўш, Сьвятаслаў. Таямніца Сулы. (С. 20—21)

З іншанацыянальнае літаратуры

Гайнэ, Генрых. Два грэнадэры. (С. 22)

Украінка, Лэся. Як-бы праменьні тыя. (С. 23)

Тычына, Павло. Смутлівай маці. (С. 23)

Лужанін, Максім. Дзьве вясны. (С. 23—25)

Віцьбіч, Юрка. Фрагмэнты з кнігі „Не чарнілам, а крывёю". Шолах шын і шум машын. Юлі Таўбін. (С. 25—26)

К., Міхась. Эпіграмы. (С. 26—27)

Францішак Багушэвіч. 1900—1950. (С. 27—28)

Уладзімер Дубоўка. 1900—1950. (С. 28—29)

Сьпяшайцеся, бо спозьніцеся. (С. 29—30)

Хроніка. (С. 30—31)

**№ 9. Літаратурна-мастацкі часапіс.**
**Орган літаратурнага згуртаваньня „Шыпшына". Год 5. 1950**

[Прысьвячэньне:] 30 год таму назад 28 ліпеня 1920 на чужыне памёр Алесь Гарун. (С. 1)

[Гарун, Алесь]. Чаму з маленства… (С. 1)

Віцьбіч, Юрка. Мы дойдзем! (С. 2—3)

Сяднёў, Масей. Акіян. Чалавек бяз адрасу. Маленькая просьба. (С. 3—4)

Дудзіцкі, Уладзімер. Адменная ода. Зрада. (С. 4—6)

Салавей, Алесь. Чорны крук закракаў на ўсё горла. (С. 6)

Ільляшэвіч, Хведар. Сон. (С. 7—9)

Кавыль, Міхась. Два крыжы. З прастораў. Тэрцыны. Вясёлка. Трымайся, Марыя. (С. 9—11)

Юхнавец, Янка. Урывак з паэмы. З цыклю „Таёмнасьці“. Уночы на акіяне. (С. 11—12)

Жывіца, Юры. Пушча шуміць. (С. 13—22)

Вярба, Мікола. Да берагоў зямлі не абяцанай. Фрагмэнты. (С. 23—25)

Золак, Янка. Псальм 126 Саламонаў. (С. 25)

Жамойда, Сымон. Здарэньне ў Крупніках. (С. 26—28)

Крушына, Рыгор. Чужая зіма. (С. 28)

Случчанін, Лявон. Песьня мая, песьня. (С. 29)

Коўш, Сьвятаслаў. Бірута. (С. 29—30)

Пушча, Язэп. Прарокі і вучні. З цыклю „Перад скупым абліччам часу“. (С. 31)

Жылка, Уладзімер. Ізноў пытаньні. (С. 32)

Хадыка, Уладзімер. Трывожны шум. (С. 32—33)

Лужанін, Максім. Надзея. З цыклю „Словы бяз мэлёды“. (С. 33—34)

Гомэр. Разьвітаньне Гэктара з Андрамахай. (С. 34—36)

Шыла, Мікола. Алесь Гарун. Успаміны. (С. 36—38)

Леўчык, Гальляш. Хто адрокся сваіх. (С. 38—39)

Сьвітка, С. [Гальляш Леўчык]. (С. 39)

Віцьбіч, Юрка. Завулак імя Янкі Купалы. (С. 40—43)

Віцьбіч, Юрка. Горад Ірвідуб. (С. 44—45)

Віцьбіч, Юрка. Сакрат ёсьць сябра, але ісьціна яшчэ большы сябра. (С. 45—47)

Па старонках беларускае прэсы. (С. 47—49)

На Бацькаўшчыне. (С. 49—50)

Бібліяграфія. (С. 51—54)

„Шыпшына“ і грамадзкасьць. (С. 54—55)

**№ 10. Літаратурна-мастацкі часапіс.**
**Орган літаратурнага згуртаваньня „Шыпшына“. Год 6. 1951.**
**[Нумар нявыдадзены]**

[Прысьвячэньне:] 25 год таму назад 26 траўня 1926 г. заснавалася Беларускае Літаратурнае Згуртаваньне „Ўзвышша“.

Дубоўка, Уладзімер. Занадта ціха стала на Парнасе. З паэмы „І пурпуровых ветразей узьвівы“

Салавей, Алесь. Гэкзамэтры. Верш.

Віцьбіч, Юрка. Паданьне аб таямнічым сьвятле. Ходзіць па нашай краіне Рагнеда. Сказы.

Ільляшэвіч, Хведар.





3-я ўгодкі ад дню сьмерці.

Сяднёў, Масей. Нязжатая радасьць.

Салавей, Алесь. Вязьмо ў жалобны вянок.

Віцьбіч, Юрка. Мы заўсёды вітаем яго, як жывога.

Кавыль, Міхась. Хведару Ільляшэвічу. Верш.

Ільляшэвіч, Хведар. Літаратурнаму Згуртаваньню „Шыпшына“.

Дудзіцкі, Уладзімер. Адменная ода. Каб хоць раз усьміхнулася шчасьце. Вершы.

Жывіца, Юры. Пушча шуміць.

Клішэвіч, Уладзімер. Месяц. У невядомы сьвет другі. Вершы.

Кавыль, Міхась. У акіяне. Скарпіён. Хутчэй, хутчэй, сымфонія грымотаў. Восень. Мейсца мала. Вершы.

Жамойда, Сымон. Сінічка. Апавяданьне.

Юхнавец, Янка. Эскізы. З восеньскіх уяў. Чалавек. Вершы.

Грэскі, В. Пагібель сэксота. Апавяданьне.

Вярба, Мікола. Мы сьведчыць будзем. Верш.

Крушына, Рыгор. Бяздомны бусел. Верш.

Змагарка, Ніна. Божая жалейка. Сказ.

Лебяда, Тодар. Дзяўчыне. Верш.

Золак, Янка. На прасторах Случчыны. Верш.

Юхневіч, К. Карнавух. Апавяданьне.

З паэзіі Заходняе Беларусі.

Прадмова ад Рэдакцыі.

Арсеньнева, Натальля. Сталёвы зьвяз. Верш.

Танк, Максім. На акопах. Верш.

Геніюш, Ларыса. Надходзіць зноў гуманны час. Верш.

З іншанацыянальнае літаратуры.

Яноніс, Юліюс. Мае песьні. Ці бачыў ты? Вершы. З літоўскае — Ул. Дубоўка.

Чарэнц, Егішэ. Вось іду я да вас. Верш. З армянскае — Уладзімер Дубоўка.

Максімаў, Сяргей. Алім Ахтыраў у Патокіна. Урывак з раману. З расейскае — Юрка Віцьбіч.

Сараян, Вільлям. Грунт пад нагамі. Апавяданьне. З ангельскае — Мікола Вярба.

З клясыкаў і да клясыкаў.

Сафо. Гэта цела. Верш. Пераклаў Уладзімер Клішэвіч.

Гётэ. Над вяршынямі гор цішыня. Верш. Пераклаў Міхась Кавыль.

Жылка, Уладзімер. Да Пэрсі Шэлі. Верш.
Салавей, Алесь. Паводля Дантэ.
З літаратурнае спадчыны.
Купала, Янка. Царскія дары. Верш.
Гартны, Цішка. Перад вобразам Хрыста.
Успаміны, крытыка, публіцыстыка.
Фолкнэр, Вільлям. Аб прызначэньні пісьменьніка. Стакгольмская прамова.
Шыла, Мікола. Цётка. Да 35-х угодкаў ад дню сьмерці. Успамін.
Вярба, Мікола. Сучасная беларуская літаратура.
Стасюк, Міхась. Хведар Ільляшэвіч. Да 3-х угодкаў ад дню сьмерці. Артыкул.
Шымановіч, Ал. Па старонках беларускае прэсы. Агляд.
Беларускі літаратурны каляндар на 1952 г.
Хроніка.

*Камэнтары Ціхана Чарнякевіча й Натальлі Гардзіенкі*





## ЭГАДАКУМЕНТЫ АНТОНА АДАМОВІЧА

*Колькасьць выдадзеных працаў выдатнага крытыка й публіцыста Антона Адамовіча прыкметна расьце. У гэтым нумары адкрываюцца ягоныя перакладніцкія здольнасьці (гл. пераклад п'есы Мікалая Гогаля „Рэвізор“), а таксама дасьведчанасьць у тэорыі санэту (гл. ліставаньне зь Міхасём Кавылём). Разам з тым, у біяграфіі слыннае асобы дагэтуль ёсьць вялікія прагалы, асабліва гэта датычыць 1920-х — 1930-х гг. Яно й зразумела, бо ўмовы выгнаньня ды акупацыі не спрыялі захаваньню асабістага архіву. Ад яго дайшлі толькі некалькі фрагмэнтаў: эміграцыйны, што захоўваецца ў БІНіМе, а таксама мэтрапольны. Гэты апошні зьберагаецца ў Беларускім дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва ў Менску, куды калекцыя дакумэнтаў Адамовіча паступіла з Нацыянальнага архіву Рэспублікі Беларусь. Гэты невялікі фонд быў адасоблены ад менскіх матэрыялаў, захопленых у ліпені 1944 г. Чырвонай арміяй. Верагодна, пасьля вядомага эпізоду з бомбай у пісьмовым стале Антон Адамовіч мусіў так хутка выехаць зь Менску, што не пасьпеў забраць з працы лісты ад сваёй жонкі (некалькі сотняў), а таксама сяброў зь Вільні, Прагі, Бэрліну. Немалую цікавасьць уяўляюць так званыя матэрыялы асабістага паходжаньня: афіцыйныя дакумэнты, фотаздымкі, — розная біяграфічная „дробязь“, паводле якой, тым ня менш, можна адсачыць важныя рэчы. У гэтым выпуску „Музэю“ прапануем матэрыялы з архіваў Антона Адамовіча. (Некаторыя матэрыялы з архіваў Адамовіча былі скарыстаныя як ілюстрацыі да тэксту Ціхана Чарнякевіча „Вакол цьвёрдае формы“).*

Антон Адамовіч з бацькамі. 1930-я гг.

Лекционная книжка
Студента Белорусского Государственного Университета
Адамович Антон Евстафьевич
Факультет Педагогический. Отделение Литер.-лингв. Секция Белорусская. Выдана 5 января 1929 г.
Место печати Белорусского Государственного Университета
Декан Профессор Пиотухович

1928-9 академ. год. Фак. Педагог. Отделение Литерат.

Выпіска з лекцыйнай кніжкі Антона Адамовіча.1931 г.





1929-30 академ. год. Фак. Педагог. Отделение Литерат.

| Название предмета | Фамилия преподавателя | Отметка об экзамене | Время сдачи | Подпись экзаменатора | |
|---|---|---|---|---|---|
| Методика языка и литературы | Проф. И.И. Замотин | зачтено | 30-IV-1930 | Замотин | |
| Методический практикум | Проф. И.И. Замотин | | | | |
| Педагогика | Доцент П. Панкевич | | 15-VI | Панкевич | |
| Задачи школы и обороны СССР | Препод. Петров | | 28-VIII-31 | Петров | |
| Немецкий язык I, II и III групп | Препод. Руденко | | 12-VI-30 | Руденко | |
| Научная грамматика белор. языка | И. Лесик | | | | |
| Научная грамматика русск. языка | Доц. Я. Волк-Левонович | зачтено | 10-VI-30 | В. Левонович | |
| Тактика за 3 и 4 к. | Препод. Петров | | 28-VIII-31 | Петров | |
| Методология литературоведения (III и IV) | Доц. Гальперина | | 20-VI-30 | Гальперина | |

Перечисленные дисциплины за исключением „Научной грамматики белорусского языка" гр. Адамовичем сданы. Зам. Директора Высш. Пед. Института по учебной части Терентьев. 16-IX-31 г. Место печати Белорусского Государственного Университета.

1931 году, месяца Сьнежня у 31 дзень, Менская Дзяржаўная Натар'яльная Кантора сьведчыць, што гэтая копія адпаведае першатвору.

7356.

Спагнана адзінай дзяржаўнай мыты: за пасьведчаньне 1 Руб. — кап. У тых- працу — Руб. — кап. Кніг. № 4266.

Натарыус

Выпіска з лекцыйнай кніжкі Антона Адамовіча.1931 г.

Антон Адамовіч у высылцы. 1931 г.



Хата ў Глазаве (Удмурцкая вобл.), дзе жыў у высылцы Антон Адамовіч



Б С С Р.
Наркамасьветы
Беларускі Дзярж. Вышэйшы Педагаг. Інстытут | Белорусск. Госуд. Высший Педагогич. Институт

17-XII 1936 г.
№ 25
г. Менск

Д А В Е Д К А.

Дадзена гэта тав. АДАМОВІЧУ Антосю Астапаву ў тым, што, як відаць з дакументаў, маючыхся ў Вышэйшым Педінстытуце, ён скончыў датэрмінова Літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне Педфака Беларускага Дзяржаўнага Універсітэта ў 1930 г. Тав. АДАМОВІЧАМ зданы ўсе прадметы навучальнага плана, акрамя навуковай граматыкі беларускай мовы.

ДЫРЭКТАР ВПІ (ГРЫНЕВІЧ)
КІР. СПРАЎ (УРМАН)

Даведка Антона Адамовіча. 1936 г.





Протокол обыска

[illegible]

Пратакол вобшуку ў Антона Адамовіча ў 1937 г.



уласны подпіс

М. П.

ННАсветы БССР

ДЫПЛОМ

БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ЎНІВЕРСІТЭТ

МЕНСК — 1937

Дыплём Антона Адамовіча. БДУ, 1939 г.



Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

ДЫПЛОМ

Дадзены гэты дыплом гр. Адамовічу Антону Еўстафьевічу радзіўшамуся ў 1909 г. у тым, што ён паступіў у 1928 г. на літоратурна-лінгвістычнае Аддзяленне Педагагічнага Факультэта Беларускага Дзяржаўнага Універсітэта і скончыў курс гэтага аддзялення ў 1931 г., выканаўшы ўвесь навучальны план, што і сведчыцца.

Пролетарии всех стран, соединяйтесь!

ДИПЛОМ

Выдан настоящий диплом гр. Адамовичу Антону Евстафьевичу родившемуся в 1909 г. в том, что он поступил в 1928 г. на литературно-лингвистическое Отделение Педагогического Факультета Белорусского Государственного Университета и окончил курс этого отделения в 1931 г., выполнив весь учебный план, что и удостоверяется.

№ 261

„2“ августа 1939 г.

г. Менск

Рэктар Беларускага Дзяржаўнага Універсітэта

Дэкан факультэта

Дыплём Антона Адамовіча. БДУ, 1939 г.



БССР

Наркомпищепром

Химико-Технологич. Техникум Пищевой Промышленности

26/III 1940 г.

№ 1-43

г. Минск

Справка

Дана настоящая тов. Адамовичу А. Е. в том, что он является преподавателем Минского хим. технол. т-ма пищевой пр-ти БССР.

Дана для представления в [illegible]

Директор т-ма

Даведка з тэхнікуму. 1940 г.







ПАСЬВЕДЧАНЬНЕ

Гр. Адамовіч Антон Астапавіч з"яуляецца супрацоунікам аддзелу працы Менскай Гарадзкой Управы.

ЗАГАДЧЫК АДДЗЕЛА ПРАЦЫ.-

САКРАТАР.- Кушак

12 ліпеня 1941 г.

Bezeugung

H. Adamowitsch Anton ist ein Arbeiter in der Arbeitsabteilung bei den Burgomistr Stadt Minsk

Arbeitsabteilungleiter

Sekretär Kušak

12-VII-41

Пасьведчаньне Антона Адамовіча. 1941 г.



Рэдакцыя “Беларускай газэты” і “Голасы вёскі” ў Менску. Сядзяць зьлева направа: Уладзіслаў Казлоўскі, Натальля Арсеньнева, Аляксей Сянькевіч; стаяць зьлева направа: Уладзімер Кушаль, Антон Адамовіч, Караленка. Сьнежань 1942 г.



Зьлева направа: Антон Адамовіч, Уладзімер Кушаль, Караленка, Натальля Арсеньнева, жонка Караленкі, Мікола Шчаглоў, Язэп Найдзюк. Менск, 1943 г.



Дом у Менску, дзе жыў Антон Адамовіч з бацькамі. 1943 г.





## ФОТААРХІЎ ЮРКІ ВІЦЬБІЧА

*Мусіць, не было на эміграцыі большага аматара й папулярызатара беларускай даваеннай літаратуры, чым Юрка Віцьбіч. Сам удзельнік тагачаснага літпрацэсу, ён не стамляўся нагадваць сваім сучасьнікам, а таксама маладзейшым чытачам і шматлікім карэспандэнтам пра Алеся Дудара, Міхася Зарэцкага, Валерыя Маракова, Міхася Багуна, Максіма Лужаніна, Эдуарда Самуйлёнка — пра ўсіх тых, каго ведаў асабіста, каго чытаў і абмяркоўваў яшчэ ў гады свайго юнацтва.*

*Ня дзіва таму, што менавіта Юрка Віцьбіч захаваў неблагую калекцыю здымкаў беларускіх літаратараў 1920-х гг. Нельга не адзначыць і выключны характар гэтай калекцыі — большасьць здымкаў перайшла да Віцьбіча ад Алеся Дудара. Тут узьнікае цікавая акалічнасьць. Паводле зьвестак Леаніда Маракова, апошні — фатальны — арышт Дудара адбыўся 31 кастрычніка 1936 г. А жменя здымкаў з архіву Віцьбіча падпісаная так: „Ал. Дайлідовіч. I/XI-36 г.“. Адно з двух: альбо Дудар быў схоплены пазьней (што малаверагодна, бо крыніца інфармацыі Маракова — картатэка КДБ), альбо Віцьбіч атрымаў здымкі не ад самога паэта, а ад трэціх асобаў. Так ці інакш, фота захаваліся — прайшлі часы рэпрэсіяў, акупацыі, эміграцыі. І вось толькі цяпер яны вяртаюцца на Радзіму. (Частка здымкаў з фотаархіву Віцьбіча была скарыстаная для ілюстрацыі ягонага тэксту „Цьвілікае шэранькі верабейчык“).*



Юрка Віцьбіч



Алесь Дудар



Алесь Дудар



Алесь Дудар







Міхась Зарэцкі



Жонка Міхася Чарота



Міхась Зарэцкі (у цэнтры) у духоўным вучылішчы



Зьлева направа:
Аўген Калубовіч, Рыгор Няхай, Алесь Бачыла, Пімен Панчанка



Літаратурнае згуртаваньне “Полымя”



*Публікацыі*

**Макс Шчур**
*Прага*

# БЕЛАРУСЬ У ПРАСКІМ ЧАСОПІСЕ „SLOVANSKÝ PŘEHLED“ (1925—1938)

Гісторыя часопіса чэхаславацкіх славістаў *„Slovanský přehled“* (далей — „Славянскі агляд“) пачалася яшчэ ў 1898 г. і працягваецца да сёньняшняга дня — мала якое пэрыядычнае выданьне можа пахваліцца такім доўгім векам. Заснаваў яго, а пасьля некалькігадовага перапынку ў 1925 г. і аднавіў прафэсар Адальф Чэрны (1854—1952), які быў ня толькі навукоўцам, але й паэтам (пісаў пад псэўданімам Ян Ракіта), перакладчыкам і публіцыстам. Адпачатна цікавасьць Чэрнага была скіраваная на вывучэньне лужыцка-сэрбскай культуры (у маёй бібліятэцы ёсьць зборнік лужыцкага паэта Якуба Цішынскага ў перакладах Чэрнага, выдадзены ў 1906 г.), што сьведчыць пра ягоныя сымпатыі ня толькі й ня столькі да вялікіх, колькі да прыгнечаных і на той час меней разьвітых славянскіх культураў. Трапіла ў поле ягонай цікаўнасьці й беларускае адраджэньне — навуковец і сам бываў у Беларусі, дзе *„пазнаёміўся з добрым беларускім народам зблізку, у яго хаце, пачуў яго мяккую мову, пражыў сярод яго прыгожыя, незабыўныя дні сваёй маладосьці“*[1] . У 1907 г. Адальф Чэрны друкуе ў „Славянскім аглядзе“ *„кароткую нататку аб узьнікненьні новага беларускага штотыднёвіка „Наша ніва“ й выдавецтва „Загляне сонца і ў наша ваконца““*[2] , а ў 1911 г. у XIII нумары часопіса (с. 410—413) публікуе артыкул з назвай „Беларускія нацыянальныя й літаратурныя памкненьні ў 1909—1910

[1] Цыт. паводле: Чмарава, М. Шляхі ўзаемнага пазнаньня: беларуская літаратура ў Чэхаславакіі (1920—1945). Магілёў: МДУ імя А. А. Куляшова, 2004. С. 79.

[2] Чмарава, М. Шляхі ўзаемнага пазнаньня: беларуская літаратура ў Чэхаславакіі... С. 80.

гг.“, дзе надае асаблівую ўвагу творчасьці Янкі Купалы (рэцэнзуе нізкі „Жалейка“, „Адвечная песьня“ й „Гусьляр“) і перакладае два ягоныя вершы — „А хто там ідзе?“ і „Песьня і сіла“[3]. Пасьля аднаўленьня часопіса ў 1925 г. менавіта ён як галоўны рэдактар найбольш пільна сочыць за беларускім нацыянальным жыцьцём. У нумары за той год ён, напрыклад, друкуе біяграфічную зацемку пра Францішка Скарыну, дзе адзначае, што падчас перакладаньня кніг Старога Запавету той *„узяў у дапамогу й чэскі пераклад Біблії (асабліва Вэнэцыянскую біблію з 1506 г.)“*[4]. Там жа Адальф Чэрны вельмі прыхільна рэцэнзуе „Расейска-крыўскі слоўнік“ Вацлава Ластоўскага[5], а ў № XIX за 1927 г. — „Віцебскі краёвы слоўнік“ Міколы Касьпяровіча (с. 233) і віленскую „Хрэстаматыю новай беларускай літаратуры“ Ігната Дварчаніна (с. 465), піша юбілейныя зацемы пра Якуба Коласа (с. 238) і Максіма Багдановіча (с. 475), якога паводле багацьця формаў, *„ад антычных да рэнэсансных і мадэрнісцкіх, на якія ён наважыўся ў беларускай паэзіі першым“*, параўноўвае з ужо згаданым лужыцка-сэрбскім паэтам Якубам Цішынскім. Цытаваныя Адальфам Чэрным крыніцы й зробленыя ім пераклады не выклікаюць сумневу, што ён добра валодаў беларускаю мовай, прынамсі бязь цяжкасьцяў чытаў па-беларуску. Як напісала М. Чмарава, *„роля А. Чэрнага як папулярызатара беларускай літаратуры ў міжваеннай Чэхаславакіі неацэнная. Ён ёсьць першым сур'ёзным чэскім дасьледчыкам-беларусістам і перакладчыкам нашай літаратуры, актыўным ініцыятарам увядзеньня беларускай літаратуры й культуры ў агульнаславянскі зварот“*[6].

Прафэсар Чэрны выгадаваў цэлую плеяду чэскіх славістаў, якія ўваходзілі ў рэдкалегію „Славянскага агляду“. Зь іх вылучаўся Антанін Фрынта, які з 1930 г. стаў галоўным рэдактарам часопіса — Чэрны мусіў пакінуць гэтую пасаду з увагі на стан здароўя. Антанін Фрынта таксама ёсьць аўтарам многіх зацемак пра Беларусь, але далёка ня ўсе зь іх выяўляюць прыхільнасьць, уласьцівую ягонаму настаўніку. У якасьці прыкладу прывяду ўрывак з Фрынтавай рэцэнзіі на „Беларускую граматыку для школ“ Браніслава Тарашкевіча (Вільня, 1922) у № XVII „Славянскага агляду“ за 1925 г.:

---

[3] Slovanský přehled. № XVIII. 1926. S. 247.
[4] Slovanský přehled. № XVII. 1925. S. 159.
[5] Slovanský přehled. № XVII. 1925. S. 64.
[6] Чмарава, М. Шляхі ўзаемнага пазнаньня: беларуская літаратура ў Чэхаславакіі... С. 86.








Вокладка часопіса „Славянскі агляд“

*„Што да дэталяў, то ў параграфе 4 у ліку звонкіх зычных аўтар забыўся на j, а ў параграфе 6 памылкова называе зычныя g, k, ch „гартаннымі“ разам з h! [...] Тое, што зь дзьвюх царкоўнаславянскіх літараў для азначэньня галоснага і абраная „і“, бачыцца недарэчным ня толькі таму, што ў новым вялікарускім правапісе менавіта „і“ было скасаванае, але й з нутраных прычынаў, бо гэтым касуецца аптычная сувязь зь „й“, у якую ў беларускай мове (як і ў маларускай) пераходзіць „і“ на пачатку словаў пасьля папярэдняй галоснай. (Параўнай паралель „у:ў“, якой адпавядала б толькі „и:й“, а ня ўведзенае тут „і:й„!) [...] Ня ведаю, чаму быў пераняты польскі спосаб напісаньня прыметнікаў: людзкі, швэдзкі й г. д., што не адпавядае ні фанэтыцы, ні этымалёгіі. [...] Вельмі недарэчным я лічу ўжываньне „ё“ ў значэньні ‚о“ пры напісаньні чужых словаў: філёзофія, Лёндон (чаму б не пісаць „Льо“ — калі ўжо трэба адрозьніць яго ад складу „ло“ зь цьвёрдым „л“ — пагатоў што вядзецца пра „l“ сярэдняе, а ня мяккае).*

*Насамрэч вартае шкадаваньня, што пры фіксацыі новай славянскай мовы сэпаратызм выяўляецца і ў такім неразумным ігнара-*

*ваньні завядзёнак найбліжэйшай літаратурнай мовы, асабліва пры тым, што беларуская інтэлігенцыя, без сумневу, будзе заўжды вучыцца прынамсі чытаць па-вялікаруску. Ці варта гэтак адмайляцца ад шляху збліжэньня суседніх плямёнаў і будаваць паміж імі папяровы мур непатрэбнай адчужанасьці?“*[7]

Як бачым, далёка ня ўсе чэскія інтэлектуалы былі дарэшты перакананыя ў апрычоным і самабытным характары яшчэ маладой (прынамсі, маладзейшай за новую чэскую) беларускай культуры — аднак пры гэтым пільна й па-навуковаму сумленна сачылі за ейным разьвіцьцём. Антанін Фрынта, у прыватнасьці, асабліва цікавіўся пытаньнямі беларускага правапісу. У № XX за 1928 г. ён рэцэнзуе выдадзены ў Менску годам раней зборнік „Працы акадэмічнай канфэрэнцыі па рэформе беларускага правапісу“:

*„Пра рэформу кірыліцы (замяніць яе на лацінку канфэрэнцыя адмовілася амаль аднадушна) на пленуме прамовілі Я. Лёсік, сябра Інстытуту* (Інбелкульту — **М. Шч.**) *зь Менску, і П. Растаргуеў, прафэсар маскоўскага ўнівэрсытэту, пасьля чаго пытаньне было разгледжанае графічнай камісіяй, якая бальшынёй галасоў прыняла наступныя зьмены: 1. дыграфы „дз“, „дж“ замяніць сэрбскімі літарамі „ђ“, „ћ“ (то бок у цалкам іншым фанэтычным значэньні!); 2. адмовіцца ад літары „й“ і замяніць яе лацінскаю „j“; 3. замест літараў „я“, „ю“, „е“, „ё“ на пачатку словаў і наагул складоў пісаць (зноў паводле сэрбскага ўзору): ja, ju, je, jo, але пакінуць згаданыя літары пасьля зычных для азначэньня мяккасьці, напр. „нясу“, „не“... (Аднак супраць гэтай непасьлядоўнай зьмены рашуча выказаліся 22 удзельнікі канфэрэнцыі, між іх і паэты Купала, Коляс* [sic]*, рэд. Ластоўскі, Некрашэвіч і інш.)“*[8]. У выніку канфэрэнцыя адхіліла гэтыя прапановы Лёсіка, якія і зь сёньняшняга гледзішча выглядаюць рэвалюцыйнымі, *„а ўхваліла толькі наступныя зьмены Некрашэвіча: 1. у другім складзе перад націскам пісаць заўжды „е“ (замест „я“); заўжды пісаць „не“, „без“, калі вядзецца пра самастойныя словы, а не прыстаўкі; 3. пашырыць „аканьне“ й на словы замежнага паходжаньня; 4. замест „й“ на пачатку слова заўжды пісаць „і“ (што, аднак, супярэчыць пастанове ўвядзеньня „j“). Гэта што тычыцца практычных пытаньняў“*[9]. Можна сабе ўявіць, зь якім захапленьнем

[7] Slovanský přehled. № XVII. 1925. S. 150Ï151.
[8] Slovanský přehled. № XX. 1928. S. 64.
[9] Slovanský přehled. № XX. 1928. S. 64.





(хоць, на шчасьце, і не нямым) назіралі чэскія славісты за бурлівым разьвіцьцём беларускай культурнай і навуковай думкі ў часы так званай беларусізацыі.

У Нацыянальнай бібліятэцы Чэхіі мы атрымалі доступ да 14 нумароў „Славянскага агляду“ за 1925—1938 гг. Беларусі ў іх адведзенае хай сабе й параўнальна невялікае, але ўсё-ткі не апошняе месца — у кожным нумары ёсьць зацемка ці артыкул пра жыцьцё беларусаў у Польшчы, Літве, Латвіі й Савецкай Беларусі. Што да ўласна літаратуры, якая ёсьць тэмай гэтага выпуску „Запісаў БІНіМ“, то публікацый сваіх твораў па-чэску ў „Славянскім аглядзе“ ў гэтыя гады дачакаліся Янка Купала (№ XVIII, рубрыка „З славянскай паэзіі“, с. 247—252, вершы „Брату беларусу“, „Цару неба й зямлі“, „Мая вера“, „Не глядзі“ — зь нізкі „Спадчына“, у перакладах Іржы Рубіна — паводле М. Чмаравай, гэта быў псэўданім Адальфа Чэрнага), Цішка Гартны (№ XXI, рубрыка „Юбілеі“, с. 79, верш „Бяз працы“ ў перакладзе Адальфа Чэрнага), Міхась Машара (№ XXVIII, С. 40—43, вершы „На пераломе“ й „Бяз назвы“ ў перакладзе Францішка Ціхага) і Алесь Гурло (№ XXX, с. 403 — вершы „Барацьбіту“, „Беларуская сялянка“, „Заблішчалі ў цёмнай далі маякі“, „Жняя“, „Жыцьцёвы бой“ у перакладах Францішка Ціхага). Калі параўнаць гэта з мноствам перакладаў з той жа расейскай (Ясенін, Бальмонт, Блок, Гумілёў) ці з польскай, то зробіцца ясна, што да беларускай паэзіі чэскія перакладчыкі надта не цягнуліся, чаму — іншае пытаньне. Затое багата ў часопісе рэцэнзіяў на беларускія публікацыі, перадусім на вершаваныя, але й на празаічныя кнігі й літаратурныя пэрыядычныя выданьні.

Наогул характэрна, што пры ўсім спачуваньні маладой славянскай літаратуры чэскія аўтары дазваляюць сабе выказвацца пра яе нашмат больш крытычна за сваіх беларускіх калегаў. Вось што, напрыклад, пісаў пра „Сымона-музыку“ Якуба Коласа перакладчык асобных вершаў Купалы, Дудара, Машары, Гурла Францішак Ціхі:

*„Паэма пабудаваная вельмі сымэтрычна — у ёй пяць частак па пяць песень у кожнай — і месцамі выяўляе выкшталцоную, нават віртуозную канструкцыю верша. Аднак мэтафарычны бок Коласавага верша, аналягічна з ідэйным бокам эпасу, не выяўляе вялікай вынаходлівасьці, у гэтым сэнсе паэма, наадварот, небагатая й нецікавая. Часам мы напаткаем тут і востра-дысанансныя вобразы. Гэтак, у фінальных радках паэмы Ганна параўноўваецца зь лілеяй, а Сымон — з птушкай: «Дакончыў казку пра лілею і пра пташынупесьняра».*

*Бясспрэчнай вартасьцю гэтага твора ёсьць, аднак, лірычныя ўстаўкі, якія шчасьліва-спакойным вершам апяваюць унутраную й вонкавую прыгажосьць паэтавай роднай Беларусі. З усіх гэтых лірычных інтэрлюдыяў пераўзыходзіць астатнія чароўная рапсодыя «О край родны, край прыгожы» (с. 107—110), якую без сумневу варта было б перакласьці.*

*Гэты паэтычны твор, якому паэт прысьвяціў столькі сталых гадоў сваёй творчасьці — сёлета Коласу спаўняецца сорак чатыры гады — ды столькі сумленных мастацкіх высілкаў і які, нягледзячы на ўсё гэта, у сваёй цэласьці азначае мастацкае фіяска, мімаволі навязвае думку пра лёс малых літаратураў. У час, калі ў матчынай* (sic! — **М. Шч.**) *расейскай літаратуры высьпявае творчасьць А. Блока, калі ў сястрынскай украінскай літаратуры П. Тычына выроўнівае крок з найноўшымі заходнімі літаратурнымі плынямі, беларускі пісьменьнік піша твор, які можна паставіць у адзін шэраг зь вершамі, якія ў нашай літаратуры ўзьнікалі пяцьдзясят гадоў таму. [...] І тут надзвычай павучальна назіраць, наколькі такі анахранізм, што суправаджаецца кансэрватызмам, які змушае аўтараў пры выбары матэрыялу абмяжоўвацца выключна каранямі роднай глебы, характэрны для ўсіх без выключэньня ўскрайкавых літаратураў. Мы можам знайсьці пацьверджаньне гэтага факту як на прыкладах заходніх (каталёнская, правансальская, ніжненямецкая літаратуры), так і славянскіх (беларуская, кашубская, славацкая, верхненямецкая). Над гэтым нельга не задумацца“*[10].

Як бачым, Коласава паэма (пры ўсіх ейных лірычных і фармальных вартасьцях) ёсьць для Францішка Ціхага (які, наадварот, вельмі прыязна выказваецца пра „Новую зямлю“) хрэстаматыйным прыкладам адсталасьці малых літаратураў (што цікава — у тым ліку й „братняй“ славацкай), а з усіх пяці частак паэмы перакладу, паводле яго, вартыя ўсяго тры старонкі... З гэтым можна й трэба спрачацца, але нельга ўсё-ткі не прызнаць пэўнай рацыі ў разважаньнях крытыка — яе ўскосна пацьвярджаюць і рэцэнзіі беларускіх аўтараў на кнігі літаратараў-суайчыньнікаў, асноўнай (калі не адзінай) тэматыкай якіх па-ранейшаму застаецца народна-патрыятычная.

Асаблівая ўвага надзялялася рэцэнзэнтамі беларускай літаратуры ў Польшчы (Заходняй Беларусі), сярод найбольш выбітных постацяў якой рэгулярна згадваюцца тры імені: Хведар Ільляшэвіч, Натальля

[10] Slovanský přehled. № XVIII. 1926. S. 393.





Арсеньнева і Міхась Машара. Тым часам у Савецкай Беларусі пра ўсіх траіх пісалі зусім адваротнае: паводле А. Салагуба, гэта *„актыўныя аружжаносцы беларускай контррэвалюцыі ў літаратуры, сьпявакі беларускай „Пагоні“ — сымбалю беларускай буржуазнай дзяржаўнасьці, рэакцыйныя пісакі, паборнікі рэакцый і папоўшчыны — актыўныя ворагі Совецкай Беларусі“*[11]. Нядзіўна, што Ільляшэвіч і Арсеньнева, разам з многімі іншымі заходнебеларускімі дзеячамі, апынуліся пасьля вайны ў эміграцыі.

Здымак Натальлі Арсеньневай на старонцы „Славянскага агляду“

Пісалі ў „Славянскім аглядзе“ пра Беларусь і польскія навукоўцы. Найбольш цікавым мне падаецца артыкул Антонія Апэньхоўскага „Чвэрць стагодзьдзя беларускага пэрыядычнага друку (ад „Нашай долі“ з 1906 г. да 1931 г.)“ у № XXIII часопіса за 1931 г. (с. 652—656), у перакладзе Антаніна Фрынты і з камэнтарамі Францішка Грышкевіча, пра якога гаворка пойдзе ніжэй. Насуперак назьве артыкулу, Апэньхоўскі пачынае гісторыю беларускіх пэрыядычных выданьняў з „Мужыцкае праўды“ Каліноўскага й зьвяртае ўвагу на тое, што пасьля разгрому паўстаньня спробы заснаваць беларускую газэту ажылі за мяжою:

*„Пасьля рэпрэсіяў на роднай глебе толькі ў 1870 г. група літоўска-беларускіх эмігрантаў у Парыжы выдала праспэкт, што абвяшчаў намер выдаваць газэту „Zmowa“, што мела выходзіць на трох мовах: польскай, літоўскай і беларускай. Паводле самой назвы, гэта мусіла быць „дамова“ польскага, літоўскага й беларускага насельніцтва Крэсаў усходніх супраць маскоўскага прыгнёту. Але з аднаго боку моцная пазыцыя царскай Расеі ў Францыі, а з другога француска-нямецкая вайна прымусілі ініцыятараў праекту пераехаць у Швайцарыю. Там, у Цюрыху, 15 ліпеня 1870 г. выйшаў першы нумар*

[11] Салагуб, А. Літаратурны фронт Заходняй Беларусі // Літаратура і мастацтва. 1932. 26 лютага. С. 3

*дэкляраванага і вельмі цікавага часопіса, які па-польску называўся „Zmowa“, па-беларуску — „Hromadzki zhovar“*[12]*, а па-літоўску — „Kupos Susitarimas“. Рэдактарамі, і, уласна, адзінымі аўтарамі й перакладчыкамі былі J. A. Medeksza (літовец), A. Roћalowski (паляк)*[13] *і*

[12] Яўная алюзія на „Грамадзкую дамову“ Жана-Жака Русо. Цікава, што пазьнейшыя польскія дасьледнікі называюць мову беларускай вэрсіі выданьня „рускай“, украінскія — „украінскай“... Гэтак піша ва ўкраінскім часопісе Падляшша „Над Бугам і Нарваю“ нехта Jerzy Hawryluk: *„Mimo jednak swego pochodzenia i używania jako pseudonimu ukraińskiego słowa Hodi (dosyć), J. Tokarzewicz związał się z polskim ruchem narodowym — m.in. brał udział w Powstaniu Styczniowym, był też redaktorem kilku polskich pism emigracyjnych. Można więc powiedzieć iż był typowym gente Ruthenus, natione Polonus. Wiele jednak uwagi w swych działaniach poświęcał sprawom ukraińskim, jak też litewskim. Nawet jedno z redagowanych przez niego w Paryżu pism — „Zmowa“ — miało wychodzić także z dodatkami w języku ukraińskim i litewskim (na jego winiecie umieszczono nawet dodatkowe tytuły — „Kupos Susitarimas“ i „Hromadźki Zhowor“), co nie zostało jednak zrealizowane z powodu wybuchu wojny francusko-pruskiej“* (паводле: http://nadbuhom.free.ngo.pl/art_1542.html).

[13] *„Zapewne w maju 1869 stał się (Rożałowski) aktywnym działaczem Zjednoczenia Emigracji Polskiej. Został dokooptowany do Komitetu Zjednoczenia wraz z Antonim Medekszą, Józefem Tokarzewiczem i Aleksandrem Frankowskim. Ten zespół świadczył o dalszej radykalizacji Zjednoczenia. Na manifeście tej organizacji z 22 I 1870, poddanym przez głosowanie członkom organizacji, nazwiska Rożałowskiego nie ma. W czerwcu 1870 ukazał się prospekt, a 15 VII pierwszy i zarazem ostatni nr czasopisma „Zmowa. Kupos Susitarimas-Hromadźki Zhovor“. Pismo redagowali w Paryżu: Tokarzewiecz, Medeksza i Rożałowski, a ukazało się w Zurychu. Tekst był polski, ale miały wychodzić też 3 dodatki popularne w języku polskim ruskim i litewskim „Przez lud“. Wyszedł tylko jeden w języku ruskim, pt. „Z ruk w ruki“. Założeniem pisma miało być rozpatrywanie bieżących zagadnień z punktu widzenia ‘przyszłej socjalnej rewolucji na ziemiach polsko-litewsko-ruskich’, a głównym hasłem praca dla ludu Ż przez lud. W programie „Zmowy“ odszukać można wpływ Aleksandra Hercena z jego niewiarą w Zachód, a potrzebą oparcia się na rodzinnym charakterze, obyczaju i tradycji ludowej. Rożałowski, sam rzekomo uważający się za Rusina, w artykule pt. „Krajowcom“ wskazywał na zadania przyszłej rewolucji w kraju oraz wypowiedział myśl, iż Polska musi się odbudować nie jako organizm państwowy centralistyczny w granicach z r. 1772, lecz jako federacja trzech niepodległych narodów: Polski, Litwy i Rusi. Nie wiadomo, czy miał kontakty z Międzynarodówką przed okresem Komuny Paryskiej. Korespondował z Walerym Wróblewskim oraz emigrantami zbliżonymi do I*





*J. Takareviu (беларус)*[14]*, які частку сваіх працаў падпісваў псэўданімам Hodi*[15]*. Наколькі нам сёньня вядома, адзіны экзэмпляр „Zmowy“ захаваўся ў рапэрсвільскай калекцыі (цяпер у Варшаве)“*[16].

Першым (і адначасова самым актыўным) з уласна беларускіх аўтараў часопіса быў Францішак (Франук) Грышкевіч (1906?—1946), які ў 1926 г. скончыў Віленскую беларускую гімназію, нелегальна перайшоў польска-чэхаславацкую мяжу й паступіў у праскі Карлаў унівэрсытэт, дзе ў 1931 г. атрымаў дыплём доктара філязофіі. Ужо за час навучаньня ў Чэхіі ён у 1927 г. выдаў у Вільні кнігу вершаў „Веснавыя мэлёдыі“[17]. Друкавацца ў „Славянскім аглядзе“ Францішак Грышкевіч пачаў у 1929 г., з часам пачаў аглядаць ня толькі беларускія, але й польскія, расейскія ды ўкраінскія падзеі й выданьні. Ужо сам стыль ягонай публіцыстыкі, нашмат больш палемічны й канфліктны за астатніх беларускіх аўтараў часопіса, сьведчыць пра тое, што аўтар — паэт: празь ягоную неабыякавасьць і ангажаванасьць у беларускіх пытаньнях тэксты Грышкевіча — пры ўсім іхным патасе й шматслоўнасьці (якая можа тлумачыцца й чыста эканамічнай патрэбай аўтара зарабіць як мага болей на ганарары), — ня трацяць, спадзяюся, сваёй цікавасьці й для сёньняшняга чытача. Яны выдаюць у аўтару чалавека левых пераканаьняў, пры гэтым крытычнага да культурнай і сацыяльнай палітыкі СССР. Відавочна, што Францішак Грышкевіч мусіў добра ведаць Тамаша Гры-

⇨ *Międzynarodówki. W r. 1868 został powołany przez sąd honorowy Tow. Wojskowych Polskich do zeznań w sprawie ppłk. Karola Krysińskiego, oskarżonego o szpiegostwo. W swoich programach publicystycznych R. odwoływał się do socjalizmu, mając wraz z Tokarzewiczem na myśli socjalizm ludowego władztwa. R. myślał też o federacji słowiańskiej z Rosją“.* (Polski słownik biograficzny; Encyklopedia PWN; Kormanowa, Mater. do bibliogr. 1866—1918; Lewak-Więckowska, Zbiory B. Rap. Katalog; Rożałowski Włodzimierz, Żywot jenerała Jarosława Dombrowskiego, Lwów, 1878; Informacje Witolda Rożałowskiego oraz materiały w jego posiadaniu. http://www.genealogia.okiem.pl/forum/viewtopic.php?f=51&t=266&start=0).

[14] Зь беларусаў пра Язэпа Такарэвіча згадвае, напрыклад, Алег Латышонак. Гл.: http://old.kamunikat.org/6066.html.

[15] Гэты псэўданім неабавязкова мусіць быць украінскім (ці ўкраінізаваным) варыянтам „годзе“, але можа паходзіць і з лацінскага „сёньня“. Да таго ж, і беларускія аўтары (як той жа Ф. Грышкевіч) яшчэ ў 1920-х пісалі „годзе“ як „годзі“.

[16] Slovanský přehled. № XXIII. 1931. S. 653.

[17] Падрабязьней гл.: Мікуліч, М. Паэзія Францішка Грышкевіча // Куфэрак Віленшчыны. 2003. №1 (8). С. 19—26.

ба, зь якім супрацоўнічаў у тым ліку ў часопісе „Іскры Скарыны“, і да пэўнай ступені падзяляць ягоныя палітычныя погляды. З таго, што ён сам напісаў пра сябе ў некалькіх матэрыялах, мы даведваемся, што пасьля заканчэньня Карлавага ўнівэрсытэту ён вярнуўся ў Вільню (адкуль працягваў пісаць у „Славянскі агляд“), дзе быў вельмі актыўным дзеячам беларускага культурнага й палітычнага жыцьця, праз што некалькі разоў арыштоўваўся польскімі ўладамі. Паводле зьвестак Леаніда Маракова, Францук Грышкевіч *„пасьля ўступленьня савецкіх войскаў у Вільню супрацоўнічаў з новай уладай; пісаў для газ. „Prawda Wilecska“; у 1940 загадваў бел. школамі Віленскай школьнай акругі. Падчас нямецкай акупацыі працаваў дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі. Удзельнічаў у 2-м Усебеларускім кангрэсе (чэрв. 1944), за што ў ліп. быў арыштаваны ў Вільні, пасьля ўступленьня туды Чырвонай Арміі. Прывезены ў Менск, дзе, паводле ўскосных сьведчаньняў, скончыў жыцьцё самагубствам“*[18]. Як біяграфія, так і тэксты Францішка Грышкевіча (у тым ліку паэтычныя) сьведчаць пра яго як пра асобу надзвычай яскравую, неўтаймаваную й неардынарную. Апрача перакладзеных намі тэкстаў заслугоўваюць увагі ягоныя рэцэнзіі на паэму Якуба Коласа „Новая зямля“[19], чэскамоўную кнігу Міколы Ільляшэвіча „Беларусь і беларусы“[20], кнігі Адама Станкевіча „Родная мова ў сьвятынях“, „Францішак Багушэвіч“, „Вітаўт Вялікі і Беларусы“[21], Рыгора Мурашкі „Сын“[22], Кастуся Езавітава „Беларусы ў Латвіі“[23], Міхаіла Піятуховіча „Звычаі і песьні беларускага селяніна“[24], Міхася Зарэцкага „Сьцежкі-дарожкі“[25], Кузьмы Чорнага „Зямля“[26], Ёзэфа Голамбэка „Wincenty Dunin-Marcinkiewicz, poeta polsko-białoruski“[27] й інш. — падрабязьней пра Францука Грышкевіча напісана ў дасьледаваньні М. Чмаравай (гл. бібліяграфію) на с. 90—97.

[18] Маракоў, Л. Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асьветы, грамадзкія і культурныя дзеячы Беларусі. Грышкевіч, Францішак. http://www.marakou.by/by/davedniki/represavanyya-litaratary/tom-i?id=19398.

[19] Slovanský přehled. № XXII. 1930. S. 712—713.

[20] Slovanský přehled. № XXIII. 1931. S. 144.

[21] Slovanský přehled. № XXIII. 1931. S. 537—538.

[22] Slovanský přehled. № XXIII. 1931. S. 540.

[23] Slovanský přehled. № XXIII. 1931. S. 617.

[24] Slovanský přehled. № XXIV. 1932. S. 53.

[25] Slovanský přehled. № XXIV. 1932. S. 54—55.

[26] Slovanský přehled. № XXIV. 1932. S. 115.

[27] Slovanský přehled. № XXV. 1933. S. 167.





Бадай, найбольшую цікавасьць гісторыкаў муcяць выклікаць публікацыі Тамаша Грыба (1895—1938), двойчы міністра БНР, які пасьля заканчэньня Карлава ўнівэрсытэту, дзе вучыўся ў 1922—1928 гг. і абараніў доктарскі дыплём на тэму „Пытаньне нацыі й народнасьці“, застаўся, у адрозьненьне ад Францішка Грышкевіча, у Чэхіі і ўладкаваўся на працу ў Славянскую бібліятэку ў 1930 г. Першую згадку пра Тамаша Грыба ў „Славянскім аглядзе“ можна знайсьці ўжо ў № XIX за 1927 г. на с. 239, у матэрыяле Адальфа Чэрнага пра сьвяткаваньне ў Празе 20-годзьдзя літаратурнай дзейнасьці Якуба Коласа:



Здымак Тамаша Грыба ў „Славянскім аглядзе“

*„21 сьнежня 1926 г. коласаўскае сьвяткаваньне ладзіла „Беларускае (крывіцкае) культурнае таварыства ім. Ф. Скарыны“, на якім пра агульнае значэньне Я. Коласа прамовіў студэнт філязофіі Ігнат Сланеўскі*[28]*, а пра пантэістычны элемэнт у Коласавай паэзіі — кандыдат філязофіі Т. Грыб. 13-га студзеня коласаўскую акадэмію зладзілі студэнты й грамадзяне з Савецкай Беларусі (група маладых*

[28] **Ігнат Сланеўскі** (1900—1970), пэдагог, гісторык. У 1920-х скончыў Навагрудзкую беларускую гімназію. Нелегальна перайшоў польска-чэхаславацкую мяжу. Вучыўся на гістарычным факультэце Карлава ўнівэрсытэту (Прага). Вярнуўшыся ў Заходнюю Беларусь, ня мог знайсьці працы па спэцыяльнасьці. Падчас Другой сусьветнай вайны — школьны інспэктар у Карэлічах; арганізоўваў беларускія школы, працаваў настаўнікам навагрудзкай СШ №1. Арыштаваны 22.12.1948. Асуджаны 16.4.1949 асаблівай нарадай пры МДБ за „антысавецкую агітацыю“ і „ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі“ да 10 гадоў ППЛ і 5 гадоў пазбаўленьня правоў з канфіскацыяй маёмасьці. Этапаваны ў адзін з лягераў МДБ Омскай вобл., потым Тайшэцкі лягер МДБ Іркуцкай вобл. Пасьля вызваленьня вярнуўся ў Беларусь. Не знайшоўшы працы, пераехаў у Літву. (Паводле: Маракоў, Л. Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асьветы, грамадзкія і культурныя дзеячы Беларусі. Грышкевіч, Францішак. http://www.marakou.by/by/davedniki/repres_nastaunik/tom-iv-kniga-ii?id=25098).

*пісьменьнікаў „Маладняк“), на якой пра Коласа прамовіў праф. доктар Зд. Нэедлы“*. Цікава адзначыць, што і ў 1920-х праскія беларусы ладзілі культурныя імпрэзы „паасобку“, у адпаведнасьці з сваімі палітычнымі поглядамі. Зрэшты, хацелася б паслухаць, што мог сказаць пра Якуба Коласа апалягет сацрэалізму й камуністычны ідэоляг Нэедлы... (Згаданы Ігнат Сланеўскі, дарэчы, таксама ёсьць адным зь беларускіх аўтараў часопіса — у № XXI за 1929 г. ён апублікаваў артыкул „Беларускія народныя элемэнты ў творчасьці Элізы Ажэшкі“, прымеркаваны да адкрыцьця помніку пісьменьніцы ў Горадні[29]. Яго мы тут не падаем праз вузкаспэцыяльную скіраванасьць артыкулу).

Першая публікацыя Тамаша Грыба ў „Славянскім аглядзе“ датуецца 1932 г. і называецца „Культурныя ўстановы ў Савецкай Беларусі“. Аўтар з уласьцівымі яму дэталёвасьцю і аб'ектыўнасьцю, але не без прыхаванага захапленьня апісвае пачаткі беларусізацыі ў 1920-х, як і не бяз горычы й скептыцызму — пачаткі яе канца пасьля арышту наркама земляробства Зьмітра Прышчэпава. (Праз вялікі аб'ём і збольшага фактаграфічны характар артыкулу мы пастанавілі тут яго не перакладаць). У наступным, № XXV „Агляду“ за 1933 г. Тамаш Грыб друкуе толькі невялікую зацемку пра рэпрэсіі ў Беларускай акадэміі навук: *„Усесаюзная кантрольная камісія, створаная для ачышчэньня камуністычнай партыі, спраўдзіла, што ў Інстытуце беларускай мовы, на чале якога стаяў праф. П. Бузук, працуюць контрарэвалюцыйныя нацыянальна-дэмакратычныя элемэнты, цяпер ужо з партбілетам у кішэні. Яны, маўляў, сыстэматычна ўводзілі ў беларускі слоўнік „кулацкую“ тэрміналёгію: „сябрыня“ замест „колектыў“, „вызыск“ замест „эксплёатацыя“, „бядняк“ замест „пролетары“, „Крывія“ замест „Беларусь“ і пад.; усё гэтае „шкодніцтва“ нібыта рабілася з той мэтай, каб паставіць заслону між беларускай мовай і мовай пралетарыяў іншых народаў Савецкага Саюзу. Спраўджана таксама, што ў Лёсікавай беларускай граматыцы ёсьць мноства „нацыянальна-дэмакратычных“ адхіленьняў. На падставе гэтага спраўджаньня Саўнаркам БССР выдаў дэкрэт ад 26 жніўня пра новы правапіс беларускай мовы“*[30]. У сваіх зацемах за 1934—1937 гг. Тамаш Грыб будзе канстатаваць далейшае згортваньне беларусізацыі.

За шэсьць гадоў супрацы з „Славянскім аглядам“, ад 1932 г. да заўчаснай сьмерці ў студзені 1938 г., Тамаш Грыб пасьпеў надрукаваць у ім

[29] Slovanský přehled. № XXI. 1929. S. 745.

[30] Slovanský přehled. № XXV. 1933. S. 292—293.





ня так і шмат — збольшага ён актыўна публікаваўся ў беларускай замежнай пэрыёдыцы, у такіх выданьнях, як віленскае „Калосьсе“ й праскія „Іскры Скарыны“, „Золак“, „Студэнцкая думка“. У ягоных чэскамоўных публікацыях прыцягвае ўвагу строгасьць і аб'ектыўнасьць пададзеных фактаў, мінімум інтэрпрэтацыі, вялікая абазнанасьць і цікавасьць да ўсіх аспэктаў жыцьця на Радзіме — палітычнага, культурнага й эканамічнага. Апрача „Славянскага агляду“ Тамаш Грыб быў адным з 14-ці аўтараў кнігі „Што пачытаць з славянскіх літаратураў апошніх гадоў?“, выдадзенай у Празе ў 1935 г. з прадмовай прафэсара І. Гарака (ён навучаў і Францішка Грышкевіча), якая ўтрымлівае *„рэфэраты-эсэ пра 78 выбраных новых кніг, што рэкамэндуюцца як добрае чытво, па-мастацку вартае й фактаграфічна цікавае“*. Пра найноўшую беларускую літаратуру (Якуба Коласа, Цішку Гартнага, Уладзіслава Галубка й Янку Купалу) у кнізе падае справаздачу менавіта Тамаш Грыб[31]. У прадмове да кнігі прафэсар Гарак адзначае: *„Беларуская літаратура, уласна, знаходзіцца толькі на пачатку свайго разьвіцьця, таму найбольш зважае... на народнае жыцьцё. Хаця ўсясьветная вайна й зьнішчыла шмат старажытнага, на беларускай зямлі засталіся надзвычай багатыя крыніцы старажытнай народнай культуры; так, можна сказаць, што найдаўнейшае славянскае паганства прамаўляе ў многіх абрадах, запісаных у параўнальна нядаўнія часы. Перад тутэйшымі пісьменьнікамі стаяць сур'ёзныя мастацкія задачы, напрыклад, дасьледаваць адносіны між сучаснай цывілізацыяй і старой духоўнай культурай, ці сачыць за цяжкімі ўмовамі сялянскага жыцьця“*.

Нашмат менш вядомай асобай ёсьць яшчэ адзін беларускі аўтар часопіса, знойдзены намі досыць нечакана, а менавіта Пятро Ластаўка (1907—1968). Можа здацца, што гэта чыйсьці псэўданім, але насамрэч імя Пятро Ластаўка — сапраўднае. Яно належыць беларускаму дзеячу й літаратару зь Беласточчыны, пра якога дасёньня вядома досыць мала. Адзінай знойдзенай намі крыніцай інфармацыі ёсьць артыкул Сяргея Чыгрына „Быў беларускім дзеячам“ у кнізе „Зь беластоцкай зямлі“[32].

[31] Slovanský přehled. № XXVIII. 1936. S. 66. Гл. таксама: Чмарава, М. Шляхі ўзаемнага пазнаньня: беларуская літаратура ў Чэхаславакіі... С. 98—99; Co číst z literatur slovanských posledních let? Praha: Nakl. Fr. Borový, 1935. S. 93—100.

[32] Чыгрын, С. Быў беларускім дзеячам. Пятро Ластаўка // Зь беластоцкай зямлі. Беласток: Ніва, 2008. С. 178.

Там мы даведваемся, што Ластаўка зь юначых гадоў цікавіўся беларушчынай, быў сябрам Беларускай сялянска-работніцкай грамады, за сваю дзейнасьць арыштоўваўся палякамі. Пасьля службы ў польскім войску ў канцы 1920-х гг. пераехаў у Варшаву, дзе арганізаваў беларускае таварыства, сачыў за культурным жыцьцём (зьбіраў беларускія кнігі), сябраваў з паэтам і перакладнікам Гальляшом Леўчыкам (пра якога пазьней зьбіраўся пісаць успаміны, але ці напісаў — невядома). Зь ягонага артыкулу пра тагачасную беларускую літаратуру ў Польшчы вынікае, што й сам ён быў чынным літаратарам, крытыкам і пісьменьнікам — аўтарам апавяданьняў і нават рамана „У пагоні за будучыняй“. Здаецца, што бальшыня ягонага даробку сёньня страчаная — а шкада, бо зроблены Ластаўкам крытычны агляд заходнебеларускай паэзіі выдае ў аўтару чулага крытыка, уважлівага чытача й апантанага беларускай справай чалавека.

Падсумоўваючы, выкажу перакананьне, што для гісторыкаў беларускай культуры праскі „Славянскі агляд“ можа быць досыць цікавай крыніцай, якая адлюстроўвае ня толькі надзеі, зацікаўленьні й заклапочанасьці беларускіх інтэлектуалаў у эміграцыі, зьвязаныя зь няпростым жыцьцём беларускага народу ў Савецкай Беларусі й па-за ейнымі тагачаснымі межамі, але й падае сьведчаньне пра тое, якою бачылася ў міжваенны пэрыяд беларуская палітычная ды культурная сытуацыя звонку, перадусім — для зацікаўленых назіральнікаў з дэмакратычнай Чэхаславаччыны.

*Заўвага да перакладаў.* Тагачасны чэскі фанэтычны перапіс беларускіх назоваў і прозьвішчаў, за выключэньнем некалькіх абдрукоўак, вельмі дакладны й зроблены (у адрозьненьне ад пазьнейшай практыкі) паводле тарашкевіцкага напісаньня, таму дазваляе амаль беспамылкова перадаць гучаньне беларускіх назваў, якія ў арыгінале месцамі дублююцца чэскім перакладам — яго мы празь непатрэбнасьць апускаем. Чэскія назвы, што пададзеныя ў арыгінале безь перакладу, наадварот, паўсюль перакладаем на беларускую. Радкі, цытаваныя ў арыгінале па-беларуску (як кірыліцай, так і лацінкай) бяз чэскага перакладу, вызначаем разрэджаным курсівам — за выключэньнем назоваў пэрыядычных выданьняў. Падчас перакладу мы імкнуліся захоўваць скароты, ужываныя ў арыгінальных тэкстах, што ў чэскай мове традыцыйна выкарыстоўваюцца нашмат больш шырока, чым у беларускай, а таксама, наколькі магчыма, арыгінальную графіку тэкстаў.





**Францішак Грышкевіч**

**1929 (№ XXI)**

*Максім Багдановіч: Вянок. (Зборнік вершаў. Другое выданьне, папраўленае. Вільня.* 1927. С. VI. 120*).*

*Гэтае другое віленскае выданьне — прымеркаванае да дзясятых угодкаў сьмерці таленавітага беларускага паэта-філёзафа Максіма Багдановіча*[33] *— амаль нічым не адрозьніваецца ад першага выданьня з 1913 г. Напісанае ў падзагалоўку слова „папраўленае“ тычыцца толькі „выпраўленьня“ граматычных памылак і абдрукоўак, якіх у першым выданьні быў цэлы шэраг. Але і гэтае выданьне іх, на жаль, не пазбаўленае. У шасьцістаронкавай прадмове А. Навіны (літаратурны псэўданім А. Луцкевіча) няма амаль нічога новага; аўтар пацьвердзіў толькі свае ранейшыя погляды на літаратурную творчасьць паэта, што адышоў у вечнасьць, заняўшы да яго стаўленьне ў духу l'art pour l'art*[34]*. Кнігу аздабляюць фатаздымкі з апошніх гадоў аўтаравага жыцьця.*

*Адлеглы й выпадковы назіральнік за беларускім культурным жыцьцём будзе задаволены, што віленскія беларусы арганізавалі з нагоды дзясятых угодкаў сьмерці надзейнага паэта перавыданьне ягонага твору. Але амаль у той жа час у Мінску [sic] выйшла ў двух вялікіх тамах прыгожае выданьне поўнага збору твораў М. Багдановіча. Калі ў дадатак мы яшчэ ўсьвядомім нярадасную сытуацыю беларускіх культурных установаў у Польшчы, то будзем зьдзіўленыя, чаму адначасова выходзяць два выданьні аднаго аўтара. Калі параўнаць менскае выданьне зь віленскім, то можна ўбачыць, што апошняе паводле якасьці паперы й друку вельмі ўбогае, тым часам як мінскае выданьне колькасьцю экзэмпляраў цалкам адпавядае попыту чытачоў, укладаньнем — патрабаваньням навукі, а эстэтычным афармленьнем — запытам часу. Але ж кнігу, выдадзеную ў Мінску, забаронена чытаць у Вільні — нават бібліятэцы беларускага музэю ў Вільні нельга мець кнігу зь Мінску! Таму віленскія беларусы арганізавалі для чытачоў Заходняй Беларусі другое выданьне літаратурнага твора М. Багдановіча.*

*Фр. Гр.*
*С. 706*

---

[33] *1892, 25. V. 1917 у Ялце — заўвага* ***Ф. Грышкевіча****.*

[34] *L'art pour l'art* (фр.) — мастацтва дзеля мастацтва.

<u>З рубрыкі „Славянскія магілы“</u>

*Павэл [sic] **Трус**, адзін з найбольш таленавітых маладых беларускіх паэтаў, памёр у Мінску 30 жнїўня ў веку 25 гадоў. Ён паходзіў зь беднай сялянскай сям'і зь вёскі Нізок і быў студэнтам беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, сябрам суполкі беларускіх пралетарскіх пісьменьнікаў „Маладняк“, якая выдае часопіс з той жа назвай. Дзьве нізкі вершаў („Вершы“, 1925, і „Ветры буйныя“, 1927), што прапагандуюць ідэалы новага жыцьця на падставе сацыяльнай справядлівасьці ў пострэвалюцыйнай Усходняй Эўропе, і паэма „Дзясяты падмурак“ складаюць творчую спадчыну Труса. Глыбокая вера ў шляхотную працу чалавека-грамадзяніна й нянавісьць да крыўды й несправядлівасьці ёсьць чырвонай ніткай ягонай паэзіі, якая не магла ня быць тэндэнцыйнай. Чыстая мова, яшчэ з пахам беларускай вясковай глебы, і бліскучая форма Трусавых вершаў былі падставай для веры літаратурных крытыкаў у слаўную будучыню нябожчыка, які памёр у выніку хуткацечнай хваробы.*

*Фр. Гр.*
*С. 636*

<u>З рубрыкі „Агляд славянскага жыцьця“</u>

***БССР.** Магутнае рэха расейска-кітайскага канфлікту закранула сваёй хваляй і заходняга чальца Савецкага Саюзу, што аддалены ад багатай чыгункі, якая ёсьць прадметам спрэчкі між Расеяй і Кітаем, на добрыя некалькі тысячаў кілямэтраў. Беларускі селянін на вёсцы, рабочы на фабрыцы й настаўнік у школе — яшчэ жывыя сьведкі жахаў усясьветнай вайны, якая пакінула па сабе руіны беларускіх гарадоў, папялішчы вёсак і тысячы палявых і лясных могілак. Хто бачыў спустошаныя ваколіцы Крэва, Баранавічаў, Пінску й Дзьвінску, зьнішчаныя да апошняга дрэўца паветы: Ашмянскі, Слонімскі, Пружанскі й Дзьвінскі, дзе тры гады запар праходзіў руска-нямецкі фронт і дзе яшчэ сёньня, праз дваццаць гадоў, пятая частка насельніцтва жыве ў „зямлянках“, хто назіраў за жыцьцём беларускага народу ў часе савецка-польскай вайны, той лёгка зразумее псыхалёгію беларускага люду й ягоную нянавісьць да вайны. Беларускі савецкі друк поўны паведамленьняў пра бурлівыя сходы, маніфэстацыі, антыкітайскія выступы беларускага гарадзкога й вясковага насельніцтва, а таксама пра распачаты збор грошай на ваенны аэраплян, які павінен бараніць „першую дзяржаву сацыяльнай справядлівасьці ад наступу жоўтага імпэрыялізму“. Гэтыя паведамленьні беларускага савецкага друку, пры ўсёй сваёй залішняй падфарбаванасьці, могуць адпавядаць сапраўднасьці. Беларускі народ яшчэ й сёньня надта добра памятае чатыры вайсковыя акупацыі (нямецкую, польскую, літоўскую й расейскую), каб забыцца пра жахі вайны. Таму няма дзіва, што навіны культурнага й гаспадарчага жыцьця Савецкай Беларусі цалкам патанулі ў моры словаў пра ваенную ліхаманку. Затое беларускія месячнікі („Узвышша“, „Полымя“, „Маладняк“, „Гаспадар“, „Наш край“ і „Савецкае будаўніцтва“) шмат увагі надзяляюць культурнаму жыцьцю: літаратуры, школе, тэатру, музэям, этнаграфіі, земляробству й будаўніцтву. „Узвышша“, „Полымя“ й „Маладняк“ друкуюць новыя працы беларускіх паэтаў і празаікаў, артыкулы літаратурных крытыкаў і беларускія пераклады зь іншых моваў. Чыста этнаграфічным часопісам ёсьць „Наш край“. Мноства матэрыялаў: казкі, песьні, абрады, замовы й апісаньне іншых бакоў беларускага народнага жыцьця — запаўняе некалькі друкарскіх аркушаў кожнага нумару. „Гаспадар“ прысьвячае свае старонкі земляробству, а „Савецкае будаўніцтва“ — будаўнічай справе. Дзённы й штотыднёвы друк Савецкай Беларусі апрача штодзённай хронікі ў апошнія месяцы сканцэнтраваў усю сваю ўвагу на расейска-кітайскім канфлікце й жніве. Ураджай сёлета быў добры, надвор'е спрыяла жніву. Хлеба, маўляў, будзе досыць, і гэта самае галоўнае. Гуманістычны лёзунг „panem et pacem“[35] агульнапрыдатны, але для беларускага народу мае асаблівую прывабнасьць, бо ў мінулым яму бракавала і хлеба, і міру. Таму навіна пра вайну абурае народ; ён зьбірае грошы, набывае „ўсёмагутны“ аэраплян і пасылае яго супраць „жоўтага імпэрыяліста“, які хоча перашкодзіць яму сабраць хлеб.*

*Фр. Гр.*
*С. 526*

***БССР.** Урад Беларускай Савецкай Рэспублікі спачатку выйшаў насустрач жаданьню 85% беднага сялянскага насельніцтва, добра зразумеўшы, што здолее ўтрымаць вясковае насельніцтва на баку савецкага рэжыму толькі тады, калі падзеліць панскую зямлю. Камісар земляробства беларускай рэспублікі Прышчэпаў ажно да 1929 г. праводзіў гэтую палітыку ў жыцьцё. Гэта была ў беларускіх варун-*

[35] *Panem et pacem* (лац.) — хлеба й міру.

*ках адзіная слушная аграрная палітыка, і будучыня абавязкова пацьвердзіць рацыю Прышчэпава. Дваццаць тысячаў „хутароў“ ёсьць ягонай заслугай. Сёньня Прышчэпаў пазбаўлены сваёй пасады й выключаны з камуністычнай партыі (паводле чутак, яго выслалі на Салаўкі)*[36]*. Назвай „прышчэпаўшчына“ ў Савецкай Беларусі азначаюцца ўсе мясцовыя арганізацыі сялянаў, якія супрацьдзейнічаюць калектывізацыі зямлі. Афіцыйныя органы беларускай савецкай улады — „Савецкая Беларусь“ і „Зьвязда“ — адзначаюць частыя падпалы будынкаў мясцовых уладных установаў, якія, мабыць, ёсьць суцэльна справай рук „прышчэпаўцаў“. Урад гатовы скарыстаць усе, нават самыя жорсткія сродкі для выкараненьня „прышчэпаўскага зла“. У сапраўднасьці ён вельмі жорстка абыходзіцца зь сялянамі, што прывядзе да таго, што ва ўяўленьні беднага беларускага селяніна „бальшавік“ ня будзе нічым адрозьнівацца ад дарэвалюцыйнага „пана“. Калі сёньняшняй беларускай савецкай уладзе насамрэч удасца зьнішчыць справу камісара Прышчэпава (20 тысячаў „хутароў“), гэтым будзе разбураны апошні масток, што злучаў беларускую вёску з уладай, і сымпатыя, якую выяўляў раней да ўлады бедны селянін, ператворыцца ў актыўную варожасьць. З гэтага выплывае, што чакаць добрых вынікаў агітацыі за трэці прамысловы заём і вынікаў збожжаўборачнай кампаніі бадай што марна. Філязофія беднага селяніна вядомая: спачатку пагляджу, што мне дасьць улада, а потым скажу, што дам я ёй.*

*Выключэньне каміс. Прышчэпава з камуністычнай партыі было сыгналам для генэральнай „чысткі“ ў Савецкай Беларусі, чыя старанная „праца“ акурат цяпер кульмінуе. „Ачышчальная камісія“ ва ўсім бачыць „правы ўхіл“, таму нястомна выключае. Дырэктар „Дзяржвыда“ пісьменьнік Зьм. Жылуновіч (Цішка Гартны) пазбаўлены сваёй пасады, намесьнік старшыні Беларускай акадэміі навук праф. Некрашэвіч і сакратар Акадэміі В. Ластоўскі былі таксама звольненыя! Малады беларускі паэт Дудар быў высланы ва Ўральскі край, як і пісьменьнік Зарэцкі. Словам, „ачышчальная камісія працуе“. Пра канчатковыя вынікі яе „працы“ мы яшчэ паведамім.*

*Фр. Гр.*
*С. 692*

[36] У верасьні 1929 г. Дзьмітрый Прышчэпаў быў арыштаваны па справе „Саюзу вызваленьня Беларусі“. У 1931 г. асуджаны да 10 гадоў лягераў.





*З рубрыкі „Часопісы“*

*Школьная праца*[37]*, часопіс Дзьвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі, прысьвячоны творчасьці Латгальскага Беларуса № 12, люты-сакавік, 1929, Дзьвінск, 24 с.*

*Пра беларускую меншасьць у Латвіі ў „Славянскім аглядзе“ былі ўжо прынамсі кароткія зьвесткі, зь якіх відаць, што яе жыцьцё ёсьць нармалёвым жыцьцём у культурных варунках культурнай дзяржавы. У Латвіі беларусы маюць сваё нацыянальнае й сярэдняе школьніцтва, настаўніцкі інстытут, свой аддзел у Міністэрстве адукацыі й свайго дэпутата ў парлямэнце. Пры колькасьці беларускага насельніцтва ў Латыскай рэспубліцы яго патрэбы мусілі б быць задаволеныя нашмат лепей, але ў параўнаньні зь цяжкім становішчам славянскіх меншасьцяў у Італіі, Нямеччыне, Вугоршчыне, Грэцыі й інш. сытуацыя беларускай меншыні ў Латвіі здавальняючая. Гэта добра ўсьведамляюць і самі беларусы, якія яшчэ супраць Латвіі ніколі не выступалі. Наадварот, напр., яны, на чале з правадыром беларускага адраджэньня Ант. Луцкевічам, сардэчна віталі найвялікшага латыскага паэта (які ў той час быў і міністрам адукацыі), сацыяліста Яна Райніса, калі той праяжджаў цераз Вільню. Застаецца пажадаць, каб варункі жыцьця славянскай меншасьці ў Латвіі не зьмяніліся. На жаль, часопіс, які мы тут разглядаем, прыносіць зьвестку пра „чорную хмарку“, зь якой аднойчы магла б нарадзіцца навальніца. Ужо ў падназове мы чытаем „часопіс, прысьвечаны творчасьці Латгальскага Беларуса“, чаго раней не было. Рэдакцыя ва ўступным артыкуле тлумачыць, чаму так зрабіла: „Кожны імкнецца перавабіць беларуса на свой бок, а некаторыя нават дазваляюць сабе сьцьвярджаць, што беларусаў у Латвіі зусім няма. Гэтак казалі некаторыя дэпутаты ў парлямэнце, іншыя гэтак цьвердзяць у друку. У якасьці прыкладу прывядзем кнігу школьнага інспэктара люцынскага павету О. Свэнэ „Veca un Jauna Latgale un vinas ipašibas“, у якой аўтар кажа, што беларусаў у Латгаліі няма“. (с. 3 часопіса й 35—37 кнігі О. Свэнэ). Рэдакцыя прысьвячае ўвесь часопіс народнай творчасьці латгальскага беларуса, каб даказаць, што ў Латгаліі жывуць беларусы, а не „абеларушаныя латышы“. Рэдакцыя заклікае ўсіх беларускіх культурных працаўнікоў у Латвіі, каб тыя сваёй працай між беларусаў*

[37] У гэтым часопісе друкаваўся іншы праскі студэнт, беларускі пісьменьнік і настаўнік Віктар Вальтар.

*Латгаліі даказалі спадару О. Свэнэ, што ён памыляецца. Звычайна пасьля такіх „навуковых працаў“, як праца О. Свэнэ, надыходзіць уладная ліквідацыйная „праца“. Беларусы ў Латвіі спадзяюцца яе пазьбегнуць, і пры гэтым спадзяюцца, што ўрад Латыскай рэспублікі ня пойдзе шляхам Італіі. Мы маем тую ж надзею. Таксама зьвяртаем увагу на гэты часопіс дзеля мноства ўтрыманага ў ім фальклёрнага матэрыялу, які будзе карысны для славянскае філялёгіі. Адзначым толькі, што падчас натаваньня песьняў і казак варта было б апрача імя і ўзросту апавядальнікаў пазначаць іхную прафэсію, а таксама тое, пісьменныя яны альбо не.*

*Ф. Гр.*
*С. 449—450*

***Беларускія студэнцкія часопісы:*** *1. Студэнская* [sic] *Думка. Часопісь беларускага студэнства. Вільня. 2. Вольная Думка. Орган беларускага паступовага студэнства. Вільня. 3. Шлях моладзі. Месячная часопісь беларускай моладзі. Вільня.*

*Адным з характэрных бакоў культурнага жыцьця ў СССР ёсьць тое, што студэнты тамтэйшых ВНУ ня маюць сваіх часопісаў. Камуністычнае студэнцтва вядзе дзейнасьць толькі ў органах кіроўнай партыі і ў арганізацыі „Камсамолу“, дзе вымушанае распыляць свае сілы ў некалькіх кірунках, пачынаючы „Саюзам бязбожнікаў“ і канчаючы „Фізкультурай“. Студэнтам-некамуністам забаронена весьці арганізацыйную працу. Таму беларускія студэнцкія часопісы выходзяць толькі ў Заходняй Беларусі (у Польшчы й Латвіі), а да нядаўняга часу — і ў Празе, дзе ў чэскіх ВНУ вучылася каля ста беларускіх студэнтаў. Апрача трох згаданых віленскіх часопісаў часам выходзяць прынагодныя студэнцкія брашуры й зборнікі па-беларуску. Мы з радасьцю можам канстатаваць зацікаўленасьць маладога пакаленьня беларусаў славянскім жыцьцём і культурай: пераклады з славянскіх літаратураў і інфармацыйныя артыкулы з славянскага жыцьця ёсьць амаль у кожным нумары. З вышэйцытаваных часопісаў мы даведваемся, што стаўленьне беларускіх студэнцкіх арганізацый да славянскага студэнцтва (натуральна, за выняткам палякаў і расейскіх манархістаў) добрае; доказам гэтага ёсьць артыкулы славянскіх студэнтаў у гэтых часопісах. Застаецца пажадаць беларускаму студэнцтву, каб яно надалей працягвала сваю працу, ускладаючы надзеі — як яно само абвяшчае — на вялікую будучыню ўсяго Славянства, калі замест бізуноў і штыкоў запануе любоў і братэрства між славянскімі народамі.*

*Фр. Гр.*
*С. 707—708*

*З рубрыкі „Ўгодкі“*

***Іван Луцкевіч.*** *Сёлета споўніцца 10 гадоў ад сьмерці бацькі беларускага палітычнага адраджэньня Івана Луцкевіча ( 1919 у Закапаным). Беларускія культурныя й палітычныя ўстановы рыхтуюцца да гэтых адметных угодкаў. „Бацька адраджэньня“ — гэтак па праве называе Луцкевіча беларуская інтэлігенцыя, бо сваёй адраджэнскай працай ён пакінуў па сабе каштоўны помнік — беларускі музэй у Вільні, які сёньня носіць ягонае імя (Беларускі музэй ім. Івана Луцкевіча). Абодва браты Луцкевічы (нябожчык Іван і Антон, які цяпер жыве ў Вільні) ужо ў сярэдняй школе (у Мінску ў 1897 г.) пачалі арганізацыйную працу сярод сьвядомых аднаклясьнікаў-беларусаў. У 1902 г. браты Луцкевічы паступілі ў Пецярбурскі ўнівэрсытэт, дзе ўжо пры канцы таго ж года намаганьнямі Луцкевічаў і Вацлава Іваноўскага быў заснаваны „Кружок Беларускае Народнае Асьветы“. У гэтым культурным „Кружку“ бярэ пачатак пазьнейшы магутны беларуска-сацыялістычны палітычны рух, які ў 1917—1918 гг. падзяліўся на тры партыі: сацыял-дэмакратаў (на чале якіх былі браты Луцкевічы, Бр. -Тарашкевіч, А. Смоліч і С. Рак-Міхайлоўскі), сацыялістаў-рэвалюцыянэраў (Т. Грыб, Ёз. Мамонька й П. Бадунова) і камуністаў (З. Жылуновіч, Чарвякоў і Дыла)*[38] *. Іван Луцкевіч быў да канца свайго жыцьця сацыял-дэмакратам і сваёй сумленнай працай аб'ядноўваў вакол сябе амаль усю беларускую інтэлігенцыю, будучы сапраўдным правадыром беларускага адраджэньня, на чале якога сёньня стаіць Іванаў брат, вядомы беларускі літаратурны крытык, доктар Антон Луцкевіч.*

*Фр. Г.*
*С. 712—713*

[38] *Сёньня камуністы ўладараць у Беларускай савецкай рэспубліцы, сацыял-дэмакраты працуюць у культурных арганізацыях у Савецкай і Заходняй Беларусі (у Польшчы), дзе яшчэ два гады таму былі арганізаваныя ў „Беларускай сялянска-работніцкай Грамадзе“, што налічвала сто тысячаў сябраў, але пасьля судовага працэсу была зьліквідаваная; бальшыня сацыялістаў-рэвалюцыянэраў сёньня знаходзіцца ў савецкіх турмах, рэшта — у эміграцыі (Прага, Каўнас) — заўвага* ***Ф. Грышкевіча****.*

## 1931 (№ XXIII)

*Хведар Ільляшэвіч: Веснапесьні. (Выданьне Ніны Ільляшэвіч. Вільня, 1929. 72 с.)*

*Першая нізка вершаў маладога Хв. Ільляшэвіча без сумневу будзе аднесеная літаратурнай крытыкай да найкаштоўнейшых літаратурных здабыткаў беларускага маладога пакаленьня. Н. Арсеньнева й Хв. Ільляшэвіч сёньня ёсьць перадавымі прадстаўнікамі маладога беларускага Парнасу ў Заходняй Беларусі; да іх належыць яшчэ А. Бартуль*[39] *, але ён — паэт іншага кірунку. Хв. Ільляшэвіч зьвярнуў на сябе ўвагу адразу, калі ў беларускіх часопісах надрукаваў свае першыя вершы. Ягоная нізка „Веснапесьні" цалкам пацьвярджае надзеі, якія на яго ўскладаюцца. Як і Н. Арсеньнева, Хв. Ільляшэвіч выйшаў з М. Багдановіча, толькі ў Арсеньневай больш відавочны ўплыў Янкі Купалы; жыцьцё ў Ільляшэвіча — толькі ўнутранае, адсюль ляканізм сымбаляў у дасканалай паэтычнай форме. Арсеньнева ёсьць больш народнай за Ільляшэвіча, які сваёй сацыяльнай ноткай нагадвае Іржы Волькера*[40] *. Беларусь зьяўляецца Ільляшэвічу толькі ў выглядзе крыўдаў і парушэньня правоў рабочага; праблема нацыянальнай традыцыі ў Ільляшэвіча амаль адсутнічае. Калі ён кажа: „Быў май… цьвіло… жыцьцё" (с. 28), ён не чакае пасьля маю чэрвеня, а прагне новай вясны, што „свабодна і прыгожа ўзыдзе над краем і будзе квітнець" (с. 14, „Толькі вер"). Ільляшэвіча ільга назваць сымбалістам пралетарскага кірунку, у кнізе якога для беларускай вёскі амаль няма месца. Нізка ўтрымлівае 64 вершы 1925—1929 гг. і выдадзеная коштам паэтавай сястры Ніны — вельмі густоўна; вокладку ўпрыгожыў малады беларускі мастак Я. Г.*[41]

*Фр. Гр.*
*С. 67*

[39] **Аўген Бартуль** (1908 — пасьля 1945), беларускі паэт, сябра Хведара Ільляшэвіча.

[40] **Іржы Волькер** (1900Ї1924), чэскі пралетарскі паэт, камуніст.

[41] У сваёй кнізе М. Чмарава, пішучы пра выдадзены Пётрам Крэчаўскім зборнік „Замежная Беларусь", згадвае *„падпісаны ініцыяламі Я. Г. артыкул „Узаемаадносіны Беларуска-Літоўскага княства з Чэхіяй 500 гадоў таму". Расшыфраваць ініцыялы дагэтуль не ўдалося"* (с. 49). Цалкам магчыма, што і артыкул, і аздабленьне кнігі Ільляшэвіча належаць аднаму й таму ж чалавеку — паэт мог падтрымліваць з Прагай сувязі пасярэдніцтвам свайго брата Міколы, які знаўся як з Тамашам Грыбам, так і з ⇨





*Biuleteń Abjednańnia Biełaruskich Studenskich Arhanizacyjau. Год VI. (Прага 1931. 16 с.)*

*Кожнаму, хто цікавіцца жыцьцём і дзейнасьцю беларускага студэнцтва, можна парэкамэндаваць „Бюлетэнь аб'яднаньня беларускіх студэнцкіх арганізацыяў", які выходзіць ужо шэраг гадоў (з 1926 г.) у Празе (Прага II, вул. Вэнцыгава, нум. 4). Бюлетэнь сваім каштоўным зьместам інфармуе беларускую грамадзкасьць пра ўмовы жыцьця беларускага студэнцтва й яго дзейнасьць на радзіме й на міжнароднай студэнцкай ніве (Аб'яднаньне бел. студ. арган. было на міжнар. студэнцкім кангрэсе ў Празе ў 1926 г. прынятае ў Міжнародную студэнцкую канфэдэрацыю „C.I.E."). Апошнія два нумары Бюлетэня (чэрвеньскі й ліпеньскі) перапоўненыя пратэстамі беларускага студэнцтва супраць ліквідацыі польскімі ўладамі беларускай гімназіі ў Клецку й наагул супраць перасьледу беларускіх студэнтаў у Польшчы, дзе сёньня ў турмах знаходзяцца 37 студэнтаў-беларусаў.*

*Фр. Гр.*
*С. 541*

*Iskry Skaryny. No 1. Lipień 1931. (Прага. 16 с. Кошт нумару — 3 кч.)*

*У 1925 г., з нагоды 400 гадавіны выданьня першай беларускай кнігі, надрукаванай Ф. Скарынам у Вільні (да 1925 г. Скарына выдаваў беларускія кнігі ў Празе, адкуль перавёз у Вільню першую беларускую друкарню), беларускімі студэнтамі праскіх ВНУ была заснаваная „Беларуская культурніцкая суполка Фр. Скарыны". За шэсьць мінулых гадоў (1925—1931) суполка арганізавала цэлы шэраг культурніцкіх дыскусіяў, лекцыяў і культурна-інфармацыйных вечарынаў, і гэтай сваёй культурніцкай дзейнасьцю здабыла прызнаньне сярод беларускіх студэнтаў. У ліпені г.г. суполка выдала першы нумар свайго часопіса „Іскры Скарыны" з наступным зьместам: Ад рэдакцыі (с. 1), Культурнае будаваньне новай Беларусі — Т. Грыб (с. 2), Пра найбалючае — Фр. Грышкевіч (с. 9), Месца й значэньне Фр. Скарыны ў сёньняшнім беларускім адраджэнскім руху — доктар Тамаш Грыб (с. 14, толькі пачатак артыкулу), Наша родная рэчаіснасьць (с. 15) і Навіны (с. 16). Гэтак суполка культывуе гуманістычную традыцыю Фр. Ска-*

⇨Франукам Грышкевічам з часоў навучаньня ў Карлавым унівэрсытэце. Да таго ж, тэматыка згаданага артыкулу можа сьведчыць пра тое, што й сам Я. Г. (якога М. Чмарава лічыць псэўданімам П. Крэчаўскага) навучаўся ў Празе.

*рыны, часопіс выдаецца ў сацыялістычным духу. Яго рэгулярны выхад, аднак, не гарантаваны.*

*Фр. Гр.*
*С. 541*

### 1935 (№ XXVII)

***Беларусы ў Літве,*** *што налічваюць 30 тысячаў насельніцтва, ня маюць ніводнай беларускай школы, і літоўская ўлада да беларускай меншасьці ставіцца як глухая, калі ня горай. У чыста беларускіх акругах, мусьніцкай і оліцкай, не дазволена мець нават беларускай вясковай бібліятэкі. Для беларускай меншасьці эра прэзыдэнта Смэтаны*[42] *нічым не адрозьніваецца ад дыктатарскай эры Вальдэмараса*[43]*. Амаль кожны беларускі культурны, а пагатоў палітычны дзеяч несупынна знаходзіцца пад паліцэйскім наглядам. Скаргі беларускага насельніцтва гадамі чакаюць разгляду ў розных установах. Адзінай беларускай арганізацыяй у Літве ёсьць культурная суполка „Беларуская хата“ ў Каўне [sic], якая мае й досыць добры народны тэатар. Кожнае выступленьне ёсьць для беларускай вёскі ў Літве вялікай культурнай падзеяй. Канцэрт, зладжаны „Беларускай хатай“ 24 кастрычніка мінулага года ў Каўне, быў вялікай беларускай культурнай маніфэстацыяй. Пры такіх умовах беларускія сацыяльныя радыкалы ў Літве вымушаныя працаваць нелегальна.*

*Фр. Гр.*
*С. 33*

### 1936—1937 (№ XXVIII)

*З рубрыкі „Нэкралёгі“*

***Альбін Стаповіч,*** *вядомы беларускі кампазытар і палітык, памёр у Вільні 18 сьнежня мін. года. Ён нарадзіўся 18 сакавіка 1884 г. у вёсцы Барані (Сьвянцянскі павет) і пасьля заканчэньня віленскай мантвілаўскай музычнай школы паехаў у Казань, дзе паступіў ва ўнівэрсытэт. Пасьля атрыманьня вышэйшай адукацыі, скончанай у 1921 г. у Вільні, ён некалькі гадоў выкладаў музыку на віленскай беларускай гімназіі й быў сябрам многіх беларускіх (правых) палітычных і культурных арганізацый. У 1928 г. ён быў абраны ў польскі сэйм, дзе змагаўся за моўныя правы беларусаў ва ўстановах, школах і ў грамадзкім жыцьці наагул. Палітычныя й культурныя артыкулы друкаваў у многіх беларускіх і польскіх часопісах. Сам Стаповіч быў рэдактарам „Беларус. Крыніцы“. У апошнія гады пісаў таксама ў „Славянскі агляд“ (за подпісам А. С.)*[44]*. У 1933 годзе Стаповіч пачаў разам з У. Казлоўскім і Ф. Акінчыцам выдаваць месячнік „Новы шлях“, орган беларускіх фашыстаў*[45]*. Гэтая арыентацыя адлучыла яго ад большыні беларускай інтэлігенцыі, асабліва маладой, і выракла на прыкрую самоту. Найпапулярнейшым музычным творам Стаповіча ёсьць песьня „Дзе чутны мовы нашай гукі“. Альбін Стаповіч быў братам таксама ўжо памерлага беларускага паэта Казіміра Сваяка (Кастуся Стаповіча).*

*Фр. Гр.*
*С. 85*

*З рубрыкі „Часопісы“*

*КРЫГАЛОМ. Беларускі літэратурна-мастацкі* [sic] *месячнік. Н.° 1, год 1. (Вільня, Люты, 1935)*

*Летась у студзені польскімі ўладамі ў Вільні быў адразу пасьля першага нумару прыпынены выхад вялікага й вельмі зьмястоўнага беларускага літаратурнага часопіса „Літэратурная старонка“ (гл. „Сл. агл.“ XXVI, 307). Ягоны рэдактар і адзін з супрацоўнікаў і сёньня яшчэ ў астрозе. Леташняя гісторыя паўтарылася й сёлета. Пры канцы студзеня ў Вільні зьявіўся першы нумар беларускага літаратурна-мастацкага часопіса „Крыгалом, пад рэдакцыяй маладога беларускага пісьменьніка Юр’я Кепеля*[46]*. Часопіс быў тут жа канфі-*

[42] **Антанас Смэтана** (1874—1944), прэзыдэнт Літвы ў 1919—1920 і 1926—1940 гг.

[43] **Аўгусцінас Вальдэмарас** (1883—1942), прэм’ер-міністар Літвы ў 1918 і 1926—1929 гг.

[44] *Ягонае дасьледаваньне пра беларускую песьню мы, праз недахоп месца, перадалі ў рэдакцыю „Чэскай музыкі“, але аўтар публікацыі ўжо не дачакаўся. — Заўвага* ***рэдактара „Славянскага агляду“****.*

[45] Гл.: Ёрш, Сяргей. „Новы шлях“ // Энцыкляпэдыя гісторыі Беларусі. Т. 5. Менск, 1999. С. 334.

[46] *„Кепель Юры (?—1944), журналіст. Рэдактар-выдавец літаратурна-мастацкага часопіса „Крыгалом“, які выдаваўся ў лютым 1933 у Вільні.* ⇨

*скаваны, пасьля чаго палітычная паліцыя правяла арышты беларускай моладзі ў Вільні. Арыштаваныя былі трое студэнтаў віленскага ўнівэрсытэту (Урбановіч, Грамыка й Сьцякала) і малады паэт Франук Грышкевіч*[47] *, якія празь сем тыдняў быў выпушчаны на волю. Увесь зьмест часопіса быў прызнаны антыпольскім, і віленская пракуратура пачала судовую справу супраць адказн. рэдактара й супрацоўнікаў „Крыгалому“. Часопіс паводле зьместу вельмі багаты, бо ў 1-м нумары выйшла 6 вершаў Максіма Танка й Фр. Грышкевіча, апавяданьне Юр’я Кепеля „Стораж камяніцы № 2424“ і літаратурна-крытычны артыкул Андрэя Жака „Літэратурны фронт“. Цікавая таксама культурная хроніка. Вокладку часопіса прыгожа й сымбалічна аздобіў вядомы беларускі мастак Пётра Сергіевіч.*

*Ф. Г.*
*С. 211*

<u>*З рубрыкі „Прыгожае пісьменства“*</u>

*Wincuk Adważny. Chłapiec. (Wilnia, 1935 hod. Wydańnie „Biełaruskaj Krynicy“. 224 с. Кошт 1.50 зл.)*

*В. Адважны*[48] *— малады пісьменьнік з Заходняй Беларусі, ужо вядомы ў беларускай літаратуры кароткімі апавяданьнямі. Раман „Хлапец“ — ягоны першы вялікі твор, тэмай якога ёсьць жыцьцё беларускай каталіцкай вёскі пры канцы XIX — пачатку XX стагодзьдзя. Герой рамана — бедны хлопец Вінцусь, жыцьцё якога — цяжкае й жорсткае змаганьне ня толькі за кавалак чорнага хлеба, але й за кожную кнігу, сшытак і аловак. Вінцусь хоча здабыць навукі, хоча вучыцца, жыць як чалавек, а не як скаціна; хоча навучыцца чытаць, пісаць і*

*⇨Адразу пасьля выхаду першага нумару выданьне забаранілі польскія ўлады. Арыштаваны савецкімі ўладамі. Загінуў у 1944“* (Маракоў, Л. http://www.represii.belreform.org/repres.htm). Цікава, ці ня той гэта самы Юры Кепель — *„ведамы беларускі спартовец зь Вільні“*, які *„на выперадках лодкамі па рацэ Сэне ў Парыжы заняў першае месца, пераганяючы слаўных францускіх і нямецкіх весьлярой-спартоўцаў“* (Беларуская крыніца. 29 верасьня 1936).

[47] *Гэта доктар філязофіі Карлава ўнівэрсытэту, вучань праф. І. Гарака й карэспандэнт „Слав. Агляду“. — Заўвага **рэдактара „Славянскага агляду“.***

[48] Вінцук Адважны — псэўданім а. Язэпа Германовіча (1890—1978).





*быць „мудрым чалавекам“. На жаль, усё гэта застаецца толькі ідэалам; мізэрныя ўмовы жыцьця ў беларускай вёсцы не дазваляюць яму нават вучыцца ў школе. І менавіта ў гэтым вялікая трагедыя героя рамана. Аўтар глыбока закрануў праблемы сялянскай клясы ў Заходняй Беларусі: з аднаго боку, багаты польскі „пан“ трымае маёнтак на 5000 га, а з другога — „найбагацейшая“ сям’я ў беларускіх вёсках мае 6 га зямлі. Тысячы такіх Вінцусёў ня ўмеюць чытаць і пісаць, бо польская школа гэтаму беларускіх дзяцей не навучыць.*

*Вялікі недахоп рамана — занадта вузкі й аднабакова каталіцкі сэгмэнт жыцьця беларускай вёскі. Няслушным і залішне ідэалістычным ёсьць стаўленьне ксяндза да Вінцуся й да беларускай вёскі як такой. Аўтар твора — каталіцкі сьвятар, таму апісвае ўсё зь відавочнай тэндэнцыйнасьцю.*

*Агулам, аднак, раман В. Адважнага вобразна й сюжэтна вельмі багаты. Ягоныя людзі — сапраўдныя беларускія вяскоўцы. Кампазыцыя рамана ўдалая: толькі здаецца, нібыта канцоўку адарвалі. Раман надрукаваны лацінкай і выдадзены вельмі ахайна.*

*Фр. Гр.*
*С. 174—175*

*Міхась Машара: „На сонечны бераг“. Зборнік вершаў (Вільня 1934 г. Выданьне Ст. Глякоўскага і Я. Найдзюка. 80 с. (з партрэтам аўтара).*

*Міхась Машара — малады паэт Заходняй Беларусі, бо нізка „На сонечны бераг“ — ягоная першая. Шчырая й часта балючая любоў да няшчаснага лёсу беларускага народу ў Польшчы бурліць у Машаравых вершах. Ён паэт беларускай вёскі, і гэта зблізкае яго зь вялікім песьняром расейскай вёскі Ясеніным, пад чыім моцным уплывам творыць Машара; месцамі ягоныя вершы гучаць як усяго толькі пераклад зь ягонага ўзору, напр.:*

*Не крычу, не шкадую, ня плачу*[49] *,*
*што расплёскала солад жыцьцё,*
*я і так сваю торбу жабрачу*
*перакіну сабе праз плячо.*

*Не таго, не таго я шукаю,*
*не па шчасьце прыйшоў я сюды.*

[49] Маецца на ўвазе вядомы ясенінскі верш „Не жалею, не зову, не плачу...“

*Ціхай радасьцю сьвет я кахаю,*
*маткі праўды цалую сьляды...*

*Лірыка Машары мае асабісты й нацыянальна-рэфлексіўны характар, але ў паэта выяўляецца схільнасьць да ідэалягічнага збліжэньня з плыньню духоўнага сэрвілізму, пачуцьцёвай хлусьні й фальшу, у кірунку якой ідуць А. Бартуль і Хвядор [sic] Іль[л]яшэвіч. Ад сэрца жадаю, каб Машара ўнік гэтае небясьпекі, памятаючы, што той, хто аднойчы ступіў на сьцежку „Роднага краю“[50], дагэтуль яшчэ не вярнуўся.*

*Нізка Машары выдадзеная вельмі рупліва. Упрыгожвае яе сымбалічная выява весьляра, які плыве на „Сонечны бераг“.*

*Фр. Гр.*
*С. 355*

**Тамаш Грыб**

**1935 (№ XXVII)**

*З рубрыкі „Агляд славянскага жыцьця“*

***БССР.** У верасьні 1932 г. Цэнтральны камітэт усесаюзнай камуністычнай партыі пастанавіў, каб ва ўсіх нацыянальных школах СССР было ўведзенае выкладаньне краязнаўства, роднай мовы, літаратуры, геаграфіі й гісторыі адпаведных нацыянальнасьцяў. У Беларусі на гэтую пастанову дасёньня не зважаюць, як відаць з артыкулу Д. Вініка „Калі пачнуць выкладаць у школах гісторыю Беларусі?“ („Зьвязда“, № 285). Камісарыят народнай асьветы Беларусі, каб пазьбегчы праблемаў, што ўзьніклі ў выніку канфіскацыі „нацыяналістычных“ падручнікаў беларускай гісторыі, напісаных У. Ігнатоўскім і В. [sic] Пічэтам, выключыў з праграмы навучаньня гісторыю Беларусі й проста прыняў навучальную праграму вялікарускіх школаў.*

*На месяц студзень г.г. у Менску склікаюць усебеларускую канфэрэнцыю гісторыкаў, на якой пад кіраўніцтвам праф. П. Горына, прэзыдэнта Беларускай акадэміі навук, павінныя быць падрабязна абмеркаваныя разьсягласьць і зьмест гістарычнага навучаньня ў беларускіх школах.*

*У сувязі з замахам на С. Кірава ў Менску былі асуджаныя на сьмерць дзевяць чалавек; паводле імёнаў вядзецца пра людзей, зусім невядомых у беларускім грамадзкім і культурным жыцьці. Беларускія паэты Янка Купала, Якуб Колас, Андрэй Александровіч і Ф. [sic] Кляшторны апублікавалі „Букет вершаў у вянок на магілу Кірава“, дзе рашуча асуджаюць тэрор як зброю палітычнай барацьбы.*

*Т. Г.*
*С. 21*

*З рубрыкі „Нэкралёгі“*

***Др. Мікола Іль[л]яшэвіч** памёр у Вільні ад сухотаў 3 верасьня 1934 г. у веку 31 года. Скончыўшы ў 1923 г. беларускую гімназію ў Вільні, вучыўся на філязофскім факультэце Карлавага ўнівэрсытэту ў Празе, дзе падаў дысэртацыю „Беларусь як антрапа-геаграфічны цалак“. У 1930 г. у выдавецтве „Чэскі чытач“ выйшла ягоная кніга „Беларус[ь] і Беларусы“[51]. Дасьледаваньне „Культурна-геаграфічны характар Беларусі“ было надрукаванае ў „Зборніку чсл. геаграфічнага таварыства“ (1928), быў аўтарам артыкулаў пра Беларусь у Отавым навуковым слоўніку Н. Д. У той жа час ён быў супрацоўнікам „Славянскага агляду“. З 1929 г. ён зноў жыў у Вільні, быў выкладчыкам геаграфіі ў беларускай гімназіі й сакратаром Беларускага навуковага таварыства. У альманаху гэтага гуртка за 1933 г. апублікаваў дасьледаваньне пра расейскую палітыку ў Беларусі за часамі Кацярыны II і Паўла I. Беларускі народ заўчасна страціў у ягонай асобе працаўніка навукі, які падаваў вялікія надзеі.*

*Т. Г.*
*С. 47—48*

*З рубрыкі „Агляд славянскага жыцьця“*

***БССР.** 14—23 студзеня ў Менску пад старшынёўствам А. Чарвякова праходзіў XI зьезд саветаў Беларусі. М. Галадзед зрабіў даклад*

[50] *Беларускі тыднёвік „Родны край“ выдаецца польскім віленскім ваяводам, і супрацоўнічаюць у ім збольшага польскія службоўцы. — Заўвага **Ф. Грышкевіча.***

[51] Рэцэнзію на гэтую кнігу ў № XXIII „Славянскага агляду“ падае Ф. Грышкевіч (С. 144).

*пра гаспадарчае й культурнае будаўніцтва цягам апошніх чатырох гадоў. На рэканструкцыю народнай гаспадаркі было выдаткавана цалкам 1125 міл. рублёў. У сельскай гаспадарцы моцна прагрэсавала калектывізацыя: У 1931 г. было калектывізавана толькі 15% сялянскіх гаспадарак, пад канец 1934 г. калектывізацыя дасягае ўжо 72%. Значна зьмянілася й культурная сытуацыя. Узьнік шэраг новых агульнаадукацыйных і сярэдніх школ: у 1927—1928 г. было агулам 5529 школ, у 1934 г. — ужо 7105. Вышэйшых навучальных установаў у Беларусі сёньня 18. Колькасьць студэнтаў вырасла з 10 574 (у 1931 г.) да 13 460 (у 1934 г.). На рабфаках (рабочых факультэтах) у 1934 г. было 11 040 студэнтаў: у тэхнікумах (прафэсійных школах) у 1934—1935 г. зарэгістравана 22 000 студэнтаў. Цягам апошніх чатырох гадоў вышэйшую адукацыю атрымалі 3148 чалавек, тэхнічныя прафэсійныя школы скончылі 10 468 афіцыйна залічаных студэнтаў. Для характарыстыкі сёньняшніх варункаў ільга заценіць, што на гэтым зьезьдзе БССР паказальна і ўрачыста выступіла дэлегацыя з Заходняй вобласьці, то бок з часткі беларускай тэрыторыі з цэнтрам у Смаленску, далучанай да РСФСР.*

*Т. Г.*
*С. 67—68*

**БССР.** *Паводле пастановы Ўсебеларускага саюзу савецкіх пісьменьнікаў ад 4 лютага з Саюзу былі на шэсьць месяцаў выключаныя Кляшторны й Маракоў; вымова была зробленая Вольнаму й Дудару, заўвага Баранаву. Гэта пакараньні за „халтуршчыну“ (то бок бескаштоўную творчасьць) і за багемны лад жыцьця ў Доме пісьменьнікаў. Нібы выпадкова ўсе гэтыя маладыя беларускія пісьменьнікі былі нядаўна абвінавачаныя ў „нацыянальным ухіле“...*

*За „трацкісцка-зіноўеўскую кантрабанду ў мастацтве“ быў выключаны з камуністычнай партыі й пазбаўлены ўсіх пасадаў Кс. Дунец*[52]*, вядомы літаратурны крытык, намесьнік народнага камісара асьветы, дырэктар „Галоўмастацтва“ й адказны рэдактар часопіса „Літаратура й мастацтва“.*

*На 10 сакавіка прыпала дзясятая гадавіна заснаваньня „Белдзяржкіно“. За гэты час там было выраблена 37 мастацкіх фільмаў (у тым ліку 7 гукавых, некаторыя зь іх — па-беларуску). Да рэвалюцыі на тэрыторыі Савецкай Беларусі было 25 кінатэатраў, цяпер нібыта 1227; вядома ж, іх мэта перадусім — „палітычна-выхаваўчая“.*

*Т. Г.*
*С. 105*

**БССР.** *Б. Тарашкевіч, былы правадыр беларускай сялянскай „Грамады“ ў Польшчы, які сёньня жыве ў Маскве, напісаў у газэце „Зьвязда“ (№ 66) артыкул, у якім абвяргае распаўсюджаныя польскім друкам зьвесткі нібыта пра свой перасьлед і нават расстрэл. Сярод іншага, ён піша: „У Савецкім Саюзе я знайшоў зусім ня сьмерць, а вялікую радзіму ад Камчаткі да польскіх граніцаў, якая мне блізкая і дарагая. Пры гэтым не аслабела мая любоў да роднай Беларусі, якую я не супрацьпастаўляю ўсёй краіне Саветаў, а лічу яе неад'емнай часткай вялікага Саюзу ССР“.*

*Т. Г.*
*С. 196*

**Беларусы ў Польшчы.** *„Кур'ер Віленскі“ надрукаваў шэраг допісаў польскіх настаўнікаў, што працуюць у польскіх школах у Заходняй Беларусі. У адным з гэтых допісаў гаворыцца: „(Беларускія) дзеці прыходзяць у школы, не разумеючы ніводнага польскага слова. Між сабою гавораць толькі па-беларуску. Папольску размаўляюць толькі на занятках, прычым зь вялікімі цяжкасьцямі. Ніколі ня думаюць па-польску... Якія вынікі гэтай працы? Школа ня робіць таго, што павінная рабіць, ані ў пляне выкладаньня, ані ў пляне выхаваньня„. Часопіс „Беларуская крыніца“ (№ 17—18) да гэтага заценіў: чаму тады беларусам не даюць мець сваю школу, беларускую?*

*Т. Г.*
*С. 200*

**БССР.** *28 траўня ў Менску ў Доме пісьменьнікаў адбылося ўрачыстае паседжаньне, прысьвечанае 30-годзьдзю літаратурнай дзейнасьці Янкі Купалы. „Купала прайшоў праз розныя нацыяналістычныя памылкі“, напісаў М. Клімковіч у „Зьвязьдзе“, „але ў апошні час з дапамогай камуністычнай партыі, якая выкрыла і зьніш-*

[52] Насамрэч маецца на ўвазе **Хацкель Дунец** (1897—1937), габрэйска-беларускі літаратар і крытык. У чэскім тэксьце кірылічная літара „Х“ памылкова перададзеная як лацінская „X“.

*чыла беларускі контрарэвалюцыйны нацыяналізм, пераадолеў сваю нацыяналістычную абмежаванасьць. Сёньня Янка Купала — самы любімы паэт ня толькі Савецкай Беларусі, але і ўсяго Савецкага Саюзу; ягоныя вершы займаюць ганаровае месца ва ўсесаюзнай савецкай літаратуры і перакладаюцца на ўсе мовы. Савецкая грамадзкасьць шчыра радуецца ягоным посьпехам". („Зьвязда", №120). Больш маштабнае сьвяткаваньне Купалавага юбілею было адкладзенае на восень; да друку рыхтуюцца некалькі тамоў выбраных вершаў па-беларуску і ў перакладзе на расейскую, украінскую ды інш. мовы.*

*У гістарычным музэі ў Магілёве знойдзены „Баркулабаўскі летапіс", у якім падрабязна апісваюцца сялянскія забурэньні ў Беларусі ў канцы XVI стагодзьдзя; у якасьці правадыра вясковага люду, што паўстаў супраць шляхты, названы Север'ян [sic] Налівайка. Шэраг беларускіх гісторыкаў займаецца аналізам гэтага гістарычнага дакумэнту; мастак Н. Гедэ намаляваў вялікую карціну, на якой паказаны бой узбунтаваных сялянаў з войскам польскага князя Радзівіла пад Буйніцамі (недалёка ад Магілёву).*

*Т. Г.*
*С. 245—246*

**1936—1937 (№ XXVIII)**

***Зь беларускай паэзіі***

*Літаратурнае жыцьцё беларусаў у Польшчы, калі параўнаць яго з магутным і ўсебаковым разьвіцьцём у Савецкай Беларусі, было цягам доўгага часу ў заняпадзе: усяго некалькі зборнікаў лірычных вершаў і кароткіх апавяданьняў, параскіданых па розных часопісах, што збольшага былі канфіскаваныя, а пасьля зусім спыненыя*[53] *, — вось і ўся творчая беларуская літаратурная прадукцыя пры польскай уладзе за апошніх пятнаццаць гадоў. Аднак гэты пэрыяд заняпаду паступова мінае з выступленьнем маладой генэрацыі беларускіх паэтаў, якія і пры сёньняшняй вельмі жорсткай цэнзуры здольныя знаходзіць мастацкую форму для выказваньня сваіх думак і настрояў.*

[53] *Так, напр., па выданьні некалькіх нумароў быў афіцыйна прыпынены выхад літаратурнага месячніка „Радныя [sic] Гоні" (у 1927 г.), „Нёман" (1932), „Літэратурная Старанка" [sic] (1934) і „Крыгалом" (1935). — Заўвага* ***Т. Грыба.***





*У сакавіку 1935 г. у Вільні пачаў выходзіць беларускі літаратурны часопіс „Калосьсе", а ў пачатку 1936 г. да яго дадаўся штоквартальнік „Маладая Беларусь". У абодвух згаданых і іншых тамтэйшых часопісах вядучае месца займае Міхась Машара, побач зь якім выступае шэраг іншых маладых паэтаў Заходняй Беларусі: Н. Арсенёва [sic], М. Васілёк, М. Танк, А. Бярозка, Фр. [sic] Іль[л]яшэвіч, М. -Дальны й інш.*

*Міхась Машара (нар. у 1904 г.)*[54] *— самавук зь вёскі Таболы на Віленшчыне. Адзінай ягонай школай была земляробчая праца на цаліне Налібоцкай пушчы, а пасьля віленскі астрог „Лукішкі", дзе ён (у 1928—1931 гг.) адбываў трыццацімесячнае пакараньне за свой актыўны ўдзел у беларускім сялянскім руху. Гэта сьвядомы селянін, які ня лічыць сваё сялянскае паходжаньне чымсьці непаўнавартасным і прыніжальным, бо з гонарам абвяшчае: „Хай я селянін, унук звычайных рабоў, але ўсё-ткі мая песьня ня ведае прыніжэньня". — У гэтай сялянскай сьвядомасьці, якая ў М. Машары зьліваецца ў адно з усьведамленьнем чалавечай годнасьці й нацыянальнай сьвядомасьцю, палягае галоўная рыса ягонай паэзіі. Не ў мінуўшчыну, а ў будучыню скіраваны пагляд паэта. У мінуўшчыне беларускага народу ён бачыць толькі цяжкі прыгон, цемру й плесьню; сучаснасьць таксама няма за што хваліць, яна ёсьць крыжовым шляхам! Толькі будучыня бачыцца яму радаснай і шчасьлівай. Таму ён гукае: наперад, да новага заўтра, дзе можна будзе тварыць жыцьцё ўласнымі рукамі й пераўтвараць свой цяжкі лёс. Ён верыць у вольную людзкую працу, у сонечную праўду любові чалавека да чалавека; гэтая праўда належыць сялянскаму люду, бо той ня звыклы карыстаць з чужых мазалёў. Любоў і праца адродзяць чалавецтва! Ужо надыходзіць дзень, калі ўсе людзі пачнуць жыць у братняй згодзе, і ня будзе больш ні сьлёз, ні пакуты: зазьзяе сонца адраджэньня й над беларускай зямлёю.*

*Машара — глыбокі лірык, але ў ягоных вершах няма нараканьня на цяжкі лёс, звычайнага для старэйшай беларускай паэзіі; яны бадзёрыя й звонкія. Таму ён адразу ж стаў духоўным правадыром адраджэнскага руху вясковай беларускай моладзі ў Польшчы.*

*Дагэтуль ён выдаў дзьве нізкі вершаў: у 1934 г. „На сонечны бераг"*[55] *і ў 1935 г. „На прадвесьні"; апрача гэтага ён у адмысловым вы-*

[54] Насамрэч Міхась Машара нарадзіўся ў 1902 г.

[55] *Параўн. рэфэрат у „Сл. пр." нум. XXVII, 355. — Заўвага* ***Т. Грыба.*** Маецца на ўвазе вышэйпададзены рэфэрат Францішка Грышкевіча.

даньні апублікаваў вялікія эпічныя паэмы: „Вясельле“ й юбілейную „Сьмерць Кастуся Каліноўскага“ (1934 г.).

Т. Грыб[56]
С. 40—43

З рубрыкі „З славянскай сучаснасьці“

## Чыстка ў Беларускай ССР

Апошняя чыстка ў шэрагах камуністычнай партыі і ў дзяржаўным апараце Савецкага Саюзу, праведзеная пад лёзунгам „змаганьня з трацкісцка-бухарынскай і нацыянальнай апазыцыяй“, глыбока закранула палітычнае й культурнае жыцьцё ў Савецкай Беларусі. З новай інтэлігенцыі першай ахвярай стаў А. Чарвякоў, старшыня выканаўчага камітэту саветаў [sic] БССР і заснавальнік камуністычнай партыі ў Беларусі. Ён быў абвінавачаны ў нацыянальным ухіле: нібыта ён стаяў на чале групы беларускіх нацыяналістаў, якія спрабавалі выкарыстаць усе легальныя магчымасьці дзеля аддзяленьня Беларусі ад Савецкага Саюзу й стварэньня самастойнай беларускай народнай рэспублікі. На 16 зьезьдзе камуністычнай партыі Беларусі, што адбываўся сёлета ў чэрвені, ад Чарвякова патрабавалі, каб ён прызнаў свае памылкі й публічна пакаяўся. На ўсе гэтыя абвінавачаньні ён адказаў дакладна так, як і нейкі час таму правадыр украінскіх бальшавікоў Скрыпнык: 16 чэрвеня ўчыніў самагубства. У савецкім друку пра гэта зьявілася кароткае паведамленьне: А. Чарвякоў скончыў самагубствам зь сямейных прычынаў.

Другой ахвярай новага палітычнага курсу стаў М. Галадзед, старшыня савету народных камісараў БССР. На тым жа партыйным зьезьдзе яго папракалі, што ён быў калісьці чальцом партыі беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянэраў, не прызнаваў сацыялістычнага значэньня кастрычніцкай рэвалюцыі, быў супраць калектывізацыі сельскай гаспадаркі й падтрымліваў сяброўскія стасункі з генэралам Убарэвічам, расстраляным разам з маршалам Тухачэўскім. Нарэшце, яму закідалі, што ў новай канстытуцыі БССР, якую ён асабіста распрацаваў, ён паспрабаваў правесьці свае буржуазныя й нацыяналістычныя погляды. Калі перад кантрольнай камісіяй Галадзед

[56] Далей зьмешчаныя вершы Міхася Машары „На пераломе“ й „Бяз назвы“ ў перакладзе Францішка Ціхага.





адмовіўся прызнаваць свае памылкі, ён быў выключаны з партыі й арыштаваны як „вораг народу“.

Разам зь ім быў выключаны з партыі й арыштаваны А. Дзякаў[57], камісар народнай асьветы, якому закідалі, што ён сыстэматычна займаўся шкодніцтвам у арганізацыі школьніцтва. Сярод іншага ён быў прызнаны вінаватым у тым, што ўвёў у школьную праграму больш гадзінаў выкладаньня нямецкай мовы ў параўнаньні з расейскай. Гэтая новая чыстка прывяла ў турму таксама З. Жылуновіча, першага старшыню беларускага савецкага ўраду, які разам з А. Чарвяковым стаяў ля калыскі беларускай савецкай рэспублікі, але ў апошнія гады зусім адышоў ад палітычнай дзейнасьці. Ён займаўся выключна літаратурнай працай пад імем Цішка Гартны, у прыватнасьці ў часопісе „Полымя“, чыім сурэдактарам быў. На зьезьдзе партыі яго папракалі, што ён арыентаваўся на буржуазны Захад і што ў сваім найвялікшым рамане „Сокі цаліны“ прапагандаваў буржуазны нацыяналізм. Быў выключаны з партыі й арыштаваны таксама М. Чарот, выдатны паэт маладой генэрацыі, чыя рэвалюцыйная паэма „Босыя на вогнішчы“ да нядаўняга часу разглядалася бальшавіцкай крытыкай як узор беларускай пралетарскай паэзіі, але цяпер была асуджаная як „мэтаскіраваная прапаганда беларускага нацыянал-фашызму“. Той жа зьезд камуністычнай партыі Беларусі

[57] **Ананій Дзякаў** (1896—1937), дзяржаўны дзеяч, пэдагог. Зь сялянскай сям’і. Скончыў пачатковую школу. Удзельнічаў у Першай сусьветнай вайне. За мужнасьць у баях атрымаў афіцэрскае званьне. У 1918 г. уступіў у ВКП(б), узначаліў Вяземскі зямельны аддзел. У 1919—1923 гг. служыў у Чырвонай арміі (камандзір роты). Ад 1923 г. — намесьнік старшыні Мсціслаўскага павятовага выканкаму. У 1924 г. прызначаны намесьнікам старшыні (потым старшынём) Магілёўскага акруговага выканкаму. У ліпені 1928 г. накіраваны на навучаньне ў Прамысловую акадэмію ў Маскву, але вучыцца не давялося — быў прызначаны намесьнікам старшыні (пазьней старшынём) Віцебскага выканкаму. У 1930—1934 гг. вучыўся ў Маскве ў Інстытуце чырвонай прафэсуры. Ад лютага 1934 г. — намесьнік рэктара, рэктар БДУ. Ад восені 1935 г. — загадчык аддзелу ЦВК БССР. У ліпені 1936 г. прызначаны наркамам асьветы БССР. Арыштаваны 11.05.1937 у Менску. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як *„член нацыянал-фашысцкай арганізацыі, які праводзіў шкодніцкую работу ў галіне народнай асьветы“* да расстрэлу з канфіскацыяй маёмасці (паводле: http://belarus.kulichki.net/index.php?option=com_content&task=view&id=77&Itemid=40).

*ўхваліў вылучэньне з партыі й арышт яшчэ некалькіх беларускіх інтэлігентаў, сярод іншых выдатнага гісторыка праф. В. Шчарбакова й літаратурнага крытыка Л. Бенека.*

*Аднак чыстка працягвалася й пасьля зьезду, бо ў пачатку жніўня быў выключаны з сакратарыяту камуністычнай партыі Беларусі першы сакратар В. Шаранговіч, чыю пасаду заняў А. Волкаў. Ненадзейным выявіўся й новы старшыня савету народных камісараў Д. Вальковіч: у пачатку верасьня яго абвінавацілі ў сяброўскіх стасунках з украінскімі нацыяналістамі і арыштавалі як „ворага народу“. На ягонае месца быў прызначаны А. Ананьяў [sic], асоба ў Беларусі дагэтуль невядомая. Зусім новым імем ёсьць і М. Стакун, якога прызначылі старшынём выканаўчага камітэту саветаў.*

*Найвялікшы хаос, аднак, ільга назіраць у сфэры культурнага будаўніцтва й перадусім у Акадэміі навук, зь якой у апошні час было звольнена каля ста (!) навуковых супрацоўнікаў, як публічна прызнаўся яе старшыня праф. І. Сурта (гл. „Зьвязду“ ад 4 ліпеня). Гэтым тлумачыцца, чаму сёньня навуковая прадукцыя беларускай Акадэміі настолькі слабая. Зусім ня лепшае становішча ў „Інстытуце літаратуры й мовазнаўства“: навуковыя працы, выдадзеныя там у 1934—1937 гг., былі абвешчаныя ідэалягічна шкоднымі й здадзеныя ў макулятуру! Гэта галоўным чынам наступныя навуковыя працы: „Запіскі Інстытуту літаратуры й мовы“ (5 тамоў), „Пісьменьнік і мова“ (1 том), „Беларуская драматургія“ (1 том), „Пісьменьнікі аб рэформе беларускага правапісу“ (1 том), „Беларуская граматыка“ (2 тамы), „Мэтадалёгія выкладаньня мовы й літаратуры“ (1 том). Такім чынам зь некалькігадовай навуковай прадукцыі інстытуту ў карыстаньні застаўся толькі „Малы руска-беларускі слоўнік“ (болей пра гэта ў газэце „Зьвязда“ ад 21 верасьня).*

*У сьпіс [забароненых кніг] трапілі й публікацыі камісарыяту народнай асьветы: „Хрэстоматыя [sic] беларускай літаратуры“ (дапаможнік для вышэйшых клясаў агульнаадукацыйнай школы) і „Кароткі нарыс гісторыі Беларусі“ праф. В. Шчарбакова.*

*Т. Грыб*
*С. 269—270*





**1938 (№ XXX)**

З рубрыкі „Нэкралёгі“

***PhDr. Тамаш Грыб**, кіраўнік Беларускага гістарычнага архіву ў Празе, памёр 21 студзеня г.г. ва ўзросьце 43 гадоў. Паходзіў з Паляны[58] [sic] на Віленшчыне. Скончыў сярэднюю школу ў Пецярбургу, дзе ў 1914 г. паступіў у Псыхатэхнічны[59] [sic] інстытут. У 1917 г. у часе сакавіцкай рэвалюцыі быў абраны ў петраградзкі савет салдацкіх і рабочых дэпутатаў. У сьнежні 1917 г. быў адным з арганізатараў Усебеларускага сходу ў Менску. Удзельнічаў у палітычным жыцьці сьпярша як сябра Беларускай сацыялістычнай грамады, а пасьля яе распаду ў 1918 г. далучыўся да беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянэраў. У часовым урадзе Беларускай рэспублікі (Варонкавай) Грыб быў міністрам сельскай гаспадаркі (люты—травень 1918 г.), пасьля чаго пры народнай Беларускай рэспубліцы, ва ўрадзе Ластоўскага, быў мін. унутраных спраў (кастрычнік 1919 г. — чэрвень 1922 г.). У Вільні выдаваў і рэдагаваў часопіс „Громадзянін“ [sic], у Горадні — „Родны край“, а ў Коўне — „Сялянская доля“. У кастрычніку 1922 г. прыехаў у Прагу, дзе вучыўся на філязофскім факультэце Карлавага ўнівэрсытэту й атрымаў дактарат з дысэртацыяй на тэму „Пытаньне нацыі й народнасьці“. У Празе выдаваў „Бюлетэнь“ беларус. сац.-рэвалюцыянэраў, быў сакратаром „Беларускага кабінэту“ пры „Ўкраінскім сац. інстытуце“ й лектарам беларускай мовы ва „Ўкраінскім пэдагагічным інстытуце“ (1928—1930). Быў таксама намесьнікам старшыні „Аб’яднаньня беларускіх студэнцкіх арганізацый“, супрацоўнікам беларускіх часопісаў „Іскры Скарыны“ ў Празе й „Калосьсе“ ды „Золак“ у Вільні. Таксама апублікаваў некалькі артыкулаў у „Слав. аглядзе“. Сьветлая яму памяць[60].*

*Č j.*
*С. 83—84*

[58] Назва роднай вёскі Тамаша Грыба — Паляны, а не Паляна.

[59] Насамрэч у Псыханэўралягічны.

[60] *9 лютага ў Народным доме на Вінаградах Беларуская рада пад старшынством В. Захаркі правяла жалобны сход беларускіх, расейскіх і ўкраінскіх эмігрантаў, на якім пра Т. Грыба прамовіў інж. В. Русак, а ягоную дзейнасьць у Чэхаславаччыне і ў нашым часопісе згадаў унів. праф. Я. Пата. — Заўвага **рэдактара „Славянскага агляду“.***

## Пятро Ластаўка

## 1938 (№ XXX)

## Разьвіцьцё сучаснай беларускай літаратуры ў Польшчы

*(урывак)*

*Побач з М. Танкам, які акурат выдаў новую нізку „Пад мачтай“, і М. Машарам*[61] *, у якога хутка выйдзе чацьвертая кніга вершаў пад назвай „З-пад стрэх саламяных“, узгадаваў народ і маладую пісьменьніцу. Натальля Арсеньнева — адметная зьява беларускай літаратуры, лірычная паэтка-індывідуалістка з самадастатковым поглядам на сьвет і спэцыфічнымі мастацкімі рысамі. Яна далёкая ад таго, што характэрнае для сучасных беларускіх пісьменьнікаў у Польшчы, то бок ад служэньня вызваленьню народу. Хаця вакол яе ідзе барацьба, яна адчувае сябе самотнай, і своеасаблівую мовую апісвае настроі, трымценьні, сум свайго маляўнічага краю, захапляе чытача мяккасьцю, слодычу й пяшчотай сваіх мэлёдыяў. Ва ўлоньні беларускай прыроды яна разважае пра людзкое шчасьце й пра будучыню, уцякаючы з шэрага паўсядзённага жыцьця ў сьвет летуценьняў.*

*Я хачу на мінуту забыцца аб горы*
*і глядзець, як у рожавым захаду моры*
*косы бледнага сонца сплялісь.*

*Улюбёная паэтчына пара года — „жоўтая, залатая восень“, якую яна ўвесь час апявае. Яна ўзмывае ў прастору па багацьце прыродных фарбаў, але незадаволеная тым, што няздольная перадаць іх у словах. У першай кнізе ейных вершаў, названай „Пад сінім небам“, ёсьць твор „Край“, што нагадвае зьвершаваную араторыю Гендэля „Чатыры пары года“*[62] *. Да друку аўтарка падрыхтавала наступную кніжку „Жоўтая восень“.*

*У апошні час творчасьць Арсеньневай перамясьцілася на грунт эпікі, дзе яна ажыўляе фантастычны сьвет русалак, німфаў, сыльфідаў, сатыраў, фаўнаў і г.д., напрыклад, у вершах „Балотніца“ ці „Плач старога лесуна“. Яна плянуе напісаць на падставе фальклёру даўжэйшыя творы (цыкль „Зачараваны кут“) і разьвіваецца далей у тэматыцы й стылі.*

*Хведар (Тэадор) Ільляшэвіч — паэт нетыповы, гэта інтэлектуал з глыбокай літаратурнай культурай, вельмі начытаны. Ягоная творчасьць грунтуецца на матывах з жыцьця гарадзкой інтэлігенцыі, а вясковы элемэнт выяўляецца толькі ў форме й стылі. За выняткам гэтага руралізму ў мэтафарах, які з мастацкага гледзішча ёсьць вельмі дарэчным, агульны тон ягоных вершаў — урбаністычны, поўны моцнай дынамікі, эмацыйнасьці й няўрымснасьці. Ён уражвае чытача моцнай вобразнасьцю, узьдзейнічае на слых цікавай рытмікай. Ягоныя вобразы — незвычайна фрагмэнтарныя й сканцэнтраваныя, але сугестыўным шляхам выклікаюць адпаведны настрой. Менавіта ашчаднасьць словаў прымушае нашае ўяўленьне дамалёўваць пластычны вобраз, але праз гэта паэзія Ільляшэвіча застаецца цяжкай і недаступнай для народу. Нягледзячы на тое, што паэт сьпявае пра гарадзкую працу зь яе сьпехам, ён прызнаецца:*

*І так мне жаль вясковых стрэхаў —*
*як доўга цягнецца там час…*

*Трэцяя кніга ягоных паэтычных твораў называецца „Захварбаваныя вершы“.*

*Паэт усьведамляе, што ягоны народ змагаецца на вёсцы за сваё быцьцё, і верыць, што ён уласнымі сіламі здабудзе сабе свабодную будучыню й пачэсны пасад між народамі. З усіх маладых беларускіх пісьменьнікаў Ільляшэвіч піша найболей прозы пад псэўданімам М. Дальны. Апрача апавяданьняў, раскіданых па розных часопісах, ён мае скончаны раман „Туман“, аднак знайсьці для яго выдаўца даволі цяжка. Матэрыял ягоных празаічных працаў таксама гарадзкі, аўтар чэрпае сюжэты з грамадзкага й арганізацыйнага жыцьця рабочых. Ягоная проза прасякнутая дэмакратычным духам і агітуе за супрацу інтэлігенцыі з народам дзеля паляпшэньня эканамічнага становішча апошняга.*

*Міхась Васілёк падобны да Машары ўжо тым, што жыве на вёсцы й робіць цяжкую фізычную працу. Пры гэтым ён цярпіць ад нястачы, што дазваляе яму зжыцца з патрэбамі свайго народу. Першы пэрыяд ягонай творчасьці падагульнены ў нізцы вершаў „Шум баравы“, дзе ён усьпявае вясковае жыцьцё й падае адпаведнае апісаньне*

[61] Аналізу творчасьці Максіма Танка й Міхася Машары прысьвечаная першая частка артыкулу Пятра Ластаўкі.

[62] Здаецца, у Гендэля няма араторыі з такой назвай — аўтар відавочна мае на ўвазе чатыры скрыпічныя канцэрты Антоніё Вівальдзі.

*краявіду. Часам ягоныя кароткія вершы набываюць сацыяльны й патрыятычны характар, чэрпаюць з крышталёвых крыніцаў народнай паэзіі. Новая кніга вершаў Васілька „Зь сялянскіх ніў“ паказвае нам паэта ўжо ў новым сьвятле — ён сасьпеў, не наракае, а крочыць наперад разам з сучаснымі плынямі як „сын мільёнаў шэрых, бедных, босых...“*

*Паэт верыць у новы сьвет лепшага заўтра, створаны працай не пакорлівых рабоў, а змагароў. Як вайсковы правадыр, ён прамаўляе да свайго народу ў закліках да трывушчасьці й сілы, што патрэбныя для посьпеху вызваленчай барацьбы. Як празаік ён апісвае цяжкое змаганьне беларускага селяніна за кавалак хлеба, прычым стылем, даступным шырокім масам, зь якіх ён сам выйшаў. Таму ён настолькі ж папулярны, як і Машара.*

*Анатоль Бярозка*[63] *адносіцца да пісьменьнікаў вялікага таленту й моцнага размаху, хаця як творца й ня мае такога прызнаньня крытыкаў, бо ён чалавек дабрадушны й мала змагарны. І ён вылучаецца багацьцем словаў, пекнымі стылем і кампазыцыяй. Ідэйна ён падзяляе веру ў сьветлую будучыню, калі*

*сьлёзы сонца абсушыць, магутны араты*
*выйдзе зь песьняй і плугам з прабуджанай хаты*
*новы шлях праараць між цярністых дарог...*

*З найбольш маладых самы хуткі прагрэс выяўляе Ніна Тарас, чые вершы вызначаюцца лёгкасьцю й рытмічнай музычнасьцю. Сьвежая й глыбокая лірыка дапаўняецца ў яе тэхнічнай распрацаванасьцю. Паэтка мае ня толькі адкрытыя красе прыроды вочы, але й сэрца, адкрытае пакутам беспрацоўных і галодных. Ейным слабым бокам ёсьць невялікі спэктар тэмаў і недахоп асабістага паэтычнага стылю, але ўсё гэта, без сумневу, хутка ў яе выпрацуецца.*

*За гэтым авангардам маладой беларускай літаратуры крочыць шэраг тых, што яшчэ ня маюць надта выразнага пісьменьніцкага аблічча. Да іх належаць (у альфабэтным парадку*[64]*): Буралом, Хмара, Дубок, Дубровіч, Гаротны, Іверс, Крыга, Мілуць, Новік, Вількоўшчык, Засім, Зьвястун і іншыя.*

[63] Псэўданім беларускага паэта й пасьляваеннага эмігранта **Мітрафана Рэпкава-Смаршчка** (1915—2008).

[64] У арыгінале артыкул напісаны па-польску, таму мы захоўваем тут першапачатковую пасьлядоўнасьць імёнаў паводле лацінскага альфабэту.





*Сам аўтар гэтага артыкулу таксама піша апавяданьні*[65] *і ўжо падрыхтаваў да друку раман „У пагоні за будучыняй“, дзе адлюстраваная пагоня за хлебам і клопат пра паляпшэньне жыцьця народу на падставе разьвіцьця „Беларускай сялянска-работніцкай грамады“, разагнанай у 1926 г., з устаўленай трагедыяй двух закаханых сэрцаў.*

*Сучасная беларуская літаратура ад свайго пачатку ёсьць выразьніцай нацыянальных і сацыяльных памкненьняў народу й адлюстроўвае нацыянальнае прыроднае асяродзьдзе. Гэтая ўласьцівасьць робіць яе зразумелай усяму народу. За кароткі час свайго разьвіцьця яна дасягнула значна высокага мастацкага ўзроўню, які, пры пэўных адметнасьцях, параўнальны зь вялікімі літаратурамі тых народаў, што маюць досьвед некалькіх стагодзьдзяў свабоднага разьвіцьця. Гэтая літаратура, хоць і ўзышла на народнай і дэмакратычнай глебе, не стварае небясьпекі для дзяржавы, у межах якой разьвіваецца*[66]*.*

*З польскага рукапісу пераклаў А. Фрынта*

*С. 353—355*

*Пераклад і камэнтары Макса Шчура*

[65] *Ягонае апавяданьне „Дабраславеньне“ ў перакладзе В. Кэпэрта надрукавала праская газэта „Venkov“ („Вёска“) у нумары 149 за 26 чэрвеня г.г. — Заўвага* ***рэдактара „Славянскага агляду“.***

[66] *Мы разумеем гэтую апартуністычную выснову як „captatio benevolentiae“— спроба здабыць прыхільнасьць (лац.), тут маецца на ўвазе — польскіх уладаў, але мы перакананыя, што польская дзяржаўная палітыка ў дачыненьні й да беларускай меншасьці, гэтак жа як да меншасьцяў украінскай і чэскай, будзе й надалей перасьледаваць груба асыміляцыйныя мэты, бо абноўленая Польшча відавочна бачыць у гэтым сваю місію, каб і тут зраўняцца з дыктатарскімі дзяржавамі восі Бэрлін—Рым. У адваротным мы здолеем пераканацца толькі тады, калі нейкі беларускі пісьменьнік атрымае польскую дзяржаўную прэмію, накшталт тых, якімі колішняя ЧСР уганароўвала сваіх немцаў. — Заўвага* ***рэдактара „Славянскага агляду“.***

Гэты нумар часопіса выйшаў пасьля падпісаньня Мюнхэнскай дамовы й акупацыі войскамі Нямеччыны, Польшчы й Вугоршчыны часткі тэрыторыі Чэхаславацкай рэспублікі ў сакавіку 1938 г. Ад гэтага часу да стварэньня пратэктарату „Багемія й Маравія“ ў 1939 г. краіна стала неафіцыйна называцца „Другой рэспублікай“. У сьвятле тагачасных падзеяў патрыятычны антыпольскі патас рэдакцыі часопіса цалкам зразумелы.

**Юры Бабіч**
*Віцебск*

# КАЛЯРЫСТЫЧНАЯ ЛЕКСЫКА ЯК ВОБРАЗНЫ СРОДАК У МОВЕ ТВОРАЎ НАТАЛЬЛІ АРСЕНЬНЕВАЙ

Мова мастацкай літаратуры заўсёды знаходзіцца ў цэнтры ўвагі лінгвістаў. Асабліва гэта датычыць клясычных твораў, дзе мастацкае слова нясе адбітак эпохі, у якую жыве пісьменьнік, адлюстроўвае спэцыфіку аўтарскага сьветаразуменьня й сьветаўспрыманьня.

Неад'емнай часткай практычна кожнага літаратурнага тэксту ёсьць лексыка са значэньнем колеру, ці, інакш, колераабазначэньні, каляронімы. Гэтыя словы могуць ужывацца ў большай або меншай ступені, але яны прысутнічаюць у вэртыкальным кантэксьце, уваходзяць у склад тропаў, ствараюць яскравыя й запамінальныя малюнкі, выклікаюць розныя эмацыйныя рэакцыі. А *„псыхалягічны аспэкт успрыманьня колеру зьвязаны з культурнымі, сьветапоглядным, эстэтычнымі традыцыямі асяродзьдзя, у якім вырас і сфармаваўся чалавек, зь яго мінулым досьведам, памяцьцю, асацыятыўным характарам мысьленьня“,* — заўважае знаўца калярыстыкі Я. Панамарова[1]. Усебаковы аналіз колераабазначэньняў дазваляе асэнсаваць глыбінныя тэкставыя мікраструктуры, якія істотна пашыраюць сэмантычную прастору колеру. Але дасьледаваньне асаблівасьцяў стварэньня вобразу, мэханізму рэалізацыі адмысловых мастацкіх прыёмаў мусіць адбывацца з улікам жанравых адметнасьцяў твора. Як правіла, вершаваныя, празаічныя й драматычныя тэксты характарызуюцца рознай частотнасьцю мастацкіх прыёмаў, стылістычных фігур, дзе адным з кампанэнтаў выступае колеравая лексэма. На нашую думку, несумненную цікавасьць для дасьледаваньня мае паэтычная мова, дзе колеравыя вобразы вылучаюцца выразнай яскравасьцю, асацыятыўнасьцю, утрымліваюць элементы сымболікі й алегорыі. Калярыстычная лексыка валодае істотным сэмантычным, сынтагматычным і выяўленчым патэнцыялам, спрыяе забясьпечаньню своеасаблівага эстэтычнага дыялёгу паміж пісьменьнікам і чытачом. Аналіз структурна-сэмантычнай арганізацыі каляронімаў, прыёмаў колеравага кантрасту, колеравай гармоніі й дысгармоніі дапамагае выявіць індывідуальна-аўтарскую адметнасьць ужываньня лексычных адзінак у мове літаратурных твораў, характар асацыятыўных сувязяў, якія пры гэтым узьнікаюць, асэнсаваць спэцыфіку вобразнага мысьленьня пісьменьніка. Выкарыстаньне аўтарам колеравай лексыкі, творчае пераасэнсаваньне яе сэмантычнага патэнцыялу ёсьць важным элемэнтам дасягненьня мастацкай вобразнасьці й выразнасьці. *„Бачаньне сьвету ў колеры — адно з найбольш моцных чалавечых адчуваньняў,* — зазначае расейская дасьледчыца калярыстыкі І. Кулікова. — *Мы даволі лёгка запамінаем фарбы, і зрокавае ўяўленьне колеру няцяжка выклікаць, назваўшы адпаведнае слова. Таму моўныя сродкі абазначэньня колеру, даступныя ня толькі розуму, але й пачуцьцю, валодаюць вельмі вялікімі выяўленчымі магчымасьцямі“*[2].

Колер заўсёды ёсьць носьбітам пэўнай інфармацыі, мае сэнсавы й пачуцьцёвы зьмест, сталыя сымбалічныя значэньні. Сэмантыка асноўных колераў склалася яшчэ ў дагістарычным грамадзтве й з таго часу ня вельмі зьмянілася. Колер — гэта сродак спасьціжэньня рэчаіснасьці, сродак зносін людзей, сродак пачуцьцёвага ўзьдзеяньня на чалавека. На думку Л. Міронавай, *„узьнікае „мова колеру“* — адметная знакавая сыстэма, да вывучэньня якой можна дастасаваць мэтадалёгію сэмантыкі. Дасьледніца вылучае некалькі спосабаў сэмантызацыі колеру, якія ўзьніклі яшчэ ў старажытнасьці: аналёгіі з аб'ектамі і зьявамі; асацыяцыі зь любымі адчуваньнямі й эмоцыямі; атаясамліваньне з абстрактнымі паняцьцямі непасрэдна-пачуцьцёвым, эмацыянальным чынам[3]. Багаты для аналізу матэрыял дае паэзія як вобразная й маляўнічая мастацкая мова. *„У вершаваным тэксьце рэчыўны вобраз мае колеравае прызначэньне, якое чытач спачатку можа толькі інтуітыўна ўявіць, а потым з дапамогай фантазіі на жывапісным палатне ператварыць колеравую асацыяцыю ў канкрэтную форму, калі апошняя ёсьць адлюстраваньнем усяго таго, што хвалюе, натхняе чытача, бо часта менавіта колеравая форма, у ліку*

[1] Пономарёва, Е. Цвет в интерьере. Минск, 1984. С. 8.

[2] Куликова, И. Две цветовые картины мира // Русская речь. 1971. №3. С. 10.
[3] Миронова, Л. Цветоведение. Минск, 1984. С. 15.

*іншых фактаў, адухаўляе нежывую матэрыю, робіць яе дынамічнай“*[4].

У гэтым сэнсе надзвычай цікавым бачыцца аналіз спэцыфікі выкарыстаньня колеравай лексікі ў творах знакавай асобы беларускай літаратуры — Натальлі Арсеньневай, дзе, што характэрна для клясычнага мастацтва, адлюстраваныя асаблівасьці нацыянальнага сьветапогляду, канцэптуальна важныя паняцьці, маральныя каштоўнасьці народу.

Спачатку паспрабуем асэнсаваць частотнасьць выкарыстаньня колераабазначэньняў, бо *„агульнавядома, што аб’ектыўныя ўласьцівасьці мовы ўвасабляюцца як у якасных, так і ў колькасных прыметах,* — зазначае Н. Мажэйка. — *Таму мовазнаўцы мінулага неаднойчы зьвярталіся да колькасных ацэнак, выкарыстоўваючы іх пры вывучэньні розных моўных зьяваў, і ўказвалі на неабходнасьць гэтых ацэнак у сувязі з тым, што якасныя адрозьненьні моўных структур у шэрагу выпадкаў могуць быць патлумачаныя толькі колькаснымі адрозьненьнямі й што якасьць мовы ўвогуле залежыць збольшага ад колькасных суадносін тых ці іншых моўных элемэнтаў“*[5]. Сапраўды, статыстычныя дадзеныя ёсьць важным чыньнікам пры шматаспэктным аналізе выкарыстаньня колераабазначэньняў у мастацкім тэксьце. У паэзіі Натальлі Арсеньневай сярод колеракодаў[6] дамінуе *жоўты* — 359 згадак. Колеракод *жоўты* вылучаецца самай вялікай колькасьцю колераэлемэнтаў (24), якія характарызуюць розную ступень насычанасьці: *руды*, *буры*, *залаты*, *мядзяны*, *палавы* й інш. Удакладнім, што агульная колькасьць розных колеранайменьняў у паэзіі Натальлі Арсеньневай — 118.

Ахраматычны колеракод *белы* паводле частотнасьці ўжываньня таксама прадуктыўны — 339 згадак — і таксама мае шырокі дыяпазон адценьняў (22): *срэбны*, *сівы*, *пэрлавы*, *сьнежны* й інш.

---

[4] Ігнацюк, А. Колер, прастора і час у сучаснай беларускай паэзіі. Аўтарэф. дыс. на атрыманьне вучонай ступені кандыдата філалагічных навук. Брэст, 1999. С. 6.

[5] Можейко, Н. Статистические методы исследования лексики. Частотные словари // Методы изучения лексики / Под ред. А. Е. Супруна. Минск, 1975. С. 94.

[6] **Колеракод** — сэмантычная дамінанта, якая аб’ядноўвае колераэлемэнты: усе лексэмы са значэньнем адценьняў адпаведнага колеру. Кодавымі выступаюць сем спэктральных (храматычных) назваў — аранжавы, чырвоны, жоўты, зялёны, сіні, блакітны, фіялетавы, — а таксама тры неспэктральныя (ахраматычныя) — белы, чорны, шэры.





Трэці паводле распаўсюджанасьці — колеракод *сіні* — 267 колеравых адзінак, але колькасьць яго колераэлемэнтаў амаль у два разы меншая за папярэднія два коды — 13.

Колеракоды *зялёны* й *чырвоны* маюць аднолькавую колькасьць згадак — 126 і 124 адпаведна. У іх склад уваходзяць самабытныя аўтарскія колераабазначэньні: „змарагдавы“, „цёмнарунны“, „шыпшынна-ружовы“ й інш.

Ахраматычныя колеравыя коды *шэры* й *чорны* вызначаюцца меншай прадуктыўнасьцю ў параўнаньні з храматычнымі, а таксама не валодаюць разгалінаванай сыстэмай колераэлемэнтаў. Асобна вылучым групу каляронімаў пад умоўным кодам *шматфарбавасьць*. Гэта найменшая група колеравых словаў (9).

Калі казаць пра распаўсюджанасьць канкрэтных колераэлемэнтаў, то гэта *сіні* (204), *белы* (153) і *залаты* (137). Цікава, што такі колькасны парадак дакладна наадварот капіюе ўжо згаданую герархію частотнасьці колеракодаў *(жоўты, белы, сіні)*. Такая карціна можа быць патлумачаная індывідуальна-аўтарскімі колеравымі прыярытэтамі й ідэйнай зададзенасьцю твораў. А прыналежнасьць самых распаўсюджаных колераэлемэнтаў да найбольш прадуктыўных колеракодаў толькі пацьвярджае заканамернасьць: названая колеравая гама нясе найбольш значную сэнсавую й эстэтычную нагрузку ў паэтычным радку Натальлі Арсеньневай. Самы яскравы прыклад гэтага — назвы першых зборнікаў: „Пад *сінім* небам“ і „*Жоўтая* восень“. Колеравыя вобразы тут заўсёды жывыя, рухавыя, натуральныя. *„Бачаньне навакольнага сьвету ў колерах вымагае ад творцы ня толькі добрага веданьня моўных сродкаў перадачы разнастайных адценьняў і іх пераліваў, насычанасьці, але й асабістага прыроднага таленту да колерапісу. Калі мастак малюе фарбамі, то паэт і празаік жывапісуюць словам, якое павіннае ня толькі быць дакладным, але й зіхацець, пералівацца бляскам, перадаваць ступень інтэнсіўнасьці афарбоўкі, яе характар“*, — слушна сьцьвярджае Дз. Паўлавец[7]. Таму колеравае значэньне можа рэалізоўвацца ў межах розных самастойных часьцінаў мовы. У творах Натальлі Арсеньневай каляронімы найчасьцей рэпрэзэнтаваныя прыметнікамі, радзей — дзеясловамі, значна радзей — назоўнікамі, дзеепрыметнікамі, прыслоўямі, дзеепрыслоўямі. Разгледзім больш падрабязна асаблівасьці выкарыстаньня кожнага колеракоду ў мастацкім радку паэткі.

---

[7] Паўлавец, Дз. Белы ветразь на сініх азёрах // Полымя. 2000. № 9. С. 238—239.

Як ужо адзначалася, найбольшую колькасьць колераэлемэнтаў мае код *жоўты*. Самы распаўсюджаны каляронім коду — *залаты*. Як адзін з боскіх колераў, *залаты* лічыўся клясычнай эстэтыкай *„матэрыяльным увасабленьнем сьвятла, яго ўспрымалі як знак багацьця і ўлады“*[8] . У прааналізаваных намі творах *залаты* найчасьцей утварае камбінацыі з назоўнікамі, якія ёсьць неад’емным кампанэнтам пэйзажных замалёвак, асабліва восені: ***Залатою*** *мяцеліцай кружаць лісты, / Дываны* ***залатыя*** *па вуліцах сьцелюць* („Не астыць нам“); *Твой супакой мяне ў сіло ня зловіць: / З калосьсем* ***залацець*** *хачу ў палёх я!* („Тут гэтага няма“); *З пабітых шыб, з пустых саней глядзела вусьціш. / А ліпень, хоць бы што, іх сонцам* ***залаціў*** („Зьнічы“). Можна меркаваць, што восень тут *„ня толькі й ня столькі пара згасаньня, а найперш — перадумова аднаўленьня, адраджэньня“*[9] . У пэўным сэнсе набліжаецца праз сымбалічнае пераасэнсаваньне да лексэмы *залаты* адносна малачастотны прыметнік *мядзяны*: *Дык ударма, як гром, ды лінем навальніцай, / Дык праб’емся ж крыніцай з-пад зямлі угару, / Каб* ***мядзянай*** *пшаніцай мог зігцець, каласіцца / Наш загон і бязьмежжы твае — Беларусь* („Песьня каліноўцаў“). Непасрэдна кодавы каляронім — *жоўты*, дастаткова блізкі сэмантычна да колераэлемэнту *залаты*, падтрымлівае пераважна станоўчую канатацыю. А колераабазначэньні *руды, пажоўклы* маюць, наадварот, адмоўную эмацыянальную афарбоўку, паралельна рэалізуючы сымбалічнае значэньне „пусты, бязрадасны, пануры“: *Разглуюся, спрабую, мо гнеў пtypе* *Разззлуюся, спрабую, мо гнеў ператне / Век ягоны бязмэтны,* ***зрудзелы*** */ І згіне* („Каб мой гнеў“); *Ліпаў лісьцейка хварбай гарыць* ***залатою****, / Сад* ***пажоўклы*** *цямнее, маўчыць* („Сьветлы дзень дагараець над сумнай зямлёю...“). Можна сьцьвярджаць, што ўнутры коду *жоўты* ў творах Натальлі Арсеньневай назіраюцца своеасаблівыя канатацыйныя бінарныя апазыцыі: *залаты/мядзяны — руды/пажоўклы*. „Мэталічныя“ колеры ў творцы — гэта ўвасабленьне сьвятла, а *руды* й *пажоўклы* — цемры.

У сыстэму колеракоду *жоўты* паэтка таксама ўводзіць колеранайменьні *іржавы*, *буры*, *рыжы*, *васковы*, *каштанавы, сонечны*. Яны пераважна выкарыстоўваюцца ў восеньскіх (хоць і ня толькі) пэйзажных замалёўках: *Не адгукаецца даль сытая /* ***Жоўтай*** *сяўбы.../ Ціша васеньняга дня, /* ***Іржавая*** *пустка наўкола...*(„Асеньняя дарога“); *...І кленчыць перад ім лясоў лілёвых шлях / Ды налітыя ймглой далечы* ***бурых*** *пожняў...* („Вечар ў Вільні“); *Ах, лужына яшчэ, ледзь-ледзь не акіян, / Мутная,* ***рыжая****, без канца і без краю...* („Калумб“). Апошні каляронім, заўважым, толькі *„ў сваім старажытным ужываньні (як назва масьці) захоўвае першапачатковае значэньне, называе больш ці менш пэўны колер. Што да ўсіх астатніх яго ўжываньняў, то слова „рыжы“ адрозьніваецца тым, што перадае самыя розныя адценьні колераў: чырвона-жоўты, чырвона-буры, жоўта-буры, жоўта-карычневы й г.д.“*[10] . Гэта значыць, кожны чытач па-свойму будзе бачыць афарбоўку прадмету, знаходзіць у ёй нейкія адметныя адценьні. Але ў любым выпадку ўспрыманьне кантэксту адбываецца праз падсьвядомае асэнсаваньне колеравай гамы.

Колераэлемэнт *васковы* мае адмоўную канатацыю, калі характарызуе вонкавы выгляд чалавека: *Госьцю вядун із усьмешкай вітае, / Ейныя думкі як быццам гартае. / Белы, высокі, калматыя бровы, / Твар, як і лес той, пажоўклы,* ***васковы*** („Дзяўчына“). Тут пеяратыўнасьць падмацоўваюць асацыяцыі са сьмерцю, напамінкам пра якую часта зьяўляюцца васковыя сьвечкі.

Сярод іншых адсубстантыўных прыметнікаў са значэньнем колеру адзначым лексэмы *каштанавы*, зь нетрадыцыйным апісаньнем сьнегу, і *сонечны* — з адлюстраваньнем найбольшай ступені праяўленьня сьвятла: *У ходзішча шчырбах* ***каштанавы*** *тае сьнег* („Прошча“); *Богу-Сыну малілася ўсё — / Агарож прыдарожных каменьні, / Маладых ячмянёў каласьсё, / Цёплы вецер, што згортваў з дарогі вір пялёсткаў... / І* ***сонечны*** *пыл...* („І была там вясна...“).

Для колерапісу Натальлі Арсеньневай характэрнае выкарыстаньне каляронімаў са значэньнем непаўнаты якасьці: *бураваты*, *залацісты*, *прыжаўцелы*, *недажоўклы*, *жаўтавы*, якія часьцей ужываюцца ў дачыненьні да колеру лістоты дрэваў: *За калыскай, за хатай былі дарогі, / ...І далёкіх бароў* ***бураватыя*** *рогі, / І на пожнях нябёс — балачын снапы...* („Косы“); *Тут залатую хаваюць моўчкі / Ледзь першы* ***жаўтавы*** *ліст залунае над мурам...* („Адцьвітаньне“). Зьвяртаюць на сябе ўвагу самабытныя, аўтарскія колеранайменьні, якія адносяцца да коду *жоўты*, у прыватнасьці, кампазыт *залатаклёны*: *Ці ў вадзін яшчэ верасень* ***залатаклёны*** */ Мы душою і сэрцам трывожным уліпнем?* („Ня так лёгка“).

Такім чынам, выразна бачна, што колеракод *жоўты* ў творах Натальлі Арсеньневай мае разгалінаваную сыстэму элемэнтаў. Гэта пад-

[8] Бычков, В. Византийская эстетика. Москва, 1977. С. 5.

[9] Мішчанчук, М. „Між берагамі“ // Культура беларускага замежжа. Кн. 1. Мінск, 1993. С. 26.

[10] Зайцев, А. Наука о цвете и живопись. Москва, 1986. С. 106.

крэсьлівае важнасьць найбольш сьветлых адценьняў у колеравай карціне сьвету паэткі, яскрава дэманструе яе слоўнае багацьце, сьведчыць пра карпатлівую працу над вобразам.

Другі найбольш распаўсюджаны колеракод — *белы*. Значна часьцей у кантэксьце выкарыстоўваецца ўласнакодавы каляронім, які ў поўнай меры перадае адценьні самых сьветлых фарбаў. Колер зьвязаны з важнымі для паэткі хрысьціянскімі матывамі: „сьвечкі *белыя*“, „*белы* вянок“, *Над дахамі, увыш узьняўшы* ***бель*** *крыльля, / Стаіць, усё ў вагні, / Трохкрыжжа на старожы*; *У* ***белай*** *рызе рабіны стаяць*; *Высокі,* ***белы*** *хорам* і інш. Верш „Малітва“, які стаў рэлігійным гімнам Беларусі, выразна пацьвярджае канцэптуальную значнасьць хрысьціянскіх прыярытэтаў у сьветапоглядзе паэткі.

У пэўных фрагмэнтах прасочваецца выразная сувязь колераўспрыманьня з фальклёрнымі матывамі, назіраецца своеасаблівая пераемнасьць народных традыцый: *...Слалі стрэлы ў грудзі яго* ***белыя****, / Слалі стрэлы ў вочы яго сьмелыя...* („Лебядзінае возера“).

У кантэксьце паэтычнай традыцыі пачатку XX ст., асабліва ў эстэтыцы сымбалізму, белы колер асацыюецца з *„зараджэньнем новага ў жыцьці, перайвасабленьнем сьвету“*[11]. Падобныя матывы прасочваюцца і ў Натальлі Арсеньневай: *Без такіх мы прыжджом* ***бела-бела*** *ўсьпененых маяў, / Залатога пяску каласоў... / Возьмем шчасьце сабе і Табе!* („Краіне“). Дасьледніца калярыстыкі Л. Званарова сьцьвярджае, што белы колер у паэткі выклікае *„глыбока асабістыя асацыяцыі. Для Н. Арсеньневай гэта, вядома, у першую чаргу родная Беларусь. Ледзь зьявіліся ў напісаным ужо ў ЗША вершы Н. Арсеньневай „Час ня час“ „белая пляма“, „белы цьвет“, як адразу ж узьнікае лірычная тэма Радзімы“*[12]: *Песьцяць сэрца й худыя вазоны й брукі / Ў* ***белі*** *паперкавай лускі. / І ўсё чыста — бо вецер з Гудзону / Сяньня нейкі зусім беларускі!*

Акрамя галоўнага каляроніму ў мастацкім радку паэткі намі адзначаныя й іншыя лексэмы-колераэлемэнты, што ў той ці іншай ступені адлюстроўваюць адценьні белага. Яны выступаюць неабходным кампанэнтам пры вобразнай характарыстыцы навакольнага асяродзьдзя, пераважаюць у абмалёўцы зімы, дрэваў увесну, ночы: *Месяц плёнчык з-пад хмараў прарос і задрыжэў, / Заківаўся, заплакаў у лужынах, /*

11 Иванов, Н. Символы в рассказе А. Н. Толстого „Овражки“ // Русская речь. 1989. №4. С. 140.

12 Званарова, Л. Колеравая сімволіка ў паэзіі Зінаіды Гіпіюс і Натальлі Арсеньневай // Культура беларускага замежжа. Кн. 3. Менск, 1998. С. 101.





***Срэбным*** *рассыпаным макам...* („Туман“); *Дзень яшчэ ці дзесяць, і пялёсткаў* ***сьнежных*** */ Май насыпле ў сеці яблынных садоў...* („Велікодным раньнем“); *Кіну ж, рыну на вецер тугу, / Хоць усюды руіны, руіны / І кастрою* ***сівой*** *церушыць / Абыякавы восеньскі дзень...* („Хоць усюды руіны“). Тут заўважым, што колераэлемэнт *сівы* рэдка ўжываецца Натальляй Арсеньневай у сваім наўпростым значэньні — для перадачы колеру валасоў. Часьцей выкарыстоўваецца ў апісаньні пахмурных, бяз сонечнага сьвятла, пэйзажаў, для актуалізацыі пеяратыўнасьці. Таму можна гаварыць пра агульную канатацыйную амбівалентнасьць у суадносінах „белы—сівы“: *Ярылаў* ***белы*** *конь / Праменьмі, ўплеценымі ў грыву, / Прапаліць сьмерць і сьпеў падкоў, / Абвесьціць сьвету дзень шчасьлівы* („Ярылаў конь“); *Так неяк збрыдла мне ўсё. / Жыцьцё даўно ў жалобнай раме. / Стаптаны мрой* ***сівы*** *драсён* („Асеньні холад“). Ужываньне колераэпітэту *белы* ў адным мікракантэксьце зь імем бога сонца Ярылы яшчэ раз падкрэсьлівае сымбалічнае значэньне названага колеру — *„сьвятло ва ўсіх праявах“*. Гэта і сонца, і боскасьць, і жыцьцё, і вера. *Сівы*, наадварот, сымбалізуе разгубленасьць, будзённасьць, страту душэўнай раўнавагі.

Варта адзначыць, што ў шэрагу выпадкаў Натальля Арсеньнева малюе „нябесныя“ рэаліі — хмары, зоры — пры дапамозе своеасаблівых адсубстантыўных колеравых сынонімаў *пэрлавы*, *жамчужны* ў індывідуальна-аўтарскай інтэрпрэтацыі: *І* ***парловыя*** *хмаркі вяночкі плялі / Над паўсоннай, імглістай прасторай зямлі...* („Ішла вясна“); *Пабялелі зоры.../ Воз* ***зямчужны*** *дышаль павярнуў да ўсходу... / Высах Млечны Шлях...* („Стары Сымон“). Такія аўтарскія наватворы выразна карэлююць з больш пашыранымі формамі, але адначасова выдатна ілюструюць моўны густ творцы. Да таго ж, можна меркаваць, каляронім *зямчужны* ў азначэньні сузор’я невыпадковы. *„Зоркі як элемэнт рэальнага сьвету ў рытуальным і фальклёрным кантэксьце набываюць сымбалічны зьмест. Так, яркае зьзяньне зьвязвала зоркі ў сьвядомасьці чалавека з каштоўнымі камянямі, бісэрам, срэбрам, золатам“*[13]. І лексэма *зямчужны* мае тады амбівалентны характар: тут і жэмчуг (пэрл), і зьзяньне. Яшчэ адно сьведчаньне ўдумлівага падыходу аўтара да выбару моўных сродкаў.

Сярод іншых лексэмаў, якія ўваходзяць у структуру колеракоду *белы*, адзначым дзьве групы каляронімаў: што абазначаюць непаўна-

13 Леўкавец, М. „Сьвечак многа гарыць, а ніводнай не патушыць“: Вобраз зорак у духоўнай культуры славян // Роднае слова. 2002. № 2. С. 102.

ту якасьці, слабую насычанасьць колераў: *бялявы*, *бялёсы*, *сіваваты*, *сівавы*; і што паказваюць, наадварот, на найбольшую ступень колеравай насычанасьці: *белы-белы*, *найбельшы*, *сівы-сівы*, *сьнежна-белы*.

Калі прыметнікі з сэмай непаўнаты якасьці ўтвараюцца пры дапамозе адпаведных суфіксаў — „-ават-", „-ав-", „яв-", „-ёс-" — г. зн. праз унутраную сынтагму, то словы са значэньнем праяўленьня высокай ступені якасьці — гэта прыметнік у форме найвышэйшай ступені параўнаньня, а таксама кампазыты, утвораныя паўторам каляроніму або ўжываньнем колеравага сыноніму ў першай частцы. У мастацкім радку яны дазваляюць перадаць найдрабнейшыя адценьні колеру, вылучыць нейкую дэталь, акцэнтаваць на ёй увагу чытача: *Плакаў стары, абціраючы вочы, / Сьлёзы буйныя сплывалі равочкам, / З твару ў кары й лішаёх* ***сіваватых****, / Зьзялі расою на вуснах калматых* („Лясун"); *Ён паблытаў дзіўныя вузоры / Ў гальлі разварушаных дрэў, / Ён маркотныя ніваў разоры /* ***Сьнежна-белай*** *пялёнкай адзеў…* („Першы сьнег").

Такім чынам, матэрыял паказвае, што колеракод *белы* як адзін з найбольш важных у Натальлі Арсеньневай валодае істотным сынтагматычным і сымбалічным патэнцыялам, вызначаецца багацьцем асацыяцый і разам з тым захоўвае традыцыйнае значэньне чысьціні, некранутасьці.

Яшчэ адзін прадуктыўны ў мове твораў паэткі колеракод — *сіні*. У большасьці выпадкаў ён рэпрэзэнтаваны ўласнакодавым каляронімам. Сіні ў традыцыі сымбалізму — *„гэта і ўвасабленьне патаемных жаданьняў, мараў і нават намёк на недасяжнае, іншымі словамі, на сусьветныя, касьмічныя гармоніі"*[14]. Як сьведчаць розныя дасьледаваньні, у мінулым *сіні* меў звычайна адмоўную канатацыю. Так, на думку Ё. Гётэ, *сіні* выяўляе *„дзіўнае й амаль невыказнае ўзьдзеяньне. Як колер — гэта энэргія, але ён стаіць на адмоўным баку… У ім спалучаецца нейкая супярэчнасьць узбуджэньня й спакою"*[15]. Але ў Натальлі Арсеньневай каляронім толькі ў нязначнай ступені адлюстроўвае адмоўную канатацыю. Лексэмы з такой характарыстыкай фіксуюцца ў тэкстах паэткі нячаста й пераважна ў малюнках вечара й ночы: *І ходзіць па месьце зьмярканьне ў зрэб'і /* ***Сьсінелымі*** *пальцамі сэрцы цярэбіць* („А ўсё ж будзем жыць"). Пазытыўная ж сымболіка сіняга колеру вы-

[14] Званарова, Л. Колеравая сімволіка ў паэзіі Зінаіды Гіпіюс і Натальлі Арсеньневай… С. 140.
[15] Гёте, И.-В. Избранные сочинения по естествознанию. Москва, 1957. С. 315.





разна прасочваецца праз карэляцыю з вобразамі нябесных рэалій. Натальля Арсеньнева падчас цяжкіх жыцьцёвых выпрабаваньняў, як і кожны хрысьціянін, шукае падтрымкі ў Богу, у веры, якія ўвасобленыя ў вобразе чыстага неба, супрацьпастаўленага зямным клопатам: *Ад злых, нявеплых песьняў гора, / Ад зморай шэрае зямлі, / Ў неба* ***сіню****, ў неба мора / Ты зрок прыстаралы падымі. / У* ***сінім*** *небе няма распачы глухой, / Што гасіць паволі ўсё, / Пад* ***сінім*** *небам усё іначай — / Здаецца сьветлым, як сны, жыцьцё…* („Пад сінім небам"); *Краскі — памяткі песьні званкіх жаўрукоў / Пад паветкаю* ***сініх*** *нябёс* („Ішла вясна").

Сіні колер невыпадкова ёсьць сымбалем Радзімы, бо менавіта „сінія" (сьветла-сінія, цёмна-сінія — гэта ўжо іншая рэч) — канцэптуальныя для беларуса паняцьці: неба, рэкі, азёры, лён, валошкі. Разам з тым адзначым, што побач зь *сінім* у апісаньні Айчыны пасьлядоўна ўжываюцца каляронімы *блакітны* й *васільковы*: *Сягоньня — Бацькаўшчына й мы — адно. / У кажным сэрцы тут яе аскепак* ***сіні*** */ Мігціць, запаўшы глыбака на дно.* („Чаго тужыць"); *Тады ўміг зьвяз сталёвы / З* ***блакітнай*** *Бацькаўшчыны зьвяжам, / І раз нарэсьце моцным словам ня нам, / А мы штось сьвету скажам!* („Сталёвы зьвяз"); *…Шчасьце — ява, праўда, не адно — надзея, /* ***Васільковай*** *цішай Беларусь* ***сінее****…* („Не заплачу болей").

Каляронім у паэткі выразна выяўляе так званыя *„няўласныя якасьці колеру"*, адлюстроўваючы аптычную сэму *„адлегласьць да аб'екту"* й тэрмічную сэму „холад": *Тонкай мглой абвязаліся* ***сінія*** *далі, /* ***Сінія-сінія*** *далі на ўзьмежжы нябёс* („Разьвітаньне"); *Студзёныя хмары паўзуць у руіны, / Настыглую цэглу* ***лілёвяць і сіняць****…* („А ўсё ж будзем жыць"). Але адначасова ў Натальлі Арсеньневай каляронім можа рэалізоўваць і адваротнае значэньне — „цяпло": *Загулі, запелі цёплым* ***сінім*** *раньнем / Галасы гармат, / Галашэньнем-плачам бабы да аселіц / Выправілі ўзятых на вайну салдат* („Стары Сымон"). Згаданая зьява мае важнае значэньне для правільнага разуменьня мастацкага тэксту. У асобных выпадках побач з вобразнай характарыстыкай аб'екту аўтар паказвае й на яго прасторавае разьмяшчэньне, дае нейкую дадатковую інфармацыю. У сваю чаргу, гэтую інфармацыю трэба своечасова расшыфраваць, прааналізаваўшы ролю каляронімаў у кантэксьце. Сярод іншых адметных прыкладаў выкарыстаньня элемэнтаў колеракоду прыгадаем наступныя выпадкі індывідуальна-аўтарскай інтэрпрэтацыі колералексэмаў: *Вёсны кідалі вам на вакно, / На зялезныя йржавыя краты /* ***Зырка-сіняга*** *шоўку малы, / Недарэчна малы шкуматок…* („Краіне"); *Зьвініць мэлёдыя… / Калышуць*

*цішу тоны, / Пяе ўсё аб вясьне* ***лілёвы*** *змрок* („Мэлёдыя“). Сынтагма ***лілёвы*** *змрок* — сапраўды паказальная ў сэнсе разуменьня спэцыфікі колераўспрыманьня Натальлі Арсеньневай. Варта згадаць, што, паводле нашых дасьледаваньняў, „змрок“ у творах беларускіх пісьменьнікаў найчасьцей „шэры“.

Падсумоўваючы сказанае, заўважым яшчэ раз, што *сіні* — перадусім пазытыўны колер у творах Натальлі Арсеньневай. І, можа быць, пазытыўны ў большай ступені, чым у іншых беларускіх паэтаў. Нездарма ж колеравая прымета засталася зафіксаванай і ў назьве зборніка — „Пад ***сінім*** небам“.

Іншыя храматычныя колеракоды — *зялёны* й *чырвоны* — рэпрэзэнтаваныя ў мастацкіх кантэкстах прыблізна з аднолькавай частотнасьцю. *Зялёны* ў паэткі сымбалізуе сьвет прыроды, душэўную раўнавагу, якая набываецца ў тым ліку і ў жывым асяродзьдзі, сярод прыроды. Можна сказаць, што *„гэта той тып сьветаўспрыманьня, калі чалавечая, творчая ўвага канцэнтруецца на пэўных імгненьнях, у перажываньнях, што імкнуцца ўраўнаважыць лёс чалавека зь лёсам Натуры, адчуваньнем паўнаты і сьвяточнасьці быцьця, спрабуюць перадаць нават у будове верша гармонію, лагоднасьць навакольнага сьвету“*[16]: *Не ў царкоўцы, малітвай, сьвятою вадой — / Ахрысьціў мяне нехта ў* ***зялёнай*** *дуброве* („Ахрысьціў мяне нехта ў зялёнай дуброве.“). Большасьць каляронімаў коду — лексэмы з значэньнем чыстага колеру, нярэдка мэтафарызаваныя: *Абляцелі вішні. Пагусьцелі клёны, / Зашумеў, бы ўлетку, сьвежы, новы гай, / Праляцеў нячутна красавік* ***зялёны****, / На зямлі пануе сьветла-пышны май* („Май“). А. Някрасава слушна заўважае, што *„аб’яднаньне ў адно спалучэньне канкрэтнага колеравага эпітэту й назвы часавага адрэзку стварае пачуцьцё незвычайнасьці, нечаканасьці дадзенага ўжываньня“*[17].

Сярод іншых лексэмаў з значэньнем зялёнага колеру адзначым памастацку пераўвасобленыя каляронімы ў наступных кантэкстах: *Дзень канаў зь недаверлівай, кволай усьмешкай, / З прыкрай, горкай, усьмешкаю хворых людзёў, / І зьвінелі яму разьвітаньне узьмежкам /* ***Зелянкавыя*** *конікі — дзеці палёў* („Разьвітаньне“); *Я не жыву вясной. /* ***Рунеюць*** *сенажаці, / Курэе сіні дым над кратамі палёў…* („Заміж мяне“). Значэньне каляроніму-дзеяслова *рунець* — *„вылучацца зялёным колерам“* і *„ўзыходзячы, зелянець“*. Сэмантычны характар колераабазначэньня рэглямэнтуецца кантэкстам. Выкарыстоўваючы сталую прыкмету зьявы, Натальля Арсеньнева ўзбагачае сэнсавую структуру лексэмы, якой гэтая зьява называецца.

Варта адзначыць, што значную колькасьць колеранайменьняў коду *зялёны* складаюць кампазыты: *чорна-зялёны*, *жутла-зялёны*, *цёмнарунны*, *ясна-зялёны*, *фасфарычна-зялёны* й інш. Таму можна сьцьвярджаць, што ў межах колеракоду *зялёны* складаныя колералексэмы нясуць надзвычай істотную вобразную нагрузку.

*Чырвоны* ў мове твораў Натальлі Арсеньневай — гэта ў першую чаргу колер сонца, часьцей — яго заходу, колер сьвітаньня, а таксама колер восені: *Яе лістаю я, — / А сонца дыск* ***чырвоны*** */ Зьбіраецца тым часам наўцёк* („О, родны край!“); *А ўвосені ізноў — заміж мяне асіны /* ***Чырвоны*** *гасяць жар у рэдкім тумане…* („Заміж мяне“). Але часам адценьне чырвонага — мастацкае ўвасабленьне вайны, пакутаў, гора. Эпітэт *крывавы* ў наступным фрагмэнце толькі падмацоўвае адмоўную сымболіку: *Не рупіць іх ніщто. / Жахлівыя змаганьні, магутны чар вайны, /* ***Крывавыя*** *сьвітаньні больш не хвалююць іх…* („Палеглым“). Такая эмацыянальна-экспрэсіўная афарбоўка каляроніму можа быць патлумачаная й наступным чынам. Пакуты й бадзяньні, якія зазнала пісьменьніца праз савецкія ўлады, абумовілі прысутнасьць элемэнтаў антысаветызму й антыбальшавізму ў яе грамадзянскай пазыцыі. *„У Арсеньневай,* на думку Званаровай, *гэта адчуваецца й на ўзроўні яе стаўленьня да рэвалюцыйнага чырвонага колеру, якім так захапляліся савецкія паэты, яе сучасьнікі. Паэтка ўводзіць яго ў свае тэксты вельмі рэдка, аддаючы перавагу блізкім колерам“*[18]. Такімі выступаюць сэмантычна блізкія лексэмы — *ружовы*, колеранайменьні са значэньнем „ярка-чырвоны“ — *барвовы*, *пурпуровы*, *вішнёвы*, а таксама дзеяслоў *ірдзецца* — *„вылучацца ярка-чырвоным колерам“*: *Гул пайшоў па вёсцы: ад гасьцінца, / Сьценкай* ***ружавеў*** *празрысты, залацісты пыл…* („Зьнічы“); *Ападаў на мае сьляды, па расе, / Дрэў* ***барвовых*** *ліст, / Спавіваў, як брылі гады, / Ў чар нязвыклы маё „калісь“* („Чалавек чалавеку брат“); *Пажарышчаў дзікіх мой верш / І так не згасіць, / Ня змые з душ людзкіх /* ***Пурпуровай*** *крыві* („Сягоньня“); *Ногі ранамі крывавымі,* ***зайрдзелі****, / Вецер старэчы вочы прыгасіў* („Ён дайшоў“); *Мо такімі, якія да плыні вясёлкавай / Дадалі б яшчэ з*

[16] Сямёнава, А. Лёс і над Лёсам // Арсеньнева, Натальля. Яшчэ адна вясна. Менск, 1996. С. 11.

[17] Некрасова, Е. Синее, голубое у С. Есенина // Русская речь. 1979. №4. С. 40.

[18] Званарова, Л. Колеравая сімволіка ў паэзіі Зінаіды Гіпіюс і Натальлі Арсеньневай… С. 108.

*дзесяць нязначных нам колераў, / Накурылі б у душах купальскімі зёламі, / Запарушылі б вочы* ***вішнёвымі*** *зорамі* („Адсьпяванае“).

У многіх кантэкстах выяўляецца непасрэдная асацыятыўная сувязь пэўных каляронімаў з агнём, але звычайна праз мэтафарызацыю: *У той вечар — твой ён — / У душы нам сыпаў лявоніх залацісты, /* ***Агністы*** *апад...* („Песня“); *Вершы вашыя пугамі б’юць па людзёх, /* ***Агнявымі*** *маланкамі паляць сумленьні* („Маладым паэтам“).

Адначасова паэтка стварае самабытныя колеравыя кампазыты, што ў дастатковай ступені адлюстроўваюць сынкрэтычны характар індывідуальна-аўтарскага колераўспрыманьня — *шыпшынна-ружовы* й *шыпшынна-жывы*: *Лёгкі ветрык разгортвае вопратку, / Навакола — бой сьценяў і зьзяньняў, / Небам — хмары* ***шыпшынна-ружовыя****, / Ў сэрцы — ціхае, яснае сьвята* („Музыка“); *А захад згарае ў зьменных адценьнях / Прадзіўнае хварбы* ***шыпшынна-жывой****...* („Вячорная часіна“). Першая частка кампазытаў — згадка пра кветку-шыпшыну, адзін з сымбаляў Беларусі.

Такім чынам, колеракод *чырвоны* таксама рэпрэзэнтаваны ў творах Натальлі Арсеньневай значнай колькасьцю колераэлемэнтаў, многія зь якіх маюць індывідуальна-аўтарскі характар. Багацьце колеравых адценьняў — адна з найбольш выразных прыкметаў моўнага майстэрства паэткі.

Нарэшце разгледзім два ахраматычныя колеракоды — *шэры* й *чорны*. Шэры колер, як правіла, сымбалізуе ў Натальлі Арсеньневай цяжкасьці жыцьця, нудоту, будзённасьць: *Дні за рукі ўзяліся, / Ідуць* ***шэрым****, жудкім, глухім карагодам, / Абіваючы з душаў, з галін / Цьвет вішнёвы ці прагу жыцьця...* („Краіне“). Больш прадуктыўнымі ёсьць каляронімы са значэньнем чыстага колеру, але побач ужываюцца й колеранайменьні *шызы*, адсубстантыўныя прыметнікі *попельны*, *сталёвы*, кампазыты *срэбна-шэры*, *брудна-шэры*, *бура-шэры*, *шэравокі*: *Ён заплакаў так дзіка, што* ***шызыя*** *гулі / Узьняліся стралой з падваконьня ў блакіт* („Косы“); *Як штадня, месца ймкне, мітусіцца, бяжыць, / Аж ня ляжа на ходзішчы* ***попельны*** *вечар* („Усьмешка“); *Істужкай сьцежка ўецца ў жыце, / Зьбягае ўніз, пайзе вышэй, / Паўз ручаёў* ***сталёвых*** *ніці / Бяжыць кудысь далей, далей...* („Вячорны абразок“); ***Срэбна-шэра*** *курэў гарэшнік, / Шнур алівак і вінных лоз...* („І была там вясна...“). Як бачна, колераэлемэнты коду звычайна ня маюць адмоўнай канатацыі, у адрозьненьне ад уласнакодавага каляроніму.

У параўнаньні зь іншымі каляронімамі *чорны* фіксуецца ў вершах Натальлі Арсеньневай радзей, і пераважна гэта колер-дамінанта. Прыметнік традыцыйна рэалізуе сымбалічнае значэньне „зло“, „сьмерць“: *„Маладзік так ведзьмы сочаць, / Зельле йрвуць па роснай ночы, /* ***Чорны****, злы, атрутны плён...* („Зачараваны кут“).





Акрамя кодавай лексэмы ў структуру ўваходзяць і два кампазыты — *чарнатканы* й *чарнабровы*, якія звычайна ня маюць адмоўнай канатацыі*: Няма ўжо вас... / Вы там, няўрокам, дзе сьвецяць зоры серабрана, / Дзе* ***чарнатканыя*** *туманы хаваюць дзень. / Вы дзесь далёка...* („У задушкі“). *Усьміхнецца хвойнікам і дубровам, / Як Лявон Лявонісе* ***чарнабровай*** („Лявоніха“).

Колькасьць ужываньняў каляронімаў, аб’яднаных паняцьцем „шматфарбавасьць“, можа лічыцца дастаткова значнай. Складаныя словы *шматкалёрны* й *шматхварбны* ўтрымліваюць аднолькавую першую частку: *Слова — будзь жа паэту слухмяным! / Зь цябе вытку пояс* ***шматкалёрны****, / Каб агнём у ім ніткі гарэлі...* („Часта ўвечары“); ***Шматхварбным*** *дыванам, красой-вясной сатканым, / Кладзецца сенажаць...* („Улетку“). У гэтую ж групу ўваходзяць выкарыстаныя ў мастацкім радку прыметнікі *каляровы*, *рабы*, *пярэсты*: *Сяньня раніца й сонца / Уставалі ў вянку з* ***каляровых*** *агнёў / І карункамі йльдзянымі зьзялі / Залатыя галіны кляноў* („Першы сьнег“); *За сынам ірванулася, горкая, ўсьлед: / Над усё ёй здалося найвышэйшым — / Яшчэ раз прыпасьці да* ***рабое*** *бравэркі, / Абвіць, бы драсён, цела хлопца рукамі...* („Косы“). Каляронім *пярэсты* звычайна ўказвае на афарбоўку пер’я птушак ці масьць жывёл: *Ды сьпявалі птушкі / Ў лесе, як сягоньня: / Берасьцянкі, і шчыглы, / І дрозд* ***пярэсты*** *й салаўі, / На зьмерку й ранкам...* („Песьні“). Лексэмы са значэньнем „шматфарбавасьць“, як паказвае матэрыял, звычайна адлюстроўваюць станоўчую эмацыянальна-экспрэсіўную афарбоўку або выступаюць стылістычна нэўтральнымі.

Такім чынам, можна сьцьвярджаць, што колера-вобразная палітра Натальлі Арсеньневай вельмі багатая. Моўныя сродкі, што выкарыстоўваюцца паэткай, даюць магчымасьць перадаць найдрабнейшыя нюансы афарбоўкі, адыгрываюць істотную ролю ў рэалізацыі аўтарскай задумы. Варта пагадзіцца зь меркаваньнем Л. Тарасюк, што для паэзіі Натальлі Арсеньневай характэрная *„імпрэсіяністычнасьць мастацкага пісьма“*.

Прааналізуем асобна выкарыстаньне ў мастацкім тэксьце Натальлі Арсеньневай адмысловага прыёму колерапісу — колеравай гармоніі. Яшчэ ў Старажытнай Грэцыі гармонію разумелі як *„яснае адрозьненьне колераў і разам з тым іх набліжанасьць, зьмякчэньне адносін паміж*

*адценьнямі й сьвятлаценем; невялікую колькасьць дамінантных колераў і яснасьць колеравай кампазыцыі“*[19].

А. Зайцаў сьцьвярджае таксама, што *„паняцьце гармоніі абавязкова ўключае ў сябе й дысгармонію як сваю антытэзу. У творах жывапісу спалучэньне колераў не заўсёды выступае як прыемнае, якое радуе вока. Факт гэты можна патлумачыць тым, што ў шырокім сэнсе слова гармонія выконвае функцыю ня толькі дэкаратыўную, але й эмацыянальна-зьмястоўную, сьветапоглядную“*[20].

Такім чынам, пад колеравай гармоніяй мы разумеем спалучэньне некалькіх каляронімаў у межах мікракантэксту, якое рэалізуе станоўчую эмацыянальна-экспрэсіўную афарбоўку. А пад колеравай дысгармоніяй — спалучэньне колераэлемэнтаў, якія ствараюць адмоўную канатацыю.

Існуе лінгвістычная клясыфікацыя колеравай гармоніі, што грунтуецца на выкарыстаньні каляронімаў аднаго ці некалькіх кодаў. Вылучаюцца аднакодавая гармонія, заснаваная на ўжываньні розных колераэлемэнтаў аднаго колеракоду, двухкодавая, калі выкарыстоўваюцца каляронімы двух розных кодаў, і шматкодавая, пабудаваная на ўжываньні каляронімаў трох і больш розных кодаў. Пад увагу бярэцца й колькасьць кампанэнтаў, якія ўтвараюць пэўны тып гармоніі.

Аднакодавую гармонію мы найчасьцей выяўляем у межах колеракодаў *жоўты*, *белы*, радзей — *чырвоны* й *сіні*. Аднакодавую гармонію жоўтага колеру ўтвараюць, у прыватнасьці, колераэлемэнты *руды* й *залаты* ў карцінах апісаньня восені: *Парасьлі, быццам хутрам **рудым**, узбярэжжы: / Хмызьнякі ды лазоўе, і ўсё **залатое*** („Гэтак будзеш ты мной“). Такая карціна не зусім звыклая, бо каляронім *руды* найчасьцей успрымаецца адмоўна. „Белая“ аднакодавая гармонія ствараецца каляронімамі *белы* й *срэбны (сярэбраны)*: ***Белы** пыл як туман **серабраны**, / Залёг нізам, вышай. / Стаяў вечар, пачаты на росных лугах, / Ціша... ціша...* („Тае вечар“).

Часьцей за ўсё ў творах Натальлі Арсеньневай адна- й двухкодавая гармонія — двухкампанэнтавая. Але ў межах кодаў *жоўты* й *белы* адзначаюцца факты пабудовы аднакодавай трохкампанэнтавай гармоніі: ***Золата**, мосьцяж і **медзь** / Сонца дакоўвае раньнем, / Не раскуе толькі ймглы, / Што спавіла сенажаць. / Зноў напілася зямля / Соннага зельля туманаў / І у **рудое** рызьзё лісту / Зарылася спаць*

[19] Миронова, Л. Цветоведение. Мінск, 1984. С. 13.

[20] Зайцев, А. Наука о цвете и живопись... С. 106.





(„Асеньняя дарога“); *Вось і буду — вясьне ўторыць, / І зь вятрамі ў платох сьпяваць, / Але расою **сівой**, вячорнай / Наліецца ў лагох трава, / Ажно **белымі** йгрушаў туманамі накрые ноч, / Ажно вочы мне зацярушаць іскры — / Месяца **серабро**!* („Буду сяньня“).

У „чырвонай“ аднакодавай гармоніі адзін з двух кампанэнтаў часта рэпрэзэнтаваны апісальным шляхам ці мэтафарай: *А па судзе, унačы, залапаталі крыльлем **чырвоным** пеўні, / І... пад бязьмежжам ніў, над грабянямі стрэх, / Над пенай ліп расьцьвілых / **Шугнуў жывой крывёй** вялізны, зыркі зьніч* („Зьнічы“).

У межах кодаў *зялёны*, *чорны* й *шэры* намі не выяўленыя выпадкі выкарыстаньня аднакодавай гармоніі.

Сярод двухкодавых гарманічных камбінацый вылучым спалучэньні *белы—жоўты*, *белы—сіні*, *жоўты—сіні*. Як бачна, спалучаюцца колеракоды, якія ёсьць самымі распаўсюджанымі ў паэзіі Натальлі Арсеньневай.

У гармоніі *белы—жоўты* часта адзін з колераў „мэталічны“ — *срэбны* ці *залаты*. Гэта стварае прыгожы, казачны, зіхатлівы малюнак, але неабавязкова з выкарыстаньнем сьветлавой лексыкі: *За калыскай, за хатай былі дарогі, / Ногі босыя й **срэбны**, як росы, пыл, / І далёкіх бароў **бураватыя** рогі, / І на пожнях нябёс — балачын снапы...* („Косы“).

Гармонія *белы—сіні* — гэта часьцей за ўсё спалучэньні са словамі прадметна-тэматычных груп „зьявы прыроды“ — неба, туман, смуга й інш.: *Ён там, дзе ў **срэбным** пыле лоз, / У **сіняй** смузе над палямі вісіць вясна...* („Ускрэсьні!“).

Гармонію *жоўты—сіні* прадуктыўна рэпрэзэнтуюць колераэлемэнты *залаты—сіні* пераважна з мэтай стварэньня вясновых краявідаў: *Зацьвітае вясновай цьвіляй / У сасоньніках **сіні** сон, / Сонца **золатам** косы чаромхай / Падплятае, мігціць у траве...* („Вясновае“).

Надзвычай маляўнічы эфэкт ствараецца гарманічным спалучэньнем *блакітнага* й *сіняга*: *Хочацца глядзець, заглядаць бясконца у **блакіт** празрысты, / Аб нічым ня думаць, толькі сьніць і сьніць, / Сьніць аб **сінім** небе, гэткім чыстым, чыстым, / І аб сонцы й шчасьці, што мне значаць дні* („Май“). Зразумела, што колеракоды сэмантычна вельмі блізкія, толькі неістотна адрозьніваюцца ступеньню сьветлавой насычанасьці.

Досыць выразна ў мове вершаў Натальлі Арсеньневай адлюстраваныя гарманічныя камбінацыі *сіні—зялёны* й *жоўты—чырвоны*. Гэтыя два спалучэньні, у адрозьненьне ад іншых, не ўтвараюць колеравай дысгармоніі (за адзінкавым, магчыма, выключэньнем), а малююць

карціны жыцьцесьцьвярджальнай моцы прыроды. *„Абавязковай прыметай гармоніі заўсёды лічылася наяўнасьць такіх якасьцяў, як прапарцыйнасьць, раўнавага, сугучча“*[21], што яскрава выяўлена ў згаданых спалучэньнях колераў. Гармонія *сіні—зялёны* — гэта, як правіла, яднаньне дзьвюх стыхіяў — неба й зямлі, вады й зямлі, а гармонія *жоўты—чырвоны* стварае дадатковае буяньне фарбаў прыроды, будзіць цэлы шэраг сапраўды яскравых асацыяцый: *Набрынялі мястовыя лозы, / Заўтра возьмуцца* ***зелянець****, / Над каменнымі плітамі крозіць / Аб далечах, дзе вецер* ***сіней****...* („Лозы“); *І пачну я табой паміраць на галінах / Звонка, шчыра, і* ***жоўта****, і* ***зырка-чырвона****, / А ты мной угарышся у вершах і чынах, / Я рудым пусталістам, а ты — пустазвонам* („Гэтак будзеш ты мной“). Апошні прыклад — ілюстрацыя двухкодавай трохкампанэнтавай гармоніі. Адзначым, што трохкампанэнтавы від гармоніі для спалучэньня *жоўты—чырвоны* вельмі прадуктыўны, у адрозьненьне ад іншых колеравых параў. Да таго ж суседзтва гэтых колераў Ё. Гётэ называў такім, *„якое ўзбуджае, вылучаваецца яркім характарам“*.

Значная колькасьць спалучэньняў належыць да шматкодавай гармоніі: ***Сінь*** *рахманая. /* ***Зялёнае*** *бязьмежжа. /* ***Срэбны*** *пыл пяскоў. / Мо гэта чары?* („Узьбярэжжа“); *Над дахамі, увыш узьняўшы* ***бель*** *крыльля, / Стаіць, усё* ***ў вагні****, Трохкрыжжа на старожы, / І кленчыць перад ім лясоў* ***лілёвых*** *шлях / Ды налітыя ймглою далечы* ***бурых*** *пожняў...* („Вечар у Вільні“). У апошнім прыкладзе чырвоны колер перадаецца апісальным шляхам — праз мэтафарызацыю *„стаіць усё ў вагні“*. Увядзеньне ў мікракантэкст адразу некалькіх каляронімаў стварае цалкам іншы настрой, актывізуе зрокавыя асацыяцыі, дазваляе па-новаму ўбачыць апісанае.

Побач з гарманічнымі ўжываюцца й дысгарманічныя сынтагмы. *„Калі для антычнасьці, Сярэднявечча, Адраджэньня менавіта гармонія была ідэалам, то ўжо ў эпоху барока ад гарманічнасьці часта схіляюцца да дысанансу. У нашае стагодзьдзе экспрэсіянізм рашуча адштурхнуў клясычныя прынцыпы колеравай гармоніі. У пошуках большай выразнасьці часта зьвяртаюцца да знарок дысгарманічных колеравых спалучэньняў“*, — заўважае дасьледнік клясычнай эстэтычнай думкі В. Бычкоў[22]. Гэта датычыць і паэзіі. Найбольш прадуктыўная аднакодавая дысгармонія — у межах кодаў *жоўты* й *чырвоны*: *Здаецца,* ***жоўцяй*** *наліўся дзень, /* ***Рудая*** *вусьціш паўзе зусюль, / У кажным кусьце. / Душу нідзе ад сьмерці* ***жоўтай*** *я ня ўтулю* („Вусьціш“); *А над сьлязьмі яе* ***пурпурныя*** *лісткі / Зрывае лістапад —* ***крывавы*** *старац з кіем...* („Сыны і маці“). Адмоўную канатацыю ў спалучэньнях, якія належаць да коду *чырвоны*, стварае, як правіла, кампанэнт *крывавы*, а ў спалучэньнях коду *жоўты* — колераэлемэнт *руды* пры адсутнасьці „залатой“ фарбы. Прыгадаем, што лексэма *руды* ў Натальлі Арсеньневай можа выступаць і кампанэнтам гарманічнага спалучэньня.

Больш за ўсё дысгарманічных двухкодавых сынтагмаў зафіксавана намі ў межах кодаў *жоўты—шэры* й *жоўты—белы*. У першым выпадку амаль заўсёды жоўты колер бляклы або набліжаны тонам да карычневага, а ў другім белы часьцей рэпрэзэнтаваны колераэлемэнтам *сівы*: *Дзень асеньні ўстае па-над нівамі, / Праціраючы вочы сьлязьлівыя, /* ***Йржавай*** *рызай лісьця ды анучамі /* ***Брудна-шэрых*** *туманаў абкручаны...* („З восеньскіх настрояў“); *Твар у гліну* ***рудую*** *туліць жах сьмяротны / У* ***сівых*** *вачах, захлынаецца — ой... матуля. / А табе тут: „Чакай, ня плач!“* („Маці“). Адмоўная канатацыя каляроніму *сівы*, магчыма, узьнікла праз асацыяцыі з горам, перажываньнямі, з прычыны якіх колер валасоў чалавека й робіцца сівым.

Багаты сынтагматычны патэнцыял выяўляюць элемэнты кодаў *чорны, сіні* й *шэры* ў стварэньні двухкодавай дысгармоніі. Сіні колер набывае адмоўную эмацыянальна-экспрэсіўную афарбоўку, калі выкарыстоўваецца ў апісаньні скуранога покрыва чалавека (што ніколі не лічылася прыкметай добрага стану здароўя) ці прыроды, якая прыпадабняецца да такога чалавека, — назіраецца зьява антрапамарфізму: *Над мутнай вадой каляінаў, / Над* ***бураю*** *гонтаю дахаў, / У страху калматыя елкі / З імглістага хутра галінаў / Выцягваюць* ***сінія*** *пальцы ў цёмнае неба...* („Асеньняю цішай“).

Заўважым, што ў дысгармоніі *чорны—белы* кампанэнт коду *белы* рэпрэзэнтаваны некалькімі каляронімамі, за выключэньнем лексэмы са значэньнем чыстага колеру: *Быў сакавік. / Але і вал* ***счарнелых*** *цэлаў / У палынох* ***сівых*** *над Ворсклай...* („Ты не адна“). Спалучэньне чыстых чорнага й белага колераў у вершаванай мове паэткі ўтварае кантраст, які зусім не абавязкова павінен успрымацца адмоўна.

Дысгарманічная канструкцыя *чорны—чырвоны* набывае сымбалічнае значэньне „бяда, вайна, руйнаваньне“, перадае эмацыйнае адчуваньне напружанасьці: *Раз па разе грымела пагрозьліва, зьдзекла / Над стаптанаю руняй, і сьценям / Пад ногі выбухала* ***чырвонае*** *й* ***чорнае*** *пекла, / Разрываючы цэлы і пасмы дарогі...* („Косы“).

[21] Зайцев, А. Наука о цвете и живопись... С. 91.

[22] Бычков, В. Византийская эстетика. Москва, 1977. С. 107.

Адносна рэдка ўводзіцца ў кантэкст Натальляй Арсеньневай шматкодавая дысгармонія: *І загуло яно віхурай* ***пурпуровай*** */ У ветразях* ***сівых і бура-шэрых*** *хмар* („Туга“). Гэта прыклад чатырохкампанэнтавай дысгармоніі. Дарэчы, калі ў склад адна- й двухкодавай гарманічнай ці дысгарманічнай сынтагмы ўваходзіць колеравы кампазыт, то такі тып спалучэньняў мэтазгодна лічыць пераходным. Гэта тлумачыцца тым, што колеравы кампазыт утрымлівае дзьве розныя фарбы, якія належаць да розных кодаў, але адзін з кампанэнтаў самастойны, а другі — факультатыўны, дапаўняе першы, акцэнтуе ўвагу на адценьні пры характарыстыцы зьявы: *Паўшываў у хусьцё палявін / Вечар прошвы* ***ружова-сінія,*** */ Далеч хмелем* ***сівым*** *завіў, / Пачыркаў соткай мяккіх лініяў* („На прадвесьні“). Гэта прыклад гармоніі пераходнага тыпу — ад двухкодавай да трохкодавай.

На нашую думку, мэтазгодна клясыфікаваць як шматкодавыя спалучэньні, у склад якіх уваходзяць лексэмы са значэньнем „шматфарбавасьць“. У самім паняцьці якраз і заключаецца сутнасьць зьявы, калі ў кантэксьце выкарыстана некалькі лексэмаў з рознымі сэмантычнымі адценьнямі бязь іх дакладнай характарыстыкі. Таму канатацыя сынтагмы будзе залежаць ад другога кампанэнту, а каляронімы названай групы ёсьць па сутнасьці нэўтральнымі. У паэзіі Натальлі Арсеньневай такія спалучэньні ўтвараюць толькі гармонію: *Сяньня раніца й сонца ўставалі / У вянку з* ***каляровых*** *агнёў / І карункамі ільдзянымі зьзялі /* ***Залатыя*** *галіны кляноў* („Першы сьнег“). Разам з тым у асобных творах Натальлі Арсеньневай адзначаюцца ўжываньні сынтагмаў з паслабленай станоўчай канатацыяй — *„слабая гармонія“* (С. Лясовіч): *Зноў* ***сінее*** *зімовая далеч, / Зноў* ***зяленяцца*** *змрокі, як лёд, /* ***І гарыць пурпуровай эмаляй*** */ Нежывы і халодны заход.* У прыведзеным мікракантэксьце адмоўную эмацыянальна-экспрэсіўную афарбоўку надае радок *„нежывы і халодны заход“*. Але наступная страфа — з выразнай колеравай гармоніяй, якая нібы супрацьпастаўляецца папярэднім радкам: *А нядаўна, здаецца, учора, / На* ***блакітных*** *палотнах нябёс / Ткалі шоўкам* ***зялёным*** *вузоры / Маладыя галіны бяроз...* („Новая зіма“). Такія пэйзажныя замалёўкі сапраўды выклікаюць захапленьне, дазваляюць дастаткова выразна зрокава ўявіць апісанае. А выкарыстаны прыём колеравай гармоніі як найлепш расквечвае вершаваны фрагмэнт яскравымі адценьнямі, выклікае замілаваньне й захапленьне.

Можна меркаваць, што колеравая гармонія — неад’емны кампанэнт колерапісу ў творах Натальлі Арсеньневай, адмысловы сродак паэтычнай вобразнасьці.





Колеравы вобраз значна лепш успрымальны й багаты, калі ўдакладнены адценьнямі. Менавіта таму аўтары ў паэтычным тэксьце выкарыстоўваюць кампазыты. *„Яны,* — заўважае Дз. Паўлавец, — *нагадваюць зьлітнае, непадзельнае словазлучэньне й зазвычай нясуць даволі моцны запал эмацыянальнасьці й экспрэсіўнасьці“*[23].

Можна вылучыць наступныя агульныя групы колеракампазытаў на аснове іх складовых частак паводле колеравага значэньня:

- колеравыя кампазыты, абедзьве часткі якіх рэалізуюць колеравыя сэмы: *рудава-жоўты*, *бел-чырвоны*, *шэра-буры* й інш.;
- колерава-сьветлавыя — складаюцца з колераабазначальнага й сьветлаабазначальнага элемэнтаў: *зырка-чырвоны*, *цёмна-зялёны*, *бледна-сіні* й інш.;
- колера-няколеравыя — складаюцца з колераабазначальнага й няколеравага элемэнтаў: *чорнаткaны*, *белабокі*, *сінявокі* й інш.

У творах Натальлі Арсеньневай колеравыя кампазыты — гэта досыць вялікая група словаў: *Замялі бярозы жоўты шлях за сонцам / І сустрэлі* ***шэра-серабраны*** *змрок* („Стары Сымон“); *І загуло яно віхурай пурпуровай / У ветразях сівых і* ***бура-шэрых*** *хмар* („Туга“). У паэткі кампазыты, як правіла, зь іншымі каляронімамі ўтвараюць колеравую гармонію: *...Жменя куль, трохлінейкі рамень праз руку / І бандаж у крыві —* ***бел-чырвоны*** *і белы* („Вы пайшлі паміраць“). Дарэчы, толькі кампазыты, якія ўтрымліваюць сэмы „белы“ й „чырвоны“, даволі абмежавана выкарыстоўваюцца ў пэйзажных замалёўках. Пераважна яны рэалізуюць сымбалічнае патрыятычнае значэньне, што зьвязана зь беларускімі нацыянальнымі колерамі.

Колерава-сьветлавыя кампазыты ўжываюцца ў апісаньні краявідаў, але адзначаюцца таксама й пры характарыстыцы выгляду жывых істот: *Зь* ***цёмна-сініх*** *глыбіняў над намі / Ноч зыходзіць спакойна, паволі* („Зоры“); *Вочы балотніцы сьвецяцца /* ***Трухляй жутла-зялёнай,*** */ Засьвецяцца — й зжухнуць* („Балотніца“).

У колерава-няколеравых кампазытах „няколеравым“ элемэнтам ёсьць аб’ект апісаньня: *Ўкруг бярозы стаяць* ***белабокія,*** */ Сыплюць з косаў расплеценых золата...* („Жоўтая восень“). Зьвернем увагу на аўтарскія колеравыя кампазыты-наватворы, якія ствараe Натальля Арсеньнева з элемэнтамі коду *жоўты*: *Ці ў вадзін яшчэ верасень* ***залатаклённы*** */ Мы душою і сэрцам уліпнем?* („Ня так лёгка“); *Прамінула мая*

[23] Паўлавец, Дз. Белы ветразь на сініх азёрах // Полымя. 2000. № 9. С. 240.

*ўлюбёная **жаўтатканая**, / Шкляная восень* („Мяцеліца“); *Ціха восень да ймшы пахавальнай / **Жаўтаткны** дыван расьсьцілае...* („Восень у гаі“); *Косы зьвіняць. / Сьпеўна ўзносяцца зыкі, / Поўняць жыцьцём **жаўтацьвет-сенажаць**...* („На сенажаці“). Такія складаныя лексэмы ўзбагачаюць мастацкі вобраз новымі асацыяцыямі, адначасова канкрэтызуюць аб'ект апісаньня й даюць прастор фантазіі чытача.

Беларуская дасьледніца калярыстыкі С. Лясовіч прапануе адпаведную клясыфікацыю складаных колеравых словаў[24]. Паводле асаблівасьцяў утварэньня выяўленыя ў творах Натальлі Арсеньневай колеравыя кампазыты могуць быць разгрупаваныя наступным чынам:

1) Кампазыты, утвораныя ад двух якасных колеравых прыметнікаў розных колеракодаў: *Пей нам аб сонцы, / Што ў лозах густых / **Жоўта-сярэбраны** гойдае дым...* („Салавей“).

2) Кампазыты, утвораныя ад двух якасных колеравых прыметнікаў аднаго коду. У асноўным гэта паўтор таго самага колераэлемэнту — рэдуплікацыя: *Тонкай мглой абвязаліся сінія далі, / **Сінія-сінія** далі на ўзьмежжы нябёс* („Разьвітаньне“). Да гэтай групы можа быць таксама аднесенае прыслоўе-кампазыт *бела-бела*, бо ўтворанае ад адпаведнага прыметніка: *Без такіх мы прыжджом **бела-бела** ўсьпененых маяў, / Залатога пяску каласоў...* („Краіне“).

3) Кампазыты, утвораныя ад двух якасных колеравых прыметнікаў, адзін зь якіх паказвае на ступень праяўленьня якасьці: *Чырвоны бляск асеньні захад / Праз рэдкі кужаль хмараў цэдзіць, / Густы сасоньнік крые бляхай / З **рудава-жоўтай**, чыстай медзі* („Асеньні вечар“).

4) Кампазыты, якія ўтварыліся ад адноснага й якаснага колеравых прыметнікаў аднаго коду. Адносны прыметнік, як правіла, набыў колеравую сэму ў адпаведнасьці з колерам прадмету ці зьявы, ад якога ўтвораны, — *сьнежна-белы*, *шыпшынна-ружовы*, *зеленарунны*: *Аж усё, што ўвосені згублена / На пусткоўях зрудзелых урочых, / Зноў адной дзецца **зеленаруннаю** / І багуннай вясноваю ночай!* („Мяцеліца“).

5) Кампазыты, якія ўтварыліся ад адноснага й якаснага колеравых прыметнікаў розных кодаў: *Зьбірае ён з роўнаю, пільнай уцехай / І белую наквець вясновых калінаў, / І восеньскіх клёнаў зрудзелыя вехці / Патрапіць набрацца прыгожасьці дзіўнай / І з россыпаў зорных, і з сонечных пасмаў, / І з **чорна-крывавых** рабрынаў руінаў...* („Нашым паэтам“).

24 Лясовіч, С. Колераабазначэньне як сродак вобразнасьці ў паэзіі Натальлі Арсеньневай // Вестник Полоцкого государственного университета. Гуманитарные науки. Т. 1. № 4. 2002. С. 99.





6) Кампазыты, утвораныя ад двух адносных прыметнікаў, адзін зь якіх абазначае колер: *А захад заграе ў зьменных адценьнях / Прадзіўнае хварбы **шыпшынна-жывой**...* („Вячорная часіна“).

7) Кампазыты, якія ўтварыліся ад сьветлавога й колеравага адноснага прыметніка: *І чаму на гнуткіх і пявучых струнах / Новых пуцявінаў сьцежак і дарог / Не пайсьці вось гэткім раньнем **цемнарунным** / Рэзаць маршы жвавым, рэзвым смыкам ног!* („Велікодным раньнем“). Зьвяртае на сябе ўвагу, што калі ў лексэме *зеленарунны* колеравае значэньне другой часткі кампазыту — „рунны“ — паслабленае праз прысутнасьць у першай колеру, сэмантыку якога прыняло на сябе слова „рунь“ („зеляніна“), то ў колераабазначэньні *цемнарунны* другі кампанэнт мае выразнае значэньне „зялёны“.

8) Кампазыты, утвораныя ад якаснага колеравага прыметніка й няколеравага дзеепрыметніка. У Натальлі Арсеньневай гэта ў асноўным дзеепрыметнік „тканы“ — *белатканы*, *чорнатканы*, *жоўтатканы*: *І туман ручніком **белатканым** / Ужо сьцелецца нізка і роўна...* („Ноч“).

Побач з двухкампанэнтавымі кампазытамі Натальля Арсеньнева часам уводзіць у кантэкст і трохкампанэнтавыя колералексэмы. Гэта *бел-чырвона-белы*, які зноў жа цесна зьнітаваны з нацыянальнай беларускай сымболікай і ўжываецца ў вершах патрыятычнай тэматыкі, а таксама *бела-зялёна-ўсьпенены*, дзе трэці кампанэнт — „няколеравы“: *Усё, што ў нас было, што ёсьць, / Усё, што будзе, / **У бел-чырвона-белае** ўваткана палатно* („Зьняважным сьцягам“); *І хоць гэтулькі іх ўжо было* / Вёснаў ***бела-зялёна-ўсьпененых***, / *Яшчэ раз да яе ў палон / Пойдзе сьвет, каб цьвісьці й зяленіцца*! („На прадвесьні“).

Такім чынам, колеравыя кампазыты — своеасаблівая, самабытная лексыка, якая дапамагае мастаку слова ствараць сапраўды маляўнічыя карціны, што так і струменяць рознымі фарбамі й адценьнямі. Зразумела, што гэта вымагае ад паэта дасканалага веданьня законаў колеравай спалучальнасьці, асаблівасьцяў словаўтварэньня. І ў кожным разе колеравыя кампазыты выразна ілюструюць эстэтычныя перавагі аўтара. Можна сказаць, што ў сыстэме колераабазначэньня Натальлі Арсеньневай складаныя колералексэмы — надзвычай важны элемэнт колерапісу. Як, зрэшты, і колеравая мэтафара, колеравае параўнаньне, колеравы эпітэт. Спынімся больш падрабязна на названых стылістычных фігурах, акцэнтуючы ўвагу на спэцыфіцы іх выкарыстаньня паэткай.

Асабліва важная роля ў колерапісе Натальлі Арсеньневай належыць мэтафары. Паводле наяўнасьці ў структуры колеравага кампанэнту мэтафары варта падзяліць на дзьве групы: 1) у склад якіх ува-

ходзіць колеранайменьне; 2) у складзе якіх каляронім адсутнічае, а іх прыналежнасьць да пэўнага колеракоду вызначаецца паводле асацыятыўных сувязяў.

У мастацкіх тэкстах паэткі кожны колеракод у большай ці меншай ступені мае мэтафарычныя спалучэньні першай групы: *На заходзе —* ***шнурком пацёркаў / Зьзяюць хмараў чырвоных каралі*** („Запалілі каштаны“); *А нядаўна, здаецца, учора, / На* ***блакітных палотнах нябёс / Ткалі шоўкам зялёным вузоры*** */ Маладыя галіны бяроз* („Новая зіма“); *Неківайце, калматыя хвоі,* ***/ Чорнай пражаю тонкіх галінаў*** („Ноч“); *Калі* ***воўнай белаю авечкаў / Устаюць туманы*** *з сенажаці* („Калі“); *Пахучай сьвечкай* ***з воску залатога / Канае*** *над палеглымі* ***асеньні дзень****...* („Палеглым“) і г.д. Бачна, што даволі распаўсюджаная своеасаблівая інфільтрацыя мэтафары й колеравага эпітэту. Гэта, на думку Л. Сямешкі, *„па-першае, эканоміць аб’ём апісаньня, па-другое, дапамагае стварыць такую зрокава-асацыятыўную вобразнасьць, якая актывізуе пачуцьці, уяўленьні ў сьвядомасьці чытача, дапамагае ўстанавіць аналёгіі паміж сьветам прыроды й сьветам чалавека“*[25].

Другая група мэтафараў рэпрэзэнтаваная ў Натальлі Арсеньневай тропамі ўсіх кодаў, акрамя „чорнага“: *І ў сваім падарожжы захоплены / Хараством сарабраных сузор’яў / Ці* ***вячорнае медзі растопамі*** („Музыка“); *Зноў* ***васількамі красуе паднеб’е****...* („Успаміны“); *Квола* ***зорная рунь каласіцца****, / Квола* ***месяца зьзяе пажар*** („Незгаданае“); ***У попеле суцьмы*** */ Руды асіньнік тоне...* („Восень“) і інш. Як бачна, пераважаюць мэтафары, што належаць да коду *чырвоны.* Акрамя таго, у колеравых мэтафарах, кодавая прыналежнасьць якіх вызначаецца праз асацыяцыі, патэнцыйнае кола пашыраецца яшчэ й за кошт выкарыстаньня лексэмаў „зара“, „мак“, „шыпшына“*: Што з таго, калі й* ***цьвітуць зарою вейкі****, / Водблііск вечару трапеча увачч*у? („Хараство“); *Зблякне ноч... /* ***Запалае макам-відуком балачын града****...*(„Маці“); *Можа ў мораку* ***яму шыпшынай кроплі / Згуслае крыві цьвітуць?*** („Ён дайшоў“).

Часьцей за ўсё ў творах Натальлі Арсеньневай адзначаюцца мэтафары, значэньне якіх раскрываецца ў канкрэтным мікракантэксьце. У той жа час мэтафара можа выступаць як канструкцыйны кампанэнт тэксту, як элемэнт мастацкай вобразнай мовы, падрыхтаваны папярэднім (ці наступным), больш шырокім кантэкстам (Р. Будагаў). А гэта ўжо патрабуе пэўнай падрыхтоўкі ад чытача, прымушае яго думаць, ацэньваць фрагмэнт зыходзячы з вэртыкальнага кантэксту.

[25] Сямешка, Л. Мастацкія азначэньні колеру і сьвятла ў „Казках жыцьця“ Я. Коласа // Творчая спадчына Я. Купалы і Я. Коласа і разьвіццё славянскіх моў і літаратур. Менск, 1982. С. 106.





Паводле сэмантычнай суадноснасьці й сынтагматычных уласьцівасьцяў зафіксаваныя мэтафарычныя колеравыя спалучэньні можна падзяліць на некалькі групаў:

1) Мэтафары, выкарыстаныя ў пэйзажных замалёўках. Гэта самая вялікая група: *Выходзіць з лагчынаў зьмярканьне, /* ***Абхінуўшыся хусткаю сіняй*** („Калі“); *Сплёў вечар вянок* ***прамяністы / З шыпшыны і макаў чырвоных****...* („Вячорная містэрыя“).

2) Мэтафары, што характарызуюць вонкавы выгляд, псыхалягічны й фізычны стан пэрсанажа: *Аж затліцца ізноў у* ***крыві / Хваляваньняў блакітны агеньчык****...* („О, шыпшына мая, Беларусь!“); ***Шоўк палявы валос*** („Маці“).

3) Мэтафары, якія абазначаюць тэмпаральна-сымбалічныя паняцьці: *Мой расьпяты ворагам шматпакутны край, / Не тужы, йшчэ ў сполахах* ***/ Расьцьвіце зара*** („Бацькаўшчыне“*); Дні за рукі ўзяліся,* ***/ Ідуць шэрым, глухім карагодам****...* („Краіне“).

На думку В. Старычонка, шырокае выкарыстаньне мэтафараў у паэзіі абумоўленае пазнавальнай дзейнасьцю чалавека, яго вобразным мысьленьнем, бо мэтафара спрыяе фармаваньню індывідуальнай мадэлі сьвету, адлюстроўвае навакольную рэчаіснасьць ва ўзаемасувязі ўсіх яе элемэнтаў. Гэтая спэцыфіка асабліва выразна выяўляецца ў межах разгорнутай мэтафары, бо *„паэту важна выказаць ня толькі сваё разуменьне і ўспрыманьне якой-небудзь зьявы; але галоўнае — прымусіць чытача суперажываць зь ім. Для дасягненьня гэтай мэты ён выкарыстоўвае разгорнутую мэтафару, рэалізацыя якой і вызначае кампазыцыйную пабудову цэлага верша“*[26]: *„Сярэднявечны маг — альхэмік у васіньнік зашыўся. / Падаслаў пад ногі* ***шэры порт****, — / З* ***іртуці ймглы****, з* ***іржы зьмярканьняў*** */ Нясупынна* ***скарб плавіць залаты****, / Што* ***жоўтым лісьцем стыне*** *на дне лагчын — / Сівых запыленых рэторт* („Восеньскія чары“). У самым пачатку верша згадваецца мэтафарычны вобраз мага-алхіміка — самой восені, — што падрыхтоўвае нізку наступных тропаў. Вядомая беларуская дасьледніца М. Кавалёва на гэты конт заўважае, што *„слова, ужытае ў*

[26] Морозова, Г. Цветовая развёрнутая метафора в стихах Вл. Солоухина // Русская речь. 1975. № 2. С. 76.

*мастацкім тэксьце вобразна, мэтафарычна, можа цягнуць за сабой залежныя ад яго іншыя словы-мэтафары, зьвязаныя зь ім сэнсава“*[27]. У прыведзеным фрагмэнце разгорнутая мэтафара складаецца з вобразна-выяўленчых сродкаў, якія перадаюць дзеяньне „восені-алхіміка“. Кожны троп мае ў сваім складзе колеравую лексэму: *іртуць імглы* — мэтафара, дзе колер не называецца наўпрост, а праяўляецца праз згадку серабрыста-белага мэталу; мэтафара *іржа зьмярканьняў* перадае „чырвона-буры колер“; *жоўтае лісьце* параўноўваецца з *залатым скарбам*, а лагчыны — зь *сівымі рэтортамі*. Такім чынам, у межах разгорнутай мэтафары ўтвараецца й колеравая гармонія.

Даволі прадуктыўным у творах Натальлі Арсеньневай ёсьць яшчэ адзін сродак мастацкай выразнасьці — колеравае параўнаньне. Гэта мастацкі троп, у аснове якога ляжыць супастаўленьне дзьвюх зьяваў з мэтай іх характарыстыкі адной праз другую.

Паводле сынтаксычна-кампазыцыйнага афармленьня выяўленыя ў мастацкіх тэкстах Натальлі Арсеньневай параўнаньні можна падзяліць на тры групы:

1) Параўнаньні, дзе каляронім зьвязаны злучнікамі ці злучальнымі словамі „як“, „нібы“, „быццам“: *Белы пыл, **як туман серабраны**, / Залёг нізам, вышай...* („Тае вечар“).

2) Параўнаньні, выражаныя каляронімам-назоўнікам у творным склоне: ***Бярозай белай вежа** / Над крыжам рвецца ўгору* („Вежа“). Гэта так званы *„творны параўнаньня“*.

3) Параўнаньні ў форме бяззлучнікавага сказа: *І зігціць, наўзьверх усплыўшы, / Зводны **месяц — белы берасьцяны коўшык*** („Ліпкі“).

У межах гэтай клясыфікацыі можна яшчэ вылучыць групы тропаў паводле наяўнасьці колеравай сэмы ў частках параўнальнага звароту. Прыгадаем, што традыцыйна ў параўнаньні выдзяляюць тры складнікі: *„прадмет параўнаньня, вобраз параўнаньня й прымету падабенства“*. Таму асобна клясыфікуем:

1) Параўнаньні, дзе каляронім прысутнічае ў прадмеце і ў вобразе параўнаньня: ***Закруцілася слупам рыжавым / Іржавае лісьце** ігрушаў...* („Асеньняя элегія“).

2) Параўнаньні, у якіх колеранайменьне ёсьць у прадмеце параўнаньня і звычайна тлумачыцца вобразам параўнаньня. Мяркуецца, што колер вобразу, аб'екту параўнаньня, загадзя вядомы: *Казыча пяты*

[27] Кавалёва, М. Мэтафара і кантэкст // Слова, фразэалягізм, словазлучэньне: зб. артыкулаў. Менск, 1984. С. 22.





*босыя пясок. / **Ён белы, быццам сьнег**, і гэтаксама йскрыцца* („Радасьць“).

3) Блізкія да папярэдняй групы параўнаньні, дзе колеравая лексэма — уласна прымета падабенства, а вобраз параўнаньня мае сталую колеравую сэму. Часам у вобразе параўнаньня значэньне колеру ўдакладняе колеравы эпітэт: *Шчасьце — ява, праўда, не адно — надзея, / **Васільковай ціШай Беларусь сінее**...* („Не заплачу болей“).

4) Параўнальныя звароты, калі каляронім уваходзіць непасрэдна ў вобраз параўнаньня: *Мае вершы — над сонным балотам трысьцё, / **Ймгла сівая асеньняга раньня**...* („Маладым паэтам“)[28].

Паводле аналёгіі з разгорнутай мэтафарай можна вылучыць і разгорнутае параўнаньне, якое мае ў сваім складзе каляронімы: *Шчасьце — **як вішняў вясьняныя краскі**: / Вецер павее, заплача вясна, — / **Сыплюцца сьнегам** на дол яны краскі, / Момант — **і красак няма*** („Шчасьце“).

Значнае месца ў паэзіі Натальлі Арсеньневай займаюць эпітэты — мастацкія азначэньні, якія вобразна характарызуюць прадмет ці жыцьцёвую зьяву. Звычайна эпітэт называюць найпрасьцейшым тропам, аднак насамрэч гэта не заўсёды так, сьцьвярджае В. Барысенка. Гэтая стылістычная фігура можа быць складанай паводле зьместу, багатай і разнастайнай на прыпадабненьні, асацыяцыі, вобразы. Таму характар эпітэтаў у творчасьці пісьменьніка дазваляе меркаваць пра шырыню й багацьце яго назіраньняў, пра яго жыцьцёвы й творчы досьвед. І сапраўды, у прааналізаваных паэтычных творах намі выяўленыя колеравыя мэтафарычныя эпітэты й сталыя — як сьведчаньне сувязі з вуснай народнай творчасьцю: ***Зялёным** сьмехам ляшчэўнікі заходзяцца, / Аж весела мінаць* („На сьцежцы“); *Дык як тут ня жыць мне табою, Ледзь верасень **жоўтай** журбою / На менскія сыплецца брукі?* („Вясельле“). Мастацкія азначэньні прадуктыўна выказваюцца прыметнікамі, але ў Н. Арсеньневай зафіксаваны і эпітэт-назоўнік: *Косы зьвіняць... Сьпеўна ўзносяцца зыкі, / Поўняць жыцьцём **жаўтацьвет**-сенажаць...* („На сенажаці“). Сэнс эпітэту актуалізуецца праз адмысловы мастацкі прыём — рэдуплікацыю. Прычым у Натальлі Арсеньневай паўтараюцца ў асноўным тры каляронімы — *белы, сіні, сівы*: *Без такіх мы прыжджом **бела-бела** ўсьпенных маяў, / Залатога пяску каласоў...* („Краіне“); *Бо што знойдзецца дзесь між галінамі — /*

[28] Лясовіч, С. Колераабазначэньне як сродак вобразнасьці ў паэзіі Натальлі Арсеньневай... С. 101—102.

*Што ж тут дзіўнага? / Толькі б імкненьне, / Й зноў асмужным вятранымі плынямі,* ***сінімі-сінімі,*** */ Нашу штодзённасьць*! („Мяцеліца"); *Дзіка крыкнуў музыка... / (Сугуччамі адгукнуўся асіньнік асеньні), / І разьбій сваю йскрыпку пявучую / Аб* ***сівое-сівое*** *каменьне* (Музыка").

Паэтка дастаткова часта павялічвае выяўленчыя магчымасьці каляронімаў ізаляваным іх ужываньнем, часьцей за іншыя — *белага* й *сіняга*: *Мо таму, што над* ***беляй*** *лядаў /* ***Белы*** *сьнежны імкне вагонь?* („Першы сьнег"); *Там ўсё мне мілей: /* ***Сіняе, сіняе*** *неба бясконца, / Шчыра вясёлае яснае сонца...* („Родны край."). Такім чынам ствараецца эстэтыка ізаляванага колеру. Дадамо, што канструкцыі са значэньнем сіняга колеру па сваёй будове нагадваюць рэдуплікацыю: каляронімы выражаныя адной часьцінай мовы ў адной граматычнай форме, характарызуюць адзін прадмет ці зьяву, у сказе знаходзяцца побач і нават набліжаныя часам да інтанацыйнага адзінства: *Неба* ***сіняе, сіняе, сіняе.*** */ Ані межаў у ім, ані дна* („Красавік"); *Якіх даць вершаў, ветраў, плыняў, / Каб* ***сіне*** *ўрэшце,* ***сіне, сіне*** */ Было і ў сэрцах, і на сьвеце!* („Хто ён, паэт?"). Такія стылістычныя фігуры павялічваюць сэнсавую ёмістасьць слова, узбагачаюць кантэкст новымі адценьнямі, ствараюць яркія вобразы, а ў сукупнасьці адлюстроўваюць непаўторны індывідуальна-аўтарскі стыль колерапісу.

Такім чынам, намі прааналізаваная спэцыфіка выкарыстаньня колеравай лексыкі ў мове твораў Натальлі Арсеньневай.

Як паказвае матэрыял, у тройку прыярытэтных колераў паэткі ўваходзяць *жоўты*, *белы* й *сіні*. Гэта не ў апошнюю чаргу зьвязана зь іх сымбалічным значэньнем. В. Тэрнер разглядае колеравы сымбалізм *„як вынік сацыяльнага, біялягічнага, псыхалягічнага досьведу". Белы* й *сіні* для Натальлі Арсеньневай — найперш сымбаль Радзімы, боскасьці, веры. Прыхільнасьць жа паэткі да *жоўтага* колеру часткова тлумачыць меркаваньне Антона Адамовіча, што *„і сваім першым вершам друкаваным Н. Арсеньнева пачынала свой шлях як паэтка восені. Вобраз восені ад самых гэтых пачаткаў стаўся для яе найбліжэйшым, найулюбёнейшым, найінтымней зродненым канкрэтным, увасабляльным вобразам тае прыроды, на якой засяроджвалася й нат переразасяроджвалася яна ў сваёй творчасьці ўвесь даваенны час"*[29]. Гэта можа быць абумоўлена й элегічнай скіраванасьцю паэзіі.

[29] Адамовіч, Антон. Н. Арсеньнева: „Між берагамі". Біяграфічна-крытычны нарыс // Арсеньнева, Натальля. Між берагамі: выбар паэзіі. Нью-Ёрк—Таронта, 1979. С. 20.





На думку М. Мішчанчука, усе жанравыя разнавіднасьці элегіі *„прытрымліваліся зыходных пазыцый — малюнкі прыроды... аказваліся восеньскія, часьцей сіратліва сумныя, змрочныя, фарбы іх цікавілі ў пэрыяд свайго згасаньня, пацямненьня"*[30]. А. Навіна гаварыў пра паэтку, што, *„як і Багдановіч, яна з малюнкамі прыроды заўсёды злучае той ці іншы глыбейшы настрой, тое ці іншае асабістае перажываньне, рэфлексію, думку-разважаньне"*[31]. Адзначым таксама наяўнасьць у колерапісе Натальлі Арсеньневай пэўных рысаў імпрэсіянізму. У яе вершах мы бачым своеасаблівую поліфанію радасьці й суму: радасьць праз сум і сум праз радасьць, выяўленыя ў прадуманай і часам незвычайнай колеравай палітры, зьнітаваныя з адпаведным настроем і дынамікай сюжэту: *Але прыйдзе мой дзень, / І знайду я патрэбныя словы,/ Тыя словы, якія цяпер не пачую ніколі й нідзе, / Буду ўмець і чмялямі гусьці ў* ***разьзлочаным*** *цьвеце ліповым, / І шаўковай шасьцець асакой / На* ***зялёнай****, зацьвілай вадзе* („Лебядзіная песьня"); *Хай* ***жаўцее****, сьціхае сад з кажнай гадзінай, / Сонца косы гарачыя ўсюды ня сее, / Хай* ***гарыць, як агонь****, ліст* ***чырвонай*** *асіны, / Хай апошнія кветкі у садзе* ***жаўцеюць*** *— / Будзем чакаць вясны*! („Восень"). Тут прыгадаем меркаваньне І. Сапегі, што *„карціна сьвету ў творах імпрэсіяністаў прасякнутая шчасьцем чалавека штодзённа адчуваць, бачыць навакольнае асяродзьдзе. А больш за ўсё яна ўражвае тым, што мы заўсёды ўгадваем у ёй агульны модуль адзінага, як вонкавага, зрокавага, так і ўнутранага паводле стану, існаваньня ўсіх складовых частак — ад чалавека да лістоты на дрэвах ці водблiскаў неба ў вадзе"*[32].

З мэтай найбольш яскравага выяўленьня аўтарскай задумы Натальля Арсеньнева ўжывае разнастайныя прыёмы колерапісу — колеравыя мэтафары, параўнаньні, эпітэты, рэдуплікацыю, колеравую гармонію. Апошняя вельмі разнастайна й поўна рэпрэзэнтаваная ў паэткі, нават вылучаецца своеасаблівы тып гармоніі — слабая. Больш за тое, зьява слабай колеравай гармоніі — адметная рыса паэзіі Натальлі Арсеньневай, якая ў колеры ўвасобіла сынтэз сумных інтанацый жанру элегіі й жыцьцесьцьвярджальныя матывы імпрэсіянізму.

Значную частку колеравай лексыкі складаюць кампазыты, пастацку адметна выкарыстаныя Натальляй Арсеньневай. Яны падкрэсь-

[30] Мішчанчук, М. „Між берагамі" // Культура беларускага замежжа. Кн. 1. Менск, 1993. С. 26.

[31] Навіна, А. Адбітае жыцьцё. Вільня, 1929. С. 111.

[32] Сапего, И. Эстетические принципы импрессионизма // Искусство. 1975. № 5. С. 55.

ліваюць спэцыфіку праяўленьня колеру, можна сказаць, утвараюць гармонію ці дысгармонію ў межах аднаго слова.

У Натальлі Арсеньневай колер — гэта сапраўдны фэномэн мастацкага тэксту, які нясе істотную сэнсавую нагрузку. Невыпадкова колеравы эпітэт ёсьць у назвах яе першых двух зборнікаў — „Пад *сінім* небам“ і „*Жоўтая* восень“, а таксама часта адзначаецца ў загалоўках (або ў першым радку) вершаў: „*Залатое*“, „Люблю я сонца *залатое…*“, „*Сівой* вярбой“, „Ахрысьціў мяне нехта ў *зялёнай* дуброве…“, „У небе палаюць *чырвоныя* хмары“ ды інш.

Варта адзначыць, што асобныя элемэнты колерапісу паэткі часам пераклікаюцца з колерапісам Максіма Багдановіча. Натальля Арсеньнева — таленавітая пасьлядоўніца вялікага паэта — пераняла ад яго вобразны калярыт вершаў, асабліва вечаровай пары й ночы. Разам з тым не падлягае сумневу, што ў сваіх творах Натальля Арсеньнева стварыла ўласны непаўторны й яскравы колерапіс, які стаўся неад’емнай часткай мастацкай вобразнасьці й выразнасьці яе твораў. А багацьце й разнастайнасьць выкарыстаных каляронімаў арганічна дапаўняе сыстэму колераабазначэньня беларускай мовы.



## *Публікацыі*

***Arnold McMillin***
*London*

# BYKAU AND BARADULIN: A CREATIVE LITERARY FRIENDSHIP[1]

*„За словам Быкава іду!“*
*Рыгор Барадулін*[2]

It is far from usual for great contemporaries in the world of the arts to respect and admire each other. One only has to think of, for example, Prokof´ev’s description of Stravinski’s music as „Bach on the wrong notes“[3] or, slightly nearer to the theme of this paper, the fact that two of Russia’s greatest writers, Tolstoi and Dostoevskii, apparently never even met. Belarusians are not, of course, Russians (the differences have been excellently analysed in an article by Nina Mechkovskaia[4]), and there is a much greater sense of community and shared interests and values amongst Belarusian writers, from Janka Kupała and Jakub Kołas to the leading poet and prose writer of the present day, Ryhor Baradulin (b. 1935) and Vasil Bykau (1924—2003), the latter spending his last years in enforced exile, the former closely tied to Belarus and in particular their shared native Vušača region. Both Bykau and Baradulin act as moral and patriotic beacons in a country where values of all kind, including the linguistic heritage, are in constant danger of erosion through political decisions and inertia. This paper is intended to highlight the ways in which over several decades they have responded to each

[1] A version of this paper was given at the 35th Annual Convention of the American Association for the Advancement of Slavic Studies, Toronto, November 2003.

[2] Барадулін, Рыгор. Трэба дома бываць часцей: Выбраныя старонкі лірыкі / Прадмова В. Быкава. Менск: Мастацкая літаратура, 1993. С. 298—299.

[3] Цыт. паводле: The Guinness Dictionary of Poisonous Quotes / Ed. by Colin Jarman. Enfield: Guinness Publishing, 1991. P. 155.

[4] Мечковская, Нина. Чем белорусы отличаются от русских? // New Zealand Slavonic Journal. 2002. P. 159—172.

other with love and admiration, paying particular attention to the remarkable collection of poems and drawings entitled *„Лісты ў Хельсінкі“* („Letters to Helsinki“, 2000) and their last joint project, *„Калі рукаюцца душы...“* („When Souls Shake Hands...“, 2003). This is not the place to quote extensively their highly perceptive comments on each other's work, tempting though it may be, since both have unassailable reputations in any case, though it should be said that Baradulin's triptych[5] of articles on Bykau written 1993—1994 and Bykau's brief but intense and immensely perceptive introduction to Baradulin's collection of poems published at about the same time, *„Трэба дома бываць часьцей...“* („One Should Be at Home More...“)[6] are amongst the best things written about these two writers. Some reference will be made to these outstanding essays.

In an interview of 1987 Baradulin remembers how in the early 1960s Vasil Bykau brought him from Hrodna where he then worked, a book of gruesomely fulsome tributes to Stalin by Belarusian writers, having inscribed in it the words, *„Read and do not repeat the mistakes of your elders“*[7]. The book was probably *„Ад шчырага сэрца: Пісьмы беларускіх пісьменнікаў таварышу Сталіну“* („From a Sincere Heart: Letters from the Belarusian Writers to Comrade Stalin“, 1952), which had been edited by Piatruś Brouka who contributed to it with especial enthusiasm and invention[8]. Later, Baradulin recalls, he and his friends would make merry by singing some of these choice verses to well-known tunes

At around this time Baradulin wrote the first of his poems dedicated to Bykau: the extremely musical *„Бусел“* („The Stork“, 1962), seems to be mainly about patience and frustration, as the poet spends much energy over many years, trying in vain to catch a stork, Belarus's national bird[9], by the tail:

[5] Apparently quite unconnected the saying popular amongst drinkers, „Бог тройцу любіць“, Baradulin shows a great fondness for triptychs in his poetry. The most celebrated are *„Трыпціх: Бацьку; Куліна; Матчына хата“* („A Triptych: To My Father; Kulina; Mother's House“, 1963) and *„Трыпціх Ушаччыны“* („A Triptych of the Vušača Region“, 1972).

[6] Барадулін, Рыгор. Трэба дома бываць часцей... С. 3—5.

[7] Семенова, Алла. Брать и отдавать: Диалог с поэтом Рыгором Бородулиным // Неман. 1987. №2. С. 157—158.

[8] Ад шчырага сэрца: Зборнік вершаў беларускіх пісьменнікаў, прысвечаных т. Сталіну / Рэд. П. Броўка. Мінск: Белдзяржвыд БССР, 1952. С. 135—152.

[9] Many years later, in 1993, Baradulin again wrote about a stork in *„Буслова нарачонка“* („The Stork's Fiancée“): Барадулін, Рыгор. Буслова нарачонка // Барадулін, Рыгор. Збор твораў. Т. 3. Мінск, 1999. С. 171—174. ⇨





*Непаседа,*
*даўгацыбы бусел —*
*Даўняе вясны*
*забыты сон.*
*...Я злавіць яго*
*за хвост цягнуўся,*
*Дражніцца*
*і цыякае ён.*

*[От, здаецца,*
*ушчамлю пад паху*
*(Лугавінаю*
*бягу*
*наўпрост).*
*Нада мною —*
*крылы белым дахам,*
*А перад мною —*
чорны хвост...][10]

*Змораны,*
*я доўга плачу потым.*
*Суцяшаць*
*стараюцца усе:*
*— Бусел ходзіць*
*у чырвоных ботах*

⇨ A famous image of the stork belongs to another highly significant writer, who during his lifetime was close to both Baradulin and Bykau, namely Uładzimir Karatkievič (1930—1984) in a well known sketch of his native country entitled *„Зямля пад белымі крыламі“* (1971): Караткевіч, Уладзімер. Зямля пад белымі крыламі // Караткевіч, Уладзімер. Збор твораў у 8 тамах. Т. 8. Ч. 1. Мінск, Мастацкая літаратура, 1990. С. 385—470. Apart from its role as a protection for Belarus, the stork is also a teacher: see, for instance, Karatkievič's early poem, *„Буслы вучаць дзяцей“* („Storks Teach Children“, 1959): Караткевіч, Уладзімер. Буслы вучаць дзяцей // Караткевіч, Уладзімер. Збор твораў у 8 тамах. Т. 1. Мінск: Мастацкая літаратура, 1987. С. 79—82. Unsurprisingly, Karatkievič is the subject of several poems by Baradulin, always keen to celebrate Belarus's best and most promising writers.

[10] The bracketed section of the poem is omitted in the later version of the poem in: Барадулін, Рыгор. Трэба дома бываць часцей... С. 32—33.

*І табе*
*такія ж*
*прынясе...*

*Горбіць плечы гора,*
*горбіць праца.*
*Усяго спаўна*
*мне лёс паслаў...*
*Вось ужо і скроні серабрацца.*
*Ды яшчэ й цяпер*
*лаўлю бусла.*

*Ну, на гэты раз*
*вярнуся з птахам —*
*Я ж за ім прайшоў*
*багата вёрст!*
*Нада мною —*
*крылы белым дахам.*
*Паспрабуй*
*злаві*
*бусла за хвост...*[11]

[11] *The stork*
*The restless, long-legged stork —*
*The forgotten dream of distant spring.*
*... I tried to catch it by the tail,*
*It teases me and runs away.*

*[Oh, it seems I can pinch it under its wing*
*(I am running straight across the meadow).*
*Above me the wings are a white roof,*
*And before me is a black tail...]*

*Exhausted, I later weep for a long time.*
*Everyone tries to comfort me:*
*The stork wears red boots*
*And will bring you similar ones...*

*Grief and work bend my shoulders.*
*Fate has sent me a good measure of everything...*
*Now already I am growing grey at the temples.*
*And yet I am even now trying to catch a stork.* ⇨





The combination of simplicity with the subtle art that conceals art in this poem is entirely characteristic of Baradulin's work throughout his life.

Fifteen years later he dedicated another poem to Bykau, linking philosophy with the natural world, *„Мы на агонь глядзім...“* („We Gaze at the Fire...“, 1977). Again simplicity of form, musicality and a broad idea are of the essence:

*Мы на агонь глядзім*
*Пры вогнішчы рудым.*
*Як схімнік-нелюдзім,*
*Зьнікае ў неба дым.*

*Гарыць агонь-багач*
*І цемру й ціш ірве.*
*Цень жудасьці,*
*Пабач, —*
*Ступае на траве.*

*Няйнакш*
*І прашчур наш,*
*Укленчыўшы агню,*
*Узьняў свой позірк*
*Аж*
*Да зор*
*Упершыню.*

*Зглыдаў агонь датла*
*Гальля рудую медзь.*

*І нам пасля сьвятла*
*Страшней у змрок глядзець.*[12]

⇨ *Well, this time I come back with a bird*
*I certainly went many miles to get him!*
*Above me the wings are like a white roof;*
*Just try to catch a stork by the tail.*

(Барадулін, Рыгор. Выбраныя творы ў двух тамах. Мінск: Мастацкая літаратура, 1984. Т. 1. С. 100—101).

[12] *We gaze at the fire*
*With its red-brown flame.*
*Like a hermit monk,*
*The smoke disappears into the sky.* ⇨

In the poem whose title is taken as the epigraph of this piece, *„За словам Быкава іду!“* („I Follow Bykau's Words!“, 1989), we are reminded strongly that the two writers, as indeed, several others, good, bad and indifferent[13], come from the same part of Belarus, as in the opening lines:

*Чытаю Быкава*
*І зноў*
*Вяртаюся ў краіну сноў,*
*У старану маю лясную,*
*Якую,*
*Покуль я існую,*
*Люблю ў затуле туманоў,*
*Ей плачу, бачу, ёй блазную.*

*Завецца ўшацкай старана [...]*[14]

⇨ *The rich fire burns*
*And tears apart the darkness and the silence.*
*A shadow of horror,*
*Look, —*
*Is moving across the grass.*

*No differently*
*Our ancestor likewise,*
*Kneeling before the fire*
*Raised his gaze*
*For the first time*
*Right*
*To the stars.*

*The fire completely gobbled up*
*The red-brown copper of the branches.*
*And for us, after the light,*
*It is more fearsome to gaze into the darkness.*

(Барадулін, Рыгор. Трэба дома бываць часцей... С. 132—133.)

[13] Amongst them is the same Piatruś Brouka, who wrote so enthusiastically about Stalin as his „very best friend“ in *„Думы аб правадыру“* in: Ад шчырага сэрца: Зборнік вершаў беларускіх пісьменнікаў, прысвечаных т. Сталіну... С. 135—138.

[14] *I read Bykau*
*And again*
*Return to my native region* ⇨





He describes himself as being led by Bykau's „economical line“ *(„Ашчадны быкаўскі радок“*), showing how it evokes in him by the simplest of means, a strongly emotional memory of his native parts. A word with the same root as *ашчадны* (*нашча* — on an empty stomach) plays a prominent part in the opening of Baradulin's triptych of articles about Bykau. Here are the first three lines:

*Нашча трэба чытаць Васіля Быкава.*
*Нашча трэба думаць пра Васіля Быкава.*
*Нашча трэба хінуцца душой да сьвятла слова ягонага*[15].

Not for nothing did Bykau refer to Baradulin as *„the nightingale of Belarus“*[16], and in examining the relationship of these two writers it is essential to stress that artistically they are completely different: Bykau's severe, even harsh, realism, relating past to present is far from the virtuosic, highly metaphorical, ludic nature of much of Baradulin's poetry. This is not to say, however, as has already been noted, that they do not thoroughly appreciate the essence of each other's work. Where they are truly close is in their patrio-

⇨ *To my forest parts,*
*which, For as long as I live,*
*I love it shrouded in mist,*
*I weep to it, I see it,*
*I play the fool before it.*

*It is called the Vušača region [...].*
(Барадулін, Рыгор. Трэба дома бываць часцей... С. 298.)

[15] *You must read Vasil Bykaй on an empty stomach.*
You must think about Vasil Bykau on an empty stomach.
You must bring your soul to the light of his word on an empty stomach.
(Барадулін, Рыгор. Аратай, які пасьвіць аблокі: Сяброўскае слова, эсэ і некананізаваныя ўспаміны. Мінск: Мастацкая літаратура, 1995. С. 61).

[16] Гл.: Законнікаў, Сяргей. Пакуль баліць душа // Полымя. 1995. №1. С. 219. In the Belarusian context it is hard for the present writer to think of any nightingale without the hero of Źmitrok Biadula's multi-faceted historical novel *„Салавей“* („The nightingale“, 1927) who declares with a resolution worthy of Vasil Bykau himself, *„Нядобра быць панскім салаўём!“* („I do not wish to be a nobleman's nightingale!“): Бядуля, Змітрок. Збор твораў у чатырох тамах. Т. 3. Мінск: Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1953. С. 108. Indeed, the peasant nightingale's subsequent fate as a bandit in the forests an in no way be compared to Baradulin's as a people's poet. In all probability, therefore, Bykau's idea of a nightingale was similar to that of John Keats and many other poets.

tism, their concern for the future of Belarus and its language, their intolerance of immorality[17], and, above all, their role as inspirational leaders of all nationally conscious Belarusians.

In his essay of 1993 entitled *„Апостал нацыі“* („The Nation's Apostle“) Baradulin links Bykau with such great figures of the past as Skaryna, Kalinouski and Kupała, suggesting, rightly, that it is Bykau who made Belarusian literature known in the world. Acclaiming him as *„the shining apostle of the nation“*, he, also rightly, observes that, though apostles are few, they cannot be stopped and that *„the nation will live so long as its apostles live“*[18]. In another essay of the same year, *„Космас Васіля Быкава“* („The Cosmos of Vasil Bykau“), Baradulin describes Bykau as personifying the conscience and intellect of Belarus, as bearing his fatherland within himself[19].

The third essay of this triptych, written a year later, is entitled *„Як васілёк у жыце Беларушчыны“* („Like a Cornflower in the Corn of the Belarusian World“). Even better known than the stork as a national symbol is the cornflower, and Baradulin seems to relish the phonemic connection of the work „vasilok“ with that of his friend Vasil. In a poem from the *„Вечальле“* collection of 1980, *„Васільковая баляда“* („Ballad of a Cornflower“), he clearly links Vasil and *vasilok* (there is also a Vasilicha). Two lines will suffice to establish this association:

*Капаць акопы*
*Пайшоў Васілёк*[20].

[17] Baradulin's attitude may be summed up in a spectacular portmanteau word, *kulasoramunieprabivajemyja* (proof against the bullets of conscience) he created in a poem of the early 1990s, *„А жалезныя хлопчыкі...“* („But Iron Youths...“): Барадулін, Рыгор. Міласэрнасьць плахі. Мінск: Мастацкая літаратура, 1992. С. 161. The fact that venal communist critics so frequently attacked Bykau for his „moralizing“ speaks for itself. See, for instance, an article entitled *„Пена на волне перестройки“* in *„Вечерний Минск“*, 27 October 1988, P. 3, where an anonymous writer complains, „in every statement they make one constantly finds hints about „morality“, „ethics“ and „duty““. Another journal particularly active in the anti-liberal backlash was *„Политический собеседник“*. See, for instance: Бумажкова, Т. Барьер политической слепоты // Политический собеседник. 1989. №1. С. 34.

[18] Барадулін, Рыгор. Аратай, які пасвіць аблокі... С. 62—65.

[19] Барадулін, Рыгор. Аратай, які пасвіць аблокі... С. 65—66.

[20] *Little Vasil [cornflower] went*
*To dig trenches.*
(Барадулін, Рыгор. Вечальле. Мінск: Мастацкая літаратура, 1980. С. 168).





It is, perhaps, not surprising that the severe prose writer Vasil Bykau is less effusive about his friend than vice versa. Apart from the intrinsic differences between prose and poetry, Bykau's mission to speak the truth about the past and present of his unfortunate country is made the more powerful by his use of understatement and reserve. Baradulin's form of patriotism and concern for the future is more emotional and, at times, openly bitter. Nonetheless, Bykau from early years encouraged his younger colleague, and in introducing a milestone collection of his works, *„Трэба дома бываць часьцей“*, referred with total conviction to Baradulin's unswerving conscience, and to the universal, even encyclopedic nature of his verse.

The most touching and, in literary terms, finest expressions of Baradulin's attitude towards Bykau are in the already mentioned outstanding little book *„Лісты ў Хельсінкі“* where Bykau's quasi-naive sketches of Finnish life complement brilliantly some of Baradulin's most heartfelt verses[21]. In them the poet both laments his friend's absence and begs him to return home, although he probably knows better than anyone the impossibility of the latter course[22].

As anyone who has written about Baradulin knows, there is always a temptation to quote and quote, nowhere more so than in this brilliant collection. The book is divided into letters from Vušača[23], letters from Miensk, with Bykau's sketches forming the third and last part. For simplicitiy of reference, the first letter from Vušača, for instance, will be referred to as V1, and the third letter from Miensk as M3, and so on. These verse epistles are, unsurprisingly, far from cheerful, as the last two lines of V1 (3 July 1998) demonstrate:

*Яшчэ імгненьне —*
*І душа завые...*[24]

[21] It should not be forgotten that Bykau studied at the Viciebsk School of Art, made famous earlier by such outstanding figures as Mark Shagał (Chagall) and Kazimir Malevič, although he had to leave prematurely for economic reasons.

[22] Bykau's recent book of memoirs is entitled *„Доўгая дарога дадому“* („The Road Home Is a Long One“, Minsk, 2002).

[23] This how Ryhor Baradulin refers to his native region, although the Russified Belarusian encyclopedia, for instance, give the name of the central place as Ušačy, and the river as Ušača: Беларуская савецкая энцыкляпэдыя. Т. 10. Мінск, 1974. С. 521.

[24] *One moment more —*
*And my soul will start to wail...*
(Барадулін, Рыгор. Лісты ў Хельсінкі. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2000. С. 9).

Although each poem stands independently, some themes and images inevitably recur. For instance, Bykau is directly and indirectly compared to a prodigal son (something that requires considerable poetic license in view of the writer's involuntary exile); memory and forgetfulness are also recurrent themes to which Baradulin brings vivid imagination and characteristically rich imagery. Religious feelings are to the fore in some of the letters (see, for example, M26 (3 December 1999)), but even more frequent are poems placing nostalgia for the joys of Belarusian rural life alongside the far more negative reality of life for the poet. M9 (11 February 1999), for example ends with a heartrending paradox:

*На радзіме чужыя — свае,*
*На чужыне свае — чужыя…*[25]

Another poem, M24 (27 November 1999), after some expressions of optimism for a distant future, ends: *„А пакуль усё наадварот"* („For the time being everything is the other way round")[26] .

In V7 (23 August 1998), asserting the need for everyone to have a guardian angel, Baradulin seems to refer indirectly to Bykau as a prodigal son, and in M12 (12 March 1999) the prodigal son is sought by the stars, but the last lines indicate that, wherever he is physically, he will live in his own country for ever:[27]

*На зямлі, дзе продкі спачываюць,*
*Дзе б ні быў,*
*Жывеш да скону дзён*[28] .

Baradulin appears to oscillate between impatience and resignation: V8 (11 November 1998), for instance, ends with the word *пара*… („it is time"…), whilst the end of M11 (17 February 1999) gains pathos by repetition:

[25] *In one's Fatherland alien people are one's own*
*In foreign places one's own are alien.*
(Барадулін, Рыгор. Лісты ў Хельсінкі… С. 36.

[26] Барадулін, Рыгор. Лісты ў Хельсінкі… С. 50.

[27] This idea relates directly to the earlier reference to „Аратай" where Baradulin suggests that Bykau bears his Fatherland within him.

[28] *In the land where your ancestors rest,*
*Wherever you may be,*
*You live to the end of your days.*
(Барадулін, Рыгор. Лісты ў Хельсінкі… С. 38).





*Пацiху самота*
*Да змоўклай тугі*
*Звыкае,*
*Звыкае,*
*Звыкае…*[29]

Baradulin seems tired and depressed. M15 (12 April 1999) ends with four lines of the simplest pathos:

*Голас жыве —*
*І жыве спадзяваньне.*
*Голас жыве —*
*І трывога жыве…*[30]

In M25 (1 December 1999) Baradulin's imagery is very characteristic, as in the last five lines of the poem:

*І тоіцца*
*Журба ў жывой красе.*
*Журбою пахнуць*
*Словы нашы ўсе,*
*Наш хлеб надзённы*[31] .

[29] *Gradually loneliness*
*Will get used,*
*Get used,*
*Get used,*
*to silenced grief…*
(Барадулін, Рыгор. Лісты ў Хельсінкі… С. 37).

[30] *The voice lives —*
*And hope lives.*
*The voice lives —*
*And anxiety lives…*
(Барадулін, Рыгор. Лісты ў Хельсінкі… С. 41).

[31] *And there is hidden*
*Sadness in living beauty.*
*All our words,*
*Our daily bread*
*Smell of sadness*
(Барадулін, Рыгор. Лісты ў Хельсінкі… С. 51).

Memory takes many forms in these verse epistles. In V11 (23 July 1999) there is a danger of silence away from native places[32]:

*Гаворыць забыцьцё.*
*А ты нямееш...*[33]

Memory can also be a prison, and this theme[34] dominates in M9 (11 January 1999) which begins thus:

*Памяць —*
*Цямніца суровая —*
*Вязьняў не адпускае,*
*У хмары іх замуроўвае,*
*Як у жывыя скалы*[35].

Not everyone, however is imprisoned by memory: in M13 (27 March 1999), for example, memory is portrayed as a fierce wild beast which, as Baradulin bitterly observes in the last three lines, spares tame animals; it is not difficult to decode the latter as conformist writers, a characteristic feature of intolerant societies:

[32] This is a recurrent theme. See, for instance, V15 (12 August 1999) where a wall grows suddenly between early memories and reality: this barrier from the Fatherland is „willingly" overgrown with grass [of oblivion]: Барадулін, Рыгор. Лісты ў Хельсінкі... С. 23.

[33] *Oblivion speaks.*
*But you are becoming dumb...*
(Барадулін, Рыгор. Лісты ў Хельсінкі... С. 19.

[34] Perhaps not surprisingly in a country with such an unhappy history, prisons play a considerable part in the language and imagery of literature. For a very recent example, see: Быкаў, Васіль. Вязніца траўм (прыпавесьць) [The Traum Prison (a Parable)] // New Zealand Slavonic Journal. 2002. P. 5—8. This version of the parable is accompanied by a translation into English. It was republished with slight modifications in: Барадулін, Рыгор, Быкаў, Васіль. Калі рукаюцца душы. Мінск: Кніга, 2003. С. 224—226.

[35] *Memory is*
*A stern prison*
*It does not release its prisoners,*
*It walls them up in clouds,*
*As in living rock faces.*
(Барадулін, Рыгор. Лісты ў Хельсінкі... С. 35).





*Памяць — дзікі зьвер,*
*Відаць, таму*
*Ён усіх прыручаных шкадуе...*[36]

This brief review of *„Лісты ў Хельсінкі"* may be concluded by a letter, M22 (5 October 1999, from Hospital No. 10)[37] where the clouds bear a message to Baradulin's dearest friend, however unhelpful they may have been earlier[38]:

*Нахмурыліся хмары на мяне,*
*Што дайнавата не сачыў за імі.*
*Плывуць сабе ў нябеснай старане*
*Дарогамі бясьследнымі сваімі.*

*Я імі перадаць хачу паклон*
*Найдарагому сябру на чужыне.*
*Сум асланіўшы, дагарае клён,*
*Аддаўшы долу золатам даніну.*

*Пастух нябесны, вецер, не гані*
*Так хутка хмары,*
*Дай ім запыніцца.*
*Дай падзівіцца зь ціхай сьветлыні,*
*Якая ў дайганоч выгнанцу сьніцца...*[39]

[36] *Memory is a wild beast,*
*Apparently that is why*
*It spares all tame animals...*
(Барадулін, Рыгор. Лісты ў Хельсінкі... С. 39).

[37] Apart from the general points of despatch, this is the only one of the epistles to have a specific address.

[38] See, for instance, V10 (18 July 1999) where after two years the clouds will still not give a response.

[39] *The dark clouds frowned at me,*
*Because I had not watched them some time.*
*They sail along in their heavenly realm*
*Along their traceless paths.*

*I wish through them to greet*
*My dearest friend, who is abroad.*
*Screening my longing, the maple burns its last,*
*Handing down its tribute in gold.* ⇨

The final joint venture between Bykau and Baradulin, *„Калі рукаюцца душы...“*, appeared in 2003, the year of the former's death. Subtitled simply „Poetry and Prose“, it takes as its title an evocative line from one of Baradulin's poems. This unique book comprises verse epistles by Baradulin and three sets of prose miniatures, described as parables, by Bykau. The poems, also in three sections, were written as follows: twenty-six to Germany from the Vušača region (from underneath the eves of mother's house); eighty-three to Germany from Miensk (from beneath a glassy sky); and eighteen to Golden Prague from Miensk (covered by a gloomy blizzard). The prose sections, which are philosophical rather than epistolary in form, are entitled *„Байкі жыцьця“* („Fairytales of Life“)[40], *„Абязбожаны люд“* („A People Who Have Lost Their God“), and *„Хутаранцы“* („Farming Folk“). There are also a few graphic sketches by Bykau, recalling the illustrations in *„Лісты ў Хельсінкі“*, as well as some reflections on the phenomenon of verse correspondence: having first explained the immense importance of the correspondence for him during his exile, and having explained that this 'duet' is not intended to be more powerful than a solo voice, he turns, ironically, to a theme, memorably raised by Janka Kupała a century earlier in his poem, *„А хто там ідзе?“* („And, Say, Who Goes There?“, 1905—1907):

> *Шкада, але мы, беларусы, насуперак усяму (часам і сабе) усё яшчэ імкнемся даказаць сьвету, што маем неадчэпны намер людзьмі звацца. Прынамсі, ня горшымі за іншых*[41]

The book concludes with a stirring prose reflection by Baradulin, *„Дарасьці!“* („Grow Up To [Him]!“), in which he reflects on the genre of parable as employed by Bykau, pointing out the futility of trying to retell or explain a parable, and underlining his friend's unique role, not only as the nation's conscience but as the apostle entrusted with the thankless task of

⇨ *Wind, O heavenly shepherd, do not drive*
*The clouds so quickly,*
*Let them stop.*
*Let me guess from their quiet brightness,*
*What dream the exile is dreaming during the long night...*
(Барадулін, Рыгор. Лісты ў Хельсінкі... С. 48).

[40] The title, of course, recalls Jakub Kołas's *„Казкі жыцьця“* (1921).

[41] *It is a pity, but we Belarusians, despite everything (at times ourselves too), still try hard to prove to the world that we have an unshakeable desire to call ourselves people. At least, not worse than other people* (Барадулін, Рыгор, Быкаў, Васіль. Калі рукаюцца душы... С. 5).





keeping the people's memory awake and not letting them sleep, however strong the desire to shut their eyes to what is going on. In *„Сыноптык“* („The Weatherman“) Bykau remarks with melancholy irony, *„Усё добра, калі ёсьць надзея, тады й сьпіцца лепей“* („Everything's alright when you have hope; then you sleep better too“)[42]. The temptation to quote Baradulin endlessly is not reduced by the melancholy nature of many of the poems in this volume, and the difficulty of quoting Bykau's concise, precise prose is as difficult in his last book as it was in the stories with which he made his name in the 1960s. What follows is an attempt to convey something of the flavour of this unusual and very touching volume.

Of Bykau's written contributions, half of the parables had already appeared in print: mostly in his 1999 collection, *„Пахаджане“* („Wanderers“)[43] and one in „New Zealand Slavonic Papers“[44]. The new ones published for the first time in *„Калі рукаюцца душы...“* are in the same deeply pessimistic vein, and readers of *„Пахаджане“* will know what to expect, and be delighted to find more reflections in the same genre. Earlier in his career Bykau was plagued by ignorant critics who accused him of self-repetition[45], but these philosophical miniatures with a strong political undercurrent cover a wide range of themes within the same genre. Despite Baradulin's warnings quoted above, that one should read and not retell or interpret parables, some idea of their content may be given here by a few brief outlines. The first of the new tales in *„Пахаджане“*, *„Насарогі ідуць“* („The Rhinoceros are Coming“), concerns a tribe led by Ko who are attacked by rhinoceros-people and forced to surrender their crops and valuables, then their womenfolk. Ko is opposed by Džo, who disappears before a major, ultimately victorious, battle against the rhinoceros-people in which Ko is amongst the slain. When he returns no one invites him to take Ko's place as leader, and he does not ask for that: he knew how to deal with rhinoceros[46]. In *„Вязьніца траўм“* („The Traum Pri-

[42] Барадулін, Рыгор, Быкаў, Васіль. Калі рукаюцца душы... С. 83.

[43] Быкаў, Васіль. Пахаджане: Прыпавесьці. Вільня: Вострая Брама — Наша Ніва, 1999.

[44] Быкаў, Васіль. Вязьніца траўм (прыпавесьць) [The Traum Prison (a Parable)]...

[45] The last illustration in the book is of a wolf with blood or saliva dripping from its jowls, with the caption, „The critics are waiting for new works“: Барадулін, Рыгор, Быкаў, Васіль. Калі рукаюцца душы... С. 343.

[46] This beast seems a fertile symbol for the Slav literary imagination. The Russian émigré Vladimir Maksimov, for instance, used it as a symbol of political struggles between émigré writers: Сага о носорогах. Франкфурт-на-Майне: Посев, 1981.

son“) the prisoners long for freedom and engage in a hunger strike, whilst protests by those outside the prison lead to a destructive and violent struggle with the authorities. Despite the dire situation beyond the prison walls, the prisoners still longed for liberty, and eventually they are released into the cold and hunger outside. The euphoria of reunion, however, is soon dispelled by the lack of anything to eat. A former prisoner, Vosip, takes charge but can offer only heady rhetoric, and after bloody recriminations and accusations, some of the prisoners return to their prison. Allies of the regime soon come and crush the remains of the rebellion, hanging Vosip in the prison yard. The parable ends thus:

> *„Зьняволеныя ў бальшыні паставіліся да таго абыякава, бо ўжо перасталі паважаць свайго завадатара, які змусіў усіх пераажыць немалую мінтрэгу. І не дамогся нічога“*[47].

Baradulin's poems in this book, like those in *„Лісты ў Хельсінкі“*, are untitled apart from the prominent numeration that precedes each one. Bykau's titles, on the other hand, are notably brief for such short pieces, just as they were in *„Пахаджане“*. A few examples of the new ones will suffice: *„Чарапы“* („Skulls“), *„Гонар і сьмерць“* („Honour and death“), *„Другая альтэрнатыва“* („A Second Alternative“), *„Вежа“* („The Tower“), *„Ідэя“* („An Idea“) and so on. It is from the latter parable that Baradulin quotes Bykau's ironic, almost bitter, remark that the people do not want ideas because their stomachs are rumbling. Bykau's parables are immensely thought provoking, condensed and yet unostentatiously elegant, melancholy though anything but maudlin expositions of his last thoughts about his native country.

Baradulin's last verse letter to Bykau is a bitter reflection about Belarus as a jewel in Europe's crown, a beggar to which Europe will not extend a hand, whilst those who wish to seize the jewel have for centuries not held back. Eternity is the theme of his penultimate letter; for all the short memories of some of their fellow-countrymen, Bykau and Barudulin, the outstanding representatives of Belarusian literature in the twentieth century, are sure of eternity. The poem is not, of course, from this point of view, but it has a wry twist:

[47] *„The majority of prisoners were indifferent to this event, for they had already lost respect for their leader who had made them go through so much misery. And had achieved nothing“* (Барадулін, Рыгор, Быкаў, Васіль. Калі рукаюцца душы... С. 226).





Ліст сямнаццаты

*Не на вечнасьць,*
*А на разьвітаньне*
*Пішуцца шчымлівыя радкі.*
*Вечнасьць —*
*Самасьцьверджаная пані,*
*Ёй самоту слухаць не з рукі.*

*Вечнасьці сябе самой хапае,*
*На паслугах мудрасьць у яе.*
*Вечнасьць —*
*Гаспадыня не скупая,*
*Лішняе ахвоча раздае*[48].

The relationship between Belarus's best prose writer and greatest living poet, whilst undoubtedly interesting in the form it takes, provides yet another example of the remarkable warmth and generosity for which the Belarusian people are well known.

[48] *Letter Seventeen*

*These aching lines*
*Are written not for eternity,*
*But for parting.*
*Eternity*
*Is a self-assertive lady,*
*She does not naturally pay attention to loneliness.*

*Eternity is sufficient unto herself,*
*Wisdom serves her.*
*Eternity*
*Is not a mean lady,*
*She willingly distributes what she does not need.*
(Барадулін, Рыгор, Быкаў, Васіль. Калі рукаюцца душы... С. 258).

# Кніжная паліца

***Вітаўт Кіпель***
***Натальля Гардзіенка***
***Яна Славіна***

## КНІЖНЫ АГЛЯД

*За апошнія гады колькасьць друкаў, зьвязаных зь беларускім замежжам тэматыкай або месцам выданьня, істотна павялічылася. Актывізаваліся беларускія выдаўцы, што пачалі з ахвотаю зьвяртацца да публікацыі эміграцыйных аўтараў, дый колькасьць дасьледных публікацый павялічылася. Таму ў гэтым аглядзе давялося правесьці пэўны адбор пазыцыяў, на якія была зьвернутая ўвага. Так, па-за згадкамі аўтараў засталіся асобныя тэксты, прысьвечаныя праблемам эміграцыі ў пэрыядычных выданьнях кшталту альманаху „Асоба і час“, а таксама ў большых выданьнях, непасрэдна не зьвязаных з праблематыкай замежжа, прыкладам, другі том „Гісторыі беларускай кнігі“ (Менск, 2011), апошняя частка акадэмічнага шматтамовіка „Гісторыя Беларусі“(Менск, 2011), кніга „Інтэлектуальная гісторыя беларускага нацыяналізму“ Максіма Кірчанінава (Смаленск, 2011) і некаторыя іншыя. Магчыма, для наступнага выпуску альманаху будзе пададзены адмысловы тэкст, прысьвечаны гэткага кшталту публікацыям. Па-за сёлетнім аглядам засталося і некалькі важных манаграфічных выданьняў, такіх як працы Вольгі Коваль „Узаемасувязі беларускай і ўкраінскай дыяспар у міжваенны пэрыяд“ (Менск, 2012) або Васіля Саковіча „Беларусы ў этнакультурнай прасторы Малдовы“ (Менск, 2011). Плянуецца зьвярнуцца да іх у наступным выпуску „Запісаў“.*





*Coombes, Anne. Belarus - Culture Smart!: The essential guide to customs and culture. London, 2008. — 168 p.*




Кніга пазначаная 2008 г., але яна не передрукоўвалася ў пазнейшыя гады, таму кароткі агляд яе тут цалкам апраўданы. Публікацыя — кніжка сярэдняга, кішэннага памеру, ёсьць спадарожнікам турысту й наведніку Беларусі — бізнэсмэну, прадпрымальніку, урадоўцу.

У выданьні ў сьціслай, часам тэлеграфнай форме карыстальніку даецца маса інфармацыі пра Беларусь: гісторыя краіны ад часоў Полаччыны, Францішка Скарыны, Вялікага Княства Літоўскага, змаганьня з Масквой, імпэрскай русыфікацыі, супраціву (зазначаецца, што Касьцюшка народжаны на Беларусі). У найноўшым пэрыядзе адзначаецца, што беларусы аднавілі сваю дзяржаўнасьць 25 сакавіка 1918 г.

Большая частка даведніка-спадарожніка прысьвечаная Рэспубліцы Беларусь: культура, адміністрацыя, звычаі. Шмат увагі надаецца складаным беларуска-расейскім узаемадачыненьням, прарасейскай палітыцы А. Лукашэнкі, пры гэтым падкрэсьліваецца імкненьне беларусаў мець сувязі з Эўрапейскім саюзам. Адзначаюцца й факты „зьнікненьня“ лідэраў апазыцыі, як, прыкладам, Юрыя Захаранкі й іншых.

У кнізе зьмешчаная карта зь беларускай трансьлітарацыяй, прыклады фразэалёгіі, беларускія выразы кшталту „Вітаю“, „Дзякую“, „Калі ласка“. Дарэчы, зазначаецца таксама, што першай друкаванай кнігай усходніх славянаў быў „Псалтыр“, перакладзены на беларускую Францішкам Скарынам і надрукаваны ў Празе ў 1517 г.

Бясспрэчна, у выданьні сустракаюцца й памылкі, але наогул гэты спадарожнік — нядрэнныя ўводзіны ў пазнаньне Беларусі. Укладальніца ладны час працавала ў Беларусі англамоўным рэдактарам *„Minsk Times Belexport magazine“*.

Кніга прадаецца ў вельмі шырокай сетцы турыстычнай літаратуры, папулярных крамах англамоўнага сьвету.

*В. К.*

*Ветераны войны — иерусалимцы. Иерусалим, 2010. — 270 с.*

*Ступени восхождения. Война, Победа, Любовь, Иерусалим. Коллективный сборник стихов и прозы. Иерусалим, 2010. — 180 с.*







Габрэйская эміграцыя зь беларускіх земляў уяўляе сабою спэцыфічную й неад'емную частку нашай міграцыйнай гісторыі. І на мяжы XIX—XX стст., і ў 1990-я гг. у розныя краіны сьвету, а найперш у Ізраіль, выяжджалі людзі, што нарадзіліся на нашай тэрыторыі, мелі досьвед сужыцьця зь беларусамі, былі ўдзельнікамі супольнай гісторыі. І ў новых краінах сталага жыхарства яны часта складаюць свае „беларускія зямляцтвы“. Сёньня ў Ізраілі гэткае зямляцтва — адно з найвялікшых. Беларускія габрэі як бы ствараюць уласную гісторыю „беларускай эміграцыі“, пры гэтым мала кантактуючы ўласна зь беларускімі эмігрантамі, затое падтрымліваючы сувязі з „краінай выхаду“.

Разглядаючы габрэйскую эміграцыю як частку беларускай, варта зьвяртаць увагу й на тыя выданьні, што зьяўляюцца ў беларускіх зямляцтвах ці зь беларускім удзелам. Некалькі такіх выданьняў пабачылі сьвет у Ерусаліме ў 2010 г. Першае — энцыкляпэдычны даведнік вэтэранаў Другой сусьветнай вайны, што жывуць у гэтым горадзе, другое — паэтычны зборнік твораў ерусалімскіх вэтэранаў. Сярод ініцыятараў і стваральнікаў абедзьвюх кніг — сакратарка ерусалімскага аддзяленьня Аб'яднаньня выхадцаў зь Беларусі ў Ізраілі Алена Элімелех.





У другой са згаданых кніг — „Прыступкі ўзыходжаньня“ — нараджэнцы Беларусі прадстаўленыя даволі сьціпла: з 30 аўтараў — толькі тры „беларусы“. З іх толькі двое: былы супрацоўнік Гомельскага гарвыканкаму Яфім Ліўшыц і паэт, лаўрэат прэміі Саюзу габрэйскіх пісьменьнікаў і журналістаў (1979) Зінові Цялесін — уласна вэтэраны, а адзін — Яфім Урыцкі — сын вэтэрана вайны. Творы гэтых аўтараў асабліва не вылучаюцца з агульнага шэрагу вершаў ды апавяданьняў, прасякнутых пераважна гераічным патасам і пачуцьцём удзячнасьці лёсу за магчымасьць жыць у Ізраілі. Можна сказаць, што гэта своеасаблівае пацьверджаньне агульнасьці постсавецкай габрэйскай супольнасьці ў гэтай краіне.

Першая кніга — „Вэтэраны вайны — ерусалімцы“ — выдадзеная пры спрыяньні Міністэрства абсорбцыі дзяржавы Ізраіль, Саюзу вэтэранаў ды муніцыпалітэту гораду Ерусаліму. У прадмове зазначана, што гэтая кніга — частка своеасаблівага міжнароднага праекту па стварэньні кніг памяці габрэяў — вэтэранаў вайны з нацызмам. Гэты праект спантанна нараджаецца ў розных гарадах і краінах (Ізраіль, ЗША, Украіна ды інш.), ствараючы адмысловую „бібліятэку памяці“.

Выдадзеная ў Ерусаліме энцыкляпэдыя ўяўляе сабою ўласна першую частку даведніка. Яна складаецца з 714 біяграфічных артыкулаў, разьмешчаных у альфабэтнай пасьлядоўнасьці. Больш чым сто артыкулаў прысьвечаныя менавіта беларускім габрэям. Звычайная структура біяграмы: зьвесткі пра дату й месца нараджэньня, адукацыю, занятак да пачатку вайны, ваенны шлях зь пералікам узнагародаў, паваенны лёс і час прыезду ў Ізраіль. Зразумела, што не пра ўсіх герояў магчыма было знайсьці аднолькавы аб'ём зьвестак, таму часам біяграма складаецца зь некалькіх радкоў, а бывае, што займае й больш за палову старонкі. Па магчымасьці аповед пра жыцьцё чалавека суправаджаецца фатаздымкам.

Сярод прадстаўленых у выданьні выхадцаў зь Беларусі ёсьць надзвычай цікавыя асобы. Прыкладам, нараджэнец Менску Аўрам Шыфрын (1923—1998) быў ідэйным антысаветчыкам. Сын ворага народу, пачатак вайны ён праслужыў у штрафбатах і пасьля таго, як колькі разоў быў паранены, зьнішчыў свае габрэйскія дакумэнты, назваўся прыдуманым імем і такім чынам здолеў трапіць у „нармальную“ вайсковую частку й нават даслужыцца да афіцэрскага званьня маёра. У паваенны час, працуючы юрысконсультам пры Міністэрстве абароны, Аўрам Шыфрын даведаўся пра расправу савецкага кіраўніцтва над габрэямі, што запісаліся ў сьпіс на выезд у наваствораную дзяржаву Ізраіль, ды пачаў працаваць на амэрыканскую выведку. Быў схоплены

КДБ, прыгавораны да расстрэлу, але пасьля арышту Бэрыі прысуд быў зьменены, і Шыфрын адбыў 10 гадоў лягераў ды 4 на пасяленьні. Па вызваленьні стаў адным з арганізатараў падпольнага руху савецкіх габрэяў за права вольнага выезду ў Ізраіль і ў 1970 г. разам з групай з 60 чалавек ажыцьцявіў сваю мару. Аднак і на зямлі абяцанай не спыніў сваёй барацьбы й абароны палітзьняволеных у СССР. Аўтар шэрагу кніг.

Іншы шлях у нараджэнкі Магілёву Леа (Лізаветы) Цыёнскай (нар. 1920). Яна скончыла школу мэдсёстраў, прайшла шляхамі вайны праз Сталінградзкую бітву, дайшла да Бэрліну, мела ўзнагароды. Аднак *„шматразова зьведаўшы на сабе зьневажальнае стаўленьне да габрэяў у арміі“,* у 1946 г. перайшла ў амэрыканскую акупацыйную зону, адкуль перабралася ў Палестыну й у 1949 г. стала жыхаркаю Ерусаліму.

Сярод прадстаўленых у кнізе вэтэранаў-беларусаў — людзі розных прафэсіяў: фатографы, друкары, настаўнікі, лекары й г.д. Марк Тайц, прыкладам, быў вядучым супрацоўнікам Інстытуту фізыялёгіі АН БССР, а Вульф Саламонаў працаваў адміністратарам на кінастудыі „Беларусьфільм“, а ў Ерусаліме стаў адным з ініцыятараў стварэньня на гары Герцля помніку габрэйскім вайскоўцам, што загінулі ў шэрагах Чырвонай Арміі.

У біяграфіях, зьмешчаных у даведніку, адлюстраваныя разнастайныя шляхі беларускіх габрэяў у часы вайны й пасьля яе. З асобных лёсаў складваецца цікавая карціна габрэйскай гісторыі Беларусі савецкага часу, зь яе барацьбой з касмапалітызмам, калі габрэй ня мог працаваць настаўнікам, бо гэта была ідэалягічная праца, ня мог займаць кіроўную пасаду, першым трапляў пад звальненьне падчас „скарачэньня кадраў“. Гэта асобны пласт гісторыі, які, здаецца, пакуль спэцыяльна не дасьледаваўся ў Беларусі.

Кніга пра ерусалімскіх вэтэранаў, прынамсі яе беларуская частка, дае добрыя падставы для асэнсаваньня ваеннай і паваеннай гісторыі айчыннага габрэйства. Разам з тым, выданьне, што ўяўляе сабою біяграфічны даведнік, дарма названае „энцыкляпэдыяй“, бо да ўзроўню апошняй, строга кажучы, недацягвае. Тут ёсьць багата рэдакцыйных хібаў, розначытаньняў у назвах установаў, непасьлядоўнасьці ў вызначэньні краінаў нараджэньня вэтэранаў. Артыкулам не хапае пазначэньня крыніцаў інфармацыі, у некаторых выпадках — бібліяграфіяў вэтэранаў-аўтараў. Аднак як на папулярнае выданьне, узровень падачы й сыстэматызацыі інфармацыі ў кнізе даволі высокі. Добра было б дачакацца й другой часткі гэтай кнігі памяці, зробленай на такім жа ўзроўні.

*Н. Г.*





*Беларус: літаратурны альманах беларускіх пісьменьнікаў замежжа. Нью-Ёрк: Выдавецтва „Беларус“, 2011. — 240 с.*

*Шамецька, Юрась. Шлях да вяртаньня. Менск: Кнігазбор, 2011. — 96 с.*

*Шчур, Макс. Ліст, знойдзены на папялішчы. Апавяданьні. Белы крумкач, 2011. — 204 с.*










Апошнім часам публікацыя твораў сучасных аўтараў беларускага замежжа зрабілася зьвявай больш частай, чым пяць ці дзесяць гадоў таму. Гэта адбываецца не ў апошнюю чаргу дзякуючы заснаванаму ў 2007 г. у Нью-Ёрку літаратурнаму альманаху беларускіх пісьменьнікаў замежжа „Беларус“. Чарговы нумар выданьня пабачыў сьвет у 2011 г. і аб'яднаў на сваіх старонках паэтаў, празаікаў, перакладнікаў з розных краінаў. Тут ёсьць беларускія аўтары з Аўстраліі, Бэльгіі, ЗША, Канады, Нямеччыны, Польшчы, Расіі, Украіны, Фінляндыі, Чэхіі. Хтосьці зь іх — ужо вядомы

творца, іншыя толькі пачынаюць творчы шлях. І даволі важна, што дзякуючы намаганьням выдаўца Марата Клакоцкага ёсьць пляцоўка, дзе могуць публікавацца гэткія розныя аўтары. Можна сьцьвярджаць, што, вывучаючы зьмест штогадовых выпускаў альманаху, зацікаўленыя змогуць зразумець, што такое літаратура сучаснага беларускага замежжа.

Адзін з аўтараў альманаху — канадыйскі беларус Юрась Шамецька — у 2011 г. выдаў у Менску й першы свой паэтычны зборнік „Шлях да вяртаньня". Ён зьехаў у Канаду ў 1997 г., але пачаў друкавацца на старонках мэтрапольных часопісаў „Маладосьць" ды „Дзеяслоў", разумеючы, што ягоная чытацкая аўдыторыя застаецца найперш на радзіме. Юрась Шамецька быў заўважаны чытачамі ды крытыкамі, і вынікам творчага памкненьня стаў якраз першы зборнік. Кнігу склалі вершы, дзе яскрава прысутнічаюць і беларуская, і канадыйская рэчаіснасьць ды шчырыя й зразумелыя чалавечыя пачуцьці.

Істотна адрозьніваецца ад гэтай своеасаблівай „першай спробы" новае выданьне яшчэ аднаго сталага аўтара „Беларуса", вядомага беларускага творцы з Прагі Макса Шчура. Ягоная чарговая кніга — зборнік апавяданьняў „Ліст, знойдзены на папялішчы" — пабачыла сьвет у тым самым 2011 г. у выдавецтве „Белы крумкач". Паводле словаў Юнэлі Сальнікавай, аўтаркі своеасаблівай літаратурна-крытычнай пасьлямовы „Мадэрны закладнік постмадэрнасьці", арыгінальны паэт, перакладнік, эсэіст, адзіны ляўрэат прэміі Янкі Юхнаўца (2004) і ў новай сваёй кнізе сьведчыць, што *„пры ўсім падабенстве зь літаратурай мэтраполіі Макс Шчур застаецца ўнікальным менавіта дзякуючы спалучэньню несапалучальнага. Ён сам сабе стварае кантэкст і сам яго дэканструюе. Гадзінамі адшліфоўвае радкі, а потым называе гэта графаманствам. Артыкулюе жаданьне захаваць творчыя повязі з радзімай, але ў сваіх творах цытуе й закладае алюзіі на заходніх і цэнтральнаэўрапейскіх літаратараў. Пры ўсіх супярэчнасьцях творчай і чалавечай натуры Макс Шчур — гэта гарманічная таленавітая асоба, варта толькі даверыцца ягонай творчай інтуіцыі на пакручастым шляху ў сьвеце літаратуры"*.

Зьяўленьне згаданых вышэй новых літаратурных выданьняў дазваляе сьцьвярджаць пра наяўнасьць адметнага творчага патэнцыялу беларускага замежжа, вартага асаблівай увагі мэтраполіі.

*Н. Г.*





*Віцьбіч, Юрка. Лшоно Габоо Бійрушалайм: даваенная проза. Менск: Кнігазбор, 2011. — 232 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 19). — (Наклад 300 ас.)*




Многія беларускія эміграцыйныя пісьменьнікі сфармаваліся як творцы яшчэ на Бацькаўшчыне. Больш за тое, шэраг літаратараў на эміграцыі напісаў значна меней, чым да яе. Гэта, што праўда, не асабліва дачытыць Юркі Віцьбіча (1905—1975), аднаго з двух „узвышэнцаў", што апынуліся на Захадзе. Ён пачаў публікавацца яшчэ ў 1929 г. і да пачатку савецка-нямецкай вайны пасьпеў выдаць дзьве кнігі прозы — „Смерць Ірмы Лаймінг" (1932) і „Формула супраціўленьня касьцей" (1937). І хаця, прыйшоўшы ва „Ўзвышша" даволі позна, Віцьбіч ня быў, як большасьць сябраў згуртаваньня, рэпрэсаваны, аднак цкаваньне з боку функцыянэраў ад літаратуры зьведаў добра. Гэта абумовіла складанасьці, што меў аўтар з выданьнем сваіх кніг у 1930-х гг. Пры ўсім тым, у 1939 г. Юрка Віцьбіч быў прыняты ў сябры Саюзу пісьменьнікаў СССР. У часе вайны менавіта ён быў рэдактарам адроджанага часопісу „Ўзвышша", адзіны нумар якога быў падрыхтаваны да друку ў чэрвені 1944 г. Пазьней, на эміграцыі, ён быў актыўным выдаўцом і аўтарам, які шмат друкаваўся, асабліва ў пэрыёдыцы. Таксама на эміграцыі ў яго выйшлі: кніга гістарычных нарысаў „Плыве з-пад Сьвятое гары Нёман" (Мюнхэн, 1956), зборнік артыкулаў на рускай мове „Мы дойдем" (Нью-Ёрк, 1975), а таксама збор матэрыялаў „Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі" (Нью-Ёрк, 1996). Першая зь іх была рэпрынтам выдадзеная ў Менску ў 1995 г., апошняя мела нават два наклады ў 2007 г., што й абумовіла пэўным чынам веданьне творчасьці літаратара на радзіме.

У той жа час даваенная творчасьць Юркі Віцьбіча заставалася малавядомай мэтрапольнаму чытачу (нават нягледзячы на, прыкладам, публікацыю аднаго з найбольш вядомых даваенных твораў — „Сьмерць

Ірмы Лаймінг“ — на старонках „Спадчыны“). Паказаць менавіта першы этап творчасьці аўтара мелі на мэце выдаўцы новага зборніка „Лшоно Габоо Бійрушалайм“, што пабачыў сьвет у сэрыі „Бібліятэка Бацькаўшчыны“ ў 2011 г.

Укладальнік тому Лявон Юрэвіч адзначыў, што *„гэты зборнік зьмяшчае найлепшае й найбольш характэрнае з даваеннай творчасьці Віцьбіча“*[1]. Літаратурную частку выданьня склалі апавяданьні „Сьмерць Ірмы Лаймінг“ і дзьве аповесьці — „Лшоно Габоо Бійрушалайм“ ды „Арцыбіскуп і сьмерд“. Акрамя таго ў кнігу ўвайшлі: „Аўтабіяграфія“ Юркі Віцьбіча, напісаная ў 1965 г., невялікі тэкст-успамін пра „Ўзвышша“, літаратуразнаўчы нарыс „Не чарнілам, а крывёю“ пра лёсы рэпрэсаваных пісьменьнікаў, эсэ „Люблю я, разумееце, Віцебск“, а таксама ліставаньне аўтара, прысьвечанае даваеннаму літаратурнаму жыцьцю. Дапаўняе выданьне бібліяграфія Юркі Віцьбіча, складзеная Аленай і Лявонам Юрэвічамі, якая выдатна адлюстроўвае як эміграцыйны, так і даэміграцыйны пэрыяды творчасьці пісьменьніка ды можа стаць добрай падказкай для будучых дасьледнікаў ягонай творчасьці.

*Я. С.*




*Зорны шлях: Да 100-годдзя Барыса Кіта. — Менск: Кнігазбор, 2011. — 112 с. (Наклад 300 ас.)*

У красавіку 2010 г. адзначыў стагадовы юбілей адзін з найбольш вядомых у мэтраполіі эміграцыйных беларусаў, доктар матэматыкі, прафэсар Вашынгтонскага ўнівэрсытэту, акадэмік Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі Барыс Кіт. Вынікам сьвяткаваньня юбілею стала і адкрыцьцё пэрсанальнага музэю гэтага ганаровага грамадзяніна Навагрудку, і выданьне (праўда, толькі праз год) новай кнігі, прысьвечанай дзеячу.

Дзякуючы намаганьням дасьледніцы Лідзіі Савік Барыс Кіт ня

[1] Віцьбіч, Юрка. Лшоно Габоо Бійрушалайм: даваенная проза. Менск: Кнігазбор, 2011. С. 7.





можа, як шмат іншых беларускіх эміграцыйных дзеячаў, паскардзіцца на невядомасьць на Бацькаўшчыне. Таму як раней ужо неаднойчы выходзілі кнігі, прысьвечаныя яму, новае выданьне, укладзенае ўсё тым жа асабістым біёграфам прафэсара, мае выключна юбілейны характар. Яго склалі: невялікі біяграфічны артыкул аўтарства Лідзіі Савік, прысьвечаныя Барысу Кіту вершы ды прынагодна-віншавальныя тэксты розных беларускіх аўтараў, зьвесткі пра стварэньне й адкрыцьцё музэю юбіляра, ягонае інтэрвію з гэтай нагоды, хроніка жыцьця й фотагалерэя. Больш як трацітну выданьня складае вопіс дакумэнтаў і рэчаў, перададзеных дзеячам у Навагрудак. Зьвяртае на сябе ўвагу тое, што ліставаньне — ці не асноўная частка архіву Барыса Кіта — датычыць апошніх двух дзесяцігодзьдзяў ягонага жыцьця, і адрасатамі пераважна ёсьць мэтрапольныя беларусы. Магчыма, гэта тлумачыцца спэцыфікай прафэсійнай дзейнасьці Барыса Кіта ў галіне амэрыканскай астранаўтыкі, што вымагала абмежаваньня кантактаў, у тым ліку і з суайчыньнікамі на Захадзе.

„Зорны шлях“, выдадзены сумеснымі намаганьнямі Саюзу беларускіх пісьменьнікаў ды Згуртаваньня беларусаў сьвету „Бацькаўшчына“, няшмат дадае да ўжо створанага вобразу вядомага беларуса, а ёсьць хутчэй своеасаблівай данінай павагі гэтаму дзеячу.

*Н. Г.*




*Лукаш Дзекуць-Малей і беларускія пераклады Бібліі: зборнік матэрыялаў, артыкулаў і дакумэнтаў / рэдкалегія: А. У. Унучак (гал. рэд.) [і інш.]. Брэст: Альтэрнатыва, 2011. — 200 с.: іл. (Наклад 1000 ас.)*

Можна пагадзіцца з адным з укладальнікаў зборніка „Лукаш Дзекуць-Малей і беларускія пераклады Бібліі“ Андрэем Унучкам, што беларускай гістарыяграфіі вельмі не хапае сур’ёзных біяграфічных дасьледаваньняў. Удалыя навуковыя біяграфіі беларускіх дзеячаў можна пералічыць на пальцах. Яшчэ горш з гэтым у эміграцыяз-

наўстве, дзе акрамя праблемы доступу да крыніцаў, што могуць быць шырока раскіданыя геаграфічна, існуе й праблема трактоўкі дзеяча ў розныя пэрыяды ягонай біяграфіі. Асабліва гэта датычыць нацыянальнай ідэнтыфікацыі дзеячаў да пачатку XX ст., а таксама пэрыяду Другой сусьветнай вайны ў біяграфіях паваенных эмігрантаў (дасёньня яшчэ закідаецца Натальлі Арсеньневай, прыкладам, супрацоўніцтва ў „Беларускай газэце“ як нейкі недаравальны факт біяграфіі).

Згаданы вышэй зборнік матэрыялаў, артыкулаў і дакумэнтаў „Лукаш Дзекуць-Малей і беларускія пераклады Бібліі“, выдадзены ў Брэсьце пры дапамозе розных баптысцкіх суполак, таксама не вырашае праблемы беларускай біяграфістыкі. Тым ня менш, тут утрымліваюцца малавядомыя зьвесткі пра розныя пэрыяды жыцьця й дзейнасьці пастара. Выданьне заснаванае на матэрыялах аднайменнай канфэрэнцыі, якая адбылася ў 2008 г. у Менскай багаслоўскай сэмінарыі эвангельскіх хрысьціянаў-баптыстаў. Аднак відавочна, што выступы на канфэрэнцыі былі дапоўненыя дакумэнтамі й тэкстамі, што мэтанакіравана рыхтаваліся для зборніка пазьней. У выніку ў зборнік увайшла вялікая частка матэрыялаў пра жыцьцё й дзейнасьць Лукаша Дзекуць-Малея, выяўленых на тэрыторыі Беларусі ды суседніх краінаў.

Лукаш Дзекуць-Малей (1888—1955) вядомы сваім удзелам у беларускім нацыянальным руху ад 1910-х гг., а найбольш сваім перакладам на беларускую мову з грэцкай (сумесна з жонкаю ды з дапамогаю Антона Луцкевіча) Новага Запавету й Псальмаў, што пабачылі сьвет у Хэльсынгфорсе (Хэльсынкі) у 1931 г. пры падтрымцы Брытанскага біблійнага таварыства. Фантастычны наклад у 25 тыс. асобнікаў цалкам разышоўся, а сам пераклад яшчэ некалькі разоў перавыдаваўся. Менавіта на гэтым аспэкце дзейнасьці Лукаша Дзекуць-Малея засяроджаная большасьць матэрыялаў зборніка. Прыкладам, у артыкуле Антонія Бокуна „Гісторыя перакладу Бібліі на беларускую мову“ зроблены агляд перакладніцкіх ініцыятываў ад самых першых эўрапейскіх да сучасных беларускіх. Прычым згадваюцца таксама пераклады, зробленыя на эміграцыі. Шкада толькі, што за пералікам выдадзеных беларускамоўных біблійных тэкстаў няма іх хоць невялікага аналізу, акрэсьленьня перавагаў і недахопаў. Артыкул „Яшчэ пра беларускі пераклад „Новага Запавету і Псальмаў“ (1931): на аснове новых крыніцаў“ больш дэталёва прадстаўляе працу над перакладам і абставіны яго выданьня, у тым ліку й на падставе лістоў Лукаша Дзекуць-Малея, што былі знойдзеныя ў аддзеле рукапісаў і рэдкай кнігі бібліятэкі Акадэміі навук Літвы ў Вільнюсе. У дадатку да артыкула якраз і прыводзіцца вялікая





нізка згаданых лістоў да Антона Луцкевіча (1926—1929) і Яна Пятроўскага (1945).

Згаданая публікацыя лістоў не адзіная ў зборніку. Вялікую яго частку складае Дададак II, у які ўвайшлі дакумэнты й матэрыялы да гісторыі перакладу Новага Запавету й Псальмаў на сучасную беларускую мову 1925—1932 гг. Тут каля 20 лістоў і ня толькі, аб’яднаных праблемай ажыцьцяўленьня, выданьня ды распаўсюду перакладу Дзекуць-Малея. Лісты Антона Луцкевіча да Гальляша Леўчыка, Аляксандра Ўласава, Антона Неканда-Трэпкі, мэтадысцкага пастара Джона Віта, супрацоўнікаў Брытанскага й Замежнага біблійнага таварыства, прадстаўніка выдавецтва „Компас“ у Лодзі ды ўкраінскага мітрапаліта Андрэя Шаптыцкага пераважна захоўваюцца ў той самай бібліятэцы Акамэміі навук Літвы (толькі некаторыя дакумэнты ўзятыя з пэрыёдыкаў ці зборнікаў). Паказальна, што кожны дакумэнт падаецца як на мове арыгіналу, так і ў беларускім перакладзе, нават калі арыгінал рускамоўны, што нячаста робяць айчынныя публікатары.

Непрацяглы гарадзенскі пэрыяд жыцьця Лукаша Дзекуць-Малея прадстаўлены ў адпаведным артыкуле Ўладзімера Ляхоўскага й Андрэя Чарнякевіча, а таксама падборцы дакумэнтаў з Нацыянальнага архіву Рэспублікі Беларусь, якія сьведчаць пра дзейнасьць будучага пастара на ніве беларускага школьніцтва ў Гародні ў 1919—1921 гг.

Надзвычай важным тэкстам ёсьць артыкул Сьцяпана Пекуна „Лукаш Дзекуць-Малей: жыцьцё і служэньне“, спроба як мага больш поўнай рэканструкцыі біяграфіі дзеяча. Гэты тэкст арганічна дапаўняюць матэрыялы ды здымкі зь сямейнага архіву Дзекуць-Малеяў.

Асобныя зьвесткі да агульнай тэмы дадаюць тэксты Аляксандра Ільіна „Лукаш Дзекуль-Малей у дакумэнтах Дзяржаўнага архіву Беларусьцейскай вобласьці“, а таксама Алены Глагоўскай „Быў такі доктар... памяці Данілы Дзекуць-Малея (1930—2010)“. Больш аддаленыя зьместава тэксты Юрыя Бачышча „Царква і нацыя“ ды Захара Шыбекі „Адраджэньне пратэстантызму ў незалежнай Беларусі“. Тым ня менш, сам зборнік выглядае даволі арганічна і, галоўнае, сапраўды шмат новага дадае да біяграфіі беларускага дзеяча, што скончыў сваё жыцьцё ў польскім Гданьску, і да гісторыі перакладаў Сьвятога Пісьма.

*Н. Г.*

*Матвейчык, Дзьмітрый. Выгнаныя з роднага краю: Пасьлялістападаўская эміграцыя зь Беларусі і Літвы (1830—1870-я гады). Менск: Лімарыюс, 2011. — 200 с.: іл. (Наклад 200 ас.)*




У беларускай гістарыяграфіі наогул і ў эміграцыязнаўстве ў прыватнасьці багата асобаў і тэмаў, „прыватызаваных“ іншымі народамі. Так, эміграцыйныя хвалі з нашых земляў у XIX ст. амаль скрозь лічацца польскімі, а хвалі мяжы XIX—XX стст. — расейскімі. Зразумела, што гэткі стан рэчаў можна патлумачыць рознымі прычынамі, але ж вынікам усё роўна будзе тое, што сёньня вельмі не хапае менавіта беларускіх грунтоўных дасьледаваньняў тых міграцыйных працэсаў. І кніга Дзьмітрыя Матвейчыка „Выгнаныя з роднага краю“ ёсьць такім доўгачаканым выданьнем, якое сур'ёзна, абгрунтавана паказвае гісторыю эміграцыі зь беларускіх і літоўскіх губэрняў пасьля паўстаньня 1830—1831 гг.[2]

Згаданая кніга ёсьць публікацыяй вынікаў дысэртацыі аўтара на спашуканьне ступені кандыдата гістарычных навук, абароненай у 2008 г. Менавіта гэтым тлумачыцца строга навуковы характар выданьня. Што праўда, аналіз гістарыяграфіі ў кнізе, відавочна, быў скарочаны й выглядае хутчэй агульным аглядам, дзе хіба што пералічваюцца аўтары ды працы бязь іх крытычнага аналізу. Інфармацыя ж пра скарыстаныя крыніцы крыху паўнейшая, прынамсі, акрэсьліваюцца вартасьці фондаў розных архіваў (Беларусі, Літвы, Польшчы) для вывучэньня тэмы. А архіўных дакумэнтаў, гледзячы па сьпісе крыніц, аўтар пераглядзеў сапраўды багата.

Асноўная частка кнігі пачынаецца з разьдзела „Прычыны эміграцыі, расьсяленьне эмігрантаў зь беларуска-літоўскіх губэрняў“, дзе Дзьмітрый Матвейчык пасьлядоўна разглядае розныя групы фактараў, што спрычыніліся да эміграцыі, а таксама аналізуе колькасныя й геаграфічныя характарыстыкі хвалі. Трэба заўважыць, што эміграцыя пасьля паўстаньня 1830—1831 гг. была фактычна першай масавай эміграцыяй зь беларускіх земляў, лік удзельнікаў якой вымяраўся тысячамі асобаў пераважна шляхецкага стану. Паказальна, што Дзьмітрый Матвейчык робіць даволі дакладны колькасны аналіз эміграцыі зь беларуска-літоўскіх земляў на падставе складзенай ім базы зьвестак, што ўтрымлівае 1515 асобаў. Веданьне эмігрантаў пайменна дае аўтару магчымасьць больш дакладнага аналізу іх сацыяльнага статусу, а таксама лёсаў на эміграцыі. У кнізе літаральна па месяцах і гадах прасочваецца шлях нашых суайчыньнікаў праз Прусію й Аўстрыю далей на Захад і зьмяненьне іх колькасьці у розных рэгіёнах краіны найбольшага іх расьсяленьня — Францыі. Згадвае аўтар таксама пра эмігрантаў гэтай хвалі ў Бэльгіі, Вялікабрытаніі, Алжыры, Гішпаніі, Партугаліі, Італіі. Што праўда, забыўся Дзьмітрый Матвейчык адзначыць, што некаторыя ўдзельнікі паўстаньня апынуліся і ў далёкай Аўстраліі, напрыклад, Алаізы Канстанты Друцкі-Любецкі, Люцыян і Фэрдынанд Плятэры[3].

Наступны разьдзел кнігі — „Гуртаваньне ўраджэнцаў беларуска-літоўскіх губэрняў у эміграцыі“ — расказвае пра асноўныя арганізацыі як „Вялікай эміграцыі“ наогул, так і менавіта выхадцаў зь беларускіх тэрыторыяў. Так, асаблівую ўвагу аўтар надае парыскаму Таварыству літоўскаму і рускіх зямель, якое мела на мэце збор матэрыялаў па гісторыі паўстаньня 1830—1831 гг. *„у Літве і рускіх землях“*, апісаньне згаданых краінаў з гістарычнага й статыстычнага пунктаў гледжаньня, а таксама дасьледаваньне насельніцтва. Пры гэтым варта адзначыць, што ў пытаньні ацэнкі паўстаньня й ролі прадстаўнікоў розных рэгіёнаў у шэрагах эмігрантаў назіралася выразнае супрацьстаяньне прадстаўнікоў беларуска-літоўскіх земляў з выхадцамі з Кароны Польскай. Дзякуючы сябрам Таварыства паўстаў цэлы комплекс мэмуараў, прысьвечаных падзеям паўстаньня.

Падае аўтар і інфармацыю пра дзейнасьць Таварыства братэрскага аб'яднаньня ў Бэзансоне, што складалася з выхадцаў з тэрыторыі былога Вялікага Княства Літоўскага, якія ў вялікай колькасьці пасяліліся ў гэтым горадзе, а таксама пра створаны значна пазьней, у 1848 г., сумесна з нараджэнцамі ўкраінскіх зямель Літоўска-рускі клюб. Хоць згаданыя арганізацыі й не праіснавалі доўга (дзейнічалі ня болей за два гады), аднак іх наяўнасьць яшчэ раз пацьвярджае неабходнасьць раз-

[2] Можна, праўда, згадаць працу Вольгі Гарбачовай „Удзельнікі паўстаньня 1830—1831 гг. на Беларусі. Біябібліяграфічны слоўнік“ (Менск, 2004), аднак гэта было менавіта даведкавае выданьне, дзе ўтрымліваліся зьвесткі пра эміграцыйныя лёсы паўстанцаў.

[3] Гардзіенка, Натальля. Беларусы ў Аўстраліі: Да гісторыі дыяспары. Менск, 2004. С. 27.

глядаць эмігрантаў з тэрыторыі былога ВКЛ як спэцыфічную групу ў шэрагах „Вялікай эміграцыі“.

Асобна спыняецца Дзьмітрый Матвейчык на пытаньнях самасьвядомасьці й самавызначэньня эмігрантаў зь беларуска-літоўскіх губэрняў, спрабуючы разабрацца ў тагачасным зьмесьце саманазваў „ліцьвін“ і „паляк“, а таксама на існаваньні розных узроўняў самасьвядомасьці сваіх герояў.

У наступным разьдзеле кнігі — „Уплыў эміграцыі на грамадзка-палітычны рух на радзіме“ — разглядаюцца дзьве найбольш значныя акцыі: няўдалая Экспэдыцыя Заліўскага на Беларусі й Літве ў 1832—1834 гг. з мэтаю падняцьця новага паўстаньня зь яе героямі Міхалам Валовічам і Марцэліем Шыманскім, а таксама дзейнасьць эмісара Шымана Канарскага з той самай мэтаю ды гэткая ж беспасьпяховая. Аўтар даволі падрабязна расказвае пра асаблівасьці абедзьвюх акцыяў і прычыны іх паразы, даказваючы, што менавіта такім спосабам — рэалізацыяй ідэі падняцьця новага паўстаньня — беларуска-літоўскія эмігранты ўплывалі ў 1830—1840-х гг. на падзеі на радзіме.

Праўда, быў яшчэ й іншы ўплыў — апасродкаваны, праз пісьменьніцкую ды выдавецкую дзейнасьць, якую Дзьмітрый Матвейчык разглядае ў асобным разьдзеле. Менавіта тут прадстаўленыя літаратурныя творы і ўспаміны, якія пачалі актыўна ствараўцца ды публікавацца выхадцамі з былога ВКЛ на эміграцыі. У гэтым аглядзе можна знайсьці згадкі прац Караля Нямцэвіча, Кунегунды Гедройц, Вінцэнта Нешакоця, Міхала Пяткевіча, Юзафа Сташэвіча, Міхала Ходзькі, Антонія Гарэцкага й многіх іншых. Можна сказаць, што творчая спадчына выхадцаў зь беларуска-літоўскіх зямель у гэтай хвалі эміграцыі налічвае сотні назваў. Парадаксальна, але менавіта сытуацыя эміграцыі дала магчымасьць гэтым творам пабачыць сьвет, бо многія зь іх проста ня мелі шансаў быць выдадзенымі ва ўмовах Расейскай імпэрыі.

Апошні разьдзел кнігі расказвае пра амністыю й вяртаньне эмігрантаў на радзіму. Складаныя шляхі і ўмовы вяртаньня былых паўстанцаў, асаблівасьці „памілаваньня“ 1856 г., а таксама колькасныя паказчыкі рээміграцыі лягічна завяршаюць аповед пра „Выгнаных з роднага краю“.

Акрамя аўтарскага тэксту кніга мае дадаткі („Іменны сьпіс сябраў Таварыства братэрскага аб’яднаньня“ ды „Акт заснаваньня і Статут Літоўска-рускага клюбу“), ілюстрацыі, сьпіс выкарыстаных крыніц і літаратуры з 505 пазіцыяў, а таксама такія неабходныя іменны й геаграфічны паказальнікі. Пры канцы падаецца рэзюмэ на чатырох мовах, што завяршае амаль ідэальны варыянт навуковага апарату кнігі.





Можна сьмела сьцьвярджаць, што кніга „Выгнаныя з роднага краю“ атрымалася надзвычай сур’ёзным, узважаным і якасным дасьледаваньнем даволі складанай тэмы з гісторыі эміграцыі. Безумоўна, яно ня вычарпала праблемы цалкам, шэраг аспэктаў, як, прыкладам, дзейнасьць выхадцаў з былога ВКЛ па-за межамі Эўропы, засталіся фактычна па-за ўвагаю навукоўца. Аднак праца Дзьмітрыя Матвейчыка заклала своеасаблівы падмурак у вывучэньні эміграцыяў XIX ст. менавіта зь беларускага гледзішча, і ў гэтым, бадай, найбольшая каштоўнасьць гэтага дасьледаваньня.

*Н. Г.*

*Храптовіч-Буцянёва, Вольга. Злом (1939—1942): Успаміны. Менск: Кнігазбор, 2011. — 280 с. (Наклад 500 ас.)*




Багата ёсьць тэкстаў на розных мовах (успамінаў, дзёньнікаў, мастацкай літаратуры), створаных іншаземнымі аўтарамі, дзе закранаюцца падзеі ў Беларусі. Перакладзеныя ці не, яны таксама ёсьць крыніцамі па нашай гісторыі, вартымі ўвагі дасьледнікаў. Аднак да іх публікацыі па-беларуску, як і да ўвядзеньня ў айчынную гістарыяграфію варта ставіцца вельмі ўважліва. У гэтым сэнсе ўспаміны Вольгі Храптовіч-Буцянёвай, выдадзеныя ў выдавецтве „Кнігазбор“, — унікальны прыклад у многіх аспэктах.

Аўтарка, расейка па нараджэньні, паходзіць з Наўгародзкай губэрні, разам з бацькамі ўцякала ад рэвалюцыі, трапіла ў Італію, потым у Францыю, дзе й пазнаёмілася са сваім мужам, на той момант ужо ўдаўцом, Апалінарыем Храптовічам-Буцянёвым. У іх была розьніца ва ўзросьце больш за 15 гадоў, аднак шлюб можна назваць шчасьлівым. Ягоныя дзеці, ужо дарослыя, добра прынялі новую бацькаву жонку, і разам сужэнцы пасьпелі пражыць шэсьць шчасьлівых гадоў у вандроўках па Італіі ды спакойным жыцьці ў Шчорсах — родавым маёнтку Храптовічаў. Менавіта з апош-

няга пачынаецца аповед графіні Вольгі Аляксандраўны. Яна мела 45 гадоў, Апалінары (Поль) — за 60, калі прыйшоў верасень 1939 г. За час сужэнства аўтарка ўспамінаў перарабілася на сапраўдную польку, і гэтая яе ідэнтычнасьць дамінуе ў аповедзе пра падзеі. Яна сама паўсюль называе сябе полькаю, Заходнюю Беларусь уважае за Польшчу, а за Стоўпцамі для яе пачынаецца Расея, якая за 20 гадоў за мяжою стала *„далёкая і чужая“*[4]. Вось чаму згаданыя мэмуары, хоць і належаць прадстаўніцы беларускага шляхецкага роду, нельга назваць беларускімі. Праўда, Беларусь, беларусы, беларускі кантэкст трывала прысутнічае ва ўспамінах, але аўтарка ўспрымае ўсё гэта як „чужое“, „несваё“. І аповед атрымліваецца як бы і зь Беларусі, але не беларускі.

Тым ня менш, „Злом“ — важны дакумэнт свайго часу. Аўтарка расказвае тут пра тры гады свайго жыцьця, поўныя пакутаў, стратаў. Адразу па прыходзе савецкай улады яе разам з мужам арыштавалі. Муж, асуджаны застаўся ў турме ў Наваградку, а Вольга Храптовічава-Буцянёва, расейка з паходжаньня, была высланая на пасяленьне ў Казахстан як жонка паляка. Графіня, яна прайшла шлях, знаёмы тысячам беларусаў і палякаў, вывезеных з Заходняй Беларусі ў 1940—1941 гг. Яе аповед — пра працу ў зьбяднелым калгасе ў Казахстане, потым пра жыцьцё тамсама ў Акцюбінску, далей — калгас на ўзбэцкай тэрыторыі. Менавіта там засьпела аўтарку ўспамінаў навіна пра пагадненьне Сікорскага са Сталіным 1941 г. і стварэньне Арміі Андэрса. Вольга Аляксандраўна як вывезеная з Польшчы далучылася да Арміі, працавала ў дэлегатуры пры ёй і разам з войскам праз Азію дайшла да Эўропы, дзе й жыла пасьля вайны.

Ва ўспамінах цікава, па-мастацку апісваюцца трагічныя падзеі першых гадоў Другой сусьветнай, лёсы выхадцаў зь Беларусі. Вольга Храптовіч-Буцянёва падае асобныя карцінкі жыцьця Шчорсаў, Наваградку, высланых у Казахстане ці ва Ўзбэкістане. Гэтыя ўспаміны вельмі цікава было б суаднесьці з аўтабіяграфічнымі аповедамі Натальлі Арсеньневай ці каго зь іншых беларусаў і беларусак, што прайшлі праз рэпрэсіі таго ж часу. На жаль, публікатары ўспамінаў не парупіліся пра камэнтары да іх, спаслаўшыся на мастацкасьць тэксту. Аднак для беларускага чытача, здаецца, аповед Храптовіч-Буцянёвай быў бы варты адмысловага камэнтаваньня што да пэўных асобаў, падзеяў, месцаў. Нават прадмова неяк недарэчна расказвае ня так пра ўспаміны ды іх аўтарку ці герояў, як пра перакладчыкаў і іх сямейную гісторыю. У выніку пра сам тэкст мэмуараў даведваемся няшмат. Пераклад быў зроблены адразу з двух варыянтаў: франкамоўнага й рускамоўнага выданьняў (дакладных зьвестак пра арыгінальныя тэксты ў прадмове няма). Рускамоўнае выданьне пабачыла сьвет у Парыжы ў 1984 г. Аднак быў гэта арыгінальны тэкст ці пераклад, напрыклад, з францускай ці польскай, сказаць складана. Перакладнікаў, здаецца, гэткія дробязі наогул не турбавалі, а выніковы беларускі тэкст аказаўся даволі няроўны й неахайны (сустракаюцца выразы кшталту „бескарысная праца“ (у сэнсе непрыбытковая, на грамадзкіх пачатках) і іншыя такога ж кшталту).

[4] Храптовіч-Буцянёва, Вольга. Злом (1939—1942): Успаміны. Менск: Кнігазбор, 2011. С. 74.





У выніку пабачыла сьвет выданьне, зь якога складана даведацца пра арыгінал успамінаў ды аўтарку, у якім няма камэнтароў, а ёсьць толькі тэкст, пераклад якога не вылучаецца высокай якасьцю. Затое тут зьмешчаныя здымкі перакладчыкаў Тацьцяны й Аўгена Лецкаў ды ўспаміны зь дзяцінства апошняга. Неяк недарэчна выглядае гэткая публікацыя.

І тым ня менш, самі па сабе ўспаміны Вольгі Храптовіч-Буцянёвай „Злом“ безумоўна вартыя ўвагі ды аналізу як тэкст аўтаркі-эмігранткі і як сьведчаньне пра падзеі ў Беларусі.

*Н. Г.*

*Черепица, В. П. От Волковыска до Харбина. Торгово-промышленная династия Скидельских (конец XIX — середина XX с.) в документах и материалах. Гродно: ГрГУ, 2011. — 287 с.*




Адна зь цікавых і нераспрацаваных дасёньня старонак гісторыі беларускай эміграцыі пачатку XX ст. — прысутнасьць выхадцаў зь беларускіх і літоўскіх губэрняў на Далёкім Усходзе, у Манчжурыі. У шматлікіх дасьледаваньнях і даведніках, прысьвечаных расейскай эміграцыі ў Кітаі, даволі часта можна спаткаць згадкі пра нашых суайчыньнікаў. Асобныя вядомыя на сёньня беларускай публіцы сюжэты зьвязаныя з жыцьцём у Манчжурыі, прыкладам, Міхася Забэйды-Суміцкага або зь дзейнасьцю грэка-каталіцкіх сьвятароў, у тым ліку а. Язэпа Германовіча, які пакінуў

цікавыя ўспаміны й пра гэты пэрыяд сваёй духоўнай працы. Аднак гэтыя асобныя эпізоды пакуль так і ня склаліся ў агульную даволі драматычную карціну беларускай прысутнасьці на Далёкім Усходзе.

Не вырашае праблемы й манаграфія загадчыка катэдры славянскай гісторыі Гродзенскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту Валерыя Чарапіцы. „Ад Ваўкавыску да Харбіну“ — дасьледаваньне, прысьвечанае сям'і Скідэльскіх, габрэяў-прамыслоўцаў з Гарадзеншчыны, што сталі значнымі асобамі на Далёкім Усходзе. Праца заснаваная на матэрыялах двухтамовай сьледчай справы Салямона Скідэльскага з архіву КДБ Гарадзенскай вобласьці. Што праўда, аўтар манаграфіі падае грунтоўную гісторыю сям'і Скідэльскіх, пачынальнік купецкай дынастыі якіх Хаім Лейба Шымон Скідэльскі (1845—1916) паходзіў са Слоніму, дзе меў галянтарэйную лаўку, а пры канцы жыцьця, дзякуючы ўдалай прадпрымальніцкай дзейнасьці, асабліва на будаўніцтве далёкаўсходняй чыгункі й распрацоўцы вугальных радовішчаў, пакінуў сваім нашчадкам прамысловую імпэрыю, капіталы якой ацэньваліся ў 9,5 мільёнаў расейскіх рублёў. Варта таксама згадаць, што старэйшы Скідэльскі быў вядомы й як мэцэнат, шмат дапамагаў розным установам, а фінансаваныя ім будынкі дасёньня вызначаюць архітэктурны вобраз Уладзівастоку.

Салямону Скідэльскаму, які стаў галоўным спадчыньнікам маёмасьці бацькі, маладому чалавеку з брытанскай адукацыяй, давялося працягваць бацькоўскую справу, і ён няблага даваў гэтаму рады. Нягледзячы на тое, што савецкая ўлада нацыяналізавала прадпрыемствы прамыславікоў у Прымор'і, ён здолеў аднавіць магутнасьць бацькоўскай імпэрыі ў кітайскай, а потым японскай Манчжурыі, атрымаў пасаду ганаровага консула Партугаліі ў Харбіне ды працягнуў сямейную мэцэнацкую дзейнасьць. Пра яго пісала мясцовая прэса, ён быў кіраўніком мясцовай габрэйскай грамады, кантактаваў з расейскімі эміграцыйнымі арганізацыямі ды японскай вайсковай місіяй, што пазьней і было пакладзена ў аснову абвінавачаньня супраць яго з боку савецкіх уладаў.

Валеры Чарапіца намагаецца прасачыць асноўныя моманты біяграфіі Салямона Скідэльскага да арышту, падаючы яе па магчымасьці на фоне падзеяў агульнай гісторыі рэгіёну й расейскай эміграцыі ў ім. Побач з удалымі камэрсантамі часам аказваліся й іншыя выхадцы зь беларускіх губэрняў, што таксама згадваецца ў кнізе. Праўда, аўтар адмыслова не разьвівае менавіта беларускую тэму ў гісторыі „расейскай“ эміграцыі на Далёкім Усходзе.





Значная частка кнігі ўяўляе сабою ўплеценую ў агульны аповед публікацыю матэрыялаў сьледчай справы Салямона Скідэльскага, які разам з братам Сямёнам быў арыштаваны савецкімі ўладамі ў 1945 г., нават нягледзячы на згоду прамыслоўцаў перадаць новым гаспадарам свае прадпрыемствы. Расьсьледаваньне працягвалася некалькі гадоў і ў розных месцах: на Далёкім Усходзе, ва Ўзбэкістане, у Бутырскай турме ў Маскве... У выніку Сямён Скідэльскі памёр у лягеры ў 1948 г., а Салямон перажыў брата роўна на чатыры гады й памёр у той самы дзень у 1952 г. Так скончылася яркая гісторыя магутнай прамысловай дынастыі беларускага паходжаньня, якая была часткаю гісторыі расейскай (у тым ліку й белагвардзейскай) эміграцыі на Далёкім Усходзе.

Вядома, што ў Скідэльскіх засталіся нашчадкі. Дачка Салямона Сібіла жыла ў Вашынгтоне, дзе была літаратаркай ды кіраўніком мастацкага аддзелу ў „Вашынгтан Пост“ у 1930-я. А ў 2005 г. на Гарадзеншчыну прыяжджаў пляменьнік Салямона Робэрт Скідэльскі, прафэсар Уорвікскага ўнівэрсытэту, старшыня Цэнтру глябальных дасьледаваньняў ды чалец Палаты лордаў Брытанскага парлямэнту. Што праўда, і ён, як некалі ягоныя продкі, больш кантактуе з сучаснымі расейскімі дзеячамі. Салямон і Сямён Скідэльскія былі рэабілітаваныя ў 1990 г.

Кніга „Ад Ваўкавыску да Харбіну“ ілюстраваная копіямі дакумэнтаў і здымкаў пераважна з той самай сьледчай справы, аднак пададзеныя выявы — надзвычай дрэннай якасьці. Сама ж манаграфія Валерыя Чарапіцы — гэта й спроба вяртаньня ў беларускую прастору імя даволі значнай дынастыі суайчыньнікаў-прамыслоўцаў, і сьведчаньне таго, як шмат яшчэ трэба зрабіць, каб зьявілася паўнавартаснае дасьледаваньне пра беларускую гісторыю „рускага Харбіну“.

*Н. Г.*

*Шабельцев, С. В. Иммигранты-чакареро из II Речи Посполитой в Аргентине и Парагвае. Воспоминания белорусов и украинцев. Минск: РИВШ, 2011. — 94 с. (Наклад 80 ас.)*

Няшмат вядома пра першых беларусаў, што адначасова з украінцамі пачалі перасяляцца ў Паўднёвую Амэрыку яшчэ ў 1880-я гг. Крыху больш вядома пра перасяленцаў пачатку XX ст. і міжваеннага часу. Аб'ядноўвае гэтыя эміграцыйныя хвалі, якія ішлі фактычна з розных краінаў (Расейскай імпэрыі, Рэчы Паспалітай), тое, што былі гэта ў пэўнай ступені „падманутыя“ эмігранты. Купіўшыся на абяцаньні „райскага жыцьця“ ад міграцыйных агентаў, нашыя суайчыньнікі цэлымі сем'ямі перасяляліся ў далёкія Аргентыну ці Парагвай, дзе ча-




ста апыналіся ва ўмовах на мяжы выжываньня. Яны атрымлівалі для апрацоўкі ўчасткі зямлі („чакры“), зарослыя лесам, населеныя дзікімі зьвярамі й небясьпечнымі рэптыліямі, а ў выніку цяжкай працы мелі мізэрны прыбытак. Такімі аповедамі поўняцца ўспаміны беларусаў і ўкраінцаў, прыведзеныя ў новай кнізе Сяргея Шабельцава.

„Іміграны-чакарэра з ІІ Рэчы Паспалітай у Аргентыне й Парагваі“ — другая кніга аўтара, прысьвечаная эміграцыі ў Паўднёвую Амэрыку, — вынік паездкі 2010 г., калі дасьледнік атрымаў магчымасьць непасрэдна ў Аргентыне спаткацца з сваімі героямі, запісаць іх успаміны.

У аўтарскай прадмове да выданьня Сяргей Шабельцаў спрабуе сыстэматызаваць зьвесткі пра першых перасяленцаў зь беларускіх і ўкраінскіх земляў у дзьвюх паўднёваамэрыканскіх краінах. Тут прыведзеныя цікавыя цытаты з успамінаў земляробаў-чакарэра, якія адлюстроўваюць складаныя ўмовы жыцьця й працы на новых землях, тлумачаць сымпатыі эмігрантаў да СССР і рух пасьляваеннай рээміграцыі ў гэтую краіну. Праўда, аўтар побач з нацыянальнымі („нацыяналістычнымі“, паводле не ацэначнага, але сутнаснага вызначэньня аўтара) украінскімі арганізацыямі Аргентыны ня згадвае нацыянальных беларускіх пасьляваенных арганізацый, якія, што праўда, дзейнічалі ня так доўга, у канцы 1940-х — сярэдзіне 1950-х гг. Тым ня менш, іх наяўнасьць усё ж не дазваляе адназначна сьцьвярджаць, што беларусы ідэнтыфікавалі сябе выключна як сябры „рускіх“ арганізацый. Проста ўдзельнікі колішніх нацыянальных беларускіх арганізацый належалі да паваеннай эміграцыі і з часам большаю часткаю перабраліся ў ЗША.

Міжваенныя перасяленцы, чые ўспаміны прыведзеныя аўтарам у кнізе, сапраўды сымпатызавалі СССР, што й адлюстравалася ў тэкстах. Зь дзевятнаццаці новых успамінаў трынаццаць запісаныя самім аўтарам у часе паездкі, а астатнія былі перададзеныя яму або ўзятыя з пэрыёдыкаў. З усіх тэкстаў дзевяць належаць беларусам і толькі адзін зь





іх — па-беларуску, што таксама адлюстроўвае адметнасьці нацыянальнай ідэнтычнасьці нашых суайчыньнікаў.

Наогул, кніга нараджае шэраг пытаньняў што да вывучэньня паўднёваамэрыканскіх дыяспараў. Беларусы тут амаль ня мелі ўласных нацыянальна-арыентаваных арганізацый як у даваенны, так і ў паваенны час (за выняткам Беларускага аб’еднаньня ў Аргентыне), а былі сябрамі агульных з украінцамі клюбаў савецкіх грамадзян — носьбітаў саветызаванага варыянту інтэрнацыянальнай славянскай культуры. Такім чынам, паняцьце „беларуская дыяспара“ тут мае свой спэцыфічны сэнс, і выяўленьне адметнасьці гэтага фэномэну аргентынскай беларускай прысутнасьці павіннае стаць тэмай асобнага дасьледаваньня.

Цікавы таксама лёс тых, хто рээміграваў у 1950-х у СССР, а потым зноў вярнуўся ў Аргентыну. Іх вопыт, іх успаміны маглі б стаць цікавым аб’ектам вывучэньня.

Важны плюс кнігі — пашырэньне аўтарам геаграфічных межаў сваіх дасьледаваньняў і ўключэньне інфармацыі пра беларусаў у Парагваі. Гэтай краіне амаль не было прысьвечана ня толькі спэцыяльных выданьняў, але й асобных публікацыяў[5]. Цікава, што згаданая Сяргеем Шабельцавым беларуская калёнія „Фрам“ фігуруе таксама ў кнізе расейскага дасьледніка Мартынава, прысьвечанай дзейнасьці генэрала Бялова ў Парагваі[6]. Гэта былі перасяленцы менавіта „белай“ эміграцыі — малавядомы эпізод у гісторыі нашага міграцыйнага руху.

Варта заўважыць, што паўднёваамэрыканскую гісторыю беларускай эміграцыі можна пашырыць і за кошт Вэнэсуэлы, куды пасьля Другой сусьветнай вайны прыехала больш за сотню беларусаў і дзе нейкі час існавала асобнае Згуртаваньне беларусаў.

Сутнасна новая кніга Сяргея Шабельцава вельмі нагадвае першую, аснову якой таксама склалі аўтэнтычныя сьведчаньні: дакумэнты, успаміны, публікацыі[7]. Аднак новае выданьне зьмястава дапаўняе папярэдняе. Кніга ілюстраваная арыгінальнымі здымкамі зь сямейных архіваў апытаных беларусаў і ўкраінцаў, хоць друкаваныя выявы й аказаліся ня надта добрай якасьці.

---

[5] Бадай, адзіная нам вядомая: Цяўлоўскі, Э. Пад пякучым сонцам: Беларусы ў Парагваі // Беларус. № 452. Сакавік 1998. С. 6—7.

[6] Мартынов, Б. Ф. Русский Парагвай: Повесть о генерале Белове, людях и событиях прошлого века. Масква, 2006. С. 176.

[7] Шабельцаў, Сяргей. Беларусы ў Аргентыне: грамадзкая дзейнасьць і рээміграцыя ў СССР (1930—1960-я гг.): зборнік дакумэнтаў і ўспамінаў. Менск: Медысонт, 2009. — 368 с.

Наогул жа варта адзначыць, што сама па сабе кніга „Імігранты-чакарэра з ІІ Рэчы Паспалітай у Аргентыне й Парагваі“ — цікавы эпізод, які ўсё ж бачыцца як неабходная частка значна больш грунтоўнага й шырокага дасьледаваньня беларускай прысутнасьці ў Паўднёвай Амэрыцы, якое, хочацца верыць, неўзабаве таксама зьявіцца. Мэтанакіраваная праца аўтара ў гэтым кірунку абнадзейвае.

*Н. Г.*

*Crandall, Bill. The Waiting Room. Photography from Belarus / Introduction by Victor Martinovich. Printed and bound by Sveconway, 2011. — 111 p.*




Увагу чытача-карыстальніка адразу прыцягвае незвычайная назва альбому: *„The Waiting Room“* — „Пачакальня“ — ды разважаньні мастака: *„Гадзіньнік у пачакальні цікае-рухаецца павольней, і Вы можаце аддацца думкам. Беларускі народ вытрывалы (stoic), ён ведае, як чакаць“*. Нібы ўсьлед караценькім, але зьмястоўным разважаньням аўтара альбому Біла Крандэла ідзе грунтоўная прадмова вядомага беларускага журналіста Віктара Марціновіча (на жаль, тэкст прадмовы толькі на ангельскай і рускай мовах, а беларуская ў гэтым выпадку проста неабходная!) аб імкненьнях аўтара ды зьмесьце альбому — мастак знаёміць з рэчаіснасьцю сёньняшняй Беларусі праз фатаграфіі, але й больш — ён перадае ўнутраныя пачуцьці беларусаў што да нялёгкай штодзённасьці краіны. Бясспрэчна, мастак-фатограф пры дапамозе аб’ектыву ўхапіў унікальнасьць беларусаў: глыбіню думкі, пагляду, мудрасьць.

Упэўнены, што шмат жыцьцёвых абразкоў Біла Крандэла, як, прыкладам, працэсія з Крыжам у Курапатах, задуменнасьць курца, ягонае існаваньне ў іншым сьвеце, хітраватасьць кабеты, якая рыхтуецца пачаставаць яблыкам козаў, ці сёньняшнія клопаты гораду на дошцы абвестак, як і ўводная фатаграфія: хвілінная сустрэча — скрыжаваньне дарожкі — групы жаўнераў з маладзенькаю гімнасткаю — стануцца шырокавядомымі, клясычнымі ў беларускім фатаграфічным мастацтве.

Цікавыя й важныя беларускаскіраваныя й наступныя дэталі альбому: інтэрвію з маладым беларускім актывістам Валерам Кавалеўскім аб значаньні-пачатках беларускае самаідэнтычнасьці, гістарычнасьці краіны ды камэнтары знаёмых аўтара альбому беларусаў: *„Мару, каб Беларусь у будучыні сталася нармальнай сучаснай дзяржавай, як, прыкладам, Літва“*, — або: *„Чаму Вы паказваеце гэтыя шэрыя абразкі? Гэта ж ня нашая рэальнасьць“*.

Альбом Біла Крандэла — выдатны твор мастака-фатографа-сацыёляга, месца якога — у шырокай сетцы бібліятэкаў.

*В. К.*

*Grzybowski, Jerzy. Pogoń między Orłem Białym, Swastzką i Czerwoną Gwiazdą. Białoruski ruch niepodległościowy w latach 1939—1956. Warszawa, 2011. — 907 s.*




Беларускі незалежніцкі рух — сёньня даволі балючая тэма для беларускай гістарыяграфіі. Ёй прысьвячаецца багата паасобных публікацыяў, што датычаць канкрэтных сюжэтаў і праблем. Аднак даволі мала зьяўляецца прац абагульняльных, якія праз сыстэматызацыю разнастайных зьвестак і поглядаў вымалёўвалі б нейкае канцэптуальнае бачаньне згаданага руху на фоне сусьветных гістарычных падзей. Менавіта з гэтага шэрагу — новая польскамоўная кніга беларускага дасьледніка з Польшчы Юрыя Грыбоўскага, што пабачыла сьвет у Варшаве.

Аўтар паспрабаваў даць агульны нарыс разьвіцьця беларускага незалежніцкага руху ў адзін з найбольш складаных для яго пэрыядаў — час Другой сусьветнай вайны й першае паваеннае дзесяцігодзьдзе. У прадмове аўтар акрэсьліў, што ў сваёй працы ён надаў асаблівую ўвагу стаўленьню беларусаў да Польшчы й палякаў, а таксама пытаньню беларускіх вайсковых фармацыяў у часы Другой сусьветнай вайны.

Аднак для нас найбольш цікавы іншы значны сюжэт кнігі — „Пагоня паміж Белым Арлом, Свастыкай і Чырвонай зоркай“ — сюжэт, зьвязаны з эміграцыяй. Апошняя адыгрывала значную ролю ў міжваенным, ваенным і паваенным незалежніцкім руху, таму матэры-

ялы пра яе праходзяць праз увесь тэкст кнігі пачынаючы ад першага разьдзелу „Беларуская дзяржава — ідэя ці магчымасьць? Беларускія грамадзкія дачыненьні да акупацыі Беларусі Трэцім Рэйхам (сакавік 1918 — чэрвень 1941)“. У пададзенай тут шырокай передгісторыі беларускага незалежніцкага руху асобным падразьдзелам „Выгнанцы. Беларуская палітычная эміграцыя“ прадстаўлены агляд асноўных асяродкаў беларускай міжваеннай эміграцыі. Юры Грыбоўскі згадвае Латвію, Чэхаславаччыну, Францыю й Злучаныя Штаты Амэрыкі, падаючы толькі агульныя характарыстыкі гэтых асяродкаў, найперш палітычна значных беларускіх структураў. Больш месца ў першым разьдзеле аддадзенае (што й зразумела) беларускай прысутнасьці ў перадваеннай Нямеччыне, а таксама беларускім групам тут на першым этапе Другой сусьветнай вайны. Разам з тым дасьледнік характарызуе стаўленьне разнастайных эміграцыйных групаў і дзеячаў да тагачаснага Трэцяга Рэйху й ягонай палітыкі, а таксама да Літвы ды пытаньня Вільні, што надалей стала адным з прынцыповых пунктаў незалежніцкага руху на эміграцыі.

У наступных разьдзелах кнігі падзеі, зьвязаныя з эміграцыяй, прысутнічаюць фрагмэнтарна, прыкладам, у частцы „Барацьба за незалежнасьць ці калябарацыя? Беларускі незалежніцкі рух у часе нямецкасавецкай вайны (чэрвень 1941 — травень 1945)“ расказваецца пра дзеячаў, якія пазьней былі актыўнымі на эміграцыі, таксама закранаецца пытаньне беларускай дзейнасьці ў Варшаве, Бэрліне ды наогул на тэрыторыі Нямеччыны, асобна разглядаецца сюжэт выезду зь Беларусі й дзейнасьці Беларускай Цэнтральнай Рады ў 1944—1945 гг. У трэцім разьдзеле „Субстытут незалежнасьці“. Беларускія ўзброеныя фармаваньні на нямецкай службе (1941—1944)“ ёсьць нарысы пра беларускія вайсковыя структуры на тэрыторыі Нямеччыны.

Аднак найбольш цікавы для нас апошні, шосты, разьдзел кнігі, у якім аўтар, папярэдне разгледзеўшы асобна беларуска-польскія дачыненьні ды стаўленьне да беларускага пытаньня ў савецкай дзяржаве, зьвяртаецца ўласна да тэмы паваеннай беларускай эміграцыі. У частцы з красамоўнай назвай „Несвоечасовыя намеры, спозьненыя жалі, згубныя сваркі. Беларуская палітычная эміграцыя на Захадзе ў 1945—1956 гадах“ Юры Грыбоўскі дае спэцыяльны агляд падзеяў і арганізацый паваеннай беларускай эміграцыі.

Пачынаецца гэты разьдзел з абагуленай інфармацыі пра беларускіх уцекачоў у паваеннай Нямеччыне: колькасьць, арганізацыі, беларускія лягеры для перамешчаных асобаў. Ідучы сьледам за колішняй працай Алеся Вініцкага, пашыраючы яе інфармацыю за кошт новых, у





тым ліку архіўных зьвестак, Юры Грыбоўскі дае характарыстыку беларускаму жыцьцю ў лягерах *DP*, праблемам дачыненьняў з саюзьніцкімі ўладамі ды савецкімі рэпатрыяцыйнымі місіямі, арганізацыі нацыянальнага культурніцкага ды палітычнага жыцьця. Важна, што дасьледнік адэкватна прадстаўляе складанасьці колькаснага акрэсьленьня беларускай паваеннай эміграцыі ў Нямеччыне, а таксама тое, што ён зрабіў адмысловую сыстэматызацыю зьвестак пра беларускія лягеры *DP* у розных зонах Нямеччыны, якая ўключае час іх дзеяньня, колькасьць беларусаў, асноўныя структуры й г.д. Пададзеныя ў табліцы, гэтыя зьвесткі даволі ўдала рэпрэзэнтуюць карціну арганізаванага беларускага жыцьця ў той час.

Асобны падразьдзел прысьвечаны праблеме палітычнага падзелу паваеннай эміграцыі, фармаваньню двух яе цэнтраў: Рады Беларускай Народнай Рэспублікі й Беларускай Цэнтральнай Рады. Аднаўляючы храналёгію падзеяў, характарызуючы асноўныя праблемы дачыненьняў, аўтар акрэсьлівае маштабы ўплыву падзелу на масы шараговых эмігрантаў, асабліва праз друк.

Важны падразьдзел са сваёй унутранай структурай, прысьвечаны разьвіцьцю палітычнай эміграцыі пасьля падзелу. І тут найперш аддаецца ўвага агляду галоўных асяродкаў беларускай эміграцыі й іх арганізацый. Варта адразу заўважыць, што зроблены аўтарам агляд яскрава адлюстроўвае сучасны стан дасьледаваньня гісторыі паваеннай беларускай эміграцыі, што паўплывала на розную прадстаўленасьць згаданых асяродкаў у кнізе. Так, аповеды пра Францыю й Бэльгію разам складаюць паўтары старонкі, а інфармацыя пра іх заканчваецца пачаткам 1950-х гг. Затое тэкст, прысьвечаны Вялікабрытаніі, займае трынаццаць з паловай старонак і вылучаецца падрабязнасьцю станаўленьня беларускага жыцьця ў гэтай краіне. Праўда, варта заўважыць, што першыя чатыры старонкі гэтага падразьдзелу прысьвечаныя падзеям не ў Вялікабрытаніі, а ў Італіі, дзе знаходзіліся беларускія жаўнеры Другога польскага корпусу, якія пазьней сталі стваральнікамі беларускага асяродку на Брытанскіх выспах. Напэўна, лягічна было б далучыць гэты сюжэт да аповеду пра беларусаў у Італіі й паставіць яго перад часткай пра Вялікабрытанію. Таксама нельга не зьвярнуць увагі на тое, што ў аглядзе падзеяў гэтага беларускага асяродку зьвесткі абмяжоўваюцца канцом 1940-х, уласна расколам у грамадзкім жыцьці.

Адносна невялікі (крыху большы за старонку) аповед пра беларускае жыцьцё ў Скандынавіі збольшага прысьвечаны Даніі, дзе беларуская група жыла недзе да 1948 г. пасьля чаго пераважна перабралася ў

Францыю. Надзвычай бедна глядзіцца аповед пра беларускую прысутнасьць у Італіі. Пры гэтым згадваецца Радыё Ватыкану, а ў зьвязку зь ім — імёны Льва Гарошкі, Робэрта Тамушанскага ды Пётры Татарыновіча, прытым што першыя двое для працы ў радыё прыбылі ў Рым толькі ў 1960-я гг. Інфармацыя пра беларускую групу ў Гішпаніі закранае пачатак 1950-х, калі тут намаганьнямі Ўладзіслава Рыжага-Рыскага паўстаў Інстытут беларусістыкі імя Льва Сапегі, які складаўся ці не з аднаго заснавальніка. Затое значна больш важны Інстытут вывучэньня СССР у Мюнхэне, у якім дзейнічаў беларускі аддзел, зусім ня згадваецца ў тым адным абзацы, што прысьвечаны беларусам Нямеччыны. А гэтая структура храналягічна ўпісваецца ў межы дасьледаваньня, гэтаксама як і згаданае тут Радыё „Вызваленьне", якое ў палітычнай гісторыі эміграцыі адыграла значна большую ролю, чым яму адведзена ў тэксьце. Пры гэтым зусім ня згадваецца, што беларускае жыцьцё ў Нямеччыне ў 1950-я было зьвязанае і з выданьнем найбольш масавай тагачаснай беларускай газэты „Бацькаўшчына".

Аповед пра беларусаў у краіне найбольш масавай беларускай паваеннай эміграцыі заняў чатыры старонкі, на якіх даволі фрагмэнтарна згадваюцца мясцовыя беларускія асяродкі ды арганізацыі, таксама абмяжоўваючыся пачаткам 1950-х гг. На палову старонкі зьмясьціліся й характарыстыкі беларускага жыцьця ў Канадзе ды Аўстраліі, пры гэтым амаль тры старонкі займае аповед пра беларусаў у Аргентыне. Аднак нераўназначнасьць у падачы матэрыялу, як ужо згадвалася вышэй, часам можна патлумачыць нераўназначнасьцю распрацаванасьці гісторыі згаданых асяродкаў у айчыннай гістарыяграфіі, а таксама абагульняльным характарам працы, дзе аўтар не заўсёды, асабліва пры вялікім аб'ёме даступнай інфармацыі, здольны зрабіць адэкватны яе адбор. У выніку зробленая сыстэматызацыя не выглядае ўдалай, у адрозьненьне, прыкладам, ад частак, прысьвечаных камбатанцкім арганізацыям ці партыям і палітычным арганізацыям паваеннай эміграцыі. Тут матэрыял падаецца значна больш узважана. Асобна трэба адзначыць падразьдзел, прысьвечаны рэлігійнаму падзелу эміграцыі, які быў цесна зьвязаны з палітычным. Юры Грыбоўскі прадстаўляе храналёгію падзеяў пераходу беларускіх герархаў у юрысдыкцыю РЗПЦ, а таксама аднаўленьня БАПЦ. Пры гэтым прасочваецца выразная сувязь зь дзейнасьцю галоўных палітычных цэнтраў беларускай эміграцыі і ўзаемаўплывы палітычнага й рэлігійнага падзелаў.

Два наступныя падразьдзелы кнігі прысьвечаныя, адпаведна, Радзе БНР і БЦР у паваенны час. Яны пабудаваныя ў клясычных традыцыях параўнаньня паводле агульнай схемы, калі спачатку разглядаецца станаўленьне й структура арганізацый, потым асноўныя кірункі дзейнасьці й адмыслова — стасункі з прадстаўнікамі палітычных структураў іншых нацыяў. Аднак адносна дзейнасьці Рады БНР у аўтара відавочна было больш інфармацыі, і яна храналягічна даходзіць нават да 1968 г., у той час як падзеі ў БЦР заканчваюцца сярэдзінай 1950-х. Пры гэтым варта заўважыць, што самі храналягічныя межы ўсяго шостага разьдзелу кнігі, прысьвечанага эміграцыі, выклікаюць пытаньні з тае нагоды, што 1956 г., хоць і ёсьць своеасаблівым заканчэньнем паваеннага дзесяцігодзьдзя (праўда, арытмэтычна ім мае быць 1955 г.), аднак ніяк ня ёсьць сэнсавай мяжой для дзейнасьці беларускай эміграцыі. Магчыма, гэтым часткова і тлумачыцца тое, што інфармацыя ў асобных частках разьдзелу або значна недацягвае храналягічна да гэтага часу, або яго выразна перакрочвае.

Акрамя згаданых лягічных недасканаласьцяў вялікі аб'ём кнігі часткова стаецца прычынай пэўнай колькасьці аўтарскіх і рэдактарскіх недаглядаў, калі, прыкладам, вядомая дзяячка СБМ Надзея Абрамава-Тэадаровіч падаецца ў тэксьце і ў паказьніку як Натальля. Або дата першага зьезду Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі пазначаецца 1949 годам, а не 1947. Хоць далей зразумела, што мае месца звычайная абдрукоўка. Гэткага кшталту недарэчнасьцяў можна было б пазьбегнуць, далучыўшы да працы над ёй добрага рэдактара.

Тым ня менш, хацелася б заўважыць, што вартасьць зробленага дасьледнікам усё ж перавышае згаданыя недарэчнасьці. Юры Грыбоўскі ўпершыню ў айчыннай гістарыяграфіі ўзяў на сябе сьмеласьць зрабіць такое шырокае й грунтоўнае абагульненьне гісторыі беларускага незалежніцкага руху з уключэньнем у яго праблемаў як мэтраполіі, так і эміграцыі. Больш за тое, аўтар прапанаваў уласную своеасаблівую канцэпцыю бачаньня гэтага руху, заснаваную на шырокай крыніцазнаўчай базе. Безумоўна, гэтую базу можна пашыраць, а абагульненьне ўдасканальваць, аднак прадстаўленьне Юрыем Грыбоўскім беларускага нацыянальнага руху ў няспынным пошуку свайго ўласнага шляху паміж рознымі заваёўнікамі ўсё ж не прыводзіць да адназначнай высновы пра марнасьць тых намаганьняў. І сам аўтар сьцьвярджае, што зь сямідзесяцігадовай пэрспэктывы плён тае дзейнасьці выглядае больш значным, і гэта можна разглядаць адным з крокаў на шляху да адэкватнай ацэнкі ў тым ліку й ролі паваеннай эміграцыі ў незалежніцкім руху.

Таксама варта дадаць, што кніга Юрыя Грыбоўскага мае сур'ёзны навуковы апарат, біяграфічны даведнік і паказьнік, сьпіс крыніцаў і

літаратуры, а таксама багаты ілюстрацыйны дадатак. Усё гэта яшчэ больш падвышае навуковую вартасьць выданьня, якое тым больш добра глядзелася б па-беларуску.

*Н. Г.*

*Беларуска-амэрыканскі культурны дыялёг: стратэгія разьвіцьця / рэдкал.: Л. Уладыкоўская (гал. рэд) [і інш.]. Менск, Тэсэй, 2012. — 208 с.: іл. Наклад 300 ас.*

*Уладыкоўская, Л. Адкрыцьцё маёй Амэрыкі, або Навошта беларусам ЗША? Менск: Тэсэй, 2012. — 80 с. Наклад 300 ас.*







Праблема беларуска-амэрыканскіх узаемадачыненьняў мае шмат аспэктаў — і палітычных, і эканамічных, і сацыяльных, і розных іншых. Важнымі, безумоўна, ёсьць магчымасьці міжкультурнага дыялёгу, тым больш што гісторыя кантактаў двух народаў вымяраецца стагодзьдзямі. Менавіта асаблівасьцям беларуска-амэрыканскага культурнага дыялёгу, яго патэнцыялу й пэрспэктывам прысьвечаныя два выданьні, што пабачылі сьвет з ініцыятывы менскага Цэнтру міжкультурнага дыялёгу. Гэтая структура на чале з генэральным дырэктарам Любоўю Ўладыкоўскай, створаная два гады таму, мае цесныя кантакты з амэрыканскай амбасадай у Беларусі, і менавіта 20-годзьдзю ўсталяваньня дыпляматычных адносінаў паміж дзьвюма





краінамі прысьвечанае першае са згаданых выданьняў — „Беларуска-амэрыканскі культурны дыялёг...“

Паводле сьцьверджаньня кіраўніцы Цэнтру, аўтаркі другога з разгляданых выданьняў („Адкрыцьцё маёй Амэрыкі...“) і шэрагу артыкулаў у першым, гэтая ўстанова пачала грунтоўна распрацоўваць тэму міжкультурнага дыялёгу зь беларуска-амэрыканскага вэктару, у тым ліку й таму, што гэты напрамак на сёньня нераспрацаваны[8]. У выніку двухгадовай працы быў праведзены конкурс „Амэрыканская культура: якая яна?“ ды шэраг тэматычных круглых сталоў, на якіх закраналіся праблемы амэрыканістыкі ў Беларусі, беларусістыкі ў ЗША, магчымасьцяў рэлігійнага й прадпрымальніцкага ўзаемадзеяньня, а таксама былі сфармуляваныя канкрэтныя прапановы па разьвіцьці беларуска-амэрыканскага культурнага дыялёгу[9]. Менавіта зьмест самога праекту з аднайменнай назвай і адлюстроўвае зборнік „Беларуска-амэрыканскі культурны дыялёг: стратэгія разьвіцьця“.

Выданьне, у рэдакцыйнай калегіі якога 16 чалавек, у тым ліку дактары навук, прафэсары, акадэмікі, і пазначанае як навуковае, уяўляе сабою збор матэрыялаў выступоўцаў на згаданых круглых сталах, а таксама працаў пераможцаў конкурсу. Насамрэч тут ёсьць тэксты й навуковага пляну, і публіцыстычнага, ёсьць нават проста перадрук слайдаў мультымэдыйных прэзэнтацыяў, дэманстраваных на круглых сталах, а таксама малюнкі й фотаздымкі, дасланыя на конкурс. Шматаспэктнасьць раскрыцьця тэмы культурнага дыялёгу ўражвае: тут і тэарэтычныя развагі пра магчымасьці ўзаемадзеяньня культураў у сучасным сьвеце ды глябальныя тэндэнцыі міграцыі, і нарысы пра адметнасьці амэрыканскай сыстэмы адукацыі, і інфармацыйныя паведамленьні пра дзейнасьць цэнтраў амэрыканістыкі пры розных установах Беларусі ды ў Эўропе наогул, і аналіз разьвіцьця славяназнаўства ў ЗША, і развагі пра магчымасьці міжканфэсійнага беларуска-амэрыканскага супрацоўніцтва. Багата тэкстаў прысьвечана тэме прадпрымальніцтва й выкарыстаньню ў Беларусі амэрыканскага досьведу, праблемам сацыяльнай адказнасьці бізнэсу.

[8] Уладыкоўская, Любоў. Беларусь і Злучаныя Штаты Амэрыкі: асоба, культура, дыялёг // Беларуска-амэрыканскі культурны дыялёг: стратэгія разьвіцьця / рэдкал.: Л. Уладыкоўская (гал. рэд) [і інш.]. Менск, Тэсэй, 2012. С. 7.

[9] Уладыкоўская, Л., Зелянкоў, А., Рычкова, Л. Прапановы па разьвіцьці беларуска-амэрыканскага культурнага дыялёгу // Беларуска-амэрыканскі культурны дыялёг... С. 166—169.

Найбольш цікавы для нас разьдзел аб'ядноўвае тэксты, прысьвечаныя беларускай эміграцыі ў ЗША. Пачынаецца ён з артыкулу доктара гістарычных навук, прафэсара Леаніда Лыча „Ля вытокаў беларуска-амэрыканскага культурнага дыялёгу“ з адмысловым прысьвячэньнем: *„Амэрыканскаму беларусу цьвёрдай нацыянальнай арыентацыі Вітаўту Кіпелю“*. Уласна, на матэрыялах з кнігі апошняга й пабудаваны тэкст Леаніда Лыча (пра што аўтар шчыра прызнаецца ў першым жа абзацы й далей акуратна робіць спасылкі на выданьне 1993 г.[10]). Тут расказваецца пра першыя вядомыя імёны выхадцаў зь беларускіх земляў у ЗША, вызначаюцца важныя постаці нашых суайчыньнікаў на амэрыканскім кантынэнце, даецца характарыстыка масавай эміграцыі мяжы XIX—XX стст. Уласна, на падзеях пачатку XX ст. аўтар і спыняе свой аповед, дапоўніўшы яго асаблівасьцямі прысутнасьці беларусаў у тагачаснай інфармацыйнай прасторы заакіянскай краіны[11].

Наступны тэкст гэтай сэрыі, „Беларуская эміграцыя ў Злучаныя Штаты Амэрыкі“, належыць доктару гістарычных навук, акадэміку Міхасю Касьцюку й працягвае аповед пра гісторыю беларускай эміграцыі ў гэтай краіне. Што праўда, зьмест выклікае шэраг сур'ёзных пытаньняў. І рэч ня ў тым, што багатая гісторыя беларускай эміграцыі ў ЗША XX ст. выкладзеная занадта сьцісла ў параўнаньні з аглядам папярэдняга пэрыяду (аўтары, відавочна, не ўзгаднялі свае тэксты), і ня ў тым, што ў публікацыі зусім няма спасылак на крыніцы інфармацыі й немагчыма ацаніць, адкуль узятыя дадзеныя. Праблема ў тым, што ў тэксьце зашмат памылак і неадпаведных зьвестак як на ягоны памер (тры старонкі). Так, з артыкулу можна даведацца, што заснавальнікам БІНіМу быў Вітаўт Кіпель[12], а ня Вітаўт Тумаш, як гэта было насамрэч, што ў 1980-я гг. у ЗША выходзіла 15 выданьняў на беларускай і ангельскай мовах[13], а насамрэч іх было ня менш за 27, прынамсі, так зафіксавана ў Бібліяграфіі Кіпеляў[14], а на чым грунтуецца інфармацыя пра 8

[10] Кіпель, Вітаўт. Беларусы ў ЗША. Менск, 1993. — 352 с.

[11] Лыч, Леанід. Ля вытокаў беларуска-амэрыканскага культурнага дыялёгу // Беларуска-амэрыканскі культурны дыялёг... С. 78—94.

[12] Касьцюк, Міхась. Беларуская эміграцыя ў Злучаныя Штаты Амэрыкі // Беларуска-амэрыканскі культурны дыялёг... С. 96.

[13] Касьцюк, Міхась. Беларуская эміграцыя ў Злучаныя Штаты Амэрыкі // Беларуска-амэрыканскі культурны дыялёг... С. 96.

[14] Kipel V., Kipel Z. Belarusian Publishing in the West: A Bibliography = Беларускі друк на Захадзе: Бібліяграфія / Пад рэд. Ю. Гарбінскага й Л. Юрэвіча. Нью-Ёрк—Варшава, 2006. — XVI+841 с.





тысяч асобнікаў накладу выданьняў, нам невядома. Таксама складана зразумець, адкуль зьявілася інфармацыя пра працу беларусазнаўчых курсаў у штатах Нью-Ёрк, Агаё, Ілінойс і Нью-Джэрзі цягам 1975—1985 гг. з ініцыятывы БІНіМу[15]. Зьвесткі самой арганізацыі гэтага не пацьвярджаюць. Не зусім зразумела гучыць сьцьверджаньне, што *„ў 1990-х гг. беларускія цэнтры грамадзкай і культурнай працы былі адкрытыя ў Нью-Ёрку, Кліўлэндзе, Сант-Рыверы [насамрэч горад Саўт-Рывэр. — Я.С.], Чыкага, Нью-Брансьвіку“*[16]. Беларускія арганізацыі й цэнтры ў гэтых гарадах дзейнічалі яшчэ ад 1950-х, а недзе — і раней.

Як было некалі ў тэкстах пачатку 1990-х гг., у артыкуле Міхася Касьцюка, акрамя таго, што падаецца даволі рамантызаваны вобраз беларускай эміграцыі, прадстаўнікі якой *„з самага пачатку займалі даволі актыўныя жыцьцёвыя пазыцыі“*[17], дык яшчэ часам не зусім адпаведна расстаўляюцца акцэнты. Наўрад ці ў такім невялікім аглядзе варта было асобна згадваць эфэмэрны Цэнтар беларускай прэсы, дзейнасьць якога, відавочна, не была ня толькі вызначальнай, але й колькі-небудзь заўважнай у беларускай грамадзе ЗША. Згаданыя ж далей выставы, прысьвечаныя ўгодкам беларускага друку, Статуту ВКЛ і інш., ладзіліся якраз найперш з ініцыятывы БІНіМу, пра што згадкі ў тэксьце няма.

Бессэнсоўна казаць пра тое, чаго ў згаданым артыкуле няма, бо, цалкам магчыма, аўтар меў на мэце зрабіць проста агульны агляд найважнейшых момантаў гісторыі беларускай эміграцыі ў ЗША ў XX ст. Аднак можна канстатаваць, што ўзровень рэалізацыі пастаўленай мэты аказаўся неналежным.

Наступным тэкстам у зборніку ідзе артыкул Натальлі Гардзіенкі з асьцярожнай назвай „Да пытаньня цэнтраў беларусістыкі ў ЗША“. Тут зроблены агляд усіх наяўных у аўтаркі зьвестак пра якія-небудзь праявы беларусазнаўчых ініцыятываў, што мелі месца ў Штатах цягам апошніх 60 гадоў[18]. Праўда, паколькі саміх ініцыятываў было ня так шмат і яны часта былі эпізадычныя, то й артыкул мае своеасаблівы

[15] Касьцюк, Міхась. Беларуская эміграцыя ў Злучаныя Штаты Амэрыкі // Беларуска-амэрыканскі культурны дыялёг... С. 96.

[16] Касьцюк, Міхась. Беларуская эміграцыя ў Злучаныя Штаты Амэрыкі // Беларуска-амэрыканскі культурны дыялёг... С. 97.

[17] Касьцюк, Міхась. Беларуская эміграцыя ў Злучаныя Штаты Амэрыкі // Беларуска-амэрыканскі культурны дыялёг... С. 96.

[18] Гардзіенка, Натальля. Да пытаньня цэнтраў беларусістыкі ў ЗША // Беларуская эміграцыя ў Злучаныя Штаты Амэрыкі // Беларуска-амэрыканскі культурны дыялёг... С. 998—103.

мазаічны характар. У ім прысутнічае таксама невялікая фактычная супярэчнасьць з наступным матэрыялам — *„Belarusian Studies in US. The Center for Belarusian Studies in Southwest College, Kansas“* Аляксандра Лагвінца[19]. Пададзены ў выглядзе прэзэнтацыі даклад сьцьвярджае, што стваральнікам Цэнтру беларускіх дасьледаваньняў у Канзасе ёсьць Дэвід Суорц — першы амбасадар ЗША ў Беларусі, тады як у папярэднім тэксьце заснавальніцай падаецца Марыя Паўла Сурвілла. Гэтую неадпаведнасьць мусілі б заўважыць рэдактары зборніка.

Зборнік „Беларуска-амэрыканскі культурны дыялёг: стратэгія разьвіцьця“, як бачым, аказаўся як разнастайным паводле зьместу, так і няроўным паводле формы прэзэнтацыі ды ўзроўню апублікаваных матэрыялаў. І ў строгім сэнсе ён абсалютна не адпавядае паняцьцю „навуковае выданьне“.

Канцэпцыя „расказаць усё пра ўсё“ ў згаданым зборніку не працуе на карысьць. Лепш яна вырашаная ў другой кнізе, выдадзенай тым самым Цэнтрам міжкультурнага дыялёгу: „Адкрыцьцё маёй Амэрыкі, або Навошта беларусам ЗША?“. Аўтарка, Любоў Уладыкоўская, прадстаўляе тут развагі на тэму неабходнасьці пераймання карыснага амэрыканскага культурнага досьведу беларусамі. Выданьне, прысьвечанае асабіста часоваму паверанаму ў справах ЗША ў Рэспубліцы Беларусь Майклу Скэнлану, грунтуецца на тым самым рэалізаваным праекце беларуска-амэрыканскага культурнага дыялёгу, аднак ужо ў аднаасобнай інтэрпрэтацыі. Па выніках праведзенага конкурсу Любоў Уладыкоўская спрабуе сфармуляваць асаблівасьці беларускіх уяўленьняў і стэрэатыпаў адносна амэрыканскай культуры. Аднак зроблены аналіз выглядае даволі павярхоўным, а вобраз самой культуры і ў гэтым выданьні, і ў згаданым вышэй зборніку падаецца ў звышрамантызаваным выглядзе. Наогул, частка „Што беларусы думаюць пра ЗША“ пабудаваная на матэрыялах тых самых круглых сталоў з шырокім пераказам, а часта й проста цытаваньнем, тэкстаў іншых асобаў з вышэйзгаданага „навуковага“ зборніка. Іншыя тэксты кнігі Любові Ўладыкоўскай прысьвечаныя станаўленьню амэрыканскай нацыі, асобе Аўраама Лінкальна, сацыяльным і міжнародным аспэктам амэрыканскай культуры ды адметнасьцям беларускага варыянту нацыянальнай ідэнтычнасьці. Тут выкладаецца своеасаблівая канцэпцыя каштоўнасьці амэрыканскага культурнага досьведу для Беларусі.

[19] Лагвінец, Аляксандр. Belarusian Studies in US. The Center for Belarusian Studies in Southwest College, Kansas // Беларуска-амэрыканскі культурны дыялёг... С. 104—107.





Наогул жа абодва выданьні Цэнтру міжкультурнага дыялёгу можна назваць хутчэй утылітарнымі, бо яны маюць адносную каштоўнасьць найперш як лягічнае заканчэньне рэалізацыі пэўнага этапу праекту, як справаздача аб зробленай працы. Эклектычнасьць „навуковага“ зборніка наўрад ці можа быць прывабнай для чытача, а аўтарскае бачаньне беларуска-амэрыканскага дыялёгу ў кнізе Любові Ўладыкоўскай часта занадта павярхоўнае, каб успрымаць яго сур'ёзна.

*Я. С.*

*Данілюк, Барыс. Азіраючыся расой выетымі вачыма: Успаміны. Менск: Лімарыюс, 2012. — 524 с. (Беларуская мэмуарная бібліятэка). — (Наклад 300 ас.)*




Сярод эміграцыйных мэмуараў багата тэкстаў недапісаных, а яшчэ больш — зусім не напісаных дзеячамі, якія проста мусілі б гэта зрабіць. Як бы цікава, напэўна, чыталіся ўспаміны Антона Адамовіча, Вітаўта Тумаша, Станіслава Станкевіча, Кастуся Акулы. Аб'ёмнае ліставаньне гэтых людзей не замяняе адмыслова напісаных успамінаў. У гэтым сэнсе мэмуары Барыса Данілюка, хоць і няскончаныя, безумоўна каштоўныя. Гэта той выпадак, калі аўтар, здаецца, пасьпеў напісаць больш за палову таго, што хацеў.

„Азіраючыся расой выетымі вачыма“ — гэта ўспаміны знанага дзеяча беларускай эміграцыі ў ЗША. Народжаны на Слонімшчыне ў 1923 г. сын удзельніка Слуцкага паўстаньня, праваслаўнага сьвятара Хведара Данілюка, падрабязна расказвае гісторыю свайго жыцьця, пачынаючы ад самага дзяцінства. Са старонак успамінаў паўстаюць дэталёвыя апісаньні побыту сям'і праваслаўнага сьвятара ў Заходняй Беларусі, складанасьці й радасьці жыцьця малога беларуса, вымушанага вучыцца ў польскай школе. Барыс Данілюк раскрывае асаблівасьці беларуска-польскіх, беларуска-савецкіх ды беларуска-нямецкіх дачыненьняў у 1930—1940-х гг. Шмат месца ў тэксьце аддадзена пэрыяду Другой сусьветнай вайны, калі ся-

м’я спачатку апынулася пад пагрозай савецкіх рэпрэсіяў, а потым як і шмат хто зь беларусаў, з жахам сачыла за крывавым змаганьнем партызанаў і немцаў. Расказваючы пра беларускую працу ў часе вайны на Слонімшчыне, у якой Барыс Данілюк браў непасрэдны ўдзел, ён далёкі ад ідэалізацыі нацыянальных дзеячаў, таксама як і немцаў, сцьвярджаючы, што зрабіць магчыма было значна больш.

Падрабязна апісваецца ва ўспамінах і лета 1944 г.: Другі Ўсебеларускі кангрэс ды ўцёкі ў Нямеччыну, пошукі там прытулку, складанасьці ўцякацкага жыцьця пазьней, у францускай зоне акупацыі Нямеччыны. На жаль, на аповедзе пра паваеннае жыцьцё ў лягерах *DP* сыстэматызаваныя ўспаміны Барыса Данілюка перапыняюцца, што вымусіла выдаўцоў кнігі дапоўніць іх схематычнымі мэмуарнымі нататкамі, напісанымі раней. Дый тыя спыняюцца на падзеях 1970 г.

Тым ня менш, нават тое, што пасьпеў напісаць Барыс Данілюк, ёсьць надзвычай цікавай крыніцай па гісторыі беларускага жыцьця ў Заходняй Беларусі ў міжваенны ды ваенны час. Падзеі сямейнай гісторыі, цесна зьнітаваныя зь гісторыяй Бацькаўшчыны, апісаныя вельмі спэцыфічнай аўтарскай мовай, якую выдаўцы ашчадна захавалі пры публікацыі, нягледзячы на неабходнасьць зьмены правапісу.

„Азіраючыся расой выетымі вачыма“ — гэта яшчэ й даволі тыповая гісторыя прадстаўніка маладога пакаленьня паваеннай беларускай эміграцыі. Тысячы гэткіх жа, як Барыс Данінюк, народжаных у 1920-х гг. беларусаў, апынуліся пасьля Другой сусьветнай за межамі Беларусі й сталі стваральнікамі дыяспараў у розных заходніх краінах. Успаміны дазваляюць зразумець матывы, якімі кіраваліся гэтыя людзі, што штурхала іх на чужыну й як фармаваўся іх нацыянальны сьветапогляд, які не дазваляў згубіцца ў шматкультурным сьвеце.

Барыс Данілюк не пасьпеў скончыць свае мэмуары, як і не дарабіў своеасаблівы ілюстраваны летапіс беларускай эміграцыі, для якога сабраў вялікую колькасьць фотаздымкаў. Тым ня менш, дзякуючы намаганьням архівіста Лявона Юрэвіча, які ініцыяваў выданьне ўспамінаў, ды гісторыка Аляксандра Пашкевіча, які падрыхтаваў ды пракамэнтаваў тэкст, а таксама напісаў прадмову, успаміны Барыса Данілюка ня згінулі ў нетрах сямейных архіваў, а сталі здабыткам айчыннага чытача. Падзеі, апісаныя ва ўспамінах, ілюстраваныя здымкамі за збораў аўтара, што дадае вартасьці выданьню, таксама як і сур’ёзны навуковы апарат. Можна сцьвярджаць, што высілкамі невялікай групы спэцыялістаў айчынная мэмуарыстыка ўзбагацілася яшчэ адным каштоўным выданьнем.

*Я. С.*





*Доля беларускае культуры пад Саветамі. 1920—1991 гг. / Укладальнік А. Е. Тарас. Рыга: Інстытут беларускай гісторыі і культуры, 2012. — 336 с.: малюнкі. — (Неизвестная история) — Наклад 100 ас.*




Новая кніга ў сэрыі „Неизвестная история“, што пабачыла сьвет у 2012 г., мае амаль аднолькавую назву з працай аднаго зь беларускіх эміграцыйных дзеячаў Уладзімера Сядуры (Глыбіннага) „Доля беларускае культуры пад Саветамі. 1920—1957 гг.“. Перадрук гэтай працы складае першую і асноўную частку выданьня. Укладальнік кнігі Анатоль Тарас у прадмове так характарызуе працу эміграцыйнага дасьледніка: *„Аўтар здолеў у даволі кароткім пераказе дакладна паказаць на прыкладзе Беларусі тыя шляхі і мэтады, якімі „ўсесаюзны цэнтар“ (гэта значыць Масква) нішчыў нацыянальныя культуры, нацыянальныя мовы і нацыянальную сьвядомасьць ва ўсіх так званых „саюзных і аўтаномных“ рэспубліках былога СССР і ў першую чаргу іх творцаў і носьбітаў — нацыянальных інтэлігентаў“*[20]. Што праўда, стаўленьне да Ўладзімера Сядуры (Глыбіннага) на эміграцыі сярод „калегаў па цэху“ было даволі скептычнае. Нездарма яго часам іранічна называлі „Павярхоўным“. Хоць праца „Доля беларускай культуры пад Саветамі“, здаецца, была адной з больш-менш удалых у гэтага аўтара.

Аднак кніга Ўладзімера Сядуры (Глыбіннага) пабачыла сьвет у Мюнхэнскім інстытуце вывучэньня СССР у 1958 г., а Савецкі Саюз праіснаваў значна даўжэй. Таму ўкладальнік кнігі вырашыў дапоўніць выданьне публікацыямі пазьнейшых аўтараў: фрагмэнтам з кнігі Юрыя Вашкевіча „Сацыяльна-палітычныя ўмовы функцыянаваньня культуры (БССР. 1946—1990 гг.)“, іншай працай таго ж Уладзімера Глыбіннага „З гісторыі беларускага тэатру. „Тэатральная дыскусія“ 1928—1929“ гг.“,

[20] Тарас, Анатоль. Прадмова // Доля беларускае культуры пад Саветамі. 1920—1991 гг. Рыга: Інстытут беларускай гісторыі і культуры, 2012. С. 4.

тэкстам Пятра Васючэнкі „Літаратура ва ўмовах таталітарызму“, Сяргея Харэўскага „Мастацтва таталітарызму“, публікацыяй Рамана Абрамчука „Ідэалягізацыя музычнай культуры ў савецкай Беларусі 1920—1950-х гадоў“. Тэксты розныя паводле паходжаньня, але аб'яднаныя агульнай праблемай лёсу беларускай культуры ў савецкія часы. Праўда, не заўсёды зразумелы прынцып разьмяшчэньня згаданых тэкстаў у другой частцы кнігі: чаму, прыкладам, тэкст Рамана Абрамчука ідзе апошнім, хоць храналягічна датычыць больш раньняга часу, а тэкст Юрыя Вашкевіча адкрывае другую частку, хоць ахоплівае больш позні пэрыяд, чым іншыя тэксты ў ёй?

Сама ж праца Ўладзімера Сядуры (Глыбіннага) падаецца паводле першага выданьня 1958 г. зь нязначнымі рэдакцыйнымі выпраўленьнямі й дадаткам вялікай колькасьці ілюстрацыяў, якіх у аўтарскім варыянце не было. Наогул, прадстаўленыя ў кнізе здымкі значна ажыўляюць яе.

Укладзеная Анатолем Тарасам кніга, безумоўна, цікавая беларускаму чытачу, пераважна незнаёмаму як з працамі эміграцыйных дзеячаў, так і з сучаснымі навучальнымі матэрыяламі з гісторыі таталітарызму Эўрапейскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Аднак, як і шмат якія іншыя кнігі згаданага выдаўца, гэтая не пазбаўленая некаторых фактычных недакладнасьцяў і памылак у ягоным уласным тэксьце, прысьвечаным біяграфіі Ўладзімера Сядуры (Глыбіннага). Так, паводле напісанай гэтым дзеячам аўтабіяграфіі (выдадзенай, праўда, пад псэўданімам да юбілею сваёй творчасьці), Уладзімер Сядура ў 1930 г. паступіў ня ў Менскі пэдагагічны інстытут, а на пэдагагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, які толькі праз год вылучыўся ў асобную ўстанову — Беларускі дзяржаўны вышэйшы пэдагагічны інстытут[21]. З аналізу творчасьці літаратара зусім не вынікае, што Ўладзімер Сядура лічыў сваю англамоўную працу „Беларускі тэатар і драма“, выдадзеную ў 1955 г., *„галоўнай працай свайго жыцьця“*, як падае Анатоль Тарас. І пасьля яе ў дзеяча было багата кніжных публікацый, якія маглі б прэтэндаваць на гэткае званьне, але сам ён лічыў сябе найперш спэцыялістам у галіне вывучэньня Дастаеўскага. Між іншага, у пераліку выданьняў Уладзімера Сядуры ў біяграфічным нарысе чамусьці ня згадваецца зусім не апошняя паводле значнасьці праца „Паэта з Божае ласкі. Успамін і роздум пра паэта Язэпа Пушчу“, што пабачыла сьвет у

[21] Старажоўскі, Кастусь. 30 гадоў на службе роднай культуры. Дэтройт, 1961. С. 1.





1979 г. Заканчваецца тэкст Анатоля Тараса, прысьвечаны жыцьцю й творчасьці Ўладзімера Сядуры, таксама памылкаю: сьцьвярджаецца, што дзеяч памёр і пахаваны *„там, дзе ён жыў і працаваў, — у горадзе Трой, штат Нью-Ёрк“*. Насамрэч пісьменьнік пахаваны на могільніку манастыра Сьв. Тройцы ў Джорданвілі, то бок зусім у іншым мястэчку таго ж штату. Згаданыя прыкрыя недакладнасьці падкрэсьліваюць неахайнасьць аўтара тэксту і ўкладальніка выданьня ў абыходжаньні з фактамі. Хоць, безумоўна, вяртаньне ў айчынную інтэлектуальную прастору імені эміграцыйнага аўтара варта вітаць.

*Н. Г.*

*Ляхоўскі, Уладзімер. Ад гоманаўцаў да гайсакоў. Чыннасьць беларускіх моладзевых арганізацый у 2-й палове XIX ст. — 1-й палове XX ст. (да 1939 г.). Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства — Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2012. — 483 с.*




Даўно вядома, што моладзь ёсьць самай палітычна й сацыяльна актыўнай часткай грамадзтва. У беларускай гісторыі апошніх стагодзьдзяў можна знайсьці гэтаму багата пацьверджаньняў. Аднак агульная грунтоўная гісторыя моладзевага руху ў айчыннай гістарыяграфіі яшчэ ня створаная. Тым больш цікавая кніга гісторыка Ўладзімера Ляхоўскага „Ад гоманаўцаў да гайсакоў“, выдадзеная намаганьнямі беластоцкага Беларускага гістарычнага таварыства ды віленскага Інстытуту беларусістыкі. Як пазначае сам аўтар, кніга ўяўляе сабой *„навукова-папулярны нарыс і папярэднічае навуковай манаграфіі па згаданай тэме“*[22],

[22] Ляхоўскі, Уладзімер. Ад гоманаўцаў да гайсакоў. Чыннасьць беларускіх моладзевых арганізацый у 2-й палове XIX ст. — 1-й палове XX ст. (да 1939 г.). Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства — Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2012. С. 13.

якая мае выйсьці празь нейкі час. Тым ня менш, стыль прадмовы, вызначэньне тут аб’екту ды прадмету дасьледаваньня, фармулёўка мэтаў і задач, сама пастаноўка праблемы сьведчыць хутчэй пра менавіта навуковы характар выданьня.

Уладзімер Ляхоўскі ў сваёй кнізе вырашыў зрабіць спробу адлюстраваць ролю моладзевага руху ў нацыятворчых працэсах і станаўленьні беларускай дзяржаўнасьці. Пры гэтым значная частка моладзевых арганізацый другой паловы XIX — першай паловы XX стст. дзейнічалі па-за межамі сучаснай Беларусі. Так, у першай частцы „А хто там ідзе?“ Пачатак беларускага пазытывізму“ прысутнічаюць асобныя нарысы пра беларускія суполкі ў Санкт-Пецярбургу, Маскве, Тарту, Вільні, ва Ўкраіне. У наступнай частцы „Мы выйдзем шчыльнымі радамі...“ Беларускі маладзёвы рух ва ўмовах глябальнага ваеннага канфлікту 1914—1921“ асобна разглядаецца дзейнасьць Беларускага нацыянальнага камітэту ў Маскве ды лёс беларускіх суполак на абшарах Расеі ў 1918 г. Пры гэтым цікава, што аўтар параўноўвае вынікі працы маскоўскага Белнацкаму й Беларускага нацыянальнага камісарыяту ў Адэсе і робіць выснову, што ў многіх кірунках паўднёваўкраінская арганізацыя зрабіла для беларускага руху болей.

Пасьля разгляду працы беларускіх моладзевых арганізацыяў у БССР ды Заходняй Беларусі Ўладзімер Ляхоўскі зьвяртаецца да праблемы Ўсходняй Латгаліі. Тут расказваецца пра дзейнасьць вучнёўскіх гурткоў у Дзьвінскай і Люцынскай гімназіях. Гэтая актыўнасьць падаецца на агульным фоне падзеяў у беларускай грамадзе ў Латвіі ў міжваенны пэрыяд.

Варта адзначыць, што дасьледнік праз увесь свой нарыс мэтанакіравана ўпісвае дзейнасьць моладзевых суполак у агульную гісторыю нацыянальнага руху. І гэта асабліва выразна прасочваецца ў апошняй частцы „За кардонам... Беларускі студэнцкі рух на эміграцыі“. Гісторыя беларускага замежнага студэнцтва на сёньня застаецца маладасьледаванай у айчыннай гістарыяграфіі й патрабуе адмысловай увагі. Уладзімер Ляхоўскі падае асноўныя сюжэты з гэтай гісторыі, пачынаючы яшчэ ад другой паловы XIX ст. Так, разглядаецца дзейнасьць „Беларускага студэнцкага кола“, што паўстала ў Кракаве яшчэ ў 1900 г., згадваюцца моладзевыя арганізацыі ў міжваеннай Італіі, Нямеччыне, Літве ды Польшчы. Аднак найбольш шырока асьвятляецца праца студэнцкіх арганізацыяў у Чэхаславаччыне. Менавіта тут беларускае студэнцтва ў першай палове XX ст. выявіла ці не найвялікшую актыўнасьць.

Беларуска-чэскія кантакты на ўзроўні грамадзкіх і культурніцкіх дзеячаў пачалі наладжвацца яшчэ ў самым пачатку XX ст. І ня дзіва,





што ўжо ў 1905 г. у Карлавым унівэрсытэце зьявіўся першы беларускі моладзевы гурток на тэрыторыі Чэхіі — „Табор“. Аднак найбольш шырокая студэнцкая дзейнасьць у краіне пачалася па сканчэньні Першай сусьветнай вайны, калі асаблівым спрыяньнем студэнты карысталіся з боку першага прэзыдэнта Чэхаславаччыны Томаша Масарыка. Акрамя таго, у міжваенны час у Празе дзейнічалі структуры Рады БНР, што таксама ўплывала на моладзевую актыўнасьць. Усяго ў Чэхаславаччыне налічвалася больш за 600 беларускіх студэнтаў, аднак хіба толькі трэцяя частка зь іх трапіла на навучаньне дзякуючы пратэкцыі нацыянальных арганізацыяў у Вільні, Коўне, Рызе і ўсьведамляла сябе беларусамі. Значная колькасьць выхадцаў зь Беларусі трапляла ў чэскія навучальныя ўстановы ў сувязі зь немагчымасьцю працягнуць навучаньне ў расейскіх, да таго ж пэўную частку студэнтаў складалі былыя ўдзельнікі белага руху, якія ў вельмі невялікім адсотку вызнавалі сябе менавіта беларусамі.

Сярод прадстаўленых у кнізе беларускіх студэнцкіх арганізацыяў у Чэхаславаччыне варта адзначыць Беларускі студэнцкі гурток імя Францішка Скарыны, патрыятычна-спартыўную арганізацыю „Беларускі сокал“, Аб’яднаньне беларускага паступовага студэнцтва й іншыя. Студэнцкі рух ня быў ідэалягічна зьнітаваны, узьнікалі падзелы паводле палітычных перакананьняў, стаўленьня да СССР і г. д. Розныя студэнцкія арганізацыі мелі ўласныя пэрыёдыкі, ладзілі свае мерапрыемствы. Нягледзячы на тое, што далёка ня ўсе надзеі ў дачыненьні да беларускага студэнцтва ў Чэхаславаччыне спраўдзіліся, ягоную ролю ў нацыянальным міжваенным руху немагчыма пераацаніць, у ім бралі ўдзел шматлікія значныя дзеячы беларускай навукі, культуры, а таксама пазьнейшыя лідэры паваеннай беларускай эміграцыі.

Зразумела, што ў навукова-папулярным нарысе аўтар зрабіў толькі своеасаблівы накід гісторыі беларускага моладзевага руху. Добра ілюстраванаму аповеду, заснаванаму часам на ўнікальных архіўных крыніцах, месцамі не хапае канцэптуальнай завершанасьці, якая б зьнітавала асобныя накіды-сюжэты. Для больш навуковага ўспрыманьня тэксту бракуе спасылак на крыніцы, асабліва ў выпадках цытатаў з дакумэнтаў. Зразумела, што ёсьць вялікі сьпіс выкарыстаных крыніц пры канцы кнігі, аднак ён ня надта прыдатны падчас вызначэньня паходжаньня канкрэтных сьведчаньняў, што зьмяншае навуковую вартасьць выданьня. Пры гэтым даволі цікава зроблены анатаваны іменны паказьнік у кнізе, які дазваляе лёгка арыентавацца ў вялікай колькасьці згаданых у працы асобаў.

Наогул жа, прачытаўшы кнігу Ўладзімера Ляхоўскага „Ад гоманаўцаў да гайсакоў“, вельмі хочацца дачакацца абяцанай аўтарам сур’ёзнай навуковай манаграфіі, прысьвечанай дзейнасьці беларускіх моладзевых арганізацый.

*Н. Г.*

*Стагановіч, Марыя. Мае ўспаміны. Менск: Лімарыюс, 2012. — 200 с. — (Беларуская мэмуарная бібліятэка) — (Наклад 300 ас.)*




У эміграцыйнай мэмуарыстыцы апошніх дзесяцігодзьдзяў адметнае месца займаюць жаночыя ўспаміны (чаго не назіралася раней). Часткова гэта тлумачыцца той дэмаграфічнай адметнасьцю, што жанчыны даволі часта жывуць даўжэй за мужчын, і бадай палова жаночых мэмуараў мае на мэце стварыць своеасаблівы пісьмовы помнік свайму сужэнцу. Магчыма, таму гэтыя ўспаміны даволі падобныя адно да аднаго. Разам з тым, зьяўляюцца й жаночыя ўспаміны пра сябе, як „Дарога“ Івонкі Сурвіллы, або „Птушкі пералётныя“ Галіны Ганчарэнкі.

„Мае ўспаміны“ Марыі Стагановіч, што пабачылі сьвет у сэрыі „Беларуская мэмуарная бібліятэка“, выразна адрозьніваюцца ад іншых жаночых эміграцыйных успамінаў. Яны мелі на мэце не расказаць пра свайго сужэнца, бо асьвятляюць той час, калі аўтарка яшчэ ня мела мужа, і ня выкласьці пасьлядоўна ўласны жыцьцёвы шлях, бо абрываюцца на 1917 г., пасьля якога Марыя Стагановіч пражыла яшчэ амаль 70 гадоў. Мэмуары Марыі Стагановіч пісаліся для дзяцей як выклад старой сямейнай гісторыі, а таму маюць выразны этнаграфічны характар. Сваім дэталёвым апісаньнем традыцыйнага беларускага жыцьця, абрадаў, страваў, дробязяў сялянскага побыту яны адрозьніваюцца і ад мужчынскіх успамінаў, прычым ня толькі мэтрапольных.

Хаця выхадцаў з Наваградчыны і пісьмовых сьведчаньняў пра яе на эміграцыі было багата, пра часы самага пачатку XX ст. расказвалася





даволі мала. А менавіта гэтаму пэрыяду прысьвечаныя ўспаміны Марыі Стагановіч. Аўтарка — звычайная беларуская жанчына, што адыгрывала ў сям’і традыцыйную ролю хатняй гаспадыні, на якой трымаўся дабрабыт блізкіх розных пакаленьняў. Менавіта на просьбу дачкі Тамары Марыя Стагановіч узялася расказаць пра сваіх дзядоў і бацькоў, дзяцінства на Наваградчыне ў маёнтках графа Храптовіча-Буцянёва, навучаньне на курсах у Менску, пачатак Першай сусьветнай вайны й бежанства ў Смаленшчыну, бадзяньні па гаспадарках усходняй Беларусі ў часы рэвалюцыі... Аўтарка, ня маючы добрай адукацыі, выклала свае ўспаміны як магла, нібыта проста расказвала сваім удзячным слухачам казку пра мінулыя часы. І атрымаўся вельмі своеасаблівы помнік, які мае каштоўнасьць і для гісторыкаў (асабліва тых, што вывучаюць штодзённасьць), і для этнолягаў.

Унікальнасьць „Маіх успамінаў“ яшчэ і ў тым, што іх напісала жонка аўтара больш вядомых мэмуараў „Успаміны пасла“ Аляксандра Стагановіча. Пры гэтым успаміны Марыі адрозныя ад мэмуараў мужа і паводле зьместу ды храналёгіі, і паводле характару аповеду, дый часам чытаюцца таксама цікавей.

Этнаграфічны характар успамінаў Марыі Стагановіч добра дапоўнены ў выданьні яе ўспамінамі пра беларускія песьні й абрады, стравы, а таксама згадкамі пра лекавыя траўкі й зёлкі. Цікава глядзіцца зроблены дачкой Марыі радавод Стагановічаў, які дазваляе лепей разабрацца ў тэксьце ўспамінаў. Да вобразу нешта дадаюць і ўспаміны Тамары Стагановіч-Кольбы, прысьвечаныя маці. Што праўда, спробы літаратурнай творчасьці самой Марыі ды ейнага сына ў выданьні падаюцца крыху не да месца. Затое вельмі цікава глядзяцца здымкі зь сямейнага архіву.

Кніга даволі добра падрыхтаваная да друку, удала пракамэнтаваная, мае анатаваны геаграфічны паказьнік, што сьведчыць пра падтрыманьне ўзроўню публікацыяў у сэрыі „Беларуская мэмуарная бібліятэка“.

Я. С.

*Юрэвіч, Лявон. Шматгалосы эпісталярыюм: Гісторыя ідэй і людзей на эміграцыі ў ліставаньні. Менск: Кнігазбор, 2012. — 660 с. (Бібліятэка Бацькаўшчыны: кн. 20) Наклад 200 асобнікаў.*

Жыцьцё эмігрантаў, што ішло ды ідзе на адлегласьці і ў адрозных ад мэтраполіі ўмовах, даволі часта міталягізуецца суайчыньнікамі на радзіме. Здалёк здаецца, што жыцьцё ў замежжы больш бесклапотнае,




больш заможнае, а людзі больш нацыянальна сьвядомыя, прынцыповыя й г.д. Гэткія ўяўленьні прымушалі шараговых мэтрапольных беларусаў дасылаць у пачатку 1990-х сотні лістоў эміграцыйным беларускім арганізацыям з просьбамі фінансавай падтрымкі ці дапамогі ў эміграцыі, а навукоўцаў — ствараць гераічны вобраз замежных змагароў за Беларусь. Аднак чым больш заглыбляесься ў крыніцы, тым больш яскрава разумееш, што штодзённае жыцьцё беларусаў на эміграцыі мела, бадай, тыя самыя галоўныя праблемы, што й жыцьцё суайчыньнікаў у мэтраполіі: складанасьці працаўладкаваньня, адносіны бацькоў і дзяцей, міжасабовыя дачыненьні. Так, розная геаграфія, вонкавыя акалічнасьці, аднак тое самае існаваньне ў коле вялікіх і малых жыцьцёвых клопатаў. І найбольш яскрава гэтыя абставіны эміграцыйнай штодзённасьці ды міжасабовых адносінаў адлюстроўваюцца ў самай масавай гістарычнай крыніцы — ліставаньні.

Апынуўшыся на чужыне, паваенныя эмігранты наладжвалі сувязі з суайчыньнікамі ў розных краінах і багата пісалі лістоў, бо іншыя віды сувязі былі маладаступныя. Эпісталярныя архівы эміграцыі складаюцца з тысячаў, нават дзясяткаў тысячаў лістоў. Безумоўна, эпісталярыі — надзвычай суб'ектыўныя крыніцы. Аднак такая суб'ектыўнасьць можа ўважацца ня толькі за іх мінус. Прысутнасьць у дакумэнце выразнай асобы аўтара й адрасата надае своеасаблівае „чалавечае“ вымярэньне прадстаўленай тут рэчаіснасьці, робіць апісаныя падзеі ды адносіны больш зразумелымі.

Кнігу беларускага архівіста й дасьледніка эміграцыі зь Нью-Ёрку Лявона Юрэвіча можна назваць першай спробай асэнсаваньня эпісталярыяў як крыніцы па гісторыі й культуры эміграцыі. Ужо ў пачатковым тэксьце, назва якога паўтарае назву кнігі, аўтар ставіць агульнае пытаньне пра фэномэн „Лістоў“ у беларускай літаратуры. У далейшых тэкстах Лявон Юрэвіч разглядае асаблівасьці эміграцыйных эпісталярыяў на канкрэтных прыкладах.





Адзін з найбольшых архіваў ліставаньня меў літаратар Юрка Віцьбіч. Менавіта на ягоных зборах у найбольшай ступені заснаваныя публікацыі „Шматгалосага эпісталярыюму“, а самой асобе дзеяча прысьвечаны важны тэкст „Эпісталярыюм як форма аўтабіяграфіі карэспандэнта і біяграфіі ягонага часу (Выпадак Юркі Віцьбіча)“. З прыведзенага ў тэксьце ліставаньня Віцьбіча з Антонам Адамовічам ды Янкам Запруднікам можна зразумець асаблівасьці дачыненьняў гэтых асобаў, іх агульных справаў і інтарэсаў, а таксама акалічнасьці штодзённага жыцьця ды кантактаў зь іншымі беларусамі.

Разьдзел „Выпадак Кастуся Акулы“ заснаваны на архівах гэтага беларускага літаратара, што жыў у Канадзе. Сабраныя тут лісты адлюстроўваюць акалічнасьці стварэньня двух найбольш вядомых твораў аўтара: рамана „Змагарныя дарогі“ ды трылёгіі „Гараватка“, а таксама чытацкую рэакцыю на іх. У зьмешчаных тут эпісталярыях, што суправаджаюцца заўвагамі Лявона Юрэвіча, можна знайсьці адбітак таго самага жыцьцёвага ды гістарычнага кантэксту, у якім адбываўся літаратурны працэс на эміграцыі. Тое самае можна сказаць і пра тэкст „Чаму нельга заўсёды верыць мэмуарам? (Выпадак Уладзімера Клішэвіча)“, заснаваны на ліставаньні згаданага творцы зь літаратарам Міхасём Кавылём. З апублікаваных тут эпісталярыяў бачныя складаныя дачыненьні Ўладзімера Клішэвіча з Масеем Сяднёвым, Янкам Золакам.

Асабліва цікавы разьдзел „Трэба жыць як набяжыць. Праўдзівая біяграфія амэрыканскіх гадоў Натальлі Арсеньневай“. Тут на падставе ліставаньня паэткі з сяброўкай Янінай Каханоўскай можна прасачыць рэальныя жыцьцёвыя абставіны й справы, тое, чым жыла Натальля Арсеньнева ў добраахвотна-вымушаным выгнаньні ў правінцыйным амэрыканскім Рочэстэры. Гэтае жыцьцё складанае й поўнае перажываньняў, але бязь нейкае „тугі па радзіме“, бяз патасу і ўсьведамленьня сябе найлепшай паэткай эміграцыі, жыцьцё звычайнай беларускай жанчыны.

Малавядомыя старонкі працы эміграцыйных беларусаў над перакладамі біблейскіх тэкстаў, што ўважалася за важны напрамак нацыянальнай інтэлектуальнай дзейнасьці, можна знайсьці ў тэксьце „Пра дзейнасьць камісіі... і ня толькі: матэрыялы „Камітэту па перакладзе Бібліі ў беларускую мову“ (1946—1950 гг.)“. Своеасаблівы працяг тэмы — у зьмешчаным далей ліставаньні Юркі Віцьбіча з Уладыкам Васілём (Тамашчыкам).

У кнізе Лявона Юрэвіча сабраныя нізкі эпісталярыяў, якія датычаць розных аспэктаў беларускай дзейнасьці эмігрантаў і паходзяць з

розных краінаў: ЗША, Канады, Аўстраліі, Вэнэсуэлы, Швэцыі. Тут ёсьць лісты вядомых дзеячаў, прыкладам, Янкі Чарапука-Змагара, і шараговых беларусаў, чые імёны малавядомыя нават знаўцам эміграцыі або не захаваліся наогул. Аднак якімі б рознымі ні былі прадстаўленыя дасьледнікам эпісталярыі, яны аб'яднаныя агульнасьцю эміграцыйнай сытуацыі іх аўтараў. І гэтая адметнасьць, калі адрасат і адрасант аднолькава далёкія ад бацькаўшчыны й займаюцца выжываньнем у чужым сьвеце, аднолькава маюць патрэбу ў кантактах „са сваімі“, зь людзьмі блізкімі ня толькі па крыві, але й духоўна, — гэта якраз і адчуваецца ў шматлікіх галасах, якімі прамаўляе сабраны Лявонам Юрэвічам эпісталярый.

Варта заўважыць, што нізкі лістоў, зьнітаваныя аўтарскім тэкстам эміграцыязнаўцы ды грунтоўна пракамэнтаваныя, уяўляюць сабой завершаныя сюжэты. Аднак пры гэтым сабраныя разам тэксты, сярод якіх і друкаваныя раней, і зусім новыя, вельмі ўдала працуюць дзеля агульнае мэты — рэпрэзэнтацыі разнастайнасьці й каштоўнасьці эміграцыйнай эпісталярнай спадчыны, яе адметнасьці й значнасьці як гістарычнай крыніцы.

*Н. Г.*

*Юхнавец, Янка. Паэзія. Менск: Лімарыюс, 2012. — 620 с. — (Галасы Айчыны). (Наклад 200 ас.)*




У 2011 г. споўнілася 90 гадоў з дня нараджэньня аднаго з найбольш арыгінальных беларускіх літаратараў на эміграцыі — Янкі Юхнаўца. Ён нарадзіўся ў вёсцы Забродак (сёньня Докшыцкі раён Віцебскай вобласьці), у часе нямецкай акупацыі быў вывезены на прымусовыя працы ў Нямеччыну. Вялікая бацькоўская сям'я была зьнішчаная немцамі, таму малады чалавек па сканчэньні вайны вырашыў не вяртацца на радзіму. Менавіта ў паваеннай Нямеччыне ён пачаў пісаць. Прачытаўшы колькі сваіх вершаў Масею Сяднёву, ён пачуў: *„Ты не перастанеш пісаць“*. Так і сталася. Пасьля лягераў *DP* Юхнавец перабраўся ў ЗША, пасяліўся ў Нью-Ёрку й праз усё жыцьцё не спыняў літаратурнай дзейнасьці. Ён друкаваўся на старонках беларускіх эміграцыйных пэрыёдыкаў, быў аўтарам кніг „Шорах моўкнасьці“ (1955), „Новая элегія“ (1961), „Калюмбы“ (1967), „Творы“ (Т.1—3, 1987—1990), „Дань майго часу“ (1993), „Драматычныя начыркі“ (1996).

Да творчасьці Янкі Юхнаўца ставіліся неадназначна як на эміграцыі, так і ў Беларусі, дзе зборнік ягоных вершаў „Сны на чужыне“ быў укладзены Алесем Бяляцкім і пабачыў сьвет у 1994 г. Нягледзячы на немалую колькасьць аўтарскіх зборнікаў, творчасьць літаратара нельга назваць добра вядомай беларускаму чытачу. Эміграцыйныя выданьні выходзілі мізэрнымі накладамі, прыкладам, „Збор твораў“ аўтар друкаваў самастойна ў колькасьці пяці асобнікаў кожнага з тамоў. Акрамя таго, была значная колькасьць твораў ужо 1990-х , што не ўвайшлі ў кніжныя выданьні.

Усе згаданыя акалічнасьці сталі падставай для стварэньня адмысловага збору паэтычных твораў Янкі Юхнаўца, што пабачыў сьвет у сэрыі „Галасы Айчыны“ выдавецтва „Лімарыюс“. Укладальнік Лявон Юрэвіч сабраў у даволі вялікім паводле памеру томе ўсю паэтычную спадчыну эміграцыйнага творцы. Вершы й паэмы разьмешчаныя паводле храналёгіі выхаду зборнікаў і дапоўненыя творамі, што не ўвайшлі ў кніжныя выданьні. Такім чынам, можна сьцьвярджаць, што „Паэзія“ Янкі Юхнаўца ёсьць найпаўнейшым зборам паэтычнай спадчыны літаратара. Гэта мае паспрыяць больш шырокаму вывучэньню творчасьці арыгінальнага эміграцыйнага аўтара.

Лягічным наступным крокам было б выданьне багатай прозы літаратара, чаго, магчыма, некалі й дачакаемся. Шкада, што недасяжнымі аказаліся асабістыя архівы Янкі Юхнаўца. Аднак найважнейшая місія як мага больш поўнага зьбіраньня й публікацыі творчай спадчыны эміграцыйнага аўтара, прынамсі ў галіне паэтычнай, новае мэтрапольнае выданьне, можна лічыць, выканала.

*Я. С.*

*Янковяк, Міраслаў. Беларускія гаворкі ў Краслаўскім раёне Латвіі. Сацыялінгвістычнае дасьледаваньне. Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства — Вільня: Інстытут беларусаведы, 2012. — 287 с.*

Апошнія гады характарызуюцца актывізацыяй эміграцыі зь Беларусі. Адначасова ідзе працэс скарачэньня колькасьці беларусаў у су-




седніх краінах паводле зьвестак перапісаў. У гэтай сытуацыі ўсё больш актуальнай праблемай робіцца адэкватная ацэнка гісторыі й сучаснасьці беларускай прысутнасьці ў бліжнім замежжы, дзе яна заўсёды была колькасна найбольшай. Аднак сур'ёзныя дасьледаваньні на гэтыя тэмы зьяўляюцца вельмі рэдка. Тым больш цікавай ёсьць публікацыя дысэртацыйнай працы польскага дасьледніка Міраслава Янковяка, прысьвечанай беларускім гаворкам у Краслаўскім краі Латвіі.

Мэты свайго дасьледаваньня аўтар сфармуляваў як прадстаўленьне сацыялінгвістычнай сытуацыі носьбітаў беларускай гаворкі ў канкрэтным рэгіёне Латвіі. На дасягненьне згаданай мэты працуе ўся структура кнігі. Ва ўводзінах Міраслаў Янковяк акрэсьлівае мэтады, матэрыялы й крыніцы дасьледаваньня, робіць гістарыяграфічны аналіз праблемы. Варта згадаць, што аўтар зьбіраў матэрыялы для сваёй працы ў часе спатканьняў і запісаў інтэрвію з жыхарамі абранага рэгіёну. Гэта дазволіла яму зрабіць даволі глыбокае вывучэньне моўнай сытуацыі на Краслаўшчыне.

У частцы „Характарыстыка Краслаўскага раёну" Міраслаў Янковяк дае кароткі накід гісторыі рэгіёну, найперш яе палітычнага аспэкту. Тут жа характарызуецца нацыянальны склад насельніцтва й моўныя кантакты, а таксама вызначаецца сучасная нацыянальная, дэмаграфічная й моўная сытуацыя. Як асобнае важнае пытаньне аўтар вылучае праблему нацыянальнай ідэнтычнасьці і ўплыў на яе моўнага фактару.

Разьдзел „Сацыялінгвістычныя аспэкты функцыянаваньня беларускіх гаворак" складаецца з характарыстыкі розных катэгорый носьбітаў беларускіх гаворак, а таксама спэцыяльнага вывучэньня сфэраў функцыянаваньня гэтых гаворак (сям'я, міжсуседзкія дачыненьні, школа, рэлігія, адміністрацыя). Адмыслова дасьледуе аўтар і стаўленьне сваіх інфармантаў да розных моваў, якія выкарыстоўваюцца ў рэгіёне.

Апошняя частка дасьледаваньня мае назву „Беларускія гаворкі ў Краслаўскім раёне: выбраныя рысы". Тут аўтар робіць клясыфікацыю





беларускіх гаворак рэгіёну, а таксама разглядае іх асобныя фанэтычныя, граматычныя, сынтаксычныя, лексычныя асаблівасьці.

У выніку праведзенага грунтоўнага дасьледаваньня Міраслаў Янковяк прыходзіць да высновы, што дзясяткі гадоў палянізацыі й русыфікацыі, а таксама сучасная моўная палітыка латыскіх уладаў істотна абмежавалі сфэру ўжываньня беларускіх гаворак. Тым ня менш, „простая мова" захоўваецца як мова сямейных і міжсуседзкіх зносінаў, што праўда, разам зь мясцовым варыянтам расейскай мовы.

Каб зрабіць вынікі свайго дасьледаваньня найбольш празрыстымі, Міраслаў Янковяк публікуе ў дадатку прыклады тэкстаў запісаных інтэрвію, падае зьвесткі пра інфармантаў, зьмяшчае выкарыстаныя апытальнікі, дае сьпісы мясцовасьцяў ды літаратуры, а таксама фотаздымкі. І хоць дасьледаваньне не вычэрпвае пытаньняў, зьвязаных з сацыялінгвістычнай сытуацыяй беларускага насельніцтва ў Латвіі, кніга Міраслава Янковяка дае добры прыклад якаснай навуковай працы, што дазваляе адэкватна ацаніць адзін з важных аспэктаў беларускай прысутнасьці ў асобнай краіне.

*Н. Г.*

## ЗЬВЕСТКІ ПРА АЎТАРАЎ

**Антон Адамовіч** (1909—1998), грамадзкі дзеяч, літаратуразнаўца, гісторык, публіцыст, літаратар. Уваходзіў у літаб'яднаньне „Ўзвышша". У 1930 г. арыштаваны па справе „Саюзу вызваленьня Беларусі" й высланы ў Глазаў, у 1934 г. пераведзены ў Вятку (Кіраў), дзе працаваў у навучальных установах. Арыштаваны паўторна ў 1937 г., вызвалены ў 1938 г., вярнуўся ў Менск, працаваў у школе, скончыў БДУ. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у Менскай гарадзкой управе, „Беларускай газэце", галоўным рэдактарам выдавецтва „Менск", уваходзіў у Цэнтральную Раду БНС, выконваў абавязкі рэфэрэнта па справах прэсы й прапаганды Генэральнага камісарыяту Беларусь. Увосень 1943 г. выехаў у Нямеччыну. Па вайне працаваў у Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Рэгенсбургу, быў адным з заснавальнікаў газэты „Бацькаўшчына", яе рэдактарам. Ад 1949 г. жыў у ЗША. Займаўся навуковымі дасьледаваньнямі, аўтар вялікай колькасьці літаратуразнаўчых прац. Адзін з заснавальнікаў БІНіМу.

**Юрась Бабіч** (нар. 1966), мовазнаўца, кандыдат філялягічных навук. Аўтар манаграфіі „Колеравая і сьветлавая эстэтыка ў мове твораў Якуба Коласа" (2002), а таксама больш як пяцідзесяці артыкулаў па праблемах колераабазначэньня мастацкага тэксту й культуры беларускай мовы. Жыве ў Віцебску.

**Васіль Быкаў** (1924—2003), пісьменьнік і грамадзкі дзеяч. Народны пісьменьнік БССР.

**Юрка Віцьбіч** (сапр. Серафім Шчарбакоў, 1905—1975), літаратар, публіцыст, краязнаўца, грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў пэдагагічным тэхнікуме. У 1922—1933 гг. працаваў на хімічных заводах у Маскве. Уваходзіў у літаратурнае аб'яднаньне „Ўзвышша", у 1939 г. прыняты ў Саюз пісьменьнікаў СССР. У часе нямецкай акупацыі актыўна выступаў у друку, выдаў два зборнікі публіцыстыкі — „Вяліжскія паўстанцы" і „Нацыянальныя сьвятыні", выступаў у друку з артыкуламі па гісторыі Беларусі. Быў сябрам Беларускага культурнага згуртаваньня, рэдактарам часопіса „Ўзвышша", адзіны нумар якога быў падрыхтаваны ў 1944 г. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1946 г. у Нямеччыне стварыў і ўзначаліў літаратурнае аб'яднаньне „Шыпшына", выдаваў аднайменны часопіс, а таксама часопісы „Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі", „БІС", газэту „Беларускае слова". Ад 1949 г. жыў у ЗША. Друкаваўся ў беларускім і расейскім пэрыядычным друку, у тым ліку „Новым рускім слове". Супрацоўнічаў з радыё „Свабода". Як пісьменьнік дэбютаваў у 1929 г. у часопісе „Ўзвышша". Аўтар кніг прозы „Сьмерць Ірмы Лаймінг" (1932), „Формула супраціўленьня касьцей" (1937). У эміграцыі выдаў кнігу гістарычных нарысаў „Плыве з-пад Сьвятое гары Нёман" (Мюнхен, 1956) і зборнік артыкулаў на рускай мове „Мы дойдем" (Нью-Ёрк, 1975).

**Натальля Гардзіенка** (нар. 1977), гісторык, кандыдат гістарычных навук. Аўтарка дзьвюх манаграфіяў і некалькіх дзясяткаў артыкулаў, прысьвечаных гісторыі беларускай эміграцыі. Адказны рэдактар „Запісаў БІНіМ".

**Ларыса Геніюш** (1910—1983), паэтка, празаік, дзяячка беларускага нацыянальнага руху. У 1937—1948 гг. жыла разам з мужам у Чэхіі. У 1942 г. выйшаў першы зборнік яе паэзіі „Ад родных ніў". У 1948 г. разам з мужам арыштаваная органамі МДБ і праз год асуджаная да 25 гадоў лягераў. У 1956 г. была вызваленая й ад таго часу жыла ў Зэльве пад наглядам КДБ. Творчасьць яе доўгі час была ў БССР пад забаронай.

**Мікалай Гогаль** (1809—1852), расейскі пісьменьнік, драматург, паэт, крытык, публіцыст украінскага паходжаньня.

**Тамаш Грыб** (1895—1938), грамадзка-палітычны й культурны дзеяч. Навучаўся ў Пецярбурскім псыханэўралягічным інстытуце. Дэлегат Першага Ўсебеларускага кангрэсу. Адзін з аўтараў Устаўных грамат БНР, сябра Рады БНР і яе Выканкаму ў 1918 г., займаў пасады міністра земляробства й міністра ўнутраных справаў. Уваходзіў у Цэнтральную Беларускую вайсковую раду. Адзін зь лідэраў Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў. Ад 1922 г. жыў у Чэхіі. Скончыў філязофскі факультэт Карлава ўнівэрсытэту (1928). Абараніў доктарскую дысэртацыю на тэму „Пытаньне народу і нацыі". Стварыў у Празе Беларускае (Крывіцкае) культурнае таварыства імя Ф. Скарыны. Актыўна працаваў у суполцы Беларускага студэнцкага саюзу. Удзельнічаў у працы Беларускай Рады ў Празе. Ад 1930 г. працаваў у Славянскай бібліятэцы. У 1934—1938 гг. — загадчык беларускага замежнага архіву ў Празе. Друкаваў артыкулы на тэмы гісторыі, грамадзкай думкі, нацыянальна-палітычнага жыцьця Беларусі ў часопісах „Студэнцкая думка", „Золак", „Iskry Skaryny". Перакладаў публіцыстыку з рускай і чэскай моваў. Складаў бібліяграфію беларусазнаўства.

**Віктар Жыбуль** (нар. 1978), літаратуразнаўца, архівіст, паэт, кандыдат філялягічных навук. Вядучы навуковы супрацоўнік Беларускага дзяржаўнага архіву-музэю літаратуры й мастацтва. Адзін з укладальнікаў і рэдактар Збору твораў Адама Бабарэкі (Т. 1—2. Вільня—Беласток, 2011).

**Алесь Карповіч** (1909—1992), беларускі кампазытар, музыказнаўца, дзеяч паваеннай эміграцыі. Нарадзіўся ў Горадні. Ад 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. Выступаў разам зь Беларускім студэнцкім хорам зь Лювэну (Бэльгія). У 1950-х гг. пераехаў у ЗША. Сябра БІНіМу. Аўтар „Матэрыялаў да гісторыі беларускае музыкі“ (1950) і шэрагу музыказнаўчых артыкулаў, а таксама музычных твораў.

**Вітаўт Кіпель** (нар. 1927), грамадзкі дзеяч, навуковец, дасьледнік беларускай эміграцыі, доктар мінэралёгіі. Жыве ў Нью-Джэрзі. З 1982 г. — старшыня БІНІМу. Аўтар працы „Беларусы ў ЗША“ (1993 г.; ангельскамоўнае выданьне — 1999 г.), шэрагу грунтоўных бібліяграфічных даведнікаў, а таксама дзясяткаў публікацыяў, у т.л. артыкулаў на беларусазнаўчую тэматыку ў амэрыканскіх энцыкляпэдыях.

**Францішак Кушаль** (1895—1968), вайсковы й грамадзкі дзеяч, муж Н. Арсеньневай. У 1915—1917 гг. служыў у царскім войску. У 1919—1920 гг. быў сябрам Беларускай вайсковай камісіі, якая займалася стварэньнем беларускіх вайсковых адзінак у складзе польскага войска. У 1924—1939 гг. — кадравы афіцэр польскага войска. Увосень 1939 г. трапіў у савецкі палон, у красавіку 1941 г. выпушчаны пад нагляд НКУС. У 1941—1943 гг. займаў розныя вайсковыя пасады ў Менску: быў кіраўніком афіцэрскіх курсаў, начальнікам штабу Самааховы. У лютым 1944 г. стаў камандзірам Беларускай краёвай Абароны. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне стаў адным з заснавальнікаў Згуртаваньня беларускіх вэтэранаў. У 1950 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Браў актыўны ўдзел у працы Рады БНР, БАЗА (у 1952—1954 г. — старшыня арганізацыі). У 1967 г. пераехаў з жонкай да сына ў Рочэстэр.

**Арнольд Макмілін** (*Arnold Barratt McMillin,* нар. 1941), брытанскі беларусіст, літаратуразнаўца. Вучыўся ў Лёнданскім унівэрсытэце, дзе ў 1971 г. абараніў дысэртацыю (доктар славянскай філялёгіі). Выкладаў рускую мову й літаратуру ва ўнівэрсытэтах Лёндану (1965—1976) і Лівэрпулю (1976—1987). Ад 1987 г. — прафэсар рускай літаратуры Лёнданскага ўнівэрсытэту. У 1984—1986 гг. быў прэзыдэнтам Брытанскай унівэрсытэцкай асацыяцыі славістаў, у 1978—1988 гг. — брытанскім прадстаўніком у Міжнародным камітэце славістаў, пазьней стаў сябрам Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Арнольд Макмілін — аўтар шэрагу важных публікацый, прысьвечаных беларускай літаратуры ў разнастайных пэрыёдыках, а таксама кніг: *„The Vocabulary of the Byelorussian Language in the 19th Century“ (London, 1971); „A History of Byelorussian Literature from its Origins to the Present Day“ (Giessen, 1977); „Belarusian Literature in the 1950s and 1960s. Release and Renewal“ (Köln–Weimar–Wien, 1999); „Belarusian Literature of the Diaspora“ (Birminham, 2002), „Writing In A Cold Climate: Belarusian Literature From The 1970s To The Present Day“ (London, 2010).*



Зьвесткі пра аўтараў

**Норбэрт Рандаў** (нар. 1929), нямецкі беларусіст, перакладнік. Укладальнік анталёгіяў беларускай прозы „Буслы на балоце“, „Маладая сасна“, аўтар дзясяткаў артыкулаў, прысьвечаных беларускай літаратуры. Ганаровы сябра беларускага ПЭН-Цэнтру.

**Яна Славіна** (нар. 1984), пэдагог. Завочна вучыцца ў Расейскім дзяржаўным гуманітарным унівэрсытэце на факультэце архіўнай справы. Цікавіцца праблемамі беларускай эміграцыі. Жыве ў Падмаскоўі.

**Ціхан Чарнякевіч** (нар. 1986), літаратуразнаўца. Навучаўся на факультэце беларускай філялёгіі й культуры Белдзяржпэдунівэрсытэту, у магістратуры й асьпірантуры пры ім. Укладальнік і камэнтатар крытычна-архіўнага зборніка „Максім Багдановіч: вядомы і невядомы“ (2011), выбраных твораў Лявона Савёнка „Творы“ (2012, разам з Л. Юрэвічам). Жыве ў Радашкавічах.

**Макс Шчур** (нар. 1977), паэт, перакладнік, эсэіст. Вучыўся ў Менскім лінгвістычным унівэрсытэце. Ад 1998 г. жыве ў Празе. Аўтар п’есы „Сьмерць тырана“ (Менск, 1997), зборнікаў вершаў „Амфітэатар“ (Прага—Гданьск, 1999), „Амальгама“ (Менск, 2010), зборніка апавяданьняў „Ліст, знойдзены на папялішчы“ (Познань, 2011), шэрагу літаратуразнаўчых эсэ. Ляўрэат прэміі Янкі Юхнаўца (2004), гішпаніст (Premio Iberoamericano 2003). Перакладае з чэскай, гішпанскай, ангельскай моваў. Цікавіцца тэорыяй інтэрпрэтацыі, філязофіяй мастацтва, дачыненьнямі культуры й палітыкі.

**Лявон Юрэвіч** (нар. 1965), архівіст, працуе ў Нью-ёрскай публічнай бібліятэцы. Сябра БІНіМу й рэдкалегіі „Запісаў“.

**ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

Наступны выпуск альманаху "Запісы БІНіМ" будзе прысьвечаны разнастайным эміграцыйным калекцыям, гісторыям іх стварэньня й падрабязным апісаньням. Запрашаем усіх зацікаўленых да ўдзелу ў падрыхтоўцы выпуску.

Свае прапановы можна кіраваць на электронную адрэсу zapisybinim@gmail.com.

*Рэдакцыя*



# У Беларускім інстытуце навукі й мастацтва выйшлі наступныя кнігі:

*у „Бібліяграфічнай сэрыі":*

1. **Янка Купала й Якуб Колас на Захадзе.** Нью- Ёрк, 1985. — 350 с.
2. **Byelorussian Statehood.** New York. 1988. — 398 p.
3 **Пяць стагодзьдзяў Скарыніяны.** Нью-Ёрк, 1989. — XXVIII+283 с.
4. **Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.** Том I. Кн. 1—2. Вільня—Нью-Ёрк—Менск—Прага, 1998. — 1721 с.
5. **Беларускія слоўнікі й энцыкляпэдыі.** Нью-Ёрк—Менск, 2002. — XXXIII+570 с.
6. **Беларускі й беларусаведны друк на Захадзе:** Асобныя выданьні. Бібліяграфія. Нью-Ёрк—Менск, 2003. — XXII+582 с.
7. **Belarusian Publishing in the West:** A Bibliography — Periodicals = **Беларускі й беларусаведны друк на Захадзе:** Бібліяграфія — Часапісы, газэты. New York, 2004. —XX+152 с.
8. *Vitaut Kipel, Zora Kipel.* **Belarusian Publishing in the West:** A Bibliography / Published by Belarusian Institute of Arts and Sciences; Institute of Slavic Studies, Polish Academy of Sciences. New York — Warsaw, 2006. — XVI+841 p.

*у сэрыі „Гісторыя эміграцыі":*

1. *Ян Максімюк.* **Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне (1945—1950).** Нью-Ёрк—Беласток, 1994. — 196 с.
2. *Янка Запруднік.* **Дванаццатка:** Дакумэнтальная аповесьць пра дванаццацёх беларускіх хлапцоў у Нямеччыне, Вялікабрытаніі й Бэльгіі (1946—1954 гг.). Нью-Ёрк, 2002. — 510 с.

3. *Лявон Юрэвіч*. **Летапісны звод сусьвету Чалавека Сьведамага: Гісторыя газэтаў „Бацькаўшчына“ й „Беларус“ (1947—2000)**. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2006. — 256 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны, кн. 8).

4. *Барыс Рагуля*. **Беларускае студэнцтва на чужыне. Выданьне другое, выпраўленае і дапоўненае.** Мінск: Беларускі кнігазбор, 2006. — 188 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 10).

5. *Алег Гардзіенка*. **Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі (БККА).** Смаленск, 2009. — 428 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны, кн. 16).

6. *Юры Гарбінскі*. **Беларускі рэлігійны друк на Захадзе: пэрыёдыка, графічныя друкі 1945—2005.** Нью-Ёрк—Варшава, 2009. — 884 с. + CD.

7. *Лявон Юрэвіч*. **Шматгалосы эпісталярыюм: Гісторыя людзей і ідэй на эміграцыі ў ліставанні.** Мінск: Кнігазбор, 2012. — 660 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны, кн. 20).

*рыхтуецца да друку:*

7. *Зьміцер Саўка*. **Гісторыя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (1949—1999).**

*у сэрыі „Беларускія паэты й пісьменьнікі“:*

1. *Натальля Арсеньнева*. **Між берагамі:** Выбар паэзіі. Нью-Ёрк—Таронта, 1979. — XXXIX+350 с.

2. *Алесь Салавей*. **Нятускная краса:** Збор твораў. Нью-Ёрк—Мэльбурн, 1982. — XVI+373 с.

3. *Аляксандра Саковіч*. **У пошуках праўды:** Апавяданьні й аповесьці. Нью-Ёрк—Кліўлэнд, 1986. — 254 с.

4. *Міхась Кавыль*. **Міжагнёўе:** Выбраныя творы. Нью-Ёрк, 1990. — XXI+344 с.

5. *Уладзімер Дудзіцкі*. **Напярэймы жаданьням:** Збор твораў. Нью-Ёрк, 1994. — XXIX+312 с.

6. *Мікола Цэлеш*. **Хмары над Бацькаўшчынай:** Апавяданьні. Нью-Ёрк, 1995. — XXXV+299 с.

7. *Юрка Віцьбіч*. **Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі.** Нью-Ёрк, 1996. — XVI+397 с.



8. **Архіўная кніга /** Аўтар-укладальнік *Лявон Юрэвіч*. Нью-Ёрк, 1997. — 446 с.

9. *Лявон Крывічанін*. **Беларусізацыя пад №...** Нью-Ёрк, 1998. — 164 с.

10. *Лявон Юрэвіч*. **Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі.** Нью-Ёрк, 1999. — 360 с.

11. *Антон Адамовіч*. **Творы.** Нью-Ёрк, 2003. — XXXIV+764 с.

12. **Урачыстасьць у садзе:** Драматургія беларускай эміграцыі XX стагодзьдзя / Укладаньне і прадмова *Ванкарэма Нікіфаровіча*. Менск: Медысонт, 2007. — 536 с. (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 14).

